Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

# ДЗЯРЖАЎНЫ СПІС ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ





МІНСК
БЕЛТА
2009

УДК 719(476)(083.8)
ББК 79.0 (4Бен) я2
Д 43

Выданне падрыхтавана ўпраўленнем па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Складальнікі:
В.Я. Абламскі, І.М. Чарняўскі, Ю.А. Барысюк

У падрыхтоўцы выдання прымалі ўдзел:
Т.М. Захарына, А.М. Ленкоў, Н.Р. Радчанка, С.А. Рэчкін, А.С. Сматрэнка,
А.І. Чарняўскі, Л.Л. Чарняўская, Н.Д. Хвір, А.В. Клімовіч

У кнізе выкарыстаны ілюстрацыі, прадстаўленыя
Банкам звестак аб гісторыка-культурнай спадчыне Рэспублікі Беларусь,
фотахронікай УП «БЕЛТА»

Д 43 **Дзяржаўны** спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь / склад. В.Я. Абламскі, І.М. Чарняўскі, Ю.А. Барысюк. – Мінск : БЕЛТА, 2009. – 684 с.: іл.

ISBN 978-985-6828-35-8.

На старонках даведачнага выдання змешчана інфармацыя пра помнікі археалогіі, архітэктуры, гісторыі, горадабудаўніцтва, мастацтва, а таксама матэрыяльныя рухомыя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні творчасці чалавека, якім нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. У даведніку больш за 800 фотаздымкаў.

Кніга прызначана для выкарыстання рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, спецыялістамі ў галіне гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама для шырокага кола чытачоў.

**УДК 719(476)(083.8)**
**ББК 79.0 (4Бен) я2**

**ISBN 978-985-6828-35-8**

Даведачнае выданне змяшчае інфармацыйны рэсурс дзяржаўнага значэння – Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Яго вядзенне ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь». Дзяржаўны спіс зацверджаны загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 21 чэрвеня 2007 г. № 141, уключае гісторыка-культурныя каштоўнасці, статус якім нададзены пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 мая 2007 г. № 578 і ад 3 верасня 2008 г. № 1288.

Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь уключае ў сябе помнікі археалогіі, архітэктуры, гісторыі, горадабудаўніцтва, мастацтва, адзначаныя ў «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», выданне якога было ажыццёўлена ў 1984–1988 гг. выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», спісы помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага і мясцовага значэння, зацверджаныя адпаведна пастановай Савета Міністраў Беларускай ССР ад 18 лютага 1988 года № 32 і рашэннямі абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў, а таксама матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні творчасці чалавека, якім нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці з 1992 года паводле ўведзенага ў дзеянне заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

Парадак вядзення Дзяржаўнага спіса зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15 чэрвеня 2006 г. № 762. Звесткі па гісторыка-культурных каштоўнасцях катэгорый «0», «1» і «2» дапоўнены здымкамі, апісаннем і кароткай гістарычнай даведкай.

Даведнік прызначаны для выкарыстання рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, а таксама для шырокага кола чытачоў.

**Брэсцкая вобласць** Горад Брэст • Баранавіцкі раён • Брэсцкі раён • Бярозаўскі раён • Ганцавіцкі раён • Драгічынскі раён • Жабінкаўскі раён • Іванаўскі раён • Івацэвіцкі раён • Камянецкі раён • Кобрынскі раён • Лунінецкі раён • Ляхавіцкі раён • Маларыцкі раён • Пінскі раён • Пружанскі раён • Столінскі раён

**Віцебская вобласць** Горад Віцебск • Аршанскі раён • Бешанковіцкі раён • Браслаўскі раён • Верхнядзвінскі раён • Віцебскі раён • Гарадоцкі раён • Глыбоцкі раён • Докшыцкі раён • Дубровенскі раён • Лепельскі раён • Лёзненскі раён • Міёрскі раён • Пастаўскі раён • Полацкі раён • Расонскі раён • Сенненскі раён • Талачынскі раён • Ушацкі раён • Чашніцкі раён • Шаркаўшчынскі раён • Шумілінскі раён

**Гомельская вобласць** Горад Гомель • Акцябрскі раён • Брагінскі раён • Буда-Кашалёўскі раён • Веткаўскі раён • Гомельскі раён • Добрушскі раён • Ельскі раён • Жлобінскі раён • Жыткавіцкі раён • Калінкавіцкі раён • Кармянскі раён • Лельчыцкі раён • Лоеўскі раён • Мазырскі раён • Нараўлянскі раён • Петрыкаўскі раён • Рагачоўскі раён • Рэчыцкі раён • Светлагорскі раён • Хойніцкі раён • Чачэрскі раён

**Гродзенская вобласць** Горад Гродна • Астравецкі раён • Ашмянскі раён • Бераставіцкі раён • Ваўкавыскі раён • Воранаўскі раён • Гродзенскі раён • Дзятлаўскі раён • Зэльвенскі раён • Іўеўскі раён • Карэліцкі раён • Лідскі раён • Мастоўскі раён • Навагрудскі раён • Свіслацкі раён • Слонімскі раён • Смаргонскі раён • Шчучынскі раён

**Магілёўская вобласць** Горад Магілёў • Асіповіцкі раён • Бабруйскі раён • Быхаўскі раён • Бялыніцкі раён • Глускі раён • Горацкі раён • Дрыбінскі раён • Кіраўскі раён • Клімавіцкі раён • Клічаўскі раён • Касцюковіцкі раён • Краснапольскі раён • Крычаўскі раён • Магілёўскі раён • Мсціслаўскі раён • Слаўгарадскі раён • Хоцімскі раён • Чавускі раён • Чэрыкаўскі раён • Шклоўскі раён

**Мінская вобласць** Барысаўскі раён • Бярэзінскі раён • Валожынскі раён • Вілейскі раён • Дзяржынскі раён • Капыльскі раён • Клецкі раён • Крупскі раён • Лагойскі раён • Любанскі раён • Маладзечанскі раён • Мінскі раён • Мядзельскі раён • Нясвіжскі раён • Пухавіцкі раён • Салігорскі раён • Слуцкі раён • Смалявіцкі раён • Старадарожскі раён • Стаўбцоўскі раён • Уздзенскі раён • Чэрвеньскі раён

**Горад Мінск**

ДЗЯРЖАЎНЫ СПІС ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## РАЗДЗЕЛ І
## ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ



# ГЛАВА I

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ НЕРУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 110Д000001 | Геадэзічная дуга Струве: | XIX стагоддзе | | 0 | 30.04.2002 № 73 | 14.05.2007 № 578 |
| | 1. пункт «Белін астра» | | Драгічынскі раён, паўднёва-ўсходняя частка в. Белін | | | |
| | 2. пункт «Лескавічы» | | Іванаўскі раён, 0,6 км на поўдзень ад паўднёва-ўсходняй ускраіны в. Ляскавічы | | | |
| | 3. пункт «Чэкуцк» | | Іванаўскі раён, 0,6 км на паўночны ўсход ад усходняй ускраіны в. Шчакоцк | | | |
| | 4. пункт «Асаўніца» | | Іванаўскі раён, 1 км на ўсход ад паўднёвай ускраіны в. Асаўніца | | | |
| | 5. пункт «Опаль» | | Іванаўскі раён, 0,8 км на паўднёвы ўсход ад МТФ у в. Опаль | | | |
| | 6. пункт «Бездзеж» | | Драгічынскі раён, 1,8 км ад цэнтра в. Бездзеж | | | |
| | 7. пункт «Гаць» | | Івацэвіцкі раён, 3 км на паўночны захад ад в. Вялікая Гаць | | | |
| | 8. пункт «Марынус» | | Івацэвіцкі раён, 1,6 км на паўночны захад ад заходняй ускраіны в. Доўгая | | | |

## Горад Брэст

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Е000002 | Гістарычны цэнтр г. Брэста: будынкі і збудаванні, планіровачная структура, ландшафт і культурны пласт на тэрыторыі, абмежаванай: з поўначы – чыгуначнай лініяй, з усходу – бульварамі Шаўчэнкі і Касманаўтаў, з поўдня – р. Мухавец, з захаду – вул. Леніна, уключаючы забудову вул. Леванеўскага | XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Брэст | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Помнік горадабудаўніцтва XIX–XX стст. Як горадабудаўнічая структура закладзена ў 1830-я гг. з узвядзеннем на тэрыторыі старажытнага горада Брэсцкай крэпасці. Першапачаткова быў забудаваны дамамі ў адзін – тры паверхі, большасць якіх разбурана ў 1915–1918 гг., аднoўлены ў 1921–1939 гг. У 1950–1980-я гг. сярод ранейшай забудовы ўзводзіліся асобныя шматпавярховыя будынкі.

Галоўная вуліца – Савецкая (былая Мільённая, Паліцэйская, Дамброўскага). Вуліцы 17 Верасня (былая Тапалеўская, Перэца) і Савецкіх Пагранічнікаў (былая Беластоцкая) сыходзяцца на пл. Свабоды (былая пл. Думская, Ратушная, Пілсудскага) і ўтвараюць аснову веернай планіроўкі. Паралельна ім праходзяць таксама вуліцы К. Маркса (былая Мядовая, Славянская, Зыгмунтоўская) і частка вул. Леніна (былы Бульварны праспект, вул. Люблінскай Уніі, пр. 17 Верасня). Перпендыкулярна ім размешчаны вуліцы Будзённага (былая Збірагоўская, Лістоўскага), Дзяржынскага (былая Крывая) і Астроўскага (былая Кароткая). Найбольш дэталёва захавалася першапачатковая планіроўка па вул. Гогаля і Маскоўскай.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000003 | Будынак Брэсцкай абласной філармоніі | 1901 год, 1930-я гады | вул. Арджанікідзе, 14 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 111Г000004 | Мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой»:<br><br>галоўны ўваход<br><br>галоўны манумент<br><br>пад'езды і плошчы<br><br>плошча Цырыманіялаў<br><br>тэрасы-трыбуны<br><br>трох'ярусныя пахаванні (некропаль)<br><br>скульптурная кампазіцыя «Смага»<br><br>штык-абеліск | 1971 год | заходняя ўскраіна горада | 1 | 18.01.2002 № 70 06.02.2008 № 139 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 110Г000707 | Комплекс фартыфікацыйных збудаванняў Брэсцкай крэпасці: | 1836–1842 гады, 1911–1914 гады | | 0 | 30.03.1995 № 20, 18.01.2002 № 70, 29.06.2006 № 121, 06.02.2008 № 139 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 111Г000724 | Цытадэль – абарончая казарма, руіны Белага палаца, Інжынернага ўпраўлення, Арсенала, казармы пагранічнікаў, фундамент сталовай каманднага складу | | заходняя ўскраіна горада | | | |
| 111Г000725 | Валынскае ўмацаванне – 2 бастыённыя франты з 2 равелінамі знешняй агароджы, руіны ўпраўлення Брэсцкага ваеннага шпіталя № 2396 (былы кляштар бернардзінак), крапасны будынак, каземаціраваны рэдзюіт, 12 казематаў, парахавы склеп, 2 доты 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна | | заходняя ўскраіна горада | | | |
| 111Г000726 | Кобрынскае ўмацаванне – знешняя агароджа з 4 бастыёнными франтамі і 3 равелінамі, расходнымі парахавымі склепамі, казематамі, паўночнай і паўночна-заходняй брамамі, 3 надроўныя капаніры, 20 казематаў ценальнага фронту, 12 казематаў I бастыённага фронту з патэрнай да | | заходняя ўскраіна горада | | | |

| | капаніра, 12 казематаў II бастыённага фронту, 20 казематаў бастыёна, усходні і заходні рэдуты, 3 парахавыя склепы, асобная казэмаціраваная артылерыйская батарэя, скляпеністая артылерыйская лабараторыя, 2 двухпавярховыя казармы 125-га стралковага палка, дот 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000077 | форт «А»<br>абарончая казарма «А – Б»<br>парахавы склеп «Ж – З»<br>парахавы склеп № 4<br>абарончая казарма «Ж – З»<br>форт «З»<br>абарончая казарма «Б – В»<br>абарончыя збудаванні (форт № 5) з тэрыторыяй у межах 10 м ад рова<br>форт «Граф Берг»<br>форт «1»<br>форт «8»<br>парахавы склеп № 2<br>парахавы склеп № 3 | XIX стагоддзе | мікрараён Казловічы<br>мікрараён Казловічы<br>мікрараён Гершоны<br>мікрараён Аркадзія<br>мікрараён Гершоны<br>мікрараён Казловічы<br>мікрараён Дуброўка<br>мікрараён Гершоны<br>вул. Шасэйная<br>мікрараён Казловічы<br>вул. Беларуская<br>вул. Асіпенкі, 11/1<br>вул. Луцкая | 2 | | |



У канцы XVIII ст. з мэтай умацавання заходніх межаў Расіі царскі ўрад прыняў рашэнне аб будаўніцтве крэпасці на месцы г. Брэст-Літоўска, як адной з дзевяці крэпасцей на заходняй мяжы Расійскай імперыі.

Праекты прапаноўваліся ў 1797 і 1807 гг., але Айчынная вайна 1812 г. перашкодзіла пачаць будаўніцтва. У 1830 г. імператар Мікалай I зацвердзіў канчатковы варыянт праекта Брэсцкай крэпасці, распрацаваны інжынер-генераламі К.І. Оперманам, Н.М. Малецкім і палкоўнікам А.І. Фельдманам.

1 чэрвеня 1836 г. была ўрачыста закладзена абарончая казарма ў Цытадэлі – цэнтральным востраве крэпасці. У падмуркі будучай казармы ўмуравана закладная бронзавая дошка ў гонар імператара Расіі Мікалая Паўлавіча і куфэрак з 21 манетай.

26 красавіка 1842 г. магутнае фартыфікацыйнае збудаванне ўступіла ў дзеянне.

Агульная плошча крэпасці 4 кв. км. Рукавы рэк Мухавец і Заходні Буг, абвадныя каналы ўтварылі чатыры востравы. Цэнтральнай і найбольш абароненай часткай крэпасці была Цытадэль. Яе замкнёная двухпавярховая абарончая казарма ў выглядзе шматкутніка даўжынёй 1,8 км з вонкавымі сценамі амаль 2 м таўшчынёй кальцом апярэзвала цэнтральны востраў і мела больш як 500 непрыступных артылерыйскіх казематаў, якія маглі ўмясціць каля 12000 салдат з усімі запасамі. У двары Цытадэлі размяшчаліся будынкі арсенала, інжынернага ўпраўлення, Белага палаца, гарнізоннай царквы.



Чатыры брамы: Брэсцкая (трохарачная), Холмская, Цярэспальская, Беластоцкая мастамі злучалі Цытадэль з Цярэспальскім (чатыры земляныя люнеты), Кобрынскім (чатыры бастыённыя форты з трыма равелінамі) і Валынскім (два бастыённыя форты з двума равелінамі) прадмеснымі ўмацаваннямі, абкружанымі абваднымі каналамі і абарончым валам 10 м вышынёй. Галоўная крапасная лінія перавышала 6,4 км. У тоўшчы валоў былі мураваныя казематы. 21 мост злучаў прадмесці з крэпасцю.

У сярэдзіне XIX ст. у сувязі з удасканаленнем артылерыі крэпасць стала даступнай на ўсю глыбіню яе тэрыторыі. Па прапанове рускага інжынера-фартыфікатара Э.І. Татлебена ў крэпасці былі пачаты работы па ўтаўшчэнні галоўнага вала і будаўніцтве дадатковых умацаванняў. У 1869–1872 гг. з мэтай прыкрыцця паўночна-заходняй часткі крэпасці і паляпшэння абстрэлу мясцовасці ў раёне Брэсцка-Варшаўскай чыгункі на адлегласці 1 км на паўднёвы захад ад крэпасці пабудаваны форт «Граф Берг».

У 1878 г. вакол крэпасці ўзводзіцца пояс з дзевяці перадавых умацаванняў (фортаў), размешчаных за 3–4 км адзін ад аднаго і аддаленых ад агароджы крэпасці на 3–5 км. У асноўным гэта былі земляныя ўмацаванні з невялікімі казематамі і пазіцыямі для гармат на валах.

У 1912 г. камітэт Галоўнага штаба зацвердзіў новы план пашырэння крэпасці на наступнае дзесяцігоддзе. Новы пояс з 14 фортаў і 21 абарончага пункта меркавалася стварыць ужо за 6–7 км ад ядра крэпасці. Будаўнічыя работы па ўмацаванні крэпасці працягваліся да 1914 г. У будаўніцтве і ўдасканаленні Брэсцкай крэпасці ў пачатку XX ст. прымалі ўдзел высокакваліфікаваныя ваенныя інжынеры рускай арміі: І.В. Бялінскі, Г.І. Лагорыа, Б.Р. Дабашынскі, Д.М. Карбышаў і інш. Ужо к вясне 1915 г. пазіцыі крэпасці мелі завершаны выгляд. Яна была адной з найбольш падрыхтаваных да абароны крэпасцей.





У жніўні 1915 г. пры адступленні ў ноч з 12 на 13 жніўня 1915 г. форты і апорныя пункты 1-й і 2-й лініі абароны на паўночна-ўсходнім, усходнім і паўднёва-ўсходнім баках былі ўзарваны да асновы, астатнія часткова. Драўляныя крапасныя пабудовы і масты былі спалены.

3 сакавіка 1918 г. у будынку Белага палаца быў падпісаны Брэсцкі мірны дагавор.

З 1921 г. у крэпасці і фортах размяшчаліся часці 9-й акругі польскай арміі, якія з 14 па 17 верасня 1939 г. трымалі абарону крэпасці ад часцей 10-й нямецкай танкавай арміі. У ходзе баёў паміж германскімі і польскімі войскамі частка цытадэлі разбурана, пашкоджаны будынкі Белага палаца і інжынернага ўпраўлення. 22 верасня 1939 г. у крэпасць увайшла Чырвоная армія. 22 чэрвеня 1941 г. гарнізон крэпасці першым прыняў удар гітлераўскай арміі. З пачаткам баявых дзеянняў каля палавіны асабовага складу здолела выйсці ў раёны канцэнтрацыі войскаў. У крэпасці засталося крыху больш за 3 тыс. чалавек, якія больш як месяц трымалі абарону і скоўвалі дзеянні 45-й нямецкай дывізіі. У вайну знішчаны або пашкоджаны амаль усе будынкі крэпасці, якія мелі гістарычную або мастацкую каштоўнасць.

8 лістапада 1956 г. у частцы абарончай казармы Цытадэлі, якая захавалася, быў створаны Музей абароны Брэсцкай крэпасці. У 1965 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР крэпасці прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой». У 1971 г. адкрыты мемарыял «Брэсцкая крэпасць-герой». У 1985 г. каля Вечнага агню закладзена мемарыяльная пляцоўка гарадоў-герояў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000005 | Мікалаеўская царква | XIX стагоддзе | Брэсцкая крэпасць | 3 | 27.03.2002<br>№ 64 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000006 | Гарадзішча старажытнага Бярэсця | XI–XIV стагоддзі | Брэсцкая крэпасць, Валынскае ўмацаванне | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000007 | Будынак | 1928 год | вул. Будзённага, 31 | 3 | 27.04.2004<br>№ 96 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000008 | Мемарыяльны ансамбль | | Гарнізонныя могілкі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000009 | Казармы | канец XIX стагоддзя | Паўночны гарадок (вул. Брэсцкай Дывізіі) | 3 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000010 | Чыгуначны вакзал з будынкам прычыгуначнага паштамта і будынкам адміністрацыі Брэсцкага аддзялення Беларускай чыгункі | 1886 год, 1956 год | у паўночна-заходняй частцы горада | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



У сувязі з бурным развіццём чыгункі ў 2-й палове XIX ст. у 1874 г. было прынята рашэнне аб стварэнні адзінай для ўсіх праходзячых праз Брэст ліній станцыі. У конкурсе на лепшае архітэктурна-планіровачнае вырашэнне перамог варыянт праекта, распрацаваны архітэктарам Б. Лорбергам пры ўдзеле інжынераў Л. Нікалаі і Я. Гарбунова.

Будынак вакзала размясціўся на «востраве», які ўтваралі лініі маскоўскага і варшаўскага напрамкаў. Запраектаваная агульная плошча вакзала дасягала 970,18 кв. сажняў (4417 м²). Цэнтральная вось сіметрыі праходзіла як па вертыкалі, так і па гарызанталі. Для стварэння архітэктурна-мастацкай выразнасці і цэласнасці выкарыстоўваліся такія элементы, як арка, пілон з фігурным завяршэннем, аконны праём з паўпрофільнай верхняй часткай, элементы дэкору ў выглядзе зубчыкаў з прафіляванай цэглы, атынкаваныя паясы і нішы. Увесь аб'ём будынка па перыметры карніза аздабляўся высокімі прамавугольнымі зубцамі. Дадатковую выразнасць надавала каляровая неатынкаваная фактура цэглы, з якой мураваўся ўвесь аб'ём вакзала. Для ўстойлівасці канструкцыі ад вібрацыі падоўжныя сцены вестыбюля былі з'яднаны паміж сабой металічнымі тросамі-сцяжкамі.

Акрамя галоўнага будынка, праектаваліся два асобныя аднапавярховыя павільёны пры пасажырскіх платформах з невялікім памяшканнем для імператарскіх пакояў на паўночнай платформе і з адзіным імператарскім выхадам на паўднёвай. Пры павільёнах размяшчаліся памяшканні паштовых аддзяленняў і дзяжурных жандараў.



Новы будынак вакзала быў выкананы з яўнай стылізацыяй форм раманскага і псеўдарускага стыляў з элементамі неаготыкі, меў выгляд сярэдневяковай крэпасці астраўнога тыпу, дамінаваў у навакольнай забудове і быў адным з самых прыгожых і буйных вакзалаў таго часу.

У сувязі з далейшым ростам пасажырскіх патокаў і грузавых перавозак, а таксама гарадскім пажарам, ад якога пацярпеў і вакзал, і прымыканнем да станцыі ліній Палескіх чыгунак у 1897 г. адбылася рэканструкцыя будынка. Крыху пазней пачалося будаўніцтва новага пуцеправода да горада, а ў 1912 г. прыгарад Граеўка злучыўся з вакзалам пешаходным мостам, які праходзіў над пуцямі з усходняга боку вакзала і выходзіў у горад.

У гады Першай сусветнай вайны вакзал быў амаль цалкам разбураны. Рэканструкцыя пачалася ў пачатку 1920-х гг. і доўжылася амаль да 1929 г. Новыя фасады вакзала былі

выкананы, як вызначаюць польскія архітэктары, у так званым «народным стылі». Ён грунтаваўся на выкарыстанні архітэктурных матываў рэнесансу, барока і класіцызму.

Асноўны аб'ём будынка застаўся такім, як і пры яго будаўніцтве ў 1886 г. Змянілася ў бок павелічэння вышыня цэнтральнай вежы-рызаліту, якая стала двухпавярховай, значна выцягнутай у плане наперад і завяршалася высокімі шчытамі і атыкамі, стылізаванымі ў рэнесансныя і барочныя формы. У верхняй частцы дэкор заканчваўся шматлікімі фігурнымі шарамі. Цэнтральны фасад злева і справа фланкіраваўся дзвюма сіметрычнымі шырокімі двухпавярховымі вежамі, якія падтрымліваліся контрфорсамі, што ішлі да сярэдзіны першага паверха. Усе дэталі – прамавугольнікі, пасы па перыметры вокнаў, пілоны, шары на атыках і шчытах, профільныя карнізы, контрфорсы – былі афарбаваны ў белы колер, які надаваў будынку яшчэ большую выразнасць і дэкаратыўнасць.

Пасля 1929 г. работы па пашырэнню вакзала працягваюцца. На паўднёвым баку ўздоўж пуцей з'явіліся будынкі пошты і багажнага аддзялення, якія выходзілі на прывакзальную плошчу. Яна таксама перараблялася і ўпарадкоўвалася. Будаўнічымі работамі кіраваў інжынер В. Лісоўскі.

Вонкавы выгляд вакзала заставаўся нязменны з сярэдзіны 1920-х гг. да 1941 г. У гады Вялікай Айчыннай вайны вакзал моцна не пацярпеў: было пашкоджана дахавае пакрыццё, асколкамі снарадаў вышчарблены сцены. Яго аднаўленне пачалося ў канцы 1944 – пачатку 1945 г. і вялося работнікамі станцыі. Рост пасажырскага і грузавога патокаў у заходнім і адваротным напрамках патрабаваў больш поўнай рэканструкцыі вакзала, вымагаў новых залаў чакання, памяшканняў для спецыяльных службаў і г. д. У 1950 г. Упраўленне Беларускай чыгункі заказала праект рэканструкцыі вакзала інстытуту «Кіеўдзіпратранс». Работы па праекце ўзначаліў архітэктар І. Пестракоў.



Будаўнічыя работы закончыліся ў 1956 г. Новы сілуэт вакзала стаў нагадваць гмах Маскоўскага універсітэта. На цэнтральным і бакавым фасадах з'явіліся характэрныя для савецкай архітэктуры 1930–1950-х гг. вялікія калоны, шасцівугольныя ў плане, якімі з'яднялі паміж сабой двухпавярховыя аб'ёмы, што П-падобна выступаюць на плане. З усходняга боку быў зроблены блок-прыбудова, у якім размясціліся зала «Інтурыста», білетныя касы, зала чакання для вайскоўцаў радавога і сяржанцкага складу, перабудаваны шэраг іншых памяшканняў, дзе былі размешчаны пакой маці і дзіцяці, пакой для адпачынку і г. д.

У 1975 г. на вакзале былі пабудаваны новыя залы: мытная, білетна-касавая і зала для замежных турыстаў. У 1994 г. была праведзена рэканструкцыя будынкаў і падвалаў вакзала. Работы правялі польскія спецыялісты, якія мелі вопыт рэстаўрацыі Петрадварца, будынкаў Рыгі, Масквы, Таліна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000011 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Камсамольская, 40 | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Ж000012 | Бюст П.І. Клімука | 1979 год | бульвар Касманаўтаў | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000013 | Забудова пл. Леніна | 1920–1930-я гады | вул. Леніна, 7, 9, 11, 13, 15 | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Ж000014 | Помнік У.І. Леніну | 1958 год | пл. Леніна | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000015 | Кафедральны касцёл Святога Крыжа | 1856 год | вул. Леніна, 34 | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000016 | Свята-Сімяонаўскі сабор | 1865 год | вул. К. Маркса, 84 | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000017 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | II–III стагоддзі | вул. Маскоўская, 215, 217, 219 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000018 | Будынак | сярэдзіна XIX стагоддзя | пр. Машэрава, 32 | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000019 | Брацкая магіла | 1944–1945 гады | парк культуры і адпачынку імя 1 Мая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000020 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Пушкінская, 10 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы з мансардным паверхам будынак накрыты двухсхільным дахам. На дваровым фасадзе два бакавыя рызаліты. Галоўны фасад акцэнтаваны вуглавым эркерам, завершаным фігурным атыкам з паўкруглым аконным праёмам у цэнтры. На першым паверсе прамавугольныя аконныя праёмы, на другім – паўкруглыя ў прафіляваных аконных абрамленнях і з падаконнымі філёнгамі. Гарызантальна фасад падзелены міжпаверхавай цягай, завершаны шматслойным карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000021 | Свята-Мікалаеўская брацкая царква | 1906 год | вул. Савецкая, 10 | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000071 | Свята-Афанасьеўская капліца | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Свята-Афанасьеўская, 39, мікраарён Гершоны | 3 | 05.10.2004 № 101 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113Д000078 | Магіла савецкіх лётчыкаў | 1944 год | 0,5 км ад вул. Уладаўскай, мікраарён Гершоны | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000079 | Царква Раства Багародзіцы | 1835 год | вул. Свята-Афанасьеўская, 112, мікраарён Гершоны | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |

## Баранавіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000022 | Мемарыяльны комплекс «Памяць» на месцы забойства і пахавання 31 тыс. савецкіх ваеннапалонных – вязняў канцлагера № 337 | 1964 год, 2005 год | г. Баранавічы, вул. Брэсцкая | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 №1288 |
| 113Д000023 | Воінскі ўчастак грамадзянскіх могілак: брацкая магіла<br>дзве брацкія магілы падпольшчыкаў<br>восем брацкіх магіл савецкіх воінаў<br>магілы Герояў Савецкага Саюза І.П. Лісіна, У.І. Матроніна, А.Г. Наканечнікава<br>магіла двойчы Героя Савецкага Саюза М.Ц. Сцепанішчава<br>магіла генерал-маёра І.Л. Рагулі<br>магілы А.І. Астроўскага, Ф.В. Чорнага<br>магіла падпольшчыка М.Ф. Дарашэвіча і яго родных<br>магіла польскіх грамадзян – ахвяр фашызму | 1944 год | г. Баранавічы, могілкі на вул. Загараднай | 3 | 21.05.2008 №142 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 №1288 |
| 113Д000024 | Помнік воінам і партызанам, якія вызвалялі г. Баранавічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 8 ліпеня 1944 г. | 1964 год, 1984 год | г. Баранавічы, вул. Леніна | 3 | 21.05.2008 №142 | 03.09.2008 №1288 |
| 113Д000025 | Мемарыяльны комплекс на магіле ахвяр фашысцкага тэрору – вязняў Баранавіцкага гета | 1994 год | г. Баранавічы, вул. Чарнышэўскага – Рагулі | 3 | 21.05.2008 №142 | 03.09.2008 №1288 |
| 113Д000026 | Памятны знак у гонар партызан Баранавіцкага злучэння | 2003 год | г. Баранавічы, вул. Чкалава, у скверы | 3 | 21.05.2008 №142 | 03.09.2008 №1288 |
| 113Ж000039 | Бюст С.І. Грыцаўца | 1949 год | г. Баранавічы, вул. Камсамольская | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000040 | Будынак радыёстанцыі | 1930-я гады | г. Баранавічы, вул. Камсамольская, 65 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000041 | Пакроўскі сабор<br>сем мазаічных пано | 1924–1931 гады<br>1902–1911 гады | г. Баранавічы, вул. Куйбышава | 2 | 28.02.2002 № 71 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Мураваны крыжова-купальны храм мае тры паўкруглыя апсіды. Асноўны квадратны ў плане аб'ём перакрыты вялікім паўсферычным купалам, які мае дзве абалонкі і асвятляецца люкарнамі. Да асноўнага аб'ёму прымыкае трох'ярусная квадратная ў плане вежа-званіца, завершаная шлемам са шпілем. Ярусная будова званіцы падкрэслена архітэктурным дэкорам: вуглавымі адзіночнымі і спаранымі калонамі, паўкалонамі, лапаткамі, арачнымі праёмамі, прафіляванымі карнізамі. Бакавыя фасады вылучаны ўваходамі з чатырохкалоннымі порцікамі іанічнага ордэра, завершанымі трохвугольнымі франтонамі. Вокны і нішы сабора разнастайнай формы з прафіляванымі абрамленнямі. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

У храме знаходзяцца 7 з 16 мазаічных кампазіцый, якія да 1923 г. упрыгожвалі сабор Аляксандра Неўскага ў Варшаве. Мазаічныя кампазіцыі выкананы ў 1902–1911 гг. у майстэрні У. Фралова ў Пецярбургу на кардонах мастакоў В. Васняцова, М. Бруні, М. Кашалёва, В. Думітрашкі шляхам простага і адваротнага набору шліфаванай смальты.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000042 | Касцёл Узвіжання Святога Крыжа | 1924–1925 гады | г. Баранавічы, вул. Куйбышава, 34 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Ж000043 | Помнік У.І. Леніну | 1960 год | г. Баранавічы, пл. Леніна | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000044 | Будынак | 1930-я гады | г. Баранавічы, вул. Пірагова, 5 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000045 | Будынак банка | 1927–1929 гады | г. Баранавічы, вул. Савецкая, 77 | 3 | 09.10.2002 № 76 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000046 | Будынак | 1930-я гады | г. Баранавічы, вул. Тэльмана, 15 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000047 | Будынак пажарнага дэпо | 1930-я гады | г. Баранавічы, вул. Тэльмана, 21 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000048 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | г. Баранавічы, вул. Фралянкова, 11 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000049 | Будынак | 1902 год | г. Баранавічы, вул. Фралянкова, 50 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000050 | Мемарыяльны комплекс «Урочышча Гай» | 1971–1972 гады | г. Баранавічы, урочышча Гай | 3 | 22.01.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000051 | Троіцкая царква | 1768 год | в. Вольна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудавана як уніяцкая базыльянская царква. У XIX ст. прыстасавана пад праваслаўную. У гэтай якасці дзейнічае ў цяперашні час.



Мураваная трохнефавая, двухвежавая базіліка з паўкруглай апсідай, бакавымі сакрысціямі і трансептам. Архітэктурны дэкор галоўнага фасада – «разарваны» карніз, пілястры, акантавае лісце, кароны, воінская атрыбутыка і інш., а таксама дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера – галоўны алтар, вырашаны ў выглядзе каланады з крывалінейнымі антаблементамі, упрыгожаны скульптурнымі групамі анёлаў, адпавядаюць архітэктурнай эстэтыцы ракако.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000709 | Свята-Крыжаўзвіжанская царква | 1764, 1879 гады | г.п. Гарадзішча | 3 | 29.03.2006<br>№ 118 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000052 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Гарадзішча,<br>вул. 17-га Верасня | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000053 | Гарадзішча перыяду ранняга феадалізму | XI–XIII стагоддзі | г.п. Гарадзішча, 0,8 км на захад ад г.п., на правым беразе р. Сэрвач | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000054 | Стаянка перыяду неаліту, бронзавага веку, ранняга жалезнага веку | 5-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Добры Бор, 2,5 км на паўднёвы ўсход, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000055 | Гарадзішча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Добры Бор, 2 км на паўночны ўсход, урочышча Моргач | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000056 | Сядзіба-мемарыял<br>А. Міцкевіча | XVIII стагоддзе,<br>1993–1998 гады | хутар Завоссе | 3 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000057 | Троіцкі касцёл | 1472 год,<br>1970-я гады | в. Ішкалдзь | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Касцёл пабудаваны ўладальнікам мястэчка Мікалаем Неміровічам у 1472 г. Пры жыцці Мікалая Радзівіла Чорнага касцёл быў перададзены кальвіністам, а ў 1-й палове XVII ст. зноў вернуты каталікам. Пасля паўстання Кастуся Каліноўскага ў 1863–1864 гг. касцёл быў закрыты, будынак перададзены праваслаўным вернікам і пераасвячоны ў царкву Св. Тройцы (пастаўлены іканастас, надбудаваны дзве цыбулепадобныя галоўкі). У 1891 г. асобна была пабудавана драўляная званіца. У 1921 г. храм зноў пачынае дзейнічаць як касцёл. Пасля 1945 г. быў закрыты і стаяў пусты да канца 1970-х гг., пакуль не быў вернуты каталікам.

Касцёл уяўляе сабой мураваны храм зальнага тыпу памерамі 26,4x14 м разам з апсідай, накрыты двухсхільным дахам. Стромкія шчыты на тарцах будынка, масіўныя сцены, умацаваныя контрфорсамі, стральчаты праём увахода, зорчатае нервюрнае скляпенне ў апсідзе і іншыя асаблівасці характарызуюць храм як унікальны для Беларусі ўзор гатычнага культавага дойлідства.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000058 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Люшнева, 1,8 км на паўднёвы ўсход, на ўзлеску | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000059 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Моўчадзь, 0,5 км на поўдзень, злева ад дарогі на г. Слонім | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000060 | Праабражэнскі касцёл<br>дэкаратыўнае ўбранне: алтары, амбон, арган | 1825 год, сярэдзіна XVIII стагоддзя | в. Новая Мыш | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1825 г. на сродкі ўладальніка мястэчка князя Сапегі. У 1889 г. храм згарэў, аднак у 1890 г. быў адбудаваны на сродкі прыхаджан.

У аснове кампазіцыі – прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай алтарнай часткай накрыты агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Галоўны фасад – васьмікалонны порцік, характэрны для позняга класіцызму. Стральчатыя вокны з простымі ліштвамі, як і контрфорсы, якія ўмацоўваюць прасценкі бакавых фасадаў, – вынік уплыву псеўдаготыкі.

На хорах стаіць сціпла дэкарыраваны раслінным арнаментам арган. У канцы XIX – пачатку XX ст. у касцёле ўстаноўлены тры драўляныя разныя алтары і амбон. Алтары выкананы ў XVII ст., упрыгожаны скульптурамі ў XVIII–XIX стст. Галоўны алтар – двух'ярусны, на высокім цокалі. Чатыры калоны першага яруса нясуць раскрапаваны антаблемент з накладной разьбой. У нішах паміж калонамі – драўляная скульптура. У другім ярусе – скульптурная група анёлаў у дынамічных паставах. Вянчае алтар таксама скульптурная група анёлаў. Бакавыя алтары па кампазіцыі аналагічныя цэнтральнаму, але меншыя памерамі. Матывы разьбы: вінаградная лаза з гронкамі, разеткі, ракавіны, пальметкі, акант, стылізаванае лісце, галоўкі анёлаў і фантастычныя рыбы. Амбон у стылі ракако, дэкарыраваны скульптурамі чатырох евангелістаў у экспрэсіўных ракурсах, херувімамі, маскаронамі, паляўнічымі атрыбутамі, а таксама картушамі і медальёнамі. Вянчае амбон скульптурная група анёлаў у палёце.

Касцёл абгароджаны парканам з трохарачнай мураванай брамай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000708 | Свята-Антоніеўская царква | 1817 год | в. Падгорная | 3 | 29.03.2006 № 118 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000061 | Будынак былога палаца | першая палова XIX стагоддзя | в. Паланэчка | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000062 | Юр'еўскі касцёл | 1751 год, 1827 год, 1897 год | в. Паланэчка | 2 | 25.05.2004 № 97 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудаваны на пагорку, непадалёк ад былога палаца Радзівілаў. Першы касцёл з дрэва быў пабудаваны ў 1751 г. па фундацыі біскупа Жалкоўскага, асвячоны ў 1759 г. Перабудоўваўся ў 1827 і 1897 гг.

У плане прамавугольны з пяціграннай апсідай. На галоўным фасадзе касцёла дзве вежы і ганак з пяццю цэментнымі прыступкамі. Унутры храма на чатырох драўляных слупах хоры, на якіх арган на дзевяць галасоў. Галоўны алтар простай работы часткова





ўпрыгожаны разьбой і пазалотай, фланкіраваны дзвюма калонамі. З правага боку ад прэсбітэрыя бакавы алтар Прасвятой Дзевы Марыі, з левага боку – алтар Св. Антонія Падуанскага. Яшчэ адзін алтар знаходзіўся ў капліцы.

Касцельны двор абнесены агароджай. З правага боку ад касцёла стаяла званіца на мураваным падмурку, пабудаваная ў 1855 г. Званіца была квадратная ў плане, памерам грані 4 сажні 10 вяршкоў. У 1873 г. званіцу змацавалі чатырма брусамі, звязанымі па баках пад дахам. У званіцы месціліся тры званы. З правага боку званіцы знаходзілася капліца на два акны для часовага знаходжання памерлых. Драўляны плябанскі дом 1861 г. пабудовы на мураваным падмурку – за касцельнай агароджай, з левага боку ад касцёла.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000028 | Палацава-паркавы ансамбль:<br>палац<br>флігель<br>стайня<br>кароўнік<br>парк | XIX – пачатак XX стагоддзя, 1909 год | в. Паўлінава | 2 | 21.05.2008<br>№ 142 | 03.09.2008<br>№ 1288 |



У 1897 г. маёнтак Навіцкіх набыў Ян Отан Бохвіц, які спачатку размясціў тут свае гаспадарчыя пабудовы, потым заклаў сад і разбіў пейзажны парк. На р. Лахазва пабудаваў вадзяны млын, непадалеку ў лесе працавала смалакурня для вырабу шкіпінару і мазуту. У 1906 г. Бохвіц заклаў падмурак багатага палаца, будаўніцтва якога завяршыў у 1909 г. На той час у маёнтку Паўлінава было 7 двароў з 45 жыхарамі. Спачатку Бохвіц адбудаваў палац каля в. Вошкаўцы (цяпер Ураджайная), што пад Ляхавічамі, і назваў яго ў гонар бацькі – Фларыянава, а закладзены новы палацава-паркавы ансамбль у гонар маці – Паўлінава. На сённяшні дзень захаваліся абодва палацы.



Паўлінаўскі палац у плане прамавугольны, мае тры паверхі, трэці паверх мансардавы. Усе чатыры франтоны трактаваны ў стылі неаготыкі, завершаны зубчастымі вежкамі.

Добра захаваўся пейзажны парк. Ён займае плошчу каля 7 га, мае форму квадрата з прыгожай сажалкай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000063 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Пурневічы, 0,8 км на паўднёвы захад, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000064 | Брацкая магіла | 1944 год | пас. Першамайскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000065 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Пурневічы, 1 км на поўдзень, з правага боку дарогі на в. Душкаўцы, на левым беразе р. Сваротва | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000066 | Царква Аляксандра Неўскага убраннне галоўнага алтара | 1740–1746 гады | в. Сталовічы | 2 | 28.02.2002 № 71 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Мястэчка Сталовічы ў XVII–XVIII стст. з'яўлялася цэнтрам рыцарскага Мальтыйскага ордэна на Беларусі. У 1610 г. князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка заснаваў тут Камандорыю Мальтыйскага ордэна. Сын яго Жыгімонт Кароль Радзівіл у Сталовічах пабудаваў драўляны касцёл Св. Дзевы Марыі і Яна Хрысціцеля, а затым у 1639 г. – мураваную Ларэтанскую капліцу. Будаўніцтва мураванага касцёла па праекце архітэктара Фантана распачаў каля 1740 г. тагачасны ўладальнік Сталовіч і камандор Мальтыйскага ордэна Міхал Дамброўскі. Будаўніцтва было прыпынена ў сувязі са смерцю фундатара і непаразуменнямі, што ўзніклі паміж архітэктарам і пробашчам. Да таго часу быў пабудаваны толькі ніжні ярус касцёла з галоўным парталам. Ларэтанскую капліцу Фантана ўключыў у агульны аб'ём касцёла на восі галоўнага нефа як прэсбітэрый. Завяршыў будаўніцтва касцёла ў 1743–1746 гг. архітэктар Ян Крыштоф Глаўбіц, які, узводзячы верхні ярус касцёла з двухвежавым фасадам, аддаў перавагу вертыкальнай тэндэнцыі, імкнучыся звузіць шырока закладзены ніжні ярус. Касцёл уяўляў трохнефавую базіліку з двухвежавым галоўным фасадам. Меў высокі двухсхільны дах з дзвюма сігнатуркамі над алтарнай часткай і капліцай.

У інтэр'еры вылучаецца галоўны двух'ярусны алтар, афармлены чатырма калонамі і выкананы ў тэхніцы стука (белы і ясна-блакітны колеры). У ніжнім ярусе размяшчаліся статуі Ісуса і Іаана Хрысціцеля (сцэна хрышчэння Ісуса ў Іардане), зверху – выява Св. Духа, дзве вазы з кветкамі. У цэнтры алтара знаходзіўся картуш з выявай адсечанай галавы Іаана Хрысціцеля. Акрамя таго, у касцёле існавалі два бакавыя алтары.

У 1862–1882 гг. касцёл перароблены ў царкву Аляксандра Неўскага, у сувязі з чым будынку былі нанесены пэўныя страты ў аздабленні фасадаў, таксама ў інтэр'еры: знішчаны бакавыя алтары і амбон работы Глаўбіца, галоўны алтар закрыты іканастасам. На царкве былі зроблены пяць глухіх купалаў і званіца ў франтоннай частцы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000067 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XVI стагоддзе | в. Старая Мыш, 0,1 км на поўдзень, на правым беразе р. Мышанка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000068 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Стрэлава, 1 км на захад, з усходняга боку могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000069 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Уцёс | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Брэсцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000070 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | на мяжы Брэсцкага і Маларыцкага раёнаў | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000072 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Астрамечава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000073 | Свята-Міхайлаўская царква | 1846 год | в. Астрамечава | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000074 | Спаса-Уваznясенская царква | 1868 год | в. Вельямовічы | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000075 | Крыжаўзвіжанская царква | 1678 год | в. Вістычы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы як касцёл цыстэрцыянцаў. Касцёл перададзены праваслаўнай царкве ў XIX ст.

Будынак – трохнефавая базіліка з паўцыркульным апсідным завяршэннем цэнтральнага нефа. Вырашэнне фасадаў будынка і інтэр'ера характэрнае для архітэктуры барока.

Перад касцёлам двух'ярусная драўляная чацверыковая званіца, накрытая пакатым шатром.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000076 | Вежа ўязной брамы былой сядзібы | XVIII стагоддзе | в. Вістычы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000080 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | хутар Гуркі, 0,2 км на левы бок ад дарогі Відомля – Высокае, на поўдзень ад хутара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000081 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Дамачава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000082 | Свята-Лукінская царква | 1905 год | г.п. Дамачава | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000083 | Селішча-1 перыяду ранняга сярэднявечча | IX–X стагоддзі | в. Дружба (Скорбічы), 0,2 км на поўнач, уздоўж правага берага р. Лясная | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000084 | Селішча-2 перыяду ранняга сярэднявечча | IX–X стагоддзі | в. Дружба (Скорбічы), на поўнач ад селішча-1, за безыменным ручаём | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000085 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | IV–I стагоддзі да н.э. | в. Дружба (Скорбічы), на паўднёвым ускрайку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000086 | Ільінская царква | канец XVIII–пачатак XIX стагоддзя | в. Дубок | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000087 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Жыровецкая Камяніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112В000088 | Стаянка перыяду мезаліту, неаліту, бронзавага веку | 8–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Заказанка | 2 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000089 | Царква Параскевы Пятніцы са званіцай | 1610 год | в. Збірагі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва па фундацыі княгіні Агаты Сапегі як уніяцкая царква Прасвятой Тройцы. У 1925 г. адрэстаўрыравана каталіцкай абшчынай. Пасля Вялікай Айчыннай вайны перададзена праваслаўным. Помнік драўлянага дойлідства.

Складаецца з выцягнутага прамавугольнага ў плане асноўнага зруба і квадратнага ў плане алтарнага з невысокімі прыбудовамі рызніц па баках. Прамавугольны ў плане асноўны зруб мае трохсхільны дах з вальмай над галоўным заходнім фасадам. Алтарны зруб накрыты таксама трохсхільным дахам з вальмай з усходняга боку. Над асноўным аб'ёмам, на месцы злучэння зрубаў, гранёная галоўка. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі вокнамі. Унутры асноўнае памяшканне зальнае, перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю. У заходняй частцы на дзвюх драўляных калонках узвышаюцца хоры. Каля ўвахода ў царкву стаіць квадратная ў плане аднаярусная каркасная званіца, накрытая шатровым гонтавым дахам. Званіца вертыкальна ашаляваная дошкамі, у верхняй частцы – скразныя арачныя праёмы.

Ансамбль вызначаецца цэласнасцю кампазіцыі, суразмерным маштабам і мастацкай выразнасцю архітэктурнага вырашэння.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000090 | Стаянка перыяду неаліту, бронзавага веку | 3–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Збунін, 2 км на поўнач, на правым беразе р. Заходні Буг | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000091 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Збунін | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000092 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Знаменка | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000093 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Камароўка | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000094 | Магіла ахвяр фашызму | 1942–1944 гады | в. Лышчыцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000095 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Ляплёўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000096 | Прыдарожная капліца | 1934 год | в. Малая Ракавіца | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000097 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Малыя Зводы, 2,5 км на паўночны ўсход, урочышча Ворахава | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000098 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Медна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000099 | Спаса-Праабражэнская царква | канец XVIII стагоддзя | в. Медна | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000100 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Міхалін | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000101 | Пакроўская царква | 1739 год, XIX стагоддзе | в. Покры | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудова цэнтрычнай кампазіцыі, у архітэктуры якой адзначаюцца асобныя рысы стылю барока.

Крыжападобны ў плане будынак з пяціграннай апсідай, накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі двухсхільнымі дахамі, якія ўтвараюць франтоны на галоўным і бакавых фасадах. Сяродкрыжжа завершана фігурнай вежачкай. Да апсіды прылягаюць дзве маленькія рызніцы. З захаду да царквы прыбудавана двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку), накрытая васьміграннным шатровым дахам. Сцены царквы вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вуглы апрацаваны драўлянымі разнымі накладкамі. Асноўнае зальнае памяшканне з бэлечнай столлю аддзелена ад алтара разным іканастасам. Хоры апіраюцца на дзве калонкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000102 | Стаянка-1 перыяду неаліту | 5–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Прыбарава, 3 км на поўдзень, урочышча Гарынец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000103 | Стаянка-2 перыяду неаліту, бронзавага веку | 5–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Прыбарава, 3 км на поўнач, урочышча Крынічка, урочышча Падзаміжны, урочышча Плошча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000104 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Прыбарава | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000105 | Стаянка перыяду мезаліту, неаліту, бронзавага веку | 8–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Прылукі, 2 км на поўдзень, на правым беразе р. Заходні Буг | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000106 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Прылукі | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000107 | Свята-Пакроўская царква | 1867 год | в. Прылукі | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000108 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Рагозна | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000109 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Малыя Радванічы | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000110 | Былая сядзіба Нямцэвічаў:<br>сядзібны дом<br>фрагменты парку | 1770-я гады | в. Скокі | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



З XVII ст. Скокі знаходзіліся ва ўласнасці роду Нямцэвічаў. У той час сядзіба ўяўляла сабой невялікі драўляны дом, флігель, некалькі гаспадарчых пабудоў, невялікі пладовы сад. У 1770 г. дом быў разабраны, газон заараны.

Новы мураваны палац быў пабудаваны Марцэліем Нямцэвічам і яго жонкай Ядвігай Сухадольскай у 1770-я гг. па праекце невядомага архітэктара ў іншым месцы, непадалёк ад колішняй сядзібы. Нельга з упэўненасцю сцвярджаць, што сённяшні выгляд палаца адпавядае першапачатковаму праекту. Можна толькі параўнаць яго з палацам на акварэлі Напалеона Орды 1860-х гг.

Палац – прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак. Мае характэрную для архітэктуры барока аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Асноўны аб'ём накрыты ламаным дахам. Уваходы ад галоўнага фасада і парку акцэнтаваны балконамі на гранёных слупах. Планіроўка ўсіх паверхаў анфіладная.

Плошча парку, сфарміраванага ў XVIII ст., складае 5 га. У цэнтральнай частцы існуе трохрадная алея, бліжэй да цэнтра парк перасякаўся невялікім каналам. Да сённяшніх дзён захаваўся прагулачны маршрут.

У час Першай сусветнай вайны ў палацы размяшчаўся штаб кайзераўскай арміі. У час ваенных дзеянняў палац і парк былі моцна пашкоджаны, аднапавярховыя флігелі зруйнаваны. Пасля Другой сусветнай вайны разбураны фамільная капліца, агароджа, брама, гаспадарчыя пабудовы.

У сучасны перыяд вядзецца аднаўленне і рэстаўрацыя комплексу. У палацы плануецца стварыць дзяржаўны музей гісторыі асветы і пісьменства.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000111 | Мемарыяльная калона | XVIII стагоддзе | в. Скокі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000112 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Скокі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000113 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Страдзеч | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000114 | Стаянка перыяду неаліту, бронзавага веку | 5–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Страдзеч, 1 км на поўнач, урочышча Субоцін | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000115 | Свята-Параскевінская царква | 1881 год | в. Сычы | 3 | 29.03.2005<br>№ 107 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000116 | Могілкі салдат Першай сусветнай вайны (у межах агароджы) | 1915–1916 гады | в. Тамашоўка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000117 | Магіла ахвяр фашызму | 1941 год | в. Тамашоўка | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000118 | Брацкая магіла пагранічнікаў | 1941 год | в. Тамашоўка | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000119 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | IV–VII стагоддзі | в. Уладычыца, 1 км на паўночны захад, урочышча Камянюха | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000120 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | VIII–X стагоддзі | в. Франопаль, 0,5 км на паўднёвы захад, урочышча Акоп | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000121 | Царква Параскевы Пятніцы | 1773 год, XIX стагоддзе | в. Чарнаўчыцы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва, перабудоўвалася ў 1860-я гг. Помнік народнага дойлідства з рысамі барока.

Трохзрубны храм з кампазіцыяй пераходнай ад падоўжна-восевай да крыжова-цэнтрычнай. Бабінец прамавугольны ў плане, пяціграная апсіда і развіты ў шырыню прамавугольны асноўны зруб перакрыты ўзаемна перпендыкулярнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на заходнім, паўночным і паўднёвым фасадах і вальмамі над алтаром. Сяродкрыжжа завершана складанай шмат'яруснай вежачкай. Пры ўваходзе прыбудаваны тамбур, па баках алтара невялікія рызніцы. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны лапаткамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000122 | Троіцкі касцёл са званіцай | 1583 год | в. Чарнаўчыцы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны па фундацыі М.К. Радзівіла Сіроткі. Храм з'яўляецца помнікам архітэктуры з элементамі готыкі і рэнесансу, мае выразныя рысы абарончага дойлідства сярэднявечча.

Уяўляе сабой мураваны аднанефавы храм зальнага тыпу з рудыментам трансепту і развітой паўкруглай апсідай, да якіх прылягаюць квадратныя ў плане больш нізкія прыбудовы з аднасхільнымі дахамі, што стварае паступовае насычэнне аб'ёмаў і надае кампазіцыі мастацкую выразнасць. З паўднёвага боку да апсіды прылягае круглая ў плане вежа з самастойным шатровым пакрыццём і вінтавой лесвіцай унутры. Да галоўнага фасада прыбудаваны бабінец. Асноўны аб'ём і апсіда накрыты высокім двухсхільным дахам з трохвугольнымі шчытамі на тарцах. Шчыт на галоўным фасадзе аздоблены плоскімі прамавугольнымі і круглымі нішамі, тонкімі карнізамі, вертыкальнымі цягамі. Атынкаваныя масіўныя сцены (таўшчыня 1,3 м) бакавых фасадаў умацаваны контрфорсамі, прарэзаны вузкімі паўцыркульнымі вокнамі і завершаны прафіляванымі карнізамі. Унутры цыліндрычныя скляпенні на распалубках дэкарыраваны ляпнымі нервюрамі прыгожага геаметрычнага малюнка. Сцены храма, узведзеныя ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне, аформлены пілястрамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000123 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чарнаўчыцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000124 | Магіла ахвяр фашызму | 1941 год | в. Чарнаўчыцы | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000125 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чэрні | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000126 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чэрск | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000127 | Міхайлаўская царква са званіцай | 1701 год | в. Чэрск | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік драўлянага дойлідства.

Драўляная царква складаецца з квадратнага ў плане асноўнага зруба, завершанага дахам з галоўкай, і больш вузкага зруба з трохграннай алтарнай часткай, накрытага вальмавым дахам з галоўкай. Да галоўнага фасада прыбудавана веранда, каля алтара – рызніца. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Унутры асноўны зруб перакрыты карабавым скляпеннем, алтарны – плоскай столлю. У інтэр'еры – разны іканастас і творы іканапісу XVII–XVIII стст. Перад царквой стаіць зрубна-каркасная трох'ярусная брама-званіца.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000128 | Праабражэнская царква | 1609 год | в. Шумакі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана па фундацыі князёў Шуйскіх.

Мураваны аднанефавы храм невялікіх памераў вырашаны ў простых масіўных формах, характэрных для беларускай готыкі і рэнесансу. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прылягаюць бабінец і паўкруглая алтарная апсіда. Неф і апсіда накрытыя агульным двухсхільным дахам з галоўкай на васьміграннным барабане ў цэнтры. Над бабінцам была квадратная ў плане вежа з высокім шатровым дахам. Сцены фасадаў аздобленыя шырокімі пілястрамі, завершаныя прафіляваным карнізам. Вокны высокія, вузкія са стрэльчатымі і лучковымі завяршэннямі. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. У інтэр'еры – разныя царскія вароты ў стылі барока, іканастас XVIII ст., надмагільная пліта XVII ст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000129 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Шчытнікі Малыя, 1 км на паўночны захад, урочышча Кірганы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000130 | Свята-Пакроўская царква | 1742 год | в. Шчытнікі Малыя | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000131 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | VIII–X стагоддзі | в. Шэбрын, 0,4 км на паўночны ўсход, на правым беразе р. Мухавец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000132 | Прачысценская царква | 1793 год | в. Шэбрын | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |

## Бярозаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000133 | Рэшткі былога кляштара картэзіянцаў:<br>брама<br>агароджа з вежамі<br>будынак шпіталя | 1648–1689 гады | г. Бяроза | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |





У 1648 г. Казімір Леў Сапега, падканцлер Вялікага княства Літоўскага, выступіў фундатарам будаўніцтва ў Бярозе кляштара ордэна картэзіянцаў, за што Папа Рымскі Аляксандр VII дараваў яму тытул князя. У гадавіну смерці Казіміра Льва Сапегі 6 чэрвеня 1666 г. кляштар быў асвячоны віленскім біскупам Аляксандрам Сапегам.

У час Паўночнай вайны ў 1706 г. кляштар і сад сталі месцам сустрэчы расійскага цара Пятра I і караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II. У 1831 г. кляштар быў закрыты і канфіскаваны з-за актыўнага ўдзелу манахаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні.

Царскія ўлады перадалі кляштар ваенным, а касцёл праваслаўным. У 1866 г. значная частка пабудоў кляштара была разабрана, цэгла выкарыстана для будаўніцтва ваенных казармаў, а сад паступова забудаваны.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000134 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Бяроза,<br>Камсамольскі сквер | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000135 | Магіла ахвяр фашызму | 1941–1944 гады | г. Бяроза, на старых могілках па вул. Пушкіна | 3 | 23.03.2004<br>№ 95 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000136 | Бярозаўская ДРЭС | 1958–1967 гады | г. Белаазерск | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000137 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1941 год | г. Белаазерск,<br>у парку Энергетыкаў | 3 | 23.03.2004<br>№ 95 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000138 | Стаянка перыяду мезаліту,<br>ранняга неаліту | 9–5-е<br>тысячагоддзі<br>да н.э. | в. Зарэчча,<br>0,3 км на захад,<br>каля могілак | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000139 | Стаянка Горбаў-1 перыяду неаліту і бронзавага веку | 5–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Здзітава, на паўднёвым беразе воз. Чорнае | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000140 | Стаянка Горбаў-2 перыяду неаліту | 5–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Здзітава, 1 км на поўнач, на левым беразе р. Дарагабуж | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000141 | Мемарыяльны комплекс «Здзітаўская абарона» | 1975 год | в. Здзітава | 3 | 22.01.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000142 | Курган Славы | 1967 год | в. Зубачы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000143 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Новыя Пескі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000144 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Осаўцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000145 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Падкраічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000146 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Першамайская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000147 | Царква Усекнавення | 1820-я гады | в. Сакалова | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000148 | Касцёл Святой Дзевы Марыі | 1795 год | в. Сігневічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Мураваны аднанефавы храм з паўкруглай апсідай і трансептам, утвораным капліцамі і сакрысціямі. Сцены расчлянёныя лапаткамі. Вокны прамавугольныя, двух'ярусны галоўны фасад завершаны дзвюма вежамі з атыкавым франтонам паміж імі. Пакрыццё гонтавае, двухсхільнае над нефам і вальмавае над апсідай. Інтэр'ер зальны са скляпеністым перакрыццем. Дэкаратыўная аздоба не зберáглася.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000149 | Стаянка-1 перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Спорава, на паўночным беразе воз. Спораўскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000150 | Стаянка-2 перыяду неаліту | 4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Спорава, 2,5–3 км на паўднёвы захад, на паўночна-заходнім беразе воз. Спораўскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 112Г000151 | Фрагменты былога сядзібна-паркавага комплексу | другая палова XVIII – першая палова XIX стагоддзя | в. Старыя Пескі | 2 | 16.10.2002 № 67 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



З XVII ст. да 1939 г. Пескі з'яўляліся галоўнай рэзідэнцыяй графаў Пуслоўскіх. Фундатарам палаца і заснавальнікам парку, фрагменты якога захаваліся да сённяшняга часу, лічыцца Францішак Пуслоўскі.

Старапескаўскі палацава-паркавы ансамбль размяшчаўся на маляўнічым беразе Чорнага возера.

Першапачаткова архітэктурна-кампазіцыйнае ядро ансамбля фарміравалі двухпавярховы мураваны палац, стайня і размешчаны паміж імі «Павільён руж», што стварала парадны курданёр з круглым газонам у цэнтры. Па падоўжнай восі курданёра размяшчалася галоўная ўязная брама, другая брама адкрывала ўезд у сядзібу з поўдня. Галоўная ўязная брама мае шмат агульных рысаў з Хлебнымі варотамі падмаскоўнай сядзібы Царыцына, творцам якой з'яўляўся вялікі рускі архітэктар В. Бажэнаў.

Пасля пажару ў 1843 г. пад жылы дом быў прыстасаваны драўляны будынак стайні (захаваўся да сённяшняга часу). Яго аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём пад вальмавым дахам мае чатырохкалонны порцік з трохвугольным франтонам, у тымпане якога была галава сабакі, што абазначала схільнасць гаспадара да палявання.

У пачатку XIX ст. быў пабудаваны мураваны двухпавярховы будынак «Павільён руж» (не захаваўся) у стылі класіцызму (па аналогіі з вядомай рэнесанснай вілай «Ратонда» паблізу італьянскага г. Вічэнцы знакамітага дойліда XVI ст. Андрэа Паладыо). Па перыметры павільёна праходзіў фрыз з выявай карагоду грачанак-танцорак, які пазней быў затынкаваны пасля пераносу ў павільён культавага начыння з закрытага царскімі ўладамі ў 1864 г. Альшэўскага касцёла. З усходняга боку да павільёна прымыкала вялікая аранжарэя з нахіленымі сценамі.



Парк размяшчаўся на схіле да возера вакол дзвюх сажалак і каналаў, цераз якія былі перакінуты масткі. На востраве адной з сажалак месцілася арыгінальная альтанка. Існаваўшая водная сістэма мела не толькі дэкаратыўнае, але і утылітарнае значэнне, выконваючы дрэнажную ролю. Па падземнай трубе з сажалак да бровара паступала вада. Пазней для гэтых мэт быў прабіты артэзіянскі калодзеж.

Зараз значна парушана кампазіцыя паркавай зоны, страчаны відавыя пляцоўкі.

| 113Г000152 | Троіцкая царква | 1827 год | в. Старыя Пескі | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000153 | Царква Іаана Багаслова | XIX стагоддзе | в. Стрыгінь | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000154 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сялец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000155 | Касцёл Святога Аляксея | 1912 год | в. Сялец | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000156 | Успенская царква | 1863–1870 гады | в. Сялец | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000157 | Свята-Мікалаеўская царква | 1725 год | в. Чарнякава | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000158 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Шылін | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Ганцавіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000159 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Ганцавічы,<br>Кастрычніцкая плошча | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000160 | Былая сядзіба | другая палова XIX стагоддзя, 1911 год | в. Агарэвічы | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000161 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Агарэвічы,<br>па дарозе ў в. Шашкі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000162 | Юр'еўская царква | 1896 год | в. Будча | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000163 | Георгіеўская царква | канец XIX стагоддзя | в. Вялікія Круговічы | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000029 | Пахавальная капліца роду Абуховічаў | XVIII стагоддзе | в. Вялікія Круговічы | 3 | 29.08.2007<br>№ 134 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 113В000164 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Дзяніскавічы,<br>4 км ад вёскі, справа<br>ад дарогі на в. Нач | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000165 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Дзяніскавічы,<br>5 км ад вёскі, справа<br>ад дарогі на в. Вялікія<br>Круговічы, ва ўрочышчы<br>Смалярня | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000166 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Малыя Круговічы,<br>1 км на захад,<br>урочышча Боркі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000167 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Малыя Круговічы,<br>0,5 км на захад,<br>урочышча Боркі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000168 | Курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Малыя Круговічы,<br>урочышча Машукоўшчына,<br>за калгасным садам | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000169 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XII–XIII стагоддзі | в. Малькавічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000170 | Юр'еўская царква | 1867 год | в. Чудзін | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000171 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Ясянец, 0,5 км на поўдзень, з левага боку дарогі на в. Вялікія Круговічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000172 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Ясянец, 31-ы лясны квартал | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000173 | Курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Ясянец, 2 км на поўдзень, 27–31-ы лясныя кварталы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000030 | Пахавальная капліца роду Вендорфаў | XVII–XIX стагоддзі | в. Ясянец | 3 | 29.08.2007 № 134 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000031 | Пахавальная капліца роду Яленскіх | XVII–XIX стагоддзі | в. Ясянец | 3 | 29.08.2007 № 134 | 03.09.2008 № 1288 |

## Драгічынскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000174 | Стрэчанская царква | другая палова XIX стагоддзя | г. Драгічын, вул. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000175 | Магіла лейтэнанта І.П. Губанкова | 1944 год | г. Драгічын, на заходняй ускраіне горада | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000176 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | г. Драгічын, у паўднёвай частцы горада | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000177 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1941–1944 гады | г. Драгічын, на старых могілках | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000178 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Драгічын, вул. Леніна, сквер | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000179 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | III–II стагоддзі да н.э. | чыгуначная станцыя Драгічын, на паўночна-заходняй ускраіне станцыі Драгічын, на пясчаным узгорку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000180 | Гандлёвыя рады | сярэдзіна XIX стагоддзя | г.п. Антопаль, у цэнтры плошчы, прылеглай да вул. Савецкай | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000181 | Васкрасенская царква | 1854 год | г.п. Антопаль, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000182 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | г.п. Антопаль, урочышча Хвойнікі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000183 | Брацкая магіла | 1939 год | г.п. Антопаль, вул. Чырвоных Танкістаў | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000184 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Антопаль, вул. Чырвоных Танкістаў | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000185 | Троіцкі касцёл | да 1820 года, 1915 год | в. Бездзеж | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000186 | Троіцкая царква з брамай-званіцай | 1784 год | в. Бездзеж | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік драўлянай архітэктуры з элементамі барока.

Драўляны двухзрубны прамавугольны ў плане будынак. На галоўным фасадзе трохвугольны франтон паміж дзвюма чацверыковымі вежамі з фігурнымі барочнымі завяршэннямі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, аконныя праёмы прамавугольныя. Пластыка будынка ўзбагачаецца дэкаратыўнай шалёўкай франтона, разнымі ліштвамі, калонкамі і балясінамі ганка. Перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю. Над тамбурам размешчаны хоры. Па восі ўвахода размешчана двух'ярусная брама-званіца.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000187 | Увазнясенская царква | пачатак XIX стагоддзя | в. Брашэвічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000188 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Брашэвічы, 3 км на ўсход, урочышча Брашаў Луг | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000189 | Царква Раства Багародзіцы са званіцай | 1737 год | в. Вавулічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная царква складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай апсіды, аб'яднаных агульным дахам з вальмамі над апсідай. Над цэнтральнай часткай царквы – барабан на васьмігранным пастаменце, завершаны цыбулепадобным купалам. Да апсіды прыбудавана нізкая рызніца з аднасхільным дахам. Галоўны фасад завершаны франтонам з гонтавым прычолкам. Уваходны тамбур каркаснай канструкцыі далучаны да галоўнага фасада пазней. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Над уваходам хоры на двух слупах. З паўднёва-ўсходняга боку асобна ад царквы пабудавана двух'ярусная зрубна-каркасная званіца, накрытая шатровым гонтавым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000190 | Юр'еўская царква са званіцай | 1766 год | в. Валавель | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік драўлянай архітэктуры з элементамі барока.

Драўляная царква складаецца з прамавугольнага асноўнага і пяціграннага алтарнага зрубаў. Галоўны фасад мае крываліне йны франтон, па баках якога ўзвышаюцца дзве чатырохгранныя вежы, завершаныя шасціграннымі барабанамі з галоўкамі і шатрамі над імі. Дах над алтарным зрубам завершаны шасціграннай фігурнай галоўкай. Нізкія рызніцы прыбудаваны абапал апсіды. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Аконныя праёмы прамавугольныя, на галоўным фасадзе паўкруглыя люкарны. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Над уваходам хоры. Перад царквой каркасная двух'ярусная званіца, накрытая шатровым гонтавым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000191 | Адзінкавая магіла | 1944 год | в. Валавель | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000192 | Крыжаўзвіжанская царква | 1810 год, 1943 год | в. Галоўчыцы, вул. Савецкая, 115 | 3 | 05.10.2004 № 101 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000193 | Пакроўская царква з брамай-званіцай | 1740 год | в. Дзеткавічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная царква складаецца з двух прамавугольных у плане рознавялікіх зрубаў, накрытых агульным гонтавым дахам. Над галоўным фасадам – васьміградная вежачка з цыбулепадобнай галоўкай. Апсіда мае ступеньчатую кампазіцыю за кошт далучэння да яе тарца больш нізкага службовага памяшкання. Бакавыя фасады гарызантальна ашаляваны, расчлянёны лапаткамі і прамавугольнымі вокнамі, завершаны буйным карнізам. Унутраная прастора царквы перакрыта плоскай столлю, над уваходам выступаюць хоры. Перад царквой стаіць брама-званіца.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000194 | Рэшткі былога замка Вішнявецкіх | XVII–XVIII стагоддзі | в. Жабер, 3 км на ўсход, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000195 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Жабер, на правым беразе р. Ясельда, на паўночны захад ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 112Г000196 | Фрагменты сядзібна-паркавага комплексу:<br>капліца-пахавальня<br>вінакурня<br>фрагменты парку | XIX стагоддзе | в. Закозель | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Закозельская сядзіба – радавое гняздо вядомага на Беларусі роду Ажэшкаў (Арэшкаў). У пачатку XIX ст., верагодна, Нікадзім Ажэшка ўзвёў у Закозелі арыгінальны палац, вядомы па акварэлі Напалеона Орды 1863 г. Сядзібу наведвала вядомая пісьменніца, актыўная ўдзельніца нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі Эліза Ажэшка (Паўлоўская, 1841–1910 гг. ), якая пражывала на той час у суседнім маёнтку Людвінова.

У канцы XIX – пачатку XX ст. у аблічча будынкаў былі ўнесены істотныя змяненні.

Пабудовы ансамбля – сядзібны дом, бровар, капліца-пахавальня – размешчаны ў парку пейзажнага тыпу з сістэмай вадаёмаў. Ацалела галоўная ўязная алея і авальны партэр перад домам.

Сядзібны дом (не захаваўся) быў вырашаны ў стылі класіцызму. Уяўляў сабой аднапавярховы будынак на нізкім падмурку.

Будынак бровара двухпавярховы, прамавугольны ў плане, мае па фронту галоўнага фасада каланаду тасканскага ордэра. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены карнізамі і сандрыкамі. Шэраг пазнейшых прыбудоў парушыў пачатковы выгляд будынка.

Капліца-пахавальня пабудавана ў стылі псеўдаготыкі. Цэнтрычны квадратны ў плане будынак завершаны шпілем і пінаклямі па вуглах. Сцены ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі, аздоблены скульптурай, арнаментаванай лепкай і шчытамі з геральдыкай. Праёмы стрэльчатыя. Сядзіба – помнік архітэктуры з рысамі класіцызму і псеўдаготыкі.




Многія архітэктурныя каштоўнасці палацава-паркавага ансамбля страчаны, а тыя некалькі аб'ектаў, што дайшлі да нас, моцна перабудаваны і пашкоджаны.

Сядзібу ахінаў пейзажна-рэгулярны парк, які раней займаў плошчу каля 30 га. Аснову яго планіроўкі складала прамая ліпавая алея, якая перарывалася па цэнтры сядзібным домам. Найбольш прывабная тая частка парку, дзе знаходзіцца капліца. Тут раслі дрэвы разнастайных парод, размяшчаліся сажалкі і каналы складаных абрысаў.

У 1920–1930-я гг. была праведзена частковая рэканструкцыя парку, высаджаны новыя дрэвы, разбіты кветкавыя клумбы.

| 113Д000197 | Брацкая магіла партызан | 1941–1944 гады | в. Заніўе | 3 | 23.03.2004<br>№ 95 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000198 | Тэрыторыя былой Троіцкай царквы з уцалелай брамай-званіцай | 1842 год | в. Зёлава | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная пяцізрубная царква з рысамі класіцызму знішчана пажарам у 2002 г. Вырашаецца пытанне аб аднаўленні царквы ў першапачатковым выглядзе.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000199 | Брацкія магілы на могілках:<br><br>брацкая магіла савецкіх воінаў (4 чалавекі)<br><br>брацкая магіла партызан (6 чалавек) | 1944 год | в. Імянін | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000200 | Стаянка-1 перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Какорыца, 2 км на поўнач, на паўднёвым беразе воз. Спораўскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000201 | Стаянка-2 перыяду неаліту | 4-е тысячагоддзе да н.э. | в. Какорыца, на поўдзень ад вытоку р. Ясельда за воз. Спораўскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000202 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1941–1944 гады | в. Корсунь | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000203 | Успенская царква | пачатак XIX стагоддзя | в. Ласінцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000204 | Магіла невядомага салдата | 1944 год | в. Ласінцы | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000205 | Царква Багародзіцы | другая палова XIX стагоддзя | в. Ляхавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000206 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1943 год | в. Малінаўка | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000207 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Масткі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000208 | Магіла партызана | 1942 год | в. Мневеж | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000209 | Праабражэнская царква | 1810 год | в. Новая Папіна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000210 | Брацкая магіла партызан і актывіста | 1941–1949 гады | в. Новая Папіна | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000211 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Новая Папіна, на цэнтральнай вуліцы | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000212 | Магіла паўстанцаў | 1863–1864 гады | в. Новая Папіна, у цэнтры вёскі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000213 | Міхайлаўская царква | 1780 год | в. Осаўцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000214 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>царква<br>парк | пачатак XIX стагоддзя | в. Пярковічы | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000215 | Пакроўская царква | 1862 год | в. Радастава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000216 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сварынь | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000217 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Старамлыны, на правым беразе р. Ясельда, каля моста, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000218 | Царква Раства Багародзіцы | 1797 год | в. Субаты | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000219 | Брацкая магіла партызан | 1943 год | в. Толкава | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000220 | Свята-Казанская царква | 1905 год | в. Толкава, вул. Зарэчная, 7 | 3 | 05.10.2004 № 101 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000221 | Магіла ахвяр фашызму (1300 чалавек) | 1941 год | в. Хомск, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000222 | Магіла ахвяр фашызму (1500 чалавек) | 1941 год | в. Хомск, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000223 | Магіла ахвяр фашызму (193 мірныя жыхары) | 1943 год | в. Хомск, у цэнтры вёскі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |

| 112Г000224 | Святадухаўскі касцёл | 1750 год | в. Язвіны | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны з цэглы за 1,5 км ад вёскі. Помнік архітэктуры барока.

Асноўны квадратны ў плане аб'ём невялікім уступам пераходзіць у паўкруглую апсіду. Уся пабудова накрыта стромкім двухсхільным дахам, паўкруглым над алтарнай часткай.

Сцяна галоўнага фасада завершана франтонам маляўнічага ўвагнута-выпуклага абрысу. Вось сіметрыі пабудовы падкрэслена праёмам увахода. Пры перабудове касцёла ў праваслаўны храм у сярэдзіне вільчыка даху была зроблена цыбулепадобная галоўка на высокім васьмігранным барабане. Пластыку архітэктуры ўзбагачаюць скругленыя вуглы будынка, лапаткі і нішы з ракавінамі на галоўным фасадзе.

| 113В000225 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Ялач, на паўночнай ускраіне, каля дарогі на г. Драгічын | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

## Жабінкаўскі раён

| 113Д000226 | Магіла С.Ф. Чубук | 1942 год | г. Жабінка, вул. Міру | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000227 | Магіла А.Д. Дзмітрука | 1942 год | г. Жабінка, вул. Міру | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000228 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | г. Жабінка, вул. Міру | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000229 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Жабінка, вул. Кірава | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000230 | Пакроўская царква | 1885 год | г. Жабінка,<br>вул. Камсамольская | 3 | 21.12.2004<br>№ 104 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000231 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Агароднікі | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000232 | Магіла ахвяр фашызму | 1944 год | в. Азяты | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000233 | Мікалаеўская царква | 1867 год | в. Азяты | 3 | 21.12.2004<br>№ 104 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000234 | Магіла Ф.Я. Рацюка | 1944 год | в. Арэпічы | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000235 | Пакроўская царква | 1761 год, сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Арэпічы | 2 | 21.12.2004 № 104 | 14.05.2007 № 578 |



Праваслаўная царква на гэтым месцы існавала з XVII ст. Цяперашні будынак узведзены ў 1761 г. з драўлянага бруса і звонку вертыкальна ашаляваны. У 1846 г. царква капітальна адрамантавана. У сярэдзіне XIX ст. была прыбудавана двух'ярусная званіца. Помнік драўлянага дойлідства.

Царква складаецца з двух зрубаў: асноўнага (аб'ёму храма) і зруба званіцы. Асноўны аб'ём у плане мае форму падоўжнага прамавугольніка з прыбудаванай да яго званіцай. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя заснавана на кантрасце нізкага падоўжнага зруба і высокай званіцы. Гладкая бэлька карніза, якую падтрымліваюць кранштэйны, злучае зруб з першым ярусам званіцы. У цэнтры даху над невялікім шатром узвышаецца макаўка. Ролю дэкору выконвае шалёўка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000236 | Успенская царква | 1896 год (аднаўлена ў 1990 годзе) | в. Булькова | 3 | 21.12.2004 № 104 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000237 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Бусні | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000238 | Мікалаеўская царква | да 1727 года, 1860-я гады | в. Вялікія Сяхновічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква пабудавана з дрэва ў выглядзе прамавугольнага зруба з арыгінальнай алтарнай часткай: у ніжнім ярусе прамавугольная (унутры па баках дзве рызніцы), у верхнім – трохгранная. Бабінец завершаны высокім чацверыком званіцы, накрытым шатром з галоўкай. Над алтарнай часткай размешчана невысокая фігурная галоўка. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Лучковыя аконныя праёмы маюць вітражы з геаметрычным малюнкам пераплётаў. Інтэр'ер падзелены чатырма калонамі на тры нефы. Хоры ў выглядзе арачнай галерэі абапіраюцца на чатыры круглыя ў плане калонкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000239 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Жыцін | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000240 | Мікіцкая царква са званіцай | 1787 год | в. Здзітава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква і званіца пабудаваны з дрэва. Царква складаецца з трох частак: асноўнага зруба, бабінца і апсіды, накрытых высокім вальмавым дахам з галоўкай. Абапал апсіды дзве рызніцы, накрытыя аднасхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Каркасны тамбур прыбудаваны пазней (XIX ст.). Двух'ярусная чацверыковая званіца, накрытая шатром, стаіць асобна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000241 | Рэшткі замка | XVII стагоддзе | в. Крыўляны, на правым беразе безыменнай рэчкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000242 | Царква са званіцай | 1720 год, 1860 год | в. Маціевічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная царква складаецца з прамавугольнага асноўнага зруба і невялікага квадратнага ў плане бабінца. Над бабінцам чацвярык званіцы, аддзелены ад яго шырокім гонтавым сцёкам і завершаны шатром з галоўкай. Асноўны зруб накрыты двухсхільным дахам. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Зальны інтэр'ер падзелены чатырма слупамі. Перад царквой захавалася асобная драўляная двух'ярусная каркасная званіца.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000243 | Курганны могільнік перыяду бронзавага веку | 2-е тысячагоддзе да н.э. | в. Мышчыцы, 0,4 км на поўдзень, урочышча Кружкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000244 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Палявая Рэчыца | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000257 | Гарадзішчы перыяду ранняга жалезнага веку | VII–VI стагоддзі да н.э. | в. Філіпавічы, 1 км на ўсход, 0,5 км на паўночны захад ад санаторыя «Буг», урочышча Кут | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000245 | Магіла ахвяр фашызму | 1943 год | в. Пятровічы | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000246 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Ракітніца | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000247 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сакі | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000248 | Партызанскія могілкі | 1943 год | в. Старое Сяло | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000249 | Брацкая магіла партызан | 1943 год | в. Старое Сяло | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000250 | Брацкая магіла партызан (2 чалавекі) | 1942 год | в. Старое Сяло | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000251 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Старое Сяло, 3,5 км на поўдзень, урочышча Руслаўка, 82-і лясны квартал | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000252 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Старое Сяло, 5 км на поўдзень, урочышча Воўкаў Брод | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000253 | Курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Старое Сяло, 8 км на паўднёвы захад, урочышча Смалярня | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000254 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Сцяброва | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000255 | Міхайлаўская царква | да 1780 года | в. Сцяпанкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная царква пабудавана ў выглядзе трохнефавай базілікі. Цэнтральны неф, які пераходзіць у алтарную частку, накрыты двухсхільным дахам, бакавыя нефы – аднасхільнымі. На галоўным фасадзе бакавыя нефы завершаны дзвюма чацверыковымі вежамі з купаламі. Такі ж купал на даху цэнтральнага нефа. Васьміграння вежа-званіца завершана шатром з галоўкай і аздоблена дэкаратыўнымі элементамі. Лучковыя аконныя праёмы з каляровым шклом маюць пераплёты геаметрычнага малюнка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000256 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Сцяпанкі | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000258 | Праабражэнская царква | 1725 год, XIX стагоддзе | в. Хмелева | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква пабудавана з дрэва. Помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму.

У плане крыжовая з пяціграннай апсідай і дзвюма рызніцамі. Да галоўнага фасада прыбудаваны тамбур з шырокай лесвіцай. Аб'ём царквы цэнтрычны, кампактны. У дэкоры выкарыстаны класіцыстычныя дэталі – масіўныя руставаныя лапаткі па вуглах і на галоўным фасадзе. Над сяродкрыжжам – фігурная шмат'ярусная галоўка. Перакрыцце плоскае, бэлечнае.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000259 | Уладзімірская царква | 1894 год (адноўлена ў 1990 годзе) | в. Чыжэўшчына | 3 | 21.12.2004 № 104 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000260 | Магіла ахвяр фашызму | 1943 год | в. Чыжэўшчына | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000261 | Магіла І.Д. Філіпука | 1944 год | в. Шчэглікі | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |

## Іванаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000262 | Пакроўская царква | 1901 год | г. Іванава, пл. Кастрычніка | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000263 | Свята-Крыжаўзвіжанская царква | 1865 год | в. Бродніца | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000264 | Раённы музейны комплекс Напалеона Орды:<br>мастацкая школа<br>гасцініца<br>карцінная галерэя<br>музей Н. Орды | 1950-я гады | в. Варацэвічы | 2 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |

Нарадзіўся Напалеон Орда 19 лютага 1807 г. у радавым маёнтку Варацэвічы. Атрымаўшы добрую хатнюю адукацыю, ён паступіў у Свіслацкую гімназію, а потым у Віленскі універсітэт. Пасля задушэння паўстання 1831 г., у якім Н. Орда прыняў удзел, вымушаны быў эмігрыраваць за мяжу, дзе пражыў доўгія 25 гадоў.

У Парыжы ён зблізіўся з Адамам Міцкевічам, браў урокі жывапісу ў вядомага мастака-пейзажыста П'ера Жырара і музычныя ў Фрыдэрыка Шапэна.



Н. Орда з'яўляецца аўтарам многіх фартэпіянных твораў, у тым ліку 20 канцэртных паланэзаў, якія выконваліся вядомымі піяністамі і аркестрамі не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, Францыі і іншых краінах. Ім напісаны мазуркі, вальсы, полькі, песні, рамансы.

Усяго Орда пакінуў нам у спадчыну больш за тысячу архітэктурных замалёвак. Большая частка іх у наш час мае не толькі мастацкае, але і вялікае навукова-пазнавальнае значэнне. На малюнках Н. Орды прадстаўлены выявы помнікаў архітэктуры, якія ў большасці не захаваліся ці былі перабудаваны пазней. Каштоўнасць гэтых матэрыялаў для гісторыі надзвычай вялікая. Значная частка мастацкай спадчыны майстра не апублікавана і засталася ў архіўных, музейных калекцыях, сярод якіх трэба адзначыць калекцыю нацыянальнага музея ў Кракаве. Памёр Напалеон Орда ў 1883 г. у Варшаве, дзе ён знаходзіўся па справах выдання свайго чарговага альбома архітэктурных пейзажаў. Згодна з запаветам, ён пахаваны на радзіме, у сямейным склепе, які знаходзіўся на месцы будынка цяперашняй Іванаўскай СШ № 3. Пад час будаўніцтва школы надмагільная пліта Н. Орды была знішчана. Але настаўнік Агоўскай школы Сцяпан Вайцяховіч, разумеючы каштоўнасць гэтай рэліквіі, схаваў у сябе дома частку гэтай пліты. Цяпер яна захоўваецца ў краязнаўчым музеі ў г. Пінску.

Намаганнямі многіх энтузіястаў, кіраўніцтва раёна праведзена вялікая работа па адраджэнню гісторыка-культурнай спадчыны Н. Орды. Супрацоўнікамі раённай бібліятэкі былі зроблены запыты ў архівы і бібліятэкі Вільні, Гродна, Брэста, Мінска. Дасланыя копіі дакументаў і малюнкаў захоўваюцца ў раённай бібліятэцы ў мемарыяльным пакоі Н. Орды.

Па рашэнню Іванаўскага райвыканкама ў 1992 г. адна з новых вуліц горада названа імем Н. Орды. На развілцы дарог Лунінец – Брэст – Снітава ў 1996 г. устаноўлены знак-паказальнік «Родныя мясціны Н. Орды».

У гэтым жа годзе імя Н. Орды прысвоена Іванаўскай дзіцячай школе мастацтваў.

У 1997 г. у раёне прайшлі святочныя ўрачыстасці, прысвечаныя 190-годдзю з дня нараджэння Н. Орды. У чэрвені 1997 г. жыхары горада і раёна сталі сведкамі гістарычнай падзеі – адкрыцця адзінага ў Еўропе помніка Н. Орду.

У адпаведнасці з рашэннем раённага выканаўчага камітэта ад 25 красавіка 2000 № 221 аддзелу культуры Іванаўскага райвыканкама перададзена пяць будынкаў, у якіх размяшчалася Варацэвіцкая сярэдняя школа (нядаўна адзначыла свой 130-гадовы юбілей). На гэтай базе плануецца стварыць Цэнтр народнага мастацтва, які будзе ўключаць: мастацкую школу для таленавітых дзяцей, атэль, карцінную галерэю, прысвечаную творчасці Напалеона Орды, і музей Н. Орды. Наяўнасць такога цэнтра будзе спрыяць правядзенню ў Варацэвічах абласных, рэспубліканскіх і міжнародных пленэраў мастакоў, прысвечаных творчасці Напалеона Орды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000265 | Крыжаўзвіжанская царква | 1872 год | в. Варацэвічы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000266 | Мікалаеўская царква | 1666 год | в. Дружылавічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква пабудавана з дрэва. Спачатку будынак складаўся з прамавугольнага ў плане асноўнага зруба і апсіды з нізкімі рызніцамі. У пачатку XX ст. да асноўнага зруба прыбудавалі бакавыя памяшканні, у выніку чаго план набыў форму крыжа. На галоўным фасадзе – трох'ярусная чацверыковая званіца. Над званіцай і ў сярэдзіне даху васьміграннныя барабаны з галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі, у прыбудовах крыжападобнымі аконнымі праёмамі. Асноўны аб'ём і апсіда маюць бэлечнае перакрыцце, прыбудовы – цыліндрычныя скляпенні. Над уваходам хоры на двух слупах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000267 | Увазнясенская царква | 1818 год | в. Ляхавічы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000268 | Прачысценская царква | 1647 год | в. Ляскавічы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000269 | Петрапаўлаўская царква са званіцай | 1792 год | в. Махро | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная царква складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай алтарнай апсіды. У кампазіцыі дамінуе галоўны фасад. Фасад падзелены цягамі карніза на два ярусы і завершаны трыма вежачкамі (бакавыя – квадратныя ў плане, цэнтральная – васьмігранная). Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. У асноўны зруб убудаваны памяшканні рызніцы і дзякоўскай. Перакрыцце бэлечнае з плоскай столлю. Драўляная двух'ярусная чацверыковая званіца каркаснай канструкцыі стаіць асобна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000270 | Капліца | 1905–1908 гады | в. Моладава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана па праекце віленскага архітэктара Т. Раствароўскага пры галоўным уездзе ў сядзібна-паркавы ансамбль Скірмунтаў (не захаваўся).

Мураваны будынак – ратонда дыяметрам 8 м з трыма порцікамі дарычнага ордэра і прамавугольнай у плане алтарнай апсідай. Уваходны порцік чатырохкалонны, два бакавыя, што абрамляюць паўцыркульныя аконныя праёмы, – двухкалонныя. Накрыта сферычным купалам, апсіда – двухсхільным дахам. Тымпаны франтонаў аздоблены ляпным раслінным арнаментам. Фрыз ратонды і партал увахода дэкарыраваны гірляндамі. Развіты карніз на мадульёнах аздоблены паяском сухарыкаў. Інтэр'ер асвятляецца трыма вокнамі з паўцыркульнымі імпостамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000271 | Царква | канец XVIII – XIX стагоддзе | в. Моладава | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000272 | Стаянка-1 перыяду неаліту і бронзавага веку | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Моталь, 2,5 км на поўнач, на правым беразе р. Ясельда | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000273 | Стаянка-2 перыяду мезаліту, неаліту | 8–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Моталь, 3 км на поўнач, паміж воз. Джызінне і р. Ясельда | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000274 | Стаянка-3 перыяду неаліту | 5–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Моталь, 4 км на паўночны захад, востраў на вадасховішчы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000275 | Стаянка-4 перыяду неаліту і ранняга жалезнага веку | 4–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Моталь, 3,5 км на паўночны захад (востраў на вадасховішчы) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000276 | Стаянка-5 перыяду неаліту і бронзавага веку | 5–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Моталь, 2 км на поўнач, пойма р. Ясельда | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000277 | Праабражэнская царква | 1888 год | в. Моталь | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000278 | Царква Параскевы Пятніцы | другая палова XVIII стагоддзя | в. Опаль | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва. Помнік народнага дойлідства з элементамі барока.

Царква – трохнефавая базіліка (у плане – прамавугольнік са зрэзанымі з усходняга боку вугламі). Галоўны фасад падзелены на два ярусы на ўзроўні карнізаў бакавых нефаў і завершаны трохвугольным франтонам. Раней галоўны фасад меў васьмікалонны порцік, закрыты пазней шалёўкай. Усе сцены царквы вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны сцяжнымі брусамі. Галоўны неф накрыты двухсхільным дахам і завершаны над апсідай цыбулепадобнай гранёнай галоўкай са шпілем. Бакавыя нефы маюць аднасхільныя дахі. Сцены бакавых нефаў прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, цэнтральнага – паўцыркульнымі, размешчанымі пад дахам.

Інтэр'ер падзелены чатырма слупамі на тры нефы. Перакрыцце бэлечнае, столь падшыўная плоская. Два слупы каля ўвахода падтрымліваюць хоры. На ўзроўні столі бакавых нефаў уздоўж сцен галоўнага нефа і алтара зроблена звязаная з хорамі галерэя.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000279 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Рагадашч, 1,5 км на паўднёвы захад, на левым беразе р. Піна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000280 | Успенская царква | XIX стагоддзе | в. Рудск | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000281 | Царква Аляксандра Неўскага | 1800 год | в. Стрэльна | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000282 | Стаянка-6 перыяду неаліту | 5–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Тышкавічы, 2,5 км на паўночны захад, на першай надпойменнай тэрасе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Івацэвіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000283 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Івацэвічы, вул. Савецкая, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000284 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Івацэвічы, вул. 60 год Кастрычніка, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000285 | Міхайлаўская царква | 1860 год | в. Аброва | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000286 | Свята-Юр'еўская царква | 1692 год | в. Альба | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



У ведамасці царквы за 1931 г. значыцца дата пабудовы 1692 г. Паводле іншых пісьмовых крыніц, царква ў в. Альба была пабудавана ў 1790 г. на сродкі прыхаджан. У 1908 г. да царквы была прыбудавана званіца. Капітальны рамонт быў праведзены ў 1923 г. Да 1993 г. царква не дзейнічала.

Царква пабудавана з дрэва. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і пяцігранны алтарны зруб накрыты агульным двухсхільным гонтавым дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Дах над алтаром завяршаецца галоўкай на шасцігранным барабане. З заходняга боку да асноўнага аб'ёму прылягае зрубная чацверыковая вежа-званіца, убудаваная ў яго на палавіну сваёй шырыні. Званіца завершана шатровым дахам з галоўкай. Аконныя праёмы арачныя. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Асноўны зальны аб'ём мае скляпеністае перакрыцце. Хоры раскрыты ў прастору галоўнага памяшкання складаным па канфігурацыі праёмам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000287 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Альшаніца, на ўсходняй ускраіне, справа ад дарогі на в. Бялавічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000288 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Альшаніца, 0,7 км на ўсход, каля дарогі на в. Бялавічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000289 | Стаянка перыяду мезаліту | 10–6-е тысячагоддзі да н.э. | в. Бабровічы, на паўночна-ўсходнім беразе воз. Бабровіцкае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000290 | Свята-Іаана-Прадцечанская царква | 1849 год, 1868 год | в. Була | 3 | 09.10.2002 № 76, 21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 112Г000291 | Успенская царква | 1779 год | в. Бусяж | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Будаўніцтва храма адносіцца да 1773–1779 гг. Узведзены з цэглы як касцёл манахаў-картэзіянцаў, у 1940-я гг. пераабсталяваны пад праваслаўную царкву. У 1912 г. выкананы капітальны рамонт. У час Вялікай Айчыннай вайны снарадамі пашкоджаны сцены, адбіты тынк. Помнік архітэктуры барока.



Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, з атыкамі ў тарцах і прыбудаванай апсіды. Галоўны фасад падзелены развітым антаблементам на два ярусы. Над парталам галоўнага ўвахода – лучковае акно, абапал якога дзве глыбокія нішы са сферычнымі конхамі. Верхні ярус завершаны гранёнай вежачкай. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны слаістымі пілястрамі і прарэзаны аконнымі праёмамі з лучковым завяршэннем. Інтэр'ер зальны. Над уваходам невялікія хоры, абрамленыя аркай.

| 112Г000292 | Свята-Успенская царква | другая палова XVII стагоддзя | в. Быцень | 2 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана ў ансамблі базыльянскага кляштара (не захаваўся), заснаванага ў пачатку XVII ст. слонімскім маршалкам Рыгорам Трызнам з жонкаю Рэгінаю з Сапегаў. У надзейна ўмацаваным быценскім кляштары пад час паўстання Б. Хмяльніцкага хаваліся уніяты з Украіны і іншых месцаў. З 1656 г. у быценскім кляштары знаходзіўся кіраўнік базыльянскага ордэна Бенядзікт Цярлецкі. Тут захоўваліся таксама нятленныя мошчы старца Сімяона Стаўроўскага, настаяцеля кляштара з 1640 г. Помнік архітэктуры з рысамі рэнесансу і ранняга барока.

Царква – кампактны прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам з васьмігранным барабанам на васьмерыку. Галоўны фасад падзелены лапаткамі на тры роўныя часткі. У цэнтры над уваходам размешчана акно з паўцыркульным завяршэннем, па баках – дзве плоскія прамавугольныя нішы. Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны лапаткамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер падзелены масіўнымі слупамі на тры нефы. Цэнтральны неф значна шырэйшы за бакавыя, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі.

| 112Г000293 | Ільінская царква са званіцай | другая палова XVIII стагоддзя, 1885 год | в. Бялавічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Помнік народнага дойлідства з рысамі барока і класіцызму.

Размешчана на ўскраіне вёскі, у старым парку, за мураванай агароджай. Паводле гістарычных звестак, царква была пабудавана з дрэва на месцы уніяцкай царквы 1630 г. Асобна непадалёк ад яе ўзведзена з мясцовага бутавага каменю трох'ярусная шатровая брама-званіца. Царква простая і арыгінальная. Вырашана адзіным падоўжным зрубам, які пераходзіць у двухгранную апсіду. Над франтонам галоўнага фасада ўзвышаецца чацверыковая купальная вежа з макаўкай. Агульны стан здавальняючы. Фундамент і цокаль з бутавага каменю на вапнавай рошчыне. Сцены складзены з бярвёнаў, звонку абшыты вертыкальна дошкамі. Унутры сцены атынкаваныя. У 1902 г. быў праведзены капітальны рамонт.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000294 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Бялавічы, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000295 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Бялавічы, 2 км на захад, урочышча Хвойня | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000296 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Бялавічы, 0,3 км на паўночны захад ад Ільінскай царквы, за ручаём Фядоска | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000297 | Брацкія могілкі | 1941–1944 гады | в. Верашкі, 13 км на поўдзень, урочышча Гута-Міхалін | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000298 | Свята-Іаана-Кранштацкая царква | XIX стагоддзе | в. Вулька-Аброўская | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000299 | Свята-Раства-Багародзіцкая царква | 1925 год | в. Глінная | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляны аднazрубны прамавугольны ў плане храм накрыты вальмавым гонтавым дахам. У цэнтры даху ўзвышаецца цыбулепадобны купал на глухім барабане. На галоўным фасадзе невялікі прытвор, вылучаны трохвугольным франтонам. Інтэр'ер зальны з корабавым скляпеннем на падугах.

Перад царквой двух'ярусная чацверыковая шатровая званіца каркасна-зрубнай канструкцыі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000300 | Свята-Крыжаўзвіжанская царква | 1838 год | в. Гошчава | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000301 | Свята-Мікалаеўская царква | 1825 год | в. Дабромысль | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000302 | Стаянка перыяду мезаліту, ранняга неаліту | 9–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Дабрынёва, 0,3 км на паўднёвы захад, на правым беразе р. Грыўда | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000303 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Жытлін, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82, 21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000304 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Корачын, каля вёскі, урочышча Боркі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 111Г000305 | Косаўскі палацава-паркавы ансамбль:<br>рэшткі былога палаца Пуслоўскіх<br>музей-сядзіба Т. Касцюшкі<br>фрагменты парку | <br>XIX стагоддзе<br>XVIII стагоддзе | г. Косава,<br>урочышча Мерачоўшчына | 1 | 13.09.1995<br>№ 27 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Палац пабудаваны графам Вандалінам Пуслоўскім у Мерачоўшчыне ў 1838 г. Удала ўпісаны ў маляўнічы паркавы краявід. Узводзячы сваю рэзідэнцыю на маляўнічым рэльефе мясцовасці, Вандалін больш звязваў будаўніцтва палаца з суседняй гістарычнай сядзібай, дзе ў 1746 г. нарадзіўся вядомы дзяржаўны і палітычны дзеяч, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. генерал Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.

Варшаўскі архітэктар Францішак Яшчалд замяніў распаўсюджаны на той час палацава-паркавы класіцызм гатычнай старажытнасцю. Шэраг даследчыкаў падкрэсліваюць аналогію Косаўскага палаца з замкам Гогенцолернаў у Камянцы-Зембавецкім (Польская Сілезія). У стылі сярэдневяковай готыкі інтэр'еры палаца выканалі архітэктар Уладзіслаў Марконі і дэкаратар Аляксандр Жмурка.



Палац складаецца з цэнтральнага двухпавярховага корпуса і двух бакавых крылаў, злучаных з ім вузкімі галерэямі, прарэзанымі высокімі спічастымі аркамі. Вуглы цэнтральнага корпуса фланкіраваны гранёнымі вежамі рознай вышыні, вуглы бакавых крылаў умацаваны вежападобнымі эскарпамі. Фасады рытмічна чляняцца спічастымі аркамі, аконнымі праёмамі, перспектыўнымі нішамі, гранёнымі вежамі. Унутраная планіроўка сіметрычная, характэрная для палацавай архітэктуры класіцызму. Палац – прыклад спалучэння класіцыстычных прыёмаў у планіроўцы і кампазіцыі з элементамі неаготыкі ў архітэктурнай аздобе.

Вакол рэзідэнцыі па плане архітэктара Ф. Яшчалда быў закладзены цудоўны парк на ўзор рэнесансных садоў Італіі. Вандалін Пуслоўскі ўключыў у новую кампазіцыю добра захаваны стары парк, які некалі абкружаў дом-сядзібу Тадэвуша Касцюшкі.



Палац Пуслоўскіх і старадаўняя сядзіба Касцюшкаў разам з паркам стварылі унікальны палацава-паркавы ансамбль, але на яго долю выпалі вельмі складаны лёс і цяжкія выпрабаванні. Пасля задушэння паўстання 1863 г. палац быў канфіскаваны і перайшоў да маскоўскай арыстакратыі, спачатку да купца Аляксандрава, потым князёў Трубяцкіх і, нарэшце, Альдэнбургскіх (да 1914 г. ).

У час Першай сусветнай вайны палац быў моцна разбураны, але пасля праведзенай рэстаўрацыі ён выкарыстоўваўся ў якасці адміністрацыі старостваКосаўскага павета. Да 1939 г. у шэрагу залаў захаваліся печы, каміны.

З верасня 1939 г. да 1941 г. у палацы размяшчаліся часці Чырвонай арміі. У перыяд акупацыі гітлераўцы выкарыстоўвалі тэрыторыю палацава-паркавага ансамбля пад гета. У канцы Другой сусветнай вайны палац і дом-сядзіба

пацярпелі ад пажару, які знішчыў дэкаратыўную аздобу. Пашкоджаны падмуркі, частка сцен абвалілася, адсутнічае дах. Часткова ацалелі вітражы. Парк вынішчаны ў савецкі час.

У 1947 г. Косаўскі райвыканкам распачаў работы па частковаму прыстасаванню замка пад дзіцячы дом. Аднак работы аказаліся не пад сілу выканкаму і былі спынены.

У сучасны момант архітэктарамі дзяржаўнага прадпрыемства «Брэстрэстаўрацыяпраект» распрацаваны генеральны план аднаўлення палаца і сядзібы Тадэвуша Касцюшкі, а таксама рэканструкцыі парку як адзінага палацава-паркавага ансамбля.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000306 | Капліца на каталіцкіх могілках | 1859 год | г. Косава | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000307 | Свята-Антоніеўская царква | 1868 год | г. Косава, вул. Вясёлая, 2 | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000308 | Царква на могілках | XIX стагоддзе | г. Косава,<br>вул. Т. Касцюшкі, 3 | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000309 | Троіцкі касцёл | 1878 год | г. Косава, вул. Леніна, 39 | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000310 | Брацкая магіла | 1942–1944 гады | г. Косава,<br>вул. 3 Лютага, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000311 | Царква Святой Ганны | 1857 год | в. Любішчыцы | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000312 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Любішчыцы, на могілках | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000313 | Свята-Праабражэнская царква | другая палова<br>XIX стагоддзя | в. Міронім | 3 | 09.10.2002<br>№ 76 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000314 | Будынак былой паштовай станцыі | 1840-я гады | в. Няхачава | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |




Пабудаваны па ўзорным праекце 1843 г. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.

Е-падобная ў плане кампазіцыя комплексу складаецца з трох аднапавярховых карпусоў, аб'яднаных сценкамі з арачнымі праездамі. Цэнтральны, квадратны ў плане, і падоўжныя бакавыя карпусы накрыты вальмавымі дахамі. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры плоскім рызалітам, які завершаны ступеньчатым атыкам. Сцены будынкаў апрацаваны плоскім рустам. Аконныя праёмы (лучковыя ў цэнтральным корпусе і прамавугольныя ў бакавых) аздоблены паўцыркульнымі і лучковымі аркамі з клінчатым рустам. У цэнтральным корпусе знаходзіліся жылыя і службовыя памяшканні, бакавыя карпусы выкарыстоўваліся для гаспадарчых патрэб і стайняў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000315 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Святая Воля, 1 км ад вёскі, з правага боку ад дарогі на в. Доўгае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000316 | Царкоўны комплекс з могілкамі ў межах агароджы | другая палова XVIII стагоддзя, 1991–1994 гады | в. Святая Воля | 3 | 16.10.2002 № 67 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000317 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Сенькавічы, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000318 | Брацкая магіла | 1942–1944 гады | г.п. Целяханы, вул. Леніна, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82, 21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000319 | Свята-Троіцкая царква | 1934 год | г.п. Целяханы, вул. Піянерская, 1 | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000320 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Яглевічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Камянецкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 110Г000321 | Камянецкая вежа | XIII стагоддзе | г. Камянец, на левым беразе р. Лясная | 0 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



Камянецкая вежа з'яўляецца унікальным помнікам абарончага дойлідства канца XIII ст. Гэта адзіная цэлая пабудова з групы так званых валынскіх вежаў, што некалі існавалі ў шэрагу беларускіх гарадоў. Яна размешчана на высокім узгорку на левым беразе р. Лясная. Паводле Іпацьеўскага летапісу, пабудавана паміж 1271 і 1289 гг. дойлідам Алексам. Вежа-данжон знаходзілася ўнутры кальцавога вала і дамінавала над драўлянымі ўмацаваннямі. З боку р. Лясная да ўмацавання падступала балоцістая нізіна, з трох бакоў яго акружаў роў. Рэшткі землянога вала і драўлянага замка канчаткова зніклі ў 1903 г. у час правядзення рэстаўрацыйных і земляных работ. Па праекце архітэктара В. Суслава вакол вежы быў зняты трохметровы пласт зямлі, у выніку чаго першы ярус, які раней памылкова лічыўся склепам, зноў апынуўся на паверхні. Аднак пры земляных работах бясследна зніклі старажытныя вал і роў. Тады разабралі і скляпенні над першым і другім ярусамі, а замест іх паклалі драўляныя бэлькі. Вакол вежы быў насыпаны і абкладзены камянямі кальцавы вал. У такім выглядзе вежа дайшла да нашых часоў. У пачатку 1950-х гг. вежу ўпершыню пабялілі, а падлогу забрукавалі.

Вышыня пяціярусная вежы 30 м, таўшчыня сцен 2,5 м, вонкавы дыяметр 13,6 м. Стаіць на магутным падмурку з каменю. Змуравана з брусковай цэглы цёмна-чырвонага і жаўтаватага колеру ў тэхніцы «балтыйскай» муроўкі – два лажкі паслядоўна чаргуюцца з адным «тычком». Сцены вежы прарэзаны байніцамі, паміж якімі на вонкавай паверхні сцяны размешчаны чатыры плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем. Над пятым ярусам захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення з патоўшчанымі рэбрамі, якія заканчваюцца ўнізе невялікімі кранштэйнамі з вузкім паяском.

З пятага яруса пачынаецца цагляная лесвіца-ход, што вядзе наверх да баявой пляцоўкі. Пляцоўка акружана 14 зубцамі, якія маюць скразную адтуліну, роўную па форме лажку цагліны. У двух зубцах зроблены вузкія акнападобныя праёмы. Завяршэнне вежы акружана зубчастай стужкай парэбрыка.

Камянецкай вежы, як і большасці ваенных пабудоў той пары, уласцівы выцягнутыя ўверх прапорцыі, лаканічнасць і прастата. Лёгкія штрышкі раннегатычных архітэктурных форм – спічастыя праёмы і вокны з трохлопасцевым завяршэннем, архівольт аркі дзвярнога праёму чацвёртага яруса, нервюрныя скляпенні на «гірках» – тонка прарысоўваюцца на магутным целе збудавання разам з паўцыркульнымі аркамі плоскіх ніш і байніц раманскага стылю.

На долю Камянца і яго абарончай вежы выпала нямала выпрабаванняў. Неаднаразова пачынаючы з 1373 г. горад падвяргаўся нападам рыцараў-крыжакоў. У 1382 г. Камянец захапіў польскі князь Януш Мазавецкі. У час доўгай барацьбы паміж Ягайлам і Вітаўтам у 1390 г. Ягайла ўзяў горад штурмам. Камянец быў важным стратэгічным пунктам, які да таго ж стаяў на скрыжаванні гандлёвых дарог, таму яго ўмацаванні хутка адбудоўвалі і трымалі ў парадку.

З 1960 г. у Камянецкай вежы знаходзіцца філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000322 | Будынак былой польскай школы | 1920-я гады | г. Камянец, вул. Леніна, 1 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000323 | Свята-Сімяонаўская царква | 1912–1914 гады | г. Камянец, вул. Гогаля | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000324 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Камянец, у скверы па вул. Піўненкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000032 | Магіла савецкіх воінаў, актывістаў і мірных жыхароў (аўтары помніка – П.І. Лука, А.С. Туркоў) | 1941–1943 гады, 1982 год | г. Камянец, урочышча Прускаўскі Лес | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 112Г000325 | Васкрасенская царква | 1841 год | в. Агароднікі | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва на поўнач ад вёскі, на могілках. Помнік народнага дойлідства.

Трохзрубны храм утвараюць двух'ярусная чатырохгранная прытвор-званіца, купалападобная малітоўная зала, прамавугольная апсіда з нізкай бакавой рызніцай. Шатровыя дахі званіцы і малітоўнай залы завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на васьміgranных барабанах, вальмае пакрыццё апсіды – крыжом на сферы. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000326 | Селішча «Кусічы» перыяду жалезнага веку | IV–II стагоддзі да н.э. | в. Агароднікі, на ўскрайку вёскі, на левым беразе р. Пульва | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000327 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Агароднікі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000328 | Крыжаўзвіжанская царква | канец XIX стагоддзя | в. Амельянец | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000329 | Свята-Ануфрыеўская царква | 1840 год | в. Баршчэва | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000330 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Войская, 1,8 км на паўднёвы захад, 0,4 км ад хутара Прыходы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000331 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Ваўковічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000332 | Царква Раства Багародзіцы | 1751–1775 гады | в. Войская | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва. Помнік народнага дойлідства з элементамі барока.

Прамавугольны зруб са зрэзанымі ў алтарнай частцы вуглами, да якога прылягае бабінец. Галоўны фасад завершаны франтонам. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Вуглы аздоблены разнымі накладкамі. Дах у сярэдзіне прарэзаны гранёнай вежачкай з галоўкай. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. У алтарнай частцы зруба ўбудаваны дзве рызніцы з балконамі. У аб'ёме бабінца – хоры. Захаваліся багата аздобленыя царскія вароты. Перад царквой стаіць двух'ярусная чацверыковая званіца-брама. Першы ярус мураваны, другі – драўляны, завершаны шатровым дахам з галоўкай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000333 | Мікалаеўская царква | XIX стагоддзе | в. Воўчын | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 111Г000334 | Троіцкі касцёл | 1733 год | в. Воўчын | 1 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



18 ліпеня 1729 г. брэсцкі архідыякан і намеснік суддзі Янаўскай генеральнай кансісторыі Уладзіслаў Суткоўскі заклаў першы камень новага касцёла. Будаўніцтва, якое вялося на сродкі Станіслава Панятоўскага, завершана ў 1733 г. Праўда, паводле некаторых звестак, канчаткова касцёл быў пабудаваны і абсталяваны ў 1743 г. дзякуючы намаганням чарговага ўладальніка Воўчына Міхаіла Чартарыйскага, якому маёнтак дастаўся ў 1738 г. Работы па аздабленню інтэр'ераў працягваліся і ў наступныя гады. Сярод архіўных матэрыялаў выяўлена таксама інфармацыя, што ў 1755 г. у Воўчыне працаваў архітэктар Крэйц, які быў адным з лепшых вучняў Пёпельмана, Яўха, Дэйбля.

У канцы XVIII ст. Адамам Чартарыйскім праведзены рамонт воўчынскага палаца і адначасова касцёла.

Пасля паўстання 1863–1864 гг. касцёл у Воўчыне быў закрыты і перададзены праваслаўным. Работы па перабудове касцёла ў царкву распачаліся ў 1873 г. Асвячэнне



царквы ў імя Прасвятой Тройцы адбылося 30 жніўня 1876 г. Свята-Троіцкая царква была прыпісана да воўчынскай царквы Св. Мікалая Цудатворца. За перыяд існавання царквы буйных рамонтаў і пераробак будынка не праводзілася.

У 1918 г. воўчынскі храм быў вернуты каталікам. У 1925 г. у касцёле адрамантавана тынкоўка, зроблена печка, умацавана канструкцыя вежы, устаўлены новыя дзверы, аконныя рамы, адрамантаваны дах.

У 1930-я гг. сярод польскага насельніцтва рэгіёну пачалася кампанія па адраджэнні Свята-Троіцкага касцёла. У касцёле захоўвалася метрыка Станіслава Аўгуста Панятоўскага – апошняга караля Рэчы Паспалітай. А ў ліпені 1938 г. у Воўчын з Санкт-Пецярбурга была перавезена труна з астанкамі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Перапахаванне праводзілася тайна ад грамадскасці, без выканання неабходнага ў такім выпадку рытуалу.

Другая сусветная вайна прыпыніла пачаты рамонт касцёла.

Пасля вайны Троіцкі касцёл быў закрыты мясцовымі ўладамі і перададзены калгасу пад сховішча. Воўчынскі ксёндз пакінуў мястэчка, забраўшы касцельны архіў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000335 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Воўчын | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000033 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год, 2007 год | в. Воўчын | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000336 | Троіцкі касцёл | 1603 год, 1735–1781 гады, 1872 год | г. Высокае | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000337 | Фрагменты палацава-паркавага ансамбля:<br>палац<br>два флігелі<br>службовы корпус<br>элементы абарончых збудаванняў (водная сістэма, земляныя валы, рэшткі ўязной брамы)<br>парк<br>былая аранжарэя | 1678–1680 гады, 1816 год | г. Высокае | 2 | 27.03.2002 № 64, 21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578 |

У 1678 г. Сапегамі быў закладзены замак, які неаднаразова гарэў і разбураўся. На сённяшні дзень засталася толькі ўязная замкавая брама, якая ляжыць у руінах. Пасля пажару ў 1748 г. Сапегі перанеслі сваю рэзідэнцыю ў Слонімскі замак.

Мураваны палац у Высока-Літоўску быў закладзены Пелагеяй Патоцкай у 1815 г., калі яе муж Павел Сапега быў на вайне з французамі. За пяць гадоў яна адбудавала арыгінальную рэзідэнцыю ў модным на той час стылі класіцызму. Палацавы комплекс складаўся з трох карпусоў: цэнтральнага рэпрэзентатыўнага палаца і дзвюх бакавых аднапавярховых афіцын. Асноўны будынак мае сіметрычную кампазіцыю з двухпавярховай цэнтральнай часткай і аднапавярховымі крыламі. Цэнтральная частка, накрытая



двухсхільным дахам, на галоўным паўднёвым фасадзе вылучана чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам, а на супрацьлеглым фасадзе завершана ступеньчатым атыкам. Класічныя элементы дэкору выкананы з дрэва і атынкаваны. Тыльны фасад вылучаўся яшчэ трохвосевым рызалітам і меў тэрасу для агляду наваколля.

Унутраная планіроўка палаца калідорнага тыпу. Праз увесь корпус па падоўжнай восі праходзіць шырокі светлавы калідор, да якога з двух бакоў далучаюцца жылыя пакоі. Пры галоўным уваходзе меўся шырокі вестыбюль, насупраць якога размяшчалася парадная зала з выхадам у парк.

Бакавыя флігелі вырашаны больш сціпла. Іх гладкія сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі вокнамі. Тарцовыя сцены, што выходзяць на ўзроўні галоўнага фасада палаца, дэкарыраваны шасцікалоннымі порцікамі дарычнага ордэра і завершаны высокімі трохвугольнымі шчыткамі. Тры порцікі ўвязваюць усю кампазіцыю ў адзіны архітэктурны ансамбль.

Фарміраванне парку пачалося разам з будаўніцтвам замка Сапегаў з 1678 г. і працягвалася пры ўзвядзенні рэзідэнцыі Патоцкіх. Замак і стары парк з сажалкай былі абкружаны валамі і равамі. Новы парк закладзены ў 1-й палове XIX ст. у адпаведнасці з лепшымі традыцыямі пейзажнага стылю. Кампазіцыя парку паступова змянялася. У 1895 г. перапланіроўкай парку займаўся дасведчаны спецыяліст у галіне паркавай архітэктуры Валяр'ян Кроненберг. Паступова парк набыў рысы пейзажнага натуралістычнага тыпу. Фарміраванню ансамбля садзейнічала маляўнічае наваколле, уключаючы пойму р. Пульва з круцізной рэчышча, невысокую тэрасу, шэраг збудаванняў старога замка.



Уезд быў фіксаваны дзвюма парамі простых пілонаў з дэкаратыўнымі вазамі і кованымі варотамі з вензелямі і ініцыяламі прозвішча нашчадкаў.

Уся тэрыторыя палацава-паркавага ансамбля займае плошчу каля 50 га.

У савецкі час была моцна парушана кампазіцыя ансамбля. На яго тэрыторыі пабудаваны жылыя дамы, гаспадарчыя аб'екты і новы будынак школы-інтэрната.

У 1990-я гг. пачалася рэканструкцыя паркавага ландшафту. Падрыхтавана навукова-праектная дакументацыя, на перспектыву плануецца вынясенне гаспадарчых пабудоў, рэстаўрацыя замкавай брамы, палаца Патоцкіх і стварэнне на базе адноўленага палаца музея гісторыі палацава-паркавага мастацтва.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000034 | Былы кляштар баніфратаў | 1785 год | г. Высокае, вул. Сацыялістычная | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000035 | Варварынская капліца | 1772 год | г. Высокае | 3 | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Д000338 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Высокае | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000339 | Крыжаўзвіжанская царква | XIX стагоддзе | г. Высокае | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000340 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Вялікі Лес, 2,5 км на захад, урочышча Чарнецкая Хваінка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000036 | Брацкая магіла савецкіх воінаў (аўтар помніка – А.І. Лышчык) | 1944 год, 1962 год | в. Вялікая Турна | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113В000341 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | чыг. станцыя Вярба, 0,8 км на паўднёвы ўсход | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000342 | Свята-Мікалаеўская царква | 1933 год | в. Вярховічы | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000343 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Вярховічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000037 | Свята-Троіцкая капліца | 1940 год | в. Вярховічы, на могілках | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000344 | Петрапаўлаўская царква | канец XVIII стагоддзя | в. Гарадзішча | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000345 | Рэшткі былой сядзібы:<br>палац<br>парк<br>гаспадарчыя пабудовы | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Грымяча | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Палацава-паркавы ансамбль размешчаны ў маляўнічым месцы побач з вёскай Грымяча на пагорку ў выгіне ракі Пульва. У ансамбль уваходзяць мураваны аднапавярховы палац, пейзажны парк, тры мураваныя гаспадарчыя пабудовы. Будынак палаца вырашаны ў стылі класіцызму. Ён мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, у плане прамавугольны з трыма значна выступаючымі рызалітамі: цэнтральным і двума бакавымі. Цэнтральны рызаліт вылучаны чатырохкалонным порцікам дарычнага ордэра з трохвугольным франтонам. Бакавыя рызаліты дэкарыраваны пілястрамі і завершаны атыкавай сценкай. Аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі, простымі сандрыкамі і падаконнымі нішамі.

Вонкавыя сцены маюць арнаментаваныя разеткі і вісячыя гірлянды. Паркавы фасад па цэнтры мае тэрасу, а збоку – мансарду. Будынак узведзены на высокім падмурку, мае паўпадвальны паверх. Унутраная планіроўка палаца анфіладнага тыпу. У цэнтральным рызаліце маецца прасторны вестыбюль, за ім зала з выхадам у парк. У бакавых рызалітах знаходзіліся жылыя пакоі. З найбольш цікавых элементаў інтэр'ера – вінтавыя чыгунныя ўсходы на другі паверх мансарды.

Палац накрываў высокі чатырохсхільны гладкі дах.

Палац абкружае параўнальна невялікі парк, плошчай каля 5 га, які займае частку схілу з пагорка да р. Пульва. Сіметрычна палацу растуць дзве лістоўніцы еўрапейскія. Другую, таксама сіметрычна размешчаную пару салітэраў ствараюць дрэвы сасны веймутавай. У выглядзе бакавых куліс прастора фланкіравана купамі дрэў мясцовых парод.

За невялікім паркавым партэрам размяшчаецца пейзажная частка парку. Яна займае пагорак, з якога адкрываюцца перспектывы на маляўнічае наваколле і раку Пульва. Паўтараючы форму пагорка, каля яго падножжа праходзіла алея з грабу. У салітэрах, невялікіх дрэвавых групах выкарыстоўваліся экзатычныя віды. Захаваліся адзінкавыя дрэвы ясеню звычайнага ніцага, елкі блакітнай, лістоўніцы, шаўкоўніцы, глогу і інш.

Палацава-паркавы ансамбль знаходзіцца ў параўнальна добрым стане, вызначаецца прыгажосцю навакольнага ландшафту, але палац быў значна разрабаваны пасля высялення з яго ў 1990-я гг. летняга лагера для адпачынку дзяцей.

У 1999 г. ансамбль перададзены на баланс раённага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі з мэтай рэстаўрацыі і выкарыстання ў якасці турыстычна-гасцінічнага аб'екта. У 2000 г. пачалася рэстаўрацыя палаца, а ў 2001 г. слухачамі Міжнароднай акадэміі спецыялістаў ландшафтна-паркавай архітэктуры праведзены работы па даследаванні і ачыстцы парку ад хмызняку і смецця.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000346 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Доўбізна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000347 | Праабражэнская царква | 1786 год | в. Дзмітравічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Прамавугольны ў плане зруб царквы пастаўлены на бутавым падмурку. Галоўны фасад завершаны франтонам. Над асноўным аб'ёмам васьмігранны барабан увянчаны галоўкай. Каля царквы чацверыковая каркасная званіца.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000348 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Камянюкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000038 | Сядзібна-паркавы комплекс:<br>сядзібны дом<br>кароўнік<br>стайня<br>свіран<br>рэшткі парку | XIX стагоддзе | в. Капылы | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Д000712 | Брацкая магіла савецкіх актывістаў | 1941 год, 2007 год | в. Клепачы | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113В000349 | Стаянка-1 перыяду мезаліту | 9–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Коладна, на марэннай узвышанасці | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000350 | Стаянка-2 перыяду мезаліту | 9–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Коладна, 0,2 км ад в. Шумакі, на схіле марэннага ўзвышша | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000351 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XII стагоддзі | в. Кусцічы, 2,5 км на паўднёвы захад, з левага боку ад дарогі Брэст – Высокае | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000713 | Магіла ахвяр фашызму | 1943 год,<br>1985 год | в. Лескі | 3 | 21.05.2008<br>№ 142 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 113Д000714 | Магіла актывістаў калгаса «Новае жыццё» | 1942 год | в. Лісоўчыцы | 3 | 21.05.2008<br>№ 142 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 113В000352 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI стагоддзе | в. Лісоўчыцы, 1,6 км на паўднёвы ўсход, каля хутара Кушнерука | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000353 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI стагоддзе | в. Лісоўчыцы,<br>1 км ад вёскі,<br>урочышча Пяцічна Гара | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000354 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Любашкі, 0,8 км на паўднёвы ўсход, 0,2 км ад дарогі на в. Ганцавічы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000355 | Мікалаеўская царква | 1760 год | в. Малыя Мурыны | 2 | 27.04.2004<br>№ 96 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Драўляная падоўжна-восевай кампазіцыі царква складаецца з асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму, чатырохграннай апсіды, бабінца і прытвора. Над бабінцам узвышаецца васьміграная званіца, завершаная шатровым дахам з макаўкай. Вуглы бабінца і вежы вылучаны лапаткамі. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з невялікім купалам на гранёным глухім барабане. Апсіда ніжэйшая за асноўны аб'ём, накрыта трохсхільным дахам. Аконныя праёмы прамавугольныя ў прафіляваных ліштвах. Сцены храма гарызантальна ашаляваны, умацаваны брусамі-сцяжкамі. Пад дахам праходзіць карніз і карункавы разны фрыз. Рознавялікія аб'ёмы царквы ствараюць выразную мастацкую кампазіцыю.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000356 | Свята-Параскеўская царква | канец<br>XIX стагоддзя | в. Мікалаева | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000715 | Капліца | 1899 год | в. Мінкавічы | 3 | 21.05.2008<br>№ 142 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 113Д000357 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Навасёлкі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000716 | Будынак былога паравога млына | пачатак XX стагоддзя | в. Навіцкавічы | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000358 | Свята-Успенская царква | другая палова XIX стагоддзя | в. Паніквы | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000359 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Падбур'е | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000360 | Свята-Андрэеўская царква | 1877 год | в. Пашукі | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000361 | Касцёл Сэрца Ісуса | 1934 год | в. Пелішча | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000717 | Брацкая магіла савецкіх танкістаў | 1944 год, 1974 год | в. Пелішча | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113В000362 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Плянта, 1,5 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000363 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | VIII–X стагоддзі | в. Радасць, 0,5 км на паўночны ўсход, на левым беразе р. Лясная | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000364 | Царква Казанскай Божай Маці | 1943 год | в. Ражкоўка | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Будаўніцтва храма звязана з выратаваннем жыхароў вёскі ад расстрэлу. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, у прыватнасці Марыі Дзмітрыеўны Пратасевіч, у верасні 1942 г. карнікі акружылі вёску, усіх дарослых жыхароў сагналі на ўскраіну вёскі да падрыхтаванай ямы. Дзяцей і пажыткі пагрузілі на абозы і адправілі ў Дзмітравічы, падлеткаў падрыхтавалі да адпраўкі ў Германію на працу. У апошні момант людзей адпусцілі па хатах, але з умовай, што дабудуюць царкву. Праз некалькі дзён з Белавежы вярнуліся падлеткі і дзеці з Дзмітравіч. Да зімы мужчыны дабудавалі царкву. На яе адкрыццё прыехаў нямецкі маёр, а неўзабаве прыслаў абраз «Божай Маці з дзіцем», выкананы на драўлянай дошцы, на якім зроблены надпіс «28 сентября 1942 года».

Царква – аднazрубны прамавугольны ў плане храм з тамбурам-бабінцам на галоўным фасадзе. Асноўны аб'ём і тамбур накрыты двухсхільнымі дахамі. У цэнтры асноўнага аб'ёму ўзвышаецца купал на гранёным светлавым барабане. Сцены храма гарызантальна ашаляваны, умацаваны брусамі-сцяжкамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000718 | Брацкая магіла савецкіх партызан дывізіі С.А. Каўпака | 1944 год | в. Ражкоўка | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000723 | Былы кальвінскі збор | XVIII стагоддзе | в. Расна, вул.Юбілейная, 1 | 3 | 21.05.2008 №142 | 03.09.2008 №1288 |
| 113В000365 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Ратайчыцы, 0,25 км на паўночны ўсход, на левым беразе р. П'яўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000366 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Ратайчыцы, 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000367 | Успенская царква | 1873 год | в. Рэчыца | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000368 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Свішчова, 0,1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000369 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Ставы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000370 | Ануфрыеўская царква | 1725 год, 1868 год | в. Ставы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Прамавугольны ў плане драўляны храм з невялікім нізкім бабінцам. З двух бакоў апсіды размешчаны ніжэйшыя рызніцы, накрытыя аднасхільнымі дахамі. Асноўны аб'ём увянчаны галоўкай на кароткай шыйцы. Над апсідай знаходзіцца такая ж, толькі меншая галоўка. Сцены царквы вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны брусамі-сцяжкамі, прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі. Добрыя прапорцыі і дэкаратыўная шалёўка надаюць храму мастацкую выразнасць.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000371 | Варварынская царква | 1863–1869 гады | в. Сухадол | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000372 | Міхайлаўская царква | 1816 год | в. Такары | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Драўляная царква аднazрубная з двух'яруснай званіцай на галоўным фасадзе, прамавугольнай у плане алтарнай часткай і дзвюма невялікімі рызніцамі. Дах двухсхільны. Званіца (чацвярык на чацверыку) завершана васьміграннымсветлавым барабанам з макаўкай. Франтальны арачны праём званіцы запоўнены абразом «Святы Міхаіл». Сцены вертыкальна ашаляваныя.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000373 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Трасцяніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000374 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | XI–XIII стагоддзі | в. Трасцяніца, 0,7 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000375 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | IV–II стагоддзі да н.э. | в. Трасцяніца, 2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000376 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Трасцяніца, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000377 | Свята-Праабражэнская царква | 1877 год | в. Трасцяніца | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000378 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Хацінава, 0,8 км на паўночны ўсход | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000379 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Хлевішча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000380 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Чэмеры 1-я, 1,2 км на паўднёвы захад, урочышча Лавы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000381 | Памятны знак на месцы сядзібы Р.Л. Траўгута | XIX–XX стагоддзі | в. Шастакова | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000382 | Успенская царква | другая палова XIX стагоддзя | в. Шышова | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана як уніяцкая на сродкі Тэадоры Тышкоўскай у 1758 г. Асвячона 18 снежня 1758 г.

Драўляны трохзрубны падоўжна-восевай кампазіцыі храм, які складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, да якога з аднаго боку далучаюцца прамавугольная з дзвюма рызніцамі па баках апсіда і з другога – бабінец з аднаяруснай гранёнай вежай-званіцай. Галоўны ўваход вылучаны адкрытым тамбурам пад двухсхільным дахам. Званіца завершана шатровым дахам, увянчаным маленькай макаўкай. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, у цэнтры вільчыка якога цыбулепадобная галоўка на гранёнай глухой шыйцы. Рызніцы ніжэйшыя за апсіду, накрыты аднасхільнымі дахамі. Сцены храма гарызантальна ашаляваны, умацаваны брусамі-сцяжкамі, прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Вуглы бабінца і званіцы вылучаны брусамі-лапаткамі.

30 жніўня 1867 г. у дзень памяці Св. Аляксандра Неўскага адрамантаваная царква была асвячона як праваслаўная. Новы іканастас быў зроблены на сродкі прыхаджан.

У 1961 г. царква была закрыта і выкарыстоўвалася калгасам пад склад. Адноўлена і дзейнічае з 1991 г.

## Кобрынскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Е000383 | Гістарычны цэнтр г. Кобрына: будынкі і збудаванні, планіровачная структура, ландшафт і культурны пласт на тэрыторыі, абмежаванай лініяй, якая праходзіць ад р. Мухавец па ўсходнім беразе р. Кобрынка, перасякае вул. Першамайскую, далей па тыльнай мяжы дваровых тэрыторый забудовы паўднёвага боку вул. Першамайскай, усходняга боку пл. Свабоды, усходняга боку вул. Інтэрнацыянальнай да дома № 26, затым па паўднёвай мяжы ўчастка домаўладання № 26 на захад да дома № 3 па вул. Леніна, па тыльнай мяжы дваровых тэрыторый забудовы няцотнага боку вуліц Леніна і 17 Верасня да берагавой лініі р. Мухавец, далей – па ўмоўнай лініі ад месца злучэння гістарычнага цэнтра з берагавой лініяй р. Мухавец да перакрывання вуліц Набярэжнай і Чыгуначнай, па забудове паўночнага боку вуліц Чыгуначнай і Мікольскай да праезду паміж дамамі № 22 і 24, па ўсходнім краі гэтага праезду да р. Мухавец, па ўмоўнай лініі праз р. Мухавец да месца на ўсходнім беразе р. Кобрынка пры яе ўпадзенні ў р. Мухавец | XIX–XX стагоддзі | г. Кобрын, вул. 17 Верасня, 1, 9, пл. Замкавая, 3, 5, 14, 15, вул. Інтэрнацыянальная, 1, 2, 4, 5, 6, 7, 9, 13, 14, 15, 18, 22, 24, 26, вул. Леніна, 6 (інвентарныя нумары 12805, 12806, 12807, 12808, 12812, 12813), 10, 12, 14, 15, 17, 18, 19, 20, 21, 23, 25, 27, 29, 33, 35, 37, 41, 43, 49, вул. Першамайская, 1, 2, 3, 4, 5, 6, пл. Свабоды, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 12, 14, 15, 16, вул. Суворава, 1, 3, 4, 5, 7, 9, 11, 11/1, 13, вул. Чыгуначная, 2, 3, 4, 6, 8 | 2 | 18.01.2002 № 70, 20.12.2005 № 115 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |







Горад пачаў фарміраванне ў XIII ст. пры закладцы ўмацавання каля ўпадзення р. Кобрынка ў р. Мухавец. На ім пазней пабудаваны Верхні і Ніжні замкі. Непадалёк ад замкаў на колішнім пасадзе на глыбіні 1,5–2 м археолагамі выяўлены рэшткі драўлянай маставой. У далейшым забудоўваўся з усходу на захад паралельна Мухаўцу, які падзяліў горад на дзве часткі. У 1563 г. на левым беразе размяшчаліся пяць вуліц і рыначная плошча, на правым – дзве вуліцы. У 1597 г. налічвалася 304 двары, у сярэдзіне XVII ст. – каля 500 дамоў. Горад моцна пацярпеў у час войнаў сярэдзіны XVII – пачатку XVIII стст. Да канца XVIII ст. адноўлены. У 1790-я гг. налічваў 2160 жыхароў. У 1795 г. Кобрынскі ключ з сядзібай у Кобрыне падараваны А.В. Сувораву. У 1798 г. распрацаваны першы генплан горада.

У час вайны 1812 г. горад амаль цалкам згарэў. З сярэдзіны XIX ст. горад забудоўваўся згодна з генпланам 1846 г. Дамы ў цэнтры пераважна драўляныя з майстэрнямі і крамамі на першых паверхах. У 1897 г. налічвалася 10355 жыхароў. У пачатку XX ст. сфарміраваўся гарадскі цэнтр, былі пабудаваны гасціны двор, гандлёвыя рады.

Да сённяшніх дзён галоўнай кампазіцыйнай воссю застаецца р. Мухавец. Захаваліся фрагменты гістарычнай забудовы, асобныя помнікі культавай архітэктуры, парк імя Суворава, заснаваны пры сядзібе ў 1768 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000384 | Парк імя А.В. Суворава | 1768 год | г. Кобрын, паўднёвая ўскраіна горада | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Закладзены ў 1768 г. на паўднёвай мяжы г. Кобрына пры фальварку «Губерня» паводле распараджэння падскарбія (казначэя) Вялікага княства Літоўскага Антонія Тызенгаўза, які на той час служыў распарадчыкам каралеўскіх маёнткаў на тэрыторыі ВКЛ. Фальварак з'яўляўся цэнтрам Кобрынскага ключа, які быў утвораны ў выніку рэформы з каралеўскага ўладання «Кобрынская эканомія».



У 1795 г. расійскай імператрыцай Кацярынай II Кобрынскі ключ разам з іншымі ключамі і фальваркамі быў падараваны Аляксандру Сувораву. Пасля смерці палкаводца яго сын Аркадзь быў вымушаны па частках распрадаваць велізарныя абшары маёнтка розным асобам. З 1808 г. Кобрынскім ключом валодаў памешчык Гельвіг, а прыкладна з сярэдзіны XIX ст. ключ перайшоў ва ўласнасць Аляксандра Міцкевіча, прафесара права Харкаўскага універсітэта, роднага брата знакамітага паэта беларускай зямлі Адама Міцкевіча. Міцкевічы тут жылі да 1873 г.

У XVIII ст. парк займаў невялікую плошчу, прыкладна 3,5–4 га. У цэнтры парку знаходзіўся пладовы сад і невялікая сажалка. Яго абкружалі земляны вал і глыбокі роў. За 200 гадоў парк павялічыўся амаль у 15 разоў і зараз яго плошча складае 66 га.

Цяпер парк мае рэгулярную сістэму планіроўкі. Яго кампазіцыйную вось складае цэнтральная алея, якая завершана невялікай сажалкай. На беразе сажалкі раней стаяў драўляны дом Суворава, які ў 1894 г. быў разабраны на іншыя гаспадарчыя пабудовы.

У сучасным парку існуе каля 70 відаў розных парод дрэў і дэкаратыўных насаджэнняў: дуб, ліпа, ясень, клён, акацыя, хвоя, пірамідальная таполя, блакітная елка, лімоннік, явар, сібірская абляпіха, некалькі відаў туі, бэзу, ружаў і інш.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000385 | Забудова вул. Беларускай | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Беларуская, 1, 2, 9 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000386 | Будынак былога Спаскага манастыра | 1465 год, XVII–XVIII стагоддзі | г. Кобрын, вул. 17 Верасня, 11 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Упершыню ўпамінаецца ў 1465 г. у лісце княгіні кобрынскай Ульяны. У 1501 г. удава князя Івана княгіня Фядора (Тэадора) з Рагатынскіх адпісала манастыру сяло Корчыцы з людзьмі і ўсімі данінамі, 2 карчмы ў Кобрыне, 10-ю мерку жыта з млына на р. Кобрынка і 10-ю капу жыта і яравога збожжа з Кобрына. На пачатак XVI ст. манастыр ужо меў цагляныя жылыя і службовыя карпусы, капліцу. Пасля Брэсцкай уніі 1596 г. манастыр стаў уніяцкім; у ім праходзіў Кобрынскі сабор 1626 г. У 1632–1633 гг. яго архімандрытам быў уніяцкі царкоўны дзеяч Р. Корсак. Указам расійскага імператара 1828 г. у манастыры адкрыта духоўнае вучылішча. Пасля Полацкага сабора 1839 г. манастыр быў закрыты.



Двухпавярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак, накрыты ламаным дахам. Падоўжныя фасады раскрапаваны двума рызалітамі – у цэнтры галоўнага фасада і на паўночна-заходнім вуглу. Цэнтральны рызаліт адзначаны атыкавым франтонам з лучковым завяршэннем і насычаны ляпнымі дэкаратыўнымі элементамі. Сцены аздоблены пілястрамі, фігурнымі філёнгамі, завершаны развітым карнізам. Перакрыцце над паверхамі бэлечнае, над падвалам – цыліндрычныя скляпенні. Унутраная планіроўка зменена, першапачаткова цэнтральную частку займала манастырская царква.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000387 | Будынак | 1905 год | г. Кобрын, пл. Замкавая, 1 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000388 | Будынак | 1925 год | г. Кобрын, вул. Дзяржынскага, 11 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000389 | Мікалаеўская царква | 1750 год | г. Кобрын, вул. Мікольская, 2 | 2 | 18.01.2002 № 70, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |



Царква пабудавана з дрэва на правым беразе р. Мухавец. Помнік народнага дойлідства.

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з пяціграннай апсідай накрыты вальмавым дахам і завершаны купалам на васьмерыковым светлавым барабане, які пастаўлены на чацвярык. Галоўны фасад вылучаны нішай з дзвюма калонкамі. Сцены вертыкальна ашаляваны і прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Чатыры слупы ў інтэр'еры пры дапамозе ветразяў падтрымліваюць барабан купала. У чатырох вуглах асноўнага аб'ёму ўбудаваны невялікія дапаможныя памяшканні.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000390 | Забудова вул. Кастрычніцкай | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Кастрычніцкая, 1, 5, 7 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000391 | Забудова вул. Кірава | канец XIX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Кірава, 2, 3, 5 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000392 | Сабор Аляксандра Неўскага | 1864–1868 гады | г. Кобрын, вул. Леніна, 18 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Крыжова-купальны храм з васьміграннным барабанам і пяцікупаллем на шатрах пабудаваны з цэглы. Да планіровачнага крыжа далучаюцца працяглы прытвор з вуглавымі прыдзеламі і прамавугольная апсіда з бакавымі невялікімі квадратнымі рызніцамі. Сцены галоўнага фасада і трансепта завершаны трохвугольнымі франтонамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі і прамавугольнымі панэлямі, апярэзаны фрызам з шырынак. Арачныя аконныя праёмы акаймаваны архівольтамі. Галоўны ўваход афармлены накладным магутным парталам з лучковым франтонам і арачнай ліштвай увахода.

У інтэр'еры сяродкрыжжа перакрыта купалам на ветразях, астатнія памяшканні цыліндрычным скляпеннем на распалубках.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Е000719 | Забудова вул. Леніна | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Леніна, 24, 26, 28, 30, 32, 36, 40, 42, 44, 53, 57, 73, 77 | 3 | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000393 | Забудова вул. Матросава | канец XIX – першая палова XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Матросава, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 8, 10, 13, 14, 20 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000394 | Петрапаўлаўская царква | пачатак XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Першамайская (на могілках) | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Кампазіцыя драўлянага храма складаецца з двух'яруснай шатровай званіцы, асноўнага аб'ёму і прамавугольнай у плане апсіды. Квадратная ў плане цэнтральная частка завершана цыбулепадобнай галоўкай. Гарызантальна ашаляваныя сцены (цокальная частка ашалявана вертыкальна) прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах. Асіметрыю ў агульную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўносіць нізкая прамавугольная рызніца, прыбудаваная да апсіды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000395 | Забудова вул. Першамайскай | канец XIX – першая палова XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Першамайская, 10, 12, 13, 14, 15, 16, 18, 20, 21, 22, 23, 24, 27, 28, 29, 30, 32, 39, 41, 45, 63, 65, 91 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000396 | Будынак былой сінагогі | другая палова XIX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Першамайская, 40 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Мураваны блізкі да квадрата ў плане двухпавярховы з мансардай будынак. Фасады атынкаваныя, завершаны карнізам. Галоўны фасад фланкіраваны пілястрамі, на другім паверсе руставанымі. Арачныя аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі. Тарцовы фасад умацаваны контрфорсамі. Франтон мансарды апрацаваны рустам. Аконныя праёмы падкрэслены падаконнымі нішамі. У інтэр'еры захаваліся цыліндрычныя скляпенні, пілястры іанічнага ордэра. Дах двухсхільны.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000397 | Касцёл Спачыну Найсвяцейшай Дзевы Марыі | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Першамайская, 80 | 3 | 27.09.2005 № 112 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000398 | Забудова вул. Савецкай | канец XIX – першая палова XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Савецкая, 2, 3, 4, 5, 6, 8, 10, 11, 12, 13, 18, 19, 24, 25, 30, 32, 42, 63, 87, 88, 91, 94, 96, 98, 100, 102, 103, 131 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000399 | Будынак | 1821 год | г. Кобрын, вул. Савецкая, 65 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000400 | Будынак | 1846 год | г. Кобрын, вул. Савецкая, 108 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Д000401 | Былы сядзібны дом А.В. Суворава | канец XVIII стагоддзя | г. Кобрын, вул. Суворава, 16 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1790 г. з дрэва. Аўтар праекта і першы гаспадар дома не вядомы. Верагодна, пасля задушэння паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі дом быў канфіскаваны ў яго гаспадароў, таму што ў канцы 1795 г. ён пуставаў ужо. Дом мае мемарыяльнае значэнне. У свой час у ім жылі расійскі генералісімус Аляксандр Сувораў (1797, 1800), жонка генерала Рамуальда Траўгута, аднаго з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. у Беларусі, Украіне, Польшчы (пачатак 1860-х гг.).

Планіроўка дома анфіладная. Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак быў накрыты гонтавым вальмавым дахам. Пры будаўніцтве выкарыстана канструкцыйная схема з сярэдняй падоўжна-нясучай цаглянай сцяной.

Сіметрычнавосевая кампазіцыя галоўнага і дваровага фасадаў вылучана па цэнтры ганкамі на чатырох слупах. Ганкі завяршаліся трохвугольнымі франтонамі. Сцены атынкаваныя, праёмы вокнаў прамавугольныя з акаванымі аканіцамі.

У гады Другой сусветнай вайны дом быў разбураны, у 1946 г., паводле рашэння ўрада БССР, рэстаўрыраваны і ў 1948 г. у ім створана ваенна-гістарычная экспазіцыя, прысвечаная жыццю і дзейнасці А.В. Суворава. Перад будынкам у 1950 г. устаноўлены бронзавы бюст Суворава (скульптар П. Кюферле), дзве гарматы, адлітыя ў 1872 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Ж000402 | Бюст А.В. Суворава | 1904 год, адноўлены ў 1950 годзе | г. Кобрын, парк імя А.В. Суворава | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000403 | Забудова вул. Чыгуначнай | канец XIX – першая палова XX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Чыгуначная, 10, 16 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000404 | Забудова вул. Чырвонаармейскай | канец XIX стагоддзя | г. Кобрын, вул. Чырвона-армейская, 1, 2 | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000405 | Брацкая магіла і ўчастак воінскіх пахаванняў | 1944 год | г. Кобрын, на гарадскіх могілках | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000406 | Помнік у гонар перамогі 1812 года | 1912 год, 1951 год | г. Кобрын, вул. Леніна | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000407 | Свята-Пакроўская царква | 1937 год | в. Акцябр | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000408 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Астромічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000409 | Ветраны млын | пачатак XX стагоддзя | в. Балоты | 3 | 20.09.2000 № 60 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000410 | Царква Прападобнай Параскевы Сербскай | 1885 год | в. Балоты | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000411 | Камень з выявамі і надпісамі (Бародзічы 1) | 1886 год | в. Бародзічы | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000412 | Надмагільны камень з выявамі і надпісамі (Бародзічы 2) | пачатак XX стагоддзя | в. Бародзічы | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000413 | Пакроўская царква | 1674 год | в. Бухавічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Храм пабудаваны з цэглы і дрэва манахамі-дамініканцамі як касцёл Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У 1832 г. касцёл перададзены праваслаўным. Перабудоўвалася ў 1862 г. і 1870 г. У чэрвені 1881 г. царква асвячона пасля чарговага капітальнага рамонту. Помнік архітэктуры барока з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю.

Трохчасткавая кампазіцыя царквы ўключае званіцу, прамавугольны ў плане асноўны аб'ём пад вальмавым дахам і прамавугольную ў плане апсіду з рызніцай. Вуглы паўднёва-ўсходняй часткі царквы і апсіды ўмацаваны контрфорсамі. Канструкцыя даху кроквенная. Уваход фланкіруюць два пілоны з паўкруглымі нішамі. У інтэр'еры драўляны разны іканастас.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000414 | Свята-Ільінская царква | 1863 год | в. Бяроза, на могілках | 3 | 09.10.2002 № 76, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000415 | Свята-Крыжаўзвіжанская царква | 1864 год | в. Бяроза | 3 | 09.10.2002 № 76, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113В000416 | Каменны комплекс з выявамі і надпісамі | 1803 год | в. Бярозна | 3 | 03.04.2002 № 72, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 113Г000417 | Свята-Мікалаеўская царква | 1888 год | в. Верхалессе | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000418 | Свята-Уваznясенская царква | 1799 год | в. Гарадзец | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000419 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Гарадзец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000420 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дзівін | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000421 | Царква Параскевы Пятніцы са званіцай | 1740 год | в. Дзівін | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Царква двухзрубная, складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай апсіды з дзвюма прыбудоўкамі. Агульны паўвальмавы дах плаўна агінае будынак, навісаючы над бакавымі прыбудовамі апсіды. Над асноўным аб'ёмам з боку галоўнага фасада ўзвышаюцца дзве квадратныя ў плане вежы, увянчаныя трох'яруснымі гранёнымі галоўкамі. Шчыт даху адступае за вежы ўглыбіню і мае кілепадобны абрыс. Паўвальмавы схіл на галоўным фасадзе стварае залом, ніжняя частка якога навісае над галерэяй, раней звязанай з хорамі. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен, аздоблены вітражамі ў выглядзе крыжа. Інтэр'ер зальны, над уваходам хоры, іх падтрымліваюць два чатырохгранныя слупы. Збоку ад царквы размешчана драўляная званіца, пабудаваная ў 2-й палове XIX ст. Уяўляе сабой васьмярык на чацверыку над гонтавым шатровым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000422 | Прачысценская царква | XX стагоддзе | в. Дзівін | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000423 | Камень з выявамі і надпісамі | 1405 год | в. Дзямідаўшчына | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000424 | Каменны могільнік | XIV–XVI стагоддзі | в. Закросніца, 1 км на поўдзень, урочышча Замошша | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000425 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Залессе, 3,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000426 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Запруды | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000427 | Замчышча | XIV–XVII стагоддзі | в. Запруды | 3 | 27.09.2005 № 112 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000428 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Засімы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000429 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Засімы, 0,4 км на ўсход, урочышча Малодча, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000430 | Грунтавы могільнік позняга сярэднявечча з каменнымі стэламі | XIV–XVI стагоддзі | в. Засімы, на ўсходняй ускраіне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000431 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Засімы, 0,5 км на захад, урочышча Шараеў Лес | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000432 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Казішча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000433 | Свята-Троіцкая царква | 1927 год | в. Казішча | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000434 | Каменны комплекс з выявамі і надпісамі (Каменка 1) | 1848 год | в. Каменка | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000435 | Каменны комплекс з выявамі і надпісамі (Каменка 2) | 1848 год | в. Каменка | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000436 | Званіца касцёла | XIX стагоддзе | в.Ківацічы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000437 | Грунтавы могільнік позняга сярэднявечча з каменнымі стэламі | XIV–XVI стагоддзі | в. Кісялёўцы, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000438 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Кісялёўцы, 2,5 км на поўдзень, урочышча Ямішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000439 | Дзмітрыеўская царква са званіцай | XVIII стагоддзе | в. Лелікава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква са званіцай пабудавана з дрэва на ўсходняй ускраіне вёскі. Помнік народнага дойлідства.

Аднаазрубная падоўжная ў плане, накрыта вальмавым дахам. Фасады члянёны прамавугольнымі вокнамі і лапаткамі. Увянчана масіўным васьмерыковым барабанам з галоўкай. У XIX ст. прыбудаваны тамбур. Званіца – васьмярык на чацверыку. Тамбур і званіцу абрамляюць філёнгі і разныя накладкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000440 | Свята-Міхайлаўская царква | 1881 год | в. Навасёлкі | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000441 | Прачысценская царква | 1911 год | в. Павіцце | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000442 | Надмагільны камень | 1637 год | в. Паўлава | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000443 | Каменная ложа | XVIII стагоддзе | в. Пескі | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000444 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Пескі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000445 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Стрыгава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000446 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Турная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000447 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Тэўлі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000448 | Дзмітрыеўская царква | 1881 год | в. Тэўлі | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000449 | Свята-Успенская царква | 1872 год | в. Тэўлі | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000450 | Пакроўская царква | 1899 год | в. Хабовічы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000451 | Міхайлаўская царква з брамай-званіцай | 1784 год | в. Яромічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва на могілках. Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Царква двухзрубная, складаецца з прамавугольных у плане асноўнага аб’ёму і апсіды. Накрыта агульным гонтавым дахам, які пры пераходзе ад асноўнага аб’ёму да алтарнай часткі ўтварае трохвугольныя навісі. З усходу і поўдня да алтара прылягаюць прырубы з аднасхільным пакрыццём. Сцяна галоўнага (заходняга) фасада завершана шчытом. Дах каля франтона ўвянчаны васьміграннай вежачкай. Вокны высокія паўцыркульныя. Інтэр’ер зальны, абноўлены ў XIX ст. У бабінцы размешчаны хоры, якія падтрымліваюцца двума слупамі.

## Лунінецкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000452 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Лунінец,<br>вул. Савецкая, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000453 | Крыжаўзвіжанская царква | пачатак<br>XX стагоддзя | г. Лунінец,<br>на скрыжаванні вуліц<br>Піянерскай і Гагарына | 3 | 23.11.2004<br>№ 103 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000454 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Бастынь | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000455 | Склеп-пахавальня Феліцыі Дваракоўскай з роду Скакоўскіх | 1833 год | в. Бастынь (на могілках) | 3 | 18.01.2002<br>№ 70 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000456 | Пакроўская царква | 1851 год | в. Вялікія Чучавічы | 3 | 23.11.2004<br>№ 103 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000457 | Тэрыторыя Праабражэнскай царквы | 1823 год,<br>1871 год | в. Дзятлавічы | 3 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000458 | Мікалаеўская царква | 1818 год,<br>1876 год | в. Кажан-Гарадок | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Драўляная царква вылучаецца вытанчанасцю прапорцый, пластычнасцю малюнка. Трохзрубная кампазіцыя: бабінец, асноўны аб'ём і апсіда – завершаны шатрамі. Асноўны зруб двух'ярусны, верхні ярус – светлавы чатырохгранны барабан. Гонтавы шацёр і вальмавыя дахі бабінца і апсіды завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на глухіх гранёных шыйках. Вертыкальна ашаляваныя сцены апярэзаны аркатурным фрызам і зубчастым карнізам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Уваход арганізаваны праз нізкі прытвор пад пакатым двухсхільным дахам. Унутры зала храма перакрыта пірамідальным скляпеннем на ветразях. Бабінец падзелены на два ярусы, на верхнім з якіх размешчаны хоры, раскрытыя ў залу фігурнай аркай. Абразы: «Звеставанне» (XVIII ст.), «Нараджэнне Хрыстова» (мяжа XVIII–XIX ст.), «Маці Божая з дзіцем», «Святыя Кузьма, Аляксей і Дзям'ян» (абодва XIX ст.)

Адасоблена пастаўлена на планіровачнай восі царквы званіца. Уяўляе сабой двух'яруснае цэнтрычнае збудаванне. Ніжні чатырохгранны ярус зрубны, другі – адкрыты каркасны пад шатровым гонтавым пакрыццём. Ярусы падзелены развітым гонтавым адлівам-карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000459 | Гарадзішча-1 перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Кажан-Гарадок,<br>2 км на паўднёвы захад,<br>урочышча Князевы Горы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000460 | Гарадзішча-2 перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Кажан-Гарадок,<br>0,8 км на ўсход, з правага боку дарогі на в. Лахва | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000461 | Гарадзішча-3 перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Кажан-Гарадок,<br>на ўсходняй ускраіне,<br>урочышча Гарбарова Гара | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000462 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Кажан-Гарадок, 2,3 км на паўднёвы захад, урочышча Князевы Горы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000463 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Лахва, 2 км на поўдзень, у лесе, урочышча Рыбуня | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000464 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Лахва, справа ад вул. Новай | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000465 | Прачысценская царква | 1870-я гады | в. Лахва | 3 | 23.11.2004 № 103 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000466 | Барысаглебская царква | 1824 год | в. Лунін | 3 | 23.11.2004 № 103 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000467 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Мікашэвічы, вул. Ленінская, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000468 | Будынак былой лазні | 1880-я гады | пас. Палескі | 3 | 23.11.2004 № 103 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000469 | Георгіеўская царква са званіцай | XVII–XVIII стагоддзі | в. Сінкевічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі, на могілках. Помнік народнага дойлідства.

Трохзрубны (бабінец, малітоўная зала, апсіда) трохшатровы храм. Асноўны зруб двух'ярусны, верхні ярус – светлавы чатырохгранны барабан. Гонтавы шацёр і вальмавыя дахі бабінца і апсіды завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі на «сляпых» гранёных шыйках. Вертыкальна ашаляваныя сцены апяразаны аркатурным фрызам і зубчастым карнізам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Уваход арганізаваны праз нізкі прытвор пад пакатым двухсхільным дахам.

Зала храма ўнутры перакрыта пірамідальным скляпеннем на ветразях: бабінец падзелены на два ярусы, на верхнім з якіх размешчаны хоры, раскрытыя ў залу фігурнай аркай-прасветам.

Адасоблена пастаўленая па планіровачнай восі царквы званіца ўяўляе сабой двух'яруснае цэнтрычнае збудаванне. Ніжні чатырохгранны ярус зрубны, верхні – адкрытая каркасная тэраса пад шатровым гонтавым пакрыццём. Ярусы вылучаны развітым адлівам-карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000470 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Сінкевічы, 2 км на ўсход, 0,4 км на поўдзень ад старой дарогі, урочышча Патоўскі Вoстраў | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000471 | Праабражэнская царква | 1910 год | в. Язвінкі | 3 | 23.11.2004 № 103 | 14.05.2007 № 578 |

## Ляхавіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000472 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Ляхавічы, пл. Перамогі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000473 | Комплекс былой сядзібы Рэйтанаў:<br>сядзібны дом<br>капліца<br>два флігелі<br>вінакурня<br>дзве стайні<br>аранжарэя<br>дом упраўляючага<br>кладоўка<br>гумно<br>аўчарня<br>майстэрня<br>лядоўня<br>фрагменты парку | XIX–XX стагоддзі | в. Грушаўка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У 2-й палове XVIII ст. маёнткам Грушаўка валодаў Тадэвуш Рэйтан (1741–1780 гг. ), вядомы як адзін з гарачых патрыётаў Рэчы Паспалітай, пасол Навагрудскай зямлі на Варшаўскім сейме, які быў непрымірымым і непахісным праціўнікам падзелу Рэчы Паспалітай.

У цяперашні час на тэрыторыі сядзібы, плошча якой складае каля 14 га, захаваліся жылы дом (напаўразбураны), флігелі, бровар, капліца-пахавальня (напаўразбурана і абрабавана), шэраг гаспадарчых пабудоў, парк рэгулярнай планіроўкі і пладовы сад. Да канца XIX ст. у сядзібе стаяў аднапавярховы мураваны палац, пабудаваны ў строгіх формах архітэктуры класіцызму ў час жыцця і дзейнасці Тадэвуша Рэйтана.

Выгляд першага палаца вядомы паводле акварэлі Напалеона Орды, які неаднаразова бываў у сядзібе Тадэвуша Рэйтана ў 1864–1876 гг. Гэта быў будынак прамавугольнай формы, накрыты вальмавым дахам, меў у цэнтры галоўнага фасада чатырохкалонны драўляны порцік з трохвугольным франтонам. Уздоўж тыльнага фасада ў парк выступала тэраса-

галерэя. Сярод шпалер парку стаяла прысядзібная мураваная капліца. Перад домам па баках круглага газона знаходзіліся афіцыны, у адной з якіх захоўваліся фамільныя архівы ўладальнікаў.

У бібліятэцы Рэйтанаў меўся вялікі кнігазбор, які перажыў шмат ваенных ліхалеццяў і знаходзіўся ў новым палацы да пачатку Другой сусветнай вайны.

На мяжы XIX–XX стст. гаспадар Грушаўкі Юзаф Рэйтан па невядомых прычынах распачаў перабудову двара. Стары палац быў разабраны, а на яго месцы пабудаваны новы драўляны. Разам з будаўніцтвам палаца быў закладзены пейзажны парк.

Палац уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам, з якога выступаюць на галоўным і бакавых фасадах мансардавыя паверхі з самастойнымі двухсхільнымі пакрыццямі. Галоўны ўваход вылучаны ганкам і тэрасай, устаноўленай на разьбяныя калоны і апаясанай металічнай агароджай. Высокі падмурак па баках цэнтральнай тэрасы вылучаны пластычнымі па форме мураванымі ганкамі, у форме якіх прасочваюцца элементы стылю мадэрн.

Інтэр'еры былі аздоблены размалёўкай, разьбой, кафлянымі грубкамі. Парадны двор, утвораны сядзібным домам і двума флігелямі, зрушаны з асноўнай восі кампазіцыі.



Да 1939 г. з асаблівай увагай зберагаўся невялікі будынак непадалёк ад палаца, які атрымаў назву «мураванка». У ім з пакалення ў пакаленне перадаваліся каштоўныя паперы і дакументы. У двух пакоях гэтага мураванага будынка Тадэвуш Рэйтан правёў апошнія гады жыцця. Архіў прапаў без вестак яшчэ да 1914 г., а былая сямейная капліца разабрана. Новая капліца-пахавальня была ўзведзена ў пачатку XX ст. у стылі неаготыкі. Будынак капліцы ў плане мае прамавугольную форму, трохгранную алтарную частку і высокі шчыт на галоўным фасадзе. Аконныя праёмы маюць выгляд стральчатых арак.

У міжваенны перыяд у новым палацы былі сабраны рэшткі памятных рэчаў Тадэвуша Рэйтана: яго ложак, сервант, залаты бакал – падарунак калег сейма за заслугі ў актыўнай дэпутацкай дзейнасці. Усе гэтыя каштоўнасці нашчадкі Рэйтана перадалі Кракаўскаму нацыянальнаму музею Чартарыйскіх разам са старым гадзіннікам Стафана Рэйтана, бацькі Юзафа. У 1939 г. польскія ўлады ўстанавілі помнік Тадэвушу Рэйтану побач з новай капліцай (не захаваўся).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000474 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Гулічы,<br>1 км на паўночны ўсход,<br>каля хутара Міхалькі,<br>у лесе | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000475 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Завінне | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000476 | Пакроўская царква | 1670 год,<br>1869 год | в. Крывошын | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудавана з цэглы як касцёл у стылі позняга барока, у 1863 г. перабудавана пад царкву. У выніку будынак атрымаў рысы рэтраспектыўна-рускага стылю.

Храм – трохнефавая васьміслуповая базіліка з паўкруглай апсідай, роўнай па вышыні з цэнтральным нефам. Галоўны фасад вылучаюць дзве двух'ярусныя вежы, дэкарыраваныя трохвугольнымі франтонамі. Паміж вежамі – высокая васьміграння званіца з шатровым пакрыццём і галоўкай. У цэнтры фасада вылучаецца паўцыркульны франтон. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуе купал на цыліндрычным барабане, які апіраецца на чацвярык. У інтэр'еры сярэдні неф, у два разы шырэйшы за бакавыя, пераходзіць у апсіду. Бакавыя нефы маюць стральчатыя скляпенні, цэнтральны – крыжовыя. Пры ўваходзе – хоры, якія апіраюцца на два слупы. У інтэр'еры захаваліся дэкаратыўная аздоба (пілястры, прафіляваныя цягі, ляпныя дэталі) і творы выяўленчага мастацтва XVII–XVIII стст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000477 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Куршынавічы, 0,4 км на паўднёвы ўсход, урочышча Раманаўшчына | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000478 | Касцёл | канец XIX стагоддзя | в. Ліпск | 2 | 04.06.1999 № 53 | 14.05.2007 № 578 |



Архітэктура манументальнага збудавання спалучае рысы барока, класіцызму, асобныя элементы ракако. Буйнамаштабны храм узведзены на ўзор трохнефавай базілікі з бакавымі сакрысціямі. У пластычным вырашэнні фасадаў вялікую ролю адыгрывалі руставаныя лапаткі і фігурныя панэлі. Вертыкальным акцэнтам прамавугольнага ў плане храма з боку галоўнага фасада з'яўлялася неабарочная чатырохгранная вежа-званіца з фігурным купалам і шпілем у завяршэнні. Яна была ўстаноўлена на шырокай тэрасе з балюстрадай па перыметры і дэкаратыўнымі вазамі па вуглах. Над карнізам галоўнага фасада размяшчаўся лучковы франтон, аконныя праёмы такой жа формы чаргаваліся з авальнымі люкарнамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000479 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Навасёлкі, 2 км на захад, па баках дарогі на в. Залужжа | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000480 | Комплекс былой сядзібы:<br><br>палац<br><br>флігель<br><br>гаспадарчыя пабудовы<br><br>стайня<br><br>фрагменты парку | 1810–1815 гады | в. Нача | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Палац, які існаваў да 1905 г. у нязменным выглядзе, быў узведзены ў 1810–1815 гг. Міхаілам Чарноцкім. У 1905–1910 гг. паводле праекта архітэктара А. Крыжаноўскага быў значна перабудаваны і пашыраны.

Спачатку палац у плане меў прамавугольную форму, з высокімі вокнамі, быў накрыты гладкім чатырохсхільным дахам. З боку галоўнага пад'езда існаваў порцік на шасці мураваных калонах. Порцік быў вышэйшы за асноўную пабудову.

Перабудова палаца і двара па новым праекце заключалася ў падвышэнні бакавых крылаў да вышыні цэнтральнай часткі будынка, замена даху на гладкі двухсхільны. Такім чынам, былі падвышаны нізкія пакоі, вокны якіх атрымалі добрую мастацкую аздобу. Акрамя таго, былі дабудаваны вялікія тэрасы, гаспадарчыя і службовыя памяшканні. Франтоны засталіся з круглымі вокнамі (люкарнамі), астатнія вокны палаца атрымалі прамавугольную форму.

Перад палацам знаходзіўся вялікі газон, да якога вяла шырокая ўязная алея, абсаджаная італьянскімі таполямі. На правым баку газона стаяў аднапавярховы флігель, накрыты гладкім чатырохсхільным дахам.

Адначасова з узвядзеннем палаца быў закладзены невялікі пейзажны парк плошчай некалькі гектараў. Большасць дрэў была лісцевых парод, аднак сустракаліся елкі і сосны. З заходняга боку ансамбля цягнулася другая алея, абсаджаная таполямі. У межах гэтай часткі парку стаяў круглы каменны стол на нізкай падстаўцы.

Палац утрымліваецца ў добрым стане, парк таксама ў асноўным захаваў кампазіцыйную форму. У парку растуць ліпы, ясені, клёны, вязы. Групы дрэў і асобныя дрэвы (салітэры) спалучаюцца з невялікімі палянамі. У 2-й палове XIX ст. у парку з'явіліся экзатычныя дрэвы. Паступова ён набываў рысы натуралістычнага парку.

У Начы захаваліся рэшткі сонечнага гадзінніка і вельмі рэдкія для Беларусі віды раслін. Старэйшы ў рэспубліцы экзэмпляр арэха чорнага дасягае ў вышыню 25 м пры дыяметры ствала 81 см. Расце таксама конскі каштан васьмітычынкавы з Паўночнай Амерыкі. Раней на парадным фасадзе вілася адна з найпрыгажэйшых ліян з усходняга Кітая – вістэрыя кітайская.

Ансамбль – унікальны помнік палацава-паркавага мастацтва.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000481 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Падлессе | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000482 | Парк «Савейкі» | 1850 год | в. Савейкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Парк належыць да тыпу пейзажных перыяду рамантызму. Ён захаваў у асноўным элементы колішняй кампазіцыі. Яго парадная частка мае сіметрычную планіроўку. Уязная алея, абсаджаная елкай і клёнамі, даўжынёй больш за 450 м, перасякаецца з папярочнай алеяй сядзібы і выходзіць на вялікі роўны парадны партэр. Па перыметры цэнтральная частка партэра была абсаджана ружамі. З заходняга боку за невялікімі групамі дрэў знаходзіцца прамавугольнай формы сажалка, па берагах якой растуць вербы, ясені. За новым палацам размешчана пейзажная частка парку, якая завяршаецца сажалкай з выспамі. Уздоўж кампазіцыйнай восі чаргуюцца невялікія паляны і групы дрэў, пераважна ліп і клёнаў. У большасці груп дамінуючым відам застаецца лістоўніца.

Ва ўсходняй частцы на месцы колішняга саду створаны суцэльны грабавы масіў, як і з паўднёва-ўсходняга боку. З-за высокай шчыльнасці пасадкі пад грабавымі кронамі няма зялёнага покрыва.

Паўднёва-заходняя частка парку складаецца з трох сажалак рознай велічыні і формы з кароткімі каналамі (пратокамі) і дамбамі. Усе сажалкі злучаліся праз канал з партэрным вадаёмам. Акружны канал, які ахінаў парк з поўдня і захаду, меў меліярацыйнае значэнне, таму што ён быў звязаны з сажалкамі, а лішкі вады адводзіў у суседняе балота. Кампазіцыя з сажалкамі, створаная ў рамантычнай традыцыі, з'яўляецца найбольш лірычным месцам парку. Яе галоўным элементам быў востраў з мураванай альтанкай (не захавалася), да якой вёў перакідны масток (адноўлены ў 1999 г. з дрэва).

З усходу сядзіба была абсаджана ліпамі, елкамі і таполямі, з захаду мяжой служыў неглыбокі канал.

Да сённяшніх дзён у парку захаваліся карабельныя сосны ўперамешку з грабам. Добра бачны невялікі вал, які паказвае, што некалі ў парку існаваў звярынец.

## Маларыцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000483 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Маларыта,<br>вул. Савецкая,<br>у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000484 | Брацкая магіла | 1946–1950 гады | г. Маларыта,<br>на старых могілках | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000485 | Брацкая магіла танкістаў | 1939 год | г. Маларыта,<br>на могілках | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000486 | Магіла ахвяр фашызму | 1941–1944 гады | г. Маларыта,<br>на могілках | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000487 | Свята-Мікалаеўская царква | XIX стагоддзе | г. Маларыта,<br>вул. Чырвонаармейская | 3 | 26.04.2005<br>№ 108 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000488 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Антанова,<br>3 км на паўночны захад,<br>урочышча Панскае | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000489 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Антанова | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000490 | Стаянка-1 перыяду мезаліту | 9–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Арэхава,<br>на поўнач ад вёскі,<br>на беразе воз. Арэхаўскае,<br>0,5 км на поўнач ад дома лесніка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000491 | Стаянка-2 перыяду палеаліту і мезаліту | 10–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Арэхава,<br>2 км на паўночны ўсход,<br>на схіле ўзгорка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000492 | Стаянка-3 перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Арэхава,<br>на паўднёвым беразе<br>воз. Арэхаўскае | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000493 | Магіла ахвяр фашызму | 1944 год | в. Багуслаўка | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000494 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Боркі | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000495 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Боркі | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000496 | Магіла ахвяр фашызму, курган Памяці | 1942–1943 гады | в. Брадзяцін | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000497 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Велікарыта | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000498 | Магіла В.В. Абрамук | 1941–1944 гады | в. Велікарыта | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000499 | Магіла савецкіх партызан і ахвяр фашызму | 1941 год | в. Гвозніца | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000500 | Свята-Успенская царква | пачатак XIX стагоддзя | в. Гвозніца | 3 | 26.04.2005 № 108 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000501 | Царква Раства Багародзіцы з брамай і агароджай | другая палова XVII стагоддзя | в. Дарапеевічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. У 1902 г. з усходняга боку да царквы прыбудавана апсіда. У 1964 г. прыход скасаваны. Царква адноўлена ў 1988 г. Помнік драўлянага дойлідства.

Храм мае падоўжна-восевую кампазіцыю. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём накрыты вальмавым дахам. З заходняга боку да яго прыбудавана чацверыковая вежа-званіца, падзеленая прычолкамі на два ярусы. Высокі ніжні ярус служыць бабінцам, верхні ярус завершаны чатырохгранным шатром. Сцены складзены з бруса і прарэзаны аконнымі праёмамі. Будынак звонку ашаляваны. Асноўнае памяшканне зальнае. Над уваходам размешчаны хоры. У інтэр'еры алтарная частка аддзелена ад асноўнага аб'ёму разным іканастасам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000502 | Брацкая магіла партызан | 1942 год | в. Забалацце | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000503 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Лешніца | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000504 | Магіла мірных жыхароў | 1942 год | в. Лешніца | 3 | 24.02.2006 № 94 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000505 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Лукава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000506 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Лукава | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000507 | Стаянка-1 перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Лукава, 0,5 км на ўсход, на паўднёвым беразе воз. Лукаўскае, на поўдзень ад могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000508 | Стаянка-2 перыяду мезаліту і неаліту | 9–5-е тысячагоддзе да н.э. | в. Лукава, 3 км ад вёскі, на паўночна-заходнім беразе воз. Лукаўскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000509 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Ляхаўцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000510 | Царква Раства Багародзіцы са званіцай<br>іканастас царквы | 1713 год, сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Ляхаўцы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578, 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва як уніяцкая. У 1858 г. адноўлена, узведзена драўляная званіца. У 1964 г. царква закрыта, у 1988 г. адноўлена разам з прыходам. Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Храм трохзрубны, падоўжна-восевай кампазіцыі. Складаецца з прамавугольнага асноўнага аб'ёму, апсіды, бабінца з трапецападобным тамбурам. Першапачаткова зрубы мелі самастойныя вярхі, у паўночна-заходняй частцы над бабінцам была званіца. Асноўны аб'ём і бабінец накрыты агульным двухсхільным дахам, які пераходзіць у вальмавы над тамбурам. Алтарны зруб мае самастойнае паўвальмавае пакрыццё. Будынак звонку ашаляваны. Цэнтральны зруб прарэзаны спаранымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны барочнай двух'яруснӑй галоўкай.

Інтэр'ер зальны. Цэнтральны аб'ём завершаны пірамідальным скляпеннем. Унутраная прастора бабінца і асноўнага аб'ёму злучана шырокім праёмам складанага абрысу. У аб'ёме бабінца зроблены хоры. Алтар аддзелены іканастасам, створаным у 1830-я гг., мае скляпеністае перакрыцце. Абразы XVI–XVIII стст.: «Святы Мікалай Цудатворац», «Маці Божая Адзігітрыя» і «Спас Пантакратар», «Георгій Перамоганосец», «Маленне Іакіма і Ганны», «Барыс і Глеб».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Ж000511 | Іканастас капліцы | XVIII стагоддзе | в. Ляхаўцы | 2 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000512 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Макраны | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000513 | Магіла партызан і ахвяр вайны | 1941–1944 гады | в. Макраны | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000514 | Магіла ахвяр фашызму | 1943 год | в. Малінаўка | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000515 | Брацкая магіла партызан і мірных жыхароў | 1941–1944 гады | в. Масевічы | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000516 | Брацкая магіла | 1941 год | урочышча Мелавая Гара, на шашы Маларыта – Уладава | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000517 | Магіла партызана | 1943 год | в. Мельнікі,<br>4,6 км ад чыгуначнай станцыі Мельнікі,<br>у лесе | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000518 | Магіла партызана | 1943 год | в. Мельнікі,<br>1 км ад вёскі | 3 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000519 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Олтуш | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000520 | Праабражэнская царква<br>іканастас царквы | 1783 год | в. Олтуш | 2 | 28.02.2002<br>№ 71<br>28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудавана з дрэва. Спачатку царква ўключала прамавугольны асноўны аб'ём, завершаны квадратным у плане верхам, і вежу-званіцу з захаду, у ніжнім ярусе якой знаходзіліся бабінец і хоры. Унутраную прастору храма замыкаў вялікі разны алтар. Пасля рэканструкцыі трохзрубную падоўжную восевую кампазіцыю утвараюць прамавугольныя ў плане асноўны аб'ём, званіца і алтарная апсіда. Двух'ярусная чацверыковая званіца з шатровым дахам з галоўкай. У інтэр'еры алтарная частка аддзелена ад асноўнага аб'ёму разным іканастасам. Над уваходам размешчаны хоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000521 | Брацкая магіла паўстанцаў | 1939 год | в. Радзеж | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000522 | Брацкая магіла воінаў, партызан і мірных жыхароў | 1941–1944 гады | в. Радзеж | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000523 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Старое Забалацце | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113В000524 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–X стагоддзі | в. Струга, 8 км на захад, урочышча Крэст | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 112Г000525 | Праабражэнская царква | 1799 год,<br>1867 год | в. Хаціслаў | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Царква драўляная, трохзрубная, падоўжна-восевай кампазіцыі. Складаецца з прамавугольнага асноўнага аб'ёму, апсіды, бабінца з трапецападобным тамбурам. Першапачаткова зрубы мелі самастойныя вярхі, у паўночна-заходняй частцы над бабінцам была званіца. Асноўны аб'ём і бабінец накрыты агульным двухсхільным дахам, які пераходзіць у вальмавы над тамбурам. Алтарны зруб мае самастойнае паўвальмавае пакрыццё. Будынак звонку ашаляваны. Цэнтральны зруб прарэзаны спаранымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны барочнай двух'яруснай галоўкай.

З паўднёва-заходняга боку ад царквы, па адной з ёю восі, размешчана зрубна-каркасная званіца, падзеленая прычолкам на два ярусы. Верхні ярус прарэзаны арачнымі праёмамі і завершаны шатровым пакрыццём.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000526 | Магіла ахвяр фашызму | 1941–1944 гады | в. Чарняны | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Г000527 | Свята-Прачысценская царква | XIX стагоддзе | в. Чарняны | 3 | 26.04.2005<br>№ 108 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 113Д000528 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Язвін | 3 | 27.01.2004<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Пінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Е000529 | Гістарычны цэнтр г. Пінска: будынкі, збудаванні, планіровачная структура, ландшафт і культурны пласт на тэрыторыі, абмежаванай з захаду вул. Чарняхоўскага, з поўначы – вул. Завальнай, па мяжы дваровых тэрыторый дамоў № 1, 7, 9, 11, 13, 19, 25, 27 па гэтай вуліцы, вул. Кірава, уключаючы дваровыя тэрыторыі дамоў № 1, 13 па вуліцы Кірава, з усходу – вул. Савецкай, у тым ліку дома № 5 па вул. Іркуцка-Пінскай Дывізіі, дома № 2 па вул. Кулікова, дома № 3 на пл. Кастрычніка, па мяжы дваровых тэрыторый забудовы няцотнага боку дамоў № 1, 3 па вул. Кіеўскай, да перакрыжавання з вул. Альхоўскіх, ад перакрыжавання з вул. Дняпроўскай Флатыліі, па вул. Дняпроўскай Флатыліі, уключаючы дваровыя тэрыторыі дамоў № 39, 41 гэтай вуліцы, з поўдня – левым берагам р. Піна да перасячэння з вул. Чарняхоўскага | XVI–XX стагоддзі | г. Пінск, вул. Брэсцкая, 9, 11, вул. М. Горкага, 29, 31, 33, 34, 35, 36, 43, 46, 47, 50, 52, 55, 57, 60, 62, 63, 68, 70, 72, 74, вул. Дняпроўскай Флатыліі, 5, 11, 33, 35, 37, 39, 41, вул. Завальная, 1, 7, 9, 11, 13 16, 19, 18, 27, 32, 39, вул. Заслонава, 3, 8, 10, 12, 13, 17, вул. Іркуцка-Пінскай Дывізіі, 2, 4, 5, 6, 8/13, ул. Камсамольская, 1, 2, 5, 6, 8, 14, 19, 21, 29, 39, 41, вул. Каржа, пл. Кастрычніка, 3, 6, вул. Кіеўская, 1, 3, 7, вул. Кірава, 1, 2а, 4, 13, вул. А. Кулікова, 2, вул. Леніна, 4, 5, 8, 8а, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 17, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 31, 33, 34, 36, 37, 38, 39, 40, 41, 42, 43, 45, 47, 51, 53, 55, дзот (на левым беразе р. Піна, каля моста), пл. Леніна, 12, 16, 18, 20, 22а, 22б, 29, 31, 33, 35а, вул. Першамайская, 8, 9, 10, 12, 15, 16, 18, 19, 20, 21, 22, 24, 25, 26, вул. Равецкая, 4, 6, 8, вул. Савецкая, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 19, 20, 22, вул. В. Харужай, 4, 7, 9, 11, 12, 13, 14, 16, 19 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пачатак фарміраванню горада паклаў дзядзінец на беразе ракі Піна, у месцы зліцця яе з Прыпяццю. У XI–XIII стст. вакол яго склаўся ўмацаваны валам і ровам навакольны горад. Дзядзінец размяшчаўся ў межах сучасных вуліцы Чайкоўскага і заходняй часткі плошчы Леніна, навакольны горад – вуліцы Горкага і ўсходняга боку плошчы. У XIV ст. навакольны горад пашырыўся на ўсход, яго мяжа прайшла па сучаснай вуліцы В. Харужай. Тут у сістэме ўмацаванняў размясціўся францысканскі кляштар, заснаваны ў 1396 г. Археалагічныя раскопкі сведчаць пра радыяльна-паўкальцавую планіроўку вакольнага горада. Напрамкі вуліц XIII і XIV ст. захоўваліся да канца XVIII ст.

У XVI ст. у Пінску існавалі замак, 14 цэркваў, францысканскі і праваслаўны Варварынскі манастыры, уязныя брамы, Троіцкі мост цераз Піну і 25 вуліц. У замку знаходзіўся княжацкі, пасля старасцінскі палац, будынкі гарадской адміністрацыі, мураваны сабор Святога Дзмітрыя Данскога, царква Святога Фёдара, дамы гараджан. Побач з замкам сфарміравалася гандлёвая плошча, у забудову якой уваходзіла ратуша 1628 г., гандлёвыя рады, езуіцкі калегіум з касцёлам 1631–1635 гг., уніяцкая царква. Паблізу плошчы ў 1506 г. заснавана сінагога. У 1666 г. закладзены драўляны кляштар дамініканцаў, у 1770 г. узведзены мураваны. Да 1510 г. адносіцца закладка мураванага францысканскага касцёла, да 1712–1730 гг. – карэнная рэканструкцыя ўсяго кляштара, а да 1817 г. – будаўніцтва ў ім званіцы.

У XVI і XVII стст. Пінск меў тры паясы абарончых збудаванняў: замак, паўкальцо ўмацаванняў прыкладна па трасе сучасных вуліц Горкага і В. Харужай, паўкальцо ўмацаванняў па трасе вуліц Завальнай і Равецкай. Пінск гэтага часу апісаў у пачатку XX ст. вядомы гісторык А.С. Грушэўскі. Частка горада, што прымыкала да замка і была абмежавана другім поясам умацаванняў, называлася «паркан» і ўключала найбольш самавітую забудову. Тут знаходзіліся цэрквы: Мікалаеўская і Троіцкая мураваныя, Міхайлаўская і іншыя. Троіцкая царква стаяла ля Троіцкага моста і ўваходзіла ў агульную сістэму абароны. Відаць, тэрыторыя «паркана» адпавядала навакольнаму гораду XIII–XIV стст. Тэрыторыя паміж другім і трэцім паясамі ўмацаванняў называлася «мяста». Кварталы тут былі больш рэдкай забудовы, якая чаргавалася з сельскагаспадарчымі ўгоддзямі.

У 1553–1555 і 1565 гг. праводзіліся так званыя памеры горада. Калі землі прыватных уласнікаў уразаліся ў тэрыторыю дзяржаўных маёнткаў, праводзілася спрашчэнне межаў, экспрапрыяцыя некаторых прыватнаўласніцкіх маёнткаў з надзяленнем зямлёй у іншым месцы.

Пашырэнне адбывалася за кошт павелічэння колькасці ўчасткаў домаўладанняў і суправаджалася пракладкай новых вуліц і падаўжэннем старых. У той жа час рост насельніцтва выклікаў драбленне ўчасткаў, якія ў цэнтры зменшыліся ў 2–1,6 раза; на ўскраінах іх памеры павялічваліся. Пры гэтым новыя ўчасткі на перыферыі былі меншыя за старыя ў цэнтры, што прывяло да змяншэння ў сярэднім сядзібных надзелаў.

Як і многія гарады, у XVII–XVIII стст. Пінск неаднойчы разбураўся ў час ваенных дзеянняў. Замак спалены ў час антыфеадальнай вайны 1648–1651 гг. на Беларусі, моцна пацярпеў у вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг., а таксама ў Паўночную вайну 1700–1721 гг., калі горад разрабавалі войскі Карла XII.

Уяўленне аб няправільнай радыяльна-паўкальцавой планіровачнай сетцы і размяшчэнні асноўных будынкаў дае «План Мінскай губерні павятовага горада Пінска» канца XVIII ст. Замак і гандлёвая плошча служылі месцам сыходжання вуліц. Аднак невялікі замак адыгрываў у плане горада меншую ролю, чым, напрыклад, у Полацку. Вылучаліся дзве асноўныя паўкальцавыя магістралі: адна разгаліноўвалася каля дамініканскага кляштара, другая, якая адпавядала сучаснай Завальнай вуліцы, абмяжоўвала горад на поўначы і захадзе. Пад канец XVIII ст. ужо не існаваў другі пояс абарончых збудаванняў, аднак замак і ўсю тэрыторыю Пінска яшчэ абкружалі равы. Гарадскія вуліцы былі пераменнай шырыні, кварталы разнастайных, няправільных абрысаў.



Усходнюю частку горада займала прадмесце Каралін, якое забудоўвалася з канца XVII ст. Яго кварталы мелі прамавугольную канфігурацыю (у межах сучасных вуліц Савецкай, Кірава, Насырава, Дняпроўскай Флатыліі). У 1701 г. князем М. Вішнявецкім паблізу жылой забудовы прадмесця па-



чата ўзвядзенне палаца з землянымі ўмацаваннямі – чатырма вуглавымі бастыёнамі і курцінамі, аднак у 1706 г. пад час Паўночнай вайны ён быў разбураны дашчэнту.

У першай палове XIX ст. складзены праект рэгулярнай перапланіроўкі Пінска. Яго развіццё ў параўнанні з канцом XVIII ст. добра ілюструе план 1856 г. Пры значнай трансфармацыі вулічнай сеткі захавалася радыяльна-паўкальцавая схема. Узбуйненыя кварталы атрымалі правільныя абрысы, вуліцы – раўнамерную шырыню. Цалкам засталася траса галоўнай вуліцы, што выклікана наяўнасцю капітальнай забудовы (Вялікая Францысканская, у пачатку XX ст. – Вялікая Кіеўская, у 1920–1930-я гг. – Касцюшкі, пазней Леніна). Іншыя радыяльныя вуліцы – Брэсцкая, Ганчарская (З. Касмадзям'янскай), Пецярбургская (Першамайская), Папярочная Школьная (Бялова) – замянілі няправільныя, свабодна сфарміраваныя радыяльныя напрамкі. Пераемнасць прасочвалася і ў рэканструкцыі Караліна, вуліцы якога толькі нязначна змянілі сваю канфігурацыю.

Сучасная вулічная сетка з'яўляецца вынікам рэгулярнай перапланіроўкі. Пры гэтым усе вуліцы можна падзяліць на тры тыпы. Да першага тыпу адносяцца тыя, сённяшнія абрысы якіх склаліся яшчэ да перапланіроўкі: вуліца Леніна і большасць трас прадмесця Каралін. Другі тып – вуліцы, якія ў працэсе рэканструкцыі змяніліся нязначна: выраўнаваны адзін альбо абодва іх бакі пры ранейшых напрамку і агульных абрысах. Трэці тып – вуліцы, пракладзеныя нанава, але з улікам напрамкаў вуліц і тупікоў, якія існавалі раней.

Пры перапланіроўцы пашырылася галоўная плошча, яе бакі сталі прамалінейнымі. Захаваліся асноўныя будынкі, за выключэннем ратушы, якая да сярэдзіны XIX ст. ужо не існавала. На месцы драўляных карпусоў гандлёвых радоў пабудаваны два мураваныя, якія ў плане прыкладна паўтарылі абрысы старых, што сведчыць аб прынцыпе традыцыйнасці ў фарміраванні плошчы. Для паляпшэння функцыянавання перад імі дадаткова былі створаны адкрытыя прасторы. Не ажыццявілася рэканструкцыя заняпалага замка, якая меркавалася ў праекце.

Сістэма вуліц эпохі класіцызму з'явілася асновай для далейшага развіцця горада і да пачатку XX ст. не змянілася. У цэнтры дазвалялася толькі мураванае будаўніцтва. Тэрыторыя рэгламентаванай забудовы цягнулася ўздоўж сучасных вуліц Брэсцкай, Першамайскай, плошчы Леніна, уключала кварталы паміж набярэжнай і вуліцамі Каржа (Папярочнай Школьнай), Заслонава (Плеўскай), Кірава (Купецкай, альбо Вялікай Альбрэхтаўскай) і Насырава (завулкам Папярочным Замкавым).

У 1920–1930-я гг., калі Пінск уваходзіў у склад Польшчы, у вялікіх аб'ёмах ажыццяўлялася выбарачнае будаўніцтва, якое не ўнесла значных змен у прасторавую структуру цэнтральнай часткі горада. Новыя будынкі служылі гарманічнымі дапаўненнямі існуючай забудовы. Гэты кароткачасовы перыяд, як і папярэднія эпохі, вызначаецца архітэктурнай стылістыкай – самастойнай культурнай з'явай у гісторыі развіцця гарадскога асяроддзя. У адрозненне ад многіх іншых населеных месцаў, разбурэнні Пінска ў час Вялікай Айчыннай вайны былі невялікія. У першыя пасляваенныя гады пашкоджаныя жылыя і грамадскія старыя збудаванні рэканструяваліся, новыя будынкі дапаўнялі традыцыйную кампазіцыю горада.

У 1960-я гг. праявілася тэндэнцыя актыўнага ўварвання ў гістарычнае гарадское асяроддзе. Знішчаны былы езуіцкі касцёл, які ацалеў у час вайны. Страчаны цікавая двух'ярусная аркада, што прымыкала да галоўнага фасада храма, а таксама будынак езуіцкай аптэкі, манастырская агароджа з брамамі і інш. Дзеля расшырэння прасторы плошчы знесены карпусы гандлёвых радоў – традыцыйны і характэрны элемент ансамбля, не засталося і гістарычнай жылой і грамадскай забудовы паўночнага боку. Замест рэстаўрацыі знесены рэшткі манументальнай сінагогі, рэдкага па сваёй тыпалогіі помніка, закладзенага яшчэ ў пачатку XVI ст. Страчаны існаваўшы яшчэ ў 1950-я гг. на перакрыжаванні вуліц Горкага і Першамайскай дамініканскі касцёл (з 1857 г. – саборная Праабражэнская царква, з 1865 г. – Фёдараўскі сабор), які дамінаваў над большасцю збудаванняў горада. Разбураны таксама яго вялікі кляштарны корпус з унутраным дваром.

Шэраг горадабудаўнічых памылак і рэканструкцыйныя дзеянні 1970, 1980 і пачатку 1990-х гг. моцна парушылі цэласнасць старажытнага раёна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Е000530 | Квартал забудовы ў межах вуліц Першамайскай – Горкага – Бялова і Дома культуры | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | г. Пінск | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000531 | Будынак | другая палова 1930-х гадоў | г. Пінск, вул. Дняпроўскай Флатыліі, 29 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000532 | Гарадзішча старажытнага Пінска | XI–XIII стагоддзі | г. Пінск, у межах вуліц Горкага, Першамайскай, усходняй мяжы пл. Леніна, на левым беразе р. Піна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000533 | Будынак былога сінематографа «Сінема-Казіно» | 1902 год | г. Пінск, вул. Каржа, 19/10 (вул. В. Харужай) | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000534 | Касцёл Карла Барамеуша | 1770–1782 гады | г. Пінск, вул. Кірава, 37 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Першапачаткова з'яўляўся касцёлам кляштара ордэна камуністаў. У адпаведнасці са статутам, члены ордэна жылі абшчынай (камунай) і мелі агульную касу даходаў. На тэрыторыі Беларусі кляштар ордэна камуністаў існаваў толькі ў Пінску. У Пінску члены ордэна асталяваліся дзякуючы дапамозе маршалка Вялікага княства Літоўскага Яна Караля Дольскага і яго жонкі Ганны, якія ў 1695 г. ахвяравалі на будаўніцтва кляштара пляц і 50 000 польскіх злотых. На гэтыя сродкі на ўсходняй ускраіне горада, якая атрымала назву Каралін, быў пабудаваны драўляны кляштар з касцёлам.

У 1770 г. на месцы драўлянага на сабраныя і ахвяраваныя сродкі члены ордэна пачалі будаўніцтва новага мураванага храма. Узвядзенне касцельнага будынка было завершана ў асноўным да 1782 г., аднак асвячэнне яго пад тытулам святога Карла Барамеуша, як сведчаць дакументальныя крыніцы, адбылося толькі ў 1784 г.

У канцы XVIII ст. ордэн камуністаў прыйшоў у занепад. Многія яго кляштары былі закрыты, а манахі размеркаваны па розных парафіях.

Пасля закрыцця кляштара касцёл стаў прыпісным (галоўным касцёлам у Пінску з'яўляецца касцёл Успення Дзевы Марыі кляштара францысканцаў), але да 1860 г. знаходзіўся ў запушчаным стане – не было сродкаў на яго рамонт. Толькі пасля збору добраахвотных ахвяраванняў гэта пытанне было паспяхова вырашана: сцены касцёла пабялілі ўнутры і звонку, а адрамантаваны дах накрылі новай чарапіцай. Нанава адрамантаваны касцёл быў асвячоны пад назвай Святой Тройцы. Ён амаль не быў пашкоджаны ў час Вялікай Айчыннай вайны і дзейнічаў да 1960 г.

Пасля закрыцця касцёла (у 1960-я гг.) ён выкарыстоўваўся рознымі арганізацыямі. У 1980 г. у будынку былі праведзены рэстаўрацыйныя работы. Цяпер будынак былога касцёла выкарыстоўваецца для размяшчэння мастацкіх выставак і правядзення музычных вечароў.

Будынак уяўляе сабой прамавугольны ў плане аднанефавы храм, без вылучанай апсіды. З боку галоўнага фасада да касцёла далучаецца двух'ярусная званіца з шатровым дахам і купалам. Таўшчыня сцен у асобных месцах перавышае 2 м. Бакавыя з іх прарэзаны невялікімі арачнымі вокнамі і расчлянёны лапаткамі. Інтэр'еру залы надае ўрачыстасць і манументальнасць высокае крыжовае скляпенне. У нартэксе (уваходная частка) касцёла зроблены галерэя (хоры) і лесвіца, якая ўмуравана ў моцную сцяну званіцы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Ж000535 | Помнік У.І. Леніну | 1970 год | г. Пінск, пл. Леніна | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000536 | Будынак былога калегіума езуітаў | 1631–1675 гады | г. Пінск, пл. Леніна, 22 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Езуіты ў Пінску з'явіліся ў 1631 г. па дазволу вялікага канцлера літоўскага Альбрыхта Станіслава Радзівіла, які з 1623 г. з'яўляўся старостам віленскім і пінскім. Па яго фундацыі ў цэнтры горада, каля старажытнага замчышча, пачалося будаўніцтва мураваных будынкаў касцёла (знішчаны ў сярэдзіне XX ст.) і калегіума.

Галоўны фасад касцёла размяшчаўся амаль у адну лінію з падоўжным фасадам вялізнага трохпавярховага Г-падобнага ў плане будынка калегіума, узведзенага ў 1635–1648 гг. На генеральным плане Пінска канца XVIII ст. бачна, што паміж касцёлам і калегіумам наперад ад іх чырвонай лініі выступаў у бок плошчы невялікі, таксама мураваны, будынак аптэкі. Гэта характэрная рыса дзейнасці езуітаў: свае лячэбныя ўстановы яны звычайна выносілі ў месцы найбольш даступныя для парафіян. У комплекс, абнесены мураванай сцяной, уваходзілі асобныя будынкі шпіталя, канвікта і бурсы. З 1638 г. пры калегіуме існавала філасофска-тэалагічная школа, дзе выкладалі вядомыя езуіты-палемісты Нарушэвіч і Баболя. У 1729 г. тут жа пачала працаваць уласная друкарня.

Калегіум – трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак паўднёвым фасадам арыентаваны да набярэжнай ракі Піна. Планіроўка першага паверха галерэйна-калідорная. Тут размяшчаліся класы, трапезная, службовыя памяшканні. Другі і трэці паверхі спланаваны па калідорнай сістэме з трохпралётнай схемай перакрыццяў. Крыжовыя скляпенні апіраюцца на масіўныя падоўжныя сцены. Тут былі жылыя і рабочыя памяшканні. Пад збудаваннем зроблены склепы. Рытм фасадаў ствараецца аконнымі праёмамі з ляпнымі абрамленнямі і крокамі пілястраў двух ніжніх ярусаў. Паўднёва-заходні вугал фланкіруе шасцігранная вежа-контрфорс, што ўмацоўвае сцены пры паніжэнні рэльефу да ракі. Будынак завершаны двухсхільным дахам з заломам. Яго тарцы ўпрыгожаны складанымі франтонамі з дэкаратыўнымі валютамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000537 | Будынак | 1925–1928 гады | г. Пінск, вул. Леніна, 2 | 3 | 24.10.2001 № 68 | 14.05.2007 № 578 |
| 111Г000538 | Ансамбль былога кляштара францысканцаў у межах агароджы<br><br>дэкаратыўнае ўбранне касцёла:<br><br>6 алтароў са скульптурай<br><br>амбон<br><br>роспісы скляпенняў<br><br>2 фрэскі ў бакавых алтарах | 1510 год, 1712–1730 гады<br><br><br><br>XVIII стагоддзе<br><br>XVIII стагоддзе<br><br>1909 год<br><br>1909 год | г. Пінск, вул. Леніна, 18 | 1 | 24.10.2001 № 68, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

У 1396 г. быў закладзены драўляны касцёл і кляштар па фундацыі князя Жыгімонта Кейстутавіча. Пабудовы кляштара першапачаткова былі драўляныя. У 1510 г. па фундацыі караля Жыгімонта I Старога на месцы драўлянага касцёла быў збудаваны мураваны. Касцёл, верагодна, меў бязвежавае вырашэнне фасада нартэкса. У 1612 г. драўляны кляштар згарэў. Але праз дзевяць гадоў манахі аднавілі яго. З пісьмовых крыніц вядома, што кляштарны комплекс, які ў 1648 г. пацярпеў ад набегаў казакаў, у 1651 г. быў адбудаваны.



У час Паўночнай вайны ў 1706 г. кляштар і касцёл былі моцна разбураны. На працягу 1712–1730 гг. узведзены новы мураваны касцёл з кляштарам, якія захаваліся да нашага часу. Пры будаўніцтве касцёла выкарыстаны падмуркі папярэдняга храма XVI ст.

Існуючы кляштар уяўляе сабой комплекс пабудоў у межах мураванай агароджы ў квартале паміж вуліцамі Леніна, В. Харужай, Дняпроўскай Флатыліі і Камсамольскай. У склад уваходзяць касцёл, жылыя і службовыя кляштарныя карпусы, вежа-званіца, агароджа з брамамі.

Раней у агароджы існавалі тры брамы (з боку касцёла, ракі і дзядзінца) і двое весніц. За брамай з боку горада адкрываецца невялікі дворык перад фасадам касцёла і барочным фасадам з галоўным уваходам у кляштарны корпус. Касцёл арыентаваны алтарнай часткай на ўсход. Злучаны з ім замкнуты кляштар, які складаецца з трох карпусоў з клуатрам, размешчаны з паўднёвага боку. З заходняга боку двара замкнутай сістэмай карпусоў сфарміраваны яшчэ адзін унутраны дворык.

Касцёл – аднанефавы храм з прыбудаванымі да яго капліцамі. Цэнтральны неф і крыху вузейшая за яго паўкруглая апсіда з прэсбітэрыем накрыты стромкім чарапічным дахам, завершаным у месцы злучэння аб'ёмаў гранёнай вежачкай. Капліцы пад аднасхільнымі чарапічнымі дахамі. Галоўны фасад расчлянёны на тры ярусы і завершаны складаным франтонам з дзвюма вежамі па баках. Фасад дэкарыраваны пілястрамі, раскрапаванымі карнізамі, філянговымі нішамі і паяскамі. Бакавыя фасады раскрапаваны лапаткамі. Сцены капліц прарэзаны паўцыркульнымі вокнамі нефа і алтарнай апсіды – прамавугольнымі вокнамі з лучковымі завяршэннямі. Неф і прэсбітэрый перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках.



У інтэр'еры пазалочаныя алтары XVIII стагоддзя (шэсць драўляных і адзін стукавы). У іх складаныя кампазіцыі ўключана шмат драўлянай скульптуры і дэкаратыўная арнаментальная разьба, выкананая ў стылі барока. Найбольш багата аформлены галоўны алтар, які замыкае перспектыву інтэр'ера храма. Першы яго ярус аздабляюць скульптуры апосталаў Пятра і Паўла, завяршае антаблемент з разарваным франтонам, дзе размешчана гарэльефная кампазіцыя «Стыгматызацыя Св. Францыска». Урачысты лад галоўнага алтара падкрэсліваюць бакавыя алтары з драўлянымі скульптурамі святых і разным абрамленнем алтарнага жывапісу. На гранях разнога амбона – рэльефныя выявы чатырох евангелістаў з атрыбутамі. Балдахін амбона, аздоблены ажурнай глыбокай разьбойраслінных матываў, завершаны статуяй архангела з вагамі. Дэкаратыўная разьба, драўляныя скульптуры апосталаў, пуцці і іншыя фігуры пазалочаны і пасярэбраны, што надае інтэр'еру ўрачысты і багаты выгляд.



Чатыры ўзаемна перпендыкулярныя двух- і трохпавярховыя корпусы разам з касцёлам утвараюць некалькі дворыкаў. Пабудовы маюць плоскасныя фасады, рытм якіх ствараецца прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Тарцы завершаны барочнымі франтонамі складанага профілю. Фасад з боку набярэжнай р. Піна вылучаны трыма рызалітамі, завершанымі фігурнымі франтонамі. Цэнтральны рызаліт умацаваны магутнымі контрфорсамі. Паміж рызалітамі размешчаны балконы з лесвіцамі-пандусамі. Планіроўка калідорная, перакрыцці паверхаў скляпеністыя.

Дынамікай вызначаецца чатырох'ярусная вежа-званіца пачатку XIX ст. Ніжнія два ярусы ў плане чатырохвугольныя, верхнія два – васьміганныя. Ярусы падзелены карнізнымі паясамі. Фасадныя плоскасці прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, на першым – прамавугольнымі. Вуглы вежы вылучаны лапаткамі. Завершана вежа-званіца фігурным купалам.

Паміж касцёлам і званіцай стаяла калона з фігурай Ісуса Хрыста вышынёй 3 аршыны.

На кляштарным дзядзінцы знаходзіліся службовыя і гаспадарчыя пабудовы, з іх бровар мураваны і свіран вялікі на два паверхі. Бровар стаяў уздоўж агароджы з боку р. Піна. У ім было аддзяленне для лазні.

19 снежня 1852 г. па распараджэнні мінскага губернатара манахі-францысканцы пакінулі Пінск. Касцёл быў перададзены епархіяльнаму духавенству. У 1856–1860 гг. у касцёле праведзены рамонтныя работы.



У 1909 г. у касцёле працавалі варшаўскія мастакі Станіслаў Рудзінскі (роспіс у стылі мадэрн арнаментальнымі матывамі скляпенняў і падпружных арак) і Браніслаў Вішнеўскі (дзве фрэскі на сценах прэсбітэрыя «Зняцце з крыжа» і «Пакланенне звестуноў»).

Існуючы арган быў усталяваны ў 1836 г. віленскім майстрам Адальбертам Градніцкім. Галасы сканструяваў Рудніцкі. У 1930-я гг. арган быў рэканструяваны Вацлавам Бярнацкім. У наш час арган мае 36 рэгістраў, 27 дзеючых галасоў, у ім 1498 труб.

У 1920-я гг. паводле праекта архітэктара Г. Гая рэканструяваны кляштарныя карпусы. 28 кастрычніка 1925 г. былы францысканскі касцёл, які быў да таго фарным, рымскі папа Пій XI узвёў у ранг кафедральнага сабора Пінскай епархіі.

У 1981–1986 гг. касцёл рэстаўрыраваны на сродкі парафіян. У сутарэннях касцёла знаходзіцца перанесенае сюды К. Свёнтакам пахаванне епіскапа Зыгмунта Лазінскага, памерлага 26 сакавіка 1932 г.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000539 | Будынак былога палаца Бутрымовіча | 1784–1790 гады | г. Пінск, вул. Леніна, 44 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |





Гарадскі суддзя Мацей Бутрымовіч спяшаўся закласці сваю рэзідэнцыю да візіту караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Праектаваў і кіраваў будаўніцтвам віленскі архітэктар К. Шыльдхаўз. Месца, выбранае пад будаўніцтва ў непасрэднай блізкасці ад старога, аплыўшага абарончага рова, аказалася не зусім удалым. У катлаван сталі паступаць грунтавыя воды. Фундамент умацавалі дубовымі палямі і драўлянымі калодамі і ўжо на іх узводзілі ўсе канструкцыі.

Затым на працягу амаль усяго XIX ст. палац знаходзіўся ва ўладанні буйных памешчыкаў Скірмунтаў. Знішчальны пажар спасціг будынак у 1901 г., але ў хуткім часе ён быў без змяненняў адноўлены. Яго П-падобная планіровачная канфігурацыя стварала ўтульны курданёр, шырока расчлянёны на парк, які спускаўся прама да р. Піна. З тыльнага боку, што выходзіць на вул. Леніна, забудовы не было, тут таксама быў разбіты сквер.

Архітэктура палаца ілюструе змену стылю барока класіцызмам, якая адбывалася ў агульнаеўрапейскім дойлідстве другой паловы XVIII ст. Пры ўсёй барочнай аб'ёмна-прасторавай пластычнасці фасады палаца атрымалі дадатковыя рысы класіцызму: чатырохкалонныя порцікі па тарцах бакавых крылаў, каланада з невялікай тэрасай на дваровым акруглым эркеры, моцны трыгліфны фрыз па перыметры, руст па вуглах, франтончыкі ліштваў прамавугольных акон. У планіроўцы палаца таксама захоўваўся барочны прынцып анфіладнай узаемасувязі памяшканняў, парадная частка якіх аб'яднана ў цэнтральным крыле вакол авальнай бальнай залы. У бакі ад яе «разбягаліся» каскады малых залаў і гасціных. Моцны ўплыў неаготыкі праявіўся тут у пазнейшай забудове галоўнага ўвахода з выкарыстаннем гатычных спічастых праёмаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000540 | Будынак | канец XIX–<br>пачатак<br>XX стагоддзя | г. Пінск, вул. Леніна, 49 | 3 | 24.10.2001<br>№ 68 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| 113Д000541 | Мемарыяльны комплекс «Помнік партызанам» | 1993–2002 гады | г. Пінск, вул. Першамайская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000542 | Будынак | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | г. Пінск, вул. Першамайская, 6 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Аднапавярховы з мансардным паверхам Г-падобны ў плане будынак, сучасныя двухпавярховыя прыбудовы ў дваровым садзе надаюць усяму комплексу складаную кампазіцыю. Двухсхільны дах мадэрнізаваны, мае сучасныя мансарды. Прамавугольныя аконныя праёмы на галоўным фасадзе дэкарыраваны лучковымі сандрыкамі. Завершаны фасад карнізам са ступеньчатымі сухарыкамі. Дваровыя фасады атынкаваныя, падзелены міжпаверхавай цягай, завершаны карнізам.

| 112Г000543 | Прыдарожная капліца | XVII–XVIII стагоддзі | г. Пінск, вул. Пучкова | 2 | 22.06.2004 № 98 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Капліца пабудавана на мяжы XVII–XVIII стст. як прыдарожная пры выездзе з горада па дарозе Пінск – Брэст. Паводле некаторых звестак, была пастаўлена ў памяць аб ахвярах эпідэміі халеры, якая забрала жыцці тысячы жыхароў горада.

Трох'яруснае, цэнтрычнае, квадратнае ў плане вежападобнае збудаванне. Чацверыковыя ярусы, змяншаючыся па памерах, надаюць кампазіцыі вертыкальную дынаміку. Завяршэнне не захавалася. Ніжнія ярусы раскрапаваны плоскімі нішамі з лучковымі завяршэннямі і адной нішай-табернакулам. Верхні скразны ярус прызначаўся для сакральнай скульптуры. Фасад атынкаваны, дэкарыраваны прафіляванымі карнізнымі паяскамі. Вуглы афармлены пілястрамі.

| 113Д000720 | Помнік на месцы забойства ахвяр фашызму – вязняў Пінскага гета | 1993 год, 2005 год | г. Пінск, вул. Пушкіна | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000544 | Ансамбль былога кляштара бернардзінцаў:<br><br>Варварынская царква<br><br>роспіс алтарнай часткі<br><br>кляштарны корпус<br><br>званіца | 1786 год, XIX – першая палова XX стагоддзя | г. Пінск, вул. Савецкая, 36 | 2 | 28.02.2002 № 71<br>28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Кляштар бернардзінцаў з касцёлам Св. Міхаіла ў Пінску быў заснаваны дзякуючы фундушу, дадзенаму 16 студзеня 1705 г. вялікім канцлерам літоўскім Міхаілам Вішнявецкім і яго жонкай Кацярынай з Дольскіх. Да 1717 г. у прадмесці Каралін быў пабудаваны драўляны комплекс бернардзінскага кляштара.

Затым на працягу 1770–1786 гг. быў пабудаваны мураваны касцёл, асвячоны 13 студзеня 1787 г.

Брама з надбудаванай аднаяруснай званіцай. Арачны праём брамы фланкіраваны плоскімі лапаткамі, афармлены абрамленнем з замковым каменем. Гарызантальна брама-званіца падзелена карнізным поясам. Званіца прамавугольная ў плане, накрыта двухсхільным дахам. Пад дахам, а таксама па перыметры франтона праходзіць карніз з мадульёнамі. Галоўны і тыльны фасады званіцы раскрапаваны плоскімі лапаткамі, прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены арачнымі надаконнымі нішамі і падаконнымі філёнгамі.

У 1795 г. на ўваходзе на тэрыторыю кляштара была пабудавана асобна размешчаная двух'ярусная званіца, накрытая дахоўкай. У першым ярусе званіцы месцілася брама, на другім – чатыры аднолькавай велічыні званы. Званіца была прамавугольная ў плане, сцены атынкаваныя. З аднаго боку брамы размяшчалася лесвіца, з другога – каморка.

У 1828–1829 гг. да касцёла быў прыбудаваны двухпавярховы кляштарны корпус, які прымыкаў да сакрысційнага пакоя касцёла. На першым паверсе знаходзіліся келлі, службовыя памяшканні, кладоўкі, кухня з пякарняй, трапезная. На другім паверсе – 15 брацкіх келляў і бібліятэка.

У 1857 г. будынкі былога бернардзінскага кляштара перададзены пінскаму Свята-Варварынскаму жаночаму манастыру, заснаванаму ў 1520 г. Манастырскі корпус у той час уяўляў сабой двухпавярховы будынак, на першым паверсе якога было дзевяць пакояў для сясцёр, а на другім – 11. Царква мела 10 акон, была добра пабелена, асобныя часткі пафарбаваны. Гаспадарчыя будынкі былі драўляныя, з двух бакоў манастыр акружаў пладовы сад.



У 1858 г. былы касцёл пераабсталяваны ў царкву. А ў 1865 г. над двухсхільным дахам быў надбудаваны цыбулепадобны купал на васьміграннным барабане. У гэтым выглядзе храм захаваўся да нашых дзён: аднанефавы бязвежавы храм. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму далучаны развіты прэсбітэрый з паўкруглай апсідай. Памяшканні перакрыты цыліндрычнымі з распалубкамі скляпеннямі на падпружных арках. Пад храмам зроблены склепы, перакрытыя двума пралётамі масіўных крыжовых скляпенняў. У сценах трапляюцца рады плінфы. Будынак завершаны двухсхільным дахам з атыкавым франтонам складанага абрысу. У дэкоры фасадаў – пілястры, раскрапаваныя карнізы, пояскі, абрамленні акон. Галоўнае зальнае памяшканне, у заходняй частцы якога знаходзяцца хоры, што апіраюцца на два слупы, непасрэдна пераходзіць у прэсбітэрый. Скляпенні ад сцяны аддзяляе прафіляваны карніз. У апсідзе ён пераходзіць у маляваны арнаментальны фрыз, які падзяляе выкананы ў тэхніцы грызайль у традыцыях ранняга класіцызму роспіс алтарнай часткі на два ярусы. У ніжнім ярусе імітуюцца архітэктурныя формы карынфскага ордэра (паўратонда з дзвюма галерэямі, якія разыходзяцца ў два бакі). Столь паўратонды арнаментавана кесонамі. Адпаведны дэкор – на падпружных арках зальнага памяшкання. У консе над лучковымі вокнамі, які абрамляе стылізаваны раслінны арнамент, намаляваны невялікія плафоны. Паміж імі роспіс «Маці Божая з дзіцем» (пачатак XX ст.).



Пасля скасавання манастыра ў 1874 г. царква стала прыходскай. На працягу ўсёй гісторыі дзейнічала.

Манастырскі будынак быў перададзены грамадзянскаму ведамству і ў 1875 г. большая яго частка прыстасавана пад гарадскую бальніцу. Сучасны стан былога манастырскага корпуса, у якім і цяпер размешчана бальніца, сведчыць, што пад час рамонтаў XIX ст. былі зроблены два тамбуры на галоўным фасадзе, з боку дваровага фасада арганізаваны ўваход з лесвічнай клеткай.

У 1993 г. дзейнасць Свята-Варварынскага манастыра адноўлена.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000545 | Будынак | другая палова XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Пінск, вул. Суворава, 43 | 2 | 13.09.1995 № 27 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынак: да асноўнага прамавугольнага аб'ёму з боку дваровага і паўднёвага тарцовага фасадаў прыбудаваны ніжэйшыя пад аднасхільнымі дахамі аб'ёмы. Другі паверх вырашаны ў выглядзе мансарднага, мае ламаны абрыс. У цэнтры галоўнага фасада размешчаны балкон з металічнай ажурнай агароджай. Галоўны і дваровы фасады на першым паверсе прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі без ліштваў, завершаны карнізам. На другім паверсе вокны прамавугольныя ў ліштвах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000546 | Будынак, у якім жыў народны пісьменнік Беларусі Якуб Колас | 1900 год | г. Пінск, вул. Чуклая, 63 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000547 | Мемарыяльны комплекс вызваліцелям | 1950–1960-я гады | г. Пінск, цэнтральны парк культуры і адпачынку | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Ж000548 | Бюст У.А. Ралько | 1981 год | в. Аснежыцы | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000549 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | III стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э. | в. Астравічы, 0,3 км на паўднёвы захад, на поўдзень ад дарогі на в. Сушыцк | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000550 | Крыжаўзвіжанская царква | 1864 год | в. Ахова | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Уяўляе сабой прамавугольны зруб, завершаны пяціграннай апсідай з бакавымі рызніцамі. Храм накрыты агульным гонтавым дахам з вальмамі над галоўным фасадам і алтарным прырубам. Над прытворам, які ўпісаны ў агульны аб'ём храма, узвышаецца вежа-званіца, завершаная фігурнай барочнай галоўкай. Ашаляваныя сцены ўмацаваны лапаткамі, апярэзаны прафіляваным карнізам і расчлянёны аконнымі праёмамі ў ліштвах. У інтэр'еры драўляны разны алтар XVIII ст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000551 | Стаянка-1 перыяду неаліту | 4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Ботава, 2 км на поўдзень, на востраве воз. Пагосцкае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000552 | Пакроўская царква | 1878 год | в. Бярозавічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства.

Царква мае трохчасткавую падоўжна-восевую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Да кубападобнага асноўнага аб'ёму прымыкаюць зруб прытвора і апсіды з бакавымі рызніцамі. Цэнтральны зруб накрыты чатырохсхільным пакатым дахам, завершаны па цэнтры двух'ярусным васьміграным барабанам з цыбулепадобнай галоўкай. Дахі прытвора і апсіды двухсхільныя. Над прытворам узвышаецца званіца. Гарызантальна ашаляваныя фасады дэкарыраваны разьбой па дрэве. Маецца абраз XVII–XVIII стст. «Узнясенне».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000553 | Стаянка, селішча | 5–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Востраў, 1 км на паўднёвы ўсход, на пясчаным узгорку левага берага р. Стыр | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000554 | Стаянка, селішча | 3–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Востраў, 0,5 км на ўсход ад дарогі на в. Ласіцк | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000555 | Ільінская царква | 1788 год | в. Вуйвічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў паўночна-заходняй частцы вёскі. Часткова перабудавана ў 1937 г. Помнік манументальнага народнага дойлідства.

Храм мае шматпланавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, якую фарміруюць зрубы званіцы, цэнтральнага аб'ёму з пяціграннымі прыдзеламі і апсіда з квадратнай рызніцай. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца чатырох'ярусная чацверыковая званіца з гранёным сферычным купалам і макаўкай у завяршэнне. Квадратны ў плане асноўны аб'ём мае двух'ярусную пабудову з чатырохсхільнымі перакрыццямі і цыбулепадобнай галоўкай на двух'ярусным васьмерыковым барабане ў завяршэнне. Унутры зала перакрыта самкнутым чатырохгранным скляпеннем на ветразях. Над бабінцам зроблены хоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000556 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Вылазы, 0,5 км на паўночны захад, 50 м на поўнач ад дарогі на в. Сошна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000721 | Царква Раства Багародзіцы | 1787 год | в. Вылазы | 3 | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113В000557 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку, ранняга сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – XIII стагоддзе н.э. | в. Гарадзішча, на заходняй ускраіне, на ўсходнім беразе воз. Гарадзішчанскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 112Г000558 | Троіцкая царква | XVIII стагоддзе | в. Дабраслаўка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана з дрэва. Помнік народнага дойлідства.

Асноўнае памяшканне і вузкі бабінец аб'яднаны ў адным прамавугольным зрубе пад двухсхільным дахам, пяціграння алтарная апсіда мае самастойны шматсхільны дах. У цэнтры даху пастаўлены васьмерыковы барабан з шатром. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, раскрапаваны лапаткамі. Вокны прамавугольныя, размешчаны высока і аздоблены ліштвамі. Сцяна галоўнага фасада завершана ўсечаным шчытом з прычолкам. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Над бабінцам – хоры.

| 112Г000559 | Капліца | сярэдзіна XVIII – першая палова XIX стагоддзя | в. Дубай | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Капліца захавалася ад комплексу сядзібных пабудоў. Васьміграннасць архітэктурнага аб'ёму, вуглавая крапоўка пілястрамі, складанасць абломаў, шлемападобнае фігурнае завяршэнне з гранёным ліхтаром надаюць капліцы барочную пластычнасць. Інтэр'ер упрыгожаны фрэскавым роспісам.

| 112Г000560 | Царква Раства Багародзіцы | 1811 год | в. Дубай | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Храм пабудаваны з цэглы на паўночнай ускраіне вёскі. Помнік архітэктуры класіцызму.

Складаецца з цэнтрычнага васьміграннага асноўнага аб'ёму і аднолькавых прамавугольных у плане апсіды і бабінца. Асноўны аб'ём накрыты гранёным купалам, завершаным галоўкай на глухім васьмігранным барабане. Двухсхільныя дахі над алтарнай часткай і бабінцам утвараюць па фасадах трохвугольныя франтоны. Бакавыя плоскасці фасадаў завершаны ступеньчатымі атыкамі. Сцены апсіды, бабінца і вуглы будынка руставаныя. Вялікія вокны з паўцыркульным завяршэннем. Дэкаратыўныя дэталі вылучаны белым колерам.

Васьмігранная форма асноўнага аб'ёму добра акрэслена ў інтэр'еры. Хоры падтрымліваюцца дзвюма драўлянымі калонамі. На сценах захаваўся роспіс 1885 г., выкананы ў тэхніцы грызайль, які імітуе архітэктурныя дэталі.

| 113Г000722 | Царква Параскевы Пятніцы | 1788 год | в. Жабчыцы | 3 | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000561 | Паселішча перыяду мезаліту, неаліту | 6–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Заазер'е, 0,2 км на поўнач, паміж воз. Гарадзішчанскае і р. Ясельда | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000562 | Былая сядзіба | 1920 год | в. Заполле | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Перад 1930 г. запольскі маёнтак стаў асноўнай рэзідэнцыяй Плятэраў пасля таго, як Пясэчна было раздзелена і распрададзена. У гэты час у Заполлі існаваў стары пейзажны парк, у якім Плятэры пабудавалі новы палац сярод цудоўных ліпавых шпалер і альтанак. Палац меў больш сціплы выгляд, чым папярэдні стары дом у Пясэчне, які быў знішчаны ў Першую сусветную вайну.

Шэраг айчынных даследчыкаў палацава-паркавай архітэктуры Беларусі лічаць, што Запольскі палац паходзіць з канца XVIII – пачатку XIX ст. На самай справе Запольскі палац пабудаваны ў 1920-я гг.

Палац яшчэ існуе да сённяшняга часу і знаходзіцца ў крайне занядбаным стане. Ён уяўляе сабой аднапавярховы драўляны будынак, накрыты гладкім чатырохсхільным дахам. Цэнтральны фасад у сярэдняй частцы вылучаны класічным высокім порцікам на чатырох мураваных калонах, над якімі ўзвышаецца трохвугольны шчыт з паўкруглым акенцам. З боку парку палац меў порцік, ідэнтычны франтальнаму, размешчаны па цэнтры фасада. Да фасада былі дабудаваны крылы, і таму палац з боку парку ў плане мае форму падковы.

Сцены палаца гарызантальна ашаляваныя, вокны прамавугольныя. Пакоі ў цэнтральнай частцы (залы і кабінеты) мелі анфіладную планіроўку, бакавыя крылы з жылымі і гаспадарчымі памяшканнямі – калідорную.

У парку растуць векавыя дубы, клёны, каштаны і іншыя мясцовыя пароды дрэў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000563 | Стаянка перыяду неаліту, бронзавага веку | 5–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Камень, 2 км на паўднёвы ўсход, каля гары Шаламіцкага, урочышча Ратне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000564 | Стаянка перыяду неаліту, бронзавага веку | 3–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Камень, на заходняй ускраіне, па берагах пратокі Вісліца і воз.Пагосцкае каля р. Бобрык | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000565 | Мікалаеўская царква | 1892 год | в. Купяцічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства.

Царква мае падоўжна-восевую кампазіцыю, якая складаецца з двух'яруснай званіцы (васьмярык на чацвярыку), квадратнага бабінца, васьміграннай малітоўнай залы і пяцiграннай апсіды. Цэнтральны аб'ём накрыты пакатым шатром, завершаным двух'яруснай галоўкай, званіца – гранёным шатром з макаўкай. Гарызантальна ашаляваныя фасады дэкарыраваны накладнымі аркатурнымі фрызамі, вуглавымі лапаткамі, ліштвамі з сандрыкамі прамавугольных аконных праёмаў. Да галоўнага і двух бакавых уваходаў вядуць ганкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000566 | Стаянка, селішча | 5–3-е тысячагоддзі да н.э., 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Курадава, 1 км на поўдзень, на левым беразе р. Прыпяць | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000567 | Троіцкая царква | другая палова XIX стагоддзя | г.п. Лагішын | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000568 | Петрапаўлаўскі касцёл | 1907–1909 гады | г.п. Лагішын | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000569 | Стаянка-2, селішча | 3-е тысячагоддзе да н.э., V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Ласіцк, 2 км на захад, у сярэдняй частцы пясчанага ўзгорка на левым беразе р. Стыр | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000570 | Царква Раства Багародзіцы | 1885 год | в. Лемяшэвічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва. Помнік народнага дойлідства з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю.

Асноўны квадратны ў плане зруб накрыты чатырохсхільным дахам з какошнікамі і чацверыковай галоўкай у цэнтры. Прамавугольная апсіда, сярэдні аб’ём і бакавыя прыбудоўкі надаюць царкве крыжападобны план. Пры ўваходзе – трох’ярусная шатровая званіца.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000571 | Стаянка і селішча перыяду неаліту, ранняга жалезнага веку | 5–3-е тысячагоддзі да н.э., 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Лемяшэвічы, 2 км на поўдзень, па бакі ад дарогі на в. Марозавічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000572 | Стаянка і селішча перыяду неаліту, бронзавага веку, ранняга жалезнага веку | 4–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Лемяшэвічы, 3 км на поўнач, на пясчаным узгорку сярод пойменных балот правабярэжжа р. Прыпяць | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000573 | Троіцкая царква | 1875 год | в. Месткавічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства з выкарыстаннем форм і прыёмаў архітэктуры класіцызму і рэтраспектыўна-рускага стылю.



Царква трохзрубная, крыжова-купальная. Пры ўваходзе – зруб бабінца са званіцай на другім ярусе. Светлавы васьміграннi барабан на сяродкрыжжы накрыты шлемападобным купалам. Такі ж купал над званіцай завершаны спічаком. Сцены гарызантальна ашаляваны і насычаны драўляным разным дэкорам: аркатурным фрызам, пілястрамі, кранштэйнамі і сухарыкамі карніза, падзорамі, ліштвамі прамавугольных акон, крыжамі. У інтэр'еры барабан апіраецца на ветразі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000574 | Царква Параскевы Пятніцы | 1794 год | в. Мясацічы | 2 | 27.04.2004<br>№ 96 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудавана з дрэва прыхаджанамі як уніяцкая. Помнік народнага дойлідства.

Трохзрубная, з прамавугольнымі ў плане асноўным зрубам і бабінцам і пяцігранный алтарнай апсідай. Асноўны зруб накрыты шатровым дахам з галоўкай на глухім барабане, бабінец і апсіда – вальмавымі. Пры ўваходзе тамбур з двухсхільным дахам. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Вокны прамавугольныя ў разных ліштвах. Унутры памяшканні маюць плоскую бэлечную столь. Над бабінцам – хоры. Іканастас невысокі драўляны. Маюцца абразы XVIII–XIX стст.

У паўднёва-заходнім баку ад царквы пастаўлена двух'ярусная званіца. Першы зрубны вертыкальна ашаляваны ярус вылучаны шырокім гонтавым адлівам, другі – слупавы каркас, накрыты пакатым шатровым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000575 | Парк «Парэчча» | 1910 год | в. Парэчча | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Заснаваны пры сядзібе Скірмунтаў (знішчана ў гады Першай сусветнай вайны).

Гэтая сядзіба, у складзе якой значнае месца займала паркавая зона, фарміравалася больш за 100 гадоў. Ад палаца адкрываўся маляўнічы від на пойму і востраў з садам.

Перад палацам размяшчаўся вялікі партэр з кветнікамі, за якімі ўздоўж шырокай ліпавай алеі стаялі мураваныя будынкі, з правага боку цягнуўся пладовы сад, плошча якога сёння поўнасцю забудавана. Другая алея (ліпавая) ішла ад партэра на ўсход, перпендыкулярна ліпавай. Паралельна ёй, але ўжо бліжэй да ракі, праходзіла трэцяя алея з ясеню.

Фундатарам і арганізатарам фарміравання пейзажнай часткі парку быў Раман Скірмунт. Яно ішло за межамі гаспадарча-прамысловага комплексу, на месцы натуральнага ляснога масіву.

Кампазіцыйным цэнтрам парку была невялікая паляна з двума валунамі ў атачэнні дубоў. Ад паляны ў розныя бакі разыходзіліся пяць вузкіх сцежак. Яны былі падсыпаны рачным пяском і фіксаваны паглыбленнем для сцёку вады.

Паўночная частка парку, якая прылягала да поймы, значна паніжаная і завільгочаная. У глыбіні паркавага масіву была размешчана трох'ярусная альтанка з вінтавой лесвіцай, да якой вяла вузкая сцежка, абсаджаная нарцысамі, у розных месцах стаялі мармуровыя лаўкі. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўлялася сажалка з вялікім і малым астравамі, якая праз канал двума рукавамі злучалася з р. Ясельда.

У парк было прывезена шмат экзотаў, рэдкіх унікальных відаў. Яны высаджваліся на ўсёй тэрыторыі ў розных аб'ёмах і спалучэннях. Шэраг экзотаў (лістоўніца еўрапейская, дуб чырвоны і інш.) выкарыстоўваліся як лесакультуры, іншыя мелі дэкаратыўнае прызначэнне. Уздоўж дарогі да бровара пасаджана шэсць цюльпанавых дрэў (захавалася адно), прадстаўнікоў сямейства магноліевых. Вакол паляны перад заводам рос арэх шэры.

Аснову парку зараз складае дуб ва ўзросце 100–160 гадоў, вышынёй да 25–32 м, расце шэраг экзатычных дрэў: дубы балотны і чырвоны, елка звычайная залацістая.

Унікальны не толькі для парку, але і для ўсёй умеранай паласы экзэмпляр балотнага кіпарыса звычайнага, сямейства якога лічыцца «жывым выкапнем» зямлі. У парку захаваліся таксама сосны кедравыя еўрапейская і сібірская, елкі калючая і канадская і шэраг іншых. Адну з алей стварае лістоўніца Кемпфера. У якасці акцэнтуючых раслін выкарыстаны клён вастралісты, бук лясны і інш.

Парэцкі парк мае плошчу каля 60 га, тут многа птушак, у насаджэннях лістоўніцы жывуць чаплі. Да 1979 г. у канале яшчэ жылі бабры. Ансамбль мае прыродаахоўнае значэнне, аб'яўлены помнікам прыроды і садова-паркавай архітэктуры. У сучасны перыяд пачалася рэканструкцыя парку.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000027 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан (аўтар помніка – З. Азгур) | 1944 год, 1956 год | в. Пагост-Загародскі | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 113Д000576 | Тры брацкія магілы | 1991 год | в. Пагост-Загародскі | 3 | 08.09.1994 № 12 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000577 | Царква | другая палова XIX стагоддзя | в. Пагост-Загародскі | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000578 | Царква Раства Багародзіцы | 1888 год | в. Парахонск | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

Царква мае трохзрубную падоўжна-восевую кампазіцыю. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прымыкае прамавугольная апсіда і прытвор. Асноўны кубападобны зруб накрыты пакатым чатырохсхільным дахам, над якім гранёны купал на васьміграннным барабане. Над прытворам узвышаецца васьмерыковая званіца, завершаная востраканечным шпілем. Да ўвахода вядзе ганак. Уваход афармлены двухкалонным порцікам. Сцены гарызантальна ашаляваны, дэкарыраваны накладным дэкорам у выглядзе лапатак, аконных ліштваў, карнізаў. У інтэр'еры малітоўная зала мае двухсветлавую прастору. У габарытах залы вылучаны прытвор з бакавымі прасвірняй і хрысцільняй.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000579 | Царква Раства Багародзіцы | 1912 год | в. Парэчча | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі.

У аснове планіровачнай арганізацыі храма цэнтральны трох'ярусны зруб, бакавыя прамавугольныя прыдзелы і прытвор, пяціграннная апсіда з маленькімі бакавымі рызніцамі. Дынамічную вертыкальна развітую аб'ёмную кампазіцыю храма фарміруюць



трох'ярусная званіца (васьмярык на двух чацверыках) з востраканечным шатром і трох'ярусны асноўны чацверыковы зруб, завершаны сферычным купалам з цыбулепадобнай галоўкай. З чатырох бакоў да яго прымыкаюць нізкія алтары і пяцігранная апсіда, якія надаюць царкве крыжападобны план. Фасады гарызантальна ашаляваныя. У дэкоры фасадаў выкарыстана разьба (карнізы, ліштвы, вуглавыя накладкі).

| 112Г000580 | Пакроўская царква | 1830 год | в. Пінкавічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства.

Трохзрубная драўляная царква складаецца з прамавугольнага бабінца, васьмерыковага цэнтральнага і пяцісценнага алтарнага зрубаў. Цэнтральны зруб выцягнуты па папярочнай восі, што стварае кампактную цэнтрычную кампазіцыю. Ён завершаны шатровым дахам, з якім злучаюцца вальмавы дах алтарнага памяшкання і двухсхільны бабінца. Над бабінцам узвышаецца завершаная шатровым дахам чацверыковая званіца. Сцены знадворку ашаляваны гарызантальна. Высока размешчаны прамавугольныя вокны, якія завершаны ліштвамі. Усе тры памяшканні злучаюцца паміж сабой вялікімі праёмамі і перакрыты пірамідальнымі ўсечанымі зверху скляпеннямі. У бабінцы зроблены хоры. У інтэр'еры ўсе памяшканні перакрыты драўлянымі самкнутымі пірамідальнымі скляпеннямі. Маюцца абразы XVIII–XIX стст.

| 112Г000581 | Увазнясенская царква | 1855 год | в. Ставок | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства.

Храм мае трохзрубную падоўжна-восевую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, якую ўтвараюць прытвор, малітоўная зала, апсіда. Іх разнастайныя завяршэнні ствараюць маляўнічы сілуэт храма. Над прытворам узведзена двух'ярусная чацверыковая званіца, завершаная шатром з макаўкай. Асноўны кубападобны зруб накрыты пакатым чатырохсхільным дахам з васьмігранным светлавым барабанам пад сферычным купалам. Гарызантальна ашаляваныя фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах, акаймаваны вуглавымі лапаткамі і карнізам. Тры ўваходы аформлены ганкамі з двухслупавымі порцікамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі. У інтэр'еры зала перакрыта пірамідальным скляпеннем, якое апіраецца на чатыры слупы.

| 112Г000582 | Пакроўская царква | 1856 год | в. Тырвовічы | 2 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана з дрэва па фундацыі Вітольда Орды. Помнік народнага дойлідства.

Асноўны аб'ём царквы прамавугольны ў плане. Да яго з усходу прымыкае трохгранны зруб апсіды, з захаду прамавугольны прытвор. Цэнтральны аб'ём накрыты шатровым дахам, увянчаны галоўкай на барабане. Апсіда накрыта вальмавым дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны брусамі-сцяжкамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. З заходняй часткі ў 1930-я гг. да прытвора прыбудавана двух'ярусная званіца, раздзеленая развітым карнізам. Верхні ярус званіцы чацверыковы ў плане, накрыты чатырохсхільным дахам.

| 113В000583 | Стаянка, селішча | 4–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Церабень, 1 км на паўночны ўсход, на беразе р. Прыпяць | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000584 | Стаянка-1 перыяду неаліту | 4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Чухава, 2 км на паўднёвы ўсход, на паўночна-заходнім беразе воз. Пагосцкае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Пружанскі раён

| 112Г000585 | Будынкі былой гарадской сядзібы:<br>сядзібны дом<br>флігель | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Пружаны (у парку) | 2 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Гэта арыгінальная рэзідэнцыя пабудавана маршалкам Пружанскага павета Валенціем Швыкоўскім паблізу цэнтра горада. Для стварэння праектнай дакументацыі палацава-паркавага ансамбля быў запрошаны з Варшавы знакаміты архітэктар Францішак Марыя Ланцы, які надаў архітэктуры палаца неарэнесансны стыль.

Будынак палаца – дзве групы featureразнавялікіх аб'ёмаў, прыгожая чатырохгранная вежа (мела гадзіннік-куранты), паўкруглая веранда, вялікая тэраса на калонах. Інтэр'ер будынка быў аздоблены ляпнымі прафіляванымі карнізамі, камінамі, дэкарыраванымі дзвярамі.

Вакол рэзідэнцыі Швыкоўскія залажылі багаты на экзатычныя дрэвы парк. У спецыяльна пабудаванай аранжарэі раслі апельсінавыя і лімонныя дрэўцы, пальмы, мірты і іншыя экзоты, якімі ў летні час упрыгожваўся парк. Гэтай справе ўвесь свой вольны час прысвячаў маршалак Валенцій Швыкоўскі.

За ўдзел у паўстанні 1863 г. сядзібу Швыкоўскага царскія ўлады канфіскавалі, а сам маршалак вымушаны быў з'ехаць у эміграцыю. Аранжарэю закрылі, а ўсе экзатычныя расліны перавезлі ў імператарскі палац у Белавежскай пушчы.

У 1867 г. Швыкоўскі вярнуўся ў Пружаны. Маёнтак быў яму вернуты. Пасля смерці жонкі Швыкоўскі прадаў маёнтак графіні В. Клейнміхель (Арбеліяні) і дажываў свой век у Варшаве, дзе памёр у 1902 г. Быў пахаваны побач з жонкай на каталіцкіх могілках у Пружанах.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў будынку размяшчаліся дзіцячы сад, затым стаматалагічная паліклініка, дзякуючы чаму палац уратаваны ад знішчэння. У адрэстаўрыраваным сядзібным доме размяшчаецца музей-сядзіба «Пружанскі палацык». У ім экспануюцца матэрыялы па гісторыі палаца і сацыяльна-культурнага жыцця Пружаншчыны.

У перспектыве плануецца аднаўленне колішняй аранжарэі і парку.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000586 | Капліца | 1852 год | г. Пружаны, вул. Кофанава, на могілках | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000587 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Пружаны, вул. Кофанава, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000588 | Гандлёвыя рады | 1896 год | г. Пружаны, пл. Савецкая | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Прамавугольны ў плане будынак складаецца з двух радоў гандлёвых ячэек, накрыты двухсхільным дахам са ступеньчатымі франтонамі на тарцах. Падоўжныя фасады аформлены масіўнымі аркадамі, якія ствараюць адкрытыя галерэі. Кожнаму арачнаму праёму адпавядае ніша ў сцяне, у якіх размешчаны дзверы і вітрыны гандлёвых памяшканняў. Колішні праезд пасярэдзіне падкрэслены трохпралётнымі рызалітамі і завершаны фігурнымі франтонамі. Франтоны маюць крывалінейныя і ступеньчатыя абрысы і разам з карнізам раскрапаваны пілястрамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000589 | Будынак | 1828 год | г. Пружаны, вул. Савецкая | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000590 | Сабор Аляксандра Неўскага | 1866 год | г. Пружаны, на перакрыжаванні вуліц Савецкай і Р. Шырмы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000591 | Касцёл Уваскрасення Святой Дзевы Марыі | пачатак XX стагоддзя | г. Пружаны, вул. Савецкая, 39 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000592 | Будынак былога першага дваранскага вучылішча | 1836 год | г. Пружаны, вул. Камсамольская, 1 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000593 | Крыжаўзвіжанская царква | 1914 год | в. Аранчыцы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000594 | Помнік паўстанцам Кастуся Каліноўскага | XIX стагоддзе | в. Асошнікі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000595 | Магіла ахвяр фашызму | 1944 год | в. Байкі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000596 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Байкі, 3 км на паўднёвы захад, урочышча Супруніха | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000597 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Бакуны | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000598 | Царква Аляксандра Неўскага | 1888 год | в. Блізная | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000599 | Магіла ахвяр фашызму | 1941–1944 гады | в. Блізная | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000600 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1944 год | в. Блізная | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000601 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Брады | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000602 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Бярэзніца, 1,1 км на паўднёвы захад, урочышча Пель | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000603 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Варанілавічы | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000604 | Мікалаеўская царква | 1799 год | в. Вяжное | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000605 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Вялікае Сяло | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000606 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Гарадзечна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000607 | Пакроўская царква | 1825 год | в. Гарадзечна | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000608 | Мікалаеўская царква | 1811 год | в. Засімавічы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000609 | Крыжаўзвіжанская царква | 1878 год | в. Зельзін | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000610 | Былая сядзіба, фрагменты парку | другая палова XVIII стагоддзя | пас. Інтэрнацыянальны | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000611 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1944 год | в. Кавалі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000612 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Казлы | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000613 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Кацёлкі, 1 км на паўночны ўсход | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000614 | Рэшткі сядзібна-паркавага комплексу | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Каштанаўка | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000615 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Краснае | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000616 | Брацкая магіла чырвонаармейцаў | 1920 год | в. Крыніца | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000617 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Купічы | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000618 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Кутнявічы, у цэнтры вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000619 | Магіла паўстанцаў Кастуся Каліноўскага | 1863–1864 гады | в. Ласосін | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000620 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Лыскава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000621 | Былы кляштар місіянераў:<br>Троіцкі касцёл<br>жылы корпус | 1763–1785 гады | в. Лыскава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл – мураваны аднанефавы, аднавежавы крыжападобны ў плане будынак з дзвюма сакрысціямі абапал алтарнай апсіды. Неф, апсіда і квадратныя аб'ёмы трансепта накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі пакатымі дахамі. Дамінанта касцёла – шмат'ярусная вежа. Яе вуглы раскрапаваны слаістымі пілястрамі, бакавыя грані злучаны крывалінейнымі сценкамі з плоскасцю сцяны галоўнага фасада, насычанага дэкаратыўнымі архітэктурнымі элементамі, раскрапоўкамі, абрамленнямі праёмаў, падвойнымі пілястрамі, нішамі. Развіты гарызантальны пояс падзяляе аб'ёмы на дзве часткі, больш нізкая трактавана як цокаль. Аконныя праёмы лучковыя. Інтэр'ер касцёла аформлены пілястрамі і калонамі іанічнага і кампазітнага ордэраў, размаляваны пад мармур. Неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках, крылы трансепта і сакрысціі – крыжовымі. Над уваходам – вузкія хоры. Цэнтр галоўнага фасада кляштара вылучаны рызалітам. Сцены рытмічна расчлянёны пілястрамі: шырокімі руставанымі на першым паверсе, падвойнымі на другім. Планіроўка калідорная з аднабаковым размяшчэннем пакояў.

Насупраць касцёла стаіць барочны жылы корпус. Кляштарны будынак двухпавярховы П-падобны ў плане. Цэнтральны рызаліт і сцены крапаваны пілястрамі, міжпаверхавай цягай. У дэкоры выкарыстаны руст, надаконны лучковы пояс, міжаконныя руставаныя лапаткі. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, келлі – крыжовымі скляпеннямі. На першым паверсе паўднёвага крыла знаходзілася трапезная.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000622 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XV–XVI стагоддзі | в. Лыскава, 0,5 км на паўночны ўсход, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000623 | Царква Раства Багародзіцы | 1933 год | в. Лыскава | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000624 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI стагоддзе | в. Магілёўцы, 2 км на захад, на заходняй ускраіне в. Асошнікі, на старых могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000625 | Сядзіба, старажытны парк | другая палова XVIII стагоддзя | в. Магілёўцы | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000626 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1944 год | в. Малочкі | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000627 | Петрапаўлаўская царква | 1860-я гады | в. Мокрае | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000628 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Мокрае, на ўсходняй ускраіне, насупраць школы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000629 | Царква Казанскай іконы Божай Маці | 1996 год | в. Мурава | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000630 | Званіца | XIX стагоддзе | в. Новая Крыніца | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000631 | Капліца на месцы бітвы 1812 года | 1912 год | в. Паддубна | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000632 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Папялёва | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000633 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Парасляны, у цэнтры вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000634 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1941–1944 гады | в. Паўлава | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000635 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Роўбіцк | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000636 | Царква Георгія Пераможцы | XIX стагоддзе | в. Роўбіцк | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000637 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Руднікі, у заходняй частцы вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000638 | Петрапаўлаўская царква | XIX стагоддзе | в. Руднікі | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000639 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1941 год | г.п. Ружаны | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000640 | Рэшткі былога палацавага комплексу:<br>фрагменты галоўнага і ўсходняга карпусоў<br>уязная брама<br>флігелі<br>аркады | XVI стагоддзе, першая палова XVIII стагоддзя, 1784–1786 гады | г.п. Ружаны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Палац у Ружанах ствараўся некалькімі пакаленнямі магнацкага роду Сапегаў. У пачатку XVII ст. канцлер Леў Сапега ўзвёў тут раскошны палац, які стаў адным з найвыдатнейшых помнікаў палацава-паркавай архітэктуры Беларусі XVII–XVIII стст. Верагодна, палац быў пабудаваны на месцы старажытнага замка Тышкевічаў, які, паводле пісьмовых крыніц, існаваў тут раней. Першапачаткова быў пабудаваны двухпавярховы крыжападобны ў плане мураваны палац з трыма вежамі. Дзве з іх былі квадратныя ў плане. На паўночнаўсходнім вуглу будынка размяшчалася пяцігранная вежа. У цэнтральнай частцы палаца, якая выступае на падоўжных фасадах глыбокімі рызалітамі, знаходзіліся парадныя залы і вестыбюль з чатырохмаршавай лесвіцай, у бакавых частках жылыя пакоі, кабінеты, архіў, бібліятэка. Унутраная планіроўка была анфіладная. Памяшканні на першым паверсе мелі скляпеністыя, на другім – бэлечныя перакрыцці. Пад будынкам вялізныя двухпавярховыя скляпеністыя падвалы.

У час ваенных дзеянняў у канцы XVII–XVIII ст. палац быў пашкоджаны. Аляксандр Сапега ў 1784–1788 гг. распачаў грунтоўнае аднаўленне і перабудову старажытнага палаца-замка. Аўтарам праекта быў прыдворны архітэктар Ян Самуэль Бекер. Пры аднаўленні вежы на галоўным фасадзе і вуглавыя былі разабраны, а тарцовая забудавана, у выніку палац стаў сіметрычным у плане. Да галоўнага фасада прыбудавалі накладны порцік з падвойнымі калонамі і пілястрамі, завершаны высокім трохвугольным франтонам са скульптурай. Сіметрычныя ўсходні і заходні карпусы, размешчаныя перпендыкулярна палацу, злучаліся з ім паўцыркульнымі ў плане аркадамі. Паралельна палацу па восі сіметрыі вялікага параднага двара размешчана уязная брама, якая злучае два двухпавярховыя жылыя флігелі. Брама вырашана накшталт трохпралётнай трыумфальнай аркі, упрыгожана рознымі геральдычнымі картушамі. У аздабленні фасадаў будынкаў палацавага комплексу выкарыстаны руставаныя пілястры, ляпныя гірлянды, скульптуры, разнастайныя абрамленні акон.



Палацава-паркавы ансамбль у 1914 г. згарэў, часткова рэстаўрыраваны ў 1930 г., а ў 1944 г. разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На сённяшні дзень захаваліся рэшткі асноўных будынкаў (галоўнага і ўсходняга карпусоў), аркады, уязная брама і флігелі. У 1980–1990-я гг. былі разгорнуты работы па частковым аднаўленні і кансервацыі ансамбля, але ў пачатку 1990-х гг. яны былі спынены з-за праблем фінансавага характару.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000641 | Капліца | пачатак XVII стагоддзя | г.п. Ружаны | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000642 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Ружаны, пл. 17 Верасня, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000643 | Былы манастыр базыльянаў:<br>Петрапаўлаўская царква,<br>роспіс скляпенняў<br>жылы манастырскі корпус | 1675 год,<br>1784–1788 гады,<br>канец<br>XIX стагоддзя | г.п. Ружаны,<br>пл. 17 Верасня | 2 | 28.02.2002<br>№ 71,<br>28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Будынак царквы аднанефавы аднавежавы, з вялікай паўкруглай апсідай, накрыты невысокім двухсхільным дахам, які над апсідай пераходзіць у конусападобны і завершаны галоўкай. Па баках апсіды размешчаны дзве невысокія квадратныя ў плане рызніцы, накрытыя трохсхільнымі дахамі. Галоўны фасад з рызалітам у цэнтры завершаны развітым антаблементам і двух'ярусным атыкам з трохвугольным франтонам у ніжнім ярусе. Другі ярус атыка з'яўляецца асновай для плоскай чацверыковай вежы-званіцы, накрытай крыжападобным дахам з франтончыкамі і галоўкай у цэнтры. Галоўны фасад аздоблены слаістымі пілястрамі, прафіляванымі цягамі, нішамі і філёнгамі. Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны пілястрамі і завершаны развітым карнізам. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульным арачным завяршэннем маюць прафіляваныя абрамленні. У рызаліце галоўнага фасада размешчаны лесвіцы на хоры і званіцу.

Інтэр'ер зальны з люстэркавым скляпеннем. На столі галоўнага аб'ёму і апсіды роспіс на тэму «Праабражэнне» (пашкоджаны пажарам у 1895 г. і аднoўлены ў пачатку XX ст.). У консе апсіды размешчана кампазіцыя «Бог Саваоф». На паўночнай і паўднёвай сценах (каля іканастаса) у медальёнах выявы Св. Пятра і Паўла. Жывапіс вызначаецца сухаватай акадэмічнай манерай. У агульнай каларыстычнай гаме, нягледзячы на багацце сініх таноў, пераважаюць прыглушаныя цёплыя адценні (карычнева-чырвоныя, вохрыстыя).



Корпус пабудаваны з паўднёвага боку царквы. Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, накрыты вальмавым дахам. Галоўны ўсходні фасад сіметрычны, мае трохчасткавую кампазіцыю. Цэнтральная частка вылучана невялікім рызалітам, бакавыя падзелены пілястрамі, паміж якімі размешчаны вокны з філёнгамі. Рызаліт і вуглы будынка апрацаваны падвоенымі пілястрамі. Цэнтральны дзвярны праём – арачны паўцыркульны, аконныя – прамавугольныя, дэкарыраваныя трохвугольнымі і паўкруглымі сандрыкамі на першым паверсе. Дваровы і бакавыя фасады без архітэктурнага ўбрання. Будынак мае канструкцыйную схему з трыма падоўжна-нясучымі сценамі. Упоперак корпуса размешчаны скразны праход з лесвіцай. Планіроўка першага паверха анфіладная, другога – калідорная. Першы паверх перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, перакрыцце другога паверха плоскае.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000644 | Троіцкі касцёл:<br>дэкаратыўнае ўбранне:<br>роспіс скляпенняў<br>надмагільны помнік Баспінка<br>галоўны і бакавы алтары<br>арган, хоры<br>алтарная агароджа<br>жырандолі парныя | 1615 год,<br>1768 год,<br>1787 год | г.п. Ружаны,<br>пл. 17 Верасня | 2 | 28.02.2002<br>№ 71<br>28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Троіцкі касцёл пабудаваны па праекце архітэктара Я.С. Бекера. Будынак аднанефавы аднавежавы з паўцыркульнай апсідай прэсбітэрыя. Да прамавугольнага ў плане нефа з бакоў сіметрычна прылягаюць невысокія капліцы, да апсіды – такія ж па вышыні сакрысціі. Пры ўваходзе размешчана чатырох'ярусная (тры васьмерыкі на чацверыку) вежа-званіца, накрытая высокім гранёным шатром. Ярусы падзелены прафіляванымі карнізамі, аздоблены плоскімі нішамі і скразнымі арачнымі праёмамі. Сцены бакавых фасадаў рытмічна падзелены контрфорсамі, паміж якімі прарэзаны аконныя праёмы з арачным завяршэннем. Знадворку ў нішы сцяны апсіды скульптура Св. Дамініка. Неф касцёла перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Скляпенне прэсбітэрыя ўмацавана падпружнымі аркамі. Капліцы і сакрысціі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам у заходняй частцы будынка размешчаны хоры на драўляных крыжападобных у плане слупах з разнымі фігурнымі кранштэйнамі.

Інтэр'еры багата ўпрыгожаны архітэктурнай пластыкай, скульптурай і жывапісам. Амбон, скляпенні, падпружныя аркі аздоблены ляпным стукавым арнаментам раслiннага характару. Прастору прэсбітэрыя замыкае чатырохкалонны галоўны алтар з раскрапаваным лучковым франтонам, які ўпрыгожваюць скульптуры анёлаў, ляпны арнамент і герб Сапегаў. Абапал алтара размешчаны драўляныя паліхромныя скульптуры Св. Пятра і Паўла. Прэсбітэрый ад нефа аддзяляе каваная агароджа XVIII ст., кампазіцыя якой складаецца з акантавых завіткоў, валют, кветак і манаграмы фундатара касцёла. Адпаведна алтарнай частцы вырашаны ўваходы ў бакавыя памяшканні і капліцы. Стукавая і драўляная скульптура галоўнага алтара і бакавых капліц работы скульптараў І. Прукнера, М. і К. Роўбаў. Абразы, габеленавыя і шаўковыя арнаты, кандэлябры XVIII ст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000645 | Будынак былой сінагогі | другая палова XIX стагоддзя | г.п. Ружаны, вул. Я. Коласа, 6 | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000646 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Сілічы | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000647 | Магіла ахвяр фашызму | 1941–1944 гады | в. Слабодка | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000648 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Слабодка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000649 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Смаляніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000650 | Царква | XIX стагоддзе | в. Смаляніца | 3 | 02.07.2002 № 75 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000651 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Стараволя, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000652 | Крыжаўзвіжанская царква | 1903 год | в. Сухопаль | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000653 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сухопаль | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000654 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Шарашова, вул. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000655 | Званіца | 1799 год | г.п. Шарашова, вул. Савецкая | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва асобна каля царквы Успення Прасвятой Багародзіцы (не захавалася) у 1760 г. Помнік народнага дойлідства.

Уяўляе сабой цэнтрычнае квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне. Ніжні ярус зрублены з бруса ў лапу і аддзелены ад верхняга шырокім гонтавым адлівам. Верхні ярус каркасны, складаецца з васьмі стоек, аб'яднаных разнымі крывалінейнымі падкосамі, якія ствараюць своеасаблівую аркаду, паміж імі разная дашчаная агароджа. Увянчана званіца шатровым верхам з гранёным барабанам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000656 | Мікалаеўская царква | 1872 год | г.п. Шарашова | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000657 | Троіцкі касцёл | 1848 год | г.п. Шарашова | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000658 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Шчарчова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000659 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1941–1944 гады | в. Шэйпічы | 3 | 23.03.2004 № 95 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000660 | Царква | XIX стагоддзе | в. Ялова | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |

## Столінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000661 | Парк «Манькавічы» | 1885 год | г. Столін, на ўскраіне | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Палацава-паркавы ансамбль, колішняя рэзідэнцыя князёў Радзівілаў. Спачатку, у 1855 г., у Манькавічах быў закладзены пейзажны парк плошчай каля 50 га, затым некалькі пазней пабудаваны мураваны палац (знішчаны пад час Другой сусветнай вайны).

Парк «Манькавічы» мае асаблівую стылявую агульнасць з Нясвіжскім. З архітэктурных аб'ектаў паркавага тыпу захаваўся закладны камень з датай закладкі парку – 1885 г. Новыя павевы, характэрныя для натуралізму, адлюстраваны ў пабудове перспектыў, у размяшчэнні дарожнай сеткі і выкарыстанні алейных пасадак, якія перараззаюць паляны, а таксама масавым выкарыстаннем экзотаў. Асноўная дарожная сетка складаецца з маршрутаў, пракладзеных ад уваходу ўздоўж паўночна-заходняй і паўночна-ўсходняй ускраін парку, і адыходзячай алеі ў бок палаца. Гэта выяўляецца ў асобных архітэктурных элементах ансамбля (арка бакавога аб'ёму, форма агляднай вежы і г. д.). Фарміраванне паркавых кампазіцый адбывалася на адкрытай, свабоднай ад дрэў тэрыторыі. Парк




займаў высокую маляўнічую тэрасу на беразе р. Гарынь, што забяспечвала высокае ўспрыманне далёкіх перспектыў. У сучасны перыяд плошча парку складае 24 га. Найбольш разнастайна была аформлена тая частка парку, якая абкружала палац. Асноўным яе акцэнтам была сажалка з фантанам і плаваючымі лебедзямі. Сярод дрэў перавага аддавалася блакітнай елцы. У выглядзе салітэраў раслі елка Энгельмана, лістоўніца Кемпфера, ліпа венгерская і інш. Парк меў вельмі багаты склад экзатычных раслін. Акрамя елкі калючай, вялікае месца займаюць хвоі веймутава і чорная. Адзінкава растуць піхты белая і каўказская, многа ўвагі ўдзялялася штучнаму фарміраванню крон, што можна прасачыць у некаторых дрэў да сённяшняга часу.

Прагулачны маршрут аформлены ў выглядзе нешырокай сцежкі. Ён пракладзены сярод насаджэнняў парку з улікам раскрыцця некалькіх перспектыў на асноўную дамінанту парку – колішні палац. На асобных участках экзатычныя абсадкі з таполі Сімана, хвой чорнай і веймутавай стварылі цесныя калідоры.

Парк моцна пацярпеў у гады Другой сусветнай вайны. У пошуках Радзівілаўскіх скарбаў парк быў паўсюдна перакапаны, перавернуты закладны камень, нанесена шмат іншай шкоды. Пасля вайны былі выкананы вялікія работы па ўратаванні і лячэнні пашкоджаных дрэў, добраўпарадкаванні тэрыторыі, пабудавана дэкаратыўная агароджа. Тут размяшчаюцца раённы краязнаўчы музей і музычная школа.

| 112Г000662 | Будынак былой сінагогі | 1792 год | г. Столін | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Прамавугольны ў плане аднапавярховы двухсветлавы будынак накрыты вальмавым дахам. Унутраная прастора падзелена двума радамі калон на тры нефы. На ўнутраных сценах захаваліся фрагменты размалёўкі. На галоўным фасадзе вуглы зрэзаны. Гарызантальна фасады падзелены прафіляванай цягай, завершаны шматслойным карнізам. Пластычнае вырашэнне фасадаў першага і другога ярусаў адрозніваецца. Фасады члянёны на першым ярусе лучковымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі замковым каменем, на другім – арачнымі вокнамі з прамымі сандрыкамі. Фасадная плоскасць верхняга яруса аздоблена падвойнымі лапаткамі.

| 113Г000663 | Царква Ушэсця | першая палова XX стагоддзя | г. Столін, вул. Гарынская | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000664 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Столін, пл. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000665 | Васкрасенская царква, іканастас | 1817 год, XVIII стагоддзе | в. Альгомель | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства.

Прамавугольны ў плане зруб накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтаром. Над цэнтрам узвышаецца васьміграны светлавы барабан, завершаны шатровым дахам з галоўкай. З захаду да асноўнага зруба прыбудавана чацверыковая званіца, накры-



тая шатром з галоўкай. Уваход вылучаны ганкам з двума слупамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны лапаткамі. Карніз дапоўнены разным аркатурным фрызам, дзеліць званіцу на два ярусы. Аконныя праёмы з лучковымі, дзвярныя – з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Унутранае памяшканне зальнае.

Алтарная частка з рызніцай аддзелена драўляным іканастасам. Абразы XVIII ст.: 12 абразоў апостальскага чыну, «Спас з прадстаячымі» дэісуснага чыну, «Благавешчанне» (падпісаны: «Року 1759, месяца второго пятого дня... раб Божы Стефан Кардаш справіл образ Богу на хвалу») у святочным чыне, «Маці Божая Адзігітрыя» ў мясцовым чыне. Да іканастасных па мастацкай трактоўцы падобны насценныя абразы «Сашэсце ў пекла» (XVII ст.), «Маці Божая Адзігітрыя», «Васіль Вялікі», «Тройца старазапаветная» і «Дэісус» (усе XVIII ст., перанесены з Іаана-Багаслоўскай царквы в. Вялікае Малышава Столінскага раёна), «Пакроў Багародзіцы» (XIX ст.)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Г000666 | Успенская царква | 1888 год | в. Альпень | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000667 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Альшаны | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000668 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Атвержычы, на вясковых могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000669 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | II стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э. | в. Атвержычы, 1 км на поўнач ад могілак, на калгасным двары | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000670 | Троіцкая царква | 1905 год | в. Белавуша | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000671 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1944 год | в. Белавуша | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000672 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XI стагоддзі | в. Белавуша, 2,5 км на ўсход, на правым беразе р. Гарынь | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000673 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Беражное, 2 км ад вёскі, урочышча Дуброўка, з левага боку ад дарогі на г. Столін | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000674 | Царква Параскевы Пятніцы | 1884 год | в. Беражное | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі на падмурку храма XVII ст. Перабудоўвалася на мяжы XIX—XX стст., адрэстаўрыравана ў 1988 г. Помнік народнага дойлідства са шматпланавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй і маляўнічым сілуэтам.

Спачатку была трохзрубная, складалася з размешчаных па восі ўсход–захад прамавугольнага бабінца, квадратнага цэнтральнага аб'ёму, завершанага вялікім светлавым чацверыком, і пяціграннай апсіды. Пры перабудове да франтальнага фасада далучана двух'ярусная чацверыковая званіца з шатровым дахам і макаўкай у завяршэнні; да паўднёвага фасада – прамавугольны прыдзел, завершаны светлавым васьмерыковым барабанам, што ўнесла дынамічную асіметрыю ў кампазіцыю храма. Над асноўным кубапа-



добным аб'ёмам узведзены магутны светлавы чацвярык з шатровым гонтавым верхам і макаўкай у завяршэнні. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах з сандрыкамі. Уваход аформлены двухслуповым ганкам пад двухсхільнай навіссю.

У малітоўную залу адкрыты светлавы барабан на ветразях, праз шырокія прасветы – бабінец, прыдзел і апсіда. У першым ярусе званіцы створаны хоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000675 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1944 год | в. Беражное | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000676 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Бор-Дубянецкі, 5 км на паўднёвы захад, на пясчаным узвышшы, каля балота | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000677 | Магіла ахвяр фашызму | 1942 год | в. Варані | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000678 | Ільінская царква са званіцай | 1881 год | в. Велямічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ва ўсходняй частцы вёскі. У 1888 г. зроблены бакавыя прыбудовы. Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Цэнтральнае месца ў крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі будынка займае квадратны ў плане асноўны аб'ём, да якога прылягаюць пяцігранная апсіда, квадратны бабінец і прамавугольныя бакавыя прыбудовы. Абапал апсіды – нізкія рызніцы. Зрубы завершаны самастойнымі вярхамі з гранёнымі купаламі і галоўкамі: цэнтральны – васьмерыком на чацверыку, астатнія – васьмерыкамі. Уваходы ў бабінец і бакавыя прыбудовы з захаду вылучаны тамбурамі з двухсхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны лапаткамі. Прамавугольныя і лучковыя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі. У інтэр'еры цэнтральны трохсветлавы аб'ём, з якім вялікімі праёмамі злучаны астатнія памяшканні. На паўднёвы захад ад царквы – трох'ярусная зрубна-каркасная званіца (васьмярык на двух чацверыках), накрытая шатровым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000679 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | III стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э. | в. Велямічы, 0,5 км на паўночны ўсход ад могільніка-2 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000680 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Гарадная, 2 км на паўночны ўсход, урочышча Замкавішча, на мысападобным канцы пясчанай грады | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000681 | Троіцкая царква | XVIII стагоддзе, 1930-я гады | в. Гарадная | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў заходняй частцы вёскі. Перабудавана ў 1930-я гг. Помнік народнага дойлідства.

Трохзрубны храм падоўжна-восевай кампазіцыі складаецца з двух'яруснай чацверыковай шатровай званіцы, кубападобнай малітоўнай залы, пяціграннай апсіды. Аднолькавыя па вышыні зрубы апярэзаны агульным карнізам простага профілю, што стварае ўражанне адзінага суцэльнага зруба. Гэтаму садзейнічае агульны высокі вальмавы дах над асноўным аб'ёмам і апсідай, які па краях завершаны цыбулепадобнымі галоўкамі. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах.

У інтэр'еры асноўная малітоўная зала і апсіда аб'яднаны шырокім прамавугольным прасветам і размежаваны разным іканастасам, перакрыты васьміграннным шатровым скляпеннем. У першым ярусе званіцы знаходзяцца хоры. У царкве абразы XVII–XVIII стст.: «Святы Мікалай Цудатворац», «Маці Божая», «Спас Пантакратар», «Маці Божая Чанстахоўская».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000710 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – XIII стагоддзе н.э. | в. Гарадзец, на паўднёвы ўсход, урочышча Бесава Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000711 | Георгіеўская царква, іканастас | 1724 год, 1751 год | г. Давыд-Гарадок, на старых могілках | 2 | 28.02.2002 № 71 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва на старажытных могілках разам з трох'яруснай васьмерыковай званіцай (не захавалася). Папярэдні двухзрубны храм (упамінаецца ў інвентары 1675 г.), знаходзіўся за паселішчам, па дарозе да фальварка Высокае. Помнік народнага дойлідства.

Падоўжна-восевая кампазіцыя храма складаецца з прытвора, бабінца, малітоўнай залы, апсіды, якія накрыты асобнымі чатырохграннымі шатровымі дахамі з макаўкамі ў завяршэнні. Дамінуе асноўны кубападобны зруб, над якім надбудаваны нізкі чацверыковы другі ярус, адмежаваны шырокім адлівам. Элемент асіметрыі ў кампаноўку аб'ёмаў уносіць пазнейшая прыбудова да паўночнай грані апсіды нізкай рызніцы. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі, цокальная частка вылучана вертыкальнай шалёўкай.

У інтэр'еры пануе двухсветлавая прастора малітоўнай залы, у якую шырокімі прасветамі адкрываюцца бабінец і апсіда. Другі чацверыковы ярус залы трымаецца на стойках, абапёртых на абвязачныя бэлькі. Пры ўваходзе ў бабінцы размешчаны хоры. Абразы: «Маці Божая Адзігітрыя» (пасярэбраны абклад 1752 г., майстры Мікіта і Пархом) і «Хрыстос Уседзяржыцель» (сярэбраныя абклады 1767 г., майстры Д. Ткачук і С. Грэчка). Над царскімі варотамі размешчаны цэнтральныя абразы «Тайная вячэра» (2-я чвэрць XVII ст.), «Спас з прадстаячымі» (падпісаны 1781 г.) і «Саваоф» (канец XVIII ст.). Святочны чын іканастаса набраны з 12 абразоў на тэмы жыцця Маці Божай і Ісуса Хрыста, па цэнтры абраз «Спас з прадстаячымі». Разны ківот XVIII ст., два абразы «Маці Божая з дзіцем», абраз мяжы XVIII–XIX ст. «Праабражэнне».

Верагодна, у афармленні царквы прымалі ўдзел мясцовыя майстры-мастакі Піліп (1663 –1681 гг.), Пётр (1681 г.), Яцко Кавалевіч (1691–1696 гг.), Карней (1702–1763 гг.), Яцко (1724–1760 гг.), Камей і Ярко (1734–1785 гг.), залатары Пракоп Грэчка (1633–? гг.),

Андрэй (1653–1702 гг.), Сайка (1665–1724 гг.), Ярко (1681–1724 гг.), Пархом (1724–1760 гг.), Сямён і Мікіта (1724–1760 гг.), Хвяско, Андрэйка, Грышка (1724–? гг.). У 1734 г. у Давыд-Гарадку працавалі тры разьбяры – Буяк Лявон, Ян, Сямён.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000682 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | XII–XIV стагоддзі | г. Давыд-Гарадок, у цэнтры горада, на правым беразе р. Гарынь | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000683 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Давыд-Гарадок, вул. Школьная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000684 | Курганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. | в. Дубай, на паўднёвай ускраіне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000685 | Мікалаеўская царква | 1906 год | в. Дубай | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000686 | Царква Раства Багародзіцы | 1718–1720 гады | в. Дубенец | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі на скрыжаванні галоўных вуліц. Твор народнага дойлідства палескай школы з рысамі стылю барока.

Будынак трохзрубны. Па падоўжнай восі размешчаны прамавугольныя ў плане цэнтральны і алтарны зрубы, бабінец, да якога з захаду прырублена ярусная званіца. Бабінец аднолькавай шырыні з цэнтральным зрубам. З усходу да алтарнага зруба прылягае нізкі аб'ём рызніцы. Сцены ў верхняй частцы ашаляваны гарызантальна, у ніжняй частцы – вертыкальна, умацаваны лапаткамі, завершаны карнізам. Вокны высокія, са зрэзанымі верхнімі вугламі. Бабінец накрыты двухсхільным, алтарны зруб трохсхільным гонтавымі дахамі. Цэнтральны аб'ём завершаны масіўнымі чацверыковым барабанам са зрэзанымі вугламі, які трымаецца на чатырох слупах, мае прамавугольныя вокны і купальны дах. Трох'ярусная званіца (два ніжнія чацверыкі і трэці верхні са зрэзанымі вугламі) завершана шатровым дахам. Галоўны уваход вылучаны крытым ганкам. Алтарнае памяшканне і бабінец больш нізкія і злучаны з цэнтральным аб'ёмам вялікімі праёмамі. Алтарнае памяшканне аддзелена іканастасам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000687 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Нячатава, 0,7 км ад вёскі, на лузе, на пясчаным узвышшы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000688 | Пакроўская царква | 1875 год | в. Плотніца | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000689 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Плотніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000690 | Царква Раства Багародзіцы | 1841 год | в. Радчыцк | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 112Г000691 | Міхайлаўская царква | XVIII стагоддзе | в. Рамель | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі. Рэстаўрыравана ў 1988 г. Помнік народнага дойлідства.

Амаль квадратны ў плане асноўны і пяцігранны алтарны зрубы аб'яднаны агульным вальмавым дахам. Вяршыні тарцовых схілаў дахаў завершаны галоўкамі, у месцы злучэння зрубаў трохвугольныя застрэшкі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны лапаткамі і завершаны карнізамі з зубчастым падзорам. Высокія прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Памяшканні перакрыты бэлькамі з плоскай падшыўной столлю. Званіца трох'ярусная, чацверыковая, зрубна-каркаснай канструкцыі, накрыта шатровым дахам. У яе ніжнім ярусе хоры на двух слупах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000692 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Рубель, на старых могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000693 | Міхайлаўская царква са званіцай | 1796 год | в. Рубель | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана ў цэнтры вёскі. Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Трохзрубны храм падоўжна-восевай кампазіцыі: прамавугольны бабінец, выцягнутая па папярочнай восі васьміграннаяя малітоўная зала, пяцігранная апсіда з бакавой рызніцай. У XIX ст. да бабінца і бакавых фасадаў цэнтральнага аб'ёму прырублены квадратныя ў плане прытвор і прыдзелы. У аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі пануе цэнтральны аб'ём, над якім узведзены чацвярык і васьмігранны барабан з купалам складанай двух'ярусная формы. Аналагічнае купальна-барабаннае завяршэнне маюць апсіда і бабінец. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарэзаны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах з трохвугольнымі сандрыкамі.

У інтэр'еры пануе трохсветлавая прастора малітоўнай залы, у якую адкрываецца складаная ветразевабэлечная канструкцыя падтрымкі васьмiграннага барабана. Аналагічна вырашана перакрыцце бабінца і апсіды. У бабінцы вылучаны ярус для хораў, якія адкрыты ў залу вялікім праёмам з балюстраднай агароджай. Апсіда вылучана разным іканастасам. Абразы XVIII–XIX стст.: «Маці Божая Адзігітрыя», абразтаблетка «Маці Божая Адзігітрыя і «Святы Мікалай Цудатворац», «Хрышчэнне», «Спас Пантакратар»; Евангелле ў абкладзе 1773 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113В000694 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | II стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э. | в. Рубель, па баках дарогі на г. Давыд-Гарадок, на невысокім узвышшы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000695 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | II стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э. | в. Рамель, на ўсходняй ускраіне, за могілкамі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 112Г000696 | Царква Раства Багародзіцы са званіцай | 1730 год | в. Рухча 1-я | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва ў цэнтры вёскі ўладальнікамі маёнтка Скірмунтамі. Помнік народнага дойлідства.

Вырашана адзіным прамавугольным зрубам з трохсценнай апсідай няправільнага трапецападобнага абрысу. Будынак накрыты вальмавым гонтавым дахам, які завершаны васьмігранным барабанам з цыбулепадобнай галоўкай. Уваход арганізаваны праз нізкі прамавугольны прытвор пад двухсхільным дахам. Гарызантальна ашаляваныя сцены расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

На ўсходнім баку ад царквы пастаўлена двух'ярусная чацверыковая зрубна-каркасная званіца, накрытая гонтавым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 113Д000697 | Брацкая магіла | 1944 год | р. п.Рэчыца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000698 | Брацкая магіла савецкіх воінаў | 1944 год | в. Струга | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Г000699 | Пакроўская царква | 1857 год | в. Стахава | 3 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000700 | Бескурганны могільнік-1 перыяду ранняга жалезнага веку | II стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э. | в. Турское, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000701 | Бескурганны могільнік-2 перыяду ранняга жалезнага веку | II стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э. | в. Турское, 1,5 км на захад ад могільніка-1, урочышча Пугачэнец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000702 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Туры, 2,5 км на паўночны захад, урочышчы Барок і Замчышча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113Д000703 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Фядоры | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000704 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | VI–X стагоддзі | в. Хотамель, 0,2 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000705 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку, ранняга сярэднявечча | VI–X стагоддзі | в. Хотамель, 2,5 км на паўднёвы захад, на пясчаным узвышшы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 113В000706 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку, ранняга сярэднявечча | VI–X стагоддзі | в. Хотамель, 2,5–3 км ад вёскі, прымыкае да гарадзішча з паўднёва-ўсходняга і заходняга бакоў | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

# ГЛАВА II

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ РУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Брэсцкая вобласць

### горад Брэст

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 123М000001 | Археалагічная калекцыя металічных вырабаў з раскопак Бярэсця (109 адзінак) | XII–XIII стагоддзі | Брэсцкі абласны краязнаўчы музей | 3 | 27.03.2001 № 64 | 14.05.2007 № 578 |

### Ганцавіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 123Ж000002 | Абразы<br>«Георгій Пераможца»<br>«Святая Марыя Магдаліна» | XIX стагоддзе | Свята-Мікольская праваслаўная царква, в. Малькавічы | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000003 | Абразы<br>«Суцяшэнне»<br>«Замілаванне»<br>«Спагнанне загінуўшых»<br>«Супакой мой смутак» | XIX стагоддзе | Свята-Успенская царква, в. Хатынічы | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000004 | Абраз «Тайная вячэра» | XIX стагоддзе | Юр'еўская царква, в. Чудзін | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000005 | Абразы<br>«Уваход Гасподні ў Іерусалім»<br>«Благавешчанне»<br>«Успенне Прасвятой Багародзіцы»<br>«Святая Тройца»<br>«Еўфрасіння Полацкая»<br>«Праабражэнне Гасподняе» | XIX стагоддзе | Юр'еўская царква, в. Будча | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 123Ж000006 | Абразы<br>«Марыя Егіпецкая»<br>«Св. Іадосій Ігуменскі»<br>«Прасвятая Багародзіца»<br>Царскія вароты з абразамі<br>«Архангел Гаўрыіл»<br>«Прасвятая Багародзіца»<br>«Св. апосталы Мацвей і Марк»<br>«Св. апосталы Лука і Іаан»<br>«Успенне Прасвятой Багародзіцы»<br>«Св. Мікалай Цудатворац» | XIX стагоддзе | Георгіеўская царква, в. Вялікія Круговічы | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |

## Жабінкаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 123Ж000007 | Абраз «Святая Тройца». Палатно, алей. 135x185 | другая палова XIX стагоддзя | Свята-Успенская царква, в. Булькова | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000008 | Абраз «Уваскрэсенне Хрыстова». Палатно, алей. 116x215 | другая палова XIX стагоддзя | Свята-Успенская царква, в. Булькова | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000009 | Абраз «Хрышчэнне Гасподняе». Палатно, алей. 75x151 | другая палова XIX стагоддзя | Свята-Успенская царква, в. Булькова | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000010 | Абраз «Успенне Прасвятой Багародзіцы». Палатно, алей. 75x151 | другая палова XIX стагоддзя | Свята-Успенская царква, в. Булькова | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000011 | Абраз «Раство Хрыстова». Палатно, алей. 78x83 | другая палова XIX стагоддзя | Свята-Успенская царква, в. Булькова | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 123Ж000012 | Абраз «Раство Прасвятой Багародзіцы». Палатно, алей. 78x83 | другая палова XIX стагоддзя | Свята-Успенская царква, в. Булькова | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 121Ж000013 | Абраз «Малебен аб чашы» | XVII стагоддзе | Свята-Міхайлаўская царква, в. Сцяпанкі | 1 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 121Ж000014 | Абраз «Хрыстос Уседзяржыцель» | XVII стагоддзе | Свята-Міхайлаўская царква, в. Сцяпанкі | 1 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |

## Кобрынскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 122Н000015 | Скарб манет (6200 адзінак) | XVII стагоддзе | Кобрынскі ваенна-гістарычны музей імя А.В. Суворава | 2 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |

## горад Пінск

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 122Ж000016 | Карціна «Божая Маці з дзіцем», А. Ромер | 1894 год | г. Пінск, вул. Леніна, 18, касцёл Успення Прасвятой Дзевы Марыі | 2 | 22.06.2004 № 98 | 14.05.2007 № 578 |

# ГЛАВА III

## НЕМАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжание каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

## горад Брэст

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 13БЛ000001 | Свята-Васкрасенскі храм імя 50-годдзя Вялікай Перамогі з брамай-званіцай | | г. Брэст | Б | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |

**ДЗЯРЖАЎНЫ СПІС ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**РАЗДЗЕЛ I**
**ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

# ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



# ГЛАВА I

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ НЕРУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Горад Віцебск

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000001 | Будынкі былых казарм 41-й артылерыйскай брыгады | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Будзённага, 1, 5, 7 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Е000002 | Гістарычны цэнтр г. Віцебска: у складзе будынкаў і збудаванняў, планіровачнай структуры, ландшафту і культурнага пласта на тэрыторыі, абмежаванай лініяй у створы асявой лініі вул. Чэхава ад левага берага р. Заходняя Дзвіна, асявой лініяй вул. Чэхава (забудова паўднёвага боку), асявой лініяй вул. Кутузава (забудова ўсходняга боку), лініяй, якая праходзіць на адлегласці 25 м на поўнач ад чырвонай лініі забудовы паўночнага боку вул. Грыбаедава, лініяй, якая праходзіць на адлегласці 25 м на захад ад чырвонай лініі забудовы заходняга боку вул. Леніна, лініяй, якая праходзіць на | XII–XX стагоддзі | | 2 | 28.02.2002 № 71<br>20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | адлегласці 25 м на поўнач ад чырвонай лініі забудовы паўночнага боку вул. 1-й Чырвонабрыгаднай, лініяй, якая праходзіць на адлегласці 25 м на поўнач ад чырвонай лініі забудовы паўночнага боку пл. Смаленскай, лініяй, якая праходзіць на ўсход ад чырвонай лініі забудовы ўсходняга боку вул. Камуністычнай, лініяй, якая праходзіць на адлегласці 25 м на захад ад чырвонай лініі забудовы заходняга боку вул. Камуністычнай, лініяй, якая праходзіць на адлегласці 25 м на поўнач ад чырвонай лініі забудовы паўночнага боку вул. Савецкай, лініяй, якая праходзіць па краі тэрасы над левым берагам р. Віцьба, лініяй, якая праходзіць па правым беразе ручаёў Дунай і Гапееў да перасячэння з вул. Імя Газеты «Праўда», па асявой лініі вул. Імя Газеты «Праўда» да перасячэння з чырвонай лініяй паўночна-ўсходняга боку вул. Б. Хмяльніцкага, па гэтай чырвонай лініі названай вуліцы да перасячэння з працягам асявой лініі вул. Шубіна, па асявой лініі вул. Шубіна да злучэння з чырвонай лініяй паўночна-заходняга боку праезду Гогаля, па чырвонай лініі паўночна-заходняга боку праезду Гогаля, па чырвонай лініі ўсходняга і паўднёвага бакоў вул. Калініна, яе працягу да перасячэння з чырвонай лініяй заходняга боку вул. Леніна, па асявой лініі заходняга боку вул. Леніна, па чырвоных лініях паўднёвых бакоў Маскоўскага пр. і вул. Генерала Белабародава да перасячэння з пунктам на адлегласці 25 м на захад ад чырвонай лініі забудовы заходняга боку вул. Будзённага да яе перасячэння з чырвонай лініяй паўночнага боку вул. Еўсцігнеева, чырвоных лініях | | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | усходняга боку вул. Будзённага, паўночна-заходняга боку вул. Касманаўтаў, чырвонай лініяй паўднёва-заходняга боку вул. Савецкай Арміі да перасячэння з асявой лініяй працягу гэтай вуліцы ў бок віядука над чыгункай, умоўнай лініяй у створы лініі на адлегласці 25 м ад чырвонай лініі забудовы паўночна-ўсходняга боку вул. Чырвонай Арміі, лініяй на адлегласці 25 м ад чырвонай лініі забудовы заходняга боку вул. Пакроўскай да пункта на лініі, якая праходзіць у створы чырвонай лініі паўночнага боку 1-й вул. Жарэса, гэтай чырвонай лініяй да яе перасячэння з пунктам на правым беразе р. Заходняя Дзвіна, якая ў створы асявой лініі вул. Чэхава. | | | | | |






Помнік горадабудаўніцтва XII–пачатку XX ст. Займае тэрыторыю па берагах р. Заходняя Дзвіна, складаецца з трох частак: Узгорскай (паўночны ўсход, паміж левым берагам р. Заходняя Дзвіна і правым берагам р. Віцьба), Заручаўскай (паўднёва-ўсходняя частка, паміж левымі берагамі Дзвіны і Віцьбы) і Задзвінскай (заходняя частка, уздоўж правага берага Дзвіны).



Першапачаткова фарміраваўся як сістэма віцебскіх замкаў (Верхняга, Ніжняга, Узгорскага) і прылеглых да іх слабод (Узгорскай, Заручаўскай, Задунайскай, Задзвінскай). К канцу XIX ст. паводле рэгулярных планаў XVIII ст. сфарміравалася рэгулярная сетка вуліц, сістэма плошчаў, капітальная забудова.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000003 | Старажытнае гарадзішча, дзядзінец, тэрыторыя былога Верхняга замка | VI–XVIII стагоддзі | тэрыторыя, якая абмежавана ўмоўнай лініяй на поўначы – ад вусця р. Віцьба па левабярэжжы ўверх да Кастрычніцкага моста; на ўсходзе – ад Кастрычніцкага моста па чырвонай лініі каля будынка былога акруговага суда (вул. Леніна, 32) да вул. Замкавай; на поўдні – ад пл. Свабоды па вул. Замкавай да р. Заходняя Дзвіна; на захадзе – па левабярэжжы р. Заходняя Дзвіна ўверх па цячэнні ад Кіраўскага моста да вусця р. Віцьба | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000004 | Старажытнае паселішча, акольны горад, тэрыторыя былога Ніжняга замка | VI–XVIII стагоддзі | тэрыторыя, якая абмежавана ўмоўнай лініяй на поўначы – ад Кіраўскага моста па вул. Замкавай, па чырвонай лініі ля будынка былога акруговага суда (вул. Леніна, 32), па левабярэжжы р. Віцьба, уверх па цячэнні да месца ўпадзення ў яе былога ручая Дунай; на ўсходзе – ад месца ўпадзення ў р. Віцьба былога ручая Дунай, уздоўж яго рэчышча да рэчышча былога Замкавага ручая; на поўдні – ад рэчышча былога ручая Дунай, уздоўж рэчышча былога Замкавага ручая да вул. Калініна, па паўднёвай мяжы пл. Тысячагоддзя да р. Заходняя Дзвіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000005 | Старажытнае паселішча, пасад г. Віцебска | канец X–XVIII стагоддзе | тэрыторыя былога Узгорскага замка і Узгорскай слабады. Межы: на поўначы – ад р. Заходняя Дзвіна па вул. Урыцкага да р. Віцьба, уніз па цячэнні да павароту да Кастрычніцкага моста; на поўдні – ад павароту р. Віцьба па правабярэжжы ўніз па цячэнні да р. Заходняя Дзвіна; на захадзе – ад вусця р. Віцьба па левабярэжжы р. Заходняя Дзвіна ўверх па цячэнні да вул. Урыцкага | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000006 | Старажытныя паселішчы, курганы, некропаль, пасад г. Віцебска | XII–XVII стагоддзі | тэрыторыя былой Заручаўскай слабады. Межы: на поўначы – ад р. Заходняя Дзвіна па рэчышчы былога Замкавага ручая да рэчышча былога ручая Дунай; на ўсходзе – ад рэчышча былога ручая Дунай, уздоўж рэчышча Гапеева ручая (Духаўскі яр) да перакрыжавання з вул. Імя Газеты «Праўда», вул. Шубіна, праезд Гогаля да р. Заходняя Дзвіна; на захадзе – ад пл. Перамогі, па левабярэжжы р. Заходняя Дзвіна ўверх па цячэнні да паўднёва-заходняга вугла пл. Тысячагоддзя | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000007 | Сельскія паселішчы, курганны некропаль г. Віцебска | XIV–XVIII стагоддзі | тэрыторыя былых Кстоўскай і Задунайскай слабод. Межы: на поўначы – ад Баўманскага моста па левабярэжжы р. Віцьба да вул. 1-й Даватара; на ўсходзе – па вул. 1-й Даватара, вул. Баўмана, вул. 5-й Фрунзе да былога рэчышча ручая Дунай; на поўдні – ад вул. 5-й Фрунзе па былым права-бярэжжы р. Дунай да перакрыжавання яго з пр. Фрунзе па левабярэжжы р. Віцьба ўверх па цячэнні да Баўманскага моста | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000008 | Сельскія паселішчы | XV–XVIII стагоддзі | тэрыторыя былой Задзвінскай слабады. Межы: на поўдні – ад р. Заходняя Дзвіна па вул. Еўсцігнеева да вул. Дзімітрава; на захадзе – па вул. Дзімітрава да пачатку вул. Савецкай Арміі, да перакрыжавання вул. Пакроўскай і вул. 1-й Жарэса; на поўначы – па вул. 1-й Жарэса да р. Заходняя Дзвіна; на ўсходзе – ад вул. 1-й Жарэса па права-бярэжжы р. Заходняя Дзвіна да вул. Еўсцігнеева | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000009 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Гараўца, 10 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000010 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Гогаля, 2 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000011 | Забудова пр. Гогаля | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | пр. Гогаля, 3, 5, 7, 11 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |

| 212Г000012 | Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча | 1902 год | вул. Гогаля, 6 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак цагляны, атынкаваны, у многіх канструкцыйных элементах выкарыстаны метал. Складаўся з некалькіх аб'ёмаў: трохпавярховага галоўнага вучэбнага корпуса і другарадных гаспадарчых і адміністрацыйных пабудоў (лазарэт, дом для служачых, лазня і інш.). Галоўны корпус – трохпавярховы будынак са скляпеннем. У плане мае Е-падобную форму. Цэнтральны аб'ём займае двухсветлавая зала. Галоўная (парадная) лесвіца вядзе з прасторнага вестыбюля на другі паверх. Перакрыцці над калідорам па металічных бэльках. Дэкаратыўныя элементы аздаблення фасадаў вельмі стрыманыя: рустоўка сцен першага паверха, абрамленне акон другога паверха ліштвамі, развітое карнізнае чляненне трэцяга паверха. Афарбоўка фасадаў двухколерная: дэкаратыўныя элементы, цягі, карнізы, ліштвы вылучаны белым колерам на фоне вохрыста-залацістых сцен. У інтэр'еры цікавыя паркетная падлога ў зале і асобных пакоях, сталярка акон і дзвярэй. Будынак узведзены на Духавай гары (вул. Гогаля).

Паводле пісьмовых крыніц, з XIV ст. на гэтым месцы існавала царква Св. Духа. Пабудаваў яе князь Альгерд і яго жонка Ульяна. У далейшым царква была перабудавана. Мураваная царква ўзведзена на грошы віцебскіх грамадзян Бібкаў у 1792 г.

Мураваная царква была крыжападобная з дзвюма ад франтона двухпавярховымі вежамі з купалам пасярэдзіне, асветленым васьмю вокнамі. Пры Свята-Духаўскай царкве існаваў манастыр. Першапачаткова манастыр быў жаночы, заснаваны Ульянай, затым змяніўся мужчынскім. Але гэты мужчынскі праваслаўны манастыр знаходзіўся ў заняпадзе. Каля 1697 г. быў адноўлены жаночы базыльянскі манастыр.

У 1793 г. на сродкі тых ж купцоў Бібкаў быў пабудаваны манастырскі корпус. Будынак мураваны, двухпавярховы, у даўжыню 10 саж. і 4 саж. у шырыню. Да яго прымыкаў драўляны дом, даўжынёй 21 саж., шырынёй 3 саж., у якім размяшчалася жаночае вучылішча, заснаванае пры Свята-Духаўскім базыльянскім манастыры.

У 1812 г. пад час вайны вучылішча было закрыта. Адноўлена ў 1815 г. З пераходам Свята-Духаўскай царквы ад уніятаў да праваслаўных царква і манастырскія будынкі прыйшлі ў заняпад.

2 красавіка 1864 г. па распараджэнні Свяцейшага Сінода было адкрыта Полацкае жаночае вучылішча духоўнага ведамства. Для вучылішча меркавалася прыстасаваць былы манастырскі корпус. У 1865 г. епархіяльны архітэктар Плюшчэўскі-Плюшчык агледзеў будынак і прыйшоў да высновы, што двухпавярховы мураваны крыты гонтай будынак мае моцныя сцены і пасля пераробак можа быць з выгадай выкарыстаны для новага прызначэння, як і аднапавярховыя дваровыя пабудовы. Акрамя таго, архітэктар прапаноўваў зрабіць двухпавярховую прыбудову 20х5 саж., над існаваўшым корпусам надбудаваць трэці паверх і асобна пабудаваць лазню з пральняй.

Перапіска аб мэтазгоднасці прыстасавання будынкаў былога базыльянскага манастыра пад Полацкае жаночае духоўнае вучылішча працягвалася да 1868 г. Верагодна, да 1872 г. праект перабудовы манастырскіх будынкаў быў часткова рэалізаваны. У «Памятных книжках Витебской губернии» за 1880-я гг. вучылішча пазначана ўжо па вул. Духаўскай. З цягам часу расла колькасць выхаванак, вырас і штат настаўнікаў. Будынак, які займала вучылішча, быў ужо малы, і адпаведна паўстала пытанне аб будаўніцтве новага. У 1898 г. Полацкая епархія выдзеліла сродкі на будаўніцтва новага вучэбнага корпуса, які быў узведзены ў 1901–1902 гг. Аўтар праекта галоўнага корпуса – інжынер Аляксандр Кандратавіч Паўлоўскі, аўтар праекта дапаможных службаў – інжынер Пётр Андрэевіч Вінаградаў. Як сведчыць аналіз плана 1872 г., новы будынак вучылішча быў узведзены на падмурках старога манастырскага корпуса.

З усяго архітэктурнага комплексу зберагліся толькі галоўны корпус вучылішча і гаспадарчы флігель.

Галоўны корпус займае самае высокае месца на гары. Ён быў звязаны закрытай галерэяй са Свята-Духаўскай царквой (не захавалася). Трохпавярховы з паўпадвальным паверхам будынак у плане Е-падобны, галоўным фасадам выходзіць на вул. Гогаля.

Унутраная планіроўка калідорнага тыпу з аднабаковым калідорам, арыентаваным у бок двара. На першым і другім паверхах знаходзіліся вучэбныя класы, на трэцім – спальні.

У цэнтры галоўнага фасада шырокі рызаліт з парадным порцікам, што вядзе ў прасторны вестыбюль. Масіўныя слупы порціка падтрымліваюць балкон актавай залы на другім паверсе. У дэкаратыўных дэталях другога і трэцяга паверхаў выяўляюцца элементы псеўдарускага стылю (ліштвы акон у выглядзе какошнікаў і інш.).

У 1948 г. у Віцебскім філіяле інстытута «Белдзяржпраект» распрацаваны праект аднаўлення будынка былога вучылішча. Аўтары праекта архітэктары Катакін і Жылка. Пры аднаўленні стылістыка фасадаў была захавана, часткова перамуравана фасадная сцяна левага крыла, знізу замураваны аконныя праёмы.

У 1970-я гг. да асноўнага будынка была зроблена прыбудова, на месцы Свята-Духаўскай царквы пабудавана вежа з гадзіннікам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000013 | Дом камунальнага тыпу | 1927–1929 гады | вул. Горкага, 36/25 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000014 | Будынак | 1938 год | вул. Горкага, 57 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000015 | Казанская царква | 1780–1847 гады | вул. Горкага, 62а | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000016 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Грыбаедава, 17 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000017 | Будынкі | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Грыбаедава, 21, 27 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000018 | Будынак былога страхавога таварыства | 1841 год | вул. Грыбаедава, 23 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000019 | Будынак | 1818 год | вул. Грыбаедава, 25 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000020 | Будынак былога пазямельна-сялянскага банка | 1917 год | вул. Даватара, 7/11 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Будаўніцтва банка было распачата ў 1913 г. (аўтары праекта – цывільны інжынер Канстанцін Канстанцінавіч Тарасаў і інжынер-будаўнік Уладзімір Фёдаравіч Коршыкаў), аднак у сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны зацягнулася да 1917 г. Апошнія вонкавыя і ўнутраныя работы вяліся ў час вайны, калі не хапала рабочых рук, будаўнічых матэрыялаў. Толькі дзякуючы намаганням аўтараў праекта будаўніцтва банка было завершана.

Выбар месца на ўскраіне горада невыпадковы. Справа ў тым, што асноўнымі кліентамі банка былі сяляне навакольных вёсак. Двухпавярховы з паўпадвальным паверхам будынак у плане П-падобны. Неаднолькавыя па даўжыні і шырыні бакавыя крылы, выступаючыя аб'ёмы крылаў і рызалітаў надаюць яму асіметрычнасць. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя вырашаецца з улікам яго вуглавога размяшчэння. Гэта падкрэсліваецца своеасаблівымі вежамі, якія фланкіруюць будынак з трох бакоў. Вырашаны яны ў эклек-

тычных формах, асабліва вылучаецца сярэдняя вежа з масіўным карнізам у выглядзе машыкуляў і высокім двух'ярусным шатром.

Помнік вызначаецца манументальнасцю кампазіцыі, складаным маляўнічым сілуэтам, разнастайнымі дэкаратыўнымі элементамі, што надае яму незвычайны архітэктурна-мастацкі вобраз. Будынак выкананы ў неарускім стылі, аўтар архітэктурна-мастацкай мовай перадаў рысы нацыянальна-рамантычнай разнавіднасці рускага мадэрну. Маляўнічасць сілуэту, пластычнасць аб'ёмаў, багатая гама фактурна-каляровых вырашэнняў, прыгожы рытм ліній і форм ствараюць запамінальны вобраз і ставяць будынак віцебскага банка ў шэраг лепшых архітэктурных твораў горада.

Пры ўзвядзенні будынка выкарыстаны новыя на той час прагрэсіўныя будаўнічыя матэрыялы. Міжпаверхавыя перакрыцці, лесвічныя прыступкі і падаконныя пліты зроблены з жалезабетону. Сталярку рабілі з лепшых парод дубу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000021 | Будынак (Дом спецыялістаў) | 1932–1935 гады | вул. Даватара, 14/9 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000022 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Даватара, 18 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000023 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Даватара, 26 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000024 | Забудова вул. Дзімітрава | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Дзімітрава, 4, 6, 9, 21/6, 23/3, 25, 28, 30, 32 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000025 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Дзімітрава, 30а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000026 | Комплекс будынкаў | канец XIX стагоддзя | вул. Дзімітрава, 10, 10а, 12 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Ж000027 | Бюст П.М. Машэрава | 1980 год | на скрыжаванні вуліц Замкавай і Пушкіна | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000028 | Будынак драматычнага тэатра | 1958–1964 гады | вул. Замкавая, 2 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000029 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Зяньковай, 4 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000030 | Будынак былой царквы Раства Прасвятой Багародзіцы | 1886 год | вул. Зяньковай, 9/6 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000031 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Ільінскага, 25а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000032 | Будынак былой яўрэйскай школы (хедэр) | канец XIX стагоддзя | вул. Калініна, 1 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000033 | Забудова вул. Калініна | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Калініна, 3, 5, 14/2, 20/13 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000034 | Забудова вул. Камсамольскай | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Камсамольская, 13/6, 28, 30, 32/16 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000035 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Касманаўтаў, 14 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000036 | Забудова вул. Кастрычніцкай | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Кастрычніцкая, 5, 9, 12, 13 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000037 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | праезд Кастрычніцкі, 2 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000038 | Архітэктурны ансамбль вул. Кірава з вакзалам і Прывакзальнай плошчай | сярэдзіна XX стагоддзя, 1954 год | вул. Кірава, 1–17, чыгуначны вакзал | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000039 | Забудова вул. Крылова | XIX стагоддзе | вул. Крылова, 3, 4, 5, 8, 10 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000040 | Будынак (дом Кібардзіна) | канец XIX стагоддзя | вул. Крылова, 6 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000041 | Забудова вул. Я. Купалы | XIX–XX стагоддзі | вул. Я. Купалы, 2, 5, 7, 9, 17 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000042 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Кутузава, 3 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000043 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Кутузава, 5 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000044 | Комплекс былога кляштара трынітарыяў:<br>касцёл<br>кляштарны корпус | пачатак XIX стагоддзя<br>1814–1821 гады<br>1806 год | на скрыжаванні вуліц Леніна і Шубіна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Дазвол на будаўніцтва кляштарнага комплексу на свабодных землях Віцебска трынітарыі атрымалі 16 студзеня 1758 г. Драўляны касцёл і кляштарны дом будаваліся два гады і былі асвячоны ў канцы 1760 г. Прафінансаваў будаўніцтва віцебскі ваяводскі харунжы Мікалай Рэут.

На пачатку XIX ст. на месцы драўляных былі ўзведзены мураваныя кляштар (1806 г. ) і касцёл (1821 г. ). Касцёл, пабудаваны ў стылі класіцызму, размяшчаўся ў глыбіні забудовы. Перад будынкамі касцёла і кляштара была невялікая плошча.

У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу захоўваецца план і чарцёж касцёла, выкананы епархіяльным архітэктарам А. Портам. Чарцёж не датаваны, але найбольш верагодна, што зроблены ў другой палове 1840-х гг., калі касцёл у 1847 г. быў перададзены праваслаўным. Касцёл быў двухвежавы чатырохслуповы, прамавугольны ў плане. Цэнтральны неф шырэйшы за бакавыя, завершаны паўцыркульнай апсідай. Хоры абапіраліся на два квадратныя ў сячэнні слупы. Галоўны ўваход вылучаўся чатырохкалонным порцікам, завершаным трохвугольным франтонам. Яго фланкіравалі двух'ярусныя вежы, дэкарыраваныя нішамі. Па перыметры ўсяго будынка праходзіў магутны прафіляваны карніз. У інтэр'еры цэнтральны і бакавыя нефы перакрыты крыжовымі



скляпеннямі. Па баках апсіды знаходзіліся дзве сакрысціі, з якіх паўночная мела свой уваход.

Другі раз касцёл трынітарыяў перабудоўваўся ў 1913 г. у сувязі з падрыхтоўкай святкавання 300-годдзя дынастыі Раманавых. Пасля перабудовы касцёл набыў рысы эклектыкі.

Галоўны фасад трохнефавага храма вылучаны дзвюма аднаяруснымі чатырохграннымі вежамі-званіцамі з пазалочанымі гранёнымі макаўкамі ў завяршэнні паўсферычных купалаў. Цэнтральны аб'ём дэкарыраваны прысценным чатырохкалонным порцікам з лучковым франтонам. У партале ўвахода размешчана фрэска «Маці Божая», над парталам – «Тройца», па баках уваxода арачныя нішы з абразамі «Святы прападобны Серафім Сароўскі» і «Прападобная Еўфрасіння Полацкая». Асноўны аб'ём вянчае сферычны купал на цыліндрычным светлавым барабане. Над купалам узвышаецца галоўка на высокай шыйцы. Бакавыя фасады рытмічна члянёны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У афармленні фасадаў храма выкарыстаны трохвугольныя франтоны, тонкапрафіляваныя карнізы, пілястры, іанічныя капітэлі.



Злева ад храма размешчаны будынак Полацка-Аршанскага епархіяльнага ўпраўлення – двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з вуглавой трох'яруснай вежай пад шатровым дахам. Фасады члянёны лучковымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах.

З усходняга боку да сабора далучана Свята-Афанасьеўская царква (таксама адноўлена ў 1989 г. ) Уяўляе сабой прамавугольны ў плане, мураваны будынак пад двухсхільным дахам з трыма слыхавымі лучковымі аконнымі праёмамі на кожным схіле. Плоскасці фасада члянёны лучковымі аконнымі праёмамі ў пластычных ліштвах. Унутраная малітоўная зала падзелена на тры часткі шырокімі парабалічнымі прасветамі, апсіда вылучана драўляным іканастасам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000045 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | пачатак XX стагоддзя | вул. Леніна, 10 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000046 | Будынкі былых казарм Ленкаранскага палка | канец XIX стагоддзя | вул. Леніна, 12, 14, 16 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000047 | Будынкі | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Леніна, 18, 20, 22/16 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000048 | Будынак былога гарадскога вучылішча | канец XIX стагоддзя | вул. Леніна, 24/15 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000049 | Забудова вул. Леніна | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Леніна, 3б, 33, 35, 35а, 40, 42, 68, 70, 72, 74, 76, 80/1, 82, 84/2 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000050 | Будынак былога акруговага суда | канец XIX стагоддзя | вул. Леніна, 32 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Мураваны П-падобны ў плане будынак выходзіць галоўным фасадам на пл. Свабоды. Цэнтральная частка двухпавярховага асноўнага аб'ёму падкрэслена рызалітам і выдзелена па вертыкалі трэцім паверхам. Архітэктурна-мастацкае вырашэнне фасадаў грунтуецца на традыцыйнай для класіцызму сіметрычнасці кампазіцыі. Пластыку фасадаў стварае рытм пілястраў і аконных праёмаў з ліштвамі.

У 1883 г. на Саборнай плошчы (цяпер пл. Свабоды), каля ратушы і былога езуіцкага касцёла, узведзены манументальны будынак для акруговага суда. Аўтары праекта – архітэктар І.П. Камінскі і інжынер М.Ф. Карчэўскі. У плане будынак П-падобны, асіметрычны, з крыламі неаднолькавай даўжыні. Планіроўка мяшаная калідорна-галерэйная, з мноствам вялікіх і малых адміністрацыйных і службовых памяшканняў. У цэнтральным крыле знаходзіцца парадны вестыбюль з лесвіцай, у бакавым – зала для пасяджэнняў. Інтэр'еры памяшканняў, асабліва залы, адзначаюцца багатай дэкаратыўнай аздобай. У архітэктурна-пластычным вырашэнні пераважаюць элементы неакласіцызму і мадэрну.

Будынак з'яўляецца не толькі выдатным архітэктурным помнікам, але і помнікам гісторыі. Мемарыяльная дошка на галоўным фасадзе сведчыць, што тут у 1917 г. размяшчаўся Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які ажыццяўляў рэвалюцыйную ўладу ў горадзе да стварэння ў студзені таго ж года Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

| 212Г000051 | Ратуша | 1775 год | вул. Леніна, 36 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Першая драўляная ратуша была пабудавана ў 1597 г. пасля атрымання горадам магдэбургскага права. У 1623 г. Віцебск быў часова пазбаўлены магдэбургскага права і ратушу разбурылі. Найбольш старажытная драўляная ратуша паказана на «Чарцяжы места Віцебска 1664 года». У гэты час яна з'яўлялася кампазіцыйным цэнтрам гандлёвай плошчы. Затым неаднаразова гарэла (1708, 1733, 1752 гг. ) і зноў аднаўлялася.

У 1775 г. было завершана будаўніцтва мураванай ратушы. Яна стала кампазіцыйным цэнтрам Рыначнай плошчы і падзяліла яе на дзве часткі: адна раскрывалася перад галоўным фасадам ратушы да Віцьбы, другая знаходзілася за ратушай на поўнач.

Ратуша – прамавугольны ў плане будынак, увянчаны ў цэнтры высокай чатырох'яруснай вежай. У яго архітэктурна-прасторавую кампазіцыю пакладзены прынцып кантраснага супрацьпастаўлення нізкага корпуса, сціпла дэкарыраванага, і высокай вежы, больш насычанай дэкаратыўнымі дэталямі. Сцяна галоўнага фасада дэкарыравана плоскімі пілястрамі на вышыню абодвух паверхаў і прарэзана прамавугольнымі аконнымі (на першым) і лучковымі (на другім) праёмамі. Корпус ратушы з'яўляецца п'едэсталам для вежы. Вежа мае крывалінейныя контуры, яе ярусы аддзяляюцца адзін ад аднаго складанымі карнізамі, зрэзаныя вуглы вежы дэкарыраваны пілястрамі, у аснове якіх дэкаратыўныя валюты. Раней вежа завяршалася шатром са шпілем, у яе верхнім ярусе быў устаноўлены гадзіннік. У архітэктуры ратушы спалучаюцца рысы барока і класіцызму.



У будынку знаходзіліся грамадскія ўстановы. У канцы XVIII ст. тут былі паліцыя, галоўны суд, другі дэпартамент, гаўптвахта, пажарны двор; у XIX ст. – гарадская дума. Неаднаразова праводзіліся перабудовы. У 1833 г. быў зменены верх вежы: замест высокага шпіля ўстаноўлена назіральная пляцоўка з невялікай ратондай. У 1873–1875 гг. зроблены ўнутраныя перабудовы ў сувязі з перамяшчэннем на другі паверх гарадской думы, а на першы – паліцэйскага ўпраўлення. У 1911 г. па праекце архітэктара Т.В. Кібардзіна быў дабудаваны трэці паверх. Пазней да галоўнага ўвахода дабудавалі тамбур, зроблены ўваход у падвал на галоўным

фасадзе. Пасля пажару 1913 г. вежа была адрэстаўрыравана. Аднак трэці паверх парушыў прапорцыі будынка, закрыў ніжні ярус вежы і зрабіў масіўным корпус. У такім выглядзе ратуша захавалася да нашых дзён.

Па абодва бакі галоўнага фасада ратушы былі ўзведзены аднатыпныя будынкі гандлёвых радоў. Першыя паверхі іх прарэзаны шырокімі лучковымі аркамі – уваходы ў гандлёвую частку. Другія мелі маленькія прамавугольныя аконныя праёмы і служылі складам для тавараў. Прасценкі паміж праёмамі былі дэкарыраваны дзвюма спаранымі пілястрамі, якія стваралі рытмічны дэкаратыўны малюнак. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. да ўсходняга і заходняга тарцоў ратушы прыбудавалі два жылыя дамы з гандлёвымі ўстановамі на першых паверхах, якія ўтварылі адзіны комплекс з унутраным дворыкам.

У Вялікую Айчынную вайну была пашкоджана верхняя частка вежы з гадзіннікам. У 1946–1947 гг. гадзіннік аднавіў народны майстар С. Юшкоўскі. З 27 красавіка 1925 г. у будынку ратушы працуе Віцебскі абласны краязнаўчы музей.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Ж000052 | Помнік У.І. Леніну | 1956 год | пл. Леніна,<br>каля абласной філармоніі | 3 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 212Г000053 | Касцёл Св. Варвары<br>з агароджай і брамай | XVIII стагоддзе | вул. Ленінградская, 27 | 2 | 30.06.1998<br>№ 47 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Касцёл пабудаваны з цэглы ў 1783–1785 гг., грунтоўна перабудаваны ў 1884–1885 гг. Часткова зруйнаваны ў Вялікую Айчынную вайну. Адрэстаўрыраваны ў 1990–1993 гг. Помнік архітэктуры барока і неараманскага стылю.

Трохнефавая, двухвежавая базіліка з чырвонай цэглы. Галоўны фасад вылучаюць дзве двух'ярусныя вежы, першы ярус чатырохгранны, другі – шасцігранны. Паміж вежамі размешчаны трохвугольны франтон на шырыню цэнтральнага нефа. У аздобе храма шырока выкарыстана дэкаратыўная цэгла: карнізныя паяскі, геаметрычны малюнак у завяршэнні ярусаў вежы і інш. Інтэр'ер трохнефавы, нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі.

Тэрыторыя касцёла абмежавана: з паўднёва-заходняга боку – па агароджы тэрыторыі касцёла, з паўночна-заходняга боку – па агароджы тэрыторыі касцёла, з паўночна-ўсходняга боку – па агароджы тэрыторыі касцёла да паўночна-заходняй сцяны двухпавярховага будынка. Ад вугла будынка – па паўднёва-заходняй сцяне будынка, з паўднёва-ўсходняга боку ад двухпавярховага будынка да капліцы, у створы з паўднёва-ўсходняй сцяной капліцы і далей па агароджы тэрыторыі касцёла.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000054 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | жылы раён Лучоса,<br>на могілках<br>на вул. Сенненскай | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000055 | Магіла А.К. Ільінскага (стэла) | 1967 год,<br>1974 год | Мазурынскія могілкі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000056 | Будынак былога грамадскага сходу | канец<br>XIX стагоддзя | вул. Маякоўскага, 1/38 | 3 | 18.12.2002<br>№ 80 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000057 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Маякоўскага, 3 | 3 | 18.12.2002<br>№ 80 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000058 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Маякоўскага, 3а | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000059 | Забудова вул. Пакроўскай | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Пакроўская, 1, 3, 5, 6, 7, 8, 10, 12 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000060 | Дом-музей М. Шагала | пачатак XX стагоддзя | вул. Пакроўская, 11 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000061 | Плошча Перамогі і мемарыяльны комплекс у гонар савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны | 1970-я гады | пл. Перамогі | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000062 | Комплекс былога базыльянскага манастыра: | | | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| | былы манастырскі корпус | 1743–1785 гады | вул. Політэхнічная, 2 | | | |
| | будынак былога народнага вучылішча | XVIII стагоддзе | вул. Крылова, 7 | | | |
| | Успенскі сабор | 1803 год | вул. Крылова | | | |



Базыльянскі манастыр знаходзіўся на месцы былой драўлянай царквы на высокай Прачысценскай (Лысай) гары (пісьмовыя звесткі аб існаванні тут праваслаўнай царквы ў імя Прасвятой Багародзіцы адносяцца да 1406 г. ).

На пачатку XVII ст. драўляная саборная царква на Прачысценскай гары стала уніяцкай, побач з ёй было ўладкавана падвор'е Полацкага архіепіскапа. У 1636 г. па загаду уніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы была пабудавана новая саборная царква замест той, што згарэла ў 1629 г.

Замацавацца ў Віцебску базыльянам дапамог Полацкі уніяцкі архіепіскап Кіпрыян Жахоўскі, які спецыяльнай граматай у 1682 г. падараваў манахам землі і лугі ў горадзе і ваколіцах, адзін з пляцаў Узгорскай юрысдыкі, што знаходзіўся побач з царквой, для будаўніцтва на ім вучылішча і саму разбураную царкву Св. Духа. У 1627 г. пры царкве быў заснаваны жаночы базыльянскі манастыр.



Драўляны храм неаднаразова гарэў і аднаўляўся. У 1717 г. маленькая царква была разабрана, а замест яе пабудавана новая, больш прасторная. У 1722 г. царква разам з манастыром была знішчана пажарам. У 1743 г. пачалі ўзвядзенне мураванага касцёла і манастырскага будынка. Праект і будаўніцтва ажыццяўляў архітэктар Іосіф Фантана. Будаўніцтва вялося з перапынкамі да 1785 г. Абмежаванасць тэрыторыі, на якой знаходзіўся базыльянскі манастыр, паклала адбітак на агульную планіроўку і размяшчэнне забудовы. Манастырскія будынкі размяшчаліся па перыметры невялікага прамавугольнага двара. На Заходнюю Дзвіну галоўным фасадам выходзіла царква, арыентаваная строга па восі захад – усход і таму размешчаная пад некаторым вуглом да манастырскага корпуса. Галоўны корпус манастыра галоўным фасадам таксама выходзіў на Заходнюю Дзвіну. З царквой ён злучаўся праз кароткі крыты пераход – галерэю. Далей па перыметры двара на паўночным і паўднёва-

ўсходнім баках размяшчаліся яшчэ два мураваныя службовыя корпусы. З поўначы да гэтай тэрыторыі па беразе Заходняй Дзвіны далучаўся вялікі сад.

У 1799 г. манастыр быў перададзены праваслаўным і царква перайменавана ва Успенскі сабор. У манастырскім будынку з 1799 па 1849 г. размяшчаліся дзяржаўныя ўстановы, а з 1849 г. (пасля ўнутранай перабудовы) знаходзілася духоўная семінарыя, якая была пераведзена з Полацка.

Трохпавярховы манастырскі будынак вырашаны па схеме, уласцівай збудаванням гэтага тыпу. Вакол вузкага аднабаковага калідора, арыентаванага ў бок двара, размяшчаліся манаскія келлі і службовыя памяшканні, арыентаваныя да Заходняй Дзвіны. З боку дваровага фасада да выцягнутага прамавугольнага будынка перпендыкулярна далучалася двухпавярховае крыло, дзе на першым паверсе знаходзілася трапезная, на другім – бібліятэка. Галоўны фасад вырашаны ў простых архітэктурных формах. Яго сцяна прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі, акаймаванымі дэкаратыўнымі ліштвамі. Паміж праёмамі плоскія пілястры на вышыню ўсіх трох паверхаў, пастаўленыя на шырокі цоколь. Пад кожным аконным праёмам размешчана плоская прамавугольная ніша. Будынак завершаны шырокім карнізам, мае манументальны выгляд.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000063 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX стагоддзя | вул. Імя Газеты «Праўда», 5а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000064 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Імя Газеты «Праўда», 14/5 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000065 | Будынак (частка архітэктурнага ансамбля былой Пакроўскай царквы) | XIX стагоддзе | вул. Путна, 5 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000066 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX стагоддзя | вул. Пушкіна, 2 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000067 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Пушкіна, 4 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000068 | Забудова вул. Рэвалюцыйнай | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Рэвалюцыйная, 1, 2, 3, 4, 5, 8, 22 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000069 | Помнік героям Айчыннай вайны 1812 года | 1912 год | вул. Савецкая | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000070 | Забудова вул. Савецкай Арміі | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Савецкай Арміі, 4, 6, 8, 10, 12, 14, 16, 18, 20 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000071 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | вул. Савецкая, на Успенскай горцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000072 | Будынак | XIX–XX стагоддзі | вул. Савецкая, 1 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000073 | Будынак | XIX–XX стагоддзі | вул. Савецкая, 25 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000074 | Забудова вул. Савецкай | XIX–XX стагоддзі | вул. Савецкая, 15, 17, 19 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000075 | Будынак былога палаца губернатара | 1772 год | вул. Савецкая, 18 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Першапачатковa палац узведзены ў канцы XVIII ст. як гарадскі асабняк, які неўзабаве быў перададзены дваранству. Гэта быў мураваны трохпавярховы будынак, прамавугольны ў плане, арыентаваны тарцовым фасадам на Заходнюю Дзвіну.

З 1806 г. ён з'яўляўся месцажыхарствам генерал-губернатараў. У сувязі з гэтым пачаліся перабудовы (прыбудаваны новы двухпавярховы корпус). Яны былі закончаны ў 1811 г., калі ў Віцебск пераехаў ваенны губернатар герцаг А. Вюртэмбергскі, які і заняў гэты дом. Перабудовы праводзіліся ў канцы XIX і пачатку XX ст. (у асноўным унутраная планіроўка).

Помнік складаецца з галоўнага прамавугольнага ў плане трохпавярховага (XVIII ст.) і П-падобнага ў плане двухпавярховага (XIX ст.) аб'ёмаў, якія ўтвараюць вялікі ўнутраны двор. У галоўным корпусе на першым паверсе знаходзіўся парадны вестыбюль з цэнтральнай лесвіцай, з абодвух бакоў вестыбюля – чатыры памяшканні і невялікія пакоі для слуг. На другім – службовыя пакоі губернатара: гасціная, прыёмная, кабінет. Трэці паверх адводзіўся пад жыллё сям'і губернатара.

У двухпавярховым крыле на першым паверсе размяшчаліся службовыя памяшканні праўлення і канцылярыі губернатара, на другім – вялікая зала (сталовая), прыстасаваная таксама для правядзення канцэртаў і спектакляў, у тарцовай частцы была царква.

Трохпавярховы корпус з'ўляецца характэрным прыкладам архітэктуры класіцызму. Яго галоўны фасад адзначаны цэнтральным рызалітам з порцікам, утвораным чатырма паўкалонамі дарычнага ордэра. Порцік займае вышыню ў два паверхі, на трэцім зроблены балкон, які падтрымліваюць паўкалоны порціка. Бакавыя сцены гладкія, рытмічна прарэзаныя прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Вуглы галоўнага фасада і рызаліта расшыты пад руст. Архітэктура двухпавярховага крыла адлюстроўвае рысы позняга класіцызму: чатырохкалонны дарычны порцік, сцяна першага паверха расчлянёна паўкалонамі з аркатурай, што абрамляе аконныя праёмы. Вуглавая частка фасада вылучана чатырма паўкалонамі на вышыню двух паверхаў і завершана трохвугольным франтонам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000076 | Забудова Смаленскай плошчы | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | Смаленская плошча, 2, 3, 4, 8, 10, 12 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000077 | Былыя гандлёвыя рады | канец XVIII стагоддзя | вул. Суворава, 2 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000078 | Забудова вул. Суворава | XIX–XX стагоддзі | вул. Суворава, 4, 6, 8, 9, 10/2 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000079 | Забудова вул. Суворава | XIX–XX стагоддзі | вул. Суворава, 3, 5, 7, 11, 17/21, 18/10, 21, 24–26, 30, 32, 33, 37, 39/7 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000080 | Гарадскі асабняк | сярэдзіна XIX стагоддзя | вул. Суворава, 20/13 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000081 | Будынак | 1799 год | вул. Суворава, 12 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў цэнтры горада ў стылі класіцызму, рэстаўрыраваны ў 1848 г.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане мураваны будынак. Вуглавая частка закруглена і вылучана на другім паверсе шырокім балконам з каванай агароджай (не захавалася). Сцены завершаны развітым прафіляваным карнізам. Цэнтр падоўжнага галоўнага фасада падкрэслены плоскім рызалітам з трохвугольным франтонам. Першапачатковая планіроўка не зберaглася.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000082 | Будынкі былых даходных дамоў | канец<br>XIX стагоддзя | вул. Суворава, 27/9, 29 | 3 | 18.12.2002<br>№ 80 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000083 | Дамы камунальнага тыпу | пачатак<br>XX стагоддзя | вул. Суворава, 34/23, 38 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000084 | Будынак былога мужчынскага духоўнага вучылішча | канец<br>XIX стагоддзя | вул. Суворава, 44 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000085 | Будынак | канец XIX –<br>пачатак XX<br>стагоддзя | вул. Сярэдненабярэжная, 7 | 3 | 18.12.2002<br>№ 80 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 212Г000086 | Свята-Васкрасенская царква | XVIII стагоддзе,<br>пачатак<br>XXI стагоддзя | на скрыжаванні<br>вул. Талстога<br>і вул. Суворава | 2 | 30.10.2002<br>№ 73 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Уніяцкая Васкрасенская царква адыгрывала важную ролю ў ансамблі Рыначнай плошчы. Храм арыентаваўся алтаром на поўнач, а галоўным фасадам, як і ратуша, – да Віцьбы. На яе месцы раней стаяла драўляная праваслаўная, таксама Васкрасенская, царква. Прыгожы гмах у стылі позняга барока вызначаўся маляўнічым сілуэтам, плаўнымі абрысамі вежаў і франтонаў, вертыкалізмам прапарцыянальнага ладу. Аднанефавы храм меў паўкруглую апсіду з рызніцамі па баках, якія надавалі плану прамавугольную форму. Вышэй рызніц уздымалася светлавая апсіда алтара, завершаная выгнутым фігурным атыкавым франтонам. Двухвежавы галоўны фасад вылучаўся складанай хвалістай паверхняй, якая стваралася дынамічнай групоўкай моцна выцягнутых вертыкальных ордэрных элементаў. Пластыка фасадаў узбагачалася дугападобнымі лініямі карнізаў, ажурнымі вежамі з фігурнымі купалкамі, дынамічным разваротам карынфскіх калон па вуглах выступаючага нартэкса. Цяпер Васкрасенская царква адноўлена ў сваім першапачатковым выглядзе.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000087 | Забудова вул. Талстога | XIX–XX стагоддзі | вул. Талстога, 1, 3, 4, 5, 7, 8, 15 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000088 | Будынак былога Маскоўскага міжнароднага банка | 1856 год | вул. Талстога, 2 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000089 | Дабравешчанская царква | XII стагоддзе, канец XX стагоддзя | пл. Тысячагоддзя (паміж вуліцамі Замкавай і Калініна) | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У плане выцягнуты прамавугольнік (11х18,7 м). На ўсходзе завяршаўся аб'ёмнай круглай апсідай, дзве іншыя апсіды, схаваны ў кутах і звонку нябачныя. Храм меў тры ўваходы (з паўднёвага боку, заходняга і паўночнага), пры кожным з іх быў невялікі бабінец. Царква трохнефавая, шасціслуповая. Слупы мелі форму крыжа. Бакавыя нефы былі вузкія. Сцены змураваныя з абчасаных блокаў вапняку жаўтаватага колеру. Паміж гарызантальнымі радамі блокаў пракладзены па 2–3 рады тонкай плінфы (элемент, характэрны для Візантыі). Бакавыя фасады рытмічна падзяляліся пляскатымі пілястрамі на чатыры прасценкі. Аконныя нішы з раструбамі. У заходняй частцы храма знаходзіліся хоры, на якія вяла непрыкметная лесвіца ў выглядзе шчыліны (лесвіца ўманціравана ў тоўшчу сцяны). Сцены ўпрыгожваў фрэскавы роспіс. На шэрагу плінфаў захаваліся клеймы.

Храм пабудаваны ў XII ст. У час археалагічных раскопак 1964 г. (кіраўнік Г. В. Штыхаў) і 1968 г. (кіраўнік М.К. Каргер) выяўлена, што сцены закладваліся амаль на метр ніжэй за зямную паверхню. Магчыма, князь Альгерд у XIV ст. капітальна перабудаваў храм. Пазней царкву неаднаразова рамантавалі, да яе прыбудоўвалі новыя памяшканні. У 1714 і 1759 гг. выдаткоўваліся сродкі на рамонт храма і яго перабудову. Да заходняга фасада быў прыбудаваны новы нартэкс, фланкіраваны дзвюма шмат'яруснымі вежамі-званіцамі, да паўднёвага фасада – асобная двухпавярховая пабудова, да паўночнага – рызніца. Купал над алтаром быў зняты і заменены сігнатурай, у інтэр'еры пабудаваны мураваны алтар. Пасля 1862 г. заходнія вежы былі зруйнаваны і на іх месцы ўзведзена галоўка-званіца. Быў таксама пабудаваны гранёны драўляны барабан з цыбулепадобным купалам. На працягу доўгага перыяду была сімвалам горада. У 1619 г. перададзена грэка-каталіцкай канфесіі. На пачатку 1960-х гг. царква была ўзарвана.

У 1997 г. царква адноўлена, 26 верасня 1998 г. храм наведаў Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000090 | Забудова вул. Урыцкага | XIX–XX стагоддзі | вул. Урыцкага, 5, 7, 9, 11а, 23/12 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000091 | Будынак былой першай гарадской электрастанцыі | 1897 год | вул. Фрунзе, 13 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000092 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Фрунзе, 17 | 3 | 15.12.1999 № 55 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000093 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Фрунзе, 19 | 3 | 15.12.1999 № 55 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000094 | Комплекс будынкаў былога завода Лісоўскага (будынак канторы, вытворчыя карпусы) | 1877 год | вул. Фрунзе, 41б | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000095 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Б. Хмяльніцкага, 11/6 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000096 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | вул. Цітова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000097 | Былыя лабазы | XVIII стагоддзе | вул. Чайкоўскага, 3, 5 | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000098 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Чайкоўскага, 6 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000099 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Чайкоўскага, 14 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000100 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Чырвонага Партызана, 2/1 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000101 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Чырвонага Партызана, 3 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000102 | Будынак былога прытулку адстаўных чыноўнікаў імя Галімбатоўскага | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Чэхава, 4 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000103 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Чэхава, 7 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000104 | Будынак былога клуба металістаў | 1932 год | вул. Энгельса, 2 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000105 | Забудова вул. Энгельса | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Энгельса, 3/2, 5/11, 8, 10 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |

## Аршанскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000106 | Будынак чыгуначнага вакзала | 1912 год, 1930–1950 гады | г. Орша | 3 | 28.06.2005 № 110 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000107 | Рэшткі падмуркаў царквы Раства Багародзіцы | 1661 год | г. Орша | 3 | 30.03.1999 № 52 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000108 | Помнік К.С. Заслонаву | 1955 год | г. Орша, перон чыгуначнага вакзала | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000109 | Будынак былога вадзяного млына | 1902 год | г. Орша, вул. Замкавая, 2 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |




Млын пабудаваны на бутавым падмурку. Накрыты двухсхільным дахам з бляхі. Складаецца з трохпавярховага прамавугольнага ў плане галоўнага аб'ёму і аднапавярховага рабочага памяшкання. Архітэктура вырашана ў традыцыях псеўдаготыкі, з асобнымі элементамі псеўдарускага стылю. Сцены, прарэзаныя лучковымі праёмамі, не атынкаваны, а толькі пабелены, элементы члянення – лапаткі, гарызантальныя паясы («плоскія» і «парэбрыкам»), антаблемент – мелі натуральны колер чырвонай цэглы. Галоўны (паўднёва-ўсходні) фасад завяршае франтон з дэкаратыўным круглым акном, па баках якога з цэглы выкладзена дата пабудовы – 1902.

Мост – аднапралётная арачная канструкцыя з чырвонай цэглы на бутавым падмурку. Асобныя дэталі – парапет са стральчатымі праёмамі, картушавыя шчыты па баках аркі – надаюць збудаванню псеўдагатычныя рысы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000110 | Ільінская царква | 1880 год | г. Орша,<br>вул. Ільінская, 1 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000111 | Жылы корпус былога кляштара трынітарыяў | 1714–1717 гады | г. Орша,<br>вул. Камсамольская, 21 | 3 | 03.04.2002<br>№ 72 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000112 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | г. Орша,<br>вул. Камсамольская, парк | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 212Г000113 | Комплекс былога езуіцкага калегіума | XVII стагоддзе | г. Орша,<br>вул. Леніна, 6а | 2 | 27.11.2001<br>№ 69 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Манахі-езуіты з'явіліся ў Оршы ў канцы XVI ст. У 1590 г. тут была заснавана езуіцкая рэзідэнцыя. Канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега набыў для езуітаў участак, які раней займаў кальвінскі збор. У 1612 г. рэзідэнцыя рэарганізуецца ў езуіцкі калегіум дзякуючы ахвяраванням польскага караля Жыгімонта III, які разам са Львом Сапегам і ксяндзом Лаўрэнціем распрацаваў план яе заснавання яшчэ ў 1609 г. Жыгімонт III ахвяраваў калегіуму 200 валок зямлі за горадам, а таксама пляц зямлі ў горадзе для будаўніцтва на ім касцёла, калегіума і школ. Аршанскі калегіум быў зацверджаны Папам Рымскім Паўлам V у 1616 г.

Езуіцкі калегіум размяшчаўся ў цэнтры Оршы. Першапачаткова пабудовы былі драўляныя. Праўда, згадваецца аб фундацыі каралём Рэчы Паспалітай Янам III Сабескім у 1690 г. мураваных касцёла і двухпавярховага будынка калегіума, аднак дакладных звестак аб гэтым этапе будаўніцтва не захавалася. Вядома, што мураваны касцёл быў закладзены ў 1741 г. па праекце архітэктара Фантаны. У 1746 г. будаўніцтва было прыпынена і адноўлена толькі ў 1749 г. Завершаны касцёл у 1757–1758 гг. Кіраваў будаўніцтвам Бенядзікт Месмер. Будаўніцтва калегіума завершана толькі ў 1803 г. Акрамя школ пры езуіцкім калегіуме існавалі таксама сад і аранжарэя, дзе манахі вырошчвалі лекавыя расліны, тут дзейнічала лабараторыя і першая ў горадзе аптэка. Для навучання музыцы і спевам дзяцей збяднелай шляхты была створана спецыяльная бурса. Пры калегіуме дзейнічаў таксама школьны тэатр.

У 1773 г. Папа Рымскі Клімент XIV забараніў ордэн езуітаў. Аднак імператрыца Кацярына II дазволіла існаваць манахам-езуітам у межах Расіі, а яе сын Павел I у 1801 г. нават дабіўся ад Папы прызнання ордэна на тэрыторыі сваёй дзяржавы.



Ордэн езуітаў у Расійскай імперыі быў скасаваны па загаду Аляксандра I у 1820 г. Уся яго маёмасць падлягала канфіскацыі. У 1822 г. школа езуітаў перададзена дамініканцам. Былы калегіум быў ператвораны ў турэмны замак, касцёл у 1825 г. перададзены праваслаўным, а ў хуткім часе разбураны. Турма ў калегіуме размяшчалася да канца 1980-х гг.

З комплексу пабудоў былога езуіцкага калегіума да нашага часу захаваўся будынак самога калегіума, асобны двухпавярховы будынак на беразе р. Аршыца і нязначныя рэшткі кляштарнай сцяны. У 1993 г. на тэрыторыі помніка архітэктуры былі праведзены археалагічныя раскопкі і створаны праект рэстаўрацыі. Цяпер калегіум набыў свой першапачатковы выгляд.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак калегіума накрыты двухсхільным дахам. Яго сцены расчлянёны лучковымі і прамавугольнымі вокнамі. Паўднёвы фасад будынка мае двух'ярусную кампазіцыю і магутнымі пілястрамі (бакавыя яшчэ дадаткова ўмацаваны контрфорсамі) падзяляецца на тры часткі. Між'яруснае чляненне выканана з дапамогаю слаістага карніза. Магутны завяршальны карніз аб'ядноўвае ўсе фасады будынка і мае складаны профіль. Паўночны і паўднёвы фасады маюць у завяршэнні трохкутныя франтоны. На галоўнай восі паўночнага фасада знаходзіцца арачны ўваход. Будынак калідорнага тыпу. Частка калідора перакрыта цыліндрычным скляпеннем, другая частка і асобныя памяшканні калегіума маюць крыжова-купальныя скляпенні.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000114 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Орша, вул. Леніна, 11 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000115 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | г. Орша, вул. Леніна, 26 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000116 | Мемарыяльны комплекс «Кацюша» | 1941 год | г. Орша, вул. Магілёўская, каля моста цераз р. Днепр | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000117 | Будынак былой жаночай гімназіі | пачатак XX стагоддзя | г. Орша, вул. Міру, 6 | 3 | 26.04.2005 № 108 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000118 | Жылы корпус былога манастыра базыльян | другая палова XVIII стагоддзя | г. Орша, зав. Музейны, 12 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Мужчынскі базыльянскі манастыр знаходзіўся на правым беразе Аршыцы. Быў заснаваны ў 1642 г. уніяцкім мітрапалітам Антоніем Сялявам. Першапачаткова будынкі былі драўляныя. У 1758–1774 гг. на сродкі аршанскага старосты Яна Лянкоўскага на іх месцы змураваны двухпавярховы жылы корпус і уніяцкая царква ў імя Пакрова Божай Маці – трохнефавая крыжова-купальная базіліка з двухвежавым фасадам. Паводле іншых крыніц, манастыр пабудаваны ў 1768 г. на сродкі уніяцкага архірэя Язэпа Лянкевіча.

У вопісе 1798 г. паведамляецца аб мураваным манастыры з царквой Пакрова Прасвятой Божай Маці. Жылы корпус двухпавярховы, мае два крылы, прычым адна частка не завершана. Тэрыторыя манастыра была абгароджана мураванай сцяной.

Корпус – двухпавярховы Г-падобны ў плане мураваны будынак, накрыты вальмавым дахам. Абодва паверхі маюць галерэйную сістэму планіроўкі. Сцены апрацаваны слаістымі пілястрамі і руставанымі лапаткамі. Першы і другі паверхі падзяляе гарызантальны пояс. Неапрацаваныя ліштвамі аконныя праёмы чаргуюцца з плоскімі нішамі. У паўднёва-ўсходняй частцы будынка размешчаны лесвічная клетка і парадныя залы. Астатнія памяшканні плошчай да 36 м² адводзіліся для жылля і працы. Моцныя сцены таўшчынёй 1 м аблегчаны нішамі. Падвальнае памяшканне перакрываюць цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. Перакрыцце над першым паверхам – крыжовыя скляпенні, на другім – на драўляных бэльках.

У 1832 г. базыльянскі комплекс перайшоў да праваслаўных вернікаў. У жылых карпусах размясцілася духоўнае вучылішча. Царква была перабудавана і набыла рысы класіцызму. Над сяродкрыжжам узвялі драўляны купал (знесены ураганам 8 чэрвеня 1905 г. ). Зроблены новы іканастас.

У 1930-я гг. комплекс перададзены краязнаўчаму музею. У 1967 г. былая царква зруйнавана.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000119 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Орша,<br>вул. Першамайская | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 212Г000120 | Касцёл Св. Іосіфа | 1819 год | г. Орша,<br>вул. Савецкая, 6 | 2 | 26.04.2005<br>№ 108 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Кляштар дамініканцаў заснаваны ў 1650 г. па фундацыі князя Гераніма Альбрэхта Друцкага-Сакалінскага.

Першы драўляны касцёл Св. Вікенція пабудаваны ў 1649 г. Кляштарны комплекс фарміраваўся на працягу XVII–XIX стст., дзейнічаў да 1832 г. (паводле іншых звестак – да 1845 г.)

Мураваны касцёл пабудаваны ў 1808–1819 гг. на сродкі Лявона Пузыны. Касцёл быў абнесены мураванай агароджай з брамай. Касцёл – трохнефавая двухвежавая базіліка. Галоўны фасад быў падзелены на тры часткі, размежаваныя глыбокімі прамавугольнымі нішамі з вылучанымі па восях лучковымі аконнымі праёмамі. У завяршэнні фасада – высокі прамавугольны атык з трохвугольным франтонам, які пераходзіць да плоскасці фасада акруглымі заплечнікамі. У цэнтры атыка авальная люкарна. Фасады крапаваліся вуглавымі калонамі, лапаткамі, тонкапрафіляванымі карнізамі, дэкарыраваны вуглавымі вазамі. У інтэр'еры храма былі партрэтныя выявы фундатараў кляштара Друцкага-Сакалінскага і яго жонкі (не захаваліся).

Пасля паўстання К. Каліноўскага на галоўным фасадзе касцёла былі разабраны дзве вежы.

У 1950-я гг. будынак касцёла рэканструяваны пад Дом культуры. У 1990 г. перададзены вернікам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000121 | Куцеінскі манастыр:<br>Свята-Духаўская царква<br>жылы корпус | XVII стагоддзе | г. Орша, вул. Скарыны, 77 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |

Манастырскі комплекс складаўся з галоўнага Богаяўленскага сабора, Свята-Духаўскай царквы, званіцы, жылых і гаспадарчых пабудоў, быў з трох бакоў абнесены сцяной з бутавага каменю і цэглы. Захаваліся Свята-Духаўская царква, манастырскі будынак, частка сцяны.



Куцеінскі Богаяўленскі манастыр размяшчаўся на паўднёва-заходняй ускраіне Оршы ў сутоках Дняпра і невялічкай рэчкі Куцеінка, ад якой і пайшла назва манастыра. Часам заснавання манастыра прынята лічыць 1623 г., калі Багдан і Алена Статкевічы далі яму фундуш і свае землі (маёнтак Куцейна і сяльцо Паддубцы).

Планіроўка манастыра была рэгулярнай, двор меў прамавугольную ў плане форму. Комплекс мужчынскага Куцеінскага манастыра, абнесены ў канцы XIX ст. мураванай сцяной, складаўся з Богаяўленскага сабора, Свята-Духаўскай царквы, званіцы-брамы, манастырскіх і гаспадарчых пабудоў.

Драўляны Богаяўленскі сабор быў асвячоны ў 1626 г. Ён займаў цэнтральнае месца пасярод манастырскага двара. У 1639 г. манахі гэтага манастыра распісалі амаль усе сцены ўнутры сабора. Роспіс быў выкананы без тынкоўкі, непасрэдна па часанай паверхні сцен і ўключаў 38 шматфігурных кампазіцый на біблейскія і евангельскія сюжэты, у якіх адлюстраваліся шматлікія рэаліі мясцовага побыту таго часу. Сярод іх вылучалася карціна на гістарычную тэму, момант сустрэчы войска гараджанамі і духавенствам з адлюстраваннем рэальнага архітэктурнага асяроддзя: крапасных умацаванняў горада – сцен, вежаў, земляных валоў, а таксама багатых жылых дамоў. У 1885 г. сабор загарэўся ад удару маланкі і быў знішчаны пажарам.

З паўднёва-заходняга боку ад сабornай царквы знаходзіўся другі мураваны храм Раства Хрыстовага. Храм меў восевую трохчасткавую будову, якая складалася з прытвора са званіцай, малітоўнай залы і апсіды, накрытых асобнымі шатровымі дахамі. У 1868 г. царква была рэканструявана і перайменавана ў імя Святога Духа. У выніку перабудовы Свята-Духаўская царква атрымала адзіны двухсхільны дах.

Паводле апісання 1812 г., званіца-брама была драўляная з падвойнымі варотамі. На званіцы меліся чатыры званы. Паблізу мураванай царквы стаяў драўляны флігель, у якім месціліся чатыры келлі, сені і кладовая. Да драўлянага флігеля прымыкаў мураваны будынак, падзелены дваімі сенямі на тры часткі. У першай частцы знаходзіліся тры келлі, у другой – памяшканні ігумена (чатыры пакоі і прыхожая), свіран, кладоўкі, пякарня, за другімі сенямі знаходзіліся трапезная і кухня. Упрытык да агароджы стаялі два мураваныя свірны, некалькі драўляных і мураваная вазоўня. У мураванай агароджы меліся дзве брамы. Пры браме з боку Дняпра былі прыбудаваны мураваная кузня і лазня. Пазней, у канцы XIX ст., былі зроблены брамы ў заходняй і ўсходняй манастырскіх сценах. Брама з усходняга боку вяла на гаспадарчы двор манастыра, які знаходзіўся асобна. У 1889 г. у паўночнай сцяне замест драўлянай старой пабудавана мураваная трох’ярусная званіца з брамай.

Ад усяго гэтага на наш час у напаўразбураным стане захаваліся рэшткі больш трывалых мураваных будынкаў: Свята-Духаўскай царквы і двухпавярховага манастырскага корпуса, дзе раней размяшчаліся жылыя памяшканні і духоўнае вучылішча з вялікай трапезнай. Свята-Духаўская царква адрэстаўрыравана ў сярэдзіне 1990-х гг.

Створаная пры манастыры друкарня адыграла значную ролю ў развіцці беларускай культуры. Яна арганізавана ў пачатку 1630 г. членам Магілёўскага Богаяўленскага брацтва ігуменам манастыра І. Труцэвічам. Літургічныя, маральна-павучальныя і вучэбныя выданні Куцеінскай друкарні былі разлічаны на праваслаўныя брацтвы і розныя слаі гарадскога насельніцтва. У хуткім часе кнігі друкарні сталі шырокавядомыя і распаўсюджваліся таксама на Украіне, у Літве і Маскоўскай Русі. Графічнае афармленне выданняў Куцеінскай друкарні вызначалася своеасаблівасцю, блізкасцю да традыцый беларускага народнага мастацтва, знітаваных стылістычнымі прыёмамі барока. У фарміраванні самабытнай мясцовай школы кніжнай гравюры адметную ролю адыграў беларускі кнігадрукар Спірыдон Собаль, які выдаў першыя пяць кніг. У 1636–1654 гг. выйшла яшчэ 14 выданняў, пасля чаго абсталяванне і работнікі Куцеінскай друкарні былі перавезены ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000122 | Магіла К.С. Заслонава і Я.В. Коржаня | 1942 год | г. Орша, на пероне чыгуначнага вакзала | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000123 | Магіла Героя Савецкага Саюза Ю.В. Смірнова | 1944 год | г.п. Арэхаўск | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000124 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Арэхаўск | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000125 | Будынак «БелДРЭС» | 1927 год | г.п. Арэхаўск | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000126 | Спаская царква | першая палова XIX стагоддзя | г.п. Арэхаўск | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000127 | Помнік далёкай авіяцыі – самалёт ТУ-16 | пачатак 1950-х гадоў | пас. Балбасава | 3 | 07.08.2001<br>№ 66 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000128 | Свята-Петрапаўлаўская царква | 1875 год | в. Браздзечына | 3 | 02.04.1998<br>№ 43 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000129 | Ільінская царква | 1913–1917 гады | в. Высокае | 3 | 02.04.1998<br>№ 43 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000130 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Высокае | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000131 | Будынак былой паштовай станцыі | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | пас. Грышаны | 3 | 15.12.1999<br>№ 55 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000132 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Зубава | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000133 | Гарадзішча | XI–XVII стагоддзі | г.п. Копысь, на левым беразе р. Днепр, урочышча Пятроўскі вал | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Б000134 | Мясціны жыцця і творчасці Я. Купалы:<br>дом Я. Купалы<br>дом шафёра<br>лазня<br>гаспадарчыя пабудовы<br>помнік Я. Купалу | 1935–1941 гады, 1982 год | в. Ляўкі | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000135 | Царква ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы | 1886 год | в. Межава | 3 | 02.04.1998<br>№ 43 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000136 | Былая сядзіба:<br>сядзібны дом<br>парк | 1901 год | в. Межава | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 212Г000137 | Спаса-Праабражэнская царква<br>роспісы па дрэве ў купале | другая палова XVIII стагоддзя | в. Смаляны | 2 | 28.02.2002<br>№ 71<br>28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Складаецца з дзвюх частак: ніжняй мураванай і верхняй драўлянай. Царква – крыжова-купальны будынак. Яе высокі манументальны аб'ём утварае ў плане крыж, да яго з паўднёвага і паўночнага ўсходу прырублены чацверыкі вежаў. Пабудову з трох бакоў абкружае нізкая глухая галерэя. Цэнтральнае сяродкрыжжа ўвянчана масіўным шлемападобным купалам на нізкім чацверыковым барабане, які падтрымліваецца аркай і двума слупамі ў інтэр'еры. Помнік мае трох'ярусны галоўны фасад. Апошні яго ярус складаюць шатровыя вежы васьмярык на чацверыку. Бакавыя рамёны «крыжа» завяршаюцца трохвугольнымі франтонамі. Вокны ў сярэднім ярусе аб'ёму прамавугольныя і, за выключэннем алтарных, спараныя, а ў барабане – паўцыркульныя і лучковыя.

У інтэр'еры галоўнае памяшканне вылучаецца па вышыні купалам на барабане, дэкаратыўнай балюстрадай. Ва ўсходнім рамяне «крыжа», над уваходам, размешчаны хоры. Алтар аддзяляе ярусны разны іканастас.

На купале – размалёўкі XVIII ст., якія вызначаюцца маляўнічасцю каляровай гамы і манументальнасцю кампазіцыі (зроблены тэмперай па дошках). Намаляваны 12 апосталаў ва ўвесь рост.

| 212Г000138 | Рэшткі былога дамініканскага касцёла | другая палова XVIII стагоддзя | в. Смаляны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Дамініканскі кляштар пры касцёле ў Смалянах быў заснаваны 20 сакавіка 1680 г. на сродкі ўладальніка мястэчка князя Гераніма Сангушкі. Комплекс кляштарных пабудоў першапачаткова быў драўляны.

Пасля смерці ў 1729 г. сваёй жонкі Марыі Ганны Любамірскай князь Павел Кароль Сангушка пабудаваў у Смалянах для ксяндзоў-дамініканцаў новы драўляны касцёл, а ў 1734 г. – драўляны кляштар.

Мураваны касцёл быў узведзены ў 1786 г. коштам князя Гераніма Сангушкі, сына Паўла Караля. Мураваны кляштар пачаў узводзіцца адначасова з касцёлам, аднак будаўніцтва яго было скончана толькі на пачатку XIX ст.

Касцёл трохнефавы, двухвежавы з паўкруглай апсідай. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Двух'ярусная трохвосевая кампазіцыя галоўнага фасада падкрэслена пілястрамі, якія разбіваюць яго на тры злёгку ўвагнутыя паверхі. Невысокія вежачкі аб'ядноўваюцца на ўзроўні карнізнай цягі развітым франтонам. Адсутнасць прамежкавага гарызантальнага члянення на галоўным фасадзе надае ўсяму збудаванню масіўнасць і манументальнасць. Трансепт вылучаецца толькі на ўзроўні другога яруса – у першым ярусе ён выкананы ў адным аб'ёме з бакавымі капэламі, якія пераходзяць у аднаярусныя сакрысціі. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера і алтароў не захавалася.



Мураваны аднапавярховы кляштарны будынак калідорнага тыпу размешчаны паралельна паўночнаму фасаду касцёла. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем, абапал яго келлі і гаспадарчыя памяшканні.

Да 1832 г. у кляштарным будынку жылі манахі-дамініканцы, тут жа размяшчалася і невялікая парафіяльная школа. У 1832 г. кляштар быў ліквідаваны. Касцёл быў пера-

ўтвораны ў парафіяльны, у кляштарным будынку размясцілася плябанія. У 1837 г. у ёй быў зроблены новы гонтавы дах. У жніўні 1853 г. у Смалянах здарыўся пажар, у якім пашкоджаны кляштарныя пабудовы. На плябаніі агнём быў знішчаны дах, адноўлены ў 1854 г.

К канцу XIX ст. будынкі былога кляштара прыйшлі ў заняпад. У 1898 г. на прыватныя ахвяраванні пабудовы плябаніі былі капітальна адрамантаваны. У наступным годзе пад кіраўніцтвам архітэктара Даўкшы ўмацавалі падмуркі касцёла і ўпрыгожылі яго інтэр'еры. У 1903 г. на двары плябаніі былі пабудаваны новыя вазоўня і лядоўня.

У 1920-я гг. касцёл у Смалянах быў закрыты, у памяшканнях былога кляштара размяшчалася польская школа. У 1930-я гг. кляштарны будынак перададзены машынна-трактарнай станцыі, што прывяло да фактычнага яго знішчэння.

| 212Г000139 | Руіны замка «Белы Ковель» | першая чвэрць XVII стагоддзя | в. Смаляны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Замак змураваны з буйной цэглы і невялікіх камянёў. Моцна пашкоджаны ў час Паўночнай вайны ў 1708 г. Канчаткова разбураны ў 1-й палове XIX ст. Захаваліся рэшткі вежы.

Здзірванелая прамавугольная ў плане пляцоўка замка (100х200 м) толькі на 40–60 см узвышаецца над балоцістай поймай. Магчыма, у XVII–XVIII стст. замак быў абкружаны штучным вадаёмам. Гэта пацвярджаецца яго размяшчэннем у балоцістай нізіне і адсутнасцю слядоў валоў і асабліва бастыёнаў. Прыкладна ў цэнтры прамавугольніка на невысокім узгорку знаходзяцца руіны (да 20 м вышынёй) пяцігграннага вежавага выступу. Яго замкнуты аб'ём ствараецца сцяной двух- і трохпавярховага корпуса (магчыма, галоўнага будынка замка). З вежы быў выхад ва ўнутраны двор замка, абмежаваны трохпавярховымі карпусамі з квадратнымі вежамі па вуглах, высунутымі за лінію сцен, і ўязной брамай, размешчанай з паўночнага ўсходу.

Уцалелыя дэталі вонкавага дэкору на вежы – ляпны картуш і абрамленні аконных праёмаў – пераклікаюцца з узорамі дэкору ў архітэктуры 1-й паловы XVI ст. Захаваліся фрагменты інтэр'ера – сляды вітой лесвіцы, якая ішла па ўнутраным перыметры вежы, вялікая колькасць рознага памеру ніш па ўнутранай паверхні той жа вежы, арачны пераход з галоўнага корпуса ў вежу, дэталі камінаў. Замак быў афарбаваны ў белы колер. На пачатку XVII ст. сцены памяшканняў распісаны фрэскамі.

Сказаць што-небудзь пэўнае пра архітэктуру замка надзвычай цяжка – бязлітасны час стачыў яго ўшчэнт, пакінуўшы адны руіны. Гістарычныя звесткі пра замак таксама хісткія і няпэўныя. Хто збудаваў замак, каму ён належаў, калі быў зруйнаваны – гісторыкі беларускай архітэктуры не адказваюць на гэтыя пытанні. Час, калі замак быў збудаваны, датуецца даволі прыблізна: XVI ст. альбо канец XVI – пачатак XVII ст.

| 213Г000140 | Аляксееўская царква | 1864 год | в. Смаляны | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

## Бешанковіцкі раён

| 212Г000141 | Ансамбль былога палаца:<br><br>палац<br><br>гаспадарчыя пабудовы<br><br>фрагменты парку | XVII–першая палова XVIII стагоддзя | г.п. Бешанковічы, на паўночнай ускраіне пасёлка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Спачатку парк быў рэгулярнага тыпу з тэрасамі, якія спускаліся да Заходняй Дзвіны. Яго тэрыторыя з поўначы і ўсходу была абмежавана ракой і ручаём, а з поўдня і захаду – алеямі. У парку размяшчаліся палац і іншыя пабудовы. Захаваліся невялікая тэраса ва ўсходняй частцы, паасобныя пасадкі дубу, лістоўніцы, два штучныя вадаёмы. Адзін з вадаёмаў у канцы цэнтральнай алеі, з невялікім паўвостравам, на якім стаяла альтанка, другі – круглы ў плане (дыяметр 40 м) з востравам-клумбай (дыяметр 20 м). У канцы XVIII – першай палове XIX ст. парк перапланаваны ў пейзажны, пабудаваны новыя палац, аранжарэі, пасаджаны сады, разбіты кветнікі. Новыя пасадкі сканцэнтраваны на ўсход ад палаца.



| 213Д000142 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Бешанковічы, вул. Інтэрнацыянальная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000143 | Свята-Ільінская царква | 1870 год | г.п. Бешанковічы, вул. Урыцкага, 3 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000144 | Стаянка «Асавец-4» | 5-е тысячагоддзе да н.э. | в. Асавец, 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Брускавішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000145 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Астроўна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000875 | Руіны былога касцёла, пабудаванага ў гонар перамогі ў 1564 годзе | XVI стагоддзе, XVIII стагоддзе, 1863–1864 гады | в. Астроўна, вул. Мікалаевіча | 3 | 18.06.2008 № 143 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213Г000146 | Парк | 1769 год | в. Бачэйкава | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000147 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XII стагоддзе | в. Бортнікі 1-я, каля дарогі ў в. Зарэчча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000148 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Галыні | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000149 | Парк «Саломінка» | пачатак XX стагоддзя | в. Дабрыгоры | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000150 | Мікалаеўская царква | пачатак XIX стагоддзя | в. Дабрыгоры | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000151 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XII стагоддзі | в. Давыдкавічы, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000152 | Комплекс былой сядзібы «Нізгалава»:<br>сядзібны дом<br>флігель<br>кухня<br>кузня<br>вяндлярня<br>гаспадарчыя пабудовы | другая палова XIX стагоддзя | в. Двор-Нізгалава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |




Комплекс уключае сядзібны дом (пашкоджаны ў 1944 г., адноўлены ў 1970 г. ), флігель, кухню, кузню, вяндлярню, два гаспадарчыя корпусы. Тэрыторыя сядзібнай забудовы невялікімі курцінамі з елак, сосен, клёнаў злучаецца з паркавай зонай (плошча 4 га). Цяпер на тэрыторыі сядзібы сярэдняя школа.

Сядзібны дом – прамавугольны ў плане аднапавярховы мураваны аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Унутраная планіроўка (зменена) калідорная. У пластыцы фасадаў выкарыстаны элементы класіцызму з характэрнай для 2-й паловы XIX ст. адвольнай трактоўкай ордэра. Над невялікімі прамавугольнымі вокнамі вузкія сандрыкі на плоскіх кранштэйнах, пад вокнамі – прамавугольныя нішы. Фундаменты і цокаль выкладзены з валуноў. Ад сядзібнага дома да поймы ракі спускаюцца чатыры тэрасы, абсаджаныя шпалерамі з елкі звычайнай. Кампазіцыя парку – прыклад перабудовы рэгулярнага парку, элементы якога зберагліся, у пейзажны.

Рэгулярны парк складаўся з дзевяці аднолькавых баскетаў, якія дзяліліся чатырма падоўжнымі і чатырма папярочнымі алеямі, з круглымі пляцоўкамі на перакрыжаваннях. Пры перабудове парку ў пейзажны высаджаны экзоты і дэкаратыўныя кусты, на месцы падоўжных алей зроблены маляўнічыя палянкі. У дэндраскладзе піхта бальзамічная, лістоўніца еўрапейская, ліпа буйналістая, бяроза далекарлійская, аксаміт амурскі. У цэнтры паляны, да якой ад паўночна-ўсходняга фасада сядзібнага дома вядзе ліпавая алея, высаджаны рэдкі ў рэспубліцы кедр еўрапейскі калонападобны. Масівы дэкаратыўнага хмызняку (цярноўнік, язмін, бэз) служаць фонам для бяроз і елак, якія ўзвышаюцца над імі. Пры ўездзе ў парк тры хвоі веймутавы, кедры еўрапейскія.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000153 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дуброва | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000154 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Жарнасекава, 0,8 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000155 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XII стагоддзе | в. Зарэчча, 0,1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000156 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XII стагоддзе | в. Зарэчча, 0,1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000157 | Гарадзішча жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Застарынне, 1 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000158 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Клешчыно | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000159 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XIII стагоддзе | в. Прыгожае, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000160 | Гарадзішча жалезнага веку | VIII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Рубеж, 0,4 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000161 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Саннікі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000162 | Мікалаеўская царква | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | в. Слабодка | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000163 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Узрэчча, 0,25 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000164 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Узрэчча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000165 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Ула | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000166 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Ульянаўка, 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000167 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Фролкавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000168 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | XII стагоддзе | в. Фролкавічы, 2,5 км на паўночны захад ад моста праз р. Ула | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000169 | Гарадзішча жалезнага веку | V стагоддзе да н.э.–V стагоддзе н.э. | в. Чарнагосце, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000170 | Гарадзішча жалезнага веку | V стагоддзе да н.э.–V стагоддзе н.э. | в. Янаўшчына, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Браслаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000171 | Калодзежны шацёр | XIX стагоддзе | г. Браслаў | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000172 | Будынак былой бальніцы | 1906 год | г. Браслаў | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000173 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Браслаў, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000174 | Гарадзішча | IX–XV стагоддзі | г. Браслаў, у цэнтры горада, на перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята, на Замкавай гары (14 м) | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000175 | Курганны могільнік | VIII–X стагоддзі | в. Ахрэмаўцы, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, справа ад шашы Браслаў – Шаркаўшчына | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000176 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Ахрэмаўцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000876 | Касцёл Св. Юзафа | 1836 год | в. Барадзінічы | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213Г000877 | Пакроўская царква з элементамі дэкаратыўнага афармлення | канец XIX стагоддзя | в. Богіна | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213В000177 | Курганны могільнік | VIII–XI стагоддзі | в. Богіна, насупраць вёскі, на паўночна-ўсходнім беразе воз.Богінскае, справа ад дарогі Вусце – Плетарова | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000178 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Відзы, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000179 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Відзы, у цэнтры пасёлка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000180 | Троіцкі касцёл | 1914 год | г.п. Відзы, у цэнтры пасёлка | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000181 | Царква Успення Прасвятой Багародзіцы | 1910 год | г.п. Відзы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000182 | Былая сядзіба:<br>сядзібны дом<br>гаспадарчыя пабудовы<br>парк | канец XVIII стагоддзя | в. Відзы-Лаўчынскія | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзіба размешчана на беразе невялікага возера Дворнае. Упершыню маёнтак згадваецца ў XVI ст. Адным з яго ўладальнікаў быў лоўчы Вялікага княства Літоўскага Ян Нарушэвіч. З сярэдзіны XVII ст. да сярэдзіны XIX ст. сядзіба належала Ваўжэцкім. Пры Станіславе Ваўжэцкім у канцы XVIII ст. закладзены сядзібны дом, які захаваўся да нашага часу. Гэта прамавугольны ў плане драўляны аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Галоўны ўваход афармлены порцікам на чатырох вузкіх калонах. Пад порцікам на другім узроўні ёсць мансарда. З боку возера дом выглядае двухпавярховым, бо паніжэнне рэльефу адкрывае цокальны мураваны паверх. Першапачаткова пасярэдзіне гэтага фасада знаходзілася драўляная веранда. У 1900 г. пабудавана двухпавярховая мураваная арачная галерэя з атыкам у псеўдарэнесансным стылі. Галерэя выканана па праекце архітэктара Т. Растварoўскага, вельмі ўпрыгожвае сядзібны дом. Па тарцах будынка знаходзяцца чатырохвугольныя бакавыя ўваходы. Сядзібны дом з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму. Літаратурныя крыніцы адзначаюць багацце ўнутранага аздаблення сядзібы. У пакоях былі насценныя размалёўкі, паркетная падлога, печы з кафлі. Згадваецца мэбля ў стылі Людовіка XV і Людовіка Філіпа, карціны і абразы, у тым ліку французскай і галандскай школ.

З паўночнага боку ад сядзібы размяшчаліся бровар і шэраг гаспадарчых пабудоў. Па фотаздымках, якія захаваліся, можна меркаваць аб іх выглядзе. Флігель аднапавярховы, мураваны, прамавугольны ў плане, накрыты чатырохсхільным дахам. З аднаго боку фасад упрыгожваў порцік з чатырма выкананымі ў тэхніцы разынкавай муроўкі калонамі. З супрацьлеглага боку меўся больш шырокі порцік з пяццю атынкаванымі калонамі. Як і ў сядзібным доме, з гэтага боку адкрываўся цокальны паверх, зроблены ў тэхніцы разынкавай муроўкі з прыгожымі геаметрычнымі ўзорамі. Прамавугольныя праёмы аздаблялі складаныя па малюнку ліштвы. Каля сядзібнага дома размяшчаўся невялікі, але надзвычай маляўнічы парк, рэшткі якога захаваліся.

Парк займаў каля 5 га, добра арганізаваны. Перад домам знаходзілася яго парадная частка, афармленая газонам і пасадкамі вастралістага клёна Шведлера. Адкрыты партэр паміж домам і возерам займалі кветнікі, сіметрычна абсаджаныя па краях групамі высокіх дрэў. Асноўны масіў парку ляжаў на невысокім з плоскай вяршыняй пагорку злева ад сядзібнага дома. І сёння ў парку можна сустрэць рэдкія пароды дрэў.

Паводле некаторых звестак, сядзібу ў Відзах наведваў А. Міцкевіч. У час вучобы ў Віленскім універсітэце ён прыязджаў сюды да сваякоў Маеўскіх. Тут 5 жніўня 1816 г. памёр Тамаш Ваўжэцкі, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.

У XIX ст. сядзіба славілася серавадароднымі крыніцамі, на базе якіх дзейнічаў курорт «Лазенкі». У 1860-я гг. тут мелася 60 ваннаў, працавалі два ўрачы. У канцы XIX ст. ён прыйшоў у заняпад. Апошнімі ўладальнікамі сядзібы ў Відзах-Лаўчынскіх былі Мінейкі. Пасля Другой сусветнай вайны тут размяшчаўся дзіцячы дом, цяпер – школа.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000183 | Курганны могільнік | VII–XI стагоддзі | в. Вусце, 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Казяны | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000184 | Курганны могільнік | VIII–XI стагоддзі | в. Далёкія, 1 км на паўночны захад ад вёскі, у пералеску і на полі, каля дарогі ў в. Даўгаборы | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000185 | Ансамбль былога кляштара бернардзінцаў:<br><br>Троіцкі касцёл. Фрагмент дэкаратыўнай кампазіцыі ў галоўным алтары<br><br>жылы корпус<br><br>агароджа з брамай | 1643–1646 гады | г.п. Друя | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Перад касцёлам – брама з агароджай, пабудаваная ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі позняга барока.

Кляштар – адзін з найбольш цікавых помнікаў архітэктуры ранняга барока на Беларусі.

Кляштар бернардзінцаў складаецца з касцёла Святой Тройцы, жылога корпуса, брамы і агароджы. Комплекс знаходзіцца ва ўсходняй частцы сучаснага пасёлка на высокім беразе Заходняй Дзвіны. Касцёл узводзілі ў 1643–1646 гг. на грошы тагачаснага ўладальніка Друі Казіміра Льва Сапегі – падканцлера Вялікага княства Літоўскага. Галоўны фасад касцёла ўпрыгожвае высокая, даволі масіўная чатырох'ярусная вежа-званіца. Яе сцены прарэзаны невялікімі аконнымі праёмамі розных форм, раскрапаваны вуглавымі пілястрамі, карнізнымі паясамі. Завяршае вежу купал пластычнага сілуэта, дабудаваны ў 1772 г. у стылі позняга барока. Касцёл мае высокі цэнтральны неф і больш нізкія бакавыя, якія на галоўным фасадзе закрываюцца невялікімі аб'ёмамі, завершанымі пластычнымі валютамі. Цэнтральны неф прарэзаны паўцыркульнай апсідай. Па бакавых сценах і апсідзе размешчаны два рады акон з паўцыркульным завяршэннем. Паміж аконнымі праёмамі – плоскія контрфорсы. Знешні дэкор будынка даволі стрыманы, што характэрна для помнікаў ранняга барока.

Інтэр'ер храма, выкананы ў канцы XVIII ст. у стылях позняга барока і ракако, наадварот, вызначаецца пышнасцю і багаццем. Галоўны трох'ярусны алтар упрыгожаны калонамі, пілястрамі, развітымі карнізнымі паясамі, скульптурай. Пры аздабленні чатырох двух'ярусных бакавых алтароў скарыстаны элементы карынфскага ордэра. Багатая ляпніна сцен, калон, скляпенняў з разнастайнымі нервюрамі, іншых элементаў інтэр'ера (тэхніка стука). Да пажару ў 1944 г. на хорах узвышаўся велічны арган сярэдзіны XVIII ст., аздоблены ў стылі ракако. У касцёле меліся таксама каштоўныя абразы, драўляная скульптура, літургічнае начынне. Усё гэта загінула. Не захаваліся і каштоўныя старажытныя званы. Вялікі шматпудовы звон «Казімір», выкананы ў вядомай людвісарні Ганса Багема ў Кракаве, падараваў касцёлу К. Сапега. Меліся рэнесансны звон 1520 г. «Жыгімонт», некалькі дробных – Святога Францішка, Святога Антонія, «Анёл Божы».



З паўночнага боку да касцёла прымыкае жылы корпус, які ўтварае ўнутраны замкнёны чатырохвугольны двор. Раней у цэнтры двара знаходзіўся сад і калодзеж. Будынак разбіты на невялікія памяшканні, па перыметры праходзяць калідоры з крыжовымі скляпеннямі. Вонкавае аздабленне жылога корпуса вельмі простае. Паверхні сцен рытмічна прарэзаны радамі акон, пад дахам пралягае прафіляваны карнізны пояс. Пластычная брама перад касцёлам узведзена ў 1778 г., арачная агароджа – у 1920-я гг.

Касцёл і кляштар неаднаразова рабавалі ў час войнаў XVII–XVIII стст., вайны 1812 г. У 1852 г. кляштар закрылі расійскія ўлады, касцёл пасля гэтага стаў парафіяльным, а жылы корпус паступова прыйшоў у заняпад.



У 1923 г. Папа Рымскі Пій XI дазволіў заснаваць на базе былога бернардзінскага комплексу кляштар айцоў ордэна марыянаў. Адным з напрамкаў дзейнасці новага кляштара стала аднаўленне ўсіх будынкаў, заснаванне школы і навіцыяту для беларусаў, кандыдатаў у манахі. Сродкі на яго арганізацыю і дзейнасць збіраліся ў Амерыцы, пэўныя ахвяраванні ўнесла княгіня Магдалена Радзівіл. Арганізатарам кляштара стаў А. Цікота. У першыя гады дзейнасці манахі аднавілі кляштарныя будынкі, адрамантавалі касцёл, наладзілі гаспадарку ў фальварку. Кіраваў рамонтнымі работамі вядомы беларускі архітэктар Л. Вітан-Дубейкаўскі. У Друі марыяне арганізавалі гімназію імя С. Баторыя. Гімназія вылучалася дэмакратычнымі традыцыямі, у ёй навучалася моладзь розных веравызнанняў, бедных навучэнцаў марыяне апекавалі. У 1938 г. манахаў-беларусаў прымусова выселілі з Друі польскія ўлады, а праз год савецкія ўлады закрылі кляштар і гімназію.

У ліпені 1944 г. у касцёл трапіла авіябомба, моцны пажар пашкодзіў інтэр'ер. Некалькі дзесяцігоддзяў храм стаяў зачынены і разбураўся. У 1990-я гг. пачаліся рэстаўрацыйныя работы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000186 | Парк | XVIII стагоддзе | г.п. Друя | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000187 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Друя, у цэнтры пасёлка, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000188 | Петрапаўлаўскі касцёл | 1929 год | в. Дрысвяты | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000189 | Петрапаўлаўская царква | 1908 год | в. Дрысвяты | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000190 | Замчышча | XI–XVIII стагоддзі | в. Дрысвяты, на востраве воз. Дрысвяты, на высокім (да 8 м) пагорку | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000191 | Гарадзішча | | в. Жвірблі, на заходняй ускраіне вёскі, на высокім пагорку | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000192 | Гарадзішча | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Зазоны, мясцовая назва «Замак». На высокім круглым пагорку, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі Браслаў – Даўгаўпілс | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000193 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – III стагоддзе н.э. | в. Замошша, на заходняй ускраіне вёскі, паміж азёрамі Шылава і Замошскае | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000194 | Курганны могільнік | IVстагоддзе да н.э. – III стагоддзе н.э. | в. Замошша, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000195 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Зарэчча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000196 | Мікалаеўская царква | 1905 год | в. Іказнь | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000197 | Замчышча | XVI–XVII стагоддзі | в. Іказнь, на востраве воз. Іказнь, на штучным пагорку, які ўзнімаецца над пляцоўкай вострава на 5 м | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000198 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Казяны, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000199 | Царква | пачатак XX стагоддзя | в. Кірыліна | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000200 | Курганны могільнік | | в. Коўшынкі, 0,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000201 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – III стагоддзе н.э. | в. Лукшы, 0,8 км на захад ад вёскі. Пляцоўка памерам 36х17 м узвышаецца на 5–6 м над наваколлем | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000202 | Гарадзішча | | в. Майшулі, 0,3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Рацкі Бор. Пляцоўка памерам 50х27 м умацавана трыма валамі і ровам | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000203 | Курганны могільнік | VI–XI стагоддзі | в. Майшулі, 0,5 км на поўдзень ад гарадзішча | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000204 | Гарадзішча | XI–XII стагоддзі | в. Маскавічы, 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на беразе воз. Дзерба | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000205 | Пакроўская царква | пачатак XX стагоддзя | в. Мінкавічы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000206 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>жылы флігель<br>гаспадарчыя пабудовы<br>парк | 1904 год | в. Опса, 2 км ад вёскі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзіба ў Опсе закладзена на пачатку XX ст. на ўсходнім беразе невялікага возера. Землі належалі Плятэрам. У 1904 г. закончана будаўніцтва мураванага палаца, спраектаванага архітэктарам Целяжынскім з Панявежа (сучасны г. Паневяжыс, Літва).

Сядзібны комплекс нядрэнна захаваўся да нашых дзён. Яго цэнтрам з'яўляецца мураваны палац, размешчаны побач з возерам. Галоўны фасад будынка звернуты на ўсход, па баках фланкіраваны двухпавярховымі рызалітамі. Пасярэдзіне аднапавярховага асноўнага аб'ёму знаходзіцца галоўны ўваход, афармлены порцікам з дзвюма калонамі. Дах палаца першапачаткова быў гонтавы, складаны, па баках ад порціка меліся люкарны. З боку возера зроблена адкрытая тэраса, да якой з палаца вялі шкляныя дзверы. Спуск да возера на стромкім схіле афармлены каскадам лесвіц. Дзвярныя праёмы галоўнага ўвахода і выхады на тэрасу, а таксама па два аконныя праёмы па баках ад іх мелі паўцыркульныя завяршэнні. Астатнія праёмы былі прамавугольныя. Праёмы дэкарыраваны арачнымі ліштвамі і пілястрамі. Сцены палаца руставаныя.

Побач з палацам захаваліся жылы флігель і некалькі гаспадарчых пабудоў. Злева ад галоўнага будынка знаходзіцца аднапавярховы на высокім падмурку флігель з бутавага каменю. Будынак драўляны, аднак галоўны фасад мае мураваную сцяну, да якой прымыкае мураваны тамбур з цэнтральным уваходам.

Побач размешчаны склеп з чырвонай цэглы, які служыў для захоўвання напіткаў, малака, садавіны, гародніны. Паглыбленне склепа выкладзена з бутавага каменю. Па правы бок ад палаца знаходзяцца будынкі стайняў, вазоўні, хлявоў, свірнаў. Усе яны мураваныя, большая частка ўзведзена з цэглы і атынкавана, ёсць пабудовы з бутавага каменю. Трапецападобныя франтоны некалькіх гаспадарчых будынкаў зроблены ў выглядзе фахверкавай канструкцыі, ці «прускага муру». Перад палацам размяшчаўся парадны партэр з газонам і кветнікамі, па баках якога пасаджаны групы дрэў з елак і сібірскай піхты. Схіл да возера афармлены тэрасамі з пасадкамі бэзу. Захаваўся невялікі пейзажны парк, аздоблены асобнымі групамі дрэў, палянамі, алеямі. З паўднёвага боку да парку прымыкае вялікі сад, дзе размяшчалася парніковая гаспадарка. З усходу сядзіба абнесена агароджай. Галоўны ўваход афармлены пілонамі з часанага каменю, завершаны каменнымі шарамі. Такія ж пілоны на падмурку з бутавага каменю маюцца ў агароджы. Паміж пілонамі выкарыстаны нахіленыя штыкеціны. З поўдня маёнтак абмежаваны ручаём, які выцякае з возера. Пры пад'ездзе да сядзібы цераз ручай перакінуты прыгожы арачны мост з часанага каменю.

У часы Першай сусветнай вайны ў сядзібе размяшчаўся шпіталь расійскай арміі, штабы вайсковых часцей. У 1922 г. маёнтак выкуплены дзяржавай для арганізацыі мужчынскай сельскагаспадарчай школы, якая працавала ў 1927–1939 гг. У палацы размясцілі класы для заняткаў, сталовую, інтэрнат, кватэры выкладчыкаў. Выкарыстоўваліся ўсе гаспадарчыя пабудовы. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў сядзібе размяшчаліся адпаведна нямецкі і савецкі шпіталі. Потым комплекс аддалі пад школу-інтэрнат. Пасля пераезду школы сядзіба прыйшла ў заняпад. Цяпер тут размешчаны пансіянат Беларускага таварыства інвалідаў. Паступова плануецца аднавіць увесь комплекс, прывесці ў парадак парк.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000207 | Касцёл | пачатак XX стагоддзя | в. Опса | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000208 | Курганны могільнік | VIII–XI стагоддзі | в. Опса, 3 км на поўдзень ад вёскі, злева ад дарогі ў г.п. Відзы, у лесе | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000209 | Касцёл | пачатак XX стагоддзя | в. Плюсы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000210 | Гарадзішча | | в. Пустошка, на заходнім беразе р. Струста, каля дарогі Плюсы – Браслаў | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000211 | Гарадзішча | VII стагоддзе да н.э. – XIII стагоддзе н.э. | в. Рацюнкі, на паўднёвай ускраіне вёскі, на ўзвышшы 10 м | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000212 | Касцёл Сэрца Ісуса уваходныя дзверы | 1903 год | в. Слабодка | 2 | 28.02.2002 № 71 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл – трохнефавая двухвежавая базіліка з апсідай, трансептам і сакрысціямі. Галоўны фасад сфарміраваны дзвюма высокімі пяціяруснымі вежамі з вострымі шатровымі вярхамі і параўнальна невялікай фасаднай плоскасцю цэнтральнага нефа паміж імі. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі, лучковымі і круглымі аконнымі праёмамі з вітражамі (каляровае шкло захавалася часткова). Над галоўным уваходам і на фасадных плоскасцях трансепта размешчаны вялікія вокны-«ружы». Усе сцены раскрапаваны ступеньчатымі контрфорсамі, якія на бакавых фасадах злучаны з дэкаратыўнымі аркбутанамі. Уваходы вырашаны ў выглядзе аднатыпных парталаў з паўцыркульнымі праёмамі.

У інтэр'еры – цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, хоры ў верхняй частцы бабінца. У пластычным вырашэнні шырока выкарыстаны ордэрныя элементы раманскай архітэктуры: аркатурныя паясы, нішы, калонкі з капітэлямі раслінных форм. Сцены і скляпенні алтарнай часткі размаляваны арнаментам.

Вялікую мастацкую каштоўнасць маюць жалезныя акоўкі ўсіх вонкавых дзвярэй касцёла, выкананыя мясцовым кавалём. Кампазіцыі аковак складаюцца з сіметрычна ўкладзеных па баках завесы (царгі) спіралепадобных пышных раслінных сцёблаў, што заканчваюцца то чатырохлістымі кветкамі, то пальметападобным лістком. Пры кампазіцыйным адзінстве аковак усіх дзвярэй дэталі не паўтараюцца, што сведчыць аб свабоднай імправізацыі майстра ў кожным выпадку. Арыгінальную, багатую па форме і складаную па малюнку кампазіцыю маюць акоўкі дзвярэй цэнтральнага ўвахода. Яны вырашаны як пышныя букеты з арнаментальных элементаў, што паўтараюцца ў кампазіцыях дэкору бакавых дзвярэй.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000213 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2 | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Слабодка, 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, на высокім узгорку паўвострава Рог, паміж азёрамі Нешчарда і Поцех, 0,5 км на паўночны захад ад гарадзішча-1 | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000214 | Гарадзішча | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Укля, 1 км на поўнач ад вёскі, на беразе воз. Укля, ва ўрочышчы Тарылава | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000215 | Курганны могільнік | XI–XII стагоддзі | в. Укля, 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, на ўскраіне лесу | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000216 | Гарадзішча | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Шавуры, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на высокім пагорку | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |

## Верхнядзвінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000217 | Брацкая магіла (9 воінаў Чырвонай арміі) | 1939 год | г. Верхнядзвінск, у гарадскім скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000218 | Брацкая магіла (4 воіны Савецкай Арміі) | 1944 год | г. Верхнядзвінск, у гарадскім скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000219 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | г. Верхнядзвінск, вул. Савецкая, 43 | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000220 | Мемарыяльны комплекс ахвярам фашызму, воінам-вызваліцелям і землякам | 1977 год | г. Верхнядзвінск, на развілцы шасэйных дарог Верхнядзвінск – Асвея, Даўгаўпілс – Полацк | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000221 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | | в. Абрамава, 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000222 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | XII стагоддзе | в. Абрамава, 0,6 км на захад ад вёскі, 0,5 км на поўнач ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000223 | Магіла ахвяр фашызму | 1943 год | в. Абухава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000224 | Былы манастырскі шпіталь | 1759 год | г.п. Асвея | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Будынак былога манастырскага шпіталя П-падобны ў плане, аднапавярховы з паўпадваламі ў бакавых частках. У сярэдняй частцы пакоі размешчаны абапал калідора, у бакавых – па адзін бок. У 1928–1929 гг. будынак прыстасаваны пад адміністрацыйную ўстанову. Пачатковая планіроўка захавалася толькі ў левым, усходнім крыле. У пакоях столі плоскія, калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Усе сцены аднолькавай таўшчыні (71 см). У паўпадвальным паверсе размяшчалася кухня. Сцены яе разрэзаны лучковымі вокнамі, памяшканні перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000225 | Парк | другая палова XIX стагоддзя | г.п. Асвея | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000226 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Асвея, у гарадскім парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000227 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | IV–III стагоддзі да н.э. | в. Барсукі, 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000228 | Чыгуначны вакзал | 1924–1926 гады | в. Бігосава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Будынак чыгуначнага вакзала павернуты паўночным фасадам да чыгуначнага палатна. Кампазіцыя будынка выцягнутая, сіметрычная. Планіроўка мяшаная. Цэнтральная частка квадратная ў плане, накрыта двухсхільным дахам. Па вуглах – чацверыковыя зубчастыя вежы з высокім шатровым пакрыццём. Да цэнтральнай часткі з абодвух бакоў (з захаду і ўсходу) прымыкаюць двухпавярховыя і аднапавярховыя аб'ёмы. Сцены двухпавярховых бакавых крылаў аздоблены лапаткамі, прарэзаны вялікімі прамавугольнымі вокнамі. Такія ж аконныя праёмы маюць аднапавярховыя аб'ёмы. Рысы абарончага дойлідства надаюць будынку манументальны характар. У цэнтральнай частцы – зала чакання, у бакавых крылах – рэстаран і службовыя памяшканні.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000229 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Боркавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000230 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Валынцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000231 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Вознава, 0,4 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000232 | Фрагменты былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>рэшткі капліцы<br>гаспадарчыя пабудовы<br>стайні<br>фрагменты парку | другая палова XIX стагоддзя | в. Вопытная | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзібны комплекс уключае сядзібны дом, капліцу, гаспадарчыя пабудовы і невялікі парк з сажалкай. Цяпер тут ветэрынарны тэхнікум.

Сядзібны дом – аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з двума бакавымі выступамі. Цэнтральная частка на паверх вышэйшая за асноўны аб'ём, завершана франтонам. Бакавыя выступы вылучаны чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі. Аконныя праёмы першага паверха прамавугольныя, абрамленне акон другога паверха спрошчанае, прасценкі руставаныя. Сцены дэкарыраваны пілястрамі, рустам, філёнгамі, завершаны развітым карнізам. Планіроўка калідорнага тыпу.

Перад домам невялікі парк пейзажнага тыпу. У цэнтры сядзібнага ансамбля сажалка са штучным вострpayам. На захад ад яе – гаспадарчыя будынкі. У глыбіні сядзібнага ўчастка прамавугольная ў плане мураваная капліца з дарычнымі паўкалонамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000233 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Вопытная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000234 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Галубава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000235 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Дзянісенкі, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000236 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дзёрнавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000237 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э. | в. Дубровы, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000238 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Жоўніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000239 | Курганны могільнік | XI–XII стагоддзі | в. Зашчырына, 0,2 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000240 | Курганны могільнік | VII–XII стагоддзі | в. Ігналіна, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000241 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – XII стагоддзе | в. Княжыцы, 0,4 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000242 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Лешня, 2–3 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000243 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Лісна, 1,5 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000244 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Луначарскае | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000245 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Любасна, 1,6 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000246 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Маскалёнкі, 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000247 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Першамайская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000248 | Гарадзішча | X–XIII стагоддзі | в. Пескаватка, 1,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000249 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Прудзінкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000250 | Троіцкі касцёл | пачатак XX стагоддзя | в. Росіца | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000251 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Росіца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000252 | Фрагменты парку | XIX стагоддзе | в. Сар'я | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000253 | Касцёл | 1852–1857 гады | в. Сар'я | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл прамавугольны ў плане, з пяцігранай апсідай і дзвюма невялікімі сакрысціямі. Кампазіцыя галоўнага фасада ступеньчатая, трохчасткавая. Цэнтральную частку завяршаюць дзве шатровыя вежачкі на пяцігранных рабрыстых контрфорсах. Сцены па перыметры ўмацаваны 12 лапаткамі з вежамі, завершаны аркатурным пояскам і скразной вострazубчастай аркадай. Месца злучэння асноўнага аб'ёму з апсідай вылучаюць двухчасткавыя лапаткі. Аконныя праёмы стральчатыя з прафіляванымі ліштвамі. Унутры асноўнае памяшканне перакрыта крыжовымі скляпеннямі, пластыку якіх узбагачаюць ляпныя нервюры. Дзве калоны падтрымліваюць хоры з арачнай балюстрадай.

Помнік архітэктуры неаготыкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000254 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сар'я | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000255 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Сукалі, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000256 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Урагава, 1 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000257 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Царкоўна, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000258 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Цясты, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000259 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | пас. Чапаеўскі, на паўднёвай ускраіне пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Віцебскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000260 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Альгова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000261 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Арлова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000262 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Асінаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000263 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Бабінічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000264 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Бальшухі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000265 | Комплекс былой паштовай станцыі:<br>станцыйны дом<br>флігель для ямшчыкоў<br>карэтная<br>стайні | 1843 год | в. Бараўляны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Станцыйны дом павернуты галоўным фасадам да дарогі. Будынак прамавугольны ў плане, з боку двара – невялікая прыбудова. На галоўным фасадзе чатыры акны з ліштвамі. Над увaходам невялікі франтончык. Абапал сенцаў, якія выцягнуты ўздоўж папярочнай восі будынка, размяшчаліся на левым баку тры пакоі для прыезджых, ямшчыкоў, на правым – пакоі даглядчыка. Гаспадарчыя пабудовы на станцыйным двары (хлявы, стайні, флігель для ямшчыкоў) часткова перабудаваны.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000266 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Бараўляны, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000267 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Баронікі, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000268 | Курганны могільнік | | в. Вароны, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000269 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Вароны | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000270 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Ваяводкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000271 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Войтава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000272 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Вымна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000273 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Вялікая Любшчына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000274 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Гараднянскі Мох | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000275 | Курган | X–XIII стагоддзі | в. Дземяхі,<br>1,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000276 | Брацкая магіла | 1941–1944 год | в. Дружная | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000277 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагод-дзе н.э. | в. Дрыколле,<br>2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000278 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Задзвінне | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000279 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагод-дзе н.э. | в. Зайцава,<br>каля вёскі, на левым беразе р. Каспля | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000280 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Заронава | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000281 | Музей-сядзіба мастака І.Я. Рэпіна:<br>сядзібны дом<br>дом аканома<br>склеп<br>тэрыторыя ў межах агароджы (8,8 га) | 1892–1895 гады | в. Здраўнёва | 3 | ад 19 сакавіка 2003 г.<br>№ 83 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000282 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | II стагоддзе да н.э. – III ста-годдзе н.э. | в. Канькі, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000283 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Котава | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000284 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Кузьмянцы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000285 | Селішча-1, селішча-2, селішча-3 | перыяд ранняга сярэднявечча | в. Кузьмянцы,<br>1,5 км на паўночны захад ад вёскі,<br>0,4 км на поўнач ад урочышча Царкавішча,<br>каля вусця р. Сухадроўка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000286 | Магіла Героя Савецкага Саюза М.Ф. Сільніцкага | 1942 год | в. Курына | 3 | 23.12.2003<br>№ 92 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000287 | Курганны могільнік | | в. Лебартова,<br>0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000288 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Лосвіда | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000289 | Комплекс былой земляробчай школы адміністрацыйны будынак школы | другая палова XIX стагоддзя | в. Лужасна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы мураваны Г-падобны ў плане будынак. Выступы аб'ёмаў ствараюць невялікі ўнутраны дворык. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі вылучаецца трохпавярховая вуглавая частка з уваходам, сіметрычнай групоўкай праёмаў, складанымі шчытамі. Паміж імі размешчаны высокі спічасты шацёр, які надае выразнасць сілуэту будынка. Фасады вырашаны ў два колеры. Плоскасці фасадаў прарэзаны двума радамі шырокіх акон, прамавугольных на першым паверсе і лучковых на другім. Сістэма размяшчэння памяшканняў – калідорная. На кожным паверсе па тры пакоі. Захаваліся белыя кафляныя печы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000290 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Лужасна, каля вёскі, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад скрыжавання шашы і дарогі, якая вядзе да тэхнікума | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000291 | Селішча | 1-е тысяча годдзе н.э. | в. Лужасна, прымыкае да гарадзішча з паўночнага боку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000292 | Курганны могільнік | VI–XIII стагоддзі | в. Лятохі, каля вёскі, у лесе ўздоўж дарогі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000293 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Міхайлава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000294 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Мяклава, 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000295 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Мяклава, на тэрыторыі селішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000296 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Навасёлкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000297 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Ноўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000298 | Гарадзішча, курганны могільнік | VI–VIII стагоддзе н.э. | в. Раніна, 4 км на ўсход ад вёскі, 1,8 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000299 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Рудакі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000300 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Сакольнікі, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000301 | Курганны могільнік | | в. Саўчонкі, каля дарогі на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000302 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | III–IV стагоддзі | в. Старое Сяло, 2,5 км на поў-дзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000303 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Старое Сяло | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000304 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2, курганны могільнік-3 | IX–X, IX–XIII, IX–XIII стагоддзі | в. Старое Сяло, на тэрыторыі вёскі, 1 км на ўсход ад вёскі, 1,8 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000305 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Скрыдлева | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000306 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сумы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000307 | Замчышча | IX–XVII стагоддзі | г.п. Сураж, на мысе пры зліцці рэк Заходняя Дзвіна і Каспля | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000308 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сушчова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000309 | Курганны могільнік | | в. Хатоля, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000310 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V ста-годдзе н.э. | в. Шапуры, у вёсцы, на правым беразе р. Лучоса | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000311 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Шапуры, з заходняга боку гары, на якой знаходзіцца гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000312 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Шаркі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000313 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Янавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Гарадоцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000314 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | г. Гарадок, пл. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000315 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Альхавец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000316 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. | в. Бібіна, 1,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000317 | Гарадзішча | VII–VIII стагоддзі | в. Бярозна, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000318 | Курганны могільнік | XI–XII стагоддзі | в. Бярозна, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000319 | Гарадзішча, селішча | VI–VIII стагоддзі | в. Бяскатава, на паўднёвай ускраіне вёскі, побач з гарадзішчам | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000320 | Курганны могільнік | VIII–IX стагоддзі | в. Бяскатава, 0,3 км на ўсход ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000321 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Бяскатава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000322 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Верамеева | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000323 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Віраўля | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000324 | Гарадзішча | III–IV стагоддзі | в. Вышадкі, 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000325 | Курганны могільнік | X–XI стагоддзі | в. Вышадкі, на паўднёвым беразе воз. Вышадскае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000326 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Вялікія Стайкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000327 | Вайсковыя могілкі | 1943 год | в. Гуркі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000328 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Дзеравушка, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000329 | Каменныя крыжы | XIV–XVII стагоддзі | в. Дубраўкі, 2 км на захад ад вёскі, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000330 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Дубраўкі, 2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000331 | Вайсковыя могілкі | 1943 год | в. Дубраўкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000332 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Евіна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000333 | Вайсковыя могілкі | 1943 год | г.п. Езярышча, вул. Ленінская, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000334 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Зайкава, 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000335 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Зарэчча, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000336 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Кабішча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000337 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Кавалі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000338 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Казінова, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000339 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Канчані | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000340 | Гарадзішча | VIII–X стагоддзі | в. Кісялі, 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Обаль | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000341 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Ключ | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000342 | Будынак былой паштовай станцыі | першая палова XIX стагоддзя | в. Кузьміно | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000343 | Гарадзішча | VI–VIII стагоддзі | в. Кулі, 3 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000344 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Малашанкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000345 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Марозава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000346 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Маскаляняты | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000347 | Стаянка-1, стаянка-2 | 3–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Мяжа, 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Мяжа | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000348 | Стаянка-3 | 9–8-е тысячагоддзі да н.э. | в. Мяжа, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000349 | Вайсковыя могілкі | 1943 год | в. Мехавое | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000350 | Магіла Героя Савецкага Саюза А.Я. Казлова | 1971 год | в. Мяжа | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000351 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Новы Болецк | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000579 | Гарадзішча | XV–XVIII стагоддзі | г. Паставы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000580 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | г. Паставы, вул. Чырвонаармейская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000581 | Царква | XIX стагоддзе | в. Апідамы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000582 | Царква | пачатак XX стагоддзя | в. Асінагарадок | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000583 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Асінагарадок, на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000584 | Брацкая магіла | 1812 год | в. Асінагарадок | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000585 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Вайшкуны, 2 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000586 | Фрагменты парку | пачатак XX стагоддзя | г.п. Варапаева | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000587 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Варапаева, вул. Ленінская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000588 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Галбея, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Галбея | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000589 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Галбея, 1 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000590 | Царква | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | в. Груздава | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000591 | Гарадзішча | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Дзяўгуны, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000592 | Троіцкі касцёл | 1769–1773 гады | в. Дунілавічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудаваны з цэглы пры двухпавярховым мураваным кляштары дамініканцаў (не захаваўся), на месцы драўлянага храма, засnavанага ў 1683 г. Помнік архітэктуры барока.

Трохнефавая двухвежавая базіліка з трансептам і прамавугольнай у плане апсідай. Вежы двух'ярусныя, завершаны купаламі з галоўкамі і раскрапаваны ўвагнутымі пілястрамі. Бакавыя фасады прарэзаны лучковымі вокнамі і дэкарыраваны спаранымі пілястрамі. Па ўсім перыметры сцен – шырокі карнізны пояс. Над ім у цэнтральнай частцы галоўнага фасада ўзвышаецца фігурны шчыт, злучаны з вежамі невялікімі валютамі. Сцены трансепта выгнутыя, завершаны фігурнымі франтонамі, над апсідай – шчыт са



складаным крапаваным франтонам. Цэнтральны ўваход вылучаны парталам (перабудаваны ў XIX ст. у формах класіцызму). У інтэр'еры скляпенні цэнтральнага нефа цыліндрычныя з распалубкамі на падпружных арках, у бакавых нефах – крыжовыя. Скляпенні размаляваны раслінным арнаментам і картушамі. Калоны і сцены раскрапаваны пілястрамі. Алтар двух'ярусны, ступеньчаты.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000593 | Касцёл Яна Хрысціцеля<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера касцёла:<br>роспісы скляпенняў<br>алтары<br>арган<br>хоры | 1603–1606 гады, XVIII–XIX стагоддзі | в. Камаі | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл пабудаваны з цэглы мясцовымі майстрамі ў 1603-1606 гг. па фундацыі Яна Рудаміны-Дусяцкага.

Першапачаткова меў восевую сіметрычную кампазіцыю. Мяркуючы па рэштках скляпенняў на гарышчы і пілястрах, быў трохнефавы, чатырохслуповы. У сярэдзіне 17 ст. у час пажару скляпенні абваліліся і адноўлены не былі. Слупы разабралі, а цэнтральны аб'ём перакрылі драўляным скляпеннем. Крыжовае і зоркавае скляпенні захаваліся толькі ў апсідзе. У 1739 г. былі перабудаваны мураваныя хоры, у 1778 г. да паўднёвай бакавой сцяны касцёла прыбудавана вялікая капліца са склепам у падвале.

Касцёл – двухвежавы, двухзальны храм з вялікай апсідай, двухпавярховай сакрысціяй і хорамі над прытворам. Асноўная зала і капліца прамавугольная ў плане, апсіда – паўцыркульная. Дахі асноўнага аб'ёму і капліцы двухсхільныя, над апсідай двухсхільны дах пераходзіць у канічны. Сцены касцёла таўшчынёй да 2–3 м, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў вялікіх двухбаковых нішах. Цэнтральны ўваход вырашаны ў такой жа нішы, але са стральчатым праёмам. Сцяна галоўнага фасада асноўнага аб'ёму, якае мае трохвугольнае завяршэнне, раскрапавана ў верхняй частцы паўцыркульнымі плоскімі нішамі з байніцамі на ўзроўні гарышча. Яе фланкіруюць цыліндрычныя вежы з круглымі і паўцыркульнымі байніцамі. Астатнія сцены касцёла гладкія, завершаны тонкімі карнізамі. Фасады капліцы раскрапаваны пілястрамі.

Інтэр'ер касцёла мае арыгінальную прасторавую будову: узровень падлогі капліцы вышэйшы, чым асноўнай залы, і яны злучаны між сабой мураванымі лесвіцамі паміж магутнымі пілонамі з хвалепадобнымі ў плане бакавымі плоскасцямі. У капліцы ёсць і асобны ўваход з вуліцы. Перакрыта яна цыліндрычным на распалубках скляпеннем і падпружнымі аркамі. У канцы апсіды скляпенне зоркавае, над прэсбітэрыем – крыжовае. У сакрысціі скляпенні цыліндрычныя на распалубках і крыжовыя. Апсіда раскрываецца ў асноўнае памяшканне арачным праёмам. Усе скляпенні касцёла размаляваны арнаментамі ў тэхніцы грызайль. У алтарнай частцы яны былі зроблены, напэўна, у час рэстаўрацыі 1726–1736 гг., у капліцы – у сярэдзіне XIX ст.

Асноўным матывам алтарнай часткі з'яўляецца сакавітая акантавая галіна, якая пакрывае яго амаль суцэльным дыванам, апляцаючы картушы і медальёны з манаграмамі ці сімваламі. На падпружных арках арнаментальныя стужкі чаргуюцца з медальёнамі.

У капліцы арнамент сіметрычна размешчаны на паверхні перакрыццяў. Акантавая галіна больш тонкага малюнка, чым у алтарнай частцы, і амаль геаметрычнага характару. Падпружныя аркі запоўнены фрызавым арнаментам.

Плафон асноўнага памяшкання храма размаляваны ў выглядзе ляпной рамы, вакол якой размешчаны гірлянды з пладоў і кветак, звязаных бантамі.

У касцёле чатыры драўляныя разныя алтары. Цэнтральны алтар 2-й паловы XVIII ст. двух'ярусны. Аснову першага яруса складаюць чатыры калоны карынфскага ордэра, у нішах паміж імі змешчаны драўляныя паліхромныя скульптуры апосталаў Пятра і Паўла. У цэнтры абраз «Божая маці з дзіцем».

Крапаваны карніз з разарваным франтонам аддзяляе другі ярус алтара, які ўтвораны дзвюма калонамі, што абрамляюць карціну ў васьміграннай разной пазалочанай раме. Завяршае алтар гарэльефная кампазіцыя з выявай Саваофа ў воблаках. Ордэрныя элементы алтара распісаны пад ружовы мармур.

На хорах устаноўлены арган канца XVIII ст. Яго афармленне складаецца з разных па дрэве гірлянд кветак, скульптурных выяў анёлаў і кампазіцый з музычных інструментаў. Па баках аргана арнаментальныя валюты з галоўкамі херувімаў. Філёнгі парапета хораў дэкарыраваны ў 1739 г. накладной скразной арнаментальнай разьбой.

Касцёл дзейнічае з 1985 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000879 | Каменны крыж | XV–XVI стагоддзі | в. Камаі | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213Д000594 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Камаі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000595 | Будынак былой сядзібы Альфрэда Ромера | XIX стагоддзе | в. Каралінова | 3 | 23.04.2002 № 84 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000880 | Храм Успення Прасвятой Багародзіцы | 1830 год | в. Ласіца | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 212Г000596 | Касцёл Тадэвуша<br>роспісы інтэр'ера | 1766 год | в. Лучай | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы як езуіцкі. Помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму.

Двухвежавая трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай і трансептам. Галоўны фасад фланкіруюць трох'ярусныя вежы, раскрапаваныя вуглавымі пілястрамі, нішамі, прарэзаныя прамавугольнымі аконнымі праёмамі (часткова замураваны). Пры перабудове верхні ярус вежаў завершаны купальнымі ратондамі. Галоўны фасад, апсіду і трансепт вянчаюць розныя па форме фігурныя шчыты. Сцены касцёла раскрапаваны пілястрамі. Па ўсім перыметры будынка праходзіць дарычны карнізны пояс.



Інтэр'ер вырашаны ў насычанай архітэктурнай пластыцы. У цэнтральным нефе скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у бакавых – крыжовыя, над сяродкрыжжам – сферычны купал. Над уваходам – хоры. Ордэрную пластыку дапаўняюць роспісы ў тэхніцы грызайль.

Ніжняя частка купала запоўнена ілюзорна-перспектыўнай архітэктурнай кампазіцыяй. У люнетах цэнтральнага нефа – маляваныя васьміgranныя плафончыкі. На ветразях, тарцовых сценах трансепта і ў консе апсіды – выявы евангелістаў, святых і анёлаў. Сцены бакавых нефаў дэкарыраваны фрэскавым роспісам, які імітуе скульптурны рэльеф. Гэтак жа выканана размешчанае над уваходам пано-картуш з выявамі двух воінаў са шчытамі і воінскіх атрыбутаў. Разнастайным арнаментальным дэкорам запоўнены ўсе плоскасці сцен і перакрыццяў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000597 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | г.п. Лынтупы,<br>2,5 км на паўночны захад ад пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79,<br>21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578,<br>03.09.2008 № 1288 |
| 213Д000598 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Лынтупы,<br>вул. Маркава | 3 | 25.02.2003 № 82,<br>21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578,<br>03.09.2008 № 1288 |
| 213Г000874 | Сядзібна-паркавы комплекс:<br>сядзібны дом<br>флігель<br>лядоўня<br>службовы будынак<br>будынак музычнай школы<br>вяндлярня<br>парк<br>паркавы павільён<br>водная сістэма (сажалкі, каналы, мосцікі) | першая палова XIX стагоддзя | г.п. Лынтупы | 3 | 31.05.2006 № 120,<br>21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578,<br>03.09.2008 № 1288 |
| 213Г000881 | Храм Пакрова Прасвятой Багародзіцы | 1871 год | в. Манькавічы | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213В000599 | Гарадзішча | мяжа 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Сарокі,<br>на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Полацкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Е000600 | Гістарычны цэнтр г. Полацка: будынкі і збудаванні, планіровачная структура, ландшафт і культурны слой на тэрыторыі, абмежаванай: з поўначы – вул. Кастрычніцкай, з поўдня – вул. Дзяржынскага, з усходу – вул. Юбілейнай да вул. Дзяржынскага, з захаду – па вул. Гастэлы, М. Багдановіча, Шэнягіна да вул. Кастрычніцкай | XI–XX стагоддзі | г. Полацк | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Тэрыторыя г. Полацка пачала засяляцца, паводле даных археалогіі, яшчэ ў X ст. У XI–XII стст. тут фарміруецца Вялікі пасад старажытнага Полацка, які стаў культурным і эканамічным цэнтрам горада. Паводле рэвізіі г. Полацка 1552 г., на Вялікім пасадзе налічваўся 771 двор. Да сярэдзіны XVIII ст. у гэтай частцы горада ўжо склалася прамавугольная сістэма вуліц. У сярэдзіне XIX ст. цэнтральная частка горада была падзелена на 96 кварталаў. Галоўныя вуліцы тут былі наступныя: паралельна р. Дзвіна праходзілі вул. Веліжская, альбо Ніжняя Пакроўская, Ільінская, ці Верхняя Пакроўская, Віцебская (пазней будзе перайменавана ў вул. Аляксандраўскую), Спаская, Азарава, Невельская, Невельская 2-я (пазней вул. Плігаўская), перпендыкулярна перасякалі Санкт-Пецярбургская, ці Рыжская, Прабойная, Крыжовая, Баравая (пазней перайменавана ў Вазнясенскую), Задзвінская, Яўрэйская, Спаская Папярочная. У гэтай частцы Полацка былі размешчаны і тры асноўныя гарадскія плошчы. Корпусная плошча з помнікам у памяць аб вайне 1812 г. знаходзілася перад былым езуіцкім калегіумам, занятым кадэцкім корпусам. Па перыметры плошчы размяшчаліся мураваныя будынкі, якія належалі кадэцкаму корпусу, касцёл і кляштар дамініканцаў, павятовае вучылішча. Дзве другія плошчы называліся Гандлёвая і Рынчная.

На вул. Ніжняй Пакроўскай знаходзіліся Богаяўленская царква з манастырскім будынкам і касцёл з кляштарам францысканцаў. На рагу вул. Азарава і Крыжовай з правага боку знаходзіўся жаночы кляштар марыявітак. У паўднёва-ўсходняй частцы горада стаяла драўляная Пакроўская царква. На вул. Яўрэйскай размяшчалася адзінаверская мураваная царква. Паводле сведчання сучаснікаў, горад выглядаў даволі маляўніча, асабліва з Задзвінскай часткі, і быў добра забудаваны. У 1864 г. у Полацку налічвалася 274 мураваныя і 1224 драўляныя дамы. «Из числа каменных домов большая часть двухэтажные и только 2 трехэтажных с подвалами. Крыши на каменных домах большей частью железные, а на деревянных из гонта или драни, редко из черепицы».







Паволе сведчання пісьмовых крыніц, у Полацку часта здараліся пажары. Адной з прычын спусташальных пажараў была шчыльная забудова маламерных пляцаў. Так, напрыклад, у 1837 г. у горадзе згарэла каля 300 прыватных і казённых дамоў, у 1848 г. згарэлі 72 будынкі, у красавіку 1860 г. – 7 мураваных і 4 драўляныя дамы, у ліпені 1862 г. – 155 дамоў, з якіх 24 мураваныя. Вялікі пажар у цэнтры горада адбыўся 24 ліпеня 1871 г. Аб маштабах пажара можа сведчыць апублікаваны ў «Живописной России» выгляд Полацка пасля пажару.

Пасля пажару ў 1870-я г. у горадзе вялося інтэнсіўнае будаўніцтва, адбудоўваліся згарэлыя і ўзводзіліся новыя мураваныя будынкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000601 | Брацкая магіла (122 воіны Савецкай Арміі) | 1941–1944 гады | г. Полацк | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000602 | Забудова вул. Войкава | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | г. Полацк, вул. Войкава, 1, 6, 8 | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000603 | Брацкая магіла | 1944 гады | г. Полацк, вул. Гагарына, Чырвоныя могілкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000604 | Магіла Героя Савецкага Саюза З.М. Тусналобавай-Марчанкі | 1980 год | г. Полацк, вул. Гагарына | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000605 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Полацк, вул. Дзяржынскага, Фатынаўскія могілкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 210Г000606 | Сафійскі сабор | 1044–1066 гады, 1738–1750 гады | г. Полацк, вул. Замкавая, 1 | 0 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудаваны паміж 1044 і 1066 гг. (паводле іншых звестак, у 1050–1060 гг. ) пры полацкім князі Усяславе Брачыславічу як цытадэль у дзядзінцы горада – Верхнім замку. Тут прымалі паслоў, абвяшчалі пра вайну і мір, захоўвалася дзяржаўная казна, бібліятэка, архіў. З'яўляўся сімвалам Полацка.

Спачатку крыжова-купальны квадратны ў плане храм, даўжыня сцен 24–26 м. Меў сем купалаў (паводле некаторых звестак – пяць), вялікую трохчасткавую апсіду з усходняга боку. На кожным фасадзе (акрамя ўсходняга) было па шэсць прамавугольных плоскіх лапатак, якія адпавядалі ўнутранаму падзелу памяшкання 16 апорнымі слупамі на пяць нефаў, тры сярэднія нефы



заканчваліся апсідамі. Над сяродкрыжжам сабора ўзвышаўся барабан цэнтральнага купала. Сцены складзены з прыроднага каменю і плінфы ў тэхніцы паласатай муроўкі, што стварала двухколерную гаму паверхні, характэрную для полацкай школы дойлідства. Унутры храма былі вялікія П-падобныя хоры і аркады, адкрытыя ў падкупальную прастору. Сабор неаднойчы быў разбураны, спалены.

У канцы XV – пачатку XVI ст. перабудаваны ў пяцівежавы храм абарончага тыпу. Апошняя адбудова праведзена ў 1618 г. У Паўночную вайну 1700–1721 гг. пашкоджаны (1710 г.). У 1738–1750 гг. перабудаваны (архітэктар І.К. Глаўбіц, муляр Б. Касінскі) у стылі віленскага барока, арыентаваны з поўдня на поўнач.

Пасля скасавання уніі (1839 г.) і перадачы Сафійскага сабора ў праваслаўнае ведамства перад новымі гаспадарамі паўстала праблема надання познебарочнаму уніяцкаму храму «благочестивого» выгляду. Апроч таго, заняпалы будынак сапраўды патрабаваў грунтоўнага абнаўлення.

У адпаведнасці з зацверджаным у 1846 г. расійскай Галоўнай управай шляхоў зносін і публічных будынкаў каштарысам на рамонт Сафійскага сабора ў Полацку было выдаткавана 13144 руб. 72 і ¾ кап. 29 ліпеня 1847 г. Полацкая духоўная кансісторыя падпісала кантракт з магілёўскім купцом Півам Гранатам на выкананне вонкавага рамонту царкоўнага будынка. Да канца 1847 г. падрадчык «разобрал все крыши, исключая над алтарем и двумя башнями, положил мауэрлаты, поставил стропила с обрешечением их и покрытием листовым железом, карнизы отделал под главной крышей».

У апошні дзень 1848 г. Камітэт па рамантаванню сабора звярнуўся з рапартам да вышэйшай інстанцыі, з якога вынікала, што «при устройстве тротуара вокруг Собора и утрамбовке земли вокруг Собора обнажились с северной стороны стены и фундаменты неоштукатуренные в аршин высотою». Камітэт пытаўся дазволу патынкаваць муры за кошт продажу старой ліставой бляхі. Што і было дазволена імператарскім указам, які з'явіўся на пачатку сакавіка 1850 г.

Пад час работ 1849–1850 гг. былі афарбаваны званы, сцены, гзымсы, прамыты абразы. У сярэдзіне сабора была пастаўлена перагародка, папраўлены сцены, замураваны дзверы, уваход на званіцу, а ў алтары – замураваны фрамугі. У шатні (рызніцы) разабралі печку і ўсталявалі камін, замест разабранай старой падлогі намасцілі новую – дашчаную. Новыя абразы для іканастаса намаляваў мастак Свешнікаў. З-за адсутнасці сродкаў запланаваныя работы былі выкананы не ў поўным аб'ёме – на гэта наракаў падрадчык Розенфельд у 1850 г. 28 кастрычніка 1851 г. адрамантаваны сабор быў асвячоны.

У лістападзе 1876 г. архітэктар Пакроўскі склаў каштарыс на рамонт сабора на суму 4272 руб. 13 кап. Аднак, верагодна, з-за адсутнасці сродкаў работы былі шырока распачаты толькі ў 1879 г.

Паводле кантракта, заключанага Камітэтам з будаўнікамі 19 красавіка 1879 г., у саборным будынку меркаваліся мулярскія, цяслярскія, дахавыя і малярныя работы, якія павінны былі завяршыцца да 1 верасня 1879 г.



Паводле каштарыса, складзенага каля 1910 г. епархіяльным архітэктарам В. Коршыкавым, прадугледжваўся грунтоўны рамонт сабора, у тым ліку «выбивка попревших кирпичей в цоколе, на колокольнях, карнизах и фронтонах, замена верхней части правой колокольни, поврежденной громовым ударом, замена обрешетки, устройство кружальных стропил для глав двух колоколен с постановкой новых мачт, покрытие крыши новым 13-фунтовым железом, глав на двух колокольнях и отдельных карнизах, установка водостоков, исправление железных украшений на углах двух колоколен, креста на правой колокольне с позолотой, штукатурки, вытягивание новых карнизов, капителей пилястр, тяг, огрунтовка, побелка, покрытие сводов и стен внутри, исправление четырех киотов, оконные переплеты, фрамуги к окнам, входная дверь, лестницы к колокольням, настилка полов и покраска их в желтый цвет, покраска крыш на масле по грунту, окон с фрамугами, вставка стекол в окна, исправление иконостасов, промывка икон...»

16 кастрычніка 1911 г. падрад на рамонт храма (акрамя рэстаўрацыі чатырохківотаў, падлогі і іканастаса) быў перададзены В. Крастоўскаму. У чэрвені 1912 г. з левага боку алтара, у замураванай нішы, была знойдзена труна з астанкамі чалавека ў епіскапскім строі.



У справаздачы, складзенай на пачатку чэрвеня 1913 г., пералічаны выкананыя работы, а менавіта: рэстаўрацыя абразоў, кружальныя кроквы для трох купалаў заходняй і ўсходняй вежаў, а таксама галоўнага алтара, пакрыццё іх жалезам, мачты для крыжоў, вадасцёкавыя трубы на ўсіх дахах, афарбоўка дахаў, замазванне расколін у старадаўняй муроўцы сцен у сярэдзіне храма і часткі скляпенняў, пабелка званіц, насціл чорнай падлогі, рамонт печкі, рамонт падмурка вакол усяго будынка.

Звыш зробленага яшчэ меркавалася даследаваць стан трубы, якая была пракладзена ад сабора да Заходняй Дзвіны, скласці каштарыс на яе рамонт, а таксама абліцаваць храм 30 тыс. цаглін.

Да сакавіка 1914 г. былі выкананы наступныя работы: «...выбивка кирпича.., исправление железных украшений.., позолота 2-х крестов, перекладка свода и стен внутри собора.., исправление трещин.., исправление пола в коридоре.., устройство крыши, внутренние новые двери.., пола в колокольне, переплетов, разбивка крыш, реставрация икон, исправление киетов, позолота гробницы...» і г. д.

1 верасня 1914 г. Камітэт праінфармаваў вышэйшае кіраўніцтва аб тым, што рамонт амаль закончаны.

У кастрычніку 1914 г. былі адрэстаўрыраваны абразы ў майстэрні братоў Чырыкавых у Маскве, а таксама ўстаноўлены новы іканастас.

17 кастрычніка 1914 г. адрамантаваны храм асвячоны.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Сафійскі сабор пэўны час эксплуатавала збожжанарыхтоўчая база.

| 212В000608 | Барысаў камень | XII стагоддзе | г. Полацк, каля Сафійскага сабора | 2 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Камень-валун (палявы шпат чырванаватага колеру) каля 8 м у акружнасці, паверхня няроўная. На камені высечаны шасціканцовы крыж (даўжыня больш за 1,5 м) і надпісы «ХС НИКА» і «Господи помози рабу своему Борису». Раней у басейне Заходняй Дзвіны было больш за дзесяць валуноў з аднолькавымі крыжамі і надпісамі. Мяркуюць, што крыжы выбіты паводле загаду князя Барыса Усяславіча ў 1-й трэці XII ст. у сувязі з ажыўленнем язычніцкіх вераванняў і для ўвекавечання імя князя.

| 212Г000609 | Будынак | 1773–1775 гады | г. Полацк, вул. Замкавая, 5 | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак трохпавярховы, сцены цагляныя неатынкаваныя. Гарызантальна чляніцца міжпаверхавымі цягамі. Фасады завершаны карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000610 | Будынак | першая палова XX стагоддзя | г. Полацк, зав. Бальнічны, 15 | 3 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000611 | Ансамбль плошчы Свабоды (былая Парадная, Корпусная): | канец XVIII стагоддзя | г. Полацк, | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| | будынак павятовага і ніжняга земскага судоў | | праезд Замкавы, 2, | | | |
| | дом віцэ-губернатара | | праезд Замкавы, 2а | | | |
| | дом каменданта | | праезд Замкавы, 4 | | | |
| | будынак магістрата | | пр. К. Маркса, 4 | | | |
| | дом губернатара | | пр. К. Маркса, 6 | | | |
| | дом верхняй і ніжняй упраў | | пр. К. Маркса, 8 | | | |
| | дом генерал-губернатара | | пр. К. Маркса, 8а | | | |






Сфарміравана ў XVII ст. перад будынкам калегіума і касцёла езуітаў. З XVIII ст. вядома як Парадная пл., з 1830 г. – Корпусная.

Ансамбль XVIII ст. фарміраваўся ў два этапы: у 1776 г. пастаўлены будынкі паштовага двара, магістрата, канцылярыі (не збераглiся), да 1784 г. – жылыя і адміністрацыйныя будынкі паводле праектаў архітэктара І. Зігфрыдэна. Плошча ў плане мела форму блізкую да квадрата. На заходнім яе баку знаходзіліся касцёл (не збярогся) і калегіум езуітаў, на ўсходнім – будынкі грамадзянскай і крымінальнай палат, намесніцкага праўлення (не збераглiся), на паўднёвым – дамы губернатара, магістрата, верхняй і ніжняй упраў, на паўночным – дамы каменданта і віцэ-губернатара, земскіх судоў, комплекс дамініканскага манастыра (XVII ст., не збярогся). Збераглiся будынкі калегіума, магістрата і дома губернатара, верхняй і ніжняй упраў, дамы каменданта і віцэ-губернатара. Утваралі адзіны ансамбль забудовы. У планіроўцы і рэгулярнай забудове плошчы адлюстраваны элементы класіцызму.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 211Г000612 | Комплекс былога езуіцкага калегіума (кадэцкага корпуса) | XVIII стагоддзе, 1830-я гады | г. Полацк, пр. К. Маркса, 2а (корпус А), вул. Стралецкая, 4 (карпусы Б, В, Г, Д, Е, будынак былой бурсы і гаспадарчыя пабудовы) | 1 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |





Фарміраванне манументальнага ансамбля калегіума было распачата ў 1733 г. з пабудовы касцёла (будаўніцтва завершана ў 1745 г.). У 1750 г. за ім закладзены галоўны корпус. У 1778 г. узведзены трохпавярховы корпус, дзе размясціліся друкарня, кнігарня і тэатр, і двухпавярховы жылы флігель. У 1780 г. будуюцца адна- і двухпавярховыя службы (бровар, медаварня, піваварня, пякарня, майстэрні, кузня) і аптэка. А ў 1785 г. яшчэ адзін корпус, у якім знаходзіліся карцінная галерэя, музей, абсерваторыя, вучэбныя кабінеты і лабараторыя і два флігелі (бурса і шпіталь). Узгоркавы адхон быў узмоцнены мурам, што дало магчымасць зрабіць сад. На гэтым першы этап фарміравання езуіцкага калегіума быў закончаны.

Пасля скасавання езуіцкай акадэміі будынкі былі перададзены піярам, а затым кадэцкаму корпусу. З гэтага часу пачаўся другі этап фарміравання ансамбля. Ён быў звязаны з прыстасаваннем будынкаў да патрэб кадэцкага корпуса. У сувязі з гэтым пасля 1835 г. езуіцкія будынкі былі грунтоўна рэканструяваны і пабудаваны яшчэ шэраг службовых памяшканняў. На пачатку XX ст. да паўднёва-заходняга кута асноўнага корпуса калегіума быў прыбудаваны службовы корпус.

Ансамбль полацкага езуіцкага калегіума меў выключнае значэнне ў сістэме гістарычнага горада XVIII – пачатку XX ст. Сваім усходнім фасадам калегіум абмяжоўваў Парадную плошчу, ягоныя будынкі замыкалі перспектывы і фарміравалі традыцыйны сілуэт Полацка, зафіксаваны на іканаграфіі XIX–XX стст.

У 1962 г. касцёл і шэраг карпусоў былі знішчаны.







| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000613 | Комплекс былога кляштара бернардзінцаў:<br><br>жылы корпус<br><br>руіны касцёла Дзевы Марыі<br><br>будынак пякарні<br><br>гаспадарчая пабудова | 1758 год | г. Полацк,<br>вул. Імя 23 Гвардзейцаў | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Заснаваны ў 1488 г. манахамі-бернардзінцамі па фундацыі вялікага князя Аляксандра Ягелончыка. Мураваныя будынкі касцёла (захаваліся руіны) і кляштара ўзведзены ў канцы XVII – пачатку XVIII ст. Комплекс уключаў таксама гаспадарчыя пабудовы (кузню, стайню, свіран і інш.), пладовы сад з агародам. Збярогся двухпавярховы мураваны жылы корпус, у плане выцягнуты прамавугольнік, з захаду завершаны перпендыкулярна размешчаным крылом з трапезнай на першым паверсе. З усходу вузкім пераходам злучаўся з касцёлам. Унутраная планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем келляў, перакрыцце памяшканняў скляпеністае. Архітэктура жылога корпуса вызначаецца прастатой, мае сціплы дэкор: прамавугольныя ліштвы акон, плоскія пілястры, прафіляваны карніз.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000614 | Забудова вул. Ніжне-Пакроўскай | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | г. Полацк,<br>вул. Ніжне-Пакроўская,<br>6, 9, 26, 46, 48 | 3 | 27.01.2002<br>№ 93 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000615 | Былая лютэранская кірха | пачатак XX стагоддзя | г. Полацк,<br>вул. Ніжне-Пакроўская, 11 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 212Г000616 | Корпус былога кляштара францысканцаў | XVIII стагоддзе | г. Полацк,<br>вул. Ніжне-Пакроўская, 20 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Двухпавярховы ў плане прамавугольны будынак з бакавым рызалітам (на дваровым фасадзе). Галоўны фасад арыентаваны на лінію забудовы вуліцы. Плоскасці сцен падзелены карнізным пояском, завершаны развітым прафіляваным карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы з ліштвамі, на другім паверсе з дэкаратыўнымі нішамі і сандрыкамі. Унутраная планіроўка зменена.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000617 | Ансамбль Богаяўленскага манастыра:<br><br>Богаяўленская царква<br><br>тры фрэскавыя роспісы Богаяўленскай царквы<br><br>жылы корпус манастыра | XVIII стагоддзе<br><br><br>1761–1777 гады<br><br>1780–1788 гады | г. Полацк, вул. Ніжне-Пакроўская, 22, 24 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Складаўся з Богаяўленскай царквы, жылога корпуса і «эканамічнага» дома (не захаваўся). Быў абнесены агароджай, з боку вуліцы мураванай.

Дакладная дата заснавання полацкага Богаяўленскага манастыра невядома. Лічыцца, што ён заснаваны ў XVI ст. Першапачаткова манастыр быў драўляны, часта разбураўся ў час войнаў і пажараў.

Захаваныя да нашага часу мураваныя будынкі манастыра ўзведзены ў 2-й палове XVIII ст. Пасля пажару 1757 г., які «истребил весь монастырь, состоящий из скопления деревянных построек: храм, монастырские кельи, школу, богадельню, братские помещения», у 1761 г. пачынаецца будаўніцтва Богаяўленскай мураванай царквы. Жылы манастырскі корпус зноў будуецца драўляны. На плане г. Полацка 1778 г. паказана размяшчэнне манастырскіх пабудоў: мураваная царква, жылы драўляны корпус у плане П-падобны, два крылы якога павернуты да Богаяўленскай царквы; пасярод двара гэтага корпуса знаходзілася невялікая драўляная царква. Верагодна, апісанне гэтых будынкаў маецца ў рапарце гараднічага Полацка: царква мураваная даўжынёй 16, шырынёй 10 саж., царква драўляная даўжынёй 8, шырынёй 5 саж., драўляных келляў шэсць, трапезных дзве, вакол манастыра агароджа драўляная даўжынёй 75, шырынёй 24 саж.

Будаўніцтва двух мураваных манастырскіх будынкаў адносіцца да 80-х гадоў XVIII ст. Новапабудаваны манастырскі комплекс уключаў: Богаяўленскую царкву; двухпавярховы Г-падобны ў плане манастырскі корпус, у крыле, арыентаваным па вуліцы знаходзіліся брацкія келлі, у вуглавой частцы размяшчалася цёплая царква Св. вялікапакутніцы Кацярыны, у меншым крыле «да р. Дзвіны» – настаяцельскія келлі, трапезная, пакоі для гасцей, гэта частка будынка мела падвальныя памяшканні; другі двухпавярховы меншых памераў дом. Увесь комплекс быў абнесены агароджай, па вуліцы мураванай даўжынёй 31 ½ саж., вышынёй 2 саж. з аршынам, у якой зроблены дзве брамы з весніцамі.

Вядома, што ў меншым корпусе з 1789 па 1819 г. знаходзілася народнае вучылішча, а таксама з 1792 г. гарадская багадзельня.

У жылым манастырскім корпусе ў 1803 г. брацкая трапезная на другім паверсе была перароблена ў царкву з прастолам у імя прападобнай Еўфрасінні.

На працягу першых двух дзесяцігоддзяў у манастыры адбываліся дробныя рамонтныя работы: перакрыццё даху, малярныя.

У час Айчыннай вайны 1812 г. манастыр быў разрабаваны. У 1817 г. праведзены рамонтныя работы па аднаўленні манастырскіх будынкаў. Работы датычыліся насцілу новай падлогі, столі, рамонту дзвярэй, аконных рам, купала цёплай царквы, прабітага ядром. Аднак у 1826 г. паверан г. Полацка Кабяка хадайнічаў аб выдаткаванні сродкаў на новыя рамонтныя работы.

Капітальны рамонт адбываўся ў 1832–1836 гг. Манастырскія будынкі былі накрыты ліставым жалезам.

У працэсе рамонту цёплая царква ў імя вялікапакутніцы Кацярыны была перанесена на другі паверх жылога корпуса і пашырана за кошт скасаванай царквы прападобнай Еўфрасінні. У сувязі з гэтым для ўваходу ў храм з вуліцы была зроблена парадная лесвіца на другі паверх.

У меншым манастырскім будынку перароблены ўнутраныя папярочныя сцены з драўлянымі прасценкамі. На манастырскім двары пабудаваны новыя драўляныя службы.

У жылым манастырскім корпусе ў не занятых келлямі пакоях на першым паверсе ў 1831 г. было размешчана Полацкае павятовае казначэйства. У меншым манастырскім доме пасля рамонту з 1835 па 1874 г. размяшчалася Полацкае павятовае духоўнае вучылішча.

Богаяўленскі манастыр, размешчаны на высокім беразе Дзвіны, мусіў клапаціцца аб яго ўмацаванні ад размывання вадой. У 1836 г. быў зацверджаны праект фашыннага ўмацавання берага каля манастыра. У канцы 1840-х гг. зноў умацоўвалі бераг сваямі. Аднак у час вясенняй паводкі ў 1872 г. у выніку падмыву берага абвалілася частка манастырскай агароджы.

У 1922 г. Полацкі Богаяўленскі манастыр быў прыпісаны да Мікалаеўскага сабора і ў хуткім часе скасаваны.

Як выкарыстоўваліся будынкі Богаяўленскага манастыра ў даваенны перыяд – невядома. З 1957 г. будынак брацкага корпуса выкарыстоўваўся як жылы дом. Другі манастырскі дом быў пашкоджаны ў час Вялікай Айчыннай вайны і разабраны. У Богаяўленскім саборы пасля рэстаўрацыі (1973–1983 гг., аўтар праекта архітэктар В.Г. Слюнчанка) размяшчалася карцінная галерэя.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000618 | Будынак | першая палова XIX стагоддзя | г. Полацк, вул. Ніжне-Пакроўская, 30 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000619 | Будынак | 1692 год | г. Полацк, вул. Ніжне-Пакроўская, 33 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў цэнтры горада як жылы (на мяжы XVIII–XIX стст. перабудаваны). У гэтым доме ў 1705 г. жыў Пётр I. Аднапавярховы (з паўпадвальным паверхам) будынак мае ў плане форму няправільнага прамавугольніка (19x8,5 м).

Сцены цагляныя, атынкаваныя звонку і ўнутры. Асноўныя памяшканні паўпадвала перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, астатнія крыжовымі. Пакоі першага паверха маюць пазнейшыя плоскія перакрыцці. З боку ракі на фасадзе дзевяць акон, на бакавым – тры. Уваход зроблены з боку задняга фасада. Зараз уваход ссунуты ў бок вугла. Несумненна, раней унутры існавала яшчэ адна папярочная сцяна, аб чым сведчыць план паўпадвала, і дом меў скляпеністыя перакрыцці.

У час Вялікай Айчыннай вайны дом значна пацярпеў. У 1949 г. будынак адрамантаваны: адноўлены разбураныя часткі сцен, зроблены дах, фасады атынкаваны з цягай карнізаў і аконных абрамленняў, пасланы новая падлога і столь, запоўнены дзвярныя і аконныя праёмы. Будынак быў прыстасаваны пад дзіцячую бібліятэку. Захаваліся і ўяўляюць пэўную каштоўнасць драўляныя дзверы разной работы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000620 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Полацк, вул. Ніжне-Пакроўская, 35 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000622 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | г. Полацк, пл. Свабоды | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000623 | Забудова пр. К. Маркса | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | г. Полацк, пр. К. Маркса, 1, 3, 5, 22, 29 | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000624 | Ансамбль Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра: | | г. Полацк, вул. Еўфрасінні Полацкай, на правым беразе р. Палата | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 210Г000621 | Спаса-Праабражэнская царква роспісы ў інтэр'еры | XII стагоддзе | вул. Еўфрасінні Полацкай, 59 | 0 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| | цёплая царква | першая палова XIX стагоддзя | | б/к | | |
| | Крыжаўзвіжанская царква | канец XIX стагоддзя | | 2 | | |
| | манастырскі корпус | пачатак XVIII стагоддзя | | 3 | | |
| | манастырскі корпус | пачатак XX стагоддзя | | б/к | | |
| | брама-званіца | XIX стагоддзе | | 3 | | |



У ансамбль уваходзілі дзве мураваныя царквы XII ст. (захавалася Спаса-Праабражэнская), мураваная ўязная брама, жылы мураваны манастырскі корпус пачатку XIX ст. (збярогся), шэраг службовых і гаспадарчых памяшканняў, сад, агарод. У другой палове XIX ст. да брамы прыбудаваны два бакавыя аб'ёмы, у пачатку XX ст. з заходняга боку брамы пастаўлены двухпавярховы жылы корпус (збярогся). У сярэдзіне XIX ст. побач са Спаса-Праабражэнскай царквой пабудавана невялікая мураваная цёплая царква. У канцы XIX ст. узведзена вялікая мураваная крыжова-купальная Крыжаўзвіжанская царква ў псеўдарускім стылі. Манастыр быў заснаваны прыблізна ў 1128 г.

У пачатку 1563 г. войскі рускага цара Івана Грознага занялі Полацк. Манахіні пакінулі манастыр пры набліжэнні войскаў і болей не вярталіся. Кароль Рэчы Паспалітай Стафан Баторый у 1579 г. адвяваў Полацк, заснаваў у манастыры сваю рэзідэнцыю, а потым перадаў яе езуітам. На працягу 1656–1667 гг. Спаса-Праабражэнская царква зноў была праваслаўнай. Гэта быў час, калі Полацкам авалодалі войскі рускага цара Аляксея Міхайлавіча. Паводле Андрусаўскага міру 1667 г. Полацк быў вернуты Рэчы Паспалітай, і Спаса-Праабражэнская царква стала парафіяльным езуіцкім касцёлам. У 1820 г. па ўказу імператара Аляксандра I усе манахі езуіцкага ордэна высяляліся з Расіі. Землі манастыра былі перададзены ў казну, Спаса-Праабражэнскі храм з іншымі культавымі будынкамі быў аддадзены манахам каталіцкага ордэна піяраў. У 1832 г. па загаду цара Мікалая I Спаса-Праабражэнскі храм быў вернуты Полацкай епархіі, часткова перабудаваны ў 1833 г. пад кіраўніцтвам архітэктара А.Я. Порты. Асвячэнне «благолепно отремонтированного Спасова храма» адбылося 30 ліпеня 1839 г. З 1841 г. манастыр зноў дзейнічае як жаночы. У 1910 г. мошчы







прападобнай Еўфрасінні Полацкай былі перанесены з Кіева ў Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. У пачатку 1918 г. манастыр закрыты. У Вялікую Айчынную вайну знішчаны ўсе драўляныя будынкі, напаўзруйнаваны сабор. У 1990 г. манастыр аднавіў сваю дзейнасць.

Спаса-Праабражэнская царква пабудавана паміж 1152 г. і 1161 г. полацкім дойлідам Іаанам па заказу Еўфрасінні Полацкай як саборны храм Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Помнік полацкай школы дойлідства.

Мураваны прамавугольны выцягнуты ў плане (8х12 м) аб'ём з купалам на высокім барабане. Цэнтральны неф з усходу завершаны паўкруглай масіўнай апсідай. Бакавыя алтары малых памераў паўцыркульныя, звонку нябачныя. Паўднёвы і паўночны фасады расчлянёны пілястрамі з паўкалонамі, якія рытмічна падзяляюць паверхню на два вузкія і два шырокія прасценкі (чаргуюцца), прарэзаны двума ярусамі паўцыркульных аконных праёмаў. Вокны ніжніх ярусаў у паўтара раза большыя за верхнія, з так званымі броўкамі з чатырох радоў плінфы. Спачатку царква мела пазакамарнае пакрыццё асноўнага аб'ёму і больш нізкага нартэкса. Барабан купала апіраўся на кубічны пастамент з дадатковым ярусам закамар. Гэта стварала шмат'ярусную кампазіцыю верху. Пазакамарнае пакрыццё заменена трохсхільным дахам. Старажытным закамарам адпавядаюць тры ўсходнія паўкружжы на паўднёвым і паўночным фасадах. Унутраная прастора шасцю масіўнымі апорнымі слупамі падзелена на тры нефы. Чатыры слупы ўнізе васьміграннія, вышэй – чатырохгранныя. У заходняй сцяне (у два разы таўсцейшая за паўднёвую і паўночную) лесвічны ход на хоры (асаблівасць полацкай школы дойлідства). Па баках хораў дзве маленькія келлі. У царкве пад больш познімі напластаваннямі тынкоўкі і пабелкі, алейнага роспісу 1832–1835 гг. і 1840 г. захаваліся унікальныя старажытныя фрэскі, створаныя майстрамі 2-й паловы XII ст.



Храм дзейнічае.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000625 | Тэрыторыя Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра | XII стагоддзе | г. Полацк, вул. Еўфрасінні Полацкай, 59 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000626 | Забудова вул. Еўфрасінні Полацкай | другая палова XVIII стагоддзя, канец XIX–пачатак XX стагоддзя | г. Полацк, вул. Еўфрасінні Полацкай, 1, 1а, 3, 5 | 3 | 27.12.2001 № 69 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000627 | Забудова былой вул. Сака і Ванцэці | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | г. Полацк, вул. Леніна, 3, 4 | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000628 | Будынак былой воданапорнай вежы | канец 1950-х–пачатак 1960-х гадоў | г. Полацк, вул. Ф. Скарыны | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Ж000629 | Помнік Ф. Скарыну | 1974 год | г. Полацк, пл. Ф. Скарыны | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Ж000630 | Помнік В.М. Азіну | 1979 год | г. Полацк, вул. Ф. Скарыны | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000631 | Забудова вул. Ф. Скарыны | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Полацк, вул. Ф. Скарыны, 5, 6 | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000632 | Брацкія магілы | 1943–1944 гады | г. Полацк, вул. Суворава, Громаўскія могілкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000633 | Будынак | 1912 год | г. Полацк, вул. Талстога, 15 | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000634 | Гарадзішча | VIII стагоддзе | г. Полацк, на правым беразе р. Палата, ніжэй Чырвонага моста, з поўначы абмежавана 2-м зав. Фрунзе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000635 | Селішча | VIII стагоддзе | г. Полацк, на правым беразе р. Палата, вышэй Чырвонага моста | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000636 | Верхні замак | X–XIII стагоддзі | г. Полацк, на правым беразе р. Заходняя Дзвіна, пры ўпадзенні ў р. Палата | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000637 | Ніжні замак з валам Івана Грознага | XVI стагоддзе | г. Полацк, прымыкае да Верхняга замка з усходняга боку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000638 | Запалоцкі пасад | X стагоддзе | г. Полацк | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000639 | Тэрыторыя былога Бельчыцкага (Барысаглебскага) манастыра | XII стагоддзе | г. Полацк, зав. Юбілейны | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000640 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Азіна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000641 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Арлея, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000642 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Бабынічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000643 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Баравуха 1-я | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000644 | Курганны могільнік | X–XI стагоддзі | в. Бельчыца, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000645 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Булаўкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000646 | Былая сядзіба Паклеўскіх-Козелаў:<br>жылы дом<br>флігель<br>гаспадарчыя пабудовы<br>падземная частка фамільнага склепа<br>парк<br>ставы<br>алеі | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Быкаўшчына | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000647 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>фрагменты парку<br>гаспадарчыя пабудовы<br>капліца (на могілках) | пачатак XX стагоддзя | в. Бяздзедавічы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000648 | Царква | пачатак XX стагоддзя | в. Бяздзедавічы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000649 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Бяздзедавічы, 0,6 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000650 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | г.п. Ветрына, вул. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000651 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Варонічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000652 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Воранава, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000653 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Гаравыя, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, сярод балота | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000654 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Гараны, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000655 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Гараны | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000656 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Глінішча, каля вёскі, на беразе р. Бельчанка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000657 | Курганны могільнік | XII-XIII стагоддзі | в. Гомель, 2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000658 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Гомель | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000659 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Грамошча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000660 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Двор Саланевічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000661 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Дзявічкі, 1 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000662 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Домнікі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000663 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Дрэтунь | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000664 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Загацце, каля вёскі, на беразе возера | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000665 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Замошша, 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000666 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Заскаркі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000667 | Магіла капітана С.К. Сярова | 1944 год | в. Залессе | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000668 | Курганны могільнік | XI стагоддзе | в. Захарнічы, 2 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000669 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Званае, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000670 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Званае | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000671 | Царква | канец XVIII стагоддзя | в. Калектыўная | 3 | 10.02.1999 № 50 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000672 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Кармалысы, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000673 | Стаянка перыяду мезаліту | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Крумплева, 0, 25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Заходняя Дзвіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000674 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Кушлікі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000675 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Малое Сітна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000676 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Мінтурова, каля вёскі, на беразе возера | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000677 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Нача | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000678 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Палата, 2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000679 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Палата | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000680 | Могільнік-2 | XI стагоддзе | в. Палучча, 0,2 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000681 | Селішча | XI–XIII стагоддзі | в. Плусы, на паўночна-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000682 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Пуканаўка, 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000683 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Рудня, каля вёскі, на заходнім і ўсходнім мысах берага р. Ушача | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000684 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Рудня | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000685 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сястронкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000686 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Смарыгі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000687 | Магіла лётчыка І.С. Страшынскага | 1944 год | в. Струнне | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000688 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Тросніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000689 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2 перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Труды, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 1,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000690 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Труды | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000691 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Туроўля | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000692 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Уладзіміраўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000693 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Ухвішча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000694 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Шпакоўшчына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000695 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Экімань | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000696 | Курганны могільнік | IX–XI стагоддзі | в. Экімань, 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000697 | Брацкія магілы | 1942–1943 гады | в. Юравічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000698 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | в. Янкава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Расонскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000699 | Свята-Вазнясенская царква | другая палова XIX стагоддзя | г.п. Расоны, вул. Калгасная | 3 | 27.01.2002 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000700 | Былы сядзібны дом | 1900 год | г.п. Расоны | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000702 | Мемарыяльны комплекс | 1942, 1965 гады | г.п. Расоны, вул. Савецкая, у мемарыяльным парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000703 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | III стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Амосенкі, 150 м на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000704 | Селішча-1, селішча-2 | канец 1-га тысячагоддзя да н.э., VI–VII стагоддзі н.э. | в. Амосенкі, на выспе, побач з гарадзішчам | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000705 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | IX–XIII стагоддзі | в. Амосенкі, 0,5 км на поўдзень ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000706 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2 перыяду ранняга жалезнага веку | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Грачушына, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000707 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Грачушына, з боку поля гарадзішча-1 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000708 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Грышына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000709 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | | в. Даўгабор'е, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000710 | Курганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | сярэдзіна 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Даўгабор'е, 2 км на паўночны захад ад вёскі, на беразе возера | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000711 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Зазер'е, 2 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000712 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Зазер'е, 2,4 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000713 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Карпіна, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000714 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Клясціцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000715 | Замчышча | XVI стагоддзе | в. Кульнёва, 1,5 км ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000716 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Латышы, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000717 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Маторына, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000718 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2, гарадзішча-3, гарадзішча-4, гарадзішча-5 | VI–XIV стагоддзі | в. Межава, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, 1 км на поўнач ад вёскі, 2 км ад вёскі, 3 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000719 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Межава, на паўднёвым беразе воз. Межава | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000720 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Межна, 2 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000721 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Парэчча | | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000722 | Гарадзішча | XII стагоддзе | в. Перавоз, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Дрыса | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000723 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Перавоз, 2 км на паўночны захад ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000724 | Курганны могільнік перыяду жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | 2-я палова 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Рудня, 2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000725 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2 перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Рылі, 0,8 км на захад ад вёскі, на беразе возера, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000726 | Гарадзішча | XIV–XVIII стагоддзі | в. Сакалішча, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000727 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Сінск, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000728 | Гарадзішча-1 перыяду ранняга жалезнага веку і гарадзішча-2 перыяду сярэднявечча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э., XVII стагоддзе | в. Старыца, 0,7 км на ўсход ад вёскі, 4 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000729 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Хоцькава, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000730 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Юхавічы, 1 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000731 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Янкавічы, 2,5 км ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000732 | Курганны могільнік | V–VI стагоддзі | в. Янкавічы, 2 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000733 | Курган | IX–XIII стагоддзі | в. Янкавічы, 4 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Сенненскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000735 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Сянно, парк імя 40-годдзя ВЛКСМ | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| 212Г000882 | Будынак былой земскай управы | 1910 год | г. Сянно, вул. Савецкая, 13 | 2 | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны з чырвонай цэглы. Помнік грамадзянскай архітэктуры пачатку XX стагоддзя. Мае элементы стылю неакласіцызму.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане, сіметрычнай кампазіцыі будынак накрыты вальмавым дахам. Вось сіметрыі падкрэслена на галоўным фасадзе несапраўдным порцікам, на дваровым – рызалітамі. Порцік вылучаны калонамі з элементамі іанічнага і дарычнага ордэраў, на другім паверсе – балконам з кованай агароджай; завершаны крапаваным атыкам. Паверхі аддзелены развітым прафіляваным поясам. Вокны прамавугольныя з сандрыкамі ў завяршэнні. Планіроўка зменена.

У будынку размешчаны Дом рамёстваў, дзіцячая бібліятэка, Сенненскі краязнаўчы музей.

| 213Д000736 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Сянно,<br>вул. К. Маркса, сквер | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000737 | Курганны могільнік | IX–XIII<br>стагоддзі | в. Адамава,<br>на паўднёва-ўсходняй<br>ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000738 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Алексінічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000739 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Багушэўск,<br>сквер | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000740 | Ушаноўваемы камень | бронзавы век | в. Вароніна | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000741 | Курганны могільнік | IX–XIII<br>стагоддзі | в. Вялікі Азярэцк,<br>0,6 км на паўднёвы захад<br>ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000742 | Паселішча-1, паселішча-2 перыяду неаліту | 3–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Галоўск,<br>0,8 км на паўночны захад<br>ад вёскі,<br>1 км на паўночны захад<br>ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000743 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Запаветная | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000744 | Курганны могільнік | IX–XIII<br>стагоддзі | в. Навасёлкі,<br>3,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000745 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Новае Сяло,<br>1,2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000746 | Комплекс будынкаў былой паштовай станцыі:<br>станцыйны дом<br>флігель для ямшчыкоў<br>хлеў<br>частка стайні<br>гумно | канец 1840-х гадоў | в. Паграбёнка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Асноўны будынак – станцыйны дом (у стылі неаготыкі), павернуты галоўным фасадам да дарогі. Разам з агароджай ён стварае франтальную кампазіцыю. Дом прамавугольны ў плане, з восевым падоўжным размяшчэннем двухкамерных сенцаў. Па баках іх былі пакоі для праезджых і кватэра наглядчыка. Аконныя праёмы і ўваходны партал стральчатыя. Над уваходам – невялікая навісь, якую падтрымліваюць літыя чыгунныя кранштэйны. Сцены будынка раскрапаваны прамавугольнымі філёнгамі, дэкарыраваны стральчатымі нішамі. Слупы агароджы з востраканцовымі завяршэннямі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000747 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Пустынкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000748 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Расна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000749 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Слабада, 3 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000750 | Комплекс былой сядзібы «Беліца»:<br>сядзібны дом<br>вытворчыя і гаспадарчыя пабудовы<br>парк | другая палова XVIII стагоддзя | пас. Пламя | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |



Выцягнуты па падоўжнай восі неакласіцыстычны сядзібны дом складаецца з двухпавярховага цэнтральнага аб'ёму і двух бакавых аднапавярховых крылаў з рызалітамі. Галоўны ўваход вылучаны чатырма падвойнымі паўкалонамі, якія на другім паверсе пераходзяць у лапаткі. Асноўны аб'ём і рызаліты завершаны франтонамі з круглымі дахавымі вокнамі. Цэнтральная вось заходняга (дваровага) фасада падкрэслена двухпавярховым паўкруглым аб'ёмам, абапал якога рызаліты. Да паўднёвага тарца будынка прымыкае васьміграная двух'ярусная вежа з асобным уваходам у выглядзе двухкалоннага порціка і шырокай лесвіцай, да паўночнага – нізкі прамавугольны аб'ём. Плоскасці фасадаў і вежы прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі. Рызаліты і першы паверх вежы апрацаваны рустам. Будынак накрыты двухсхільным дахам. Сістэма размяшчэння пакояў калідорная.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000751 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Ходцы, на заходняй ускраіне могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000752 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Ціміразева, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Талачынскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000753 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Талачын, вул. Будаўнікоў, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000754 | Комплекс былога манастыра базыльян:<br>царква<br>манастырскі жылы корпус | 1769 год | г. Талачын, вул. Леніна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У манастыр уваходзілі храм, пастаўлены на месцы фарнага касцёла, манастырскі жылы корпус і школа. Царква пабудавана як уніяцкая, з 1804 г. – праваслаўная. У 1993 г. адрэстаўрыравана. Помнік архітэктуры віленскага барока.

Царква – трохнефавая двухвежавая базіліка з дзвюма сакрысціямі. Цэнтральны і бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, прэсбітэрый – цыліндрычным скляпеннем. У паўночна-ўсходняй частцы будынка хоры. Галоўны фасад расчлянёны на тры часткі, якія адпавядаюць падзелу храма на тры нефы. Сцяна завяршаецца пластычным слаістым карнізам, над ім, у цэнтры, узвышаецца шчыт складанай формы, абапал якога дзве ярусныя вежы (верхнія часткі вежаў перабудаваны ў XIX ст.). Бакавыя фасады вырашаны плоскасна. Апсіда ўвянчана манументальным атыкам. Знешні дэкор мае адметныя рысы барока: ступеньчатыя пілястры, раскрапаваныя слаістыя карнізы, складаныя па малюнку праёмы, нішы, абрамленні і інш. Руставаная цокальная частка галоўнага фасада і вярхі вежаў маюць класіцыстычную трактоўку.



У інтэр'еры павышаны галоўны неф пераходзіць у прэсбітэрый, бакавыя нефы адкрываюцца арачнымі праёмамі. Алтарная частка адгароджана мураваным іканастасам XVIII ст. (у канцы XIX – пачатку XX ст. застаўлены драўляным іканастасам). Антаблементы, падпружныя аркі і арачныя праёмы паміж нефамі аздоблены паліхромным роспісам (раслінныя матывы і разеткі). Манастырскі жылы корпус – прамавугольная ў плане двухпавярховая пабудова ў стылі барока.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000883 | Касцёл Св. Антонія | 1853 год | г. Талачын, вул. Леніна, 50 | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213Г000755 | Фрагменты парку | канец XIX стагоддзя | г. Талачын | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000756 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | г. Талачын, вул. Піянерская, 4 | 3 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000757 | Курганны могільнік | | в. Багрынава, абапал дарогі на в. Варанцэвічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000758 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2, курганны могільнік-3 | XI стагоддзе | в. Воўкавічы, 0,2 км на поўнач ад вёскі, на беразе р. Крывая, 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, абапал лясной дарогі, 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000759 | Курганны могільнік | | в. Галошава, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000760 | Крыж каменны | | в. Галошава | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000761 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | | в. Дроздава, 0,4 км на поўнач ад вёскі, 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000762 | Гарадзішча | | в. Друцк, каля вёскі, на высокім узгорку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000884 | Гаспадарчая пабудова | XIX стагоддзе | в. Друцк, на гарадзішчы | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213Г000885 | Вадзяны млын | XIX стагоддзе | каля дарогі Талачын – Круглае | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213В000763 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Загараддзе, 0,3 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000764 | Курганны могільнік | | в. Замошша, 0,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000765 | Курганны могільнік | | в. Канапельчыцы, на сучасных могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000766 | Гарадзішча | VI–XIII стагоддзі | в. Кісялі, 0,8 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000767 | Гарадзішча | | в. Козкі, 2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000768 | Курганны могільнік | | в. Ляўкова, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000769 | Курганны могільнік | | в. Мураўнічы, 3 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000770 | Курганны могільнік | XII–XIII стагоддзі | в. Навінка, 2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000771 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | паміж в. Навінка і в. Ельнік, у хваёвым лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000772 | Курганны могільнік | XII–XIII стагоддзі | в. Скавышкі, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000701 | Курганны могільнік (два курганы) | IX–XII стагоддзі | в. Сенчукі | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 213Д000773 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Славені | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000774 | Курганны могільнік | | в. Слаўнае, 1,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000775 | Курганны могільнік | | в. Стары Талачын, 0,5 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000776 | Курганны могільнік | | в. Сурнаўка, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000777 | Курганны могільнік | | в. Узноснае, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000778 | Курганны могільнік | | в. Яскаўшчына, 1,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Ушацкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000779 | Брацкія могілкі | 1941–1944 гады | г.п. Ушачы, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Д000780 | Мемарыяльны комплекс «Прарыў» | 1974 год | г.п. Ушачы, за 7 км ад пасёлка, паміж вёскамі Паперына, Пліна і Новае Сяло | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Мемарыяльны комплекс «Прарыў» адкрыты 30 чэрвеня 1974 г. у гонар подзвігу партызан Полацка-Лепельскай зоны.

Вясной 1944 г., калі Савецкая Армія рыхтавалася да Беларускай аперацыі, на тэрыторыі трохвугольніка Віцебск – Полацк – Лепель сканцэнтраваліся асноўныя сілы партызан Віцебшчыны. Толькі ў Полацка-Лепельскай партызанскай зоне на 15 студзеня 1944 г. дыслацыравалася 15 брыгад і адзін партызанскі полк агульнай колькасцю больш за 17 тыс. чалавек. Полацка-Лепельская партызанская зона займала тэрыторыю 3245 км², 1220 населеных пунктаў з насельніцтвам больш за 70 тыс. чал.

Каб ачысціць ад партызан тылы сваіх войскаў каля лініі фронту, гітлераўскае камандаванне правяло шэраг карных аперацый. На працягу сакавіка гітлераўцы спрабавалі авалодаць левым берагам Заходняй Дзвіны і стварыць тут абарончы рубеж, адцясніць партызан да чыгунак Полацк – Маладзечна, Маладзечна – Мінск, Мінск – Барысаў, за-



сцерагчы асноўныя камунікацыі сваёй 3-й танкавай арміі на лініі Віцебск – Лепель – Докшыцы – Параф'янава. Да пачатку красавіка нямецка-фашысцкія войскі сканцэнтраваліся вакол Полацка-Лепельскай зоны на 7 участках. Для правядзення аперацыі «Веснавое свята» фашысты знялі з фронту часці 6 дывізій, сабралі 12 палкоў СС і паліцыі (60 тыс. чал.). Сілы партызан складалі 17 тыс. чалавек.

Аперацыя карнікаў супраць партызан і мірнага насельніцтва пачалася 11 красавіка 1944 г. Галоўны ўдар быў накіраваны на паўднёвы ўчастак абароны народных мсціўцаў, дзе наступалі часці дзвюх дывізій і два палкі праціўніка. З самага пачатку барацьба мела бязлітасны характар.

Дзейнасцю партызанскіх брыгад Полацка-Лепельскай зоны кіравала аператыўная група ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху, якая знаходзілася ва Ушачах. Вялікую дапамогу ёй аказваў Віцебскі падпольны абком партыі, яго сакратары Я.А. Жылянін і І.Б. Пазнякоў. Ваенны савет 1-га Прыбалтыйскага фронту і Беларускага штаба партызанскага руху арганізавалі дапамогу партызанам. За перыяд баёў з карнікамі партызанам Полацка-Лепельскай зоны на самалётах было перапраўлена больш за 250 т грузаў, вывезена каля 1500 параненых і хворых. Калі на ўчастках партызанскай абароны стварылася асабліва цяжкае становішча, з 20 красавіка 1944 г. днём і ноччу франтавая авіяцыя савецкіх войскаў наносіла масіраваныя ўдары па ворагу ў раёне вёсак Цётча, Мосар, Старынкі, Кісялёва, Стараселле-1, Забораўна і інш. Часці 1-га Прыбалтыйскага фронту баямі мясцовага значэння адцягвалі войскі карнікаў. Для гэтай жа мэты Беларускі штаб партызанскага руху даў указанне брыгадам Сенненска-Аршанскай, Барысаўска-Бягомльскай і Вілейскай зон нанесці ўдары па варожых гарнізонах у напрамку Ушач, што значна аслабіла націск гітлераўцаў.

25 сутак партызанскія атрады і брыгады адбівалі жорсткія атакі фашыстаў, але сілы былі няроўныя. 27 красавіка цаной вялікіх страт карнікі звузілі кола акружэння вакол Ушач. Даўжыня партызанскай лініі абароны зменшылася да 20 км. У ноч на 5 мая блакада нямецка-фашысцкіх войскаў была прарвана каля вёсак Новае Сяло, Паперына і Пліна. Усе брыгады выйшлі з акружэння і вывелі каля 15 тыс. мірнага насельніцтва.

У пачатку мемарыяла забетанаваны адрэзак шляху, па якім ішлі на прарыў партызаны. Дарога па перападах рэльефу спускаецца прыступкамі, агінае невялікае балотца, робіцца шырэйшай каля бронзавай пліты-карты з рэльефнай схемай абароны партызанскай зоны на 11 красавіка 1944 г. Далей дарога, сціснутая шэрымі бетоннымі сценамі, на якіх замацаваны бронзавыя пласціны з назвамі партызанскіх брыгад, што ўдзельнічалі ў прарыве, вядзе да вяршыні ўзгорка. На ім у разрыве бетоннай сцяны-глыбы (вышыня 11 м), якая сімвалізуе прарыў кальца блакады, узвышаецца 9-метровая бронзавая фігура партызана з аўтаматам у руцэ. На верхняй пляцоўцы ўзвышша, справа ад скульптуры, пахаваны 450 партызан, якія загінулі ў час прарыву, устаноўлены паўкругам 33 пліты з імёнамі 1452 удзельнікаў прарыву. Побач бронзавая кампазіцыя «Апошні прывал» – тры карабіны ў пірамідзе і стужка з надпісам.

На ўзгорку пасаджаны 16 дубоў, якія сімвалізуюць стойкасць 16 партызанскіх брыгад. Ніцыя вербы і бярозы на вяршыні ўзгорка ўзмацняюць эмацыянальнае ўздзеянне ансамбля.

Мемарыяльны комплекс «Прарыў» створаны скульптарам А. Анікейчыкам і архітэктарамі Ю. Градавым і Л. Левіным.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000781 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | г.п. Ушачы, 3 км на паўднёвы ўсход ад гарадскога пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000782 | Брацкія могілкі | 1920 год | в. Антунова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000783 | Былая сядзіба:<br>сядзібны дом<br>фрагменты парку | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Арэхаўна | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000784 | Музей-сядзіба сям'і В.У. Быкава | 2004 год | в. Бычкі | 3 | 27.04.2004 № 96 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000785 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Ваўчо, 0,1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000786 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Вялікія Дольцы, у цэнтры вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000787 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | I–XII стагоддзі | в. Гарадзец 3-і, на левым беразе р. Ушача | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000788 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Глыбачка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000789 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Гута, 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000790 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Дубраўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000791 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Заазер'е, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000792 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | III стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Загаваліна, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000793 | Курганны могільнік-2, курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Замошша, 0,5 км на ўсход ад вёскі, 0,7 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000794 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Ідута, 0,6 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000795 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Касары, 3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000796 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Кляпцы, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000797 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | IV стагоддзе да н.э. – III стагоддзе н.э. | в. Кублічы, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000798 | Курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Кублічы, ва ўрочышчы Валатоўкі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000799 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Кублічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000800 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Любжана, 0,8 км на захад ад вёскі, на беразе возера | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000801 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Мазуліна, на паўночна-заходняй ускраіне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000802 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Малыя Дольцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000803 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-3, курганны могільнік-4 перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Матырына, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, у лесе, 0,5 км на ўсход ад вёскі, 1,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000804 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Павулле | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000805 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XII–XIV стагоддзі | в. Пуцілкавічы, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000806 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Рыбакі, 1,15 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000807 | Былы кляштар бернардзінцаў:<br>касцёл<br>кляштарны жылы корпус | 1726 год | в. Селішча | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл пабудаваны з цэглы на паўднёвай ускраіне вёскі. Помнік архітэктуры позняга барока.

Трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай. Галоўны (усходні) фасад з дзвюма трох’яруснымі вежамі, паміж якімі шчыт з дзвюма валютамі па баках. Цэнтральны неф (не захаваўся) удвая шырэйшы і вышэйшы за бакавыя. Бакавыя нефы мелі аднасхільныя дахі. Сцены касцёла расчлянёны шырокімі пілястрамі і лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны другога паверха паўцыркульныя. Скляпеністыя перакрыцці храма на падпружных арках, апіраліся на чатыры масіўныя слупы і бакавыя сцены. Алтар у глыбіні цэнтральнага нефа, паміж дзвюма сакрысціямі. Над бабінцам размешчаны хоры. Касцёл часткова перабудоўвалі ў сярэдзіне XIX ст. (былі зменены форма і завяршэнні вежаў). Дах і верх вежаў касцёла разбураны ў Вялікую Айчынную вайну.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане кляштарны жылы корпус прымыкае да касцёла з паўночнага боку. Планіроўка калідорная.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000808 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X стагоддзе | в. Селішча, 0,1 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000809 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Слабодка, 0,9 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000810 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Усая, 0,5 км на паўднёвы захад ад воз. Жэнна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000811 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Усая, каля вёскі, на беразе воз. Усая | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000812 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | IV стагоддзе да н.э. – III стагоддзе н.э. | в. Чамярычына, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Чашніцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000813 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Чашнікі, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000814 | Рэшткі Троіцкай царквы | пачатак XVI–XVII стагоддзе | в. Белая Царква | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква пабудавана на ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе воз. Белае. У пачатку XVI ст. на гэтым месцы Багдан Сапега заснаваў базыльянскі манастыр і ў 1599 г. пабудаваў Троіцкую царкву. Адноўлена ў XVII ст. Разбурана ў 1830-я гг. Помнік архітэктуры барока.

Храм аднавежавы, зальнага тыпу, спачатку меў вялікую паўкруглую апсіду (не збераглася). Высокая трох'ярусная квадратная ў плане вежа-званіца дамінуе над астатнімі аб'ёмамі храма, расчлянёна карнізнымі паясамі і пілястрамі на тры ярусы (пояс першага яруса праходзіць цэласнай цягай па ўсім перыметры царквы). Званіца прызначалася для абарончых мэт. Таўшчыня яе сцен 1,75 м, а паўночнай, унутры якой мураваная лесвіца, 2 м. Завершана шматгранным купалам з чатырма люкарнамі. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём храма большы за аб'ём званіцы. Бакавыя сцены расчлянёны масіўнымі пілястрамі, дзве сярэднія звязаны перспектыўнай аркай і ўтвараюць шырокі партал. Сцены вежы і асноўнага аб'ёму прарэзаны вузкімі высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Асноўны аб'ём перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Афармленне інтэр'ера не захавалася.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000815 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Васькаўшчына, 2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000816 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Гара, 2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000817 | Ушаноўваемы камень бронзавага перыяду | | в. Гогалеўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000818 | Курганны могільнік-1 перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Гогалеўка, 3,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000819 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Закур'е, 1,5 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213В000820 | Гарадзішча старажытнага горада | V–VIII стагоддзі | в. Лукомль,<br>у вёсцы, на правым беразе р. Лукомка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000821 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Малая Вядрэнь,<br>2 км на паўночны ўсход ад вёскі, сярод балот | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000822 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Палітаддзел,<br>1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000823 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-3 | IX–XIII стагоддзі | в. Слабодка,<br>1,5 км на захад ад вёскі, на беразе воз. Лукомскае,<br>3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000824 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Стаўбцы, 2,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000825 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Труханавічы,<br>0,7 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000826 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XIII стагоддзі | в. Трылесіна,<br>на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Шаркаўшчынскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Г000827 | Былы сядзібны дом | пачатак XX стагоддзя | г.п. Шаркаўшчына | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000828 | Царква | канец XIX стагоддзя | г.п. Шаркаўшчына | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000829 | Успенская царква | 1912 год | г.п. Шаркаўшчына | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000830 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Шаркаўшчына,<br>вул. Маякоўскага,<br>у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000831 | Комплекс аб'ектаў, звязаных з імем І.П. Сікоры:<br>дом<br>сад | 1930-я гады | в. Алашкі | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000832 | Царква | пачатак XX стагоддзя | в. Варонка | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| 212Г000833 | Благавешчанскі касцёл | 1787 год | в. Германавічы | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны з цэглы па фундацыі ўладальніка маёнтка І. Зрыні-Шырына. З 1948 г. закрыты, перададзены вернікам у 1988 г. Помнік архітэктуры віленскага барока.

Храм з дзвюма чацверыковымі пяціяруснымі вежамі, аднанефавы, з выцягнутай закругленай алтарнай апсідай і дзвюма сакрысціямі. Неф накрыты двухсхільным дахам, больш нізкая апсіда – самастойным шматсхільным. На галоўным фасадзе тарэц даху закрыты высокім вузкім франтонам з валютамі. Верхнія ярусы вежаў – скразныя з увагнутымі гранямі. Уваход аздоблены порцікам. Пластыку фасадаў узбагачаюць прафіляваныя карнізы, плоскія пілястры, лучковыя сандрыкі і круглыя праёмы.

У інтэр'еры неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. Фрыз антаблемента аздоблены рэльефнымі выявамі галовак пуцці ў абрамленні галінак. Алтарная частка ўнутры пяціграннай. У нартэксе размешчаны крывалінейныя ў плане хоры, агароджа якіх упрыгожана ляпным геральдычным картушам. Убранне інтэр'ера дапаўняе роспіс верхняй часткі сцен і падпружных арак, у якім пераважаюць раслінныя матывы.

| 212Г000834 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>рэшткі гаспадарчых пабудоў<br>парк | 1782 год | в. Германавічы | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Сядзібны дом – прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак. Другі паверх галоўнага фасада вылучаны каланадай тасканскага ордэра, першы паверх – рустоўкай. Фасады фланкіраваны рызалітамі з трохвугольнымі франтонамі. У адным з рызалітаў – уваход у будынак, які аформлены двухкалонным прыстаўным порцікам. Такі ж порцік упрыгожвае процілеглы рызаліт. Вось сіметрыі галоўнага фасада адзначана прамавугольным атыкам. Цэнтр дваровага фасада вылучаны рызалітам.

Планіроўка будынка анфіладная. Паверхі злучаны тарцовымі трохмаршавымі лесвіцамі. Першапачатковае ўбранне інтэр'ера не захавалася.

У парку прамавугольныя ўчасткі саду, партэр, сажалкі. Групы дрэў і крывалінейныя алеі складаюць пейзажную зону. Гаспадарчыя пабудовы размешчаны на паўночны ўсход ад дома, мураваныя, дэкарыраваныя ўтрыраванымі элементамі архітэктуры класіцызму.

| 213Г000835 | Царква | пачатак<br>XX стагоддзя | в. Германавічы | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000836 | Комплекс былой сядзібы Зіберг-Плятэра:<br>палац<br>капліца<br>гаспадарчыя пабудовы<br>уязная брама | XVIII–XIX стагоддзі | в. Гарадзец | 2 | 28.02.2002 № 71<br>19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578<br>03.09.2008 № 1288 |



Кампазіцыйным цэнтрам сядзібы з'яўляецца палац. Выцягнуты аднапавярховы будынак мае двухпавярховую цэнтральную частку, вылучаную чатырохкалонным порцікам. Фасады аздоблены прафіляванымі ліштвамі аконных праёмаў, на другім паверсе – дадаткова пілястрамі і сандрыкамі. У цэнтральнай частцы першага паверха размяшчаліся вестыбюлі і парадная зала з выхадам на тэрасу, на другім – жылыя пакоі. Бакавыя часткі мелі калідорную планіроўку.

Тры крутыя выгіны р. Мнюта ўдала выкарыстаны для стварэння пейзажнай кампазіцыі парку і штучных сажалак. За ракой па восі палаца – паляна з маляўнічымі групамі бяроз. Парк абсаджаны дрэвамі лісцевых парод з паасобнымі елкамі. У дэндралагічным складзе трапляюцца елка калючая блакітная, вярба белая ніцая, лістоўніца еўрапейская і дэкаратыўныя кусты – спірэя, шыпшына, бэз і інш.

Гаспадарчыя будынкі зроблены з бутавага каменю, аздоблены цаглянымі лапаткамі, ліштвамі. Арнаментальныя ўстаўкі з бутавага каменю ўпрыгожваюць уязную браму.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000837 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Дзіўная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000838 | Брацкая магіла | 1942 год | в. Лонскія | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 212Г000839 | Міхайлаўскі касцёл | 1744–1756 гады | в. Лужкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл пабудаваны з цэглы пры кляштары піяраў (існаваў у 1741–1832 гг. ). У 1843 г. перабудаваны пад праваслаўную царкву і абкружаны бутавай агароджай. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыты. У 1988 г. вернуты вернікам. Храм – помнік архітэктуры позняга барока, вызначаецца дынамічнасцю вытанчанай вертыкальна накіраванай кампазіцыі, багаццем аб'ёмнай і дэкаратыўнай пластыкі.

Двухвежавы, аднанефавы, з выцягнутай закругленай апсідай, да якой па баках прылягаюць сіметрычныя сакрысціі. У плане блізкі да квадрата неф накрыты двухсхільным дахам з атыкавымі франтонамі на тарцах. Больш нізкая алтарная апсіда мае самастойны шматсхільны дах. Чатырох'ярусная чацверыковая вежа пастаўлена пад вуглом да цэнтральнай плоскасці галоўнага фасада, які па гарызанталі падзелены прафіляванымі цягамі на два ярусы, а па вертыкалі чляненны шматлікімі плоскімі пілястрамі. Разнастайныя праёмы з лучковымі, паўцыркульнымі і фігурнымі арачнымі завяршэннямі маюць тонка прафіляваныя ляпныя абрамленні. Дэкаратыўнае вырашэнне ўзбагачаецца двухколернай тынкоўкай сцен і ордэрнай пластыкай. У інтэр'еры неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Над уваходам вылучаны хоры. Сцены раскрапаваны паўкалонамі на высокіх пастаментах і з капітэлямі, скампанаванымі з лісця аканта, валют і галовак пуцці. Нішы акон, прасценкі, скляпенні ўпрыгожаны арнаментальным роспісам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 212Г000840 | Вадзяны млын | XIX–пачатак XX стагоддзя | в. Лужкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак пад высокім двухсхільным дахам. Цокальны паверх з бутавага каменю. Прафіляваны карніз аддзяляе два верхнія паверхі. Унутры на кожным паверсе вылучаны тры памяшканні: вялікае цэнтральнае і два вузкія тарцовыя. Унізе заходняй часткі будынка (у камеры) устаноўлены дзве турбіны. У цэнтральным памяшканні цокальнага паверха змантіраваны механізмы перадачы і рэгулявання руху турбін. На другім паверсе ўстаноўлены жорны і прыстасаванні для сарціроўкі мукі. Адсюль па транспарцёры мука падаецца на трэці паверх.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000841 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Лужкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000842 | Царква Раства Багародзіцы | 1794 год | в. Лужкі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Г000843 | Ільінская царква | 1825 год | в. Шкунцікі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

## Шумілінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000844 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | г.п. Шуміліна, у парку Кароткіна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000845 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Валатоўкі, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000846 | Курганны могільнік | | в. Войлавічы, 1,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000847 | Гарадзішча | | в. Гарадзішча, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000848 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Гародна, 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000849 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Дабея, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000850 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дворышча, на паўночна-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000851 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Жданоўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000852 | Курган | | в. Ілава, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000853 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Казьяны,<br>на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000854 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Кардон | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000855 | Замчышча перыяду сярэднявечча | XV стагоддзе | в. Красамай,<br>2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000856 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Красамай,<br>побач з замчышчам, у лесе | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000857 | Курган | | в. Лескавічы, 3 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000858 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Лявонава, у цэнтры вёскі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000859 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Мамойкі,<br>на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000860 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Мікіціха | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000861 | Каменны крыж | перыяд позняга сярэднявечча | в. Мішневічы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000862 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Мішневічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Г000863 | Былы сядзібна-паркавы комплекс Ю.Ю. Амбургера:<br>рэшткі сядзібнага дома<br>былы дом упраўляючага<br>фрагменты парку | XIX стагоддзе | г.п. Обаль | 3 | 25.01.2006<br>№ 116 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000864 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Обаль, на тэрыторыі школы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213В000865 | Курганны могільнік | | в. Парэчча,<br>1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 213Д000866 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Падмішнеўе,1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 213Д000867 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Роўнае, у цэнтры вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000868 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сенькава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000869 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сідараўшчына, 0,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213В000870 | Курган | | в. Сосніна, 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000871 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Ставіца, 2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000872 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | в. Тропіна, 0,6 км на поўнач ад вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 213Д000873 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Язвіна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

# ГЛАВА II

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ РУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Лепельскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 222Н000017 | Скарб сярэбраных манет (135 адзінак) | XVII стагоддзе | Лепельскі краязнаўчы музей | 2 | 01.12.1994 № 15 | 14.05.2007 № 578 |

### Полацкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 222М000067 | Калекцыя археалагічных знаходак: | IX–XIII стагоддзі | навукова-даследчая і асветніцкая ўстанова культуры «Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік» | 2 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| | пярсцёнак віты мужчынскі. Золата 900°. Валачэнне, філігрань, коўка. Агульная вага 21,22 г. Дыяметр 25 мм | XI стагоддзе | | | | |
| | пломба-пячатка (малідавул, була) віслая князя Усевалада Яраславіча. Свінец. Ліццё. Дыяметр 30 мм | першая палова XI стагоддзя | | | | |
| | меч. Франкія, сярэдняе цячэнне Рэйна, каралінгская майстэрня. Жалеза, сталь. Коўка, кавальская зварка, інкрустацыя. Даўжыня 97 см | X стагоддзе | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | бранзалет драцяны, чатырохгранны ў сячэнні, сэрцападобнай канфігурацыі з разамкнутымі, паступова звужанымі, абсечанымі канцамі; бранзалет з двух фрагментаў, у выглядзе няправільнага авала, кругладрацяны са звужанымі разамкнутымі канцамі; бранзалет у выглядзе няправільнага авала, кругладрацяны, разамкнуты, з коса абсечанымі канцамі; грыўня (фрагмент), плеценая з чатырох круглых у папярочным сячэнні дратоў, з паступовым звужэннем да канцоў; бранзалет (фрагмент) або грыўня (фрагмент), плеценая з чатырох шматгранных у папярочным сячэнні дратоў, з паступовым звужэннем да канцоў; бранзалет віты з двух шматгранных у папярочным сячэнні дратоў, паступова звужаных да канцоў. Адзін з дратоў мае кроплепадобнае заканчэнне. Канцы бранзалета абсечаныя. Полацк. Золата 958°. Ліццё, валачэнне, коўка, пляценне, скручванне. Агульная вага – 334,36 г | IX – першая палова XI стагоддзя | | | | |
| | абразок «Канстанцін і Алена». Полацк. Стэатыт. Разьба. Пазалота. Памеры 6,2х4,4х0,6 см | сярэдзіна XII – 20-я гады XIII стагоддзя | | | | |
| | кальцо скроневае. Старажытная Русь. Золата 958°. Валачэнне, коўка, скручванне, зярненне, філігрань. Агульная вага 7,80 г. Дыяметр 30 мм | XII стагоддзе | | | | |
| 222М000068 | Калекцыя нумізматыкі: | XI–XVII стагоддзі | навукова-даследчая і асветніцкая ўстанова культуры «Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік» | 2 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| | манета яфімак «з прызнакам». Германія, графства Мансфельд, Борнштацкі манетны двор, Маскоўскі грашовы двор. Серабро 750°. Агульная вага 21,60 г. Дыяметр 40 мм | чаканка – 1611 год, надчаканка – 1655 год | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Казьянкаўскі манетны скарб (7660 куфічных дырхамаў).<br>Арабскі халіфат. Серабро 960°. Чаканка.<br>Агульная вага 1987,5 г | X стагоддзе | | | | |
| | манета шылінг лівонскі (фальшывы).<br>Полацк. Медзь. Чаканка.<br>Дыяметр 19 мм | 1540–1550 гады | | | | |
| 222М000069 | Калекцыя мастацкіх твораў: | XVIII стагоддзе | навукова-даследчая і асветніцкая ўстанова культуры «Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік» | 2 | 21.05.2008<br>№ 142 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| | абраз «Мікалай Цудатворац».<br>Мясцовая школа. Ліпа, ляўкас. Алей, каляровыя лакі, разьба па ляўкасу, залачэнне.<br>Памеры 128х95,5х2 см | XVIII стагоддзе | | | | |
| | абраз «Узнясенне Хрыстова».<br>Мясцовая школа. Ліпа, грунт алейны.<br>Алей, залачэнне, лак.<br>Памеры 141х90х3 см | 1743 год | | | | |
| | абраз «Святая Тройца».<br>Мясцовая школа. Ліпа, хвойнае дрэва, алей, каляровыя лакі, залачэнне.<br>Памеры 133х95х3 см | 1738 год | | | | |
| | абраз «Стрэчанне».<br>Мясцовая школа. Хвойнае дрэва, алей.<br>Памеры 134,5х108х2 см | XVIII стагоддзе | | | | |
| | абраз «Мікалай Цудатворац».<br>Дошка ліпавая. Алей.<br>Памеры 118х84х2,5 см | XVIII стагоддзе | | | | |
| | абраз «Цуд Георгія аб змеі» ў абкладзе. Мясцовая школа. Хвойнае дрэва, ляўкас, метал. Тэмпера, алей, разьба высокага рэльефу па ляўкасу, залачэнне, серабрэнне, чаканка.<br>Памеры 112х93х2 см | XVIII стагоддзе | | | | |
| | партрэт Эльжбеты Агінскай. Палатно.<br>Алей. Памеры 65х51 см | 1760 год | | | | |
| | партрэт жаночы ў авале. Палатно, алей.<br>Памеры 62х49 см | | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 222М000070 | Калекцыя рукапісных і друкаваных выданняў:<br>«Orationes XII. Hieronimi Faleti» (12 прамоў Іераніма Фалецкага). Венецыя, выдавецкая фірма Альдаў. Памеры 30,7х20,5х1,5 см<br>«Евангелие учительное» (з пагінацыяй). Вільня, друкарня Мамонічаў<br>«Распевы» (зборнік стараверскі). Рукапіс паўустаў, крукі, знаменны спеў | XVI–XVIII стагоддзі<br>1558 год<br>1595 год<br>пасля 1789 года | навукова-даследчая і асветніцкая ўстанова культуры «Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік» | 2 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |

ДЗЯРЖАЎНЫ СПІС ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

РАЗДЗЕЛ І
ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА
НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



# ГЛАВА І

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ НЕРУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Горад Гомель

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000001 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Артылерыйская, 5 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000002 | Царква з в. Вылева Добрушскага раёна Гомельскай вобласці | канец XIX стагоддзя | г. Гомель | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000003 | Будынак | XIX–XX стагоддзі | вул. Баўмана, 2/5 (вул. Білецкага) | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Узведзены ў 1909 г. па праекце архітэктара С.Д. Шабунеўскага па заказу купца Кіпрыяна Паўлавіча Грошыкава на рагу вул. Баярскай і Мільённай як даходны дом; кватэры здаваліся ў наём. Асіметрычная кампазіцыя планіроўкі, арачныя абрамленні дзвярных і аконных праёмаў, ляпны дэкор фасадаў раслліннымі галінкамі надавалі двухпавярховаму будынку арыгінальнасць. У цяперашні час выкарыстоўваецца як жылы дом.

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 312Г000004 | Будынак | XIX–XX стагоддзі | вул. Баўмана, 16 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы з двума сіметрычнымі ўваходамі будынак. Уваходы афармлены парамі калон, якія падтрымліваюць балкон. Верагодна, у дарэвалюцыйны час будынак уваходзіў у комплекс летняга клуба Гомельскага грамадскага сходу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Д000005 | Брацкая магіла ахвяр фашызму, савецкіх воінаў і партызан | 1942–1943 гады | вул. Барыкіна, на Лешчынскіх могілках | 3 | 22.01.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000006 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Білецкага, 1 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000007 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Білецкага, 4 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы пад вальмавым дахам прамавугольны ў плане будынак. Фасады падзелены тонкапрафіляванай міжпаверхавай цягай, завершаны карнізам. Галоўны фасад чляніцца на першым паверсе руставанымі лапаткамі, на другім – пілястрамі. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены простымі ліштвамі, на другім паверсе – з прамымі сандрыкамі. Архітэктурныя дэталі вылучаны кантрастнай афарбоўкай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000008 | Будынак былой жаночай гімназіі | XIX стагоддзе | вул. Білецкага, 6 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000009 | Будынак былога рускага тракціра | 1822 год | вул. Білецкага, 10 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Да нашага часу дайшоў у змененым выглядзе, аднак дэкор фасада першага паверха захаваўся цалкам. Будынак двухпавярховы П-падобны ў плане. Першы паверх мураваны, другі – драўляны. Цэнтр другога паверха будынка акцэнтаваны паўкруглым акном з руставаным архівольтам. Пасля рэканструкцыі другі паверх узбагаціўся архітэктурным дэкорам: вокны афармлены ліштвамі, балюстрадай, філёнгамі, сандрыкамі і трохвугольнымі франтончыкамі. Будынак завершаны магутным трохвугольным франтонам. На першым паверсе існаваў скразны праход у двор, адтуль дзверы вялі ў правую і левую паловы будынка. З правага боку была харчэўня. З левага боку быў пакой для ямшчыкоў і для гаспадара. На другі паверх з боку двара вялі дзве адкрытыя лесвіцы. Спачатку наведвальнікі траплялі на адкрытую галерэю, затым у сені, а з іх направа і налева ў жылыя пакоі.

У 1830 г. будынак быў перабудаваны для юнкерскай школы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000010 | Будынак былога духоўнага вучылішча | XVIII–XIX стагоддзі | вул. Білецкага, 11 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000011 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | вул. Білецкага, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000012 | Мікалаеўская царква на Валатаве | XIX стагоддзе | вул. Бранская, на беразе р. Валатава | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000013 | Будынак | 1950-я гады | вул. Валатоўская, 1а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000014 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Жаркоўскага, 5 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000015 | Будынак | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Жаркоўскага, 16 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000016 | Будынак | да 1957 года | вул. Жаркоўскага, 19 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000017 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Жаркоўскага, 19а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000018 | Будынак | першая чвэрць XX стагоддзя | вул. Жаркоўскага, 28 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000019 | Забудова вул. Інтэрнацыянальнай | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Інтэрнацыянальная, 2, 6, 10, 16, 20, 22, 23, 25, 26, 27, 28 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000020 | Былы домік урача | 1903 год | вул. Ірынінская, 11а | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000021 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | пачатак XX стагоддзя | вул. Ірынінская, 15 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000022 | Будынак былога Праабражэнскага вучылішча | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Ірынінская, 18а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000023 | Будынак былога гарадскога асабняка | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Ірынінская, 19а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000024 | Будынак | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Ірынінская, 21б | 3 | 10.02.1999 № 50 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000025 | Гарадзішча старажытнага Гомеля (дзядзінец). Культурны пласт перыяду ранняга жалезнага веку і сярэднявечча | V стагоддзе да н.э. – XIII стагоддзе н.э. | гарадскі парк. Межы: з паўднёвага ўсходу правы бераг р. Сож, далей – левы бераг ручая Гамяюк да пешаходнага моста; з паўночнага захаду і захаду па выемцы абарончага рова да р. Сож | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313В000026 | Гарадзішча старажытнага Гомеля (пасад і акольны горад). Участак культурна-гістарычнага пласта перыяду ранняга сярэднявечча – сярэднявечча | X–XVII стагоддзі | гарадскі парк. Межы: з усходу правы бераг р. Сож ад Кіеўскага спуску да бальніцы; з поўдня па мяжы парку, па вул. Пралетарскай да Кагальнага рова, да праезду паміж Палацам спорту і будынкам аблвыканкама праз пр. Леніна за будынкам абласнога драматычнага тэатра і далей па Кіеўскаму спуску да р. Сож | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000027 | Бальніца | XIX стагоддзе | вул. Камісарава, 13 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |




Будынак узведзены ў 1913 г. як земская бальніца па праекце архітэктара С.Д. Шабунеўскага. Фінансавала будаўніцтва бальніцы княгіня Ірына Іванаўна Паскевіч.

Пабудаваны ў глыбіні двара на абрывістым беразе ракі. Першы цокальны паверх апрацаваны гарызантальным рустам. Аконныя праёмы другога і трэцяга паверхаў аздоблены сандрыкамі. Будынак мае сіметрычную кампазіцыю, падкрэсленую двума бакавымі рызалітамі. Цэнтральнае месца ў кампазіцыі займае цыліндрычны аб'ём, які выступае перад фасадам у выглядзе эркера і завяршаецца карнізам і фігурным франтонам з надпісам «Больница».

Пасля 1919 г. земская бальніца была перайменавана ў 1-ю Савецкую. Пасля эпідэміі тыфу ў 1921 г. бальніцу перапрафілявалі ў 1-ю Савецкую заразную. У пасляваенны час функцыянавала як абласная. У наш час бальніца хуткай дапамогі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 312Г000028 | Комплекс будынкаў бальніцы | XX стагоддзе | вул. Камісарава, 25, 27 | 2 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |




Комплекс будаваўся як гінекалагічная бальніца і радзільны дом на сродкі княгіні Ірыны Іванаўны Паскевіч. Датай будаўніцтва трэба лічыць 1912–1914 гг.: на плане г. Гомеля 1913 г. гінекалагічная бальніца і радзільны дом пазначаны як будуемыя. У пачатку 1914 г. тут вяліся абліцовачныя работы. Знаходжанне ў бальніцы было бясплатнае, на сродкі князя Паскевіча.

Архітэктурным праектам кіраваў таленавіты гомельскі архітэктар Станіслаў Данілавіч Шабунеўскі. Комплекс узводзіўся на ўчастку, які прылягаў да княжацкай сядзібы, на высокім беразе ракі Сож,



удала гарманіруючы з прыродай і палацавым ансамблем. На вул. Князя Паскевіча арыентаваны двухпавярховым аб'ёмам, а ў паніжэнні ў бок ракі Сож – мураваны трохпавярховы будынак на высокім цокалі. Цяністы бальнічны дворык, спакойны дэкор фасадаў, утульныя прасторныя памяшканні для пацыентаў былі добра прадуманы праекціроўшчыкамі.

Асіметрычная кампазіцыя будынка, спалучэнні прамых і плаўных ліній, запазычаныя матывы стылю ампір (аформленыя аркамі і іанічнымі паўкалонамі аконныя праёмы і балконы, рустоўка сцен, наяўнасць порцікаў, атыкаў і інш.) дазваляюць аднесці комплекс да архітэктуры мадэрну.

Заканчэнне будаўніцтва супала з суровымі падзеямі Першай сусветнай вайны. У маёнтку Паскевічаў аказвалі актыўную дапамогу фронту: адкрылі лазарэты ў Гомелі і Добрушы, пераабсталявалі пад лазарэт земскую бальніцу, будынак прытулку, а таксама давялося перапрафіляваць новы радзільны дом у шпіталь на 100 ложкаў. Усе лазарэты ўтрымлівала на свае сродкі І.І. Паскевіч. Ад таго часу будынак раддома і застаўся ваенным шпіталем.

Цяпер тут аддзяленне бальніцы хуткай дапамогі.

| 312Г000029 | Ільінская царква | 1793 год | вул. Камісарава, 44 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана з дрэва на месцы стараверскай Спаскай царквы. Пры царкве дзейнічаў стараверскі Спаскі манастыр. К сярэдзіне XIX ст. ён стаў толькі жаночым і налічваў 23 манашкі. У 1850 г. манастыр быў закрыты, але ў хуткім часе зноў аднавіў сваю дзейнасць па жаданню старавераў.

У архіўных фондах захавалася апісанне царквы па стану на 1910 г. Адзначалася, што царква захавалася добра. Царква драўляная на цагляным падмурку. Звонку ашалявана дошкамі і афарбавана алейнай фарбай звонку і знутры. Была накрыта жалезам, афарбаваным зялёнай алейнай фарбай. На царкве меліся тры галоўкі, увянчаныя драўлянымі, абшытымі меддзю з пазалотай, крыжамі. З заходняга боку палову царквы агінала галерэя, напалову зашклёная. Адзін іканастас – галоўны – перад алтаром Св. прарока Ільі, а другі – прыдзельны – перад алтаром у імя Праабражэння.

Званіца знаходзілася ў адной сувязі з царквой, агульная вышыня складала 35 арш.

Ільінская царква з'яўляецца адным з тых збудаванняў, дзе захаваліся старажытныя прыёмы культавага драўлянага дойлідства. Найперш гэта выяўляецца ў вонкавым абліччы храма. Характэрным прыёмам у архітэктурна-кампазіцыйным вырашэнні царквы была галерэя вакол бабінца. Раней галерэя была адкрытая. Вызначальнымі элементамі старажытных драўляных храмаў былі ганак і балкон. Ганак не захаваўся. Але, калі ўзяць аналагічную Троіцкую царкву Маркавага манастыра ў Віцебску, дзе ўвесь храм абкружаны вялікай абхадной галерэяй на разьбяных слупах з ганкам пры ўваходзе, накрытым шатровым дахам, дык лагічна сцвярджаць, што пры ўваходзе ў Ільінскую царкву таксама быў ганак. Тым больш што над галерэяй храма захаваўся балкон, злучаны з лесвіцай на званіцу. Адметнасць Ільінскай царквы – канструкцыйны прыём з характэрным для такога тыпу храмаў заломам у сценах нефа. Як сведчыць здымак 1911 г. з выявай царквы, вярхі храма мелі архаічную пірамідальную канструкцыю.

У інтэр'еры прастора нефа развіта па вертыкалі. Вышыня да асновы купала складае агульную даўжыню нефа і алтара. Бабінец і алтар з рызніцай перакрыты плоскай столлю на бэльках.

| 313Д000030 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | Камсамольскі сквер | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000031 | Будынак кінатэатра імя М.І. Калініна | пачатак XX стагоддзя | вул. Камунараў, 4 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000032 | Будынак | 1950-я гады | вул. Камунараў, 5 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000033 | Будынак | канец XIX– пачатак XX стагоддзя | вул. Камунараў, 7 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000034 | Забудова вул. Кірава | канец XIX– 50-я гады XX стагоддзя | вул. Кірава, 17, 22, 23, 24 (Жаркоўскага, 14), 26 (Жаркоўскага, 11) 28, 29, 31, 32 (к.1, 2), 33, 42, 49, 57 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000035 | Забудова вул. Кірава | XIX–XX стагоддзі | вул. Кірава, 1, 3, 9, 12 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000036 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Кірава, 16 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000037 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Кірава, 18 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000038 | Будынкі | 1936 год | вул. Кірава 19/12, 20/14 (вул. Першамайская) | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000039 | Будынак былой мужчынскай гімназіі | 1898 год | вул. Кірава, 34 (на скрыжаванні з вул. Карповіча) | 2 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |





Гэта быў адзін з першых праектаў выдатнага гомельскага архітэктара С.Д. Шабунеўскага. Будынак уяўляў сабой двухпавярховае збудаванне ў неакласіцыстычным стылі, займаў амаль увесь квартал на рагу вул. Магілёўскай (Кірава) і Гімназічнай (Карповіча). Праз парадны ўваход з высокім ганкам можна было трапіць у квадратны вестыбюль з чатырма слупамі-пілонамі, завершанымі паміж сабой арачнымі скляпеннямі. З вестыбюля прыступкі вялі ўправа і ўлева ў доўгія калідоры, з аднаго боку якіх былі шырокія вокны, з другога – класныя пакоі, буфет, гімнастычная зала, бібліятэка, канцылярыя, кабінет дырэктара. У левым крыле на першым і другім паверхах былі таксама кватэры дырэктара і служачых з асобнымі парадней і чорнай лесвіцамі. У канцы калідора правага крыла знаходзілася шынельная, адтуль можна было патрапіць ва ўнутраны дворык. На другі паверх вяла шырокая парадная лесвіца, афармленая арачнымі пераходамі. Памяшканні на другім паверсе паўтаралі планіроўку класаў і залы першага паверха. Тут знаходзіліся настаўніцкая, кабінет урача, актавая зала, а над вестыбюлем, насупраць парадней лесвіцы – прасторнае памяшканне гімназічнай царквы з арачнымі вокнамі. Пад час богаслужэння яна змяшчала да 750 чалавек.



16 кастрычніка 1918 г. дэкрэтам УЦВК гімназія была скасавана. У будынку былой гімназіі размясцілася Упраўленне Беларускай чыгункі. У 1926 г. С. Шабунеўскі распрацаваў праект двухпавярховага будынка так

званага малога флігеля ў двары Упраўлення Беларускай чыгункі. Будынак складаны ў плане з двума бакавымі крыламі, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны над будынкамі Упраўлення Беларускай чыгункі – былым гімназічным і малым флігелем – быў надбудаваны трэці паверх. У 1953 г. у будынках размясціўся Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (цяпер Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000040 | Будынак (дом спецыялістаў) | 1932 год | вул. Кірава, 35 (на скрыжаванні з вул. Камсамольскай) | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000041 | Будынак былога тэхнічнага вучылішча | пачатак XX стагоддзя | вул. Кісялёва, 2 | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000042 | Комплекс будынкаў | 1975 год, 1981 год | вул. Ланге, 5, 17 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000043 | Забудова пр. Леніна | канец XIX– пачатак XX стагоддзя; (1940–1950-я гады) | пр. Леніна, 12, 14, 16, 20, 22, 23, 24, 26, 27, 28, 32, 33, 34, 35, 45, 47, 63, вугал вул. Першамайскай, 25 і пр. Леніна | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 310Г000044 | Палацава-паркавы ансамбль:<br>палац<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера вежы і цэнтральнай залы палаца<br>Петрапаўлаўскі сабор<br>капліца-пахавальня<br>парк | канец XVIII – XIX стагоддзе | <br><br>пл. Леніна, 4<br><br>пл. Леніна, 6 | 0 | 27.03.2002 № 64, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Палац у Гомелі – адзін з найбольш цікавых помнікаў грамадзянскай архітэктуры, уцалелых на тэрыторыі Беларусі. Ён вызначаецца багаццем і пластычнасцю, гарманічным спалучэннем мастацка-стылёвых кірункаў архітэктуры ад класіцызму да эклектыкі. Архітэктура палаца цесна звязана з наваколлем. Для ўдзелу ў яго будаўніцтве былі запрошаны вядомыя архітэктары і майстры-дэкаратары з Расіі, Польшчы, Англіі, Італіі, а таксама мясцовыя дойліды.

У 1775 г. уладальнікам гомельскага маёнтка стаў генерал-фельдмаршал П.А. Румянцаў, герой руска-турэцкай вайны 1768–1774 гг. Граф Румянцаў вырашыў заснаваць сваю рэзідэнцыю на высокім правым беразе р. Сож, на месцы драўлянага замка князя М. Чартарыйскага. Быў пабудаваны цэнтральны корпус без бакавых флігеляў і галерэй. Будынак меў два бакавыя рызаліты і порцік на фасадзе з боку р. Сож. Існуе меркаванне, што аўтарам праекта мог быць вядомы рускі дойлід І.Я. Староў, а затым архітэктары Я.М. Аляксееў, Д.Р. Катлярэўскі пад кіраўніцтвам К.І.Бланка ажыццявілі задуму.



Пасля смерці П.А. Румянцава ў 1796 г. гомельскі маёнтак атрымаў у спадчыну яго старэйшы сын М.П. Румянцаў. Ён зрабіў Гомель сваёй асноўнай рэзідэнцыяй, пачаў перабудоўваць яго і добраўпарадкоўваць. М.П. Румянцаў перабудаваў мураваны палац, узведзены яго бацькам. Кіраваў рэканструкцыяй палаца архітэктар Джон Кларк. Як мяркуе гісторык архітэктуры В.Ф. Марозаў, работы мелі хутчэй аднаўленчы характар і аб'ёмна-прасторавай структуры не закраналі.

Паводле апісанняў 1805 г., выгляд галоўнага корпуса цалкам адпавядае сучаснаму. Гэта датычыцца аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, размяшчэння памяшканняў, дэталіроўкі фасадаў (чатырох- і шасцікалонныя порцікі, паўкруглыя трохчасткавыя вокны).

У гэты перыяд М.П. Румянцавым па баках галоўнага корпуса былі пабудаваны два мураваныя двухпавярховыя флігелі.

Будаўніцтва і ўнутраная аддзелка другога флігеля былі завершаны ў 1818 г. У галоўным корпусе некаторыя работы па аздабленню пакояў (пазалотныя, жывапісныя) працягваліся яшчэ ў пачатку 1820-х гг.



Галоўны корпус прызначаўся для параднага, прадстаўніцкага жыцця. Тут знаходзіліся багаты кніжны збор, калекцыя старажытнасцей. Флігелям адводзілася роля службовых памяшканняў.

Палац з двума флігелямі адлюстраваны на вядомым плане Гомеля 1830 г. Пры М.П. Румянцаве ён набыў развітую, звернутую да галоўнай плошчы горада кампазіцыю. Аб'ёмная кампазіцыя галоўнага корпуса ў параўнанні з планам 1799 г. істотна не змянілася. Флігелі размяшчаліся сіметрычна галоўнаму корпусу, мелі прамавугольную ў плане форму, на фасадах з боку горада і ракі Сож – чатырохкалонныя порцікі іанічнага ордэра, шчыльна прыстаўленыя да сцяны.

У 1834 г. маёнтак купіў князь І.Ф. Паскевіч, а ў 1839 г. атрымаў у валоданне ўвесь Гомель. Ён вырашыў перабудаваць былы румянцаўскі палац, значна яго пашырыўшы. Праект перабудовы гомельскага палаца быў выкананы варшаўскім архітэктарам Адамам Ідзкоўскім. У аснову праекта рэканструкцыі была пакладзена ідэя аб'яднання галоўнага корпуса з бакавымі флігелямі галерэямі, якія фланкіраваліся павільёнамі. Пры гэтым значна перабудоўваліся і самі флігелі. На левым флігелі запраектаваны трэці паверх, новыя чатырохкалонныя порцікі на галоўным і тарцовым фасадах, зменена ўнутраная планіроўка.

Другі флігель планавалася разабраць і на яго падмурках узвесці трох'ярусную вежу і павільён з верхнім святлом. Галоўны корпус істотна не змяняўся. Перароблены толькі паўкруглыя вокны бельведэра на вузкія паўцыркульныя адпаведна вокнам вежы, часткова быў зменены дэкор інтэр'ераў. Па перыметры палаца зроблена атыкавая балюстрада, аздобленая статуямі.



Рэканструкцыя пачалася ў 1837 г. Адначасова з будаўнічымі работамі ў палацы пачалося ўзвядзенне агароджы і работы па падрыхтоўцы парку. Спачатку згодна з праектам была пабудавана трох'ярусная вежа. Аднак у хуткім часе Ідзкоўскі ўнёс у праект карэктывы, і ў 1850 г. на вежы надбудаваны чацвёрты паверх. У ходзе рэканструкцыі замест прадстаўленага на праекце шырокага ганка на фасадзе з боку р. Сож была зроблена вялікая паўкруглая тэраса. На працягу 1844–1850 гг. у палацы выконваліся аддзелачныя работы. Вядома, што вясной 1845 г. у Гомель прыехаў майстар Вінцэнта Вінцэнці. Ён працаваў у палацы да сярэдзіны 1850-х гг. і выканаў большую частку ляпных работ. Працавалі таксама лепшчыкі з Варшавы. У 1844 г. інжынер Дункан распрацаваў праект правядзення ў палац водаправода.

6 снежня 1851 г. у палацы ўзнікае пажар. Агнём была пашкоджана аддзелка пакояў на першым паверсе ў галоўным корпусе і вежы. У пачатку 1852 г. былі дастаўлены неабходныя матэрыялы для аднаўлення палаца. Праект выканаў варшаўскі архітэктар А. Галонскі.

Аднаўленчыя работы галоўным чынам закраналі інтэр'еры. У асноўным І.Ф. Паскевіч жадаў захаваць убранне пакояў такім, якім яно было да пажару. Па распараджэнні князя пасля пажару былі пераабсталяваны некаторыя пакоі. Так, галерэя з боку флігеля прыстасавана пад сталовую, былы партрэтны пакой – у прыёмную, кухню з флігеля меркавалася перанесці ў сутарэнні пад палацам. Згодна з праектам была зроблена лесвіца, што вяла ў вежу. Аднаўленне палаца пасля пажару было завершана ў 1855 г.

Пасля смерці ў 1856 г. І.Ф. Паскевіча маёнтак перайшоў у спадчыну да яго сына Ф.І. Паскевіча. Адразу ж пасля ўступлення ў валоданне ён пачынае перабудоўваць палац. Мажліва, такая паспешнасць новага гаспадара была выклікана чакаемым візітам у Гомель у 1857 г. імператара Аляксандра ІІ. З даху былі зняты чыгунная балюстрада і фігуры, дахі пафарбавалі ў чырванаваты колер. Да ганка з боку горада зрабілі пандус. Паўкруглы ганак з боку ракі атынкавалі, паклалі чыгунныя прыступкі і замест асфальту – керамічныя пліткі. На другім паверсе вежы заклалі частку акон. У порціку вежы разабралі перагародку, зробленую па малюнках А. Галонскага, і цагляныя прамежкі паміж калонамі і ўстанавілі чыгунныя рашоткі. З пляцоўкі порціка была зроблена скразная чыгунная лесвіца. Такія ж дзве лесвіцы выкананы па баках левай галерэі. Да вежы з боку ракі прыбудавалі памяшканне для спальні князя.

Павільён з левага боку перарабілі пад дамашнюю царкву. У сутарэннях палаца зроблена «купальня», а пакоі і агульная сталовая для прыслугі абсталяваны пад галерэяй.

У большасці пакояў было зменена дэкаратыўнае аздабленне. У вежы новае афармленне набыла зала. Вакол палаца паставілі копіі антычных статуй.

Пад час будаўніча-рамонтных работ 1856–1858 гг. палац набыў выгляд, які ў асноўным захоўваўся да пачатку XX ст. На працягу наступных дзесяцігоддзяў значных пераробак не адбывалася, за выключэннем вялікага рамонту 1862–1866 гг. У 1863 г. прадугледжвалася перабудаваць флігель, перагледзець унутраную планіроўку. Палац быў накрыты новым дахам, сцены, пілястры, капітэлі нанава атынкаваны. У пакоях пабелены і пафарбаваны сцены, столі, дзверы, вокны, лесвіцы, перасланы падлогі і перакладзены печы. У 1863 г. інжынер Данат выканаў праект пашырэння і ўдасканалення водаправода – на флігелі размясцілі два рэзервуары, з якіх вада па трох трубах паступала ў палац, на кухню, у басейн і гаспадарчы двор.

У палацы на першым паверсе знаходзіліся парадныя пакоі: белая зала, спальня, кабінет, вестыбюль, залатая сталовая, партрэтны пакой, чырвоная (малінавая) гасціная, калонная вялікая зала. У парадных пакоях былі паркетныя мазаічныя падлогі, сцены аздоблены фальшывым мармурам, тканінай, габеленамі, шаўковымі шпалерамі, столі з ляпнымі ўпрыгажэннямі. У павільёне, які фланкіраваў правую галерэю, была більярдная. Побач з павільёнам у дзвюх прыбудовах размяшчаліся малы кабінет і спальня князя. У чатырохпавярховай вежы размяшчаліся зала, бібліятэка, скарбніца, у порціку салон для курэння.

Вакол палаца быў створаны цудоўны парк, які быў славутасцю ўсяго горада. У парку было шмат клумбаў, кветак, аранжарэй, гротаў, альтанак, павільёнаў, на галоўных алеях стаялі мармуровыя статуі, дарожкі ўтрамбаваны і пасыпаны пяском. Перад галоўным фасадам была афармлена квадратная пляцоўка з трапічнымі дрэвамі і фантанам. Праз глыбокі роў перакінуты ажурны металічны мост. На тэрасе каля вежы была ўстаноўлена конная статуя князя Ю. Панятоўскага (скульптар Б. Торвальдсен), на пляцоўцы курданёра – манумент князя Паскевіча (скульптар В.І. Дэмут-Маліноўскі).

У палацава-паркавы ансамбль уваходзіць Петрапаўлаўскі сабор – помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1809–1824 гг. з цэглы паводле праекта Дж. Кларка па фундацыі М.П. Румянцава. Капліца-пахавальня Паскевічаў, помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю, пабудавана ў 1870–1889 гг. паводле праекта акадэміка архітэктуры Я. Чарвінскага.

Пасля рэвалюцыі 1917 г. апошняя ўладальніца палаца ўдава князя Ф.І. Паскевіча княгіня І.І. Паскевіч (са славутага рускага роду Варанцовых-Дашкавых) сабрала ўсе вопісы рухомай і нерухомай маёмасці і перадала іх дзяржаўным органам.

У сакавіку 1919 г. палац моцна пацярпеў у час стракапытаўскага мяцяжу. У ходзе аднаўлення ў 1923–1925 гг. была парушана цэласнасць прасторавай кампазіцыі галоўнага корпуса. Аб'ём залы расчлянілі суцэльным міжпаверхавым перакрыццем на ўзроўні галерэй. У палацы размясціліся Гомельскі гісторыка-этнаграфічны музей, палац піянераў, гарадская бібліятэка.

У гады Вялікай Айчыннай вайны палац быў моцна разбураны, асабліва цэнтральны корпус, галерэі, вежа. Згодна з актамі абследавання помніка ў 1944 і 1945 гг., стан архітэктурна-канструктыўных дэталей і дэкаратыўных элементаў характарызаваўся як вельмі дрэнны, страты складалі 66,9%. Пасля вайны было прынята рашэнне аднавіць палац такім, якім ён быў напярэдадні 1917 г.

З 2000 г. – Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000045 | Будынак абласнога драматычнага тэатра | 1956 год | пл. Леніна, 1 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Ж000046 | Помнік У.І. Леніну | 1958 год | пл. Леніна | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Ж000047 | Бюст П.В. Сухога | 1977 год | пр. Леніна | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000048 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | пр. Леніна, 31 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000049 | Былы «Дом-камуна» | 1929–1931 гады | пр. Леніна, 51 | 2 | 10.02.1999 № 50 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік архітэктуры савецкага перыяду. Пабудаваны па праекце архітэктара С. Шабунеўскага як жылы дом для рабочых паравозавагонарамонтнага завода. Мае ў плане форму выцягнутай літары П і займае даўжыню квартала. Вонкавы выгляд будынка характэрны для архітэктуры таго перыяду. Асаблівая выразнасць аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дасягнута спалучэннямі вертыкальных сяміпавярховых аб'ёмаў, фланкіруючых цэнтральны шасціпавярховы аб'ём з бакавымі крыламі.

Дамы такога тыпу ў 1928–1929 гг. з'явіліся ў многіх гарадах краіны. Гэта былі першыя спробы стварэння дамоў-комплексаў з рознымі памяшканнямі грамадска-бытавога абслугоўвання. Акрамя Гомеля, у Беларусі такі дом у 1930–1935 гг. быў пабудаваны ў г. Бабруйску. Сістэма памяшканняў культурна-бытавога абслугоўвання запраектаваных будынкаў не ўлічвала многіх патрэб жыхароў дома. Не ўсё з запраектаванага было выканана. Асобныя памяшканні выкарыстоўваліся па іншаму прызначэнню. У выніку некалькіх перабудоў гомельскі дом-камуна быў рэканструяваны і ўяўляе сабой у цяперашні час інтэрнат калідорнага тыпу. На першым паверсе прадугледжваліся памяшканні грамадскага прызначэння: вестыбюль, сталовая, дзіцячая дашкольная ўстанова, пакоі для гурткоў, бібліятэка.

У гады Вялікай Айчынай вайны будынак быў пашкоджаны. У пасляваенныя гады быў толькі разабраны парапет, які павінен быў імітаваць плоскі дах, у свой час запраектаваны, але не выкананы з-за тэхнічнай непадрыхтаванасці будаўніцтва.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 312Г000050 | Будынак «Зімовы сад» з вежай | 1839 год | парк Луначарскага | 2 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны як адзін з карпусоў цукровага завода князя Паскевіча. Пасля пажару ў 1850-я гг. завод спыніў сваю дзейнасць. У 1877 г. у будынку была адкрыта аранжарэя з рэдкімі дрэвамі і кустамі.

Складаецца з некалькіх прамавугольных ў плане аб'ёмаў. Накрыты двухсхільнымі дахамі, сцены атынкаваныя і афарбаваныя. Вуглы будынка акцэнтаваны раскрапаванымі лапаткамі. Гарызантальна фасад падзелены цягай, завершаны карнізам з пояском парэбрыка. Ніжэйшы аб'ём будынка дэкарыраваны контрфорсамі з дэкаратыўнымі завяршэннямі. Лучковыя аконныя праёмы размешчаны ў два ярусы, аздоблены ліштвамі, лучковымі сандрыкамі. На тыльным фасадзе – тры высокія паўцыркульныя аконныя праёмы. Асаблівую выразнасць будынку надае кантрастная афарбоўка элементаў архітэктурнага дэкору.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000051 | Будынак | канец XIX стагоддзя | парк Луначарскага | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000052 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000053 | Мікольская царква | 1904 год | вул. Д. Беднага, 4 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000054 | Будынак абласной бібліятэкі імя У.І. Леніна | 1961 год | пл. Перамогі, 2а | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000055 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Першамайская, 2 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000056 | Забудова вул. Пралетарскай | пачатак XIX стагоддзя | вул. Пралетарская, 5, 9, 16, 17, 19, 21, 22, 23а, 31, 47 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000057 | Будынак | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Пралетарская, 6 | 3 | 10.02.1999 № 50 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000058 | Будынак | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Пралетарская, 8 | 3 | 10.02.1999 № 50 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000059 | Былы дом прадвадзіцеля гарадскога дваранства | XIX стагоддзе | вул. Пралетарская, 15 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000060 | Званіца Праабражэнскай царквы | XIX стагоддзе | вул. Пралетарская, 18а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000061 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Пралетарская, 33 | 3 | 25.11. 2003 № 91 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000062 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | пл. Працы, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000063 | Будынак дарожна-будаўнічага тэхнікума | 1950-я гады | вугал пл. Працы, 1 і пр. Леніна | 3 | 07.06 2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000064 | Будынак чыгуначнага вакзала | XIX стагоддзе | пл. Прывакзальная, 3 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000065 | Палац культуры чыгуначнікаў | 1930 год | пл. Прывакзальная, 4 | 2 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудаваны па праекце архітэктара А. Кірылава. Складаецца з трох выразна вылучаных паводле функцыянальнага прызначэння аб'ёмаў: тэатральна-канцэртнай залы з дапаможнымі памяшканнямі, клубнай часткі і кінатэатра. У кампазіцыі дамінуе аб'ём тэатральна-канцэртнай залы, які выступае за асноўную плоскасць фасада. Галоўны ўваход зроблены ў выглядзе класіцыстычнага порціка, завершаны трохвугольным франтонам, абрамленым карнізам з дэнтыкуламі. Інтэр'ер залы вырашаны ў бела-блакітнай каляровай гаме з каланадай бакавых галерэй. Вуглавы аб'ём звонку аформлены калонамі іанічнага ордэра. Над уваходам на другім паверсе лоджыя-тэраса. Фасады члянёны плоскімі руставанымі лапаткамі. Паміж вокнамі другога і трэцяга паверхаў падаконныя



нішы. Двухпавярховы аб'ём кінатэатра злучаны з клубнай часткай крытым пераходам на ўзроўні другога паверха. Па перыметры будынка праходзіць карніз з дэнтыкуламі. Галоўны фасад завершаны ступеньчатым атыкам, балюстрадным парапетам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000066 | Забудова вул. Пушкіна | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Пушкіна, 5, 7 (вул. Сялянская, 1), 11, 14, 18, 22, 24 | 3 | 07.06 2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000067 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Пушкіна, 1 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000068 | Будынак | 1927 год | вул. Пушкіна, 26 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000069 | Былы асабняк «Паляўнічы домік» | 1820 год | вул. Пушкіна, 32 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Асабняк вядомы як «летні домік» для пражывання графа М.П. Румянцава, «паляўнічы домік», «домік у садзе». Пабудаваны ў 1818–1822 гг. паводле праекта архітэктара І. Дзячкова.

Як сведчаць архіўныя матэрыялы, быў перабудаваны з магазіна (склада) гомельскіх тавараў. Будынак драўляны на мураваным падмурку, сцены абліцаваны цэглай. Фасады вырашаны паводле ўзорных праектаў, распрацаваных спецыяльна архітэктарамі В.П. Стасавым і Л. Рускім для будаўніцтва ў гарадах Расійскай імперыі. Дзячкоў увёў толькі канеліраваныя калоны порціка ў архаічных формах дарычнага ордэра і замест бакавых акон мансарды змясціў «грэчаскія» рэльефы. Планіроўка дома была даволі простая, памяшканні мелі невялікія памеры. Адразу за ўваходнымі дзвярамі знаходзіўся ўтульны салон з камінам, апрацаваным шэрым мармурам. З супрацьлеглага боку быў невялікі пакой з лесвіцай, якая праводзіла з мансарды ў сад.

У 1838 г. разам з зімовым домам М.П. Румянцава перайшоў у падпарадкаванне ваенна-інжынернаму ведамству. Прыблізна ў 1860-я гг. уладальнікам летняга дома стаў Крушэўскі. Затым дом належаў Лісоўскаму.

Пасля 1917 г. у будынку размясцілася Надзвычайная камісія, а з 1927 г. – гарадскі радыёвузел. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў доме пэўны час знаходзіўся радыёвузел. Затым выкарыстоўваўся як жылы дом, пазней стаў адміністрацыйным будынкам.

Уваходзіць у Дзяржаўную гісторыка-культурную ўстанову «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000070 | Будынак | 1924–1926 гады | зав. Пушкіна, 3 | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000071 | Будынак | 1924–1926 гады | зав. Пушкіна, 5 | 3 | 31.10.2000 № 61 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Ж000072 | Бюст А.А. Грамыкі | 1983 год | вул. Савецкая | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000073 | Забудова вул. Савецкай | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | вул. Савецкая, 1, 4, 8, 9/14 (вул. Ланге), 10, 12, 17/14 (вул. Сялянская), 20 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000074 | Забудова вул. Савецкай | 1930–1950-я гады | вул. Савецкая, 2, 3, 6, 7, 11, 13, 14, (вул. Сялянская, 16), 15, 19, 21, 36 (вул. Камсамольская, 2), 38, 41, 42, 58 | 3 | 07.06 2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000075 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Савецкая, 18 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000076 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Савецкая, 22 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000077 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Савецкая, 24 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000078 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Савецкая, 25 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000079 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Савецкая, 26 | 3 | 07.12. 2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000080 | Будынак цырка | 1972 год | вул. Савецкая, 27 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000081 | Будынак | 1901 год | вул. Савецкая, 28 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000082 | Будынак | 1920 год | вул. Савецкая, 30 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000083 | Будынак | XX стагоддзе | вул. Савецкая, 32 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000084 | Будынак былога афіцэрскага клуба | пачатак XX стагоддзя | вул. Савецкая, 34а | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 312Г000085 | Будынак | 1818 год | вул. Савецкая, 39 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Вядома, што граф М.П. Румянцаў шмат увагі надаваў будаўніцтву навучальных устаноў. Стварэнне ланкастэрскай школы ў Гомелі было з'явай унікальнай не толькі для Беларусі, але і для ўсёй Расійскай імперыі. Гэта школа была першай на тэрыторыі імперыі. Менавіта Румянцаў стаў першым расійскім грамадзянінам, які спрыяў распаўсюджанню на тэрыторыі імперыі метаду навучання, распрацаванага выдатным англійскім педагогам Джозефам Ланкастэрам.

Па запрашэнню графа летам 1817 г. у Гомель прыехаў з Англіі Джэймс Артур Герд, які быў добра знаёмы з метадам Дж. Ланкастэра. Было даручана архітэктару Джону Кларку выканаць праектныя чарцяжы школы. Справа рухалася даволі хутка, і ў 1818 г. школа была ўжо пабудавана, а таксама драўляныя флігелі пры ёй. Будынкі ланкастэрскай школы займалі цэлы квартал. Комплекс быў замкнуты і абгароджаны. Ён складаўся з асноўнага корпуса і чатырох флігеляў пры ім, якія былі пастаўлены па кутах прамавугольнага ўчастка. Акрамя таго, у склад комплек-

су ўваходзілі лазня, свіран, стайня. Галоўны корпус меў выгляд грамадскага будынка. Яго лаканічны аб'ём на галоўным фасадзе быў вылучаны васьмікалонным порцікам. Унутраная планіроўка была даволі простая. Па баках вестыбюля размяшчаліся класы.

Адкрыццё ланкастэрскай школы адбылося 8 лістапада 1819 г. Аднак школа праіснавала нядоўга. Пасля смерці графа яна была закрыта. Новы ўладальнік гомельскага маёнтка спрабаваў арганізаваць тут ткацкую фабрыку. Вырабы не мелі поспеху на рынку і справа спынілася. У будынку былой ланкастэрскай школы размясціўся ваенны шпіталь.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000086 | Будынак<br>(тып гарадскога асабняка) | канец XIX –<br>пачатак<br>XX стагоддзя | вул. Савецкая, 50 | 3 | 18.12.2002<br>№ 80 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Д000087 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | вул. Савецкая, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Г000088 | Будынак | пачатак<br>XX стагоддзя | вул. Садовая, 8 | 3 | 07.06 2002<br>№ 74 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Г000089 | Будынак | пачатак<br>XX стагоддзя | вул. Садовая, 10 | 3 | 07.06 2002<br>№ 74 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Ж000090 | Бюст П.Я. Галавачова | 1975 год | вул. Севастопальская,<br>на тэрыторыі прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 56 | 3 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Д000091 | Брацкая магіла | 1943 год | вул. Тралейбусная | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Г000092 | Будынак | канец XIX –<br>пачатак<br>XX стагоддзя | вул. Працоўная, 7а | 3 | 18.12.2002<br>№ 80 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Г000093 | Комплекс будынкаў | 1982 год | вул. Фядзюнінскага, 17 | 3 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Г000094 | Фрагменты былога сядзібна-паркавага комплексу (былы фальварак Багуслаўскага) | сярэдзіна XIX –<br>XX стагоддзе | пас. Прудок,<br>вул. Будзённаўская, 17 | 3 | 23.12.1998<br>№ 49 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Акцябрскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Д000095 | Брацкія магілы | 1941–1943 гады | г.п. Акцябрскі,<br>вул. Савецкая, на могілках | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Д000096 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дзербін | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Д000097 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Любань | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 313Д000098 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Пратасы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Г000099 | Брама | XIX стагоддзе | в. Харомцы | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000100 | Фрагменты парку | XIX стагоддзе | в. Харомцы | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000101 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Чорныя Брады, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, урочышча Курганне | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |

## Брагінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Д000102 | Брацкая магіла | 1941–1943 гады | г.п. Брагін, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000103 | Гарадзішча старажытнага Брагіна перыяду ранняга сярэднявечча | XII–XIII стагоддзі | г.п. Брагін, цэнтр пасёлка, на правым беразе р. Брагінка, пры ўпадзенні ў яе безыменнага ручая | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000104 | Бескурганны могільнік перыяду ранняга жалезнага веку | VI–II стагоддзі да н.э. | в. Асарэвічы, каля гарадзішча, на схіле ўзвышша | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000105 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Асарэвічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000106 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VII–IV стагоддзі да н.э. | в. Асарэвічы, 3 км ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000107 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Галкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000108 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку і сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – XVI стагоддзе н.э. | в. Гарадзішча, у цэнтры вёскі, каля моста цераз р. Брагінка | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000109 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку і сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – XIII стагоддзе н.э. | в. Гдзень, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000110 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Калыбань, 4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Баб'е | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000111 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Каманоў, 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000112 | Брацкая магіла | 1943 год | г.п. Камарын, вул. Леніна, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313В000113 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Капоранка, 5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Востраў | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000114 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Кулажын, 1 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000115 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Новы Макрэц, 1 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000116 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Мікулічы, 0,3 км на захад ад вёскі, за садам | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000117 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Пасудава, 2 км на поўнач ад вёскі, урочышча Куркова | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000118 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Піркі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000119 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Савічы, 1 км на ўсход ад вёскі, урочышча Салавіца | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000120 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Старая Ёлча, урочышча Гарадок, за калгасным садам | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000121 | Парк з рэшткамі сцяны замка Вішнявецкіх | канец XVIII стагоддзя | в. Тэльман | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000122 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Старыя Хракавічы, 5 км на захад ад вёскі, урочышча Хістына | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000123 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Чыкалавічы, 5 км на ўсход ад вёскі, урочышча Высокае | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |

## Буда-Кашалёўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Д000124 | Магіла ахвяр фашызму | 1941 год | г. Буда-Кашалёва | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000125 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Буда-Кашалёва, вул. Леніна, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000126 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Буда-Кашалёва, вул. Леніна, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Ж000127 | Бюст П.Я. Галавачова | 1951 год | г. Буда-Кашалёва, вул. Леніна | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313В000128 | Курганная група | перыяд сярэднявечча | в. Андрэеўка, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000129 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Губічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000130 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Дуравічы, 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, урочышча Чыстыя Лужы | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000131 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Дубраўка, 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, каля могілак | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000132 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Забаб'е | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000133 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Калініна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000134 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Недайка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000135 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Патапаўка, на могілках | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000136 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Патапаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000137 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Рагінь | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000138 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Рудзянец | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000139 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Слабада Люшаўская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000140 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Струкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000141 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку і сярэднявечча | II–XIII стагоддзі | г.п. Уваравічы, 1 км на ўсход ад пасёлка | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000142 | Брацкая магіла | 1943 год | г.п. Уваравічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000143 | Магіла ахвяр фашызму | 1941 год | г.п. Уваравічы | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000144 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | пас. Чырвоны Курган, 1,5 км на паўночны захад ад пасёлка, па баках дарогі ў в. Патапаўка | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |

## Веткаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313Д000145 | Брацкая магіла | 1943 год | г. Ветка, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000146 | Былы дом купца Грошыкава | 1897 год | г. Ветка, пл. Чырвоная, 5 | 3 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000147 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | г. Ветка, 3 км на поўнач ад горада, на беразе р. Сож, урочышча Цялячае | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000148 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Беседзь | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000149 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Барталамееўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000150 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V–VIII стагоддзі н.э. | в. Вялікія Нямкі, 1 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Царковішча, на правым беразе р. Беседзь | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000151 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | пас. Гарадок, 1 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка, урочышча Баяршчына | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000152 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Данілавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Г000153 | Мікалаеўская царква | XIX стагоддзе | в. Жалезнікі | 3 | 18.12.2002 № 80 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000154 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | II–XIII стагоддзі | в. Жалезнікі, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на высокім правым беразе р. Беседзь | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000155 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Жалезнікі, на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля могілак | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000156 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Навасёлкі, на паўднёвай ускраіне вёскі, на сядзібе Касьянавых | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000157 | Брацкая магіла (211 воінаў Савецкай Арміі) | 1943 год | в. Навасёлкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000158 | Брацкая магіла (697 воінаў Савецкай Арміі) | 1943 год | в. Навасёлкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000159 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Неглюбка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 313В000160 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Новаіванаўка, 2 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Беседзь | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000161 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Новыя Грамыкі, 1 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Беседзь, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000162 | Стаянка перыяду мезаліту | 6–5 тысячагоддзі да н.э. | в. Новыя Грамыкі, 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, урочышча Аўрамаў Бугор | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000163 | Паселішча перыяду неаліту, бронзавага і ранняга жалезнага веку | позні каменны век, III–V стагоддзі н.э. | пас. Пралетарскі, 0,3–0,4 км на поўдзень ад малочнатаварнай фермы | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000164 | Паселішча | 3-е тысячагоддзе да н.э. | пас. Пралетарскі, урочышча Курган, 1 км ад малочнатаварнай фермы | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000165 | Грунтавы могільнік | перыяд бронзавага веку | пас. Пралетарскі, урочышча Курган, 1 км ад малочнатаварнай фермы | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000166 | Паселішча перыяду неаліту, бронзавага веку | першая чвэрць 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Прысно, 0,2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000167 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Прысно | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000168 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку і сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Прысно, на паўночнай ускраіне вёскі, з левага боку дарогі ў пас. Аднаполле, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000169 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Радуга, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 313Д000170 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Радуга | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 313В000171 | Паселішча перыяду неаліту, бронзавага веку | першая чвэрць 1-га тысячагоддзя н.э., XIII–XIV стагоддзі | в. Рудня-Шлягіна, урочышча Чачураўка, 1,5–2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |



Дакументы сведчаць, што ўжо ў пачатку XV ст. храм знаходзіўся ў дрэнным стане. К 1506 г. адносяцца звесткі аб аднаўленні царквы дойлідам Богушам Багутовічам. Быў зроблены новы дах. У час руска-польскай вайны 1654–1667 гг. царква была значна пашкоджана. Як сведчаць дакументы, на даху храма зрабілі насып з пяску, дзе ўстанавілі гарматы для вядзення агню па замку. З 1635 г. царква перададзена уніяцкаму мужчынскаму манастыру. У час Паўночнай вайны 1700–1721 гг. зноў была пашкоджана. У канцы XVIII ст. знаходзілася ў дрэнным стане. У 1827 г. быў зроблены рамонт з заменай даху. Дах быў гонтавы, увянчаны трыма драўлянымі макаўкамі. Часткова разбурана ў 1853 г. у выніку апоўзня. Яшчэ ў 1843 г. быў распрацаваны праект умацавання берага каменнымі падпорамі з земляным насыпам. Нязначныя работы па ўмацаванні берага праводзіліся ў 1864, 1873 гг. У 1895–1897 гг. замест разбуранай сцяны зроблена драўляная. Працягваліся работы па ўмацаванні берага. У 1904 г. камісія зрабіла наступнае заключэнне: «Повреждение берега усилилось главным образом от искусственного стеснения живого сечения реки, благодаря устройству гавани. Часть берега, непосредственно примыкающая к церкви, одета: в верхней части – булыжной мостовой; в средней части – замощена булыжным камнем в плетневых клетках и в нижней части – отсыпью из такового же камня. По верху, со стороны разрушенной части церкви устроена опорная стенка с площадкой. Комиссия постановляет следующее: восстановить живое сечение Нёмана по возможности в его первоначальном виде, для чего следует разобрать часть ограждающей гавани дамбы по длине и по верху 25 саж. Необходимо установить металлический репер за наблюдением осадки церкви и откоса». Работы па кансервацыі праведзены ў 1910 г. і 1935 г., кансервацыйна-рамонтныя – у 1970 г. Знаходзіцца ў стане рэстаўрацыі.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000005 | Забудова вул. Ажэшкі | XVIII – пачатак XX стагоддзя | вул. Ажэшкі, 1, 3, 4, 8, 9, 11, 15, 17, 19, 20, 22, 23, 28, 30, 34, 35, 35а, 37, 45, 47 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Дом № 1. Трохпавярховы асіметрычны ў плане будынак. Галоўны фасад члянёны на тры ярусы. Верхні з багатай аздобай аддзелены ад сярэдняга плоскім карнізным поясам, завершаны прафіляваным карнізам. Прамавугольныя вокны з ліштвамі, франтонамі і сандрыкамі. Галоўны фасад мае арачны праезд на вышыні двух ніжніх паверхаў, афармлены несапраўдным порцікам з чатырма пілястрамі і трохвугольным франтонам з балконам на фігурных чыгунных кранштэйнах і з ажурнай агароджай.

Дом № 3. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Галоўны фасад сіметрычны. Цэнтральная частка вылучана чатырохкалонным порцікам з элементамі дарычнага і карынфскага ордэраў. Пастаўленыя на высокія п'едэсталы калоны падтрымліваюць антаблемент з трохвугольным франтонам. Сцяна галоўнага фасада члянёна філёнгамі, раскрапавана рустам, завершана прафіляваным карнізам. Вокны абрамлены фігурнымі ліштвамі і сандрыкамі. У інтэр'еры вестыбюль з параднай лесвіцай. Планіроўка абодвух паверхаў калідорная. Па баках калідора размешчаны невялікія пакоі, у тарцах – залы. Цяпер планіроўка будынка зменена.





Дом № 9. Будынак двухпавярховы, асіметрычны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Сцены атынкаваныя. Бакавыя і цэнтральны рызаліты завершаны фігурнымі атыкамі. Пластыка фасада насычаная: руст, цяга, карніз, аконныя абрамленні, філёнгі.

Дом № 11. Будынак двухпавярховы з сутарэннямі, накрыты чатырохсхільным дахам. Вуглавая частка будынка скоша-



на, увянчана атыкам. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам, чляняцца лапаткамі. Паверхі падзелены цягай. Прамавугольныя аконныя праёмы ў ліштвах. У вуглавой частцы будынка балкон з літай агароджай. Дэкор вылучаны кантрастнай фарбай.

Дом № 15. Двухпавярховы будынак накрыты ламаным вальмавым дахам. Мае складаную форму плана і асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Фасады члянёны рызалітамі.

Дом № 17. Пабудаваны ў 1979 г. як копія драўлянага дома, у якім у 1894–1910 гг. жыла польская пісьменніца Э. Ажэшка. Цяпер у доме мемарыяльныя пакоі.

Аднапавярховы з мансардай будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад вырашаны сіметрычна. Цэнтральная частка вылучана мансардай з балконам. Аконныя праёмы прамавугольныя рознай велічыні ў простых ліштвах. Пад аконнымі праёмамі праходзіць цяга і паясок філёнгаў.

Дом № 19. Будынак трохпавярховы з сутарэннямі, Г-падобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам. Галоўны фасад сіметрычны. Вуглавыя часткі вылучаны рызалітамі, якія дэкарыраваны пілястрамі: на першым і другім паверхах – руставанымі, на трэцім – канеліраванымі. Сцены чляняцца лапаткамі і міжпаверхавымі цягамі. Аконныя праёмы прамавугольныя ў ліштвах, дэкарыраваны прамымі сандрыкамі, падаконнымі нішамі. Невялікія балкончыкі з ажурнымі агароджамі (чыгуннае ліццё).

Дом № 20. Да перабудовы гэта трохпавярховы ў цэнтральнай частцы аб'ём з аднапавярховымі бакавымі крыламі. Цэнтральная частка накрыта вальмавым дахам, бакавыя – трохсхільнымі. Галоўны фасад фланкіраваны двума гранёнымі эркерамі, якія раней былі накрыты купаламі. Пасля перабудовы ў самастойныя памяшканні вылучаны бакавыя крылы.

Уваходнай частцы нададзены больш развіты характар. Руставаная плоскасць сцяны першага паверха прарэзана шырокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны другога паверха паўцыркульныя, аддзелены шырокімі плоскімі пілястрамі, два бакавыя ўпрыгожаны дэкаратыўнымі балконамі. Купалы заменены атыкамі, упрыгожанымі ваеннай геральдыкай. Дах у цэнтральнай частцы значна паніжаны.



Дом № 23. Кафедральны сабор у гонар Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Пабудаваны ў 1905 г. з цэглы на ўшанаванне памяці афіцэраў і ніжніх чыноў 26-й артылерыйскай брыгады, якія загінулі ў руска-японскую вайну 1904–1905 гг. Асвячоны 30 верасня 1907 г. Аўтар праекта храма архітэктар М. Прозараў. Помнік рэтраспектыўна-рускага стылю. Храм трохнефавы, базілікальнага тыпу, дванаццацілуповы, аднаапсідны. Уваходная частка будынка вылучана высокім ганкам. Галоўны фасад храма сіметрычны. Над прытворам узвышаецца дзесяціметровая васьміграннная званіца, шатровае пакрыццё якой увянчана цыбулепадобным купалам на барабане. Вокны паўцыркульныя з абрамленнямі ў выглядзе какошнікаў. Абапал званіцы ўзвышаюцца невялікія шатры з купаламі. Над алтарнай часткай размяшчаецца пяць купалаў. Над рызніцамі – два шатры з макаўкамі. Прытвор перакрыты высокімі крыжовымі скляпеннямі. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых калонамі. Столь плоская, упрыгожана трыма плафонамі, упрыгожанымі роспісам. Уздоўж сцяны пад вокнамі праходзіць магутны карніз з сухарыкамі. Падлога ў прытворы мазаічная.

Дом № 28. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У скошаным вуглу будынка размешчаны галоўны ўваход, над ім на ўзроўні другога паверха балкон з ажурнай агароджай.

Дом № 35. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Сцены неатынкаваныя. У цэнтры галоўнага фасада вялікі арачны праём. Прасценкі дэкарыраваны руставанымі лапаткамі, аконныя праёмы лучковыя. Пад карнізам шырокі аркатурны пояс.

Дом № 37. Уваходзіў у ансамбль амаль 20 тыпавых дамоў па вул. Раскоша. Жылы дом пабудава-

ны з бруса і цэглы для наёмных рабочых мануфактур Тызенгаўза. Дом аднапавярховы з мансардай, прамавугольны ў плане. Галоўны фасад цагляны, атынкаваны, завершаны франтонам складанай формы, бакавыя і тыльныя сцены драўляныя. Дах двухсхільны, быў накрыты чарапіцай, цяпер часткова перакрыты шыферам і бляхай. Будынак падзелены на вытворчую і жылую часткі. Перакрыцці драўляныя, падшытыя фанерай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Ж000006 | Бюст Э.Ажэшкі | 1929 год | вул. Ажэшкі | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000649 | Будынак былой кірхі | 1783 год, перабудаваны ў 1793, 1842, 1912 гадах | вул. Акадэмічная, 7а | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |





Афіцыйнай датай заснавання кірхі ў Гродне лічыцца 1793 г., калі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі перадаў будынак нямецкай суполцы. Пад кірху быў прыстасаваны будынак сталовай для галандскіх і нямецкіх рамеснікаў, якіх запрасіў у Гродна гродзенскі староста Антоній Тызенгаўз. Канчаткова выгляд кірхі склаўся ў 1873 г. На вежы быў усталяваны гадзіннік. У 1912 г. храм значна перабудавалі.

Кірха дзейнічала ў Гродне да 1944 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны тут знаходзіўся архіў. У 1-й палове 1990-х гг. кірха вернута вернікам і дзейнічае як евангелісцка-лютэранскі храм.

Аднанефавая аднавежавая пабудова з пяціграннай апсідай і сакрысціямі. Галоўны фасад мае сіметрычную, выцягнутую па вертыкалі дынамічную кампазіцыю. Квадратная ў плане высокая манументальная вежа-званіца выступае з асноўнага аб'ёму. Галоўны ўваход (праз вежу) афармлены вялікім стральчатым парталам, над ім – акно-«ружа». Інтэр'ер храма мае выцягнутую па падоўжнай восі сіметрычную кампазіцыю. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём перакрыты арыгінальным па форме фігурным скляпеннем.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000007 | Магіла генерал-маёра М.С. Ланскога | 1815 год | вул. Антонава, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 413Д000008 | Тры брацкія магілы | 1944 год | вул. Антонава, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000009 | Вайсковыя могілкі | 1888–1973 гады | вул. Белуша | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Е000650 | Забудова вул. Вялікая Траецкая | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Вялікая Траецкая, 2, 8, 8а, 11, 13, 14, 16, 17, 21, 23, 32, 42, 46, 57 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 413Г000651 | Будынак | 1904 год | вул. Гараднічанская, 20 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000010 | Ансамбль былога манастыра базыльянак:<br>царква Раства Багародзіцы<br>жылы корпус<br>цёплая царква<br>адміністрацыйны корпус<br>гаспадарчы корпус<br>рэшткі Прачысценскай царквы XII стагоддзя<br>агароджа з брамай | XVIII–XIX стагоддзі | вул. Д. Гарадзенскага, 3 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Царква Раства Багародзіцы – крыжова-купальны трохнефавы двухвежавы храм. Помнік архітэктуры пераходнага стылю ад барока да класіцызму. Мае купал з цыбулепадобнай галоўкай на васьміграннай аснове, размешчаны на светлавым барабане. Купал дапаўняюць дзве чацверыковыя вежы над крыламі трансепта, увянчаныя фігурнымі галоўкамі. Да прамавугольнай алтарнай часткі прымыкаюць нізкія аб'ёмы рызніц. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам. Сцены дэкарыраваны пілястрамі. У інтэр'еры крылы трансепта перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. Сцены завяршае прафіляваны антаблемент з вялікім вынасам карніза. У вуглах асноўнага нефа круглыя шахты вітых лесвіц. У паўночным крыле трансепта знаходзяцца хоры, звязаныя з калідорам другога паверха жылога корпуса.

Храм пацярпеў у час Першай сусветнай вайны. У 1977–1992 гг. у храме размяшчаўся Беларускі дзяржаўны музей атэізму і гісторыі рэлігіі. У чэрвені 1992 г. храм і манастырскія будынкі перададзены праваслаўнаму жаночаму манастыру.

Жылы корпус пабудаваны ў 1726–1751 гг. (архітэктар І. Фантана). Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак, падоўжным крылом прымыкае да царквы. Вокны прамавугольныя, размешчаны нерэгулярна. Планіроўка галерэйная. Памяшканні перакрыты крыжовымі, калідор – цыліндрычнымі скляпеннямі. Капліца прыбудавана да ўсходняга тарца жылога корпуса ў XIX ст. Уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём зальнага тыпу. Сцены раўнамерна расчлянёны лапаткамі, падзелены на два ярусы шырокім прафіляваным поясам. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны з люстраным скляпеннем.

Гаспадарчы корпус пабудаваны ў 1891 г. з цэглы. Размешчаны ва ўсходняй частцы комплексу. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак.

Прачысценская царква была пабудавана ў 2-й палове XII ст. з плінфы. У 1564 г. згарэла. Шасціслуповы храм з трыма прамавугольнымі апсідамі. Фасады неатынкаваныя, былі аздоблены кампазіцыямі з маёлікавых плітак. У інтэр'еры выкарыстаны галаснікі. Дах быў накрыты свінцовымі пласцінамі.

У архіўных крыніцах канца XVIII ст. даецца наступнае апісанне манастыра: «Двухэтажный каменный корпус в одну линию, с коротким крылом, крыт черепицей. Выходя во двор (с восточной стороны) при въездных воротах от города – конюшня и каретная, крытые гонтом. С той же стороны, ближе к саду – амбар маленький, деревянный, крытый черепицей. Весь монастырь с церковным садом вокруг высоким каменным забором огорожен, в конце которого со стороны улицы – сторожка каменная, крытая черепицей». Да 1954 г. манастыр дзейнічаў. У 1979–1985 гг. рэстаўрыраваны (архітэктар Г. Жаровіна).

| 412Г000011 | Былы палац адміністратара з двума флігелямі | канец XVIII – XIX стагоддзе (перабудаваны) | вул. Горкага, 2/2, вул. Горкага, 2, вул. Горкага, 2а | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны для адміністратара Гарадніцы, пазней належаў М. Валіцкаму. Палацавы ансамбль, які складаецца з трох корпусаў, мае характэрную на той час сядзібную схему планіроўкі з курданёрам, фланкіраваным аднапавярховымі флігелямі. Помнік архітэктуры ранняга класіцызму.

Цэнтральны корпус палаца трохпавярховы прамавугольны ў плане, накрыты пакатым вальмавым дахам. Плоскасны галоўны фасад вылучаны ў цэнтры неглыбокім рызалітам, крапаваным буйнымі лапаткамі, і завершаны трохвугольным франтонам (не захаваўся). Аконныя праёмы рызаліта вылучаны трохвугольнымі і лучковымі франтонамі. Палац мае калідорную планіроўку. У паўднёвай частцы першага паверха захаваліся фрагменты былых перакрыццяў у выглядзе цыліндрычных скляпенняў з распалубкамі. Першапачатковы інтэр'ер зменены.

Флігелі аднапавярховыя, прамавугольныя ў плане, з атынкаванымі сценамі.

| 412Г000012 | Будынак былога манежа | 1780-я гады, 1859 год, 1940 год, 1975 год | вул. Дзяржынскага, 1/1 (вул. Багуслаўскага) | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Трохпавярховы будынак з высокім руставаным цокалем, накрыты вальмавым дахам, мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Сцены атынкаваныя, завершаны карнізам з сухарыкамі. Галоўны фасад вырашаны асіметрычна. Дэкарыраваны трохвугольным франтонам, лапаткамі, прамымі і трохвугольнымі надаконнымі сандрыкамі, цягай. Вокны высокія. На ўзроўні трэцяга паверха дэкаратыўныя люкарны. Над уваходам у левым крыле размешчаны вялікі балкон на чатырох калонах. Правая частка будынка – кубічны аб'ём сцэнічнай каробкі. Глядзельная зала на ўзроўні першага і другога паверхаў асвятляецца з аднаго боку натуральным святлом. На балкон вядуць дзве лесвіцы: бакавая з партэра і запасная з фае.

| 412Г000013 | Былы склад на Гарадніцы (лямус) | другая палова XVIII стагоддзя | вул. Дзяржынскага, 1а | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|





Дом будаваўся ў часы развіцця мануфактурнай вытворчасці А. Тызенгаўза як склад. У пачатку XX ст. выкарыстоўваўся як начлежка, пасля 1939 г. – жылы дом.

Мураваны двухпавярховы з мансардай будынак, прамавугольны ў плане, з нерэгулярнай сістэмай унутранай планіроўкі. Накрыты высокім вальмавым дахам. Усходні фасад сіметрычны, з невялікім рызалітам у цэнтры. Вокны другога паверха малыя квадратныя і значна заглыбленыя ў тоўшчу сцяны. Вокны першага паверха нізкія прамавугольныя. Перакрыцці, унутраныя перагародкі і лесвіца з высокімі прыступкамі – драўляныя.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000652 | Будынак | 1904 год | вул. Дзяржынскага, 1 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 413Г000653 | Комплекс піваварнага завода | XVIII стагоддзе, 1877 год | вул. Заводская, 2 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 412Г000014 | Забудова вул. Замкавай, у тым ліку комплекс былога палаца XVIII стагоддзя (Храптовіча, Тызенгаўза, Мучынскага, Ляхніцкага), былы флігель каралеўскіх стайняў і пажарная каланча | XVIII стагоддзе, першая чвэрць – другая палова XIX стагоддзя, 1793 і 1902 гады | вул. Замкавая, 3, 5, 7, 9, 11, 12, 12а, 13, 14, 15, 16, 17, 19 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Замкавая – адна з найбольш старажытных вуліц Гродна, якая пачала забудоўвацца яшчэ ў часы вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Вітаўта і злучала замак з плошчай Рынку.

Дом № 3. Будынак двухпавярховы з сутарэннямі, накрыты чатырохсхільным дахам. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам, чляняцца раскрапаванымі лапаткамі, на першым паверсе апрацаваны рустам. Прамавугольныя аконныя праёмы на другім паверсе ў ліштвах, аздоблены сандрыкамі.

Дом № 5. Будынак трохпавярховы, П-падобны ў плане, накрыты чатырохсхільным дахам. Цэнтральная частка фасада вылучана вялікім трохвугольным франтонам і аркай праезда. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам, на першым паверсе дэкарыраваны рустам. Прамавугольныя аконныя праёмы ў ліштвах.

Дом № 7. Аднапавярховы будынак з сутарэннямі, накрыты чатырохсхільным дахам. Сцены атынкаваныя, завершаны карнізам, чляняцца пілястрамі.

Дом № 9. Існаваўшы на ўчастку драўляны дом згарэў у пажары 1885 г. У 1912 г. быў пабудаваны новы мураваны трохпавярховы дом і двухпавярховы флігель. Дом быў элітны з вялікімі кватэрамі, з ваннамі і клазетамі. На першым паверсе існавала крама. Каля ўваходу ў краму быў праезд у двор. Два першыя паверхі былі неатынкаваныя, трэці – атынкаваны, вокны мелі дэкаратыўныя ліштвы. Фасад упрыгожвалі тры балконы з чыгуннымі ажурнымі агароджамі, гарызантальныя паяскі, падвойныя пілястры.

Дом № 11. Трохпавярховы будынак далучаны да дома № 9, складае з ім адзіны фронт забудовы. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі без ліштваў.

Дом № 12. Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана фігурным атыкам. Плоскасць галоўнага фасада дэкарыравана руставанымі лапаткамі, карнізам з сухарыкамі, аконнымі ліштвамі з замковым каменем.

Дом № 12а. Уяўляе частку дваровага корпуса будынка № 12. Будынак двухпавярховы, сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам. Уваходная частка вылучана фігурным атыкам. Накрыты аднасхільным дахам.



Дом № 13. Трохпавярховы асіметрычны ў плане, П-падобны будынак з высокім цокалем, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Развіты ў глыбіню двара. Плоскасць галоўнага фасада члянёна пілястрамі, канеліраванымі на другім і трэцім паверхах і руставанымі на першым. Пілястры завершаны іанічнымі капітэлямі. Фасад увянчаны магутным карнізам, дэкарыраваным арнаментам і дэнтыкуламі. У левым крыле скразны праход, закрыты варотамі, у правым – уваход у будынак, размешчаны сіметрычна праходу. Цэнтр вылучаны балконам з узорыстай агароджай. Планіроўка калідорная. Сувязь паміж паверхамі ажыццяўляецца з дапамогай двухмаршавых лесвіц. Інтэр'еры простыя, без дэкаратыўнай аздобы.



Дом № 14. Будынак трохпавярховы, мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У цэнтральнай частцы галоўнага фасада – невялікі рызаліт, завершаны трохвугольным шчытом з люкарнай. Сцены фасада на першым і трэцім паверхах прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, на другім – паўцыркульнымі.

Дом № 15. У выніку пазнейшых перабудоў будынак з'яўляецца чатырохпавярховым з сутарэннямі. Сцены атынкаваныя. Дэкор страчаны.

Дом № 16. Двухпавярховы асіметрычны ў плане, замкнёны па перыметры, развіты ў глыбіню двара. Ва ўнутраны двор вядзе праезная арка, над цэнтральнай часткай якой ляпная гірлянда са стужкамі. Першы паверх будынка падзелены на сем частак з самастойнымі ўваходамі са двара. У цэнтры галоўнага паўночна-заходняга фасада размешчаны несапраўдны порцік дарычнага ордэра, увянчаны трохвугольным франтонам. Фрыз упрыгожаны геральдыкай. Абапал порціка невялікія балконы з чыгуннымі агароджамі. Аконныя праёмы прамавугольныя ў ліштвах. Перакрыцці драўляныя. Унутраная планіроўка зменена ў 1970-я гг.



Дом № 17. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак, накрыты чатырохсхільным дахам. Сцены галоўнага і тарцовага фасадаў падзелены карнізнымі пояскамі. Аконныя праёмы прамавугольныя, з простымі ліштвамі. На другім паверсе – невялікія балконы з ажурнымі агароджамі.

Дом № 19. Будынак трохпавярховы з сутарэннямі, накрыты вальмавым нізкім дахам. Сцены атынкаваныя, вырашаны плоскасна. Цэнтральная частка акцэнтавана трохвугольным франтонам. Захаваўся балкон з літай агароджай.

Пажарная каланча. Вышынны будынак з жоўтай цэглы. Дэкор прадстаўлены карнізамі, нішамі, кованай агароджай аглядальнай пляцоўкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000015 | Ансамбль Новага замка:<br>палац з двума флігелямі<br>брама і агароджа<br>гаспадарчая пабудова | 1734–1751 гады,<br>1789 год | вул. Замкавая, 20 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Адзін з буйнейшых помнікаў палацава-сядзібнай архітэктуры сярэдзіны XVIII ст. Размешчаны ў цэнтры Гродна, на правым беразе Нёмана. Пабудаваны як рэзідэнцыя караля і месца правядзення соймаў. Будаўніцтва пачалося ў 1737 г. па праекце дрэздэнскага архітэктара Матэвуша Даніэля Пёпельмана. Закончана будаўніцтва ў 1751 г. Іаганам Фрэдэрыкам Кнобелем. Узводзілі палац мясцовыя муляры. Пазней у рэканструкцыях палаца прымалі ўдзел І.Х. Яўх, Рыбенька, А. Рашкевіч. У 1780-я гг. рэканструкцыю праводзіў Дж. Сака. Разбураны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941–1944 гг., адбудаваны ў 1952 г. па праекце архітэктара У. Вараксіна.

Будаўнічае вырашэнне палацавага ансамбля было звязана з прынцыпамі палацава-замкавага феадальнага будаўніцтва тагачаснай эпохі. У структуры гарадской забудовы палац займаў адасобленае становішча. Аднак выключна ўдалы рэльеф мясцовасці надаў яму значэнне адной з апорных кампазіцыйных кропак сілуэтнай лініі правабярэжнай часткі горада. Умовы берагавога рэльефу вызначылі кампактнасць палацавага

ансамбля, згрупаванага на невялікім плато. У ансамбль уключаны і службовыя мураваныя пабудовы, якія ствараюць за левым крылом палаца гаспадарчае карэ. Палацавы ансамбль быў створаны паводле барочнай планіровачнай схемы, з самастойнымі службовым і парадным дварамі.

Буйнамаштабны двухпавярховы аб'ём палаца мае П-падобную ў плане кампазіцыю. Тыповы для палацавых ансамбляў сярэдзіны XVII ст. парадны двор стваралі бакавыя флігелі і ажурная агароджа з цэнтральнай брамай. Да цэнтральнага корпуса прымыкала палацавая капліца, вылучаная ў самастойны аб'ём. Да нашага часу капліца не захавалася. Палац меў мансардавы дах з фігурнымі слыхавымі вокнамі. Цёмна-карычневая чарапіца ў спалучэнні з зялёнай афарбоўкай будынка стварала маляўнічую, каларытную кампазіцыю. Рытм праёмаў фасада ўскладняўся міжпаверхавым пасам квадратных філёнгаў. Павышаная пластыка і дэкаратыўная насычанасць характэрныя толькі для цэнтральнага і бакавых уваходаў. Тут вылучаюцца раскрапоўка спаранымі пілястрамі, тонка прарысаваная арнаментальная ляпніна з гірляндамі, фамільнымі гербамі. Цэнтральны рызаліт галоўнага фасада раскрапаваны спаранымі пілястрамі з капітэлямі, што дэкарыраваны ляпнымі арнаментальнымі гірляндамі ў стылі ракако. Шырокае выкарыстанне асіметрыі, адсутнасць ордэрных элементаў характарызуюць будынак як цікавы помнік архітэктуры.

Для ўнутранай планіроўкі палаца характэрнае падоўжна-восевае пpасторавае вырашэнне цэнтральнай парадной групы памяшканняў, асноўныя з якіх паслядоўна размешчаны на падоўжнай восі плана: вялікі вестыбюль, зала і палацавая капліца. Такім чынам, ужо з вестыбюля раскрываецца планіровачны абрыс залы, а потым працяглая перспектыва капліцы. У бакі ад авальнай залы разыходзяцца анфілады іншых памяшканняў.

Планіроўка вылучаецца і першай у гісторыі архітэктуры Беларусі авальнай залай, якая з боку дваровага фасада выступае акруглым аб'ёмам – характэрнай формай архітэктуры ракако.

Стрымана-строгае вырашэнне экстэр'ера палаца супрацьпастаўлена пышнаму і насычанаму дэкаратыўнай аздобай інтэр'еру. Асабліва вылучаліся Сенатарская і Круглая залы, упрыгожаныя разьбою ў стылі ракако. У 80-я гады XVII ст. інтэр'еры былі распісаны дэкаратарам Манькоўскім. Акруглыя і зрэзаныя вуглы памяшканняў прыстасоўваліся пад каміны і дэкаратыўную скульптуру.



Прамавугольную ў плане капліцу аб'ядноўваў з палацам невялікі пераход. Да тарца капліцы прымыкала двух'ярусная вежа-званіца з гранёным шпілем. Выкарыстанне ў дэкоры капліцы дэкаратыўных ваз, ракавін, апор у форме пальмы, драпіроўкі, гратэскнага арнаменту, скульптурных кампазіцый таксама характэрна для архітэктуры ракако.

Да нашага часу добра захавалася толькі палацавая брама ў выглядзе праезду, фланкіраванага манументальнымі пілонамі са скульптурнымі групамі сфінксаў і амураў.

Па сваёй архітэктуры Новы замак з'яўляецца прататыпам цэлай тыпалагічнай групы палацаў і сядзіб у Беларусі 2-й паловы XVII ст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000016 | Брацкая магіла | 1944 год | парк культуры і адпачынку імя Ж.-Э. Жылібера | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000654 | Будынак банка | 1931 год | вул. Карбышава, 17 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 413Е000655 | Забудова вул. Кірава | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Кірава, 3, 4 (вул. Урыцкага, 25), 5, 6 (вул. Урыцкага, 28), 7, 9 (вул. Сацыялістычная, 29), 10 (вул. Гараднічанская, 14), 12, 12а, 12б, 13, 14, 16, 18, 18а, 22, 26, 31, 32, 33, 34, 35, 36, 37, 38, 39, 40, 42 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |

| 412Г000656 | Будынак былога пазямельнага банка (архітэктар Б.П. Астравумаў) | 1913 год | вул. Леніна, 9 | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|





Пабудаваны ў 1913 г. паводле праекта архітэктара Б.П. Астравумава. Г-падобны ў плане будынак займае вуглавое становішча, мае традыцыйную для стылю мадэрн ускладнёную і дынамічна развітую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Надае будынку незвычайны сілуэт высокі светла-чырвоны купал над галоўным уваходам, які нібы лунае над зелянінаю, у якой патанае навакольная невысокая забудова, і завяршае перспектыву сучасных вуліц Леніна і Карбышава.

Пры ўзвядзенні будынка выкарыстаны новыя на той час прагрэсіўныя будаўнічыя матэрыялы. Міжпаверхавыя перакрыцці, лесвічныя прыступкі і падаконныя пліты зроблены з жалезабетону. Сталярку рабілі з лепшых парод дубу.

Будынак двухпавярховы з сутарэннямі, складаны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральная вуглавая частка вырашана ў выглядзе рызаліта, завершанага высокім парапетам і высокім шатровым дахам. Фасады бакавых крылаў на першым паверсе прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з замковым каменем і падаконнымі філёнгамі, на другім паверсе – прамавугольныя аконныя праёмы ў фігурных ліштвах і аздоблены падаконнымі філёнгамі з ляпным дэкорам. Фасад па вул. Леніна акцэнтаваны ў цэнтры эркерам і бакавым рызалітам. На фасадзе па вул. Карбышава сіметрычна размешчаны два скругленыя эркеры з балконамі. Архітэктурныя дэталі вылучаны белым колерам на фоне вохрыстых сцен. Да тарцовых фасадаў прымыкаюць суседнія пазнейшыя будынкі.



Першапачатковая планіроўка калідорная, цяпер зменена. У цокалі размяшчаліся архіў, памяшканні санітарна-тэхнічнай службы, сховішча. На першым паверсе былі вестыбюль, службовыя пакоі, на другім – зала аперацыйная і пасяджэнняў, кватэры адміністратара банка, кур'ера і інш. Па-мастацку выкананы металічныя агароджы ўнутранай лесвіцы і балконаў, казырок над галоўным уваходам.

| 412Г000657 | Будынак былога даходнага дома | пачатак XX стагоддзя | вул. Леніна, 13 | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак трохпавярховы з сутарэннямі, трапецападобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад атынкаваны. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Цэнтральная частка вылучана несапраўдным рызалітам, завершаным фігурным франтонам. Тымпан франтона прарэзаны арачным аконным праёмам, над якім пазначана дата – 1900. Плоскасць рызаліта члянёна дзвюма парамі высокіх вузкіх аконных праёмаў лесвічнай клеткі. Вуглавыя часткі фасада акцэнтаваны трохграннымі эркерамі, завершаны фігурнымі атыкамі. З паўднёвага боку атык дэкарыраваны ляпнымі гірляндамі. Аконныя праёмы эркераў падкрэслены металічнымі агароджамі (для вазонаў з кветкамі). Тыльны і тарцовыя фасады не тынкаваныя, прарэзаны аконнымі праёмамі з клінчатымі перамычкамі. Захаваліся ўваходныя філянговыя напалову зашклёныя дзверы з металічнымі пераплётамі, металічная агароджа лесвічнай клеткі.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000658 | Былы дом урача Тальгейма | 1911 год | вул. Леніна, 22 | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |




Пабудаваны ў 1911 г. паводле індывідуальнага праекта на пляцы памерам 20х30 саж., які належаў урачу Міхалу Тальгейму. Будынак запраектаваны з улікам спецыфікі ўрачэбнай работы. На першым паверсе размяшчаліся прыёмны пакой, кабінет і нават дзве палаты стацыянара на чатыры ложкі кожная. На другім паверсе жыў сам гаспадар. У доме былі два адасобленыя ўваходы: адзін для наведвальнікаў у прыёмны пакой, другі ў жылую частку.

Двухпавярховы з падвалам Г-падобны ў плане будынак складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Фасады атынкаваны фактурнай тынкоўкай, цокаль абліцаваны каменнымі блокамі. Сярэдні аб'ём – вуглавы, вежападобны, накрыты высокім шатровым дахам. Плоскасць цэнтральнай грані акцэнтавана двухсхільным шчытом, дэкарыравана квадратнымі і прамавугольнымі нішамі, карнізным пояскам. Над цэнтральным аконным праёмам ёсць дата – 1911. Фасад па вул. Леніна вылучаны рызалітам з паўднёвага боку (каля вуглавой вежы), завершаным двухсхільным шчытом. Схілы шчыта аформлены руставаным карнізам. Фасадная плоскасць члянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі, у рызаліце і з паўночнага краю фасада двайнымі вузкімі вокнамі. Аконныя праёмы на другім паверсе падкрэслены плоскімі сандрыкамі. Фасад па вул. Карбышава вылучаны двума бакавымі рызалітамі, завершанымі таксама двухсхільнымі шчытамі. Фасадная сцяна прарэзана на першым паверсе двайнымі вузкімі аконнымі праёмамі, на другім – трайнымі вузкімі аконнымі праёмамі з плоскімі сандрыкамі-перамычкамі. Над дзвярным праёмам захавалася арыгінальная канструкцыя драўлянага брыля. Тарцовыя і дваровы фасады маюць падобнае вырашэнне: акцэнтаваны двухсхільнымі шчытамі, аконныя праёмы на другім паверсе дэкарыраваны сандрыкамі-перамычкамі, у рызалітах вокны патройныя, захаваўся балкон з металічнай агароджай.



Планіроўка зменена. Першапачаткова правае крыло, якое выходзіць на вул. Леніна, было адведзена для пацыентаў (палаты). У цокалі – кухня.

Захавалася дывановая падлога з паліхромнай кафлі ў вестыбюлі з боку вул. Карбышава.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000659 | Будынак былой тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага | 1867 год | вул. Маставая, 31 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 412Г000660 | Комплекс былога кляштара кармелітаў (два будынкі) | XVIII стагоддзе | вул. Маставая, 37 | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |




Кармеліты пасяліліся ў Гродне каля 1650 г. на беразе Нёмана. Фундатарамі кармеліцкага кляштара былі кашталян віленскі А. Катовіч разам з жонкай Барбарай. Як мяркуе гісторык архітэктуры А.Д. Квітніцкая, першапачаткова драўляны кляштар неаднаразова гарэў і аднаўляўся. На планах горада 1655 і 1706 гг. касцёл кармелітаў паказаны як драўляны. Будаўніцтва мураванага касцёла пачалося ў 1738 г. На думку доктара мастацтвазнаўства Т.В. Габрусь, аўтарам касцёла мог быць архітэктар І. Фантана III. Будынак трохпавярховы з цокальным паверхам, Г-падоб-





ны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Фасады атынкаваныя.

Галоўны фасад паўночнага аб'ёму дабудаваны і завершаны фігурным шчытом, які нагадвае абрыс фасада страчанага касцёла. Бакавыя і тыльны фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, афармленымі падаконнымі карнізнымі паяскамі, дэкаратыўнымі перамычкамі з замковым каменем. Першы паверх аддзелены цягай. Сцяна першага паверха апрацавана рустам.

Галоўны фасад жылога дома раскрапаваны вуглавымі і адной цэнтральнай лапаткамі, падзелены міжпаверхавымі цягамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі: на першым паверсе з прамымі сандрыкамі і замковым каменем, на другім і трэцім паверхах з дэкаратыўнымі перамычкамі з замковым каменем. Бакавы паўднёва-заходні фасад мае падобнае з галоўным фасадам архітэктурнае вырашэнне: крапаваны вуглавымі і цэнтральнай лапаткамі, па гарызанталі падзелены цягамі. Тыльны фасад прарэзаны аконнымі праёмамі, падкрэсленымі падаконнымі карнізамі і дэкарыраванымі перамычкамі з замковым каменем. Завершаны фасады карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Е000661 | Забудова вул. К. Маркса | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 5, 6 (вул. Гараднічанская, 42/1), 7, 8, 9, 9а, 10, 11, 12, 13, 14, 15 (вул. Сацыялістычная, 43, 43/1), 16, 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25 (вул. Маладзёжная, 1), 30, 32, 34, 34а, 36, 38а, 40, 42 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 412Г000017 | Ансамбль былога кляштара брыгітак:<br>касцёл<br>жылы корпус<br>лямус<br>агароджа з брамай | 1634–1642 гады | вул. К. Маркса, 27 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Ансамбль кляштара брыгітак сфарміраваны ў 1630–1650-я гг. на вул. Азёрнай (пазней вул. Скідзельская, Купецкая, Брыгіцкая), забудова якой на той час была драўлянай. Фундатарам брыгіцкага кляштара была Аляксандра Сабеская-Весялоўская. Яна падаравала ордэну некалькі зямельных участкаў у Гродне і фальваркі ў Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах. Першапачаткова ў 1636 г. быў узведзены драўляны касцёл і ў 1634 г. жылы дом для манашак, пазней пераабсталяваны ў гаспадарчы будынак – лямус.

У 1642–1651 гг. пабудаваны мураваны касцёл, жылы корпус, агароджа з брамамі і невялікімі шасціграннымі вежачкамі. Апроч невялікага ўнутранага дворыка, які ўтвараюць будынак касцёла з кляштарам, тут быў сад, агарод, двор з гаспадарчымі збудаваннямі і самастойным уездам, парадны двор перад храмам.




Касцёл алтарнай часткай арыентаваны на ўсход. Корпус жаночага кляштара прымыкае да яго з усходняга боку, утвараючы з поўдня замкнёны дворык-клуатр, па перыметры абведзены скразной крытай галерэяй. Акрамя жылых і адміністрацыйных памяшканняў кляштар уключаў у вуглавой частцы зальны аб'ём, на першым паверсе якога была трапезная, на другім – бібліятэка.

Касцёл Св. Брыгіты – помнік архітэктуры ранняга барока. Пабудаваны паводле ўзору рымскіх аднанефавых базілік. Галоўны фасад мае двухвежавую кампазіцыю, завершаны атыкам у выглядзе квадратнага шчыта з трохвугольным франтонам і дзвюма валютамі ўнізе. Асноўны аб'ём разам з паўкруглай апсідай накрыты агульным высокім чарапічным дахам. Фасады касцёла аформлены пілястрамі карынфскага ордэра, якія нясуць антаблемент. Фрыз антаблемента дэкарыраваны паліхромным раслінным арнаментам у спалучэнні з міфалагічнымі істотамі, выкананым у тэхніцы сграфіта. З высокім майстэрствам выканана дэкаратыўнае аздабленне партала ўвахода.

Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем, умацаваным падпружнымі аркамі і прарэзаным над вокнамі распалубкамі. Апсіда аддзелена ад залы бакавымі пілонамі і перакінутай паміж імі аркай. Над уваходам – узнятая на два гранёныя слупы і трайную аркаду шырокая галерэя хораў, злучаная з кансольным бакавым балконам з вітой лесвіцай. Архітэктурная пластыка інтэр'ера, як і фасада храма, заснавана на крапоўцы сцен пілястрамі карынфскага ордэра. Паводле звестак мастацтвазнаўцы А.К. Камянецкай, галоўны алтар быў прысвечаны Маці Божай, два бакавыя – Св. Брыгіце і Св. Ганне. Гісторык Я.Н. Мараш адзначаў, што ў 1646–1647 гг. у касцёле з'явіўся шэраг карцін і абразоў віленскага мастака І. Шрэтэра і Якава з Цікоціна, якія займалі бакавыя алтары. На балконе з арганам стаяла статуя Давіда, які грае на арфе, – твор скульптара Марціна Фрыцэ. У сярэдзіне 1970-х гг. у кляштарным склепе былі знойдзены тры партрэты заснавальнікаў кляштара – Кшыштафа Весялоўскага, яго жонкі Аляксандры і іх дачкі Грызельды, напісаныя ў XVII ст. Хто быў аўтарам партрэтаў – невядома. Партрэты былі адрэстаўрыраваны галоўным рэстаўратарам Рускага музея ў Пецярбургу А.В. Брындаравым.

Акрамя касцёла з кляштарам у ансамбль уваходзілі: свіран двухпавярховы, першы паверх цагляны, другі – драўляны, дахоўкай крыты; дом для садоўніка мураваны з лазняй і медаварняй (усе будынкі пад адным чарапічным дахам); свіран вялікі драўляны двухпавярховы, крыты гонтай; складзік драўляны, сад і агарод. Кляштарная агароджа была вышынёй да 5 м, у ёй меліся дзве брамы. Галоўная брама фланкіравана сіметрычнымі васьміграннымі вежамі, верхнія часткі якіх зменены ў выніку пазнейшых перабудоў. За асноўнай тэрыторыяй (дзе цяпер Дом сувязі) былі размешчаны астатнія гаспадарчыя будынкі: дом пекара з часанага дрэва, крыты дахоўкай; бровар з часанага дрэва, крыты дахоўкай; стайня і карэтная; свіран стары на мураваным падмурку; флігель драўляны, крыты гонтай, кузня старая з цэглы, крытая дахоўкай. Праз вуліцу непадалёк ад касцёла стаяла масіўная мураваная званіца (знесена ў 1957 г.)

У глыбіні кляштарнага двара да нашага часу захаваўся двухпавярховы будынак XVII ст. – лямус. На думку даследчыка В.І. Кудрашова, двухпавярховы лямус першапачаткова будаваўся як жылы дом для манашак. Паводле меркавання гісторыка архітэктуры У.А. Чантурыя, у якасці жылога выкарыстоўваўся толькі другі паверх, першы служыў для сховішча розных рэчаў. Пазней, калі быў пабудаваны мураваны кляштарны корпус, другі паверх лямуса заняла кляштарная абслуга. Лямус складзены з масіўнага бруса без адзінага металічнага мацавання. З боку галоўнага фасада на першым і другім паверхах арачныя адкрытыя галерэі. Высокі чатырохсхільны дах накрыты гонтай.

Найбольш значныя рамонтныя работы адбываліся ў 1750–1760 гг., вялікія страты кляштарнаму комплексу нанёс пажар 1855 г.

Кляштар Св. Брыгіты быў скасаваны ў 1842 г. У яго будынках пасялілі манашак з закрытых кляштараў бенедыкцінак у Нясвіжы, брыгітак у Луцку, дамініканак у Навагрудку. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў кляштары размяшчаліся медыцынскія ўстановы. У 1990 г. касцёл перададзены Рымска-каталіцкай царкве і ў 1992 г. асвячоны арцыбіскупам Т. Кандрусевічам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000018 | Ансамбль былога кляштара бернардзінцаў:<br>касцёл са званіцай<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера касцёла: галоўны алтар, восем алтароў, фрэскавыя кампазіцыі цэнтральнага нефа, арнаментальныя роспісы і лепка, барэльефныя кампазіцыі, хоры, рашотка і дзверы бабінца, дэкор Ларэтанскай капэлы, распісныя дзверы ў паўночным нефе<br>жылы корпус<br>агароджа | XVI–XVIII стагоддзі | вул. Парыжскай Камуны, 1 | 2 | 28.02.2002 № 71<br>28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578,<br>03.09.2008 № 1288 |



Драўляны кляштар заснаваны ў 1494 г. (1495 г.), мураваны пабудаваны ў 1595–1618 гг. Асобныя дабудовы зроблены ў XVIII ст. Уключаў касцёл, вежу-званіцу і жылы корпус. Быў абкружаны мураванай агароджай, за якой знаходзіўся сад і агарод, двор з гаспадарчымі пабудовамі. Захаваліся касцёл, жылы корпус, званіца, якія звязаны ў адзін комплекс і ўтвараюць унутраны дворык.

Касцёл – трохнефавая шасціслуповая базіліка з вялікай паўцыркульнай апсідай і дзвюма сакрысціямі. У аснову пабудовы храма пакладзена кампазіцыя рымскага езуіцкага касцёла Іль Джэзу. Цэнтральны неф накрыты двухсхільным, бакавыя – аднасхільнымі дахамі. У архітэктуры касцёла спалучаюцца стылявыя элементы готыкі, рэнесансу і барока. Галоўны фасад дэкарыраваны развітым антаблементам, пілястрамі карынфскага ордэра, арачнымі нішамі і завершаны трохвугольным франтонам. Сцены бакавых фасадаў члянёны пілястрамі і спаранымі арачнымі вокнамі. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых шасцю апорнымі слупамі. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У 1788 г. аздоба інтэр'ера дапоўнена жывапісам (мастакі А. Грушэцкі, Ф. Міхалкевіч), разьбой па дрэве, чыгунным і бронзавым ліццём, стукавым арнаментам, скульптурай. Скляпенні крыжовыя на падпружных арках, распісаных у тэхніцы грызайль. Плафон з фрэскавымі кампазіцыямі. У нішах аркатурнага пояса на паўднёвай сцяне цэнтральнага нефа выявы 12 апосталаў, на паўночнай – 12 дзеячаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Кампазіцыя «Ушэсце Хрыста» размешчана на тымпане арачнага перакрыцця цэнтральнага нефа. Каля паўночнага нефа амбон у стылі класіцызму, дэкарыраваны лісцем аканта і чатырма авальнымі медальёнамі з выявамі евангелістаў. Дзверы і сцены прытвора выкананы з ажурнага кованага металу. Над прытворам хоры з арганам, дэкарыраваным разьбой па дрэве. У кампазіцыі ўсіх 14 алтароў выкарыстаны элементы карынфскага ордэра, скульптура, алтарныя карціны. Асаблівую мастацкую каштоўнасць маюць скульптурныя і гарэльефныя стукавыя кампазіцыі Ларэтанскай капэлы, выкананыя ў стылі рэнесансу. Трох'ярусны галоўны алтар драўляны, аздоблены стукавай скульптурай і арнаментам.

Жылы корпус далучаны да паўднёвай сцяны касцёла. Двухпавярховы аб'ём у плане складанай канфігурацыі. Сцены чляняны прамавугольнымі вокнамі, пілястрамі, контрфорсамі. Усходняе і паўднёвае крылы вылучаны буйнымі рызалітамі з трохвугольнымі шчытамі. Завершаны двухсхільным чарапічным дахам. Планіроўка галерэйная.

Вежа-званіца прымыкае да галоўнага фасада касцёла з паўднёвага боку. Мае самастойны ўваход і звязана з касцёлам і жылым корпусам. Два верхнія ярусы званіцы перабудаваны ў 1788 г. у стылі позняга барока. Маюць складаную фігурную пабудову і маляўнічы сілуэт. У іх пластычным афармленні выкарыстаны выгнутыя паверхні сцен, рэльефныя чляненні, вуглавыя калонкі і валюты. Вежа завершана фігурнай галоўкай са шпілем.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000019 | Свята-Уладзімірская царква | канец XIX стагоддзя | вул. Перамогі, 5 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка складаецца з чатырох частак: двух'яруснай (васьмярык на чацверыку) званіцы, прамавугольных у плане бабінца і асноўнага аб'ёму з пяціграннай апсідай. Асноўны аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам, званіца завершана шатром з макаўкай. Сцены будынка прарэзаны арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі, завершаны па перыметры зубчастым поясам, філянговым фрызам і прафіляваным карнізам. На бакавых фасадах кілепадобныя франтончыкі. Цокаль вылучаны філянговай крапоўкай і прафіляванай цягай. Архітэктура царквы насычана стылізаванымі элементамі дэкору старажытнарускага дойлідства (закамары, кілепадобныя аркі, крыжовыя і арачныя нішы, вуглавыя калонкі, ліштвы акон).

Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю. Іканастас драўляны.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000020 | Вайсковыя могілкі | 1939–1945 гады | вул. Перамогі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000662 | Будынак былога рэальнага вучылішча | 1907 год | вул. 1 Мая, 3 (вул. Акадэмічная, 10) | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |





Пабудаваны ў 1910–1913 гг. з цэглы па праекце 1903 г. для рэальнага вучылішча, заснаванага ў 1907 г.

Двухпавярховы будынак у стылі неакласіцызму, адпавядаў найноўшым патрабаванням сярэдняй навучальнай установы. У вучылішчы былі абсталяваны фізічны, хімічны, гістарычны кабінеты, бібліятэка, рысавальная, гімнастычная, актавая залы, сталовая. На вежы быў зроблены купал, які вярцеўся, на ім усталявана астранамічная труба. Пасля вайны ў 1946–1949 гг. замест купала зроблена плоскае пакрыццё вежы з балконам.

З пачаткам Першай сусветнай вайны вучылішча было эвакуіравана ў Калугу, будынак заняты пад ваенны лазарэт. Пасля 1917 г. рэальнае вучылішча скасавана ў сувязі з рэформай народнай адукацыі. У 1920-я гг. у будынку размясцілася гімназія імя А. Міцкевіча.



Двух- і трохпавярховы з паўпадвалам атынкаваны будынак, у плане мае складаную блізкую да Г-падобнай форму. Выразная пластыка фасадаў дасягаецца спалучэннем розных па канфігурацыі аб'ёмаў, выкарыстаннем розных па прапорцыі і маштабу арачных і прамавугольных акон, буйнымі крапоўкамі, гладкай паверхняй сцен. Вуглавая частка акцэнтавана чатырохграннай трох'яруснай вежай. Да вежы прымыкае крыло, арыентаванае на вул. Акадэмічную. Фасад крыла па вул. 1 Мая ўяўляе сабой амаль глухую сцяну, за выключэннем аднаго арачнага праёма на першым паверсе. Галоўны фасад крыла па вул. Акадэмічнай вылучаны бакавымі магутнымі рызалітамі. Дваровыя фасады чляняцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершаны карнізам, дэкор адсутнічае. Крыло па вул. 1 Мая з боку дваровага фасада мае невялікія рызаліты.

| 412Г000663 | Дом-музей М.Багдановіча | канец XX стагоддзя | вул. 1 Мая, 10 (вул. Багдановіча, 1) | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|





Дом, дзе ў 1892–1896 гг. жыў з бацькамі Максім Адамавіч Багдановіч – выдатны беларускі паэт, празаік, перакладчык і літаратуразнавец.

Драўляны дом прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральны ўваход вырашаны верандай, плоскае пакрыццё якой з'яўляецца тэрасай перад мезанінам, накрытым самастойным двухсхільным дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з франтонамі.

| 412Г000664 | Фрагменты былой сядзібы ў прадмесці Аўгустава:<br>капліца<br>былая карчма Гродзенскай эканоміі (архітэктар Дж.Сака) | <br><br>1817 год<br>1782 год | <br><br>вул. Рэпіна, 2<br>вул. Рэпіна, 5а | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|





Сядзіба ў Аўгуставе была заснавана як рэзідэнцыя караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага па рашэнню Антонія Тызенгаўза. Пабудавана на зямлі Гродзенскай эканоміі па праекце архітэктара Дж. Сака да 1782 г. У першапачатковым выглядзе рэзідэнцыя складалася з сядзібнага дома, двух флігеляў, трох гаспадарчых будынкаў. Усе пабудовы былі мураваныя. Планіровачнае вырашэнне сядзібы ў Аўгуставе было падобнае да другой рэзідэнцыі караля ў Станіславове. Палац быў невялікі, цэнтральны аб'ём двухпавярховы, бакавыя – аднапавярховыя, накрыты высокім чарапічным дахам. Флігелі былі аднапавярховыя невялікіх аб'ёмаў. Паводле гісторыка Р. Афтаназы, у 1794 г. у комплексе сядзібы была пабудавана мураваная карчма. Не выключана, што карчма пры дарозе існавала і раней, у канцы XVIII ст. была перабудавана. Пасля 1795 г. імператрыца Кацярына II падаравала палац у Аўгуставе прадстаўніку вядомага ірландска-французскага роду Маўрыцыю О'Браен-дэ Ласі за заслугі ў руска-турэцкай вайне.

Архітэктурная і гістарычная каштоўнасць сядзібы была адзначана яшчэ ў пачатку XX ст. У 1912–1914 гг. архітэктар М. Баэр распрацаваў праект рэстаўрацыі жылых сядзібных пабудоў. Аднак рэалізаваць праект перашкодзіла Першая сусветная вайна. У час ваенных дзеянняў у 1920 г. будынкі сядзібы былі пашкоджаны. Па ініцыятыве Ю. Ядкоўскага ў 1927 г. сядзіба ў Аўгуставе была аб'яўлена помнікам гісторыі і прыняты меры для яе рэстаўрацыі. І на гэты раз аднаўленню сядзібы перашкодзіла Другая сусветная вайна. У пасляваенны час сядзібны комплекс канчаткова прыйшоў у заняпад. Да сённяшняга дня захаваўся фрагментарна: карчма, капліца, сляды парку.

Капліца была пабудавана ў пачатку 1818 г. уладальнікамі О'Браен-дэ Ласі. Асвячона 29 жніўня 1818 г. у імя Св. Пятра і Паўла. Пасля смерці генерал Маўрыцый О'Браен-дэ Ласі быў тут пахаваны. Размешчана капліца справа ад уязной алеі. Тэрыторыя ва-





кол яе была абнесена мураванай сцяной, накрытай дахоўкай. Да тэрыторыі капліцы прымыкалі могілкі.

По знешняму абрысу капліца прамавугольная ў плане, унутры – ратондападобная. Завяршалася купалам з барабанам і сігнатуркай. Уваход афармлены двухкалонным порцікам, заглыбленым у нішу. Над дзвярамі пад карнізам, а над вокнамі над карнізамі былі размешчаны прадаўгаватыя прамавугольныя таблічкі цёмнага колеру, на якіх пазалочанымі літарамі былі зроблены, хутчэй за ўсё, фундацыйныя надпісы. Падлога ў капліцы была часткова цагляная і часткова мармуровая. Пад падлогай знаходзілася крыпта. У алтары цэнтральнае месца займаў абраз Маці Божай, абапал стаялі ў натуральную велічыню дзве скульптуры апосталаў Пятра і Паўла.

Перад капліцай стаяла брама-званіца, уключаная ў агароджу. На другім ярусе званіцы размяшчаліся тры невялікія званы.

Капліца ў сядзібе Аўгустава з'яўляецца унікальным помнікам архітэктуры эпохі класіцызму, аналагаў якому на Гродзеншчыне не выяўлена.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000021 | Стаянка перыяду каменнага веку | 10–2-е тысячагоддзі да н.э. | на месцы былой в. Пышкі, на паўднёва-ўсходняй ускраіне лесапарку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000022 | Стаянкі перыяду канца бронзавага веку – пачатку жалезнага веку | 11–9-е тысячагоддзі да н.э. | Румлёва (лесапарк) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Е000665 | Забудова вул. Савецкай | XVI–XX стагоддзі | вул. Савецкая, 1, 3, 5, 7, 10, 12, 13, 14, 15, 15а (вул. Калючынская, 11), 17, 17а (вул. Калючынская, 9), 17б, 19, 21, 23, 25, 28 (вул. Віленская, 2), 31 | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |









Адна з цэнтральных вуліц горада (былая Дамініканская), паміж пл. Савецкай і вул. Ажэшкі. Паводле праекта рэканструкцыі Гродна 1874 г. забудоўвалася пераважна купцамі і прадпрымальнікамі. Многія будынкі неаднаразова рамантаваліся і перабудоўваліся.

| 412Г000666 | Былы дом купца Мураўёва | XIX стагоддзе | пл. Савецкая, 2 | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф. Карскага (былы дом купца Мураўёва) размешчаны ў гістарычным цэнтры Гродна на былой Рыначнай плошчы, якая сфарміравалася ў XIV–XV стст. Думка, што будаўніцтва на гэтым участку завяршылася да 1888 г., падмацоўваецца звесткамі з журнала па аплаце квартальнага падатку за 1886 г.

Будынак трохпавярховы, Г-падобны ў плане. Галоўны фасад неатынкаваны. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Цэнтральную яго частку на другім паверсе займае вялікі на тры праёмы балкон з літай фігурнай агароджай. На трэцім паверсе крайнія арачныя праёмы з невялікімі балконамі. Плоскасць фасада крапавана пілястрамі з чыгуннымі вензелямі ў завяршэнні, да ўзроўню другога паверха руставаная. Бакавыя рызаліты завершаны цыркульнымі франтонамі. Дэкор будынка насычаны, выкананы цаглянай кладкай. У абрысах акон, франтонаў, афармленні бакавых частак галоўнага фасада прасочваюцца рысы стылю мадэрн. Паўкалонкі ў нішах, ліштвы аконных праёмаў, арнамент карнізаў вырашаны ў псеўдарускім стылі.

У двары з паўночнага боку да бакавога крыла будынка прымыкае двухпавярховы Г-падобны ў плане флігель. Галоўны (дваровы) фасад флігеля атынкаваны, падзелены міжпаверхавымі цягамі. На першым паверсе прамавугольныя аконныя і дзвярныя праёмы. На другім – лучковыя вокны ў прафіляваных ліштвах падкрэслены падаконнай цягай і нішамі. Цэнтральная частка паўднёва-заходняга фасада флігеля вылучана мезанінам, завершаным двухсхільным шчытом з круглай люкарнай у абрамленні.

| 413Ж000023 | Бюст В.Д. Сакалоўскага | 1973 год | вул. Савецкая | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 411Г000024 | Вежавы гадзіннік фарнага касцёла | XVI стагоддзе | пл. Савецкая, 4 | 1 | 27. 12. 1995 № 17 | 14.05.2007 № 578 |



Вежавы гадзіннік фарнага касцёла ў Гродне – найбольш старажытны з тых, што захаваліся і функцыянуюць не толькі ў Беларусі, але і на ўсёй тэрыторыі былога СССР.

Дакладных звестак аб часе стварэння і майстры гадзінніка ў пісьмовых крыніцах не захавалася. Мяркуючы па характэрных дэталях механізма (падвойнае клінавае мацаванне, шышакі рамы, лічыльнае кола бою і інш.), іканаграфічных і архіўных матэрыялах, гадзіннік быў створаны ў XVI ст. Праўдападобна, што першапачаткова гадзіннік знаходзіўся на вежы гарадской ратушы на Рыначнай плошчы (Савецкая плошча). Пасля зруйнавання ратушы ў час акупацыі Гродна войскамі цара Аляксея Міхайлавіча ў сярэдзіне XVI ст. быў адноўлены на сабраныя гараджанамі грошы і ўстаноўлены на вежы езуіцкага драўлянага калегіума. Пасля ўзвядзення мураваных касцёла Св. Францішка Ксаверыя (цяперашні фарны) і калегіума быў перанесены на вежу касцёла. У архіўным дакуменце, датаваным 1725 г., паведамляецца: «Расстроенные и пришедшие в негодность из-за древности своей часы в этом году трехмесячным трудом воссозданы и помещены в башне храма». Дакумент 1743 г. таксама згадвае аб рамонце гадзінніка, да таго ж сведчыць, што знаходзіцца ён на вежы храма. Каштоўную інфармацыю і апісанне гадзінніка ўтрымлівае інвентарны вопіс касцёла ад 24 студзеня 1798 г. : «В левой башне имеется лестница на хоры и к часам, те часы – железные большие, часы и четверти бьющие, с гирями каменными на толстых веревках, с четырьмя циферблатами на четырех сторонах башни размещенными, со стрелками к ним, и машиной для завода этих часов». Архіўныя дакументы сведчаць, што гадзіннік спраўна функцыянаваў на працягу XIX ст.

У час Першай сусветнай вайны быў вывезены ў Германію гадзіннікавы звон, а ў 1920-я гг. былі дэманціраваны цыферблаты.

Гадзіннік аднаўляўся ў 1940-я гг., 1980 і 1987–1988, 1993–1994 гг.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000025 | Былы кляштар дамініканцаў:<br>былая мужчынская гімназія<br>былы кляштарны корпус | 1735 год | вул. Савецкая, 6,<br>вул. Савецкая, 8 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |




Дамініканскі кляштар (вул. Савецкая, 6, 8) заснаваны ў 1633 г. Першапачаткова кляштар быў драўляны. Мураваны кляштар узводзіўся ў 1708–1737 гг. Двухвежавы касцёл знаходзіўся на месцы сучаснага сквера. Першапачаткова быў накрыты дахоўкай, у канцы XVIII ст. – жалезам. Побач з уязной брамай знаходзіліся пральня, бровар, калодзеж. У двары таксама размяшчаліся стайня з карэтнай, лядоўня, драўляны двухпавярховы свіран. Тэрыторыя кляштара была абнесена мураванай сцяной. Касцёл разабраны ў 1873 г., а ў 1874 г. на яго месцы разбіты сквер. Пры кляштары існавала гімназія, скасаваная разам з кляштарам у 1833 г. У 1833–1836 гг. кляштарны корпус перабудаваны пад свецкую гімназію.

Былая мужчынская гімназія – двухпавярховы накрыты двухсхільным дахам будынак. Сцены атынкаваныя. Галоўны фасад вылучаны рустоўкай цэнтральнай часткі першага паверха і ўвянчаны трохвугольным франтонам. Бакавыя крылы апрацаваны пілястрамі і завершаны ступеньчатым атыкам. Сістэма планіроўкі калідорная. Захаваліся скляпеністыя перакрыцці.

Былы кляштарны корпус – двухпавярховы, накрыты двухсхільным дахам будынак. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам. Галоўны фасад вырашаны ў стылі барока. Чляніцца лапаткамі, завершаны барочным франтонам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000667 | Будынак кінатэатра | 1890 год | вул. Сацыялістычная, 4 | 3 | 19.04.2007<br>№ 130 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 413Г000668 | Будынак | 1910 год | вул. Сацыялістычная, 22<br>(вул. Карбышава, 3) | 3 | 19.04.2007<br>№ 130 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 413Г000669 | Былая сінагога | 1912 год | вул. Сацыялістычная, 35 | 3 | 19.04.2007<br>№ 130 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 413Г000670 | Былы гарадскі асабняк | 1905 год | вул. Сацыялістычная, 37 | 3 | 19.04.2007<br>№ 130 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 413Г000671 | Былы жылы дом | 1880 год | вул. Сацыялістычная, 44 | 3 | 19.04.2007<br>№ 130 | 03.09.2008<br>№ 1288 |
| 412Г000026 | Дзве воданапорныя вежы | XIX–XX стагоддзі | вул. Свярдлова, 2 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Паўночная вежа – цэнтрычнае васьміграннае збудаванне, падзелена па вышыні на шэсць ярусаў. Фасады вежы багата дэкарыраваны: магутныя карнізы, пілястры, люкарны, спалучэнне чырвонай цэглы і белай тынкоўкі. Вокны другога яруса паўцыркульныя, высокія, размешчаны ў нішах. У цэнтры вежы ўзвышаецца каркас з трубамі для падачы вады ў рэзервуар, які знаходзіцца на самым верхнім ярусе. Перакрыцці драўляныя.

Паўднёвая вежа – васьміграннае двух'яруснае збудаванне, унутры па вышыні падзелена на чатыры ярусы. Грані раскрапаваны арачнымі і лучковымі вокнамі і нішамі, вуглы вылучаны лапаткамі. У завяршэнні і паміж ярусамі прафіляваныя карнізы з зубчастым пояскам.

Вышыня вежаў 22 м. Дахі васьмісхільныя.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000672 | Былы Дом урача | 1906 год | вул. Студэнцкая, 6 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 412Г000027 | Былы дом Стафана Баторыя | XVI стагоддзе | вул. К. Маркса, 1 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Вядома, што кароль Стафан Баторый выбраў Гродна месцам жыхарства. Пасяліўшыся тут, ён пачаў будаўніцтва гарадской рэзідэнцыі, што атрымала назву «Баторыеўка», якая выходзіла галоўным фасадам на Рыначную плошчу. Паводле літаратурных крыніц, у год смерці караля будынак не быў завершаны. На плане горада 1655 г. ён паказаны Г-падобным у плане, даволі вялікіх памераў. Дом паказаны на акварэлі Н. Орды. Будынак неаднаразова пераходзіў да розных уладальнікаў і перабудоўваўся. З канца XVIII ст. і да 30-х гг. XIX ст. належаў графу Бжастоўскаму. Паводле сведчання Э. Ажэшкі, з 1830-х гг. быў прададзены 11 уладальнікам. У другой палове XIX ст. пасля рамонту тут размясціліся гарадское праўленне, прыватнае жыллё, крама. У пачатку XX ст. тут знаходзілася гасцініца «Метраполь». Будынак моцна пашкоджаны пажарам 1885 г.

Будынак трохпавярховы з сутарэннямі, накрыты чатырохсхільным дахам. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам. Фасады чляняцца руставанымі лапаткамі. Паверхі падзелены цягай. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарываны ліштвамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000028 | Ансамбль былога кляштара езуітаў:<br>касцёл<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера касцёла: галоўны алтар, 12 алтароў, амбон, 16 фрэскавых кампазіцый, фрэскі на парусах, роспісы на падпружных арках, помнік на магіле А. Тызенгаўза, арган, лава ў прэсбітэрыі, распісаная на тэмы жыційных сюжэтаў, два таршэры ў прэсбітэрыі, дзве спавядальні<br>жылыя карпусы<br>аптэка<br>агароджа | XVI–XVIII стагоддзі, XVIII–XIX стагоддзі | пл. Савецкая, 4,<br>вул. К. Маркса, 4,<br>вул. Кірава, 1,<br>пл. Савецкая, 4 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |

Езуіцкі калегіум як архітэктурны комплекс пачаў фарміравацца з 1585 г. пры падтрымцы караля Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя. Для гэтай мэты ён падараваў езуітам маёнтак Кунджын і 10 тыс. злотых. Аднак езуіцкая місія ў Гродне была створана не адразу, а толькі ў 1622 г., у 1625 г. рэарганізавана ў рэзідэнцыю, а ў 1664 г. пераведзена ў ранг калегіума. У 1665 г. Станіславам Касадубскім пры калегіуме заснавана школа.

Комплекс калегіума займаў адзін з кварталаў каля Рыначнай плошчы. Будаўніцтва езуіцкай рэзідэнцыі пачалося пасля 1664 г. пры гродзенскім пробашчы Ф.Д. Ісакоўскім, мураванага касцёла – у 1678 г. (фундатары С. і К. Лозы). Асвячэнне касцёла ў імя Францішка Ксаверыя адбылося ў 1705 г. У 1725 г. на вежу-званіцу касцёла перанесены з вежы калегіума гадзіннік. У 1773 г. кляштар скасаваны, касцёл з 1788 г. стаў фарным (прыходскім).



Першапачатковы выгляд касцёла можна ўявіць паводле карціны, якая знаходзіцца ў касцёле. Касцёл арыентаваны алтаром на ўсход, галоўным фасадам павернуты да плошчы.

Касцёл – помнік архітэктуры і дэкаратыўна-манументальнага мастацтва барока і ракако. Трохнефавая купальная базіліка з трансептам, памерам у плане 30х60 м, вышынёй больш за 50 м. У сярэдзіне XVIII ст. былі перабудаваны вежы і ліхтар над цэнтральным купалам. Вежы набылі складаныя барочныя формы. Адначасова ў стылі барока была зменена архітэктура фасада ў цэлым – трох'ярусны двухвежавы фасад падзелены гарызантальнымі паясамі антаблементаў і карнізаў, а па вертыкалі двайнымі пілястрамі складанага профілю. Акрамя таго, яго аздаблялі прамавугольныя і арачныя нішы і праёмы са скульптурай. З боку паўкруглай у плане апсіды прыбудаваны дзве капліцы, завершаныя сферычнымі купаламі. Бакавыя фасады былі вырашаны ў строгіх формах ранняга барока: раскрапаваны двайнымі пілястрамі, тонкімі карнізнымі паясамі, прарэзаны вялікімі лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. У кантракце на перабудову адзначалася, што купалы касцёла і раней былі абшыты бляхай.



У інтэр'еры цэнтральны неф аддзелены ад бакавых нефаў дзвюма аркадамі на апорных слупах. Па перыметры цэнтральнага нефа над антаблементам зроблена галерэя з балюстрадай. Пры ўваходзе – хоры з арганам. Фрэскавы роспіс сярэдзіны XVIII ст. складаецца з 14 сюжэтных кампазіцый, размешчаных у арачных нішах. Цыкл роспісаў фрыза прысвечаны Францішку Ксаверыю; на скляпеннях фігуры чатырох евангелістаў. Як адзначаюць даследчыкі, асаблівасцю сістэмы роспісаў храма з'яўляецца асіметрычная кампазіцыя фрэсак, упісаных у прамавугольныя і выцягнутыя па гарызанталі рамы. Адзіны ансамбль мастацкага аздаблення інтэр'ера фарміруе галоўны, восем кулісных і тры бакавыя алтары, амбон. Галоўны алтар зроблены ў 1736 г. з таніраванага пад мармур дрэва ў стылі позняга барока, мае чатырох'ярусную кампазіцыю з мноствам карынфскага ордэра калон і пілястраў, раскрапаваны антаблементамі, упрыгожаны накладной разьбой, скульптурнымі выявамі апосталаў, евангелістаў. Авальнае акно над галоўным алтаром у прэсбітэрыі паўтарае афармленне светлавога праёма над алтаром сабора Св. Пятра ў Рыме. Аналагічна вырашаны кулісныя алтары. Адзін з алтароў паўднёвага нефа выкананы ў пачатку XIX ст. у тэхніцы стука ў стылі класіцызму. Амбон зроблены ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі ракако. Яго падтрымлівае кансоль у выглядзе ракавіны. Балдахін дэкарыраваны скульптурамі евангелістаў, анёлаў, амураў, пазалочанай разьбой. Рамонты касцёла (пакрыццё даху, пабелка) праводзіліся ў канцы XVIII, сярэдзіне і канцы XIX, пачатку XX ст. У час пажару 1885 г. касцёл амаль не пашкоджаны.




Да найбольш ранніх мураваных пабудоў комплексу належаць двухпавярховы будынак аптэкі і школа, якія выходзілі на вуліцу тарцовымі фасадамі. Галоўным фасадам аптэка выходзіць на Рыначную плошчу. На плане Гродна 1655 г. на месцы аптэкі ўжо паказаны будынак. Першапачаткова будынак быў аднапавярховы. Другі паверх надбудаваны, найбольш верагодна, у 1760-я гг., таму што ў архіўных дакументах 1772 г. сказана, што другі паверх узведзены нядаўна. Выгляд аптэкі пасля перабудовы паказаны на акварэлі Н. Орды (сярэдзіна XIX ст.). У выніку перабудоў 2-й паловы XIX ст. фасады і інтэр'еры значна зменены.

У дакументах 1770 г. упамінаецца «старая бурса» («дом з контрфорсамі»), якая знаходзілася «за сцяной калегіума, пры вуліцы Скідзельскай, двухпавярховая, крытая дахоўкай». У XIX – пачатку XX ст. будынак бурсы неаднаразова перабудоўваўся. У пачатку XX ст. перададзены праваслаўнаму духавенству.

Будынак калегіума размяшчаўся з паўднёва-ўсходняга боку ад касцёла. На думку А.Д. Квітніцкай, калегіум быў закладзены адначасова з касцёлам.

Канчаткова комплекс езуітаў сфарміраваўся ў XVIII ст., калі мураваныя будынкі калегіума з бібліятэкай склаліся ў складаную сістэму карпусоў, злучаных пераходам з касцёлам. Ламаная лінія карпусоў з паўночнага боку прымыкала да муараванай агароджы, утвараючы замкнёны двор складанай канфігурацыі ў плане. Для гаспадарчых пабудоў быў адведзены паўднёва-ўсходні вугал квартала. Гаспадарчыя будынкі ў асноўным былі мураваныя. На тэрыторыі кляштара існаваў сад і кветнік. Мураваная сцяна агароджы была ўпрыгожана вазачкамі і бюстамі святых.

Да нашых дзён зберагліся касцёл і будынак аптэкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000029 | Будынак былой сінагогі | другая палова XIX стагоддзя | вул. В. Траецкая, 59а | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У пачатку XX ст. узводзіцца мураваная сінагога ў Гродне (Галоўная сінагога). Як будынак яна ўключыла ў сябе рэшткі «бажніцы» пачатку XVII ст. Сінагога моцна пацярпела ад пажараў 1885 і 1900 гг.

Гродзенская сінагога ўяўляла сабой цэлы комплекс, які ўключаў і дапаможныя будынкі, і прылеглую тэрыторыю, абнесеную агароджай. Сінагога складалася з дзвюх аб'ёмных частак (карпусоў), размешчаных перпендыкулярна: рытуальнай (літургічнай) залы, якая месцілася па падоўжнай восі (у напрамку да ўваходу), і перпендыкулярнага ёй трохпавярховага корпуса, які ўключаў уваходны комплекс і шматлікія дапаможныя прыбудовы. Сцены на ўзроўні другога яруса ўпрыгожаны пілястрамі, плоскімі арачнымі нішамі з высокімі арачнымі вокнамі. Завяршаецца гэта частка сінагогі высокім чатырохсхільным дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000030 | Будынкі | 1765–1780 гады | пл. Тызенгаўза, 2, 5 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Дом віцэ-адміністратара ўваходзіў у ансамбль забудовы Гарадніцы. Пабудаваны ў другой палове XVIII ст. па ініцыятыве А. Тызенгаўза, з удзелам архітэктараў Дж. Сака і Ю. Мёзера. Мае рысы стыляў барока і класіцызму.

Дом двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з вуглавымі рызалітамі, накрыты двухсхільным дахам з вальмамі. Да заходняй тарцовай сцяны прыбудаваны аднапавярховы аб'ём. Фасады раскрапаваны шырокімі пілястрамі, нішамі і філёнгамі, карнізным поясам падзелены на два паверхі. Першапачатковая планіроўка і аздабленне інтэр'ераў не захаваліся.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000031 | Былы музычны флігель («Крывая афіцына») | 1760-я гады | пл. Тызенгаўза, 4 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Уваходзіў у ансамбль забудовы Гарадніцы. Мураваны, крывалінейны ў плане будынак (яго крывалінейнасць абумоўлена своеасаблівасцю архітэктурнага ансамбля плошчы, адсюль назва «Крывая афіцына») узведзены ў стылі позняга барока. Спачатку быў двухпавярховы з мансардай, меў калідорную планіроўку. Першы паверх меў з боку плошчы арачную галерэю з пандусамі. Сцены падзелены шырокімі лапаткамі, філёнгамі пад вокнамі і ўвянчаны карнізамі. Пры перабудове мансарды ў трэці паверх у пластычным афармленні выкарыстаны элементы першых двух паверхаў.

У будынку ў 1774–1880-я гг. знаходзілася музычна-тэатральная школа, створаная А. Тызенгаўзам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000032 | Былы дом лясной адміністрацыі | 1760–1780 гады | пл. Тызенгаўза, 4б | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Будынак двухпавярховы з мансардай, прамавугольны ў плане. Вальмавы дах з мансардамі на тарцовых фасадах з'яўляецца асноўным элементам кампазіцыі. Цэнтральныя часткі падоўжных фасадаў вылучаны неглыбокімі рызалітамі. Сцены атынкаваныя, завершаныя карнізам. Паверхі падзелены цягай. Вокны прамавугольныя. Унутраная планіроўка калідорная, пакоі размешчаны па перыметры будынка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000673 | Былы дом масонскай ложы (архітэктар Дж.Сака) | 1783–1785 гады | зав. Тэлеграфны, 15а | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |



Паводле звестак І. Трусава, пабудаваны ў 1783–1785 гг. як жылы дом. У 2-й палове XIX ст. быў надбудаваны другі паверх. Вядомы як дом гродзенскай масонскай ложы.

Двухпавярховы з цокальным паверхам прамавугольны ў плане будынак з высокім двухсхільным дахам. Фасады атынкаваныя. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам з высокім двухсхільным шчытом. У тымпане шчыта круглая люкарна ў абрамленні. Вуглы будынка і рызаліта акцэнтаваны лапаткамі, на другім паверсе дэкарыраванымі нішамі. У рызаліце на першым паверсе прамавугольныя аконныя і дзвярны праёмы ў ліштвах з чарганаваннем прамых і двухсхільных сандрыкаў. На другім паверсе прамавугольныя вокны ў ліштвах з падаконнымі філёнгамі. Супрацьлеглы ўсходні фасад мае падобнае вырашэнне. Паўночны фасад вылучаны рызалітам, завершаным двухсхільным шчытом. На першым паверсе на высокім цокалі ў цэнтры чатырохкалонны (калоны чатырохгранныя са зрэзанымі вугламі) порцік. Над ім на другім паверсе размешчана адкрытая тэраса з металічнай агароджай. Бакавы паўднёвы фасад фланкіраваны пілястрамі, на другім паверсе дэкарыраванымі нішамі. Планіроўка дома калідорная з цэнтральнай міжпаверхавай лесвіцай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000674 | Былы жылы дом | канец XIX стагоддзя | вул. Тэлеграфная, 8 | 3 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |
| 412Г000675 | Будынак | 1905 год | вул. Тэльмана, 9 (вул. Гараднічанская, 13) | 2 | 19.04.2007 № 130 | 03.09.2008 № 1288 |





Вырашаны вуглавым двухпавярховым, П-падобным у плане аб'ёмам. Вызначаецца мадэрнісцкай мастацка-стылявой трактоўкай.

У 1945 г. у Гродзенскім філіяле інстытута «Белдзяржпраект» быў распрацаваны тэхнічны праект прыстасавання яго пад адміністрацыйны будынак абласнога ўпраўлення НКУС. Праект змяшчае планы паверхаў, фрагмент дваровага фасада, чарцяжы з дэталямі ўнутранай перапланіроўкі. У асноўным прадугледжвалася перапланіроўка першага і другога паверхаў у калідорную сістэму. Існуючы паўпадвал меркавалася прыстасаваць пад склады, гараж і часткова жылыя кватэры. У тлумачальнай запісцы да праекта адзначалася, што цагляныя знадворныя і капітальныя ўнутраныя сцены, драўляныя перагародкі былі ў добрым стане. Міжпаверхавыя драўляныя перакрыцці таксама знаходзіліся ў добрым стане. У сувязі з перапланіроўкай разбіралася большая частка кафляных печак, некаторыя драўляныя і цагляныя перагародкі. На дваровым фасадзе перарабліваліся аконныя праёмы ў санвузлах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000033 | Комплекс будынкаў былой сядзібы «Станіславова»: | 1770 год | | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| | палац | | вул. Ціміразева, 3 | | | |
| | два флігелі | | вул. Ціміразева, 1, зав. Ціміразева, 1а | | | |
| | гаспадарчыя пабудовы | | зав. Ціміразева, 1 | | | |



Сфарміравана ў 1760–1770-я гг. паводле праекта італьянскага архітэктара Дж. Сака. Была загараднай рэзідэнцыяй караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Мураваны палац – прамавугольны двухпавярховы будынак (першапачаткова аднапавярховы), цэнтральная частка якога аб'ядноўвае парадную групу памяшканняў. Сярэдзіна галоўнага фасада вылучана рызалітам з філянговым фігурным атыкам і тэрасай. Цэнтр дваровага фасада – паўкруглым эркерам з манаграмай караля на атыку. Аконныя праёмы дэкарыраваны лучковымі і трохвугольнымі франтонамі, гірляндамі, плоскімі ліштвамі. У дэкоры шырока выкарыстаны раскрапаваныя карнізы, пілястры і паясы. Планіроўка будынка калідорнага тыпу значна зменена. У вестыбюлі захаваліся дзве печы, выкананыя ў стылі неаготыкі.

Флігелі – прамавугольныя ў плане аднапавярховыя будынкі пад высокімі чарапічнымі дахамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000034 | Ансамбль былога кляштара францысканцаў:<br><br>касцёл са званіцай<br><br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера: галоўны і бакавыя алтары, амбон<br><br>жылы корпус<br><br>агароджа з брамай | XVII–XVIII стагоддзі | вул. Агародная, 2 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Францысканскі кляштар у Гродне заснаваны ў 1635 г. па фундацыі Сузанны і Яўстафія Курчаў. У сярэдзіне XVIII ст. пасля пажару касцёл і кляштар адноўлены, касцёл асвячоны ў 1744 г. у імя Дзевы Марыі Анёльскай. У 1832 г. кляштар быў скасаваны.

Кляштарны комплекс уключае касцёл, кляштарны корпус, браму з агароджай. Складаны рэльеф вызначыў асіметрычную кампазіцыю.

Касцёл з кляштарам ствараюць замкнёны трапецападобны двор-клуатр. Згодна з традыцыяй, храм арыентаваны алтаром на ўсход. З паўднёвага боку ад кляштара знаходзіўся таксама замкнёны гаспадарчы двор. Увесь кляштарны пляц быў абнесены мураванай агароджай.

Касцёл – помнік архітэктуры барока. Размешчаны ўнутры ўчастка. Пабудаваны ў форме трохнефавай бяскупальнай базілікі з паўцыркульнай апсідай. Прэсбітэрый з'яўляецца працягам галоўнага нефа. Галоўны фасад падзелены на тры ярусы прафіляванымі карнізамі і завершаны двух'ярусным атыкам і трохвугольным франтонам, з характэрным для францысканцаў падкрэсленым вертыкалізмам цэнтральнага поля атыка. Падобнага малюнка атык выкарыстаны на галоўным фасадзе францысканскага касцёла ў Вільні.

Бакавыя фасады і апсіда прарэзаны лучковымі і прамавугольнымі вокнамі, раскрапаваны спаранымі лапаткамі і завершаны карнізнымі паясамі. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых нефаў шасцю слупамі, нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, апсіда – цыліндрычнымі. Нартэкс, відавочна, не быў вылучаны ў інтэр'еры, і толькі пазней, на ўзроўні першага пралёта, была дадаткова ўзведзена сцяна, якая аддзяліла частку храма ад прытвора. Інтэр'ер мае суцэльную дынамічную прасторавую кампазіцыю. Бакавыя нефы раскрываюцца ў цэнтральны невялікімі арачнымі праёмамі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Пры ўваходзе хоры.

У інтэр'еры сем алтароў (1-я палова XVIII – канец XIX ст.). У цэнтральны неф выходзіць разны драўляны амбон (1-я палова XVIII ст.). Галоўны драўляны алтар выкананы ў стылі позняга барока (роспіс пад мармур), узняты на высокі (2,3 м) пастамент-табернакль. Складаецца з двух ярусаў-порцікаў, сярод каланад якіх змешчаны скульптурныя выявы Святых Францішка і Антонія (унізе) і двух біскупаў (уверсе). Анёлы падтрымліваюць франтоны, упрыгожваюць іх тымпаны і прастору над імі. Фонавыя часткі алтара запоўнены накладной пазалочанай разьбой на тэму выгінаў акантавага лісця. Галоўная алтарная кампазіцыя «Ушанаванне Багародзіцы» (адзначана ў апісанні касцёла 1700 г. у «сярэбранай сукенцы аўгсбургскага выканання») займае трыумфальную арку чатырохкалоннага барочнага порціка; у цэнтры другога яруса карціна «Стыгматызацыя Св. Францішка», акаймаваная авальнай разной рамай-ронда. Абедзве выяўленчыя кампазіцыі выкананы ў мяшанай паліхромнай тэхніцы жывапісу і гіпсавага гарэльефа, што стварае эфект пераходу плоскаснага фонавага выяўлення ў аб'ёмнае вонкавае. Завяршае вышыннае алтарнае збудаванне змешчаная ў люнеце скляпення гарэльефная выява «Ухваленне Марыі», над якой лунае голуб – сімвал Святога Духа.

Кулісныя стукавыя алтары выкананы ў канцы XIX ст. у стылі неабарока, але ўпрыгожаны барочнай скульптурай і карцінамі ў сярэбраных абкладах XVIII ст. Барочную мастацкую трактоўку захаваў і амбон, кафедра-бутон якога традыцыйна ўпрыгожана



гарэльефнымі выявамі чатырох евангелістаў, акантавымі і валютнымі выгінамі. Балдахін амбона выкананы ў выглядзе царскай кароны са скульптурай архістратыга военачальніка Міхаіла, якую нясуць над кафедрай два анёлы.

Мастацкай процівагай галоўнаму алтару служыць магутны арган, высока ўзняты пад скляпенне галерэяй хораў. Яго пластычная архітэктоніка, сакавітая разьба і скульптурныя постаці музычных алегорый – усё аб'яднана ў дынамічную мастацкую кампазіцыю ў стылі ракако.

Шэдэўрам стылю з'яўляецца алтарная перагародка ў выглядзе трэльяжнай хваліста выгнутай сценкі, якая дэкарыравана бюстамі, вазамі, гірляндамі-косамі, фігурнымі панэлямі ў бела-бежава-залацістым каларыце. У касцёле падпісны абраз Іосіфа Міховіча за 1872 г. «Антоній з дзіцем», абразы XVII–XVIII стст. «Маці Божая Анёльская» ў сярэбранай шаце, XVIII–XIX стст. «Маці Божая з дзіцем». Абраз «Маці Божая Чанстахоўская» ў шаце 2-й паловы XVIII ст.

Да галоўнага фасада прыбудавана манументальная чацверыковая трох'ярусная вежа-званіца з асобным уваходам.

Жылы корпус прымыкае да паўднёвай бакавой сцяны касцёла. Двухпавярховы аб'ём няправільнай П-падобнай формы, разам з касцёлам утварае замкнёны дворык, у паўночна-заходнім вуглу якога быў праход (закладзены) да пляцоўкі перад галоўным фасадам касцёла. Пластыка фасадаў стрыманая. Сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, расчлянёны пілястрамі і завершаны карнізамі. Планіроўка галерэйная. Калідор праходзіць па ўсім перыметры будынка і аб'яднаны з паўночнай сакрысціяй касцёла. У паўднёва-заходнім вуглу корпуса знаходзіцца вялікі, у выглядзе рызаліта, аб'ём, дзе былі трапезная і бібліятэка. Першы паверх мае скляпеністыя перакрыцці, другі – плоскія.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000167 | Сядзібна-паркавы комплекс «Панямонь»:<br><br>палац<br><br>парк<br><br>гаспадарчыя пабудовы<br><br>капліца | 1771 год, сярэдзіна XIX стагоддзя | усходняя ўскраіна г. Гродна, правы бераг р. Нёман | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

На ўсходняй ускраіне Гродна, на высокім правым беразе Нёмана захаваліся рэшткі маляўнічай старажытнай сядзібы, якая з'яўлялася загараднай рэзідэнцыяй караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Тут, у любімым месцы загарадных прагулак караля, разам з Рапніным і Валконскім абмяркоўваўся лёс Рэчы Паспалітай. Потым сядзіба перайшла ва ўласнасць Страінскага, князёў Друцкіх-Любецкіх, затым належала гродзенскаму павятоваму маршалку Ляхніцкаму. Сядзібна-паркавы ансамбль, створаны ў 1771 г. паводле праекта архітэктара Ю. Аляхновіча, дабудоўваўся ў XIX ст.

Сядзібна-паркавы ансамбль «Панямонь» узведзены на высокім берагавым плато, абмежаваным з паўднёвага боку ракой, а з усходняга і паўночнага – глыбокім ярам. Сядзібны дом і раскрыты перад ім партэр размяшчаліся ў глыбіні пейзажнага парку, каля абрывістага берага, які ўмацоўвалі шэраг тэрас і падпорныя сценкі. Каля ўезду стаяла капліца ў рэтраспектыўна-гатычным стылі, пабудаваная ў сярэдзіне XIX ст. З заходняга боку панскага дома знаходзіліся ўсе гаспадарчыя і службовыя будынкі.



Сядзібны дом (значна разбураны і амаль поўнасцю перабудаваны) уяўляў сабой характэрны для апошняй стадыі архітэктуры барока мураваны аднапавярховы будынак з плаўнымі вуглавымі алькежамі. Сцены мелі дэкаратыўную апрацоўку: вытанчаная і складаная прафіліроўка карнізаў і абрамленняў, крапоўка падвойнымі пілястрамі з ажурнымі капітэлямі, гарызантальная рустоўка. Галоўны і двароавы фасады атрымалі ў XIX ст. асіметрычна пастаўленыя высокія чатырохкалонныя порцікі. Перапад рэльефу з тыльнага боку будынка забяспечыў адкрыццё цокальнага паверха. Яго скляпеністыя памяшканні прызначаліся на гаспадарчыя мэты і непасрэдна звязваліся з памяшканнямі першага паверха. Планіроўка дома мела характэрную для барока анфіладу з выхадам у цэнтральную парадную залу. Будынак з'яўляўся помнікам архітэктуры позняга барока, а ў парку ўвасобіліся рысы пейзажнага стылю.

Ад сядзібы захавалася капліца. На галоўным фасадзе прамавугольнага ў плане збудавання ўзвышаецца шатровая васьмігранная званіца. Уваход вырашаны вялікім стральчатым парталам, бакавыя фасады чляняцца такой жа формы вокнамі.

## Астравецкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000035 | Стаянка перыяду мезаліту | 7–6-е тысячагоддзі да н.э. | хутар Акартэлі, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000036 | Касцёл Увазнясення Святога Крыжа | 1760 год | в. Быстрыца | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы на ўсходняй ускраіне вёскі, магчыма, паводле праекта віленскага архітэктара І.К. Глаўбіца на месцы драўлянага храма 1523 г. Помнік архітэктуры позняга барока і ракако.

Аднанефавы будынак з двухвежавым галоўным фасадам і пяціграннай апсідай. Неф і апсіда накрыты агульным дахам. З паўночнага боку да апсіды прылягае нізкая сакрысцея. Вежы трох'ярусныя (завяршэнні зроблены ў 1926 г. ). Ніжні ярус на галоўным фасадзе вылучаны вязкамі пілястраў, сярэдні і верхні скразныя, прарэзаны з чатырох бакоў паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, вуглы ярусаў скошаны і апрацаваны пілястрамі. Бакавыя плоскасці ніжняга яруса маюць нішы, якія паўтараюць абрысы паўцыркульных аконных праёмаў. Лучковы праём галоўнага ўвахода аздоблены трохвугольным франтонам. Сцены касцёла расчлянёны падвойнымі пілястрамі. Па перыметры будынка – шырокі ступеньчаты карніз.

У інтэр'еры зальная частка перакрыта цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем, апсіда – паўсферычным, сакрысцея – крыжовым. Хоры крывалінейныя ў плане, агароджа апрацавана фігурнымі філёнгамі. Фрэскавы роспіс ў выглядзе расліннага арнамента, падлога выкладзена керамічнай пліткай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000037 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | канец 1-га тысячагоддзя да н.э. | в. Будраны, 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000038 | Архітэктурны ансамбль цэнтра в. Варняны:<br>Свята-Георгіеўскі касцёл<br>будынкі былых плябаніі і дома аптэкара<br>жылыя дамы з фрагментамі агароджы<br>вежа<br>былы млын<br>парк<br>месца палаца<br>месца флігеляў | 1770 год, XVIII–XIX стагоддзі<br>1767–1769 гады<br>1880 год, 1909 год, 1770 год<br>канец XVIII стагоддзя<br>канец XIX стагоддзя | в. Варняны | 2 | 28.02.2002 № 71<br>28.02.2002 № 71<br>28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578<br>14.05.2007 № 578<br>14.05.2007 № 578 |



Да нашага часу ў Беларусі захаваліся цікавыя гісторыка-архітэктурныя ансамблі XVIII – сярэдзіны XIX ст. Адзін з іх – «узорны» комплекс у в. Варняны.

Узнікненне «ўзорнага» будаўніцтва было выклікана жаданнем аднавіць край пасля шэрагу спусташальных войнаў. «Узорныя» – а фактычна тыпавыя – паселішчы звычайна ствараліся намаганнямі асобных магнатаў і шляхты на аснове прыватных мануфактур. Падобныя прадпрыемствы павінны былі стымуляваць эканамічны ўздым, паляпшаць гандаль. Працавалі на іх прыгонныя сяляне і наёмныя рабочыя. Асабліва многа «ўзорных» паселішчаў было створана на тэрыторыі вялікай тады Гродзенскай эканоміі: Гарадніца ў Гродне, Ласосна, Паставы, Крынкі і інш. Прычым, эканамічнасці будаўніцтва надавалася вялікае значэнне.

У пісьме магната Эйсманта да старасты яго ў Краснаполлі чытаем: «...на абраным месцы, распланаваўшы вуліцы, пазначыўшы рынак, падзяліўшы ўчасткі... будаваць добрыя дамы ў вулічным парадку...»

У сярэдзіне і трэцяй чвэрці XVIII ст. панаваў архітэктурны стыль барока. У канцы стагоддзя пачынаюць умацоўвацца тэндэнцыі класіцызму. Абодва гэтыя стылі па-свойму скупа і стрымана выявіліся ў тагачаснай ансамблевай забудове.

Цэнтральная плошча распланавана ўздоўж восі, на адным канцы якой размяшчаліся касцёл з плябаніяй, на другім – панская сядзіба. Местачковая плошча з'яўляецца кампазіцыйным цэнтрам плана. Асноўнае будаўніцтва вялося ўздоўж магістралі Астравец – Вільня. Паабапал падоўжных бакоў плошчы было збудавана 16 тыпавых аднапавярховых дамоў, флангі гэтай лініі змацаваны двухпавярховымі зблакіраванымі будынкамі гасцініцы і карчмы. Кампазіцыйна такая забудова выглядала даволі прывабна: імклівую вертыкаль касцёла падтрымліваюць цагляныя будынкі пры ім, затым ідуць больш кампактныя двухпавярховыя дамы – карчма і гасцініца, далей – выцягнутая маса аднапавярховых жылых дамоў і, нарэшце, маёнтак з зялёным паркам над возерам.

Касцёл – двухвежавы, аднанефавы з трансептам, які надае плану форму крыжа. Архітэктурная пластыка і дэкор сканцэнтраваны на галоўным заходнім фасадзе.

З варнянскіх інвентароў вядома, што некалі мураваная агароджа вакол касцёла, брама і веснічкі былі аздоблены скульптурамі, а інтэр'еры касцёла ўпрыгожвалі рэдкія абразы, выкананыя Чаховічам і яго вучнямі. Будынкі плябаніі, павернутыя пад вуглом да цэнтральнай плошчы, аздоблены плоскімі лапаткамі, флангавымі пілястрамі і міжпаверхавымі гарызантальнымі паясамі.

Варнянскі комплекс – увасабленне барочнага стылю, але максімальна спрошчанага. Прамежкі паміж суседнімі будынкамі запоўнены агароджамі з аркамі-праездамі. Гэты кампазіцыйны прыём таксама спрыяў больш кампактнаму ўспрыманню забудовы. Вулічныя фасады дамоў строгія – гладкая сцяна з дзвярамі пасярэдзіне і чатырма вокнамі паабапал. Прычым, ні ганкаў, ні прыступак ля дзвярэй не было – таксама адметная асаблівасць «узорных» будынкаў. З вулічнага боку сцены будынкаў выкладаліся з цэглы і атынкоўваліся. Гэтак жа як і агароджа з аркамі. Астатнія тры сцяны складваліся з бярвення «з рэштаю». У некаторых дамах захаваліся чарапічныя дахі, што крыху навісалі над сцяною з уваходам. Кожны дом меў дадатковы выхад – з кухні ў двор.

План тыпавога дома (740х1580 см) складаецца з трох частак: пасярэдзіне сенцы і кухня, а па баках – па два аднолькавыя пакоі. Такая планіроўка, відаць, улічвала падзел дома на жылую і вытворчую часткі. Папярочная капітальная сцяна была таксама цагляная, праз яе праходзілі дымаходы печак, з дапамогаю якіх абаграваліся пакоі.

Уздоўж тылавой лініі забудовы ідуць аднолькавыя невялікія агароды, а ў канцы кожнага з іх стаяць дваровыя і гаспадарчыя будынкі.

У адрозненне ад жылых дамоў, у карчме і гасцініцы дрэва і цэгла спалучаюцца трохі інакш: першыя паверхі цагляныя, другія – з бярвення. Карчма, гасцініца і гандлёвыя рады аздоблены закругленымі нішамі, якія быццам працягваюць сістэму арачнай сувязі паміж жылымі дамамі. Строгія формы касцёла нібы падкрэсліваюць яго манументальнасць, а паўкруглая запрашальная каланада вызначае яго дамінуючае становішча ва ўсім ансамблі.

Своеасаблівы элемент варнянскага ансамбля – незвычайнае для беларускіх паселішчаў размяшчэнне гандлёвых радоў у адным шэрагу з жылымі дамамі. Сістэма арачных сувязей цягнецца і ўздоўж гандлёвых радоў. Праз праёмы ў іх можна трапіць у малы двор перад дзвюма невялікімі крамамі, роўнымі памерам аднаму жылому дому. Крамы збудаваны з цэглы і аздоблены нішамі, што адпавядаюць разбіўцы ўнутраных памяшканняў. Гандаль можна было весці і з боку плошчы праз шырокія дзверы з прылаўкамі ў нішах. Такое рацыянальнае размяшчэнне гандлёвых радоў дазваляла вызваліць ад лішняй забудовы плошчу, абсадзіўшы яе роўнай таполевай прысадай. Наогул, прадуманае ўключэнне зялёных масіваў звяртае тут на сябе ўвагу. Выразная лінія таполевай алеі скіравана да прыгожа выгнутай уздоўж маёнткавай агароджы паласы дэкаратыўных кустоў, якія паступова зліваюцца з зелянінай вакол возера. На астраўку пасярод зараслага чаротам возера – вежа, што імітуе сярэдневяковыя крапасныя збудаванні.

Варнянскі ансамбль цалкам не захаваўся да нашага часу. Згарэла двухпавярховая драўляная сядзіба з двума флігелямі. Няма ўжо і драўляных службовых будынкаў, затое захаваліся парк, вежа-павільён.

Унікальны помнік гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі варнянскі ансамбль цікавы для нас тым, што быў выкананы ў даволі буйных маштабах паводле прынцыпу «ўзорнай» забудовы з выкарыстаннем эканамічнай маламетражнай тыпавой забудовы.

| 412Г000041 | Касцёл Св. Георгія | сярэдзіна XVIII стагоддзя | в. Варона | 2 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны з цэглы на паўночнай ускраіне вёскі. Напаўзруйнаваны ў 1943 г., адбудаваны ў 2002 г. Помнік архітэктуры барока.

Храм прамавугольны ў плане, накрыты высокім двухсхільным дахам. З паўночна-ўсходняга боку да касцёла прымыкае квадратная ў плане сакрысцяя (пабудавана ў канцы XIX – пачатку XX ст.). Галоўны фасад касцёла завершаны трох'ярусным атыкавым франтонам. Ніжні прамавугольны ярус з'яўляецца асновай фігурнага шчыта і вежачкі, якія ўзвышаюцца над вільчыкам даху. Плоскасць галоўнага фасада прарэзана лучковым уваходным праёмам і невялікім прамавугольным акном у ніжнім ярусе франтона. Бакавыя сцены расчлянёны пілонамі, вырашанымі накшталт контрфорсаў, вуглы будынка апрацаваны шырокімі пілястрамі. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Сцены расчля-



нёны пілястрамі, над імі фрэскавыя выявы апосталаў. У алтарнай сцяне невялікая ніша і фрэскавая выява перспектыўнага алтара з калонамі іанічнага ордэра, антаблементам і конхай над ім. Роспіс столі імітуе купал. Пры ўваходзе – хоры. Драўляная агароджа хораў распісана (нішы з разеткамі).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000042 | Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі | 1764 год | пас. Гудагай | 2 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з дрэва пры кляштары кармелітаў. Асноўны высокі прамавугольны ў плане аб'ём (фундамент складзены з валуноў і атынкаваны) і пяцігранная апсіда накрыты агульным дахам з вальмамі над алтаром. Да галоўнага фасада, які вылучаны трохвугольным франтонам, прыбудаваны ўваходны тамбур, па баках апсіды нізкія сакрысціі. Франтон гарызантальна ашаляваны, у верхняй частцы два спараныя лучковыя аконныя праёмы аб'яднаны шырокай ліштвай. Раней касцёл быў двухвежавы: па баках франтона ўзвышаліся два чацверыкі з гранёнымі купалкамі. Сцены касцёла вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і завершаны прафіляваным карнізам. Вокны прамавугольныя. Уваходныя дзверы аздоблены дэкаратыўнай шалёўкай.

Інтэр'ер зальны, столь плоская, падшыўная. Над уваходам вялікія хоры з арганам. Ніжняя частка сцен аддзелена невялікім ступеньчатым карнізам, ашалявана вертыкальна, верхняя – гарызантальна. У інтэр'еры тры драўляныя алтары канца XVIII ст., выкананыя ў стылі ранняга класіцызму. Алтары трохчасткавыя, афармленыя іанічнымі калонамі. Капітэлі іківоты пазалочаныя. Галоўны алтар упрыгожаны драўлянай скульптурай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000043 | Гарадзішча | XI–XIII стагоддзі | в. Гуры, 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000044 | Гарадзішча | XI–XIII стагоддзі | в. Ігнацова, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000045 | Гарадзішча | XI–XIII стагоддзі | в. Караняты, 1,8 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 19.03.2003 № 83 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000046 | Курганны могільнік | 1–2-е тысячагоддзі н.э. | в. Каценавічы, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000047 | Касцёл | 1900 год | в. Кемелішкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412В000048 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | канец 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Лоша, 0,6 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000049 | Курганныя могільнікі | канец 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Малыя Свіранкі, 1,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, 1,7 км на ўсход ад вёскі | 3 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000050 | Курганны могільнік | канец 1-га тыся-чагоддзя н.э. | в. Мацкі, 1,5км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000051 | Касцёл Св. Міхаіла з агароджай і брамай<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера касцёла: дзевяць алтароў, гарэльефныя кампазіцыі і арнаментальныя рэльефы, амбон, краты бакавых капліц | XVII стагоддзе | в. Міхалішкі | 2 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1653 г. (архітэктар К. Пенс) на месцы папярэдняга драўлянага храма. Помнік архітэктуры ранняга барока.

Касцёл двухвежавы, аднанефавы. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з паўночнага ўсходу прымыкае пяцігранная апсіда з дзвюма невысокімі сакрысціямі. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Галоўны фасад падзелены на два ярусы простым карнізам, завершаны чацверыкамі вежаў з чатырохсхільнымі шатровымі дахамі і атыкавым франтонам паміж імі. Нязначны перапад вышынь зальнай часткі, апсіды і вежаў ствapae ступеньчатасць сілуэта будынка. Пры ўваходзе невысокі паўкруглы аб'ём накрыты конусападобным дахам. Сцены прарэзаны вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі і раскрапаваны філянговымі нішамі.

У інтэр'еры асноўны аб'ём мае цыліндрычнае перакрыцце з распалубкамі на падпружных арках, якія пераходзяць у магутныя пілястры. Алтарная частка з паўцыркульнымі арачнымі праёмамі. Пад хорамі размешчаны два ўваходы ў ніжнія ярусы вежаў, дзе знаходзяцца капліцы. Сцены паўкруглага аб'ёму чляне́ны шасцю паўцыркульнымі нішамі для скульптур. У аздабленні інтэр'ера прымаў удзел італьянскі мастак П'етра Перці. У дэкаратыўным убранні, сканцэнтраваным на паверхні сцен цэнтральнага аб'ёму, дамінуюць бела-блакітныя стукавыя барэльефы з выявамі святых і пышны раслінны арнамент, які аб'ядноўвае ўвесь дэкор у адзінае пластычнае цэлае. Асаблівым багаццем вылучаецца аздоба двух'яруснага галоўнага алтара з вітымі калонкамі. Па карнізе першага трохчасткавага яруса фігуры ўкленчаных епіскапаў, у цэнтры фігуры двух анёлаў. У навершы алтара рэльеф «Новазапаветная Тройца». Галоўны алтар, як і восем іншых, абрамлены акантам, з завіткоў якога нібы вырастаюць галовы дракона, сірэн і іншых фантастычных істот. На шырокіх сценавых пілонах гарэльефы 12 апосталаў. Пастаўленыя на квадратныя кансолі з маскаронамі розных тыпаў і памераў, яны амаль поўнасцю аддзелены ад сцен і ствараюць эфект руху. У прасценках паміж пілонамі знаходзяцца стукавыя алтары ў пышных барочных абрамленнях. Два бакавыя алтары з вітымі калонкамі і пілястрамі, якія падтрымліваюць падпружную арку. У ляпных рамах алтарныя карціны: «Святая Сям'я» ў сярэбраным з пазалотай абкладзе (пачатак XVIII ст.), «Маці Божая Ружанцавая» (пачатак XIX ст.). Побач з карцінамі сюжэтныя барэльефы. Амбон, упрыгожаны пазалочаным раслінным арнаментам, падтрымліваецца ўнізе разным арлом, які трымае ў кіпцюрах картуш з гербам Бжастоўскіх. Балдахін драўляны, разны, у выглядзе кароны.

Каваная жалезная агароджа ў капліцах Св. Іосіфа (XVIII ст.) і Хрыста (XIX ст.).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000052 | Гарадзішча | XI–XIII стагоддзі | в. Нідзяны, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000053 | Курганны могільнік | канец 1-га тыся-чагоддзя н.э. | в. Падкасцёлак, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000054 | Троіцкая царква стараверaў | XVIII–XIX стагоддзі | Падольскі сельсавет, урочышча Стрыпішкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000055 | Курганны могільнік | другая палова 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Палушы, 0,6 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000056 | Курган | 1-е тысячагоддзе н. э. | в. Веравознікі, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000057 | Курганныя могільнікі ранняга сярэднявечча | другая палова 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Пільвіны, 1,3 км на поўдзень ад вёскі, 0,7 км на поўнач ад правага берага р. Вілія, 0,3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000058 | Курганны могільнік | 1-е тысячагоддзе н. э. | в. Савішкі, 1,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000059 | Гарадзішча | XI–XIII стагоддзі | в. Сарочча, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Ашмянскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000060 | Былая сінагога | XIX стагоддзе | г. Ашмяны | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000061 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Ашмяны, вул. Савецкая, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000062 | Ансамбль былога манастыра базыльян:<br>Петрапаўлаўская царква са званіцай, агароджай і брамамі<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера царквы: тры алтары, амбон<br>жылы корпус<br>капліца | другая палова XVIII стагоддзя | в. Баруны | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Храм пабудаваны архітэктарам А. Асікевічам у выглядзе трохнефавай двухвежавай (захавалася адна вежа) прамавугольнай у плане базілікі з паўкруглай апсідай. Помнік архітэктуры віленскага барока і ракако.

Пластычна вырашаны галоўны фасад, завершаны высокім фігурным франтонам з бакавымі валютамі. Уваходны партал арачны, фланкіраваны канеліраванымі пілястрамі і завершаны фігурным франтонам. Вежа квадратная ў плане, трох'ярусная. Сцены храма расчлянёны пілястрамі, прарэзаны вялікімі нішамі, у верхняй частцы – лучковымі аконнымі праёмамі.

Ва ўнутранай прасторы цэнтральны неф вышэйшы і шырэйшы за бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Перакрыцце апрацавана шырокім прафілява-

ным карнізам і ўмацавана падпружнымі аркамі. Бакавыя нефы адкрываюцца ў цэнтральны арачнымі праёмамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. У паўднёвай частцы царквы размешчаны хоры, якія падтрымліваюцца аркадай. Па баках алтарнай часткі ў аб'ёмах бакавых нефаў вылучаны рызніцы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі.

У інтэр'еры тры стукавыя алтары і амбон. Галоўны алтар двух'ярусны, на высокім цокалі. Першы ярус вырашаны ў выглядзе карынфскай каланады з «разарваным» складана прафіляваным антаблементам. Архітэктурныя формы другога яруса больш лёгкія і спрошчаныя. Усходні алтар нагадвае галоўны, заходні выкананы пазней, дэкарыраваны сціпла. Пяціграны амбон зроблены ў стылі ракако, вылучаецца багатым афармленнем наверша.



У ансамбль з храмам уваходзяць вежа-званіца і агароджа з дзвюма брамамі. Званіца квадратная ў плане, двух'ярусная, завершана фігурнай галоўкай з люкарнамі. Грані дэкарыраваны пілястрамі. Часткі агароджы, якія прымыкаюць да царквы, расчлянёны лапаткамі і філёнгамі. Брамы арачныя, завершаны трохвугольнымі франтонамі з прафіляванымі карнізамі.

Капліца размешчана на плошчы перад царквой. Цэнтрычны двух'ярусны аб'ём (чацвярык на васьмерыку). Другі ярус – скразная вежачка з чатырма лучковымі праёмамі. Збудаванне завершана невялікай цыліндрычнай галоўкай. Вакол капліцы мураваная агароджа з брамай.

Будынак жылога корпуса Т-падобны ў плане, двухпавярховы. Падоўжныя плоскасці сцен раўнамерна расчлянёны лапаткамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Планіроўка галерэйная, з шэрагам памяшканняў, перакрытых цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Калідор перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000063 | Ансамбль кляштара францысканцаў:<br>касцёл Яна Хрысціцеля<br>роспіс алтарнай сцяны касцёла<br>жылы корпус<br>агароджа з брамай-званіцай | XVII–XVIII стагоддзі, пачатак XIX стагоддзя | в. Гальшаны, на скрыжаванні вуліц 17 Верасня і Ашмянскай | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |





Пасля смерці ў 1555 г. Паўла Гальшанскага маёнтак Гальшаны перайшоў у валоданне Сапегаў. У 1618 г. Павел Сапега пабудаваў у Гальшанах касцёл з кляштарам для манахаў-францысканцаў.

Будынак касцёла ў 1675 г. быў прамавугольны з выступаючай апсідай, завяршалася яна купалам у форме шлема, пакрыццё было гонтавае. Да асноўнага аб'ёму прымыкалі дзве капліцы. У бабінец касцёла вялі вялікія двухстворкавыя дзверы з брамкай і невялікім акенцам. З бабінца можна было патрапіць і на галерэю кляштарнага корпуса.

Кляштарны будынак П-падобны ў плане, прымыкаў да сцяны касцёла. На першым яго паверсе па перыметры ішла галерэя. Ва ўнутраным дворыку, клуатры, быў невялікі агарод.

У 1675 г. у касцёле было сем алтароў. Галоўны алтар – Святога Яна Хрысціцеля – быў драўляны, разьбяны (ужо ў 1675 г. згадваецца, што ён стары).

На падставе інвентара францысканскага касцёла і кляштарнага корпуса, зробленага ў 1675 г., можна сказаць, што касцёл, пабудаваны ў 1618 г., меў іншае архітэктурнае аблічча, чым сучасны будынак храма, некаторыя змяненні зведаў і будынак кляштарнага корпуса. Інвентар 1675 г. сведчыць аб тым, што кляштарны корпус меў дзве вежы ў вуглавых частках, у наш час захавалася толькі адна (паўночна-заходняя), падмурак другой вежы быў адкрыты пры археалагічных раскопках. Не захавалася частка галерэі, якая ішла ўздоўж касцельнай сцяны. Змяненні зведала першапачатковая планіроўка будынка.

У 1780-я гг. касцёл быў перабудаваны. Храм канца XVIII ст. – прамавугольны ў плане, з высокім дахам над асноўным аб'ёмам, дах над бакавымі нефамі ніжэй, пакрыццё з дахоўкі. На асноўным даху знаходзілася невялікая вежачка з крыжам. Уваход у касцёл праз вялікія двухстворкавыя дзверы. Асаблівасцю храма з'яўляецца тое, што прэсбітэрый у плане і аб'ёме будынка не вылучаны. Храм не мае нартэкса, і толькі пры дапамозе дадатковых апор у заходняй сцяне, па шырыні цэнтральнага нефа, уладкаваны хоры. На хоры вяла вузкая лесвіца, размешчаная збоку. Унутраная прастора падзелена васьмю слупамі, апрацаванымі двайнымі пілястрамі. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках і слаба выяўленых падпружных арках. Сцены завершаны карнізамі з драўлянымі балюстрадамі. Бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Плоская алтарная сцяна распісана перспектыўным жывапісам на архітэктурныя матывы барока, у верхняй частцы выява паўкруглай конхі апсіды. У касцёле былі 22 акны, шкло ў вокнах было ўстаўлена ў волава. Пад касцёлам знаходзіліся чатыры памяшканні для пахаванняў.

Пасля перабудовы касцёла ў ім стала восем алтароў, шэсць з іх знаходзіліся каля слупоў, два пры сцяне. Галоўны алтар размешчаны ў алтарнай частцы цэнтральнага нефа. На плоскай сцяне алтарнай часткі намаляваны паўкруглы алтар. Ён з'яўляецца галоўным эмацыянальным акцэнтам усяго касцёла. У канцы паўднёвага нефа знаходзіцца аднаярусны алтар Ісуса Хрыста.

Касцёл у пачатку 1790-х гадоў быў распісаны. Гэта манументальны жывапіс алтарнай часткі і алтароў, якія знаходзіліся каля слупоў.

Звонку галоўны і алтарны фасады падзелены развітымі антаблементамі і завершаны фігурнымі атыкавымі франтонамі з паўцыркульным завяршэннем шчыта франтона і сіметрычнымі валютамі. Фасады апрацаваны пілястрамі і глыбокімі нішамі. Вокны маюць фігурныя завяршэнні, а на заходнім фасадзе абазначаны глухімі нішамі.

Кляштар знаходзіўся з левага боку ад ўваходу ў касцёл, што было адступленнем ад правіл. Незвычайным таксама было вырашэнне прымыкання кляштара і касцёла – праход ажыццяўляўся не праз сакрысцію, як звычайна, а з бакавога нефа па цэнтры касцёла. Арыгінальным таксама было вырашэнне самой капліцы, якая гранёнай апсідай выступала за лінію кляштарных карпусоў. Цэнтральнае зальнае памяшканне капэлы мела ў плане форму шасцігранніка з глыбокімі трапецападобнымі нішамі і было перакрыта складанай формы зоркавым скляпеннем. З вуліцы меўся дадатковы ўваход у капліцу.

Храм і кляштар размяшчаліся ўнутры кляштарнага двара, абнесенага мураванай агароджай з каменю. Уваход ажыццяўляўся праз браму з надбудаванай званіцай. Званіца – помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пастаўлена перад касцёлам у 1-й палове XIX ст. Квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне з высокім чатырохсхільным дахам.

Паводле царскага ўказа ад 19 ліпеня 1832 г. гальшанскі францысканскі кляштар быў скасаваны. Касцёл стаў фарным, а будынак кляштара перайшоў у казённае ведамства.

У дакументах 2-й паловы XIX ст. усё часцей гучала трывога аб стане касцёла, які патрабаваў тэрміновага рамонту. Рамонт быў праведзены ў 1893 г.

У 1906 г. правялі вонкавы рамонт – будынак касцёла атынкавалі, пафарбавалі дах над бакавымі нефамі, вокны, вырабілі новыя крыжы.

У далейшым буйныя рамонты касцёла не праводзіліся. У 1950-я гг. касцёл быў закрыты. У будынку кляштара доўгі час знаходзілася школа-інтэрнат, што было спалучана з пераробкамі планіроўкі будынка.

У наш час храм дзейнічае, у жылым корпусе адкрыты філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

| 412Г000064 | Руіны былога замка Сапегаў з фрагментамі абарончых збудаванняў | XVI–XVII стагоддзі, XVIII–XX стагоддзі | в. Гальшаны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Паселішча Гальшаны з драўляным замкам, вядомае па летапісах з XIII ст., узнікла на высокай самароднай гары па-над р. Карабель, на паўночны ўсход ад мястэчка Гальшаны. Князі Гальшанскія валодалі замкам да 1525 г., а потым, пасля шлюбу князёўны Алены Гальшанскай з Паўлам Сапегам, ён перайшоў у валоданне Сапегаў. Пры Сапегу рэзідэнцыю перанеслі на бераг р. Луста (Жыганка).

Гальшанскі мураваны замак узведзены ў 1-й палове XVII ст. Сваёй кампазіцыяй ён аддалена нагадвае Мірскі замак і ўяўляе сабой прамавугольны (88,6х95,6 м) замкнуты будынак. Жылыя карпусы з вежамі на вуглах утвараюць замкнёны квадратны двор. Аднак магутныя абарончыя сцены, характэрныя для замкавага будаўніцтва XVI ст., у Гальшанах саступілі месца фасаду жылога дома. Тут ужо няма надбрамнай вежы, а вуглавыя шасцікантовыя вежы сталі меншыя і больш стройныя. У іх размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Вежы яшчэ канчаткова не страцілі свайго абарончага значэння, аднак аснова абароны Гальшанскага замка перамясцілася ўжо на земляныя магутныя валы і вадзяныя равы, што абкружалі замак. Уязная брама размяшчалася па цэнтры аднаго з доўгіх фасадаў, які з гэтага боку вызначаецца манументальнай прастатой. Арачны партал абрамляўся архівольтам.

Насупраць замкавай брамы, на процілеглым баку падворка, знаходзілася невялікая каплічка, убудаваная ў жылы корпус.

Кампазіцыя вонкавага фасада Гальшанскага замка нагадвае адначасныя галандскія замкі Бэсенштэен і Клейдаель пад Антверпенам. Такое падабенства тлумачыцца тым, што Беларусь, знаходзячыся ў складзе Рэчы Паспалітай, адчувала моцны ўплыў галандска-фламандскай архітэктуры, які быў вынікам ажыўленых культурных і гандлёвых сувязей з краінамі Заходняй Еўропы. З канца XVI і да пачатку XVIII ст. на землях Рэчы Паспалітай рэзідэнцыі магнатаў будаваліся з анфіладнай планіроўкай памяшканняў, з аркаднымі галерэямі і вуглавымі вежамі. Паводле такога прынцыпу, у прыватнасці, пабудаваны ў канцы XVI – пачатку XVII ст. польскія замкі Баранаў, Красічын, Суха. Архітэктурная кампазіцыя, планіроўка і часткова іх памеры вельмі блізкія і падобныя да архітэктурна-планіровачных элементаў Гальшанскага замка.



Дрэнная захаванасць замка ў Гальшанах не дазваляе дастаткова поўна вызначыць яго планіроўку. Можна толькі сцвярджаць, што справа ад уваходу знаходзілася вялікая квадратная зала з чатырма калонамі, на якія абапіраліся крыжовыя скляпенні. Сцены залы даўней былі ўкрыты багатым жывапісам.

Невялікія пакойчыкі ў вежах упрыгожваліся разнастайнай лепкай. Пад замкам меліся вялікія падвалы.

Ужо ў XVII ст. Гальшанскі замак ад Сапегаў трапіў да іншых гаспадароў і на працягу стагоддзяў часта пераходзіў з рук у рукі. У 1880 г. уладальнік замка Гарбанёў пачаў узрываць вежы і сцены, а цэглу прадаваў на пабудову карчмы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000065 | Капліца з драўлянай скульптурай | XVIII стагоддзе | в. Гальшаны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы ў паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

Вырашана трох'ярусная чатырохграннай вежай пад шатровым пакрыццём з крыжам. Сцены атынкаваныя. Ярусы падзелены прафіляванымі карнізамі. Грані першага і верхняга яруса аформлены нішамі, сярэдні ярус мае скразныя арачныя праёмы. Унутры яго ўстаноўлена драўляная скульптура Ісуса Хрыста.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000066 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XII–XIV, XV–XVIII стагоддзі | в. Гальшаны, 1,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Д000067 | Помнік на магіле Анджэя Снядэцкага | 1839 год | в. Гароднікі | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000068 | Тэрыторыя, дзе размяшчаўся Георгіеўскі касцёл | Пачатак XIX стагоддзя | в. Граўжышкі, у межах агароджы былога касцёла | 3 | 24.11. 1998 № 48, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 413В000069 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Дукелі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000070 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Жодаўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000071 | Петрапаўлаўскі касцёл арнаментальны роспіс інтэр'ера | другая палова XIX стагоддзя | в. Жупраны | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы ў цэнтры вёскі. Помнік архітэктуры неаготыкі.

Прамавугольны ў плане, трохнефавы храм накрыты двухсхільным дахам. Да галоўнага (паўднёва-ўсходняга) фасада прыбудавана трох'ярусная вежа, завершаная васьміграннным аб'ёмам са стральчатымі праёмамі і шатром. Сцяна абапал вежы завершана прамавугольным атыкам. Вуглы асноўнага аб'ёму і вежы дэкарыраваны лапаткамі з арачнымі стральчатымі нішамі, увянчаны дэкаратыўнымі вежачкамі. Сцены завершаны карнізам з фрызам (два рады ступеньчатых зубцоў). Плоскасці сцен дэкарыраваны шырокім аркатурным поясам, прарэзаны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер падзелены на тры нефы васьміграннымі філянговымі слупамі на высокіх пастаментах. Цэнтральны неф значна шырэйшы за бакавыя, заканчваецца алтарнай часткай. У аб'ёмах бакавых нефаў, абапал алтара, вылучаны сакрысціі. Над увахо-

дам – хоры з арганам. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя – крыжовымі. Скляпенні ўмацаваны падпружнымі аркамі і ўкрыты паліхромным роспісам з элементамі гатычнага арнаменту. Размалёўка конхі апсіды імітуе нервюры. У крапаваным антаблеменце алтара – выява Саваофа. Аркі нефаў упрыгожаны прамавугольнымі кесонамі з разеткамі, скляпеністыя пралёты цэнтральнага нефа – арнаментам і выявамі анёлаў. Роспіс выкананы ў чырвона-карычневых, бэжавых, зялёных і сініх танах. Злева ад увахода размешчана белая мармуровая пліта з надпісам: «Францішку Багушэвічу, 1840–1900, прыяцелі» (пахаваны на могілках побач з касцёлам).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000072 | Магіла Ф. Багушэвіча | 1900 год | в. Жупраны | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000073 | Курганныя могільнікі перыяду сярэднявечча | XII–XIV стагоддзі | в. Кляўіца, 0,5 км на поўнач ад вёскі, 5 км на паўночны захад ад вёскі, 0,2 км на поўдзень ад курганнага могільніка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000074 | Каменны могільнік | XVI–XVIII стагоддзі | в. Курганы, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000075 | Касцёл Дзевы Марыі<br>галоўны і два бакавыя алтары | другая палова XVIII стагоддзя | в. Мураваная Ашмянка | 2 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |





Пабудаваны з дрэва ў 1790 г. у паўднёвай частцы вёскі.

Выцягнуты ў плане аб'ём з пяціграннай алтарнай часткай, трансептам, дзвюма сакрысціямі. Накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай, выступы трансепта – больш нізкімі двухсхільнымі дахамі. Усе франтоны ўвянчаны шлемападобнымі галоўкамі на васьмігранных барабанах. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер зальны. Асноўнае памяшканне і выступы трансепта перакрыты люстранымі скляпеннямі. Перакрыцце асноўнага аб'ёму ўмацавана двума папярочнымі рабрамі і бэлькай. Хоры адкрываюцца ў асноўнае памяшканне двухпралётным арачным праёмам. Сцены і столь гарызантальна ашаляваныя. Інтэр'ер упрыгожаны выкананай у 2-й палове XIX ст. паліхромнай размалёўкай: гірлянды з лісця аканта, лілей і стужак з літургічнымі надпісамі, фігуры архангелаў, арнамент з залатых каласоў, зялёных і сініх гронак вінаграду. У верхняй частцы сцен – арнаментальны фрыз. Тры разныя драўляныя алтары зроблены ў стылі позняга барока. Галоўны на высокім цокалі, двух'ярусны, з трохвугольным завяршэннем, упрыгожаны драўляным разным абрамленнем з завіткоў-валют, ракайляў, казачных праслін, паўфігур атлантаў з царскімі калонамі-капітэлямі на галаве і фігурак укленчаных анёлаў. На капітэлях і ракайлях захавалася першапачатковая пазалота. Бакавыя алтары па кампазіцыі нагадваюць галоўны, але меншыя памерам і больш сціплыя па дэкору.

Побач з касцёлам стаіць драўляная квадратная ў плане званіца, пабудаваная ў канцы XVIII – 1-й палове XIX ст. Ніжні, больш шырокі ярус, – зрубны, з цэнтральным праходам і двума бакавымі памяшканнямі. Верхні ярус – каркасны, квадратны ў плане, скразны. Стойкі каркаса падтрымліваюць чатырохгранную шатровую страху, увянчаную шлемападобнай галоўкай на васьмігранай аснове.

Касцёл і званіца – помнік архітэктуры з выкарыстаннем элементаў барока і класіцызму, традыцый народнага драўлянага дойлідства.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000076 | Гарадзішча перыяду жалезнага веку | III–IV стагоддзі н.э. | в. Шчапанавічы, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Бераставіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000077 | Свята-Мікалаеўская царква | XIX стагоддзе | г.п. Вялікая Бераставіца, вул. Камсамольская, 18 | 3 | 13.09.1995 № 27 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000078 | Рэшткі касцёла Візітацыі Найсвяцейшай Дзевы Марыі | 1620 год, сярэдзіна XVIII стагоддзя | г.п. Вялікая Бераставіца, цэнтральная плошча | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У 1615 г. уладальнік мястэчка Геранім Хадкевіч заснаваў тут місію кармелітаў, якія валодалі драўляным касцёлам. Пасля знішчэння храма ў выніку пажару 1741 г. быў узведзены існуючы і цяпер касцёл. Помнік архітэктуры ранняга барока.

Крыжовая ў плане трохнефавая базіліка з трансептам, паўкруглай апсідай і дзвюма нізкімі сакрысціямі па баках алтарнай часткі. Галоўны заходні фасад падзелены пілястрамі на тры часткі, завершаны ступеньчатым атыкам. Сярэдняя павышаная частка атыка ўвянчана франтонам з авальнай нішай у цэнтры. Бакавыя фасады і апсіда раўнамерна расчлянёны пілястрамі і лапаткамі, лучковымі аконнымі праёмамі. Будынак апярэзвае раскрапаваны антаблемент. Унутраная прастора расчлянёна чатырма масіўнымі слупамі на тры нефы. Цэнтральны павышаны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках і конхай у алтарнай частцы. Бакавыя нефы адкрываюцца ў цэнтральны арачнымі праёмамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. У заходняй частцы асноўнага аб'ёму – бабінец, па баках якога дзве шахты з лесвіцамі на хоры і дах. Пад будынкам крыпта.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000079 | Брацкая магіла | 1941 –1944 гады | г.п. Вялікая Бераставіца, цэнтральная плошча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000080 | Брацкая магіла | 1941 –1944 гады | г.п. Вялікая Бераставіца, паўночная ўскраіна пасёлка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000081 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча – новага часу | XIV–XVIII стагоддзі | в. Алекшыцы, 1 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000082 | Свяцілішча перыяду сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Верхаўляны, 150 м на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000083 | Каменны могільнік | XIV–XVI стагоддзі | в. Клепачы, 10,2 км на поўдзень ад вёскі, 2,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000084 | Могільнік перыяду неаліту | другая палова 3-га тысячагоддзя да н.э. | в. Малыя Ёдкавічы, на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Ваўкавыскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000085 | Касцёл Св. Вацлава з агароджай і брамай | 1846–1848 гады | г. Ваўкавыск, вул. К. Маркса, 25 | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000086 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | г. Ваўкавыск, на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000087 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | г. Ваўкавыск (замчышча) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000088 | Гарадзішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XI стагоддзі | г. Ваўкавыск, 0,5 км на ўсход ад гарадзішча Шведская гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000089 | Дом былой сядзібы («дом Баграціёна») | 1805 год | г. Ваўкавыск, вул. Баграціёна, 10 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік архітэктуры класіцызму.

Прамавугольны ў плане драўляны аднапавярховы будынак накрыты высокім вальмавым дахам. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтральная частка з мансардай вылучана чатырохкалонным мураваным порцікам, завершаным франтонам крывалінейнага абрысу. Мансарда выходзіць на галоўны фасад шырокім балконам з драўлянай агароджай. Планіроўка анфіладная, у цэнтры – вестыбюль з лесвіцай.

Цяпер у будынку размешчаны экспазіцыйныя залы Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П.І. Баграціёна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000090 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Ваўкавыск, вул. Жолудзева, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000091 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Ваўкавыск, вул. Мядзведзева | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000092 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XV–XVII стагоддзі | в. Араны, 1 км ад вёскі (гара Крутаўка) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000093 | Касцёл Яна Хрысціцеля<br>галоўны і бакавы алтары | XVII–XVIII стагоддзі | в. Воўпа | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудаваны з дрэва на паўночнай ускраіне вёскі, каля могілак. Помнік народнага драўлянага дойлідства з рысамі архітэктуры позняга барока.

Касцёл двухвежавы, прамавугольны ў плане з выступаючымі пяцісценнымі крыламі трансепта. Алтарная частка знаходзіцца ў асноўным аб'ёме. Пры галоўным уваходзе – тамбур, да якога з двух бакоў далучаны невялікія службовыя памяшканні. Галоўны (паўднёва-заходні фасад) вылучаны аднаяруснымі квадратнымі ў плане вежамі, паміж якімі трохвугольны франтон. Вежы завершаны невысокімі купаламі, франтон – галоўкай на чацверыку. Невялікая галоўка размешчана над алтарнай часткай. Бакавыя фасады



расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі і прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Сцены гарызантальна ашаляваны, вуглы расшыты пад руст. Дах двухсхільны, ламаны.

Інтэр'ер зальны. Плоская бэлечная столь пафарбавана ў блакітны колер з разеткамі, сцены – пад чырвоную цэглу.

Галоўны алтар, размешчаны ў цэнтры касцельнай апсіды, выкананы ў выглядзе двух'яруснай – накшталт трыумфальнай аркі – кампазіцыі з высокім цокалем. Падобная кампазіцыйная схема была шырока распаўсюджана ў часы Рэнесансу і ўзыходзіць да гатычнага скульптурна-маляўнічага алтара-трыпціха.

Першы ярус алтара зроблены ў форме каланады: чатыры калоны карынфскага ордэра, прычым дзве з іх, унутраныя, спіралепадобна дэкарыраваны накладною разьбой з матывамі вінаграднай лазы з гронкамі. У інтэркалумнах размешчаны карціна «Распяцце» і драўляныя, таніраваныя пад золата, вялікія (вышынёю 2,5 м) скульптуры Св. Казіміра і Яна Хрысціцеля.

У тымпане трохвугольнага франтона першага яруса – гарэльеф Саваофа, які сядзіць на дэкаратыўна-арнаментальным воблаку. Абрамляюць франтон постаці двух анёлаў, што нібыта зляцелі сюды з парталаў італьянскіх храмаў эпохі Адраджэння.

Верхні, другі, ярус паводле сваіх канструкцыйных асаблівасцей крыху адрозніваецца ад першага, хоць абодва яны вырашаны ў адным эмацыянальна-стылявым ключы. Другі ярус нібы падзяляюць на часткі дзве калоны карынфскага ордэра: у цэнтры – маляўнічая карціна, паабапал яе – драўляныя, таніраваныя пад золата паўтараметровыя статуі апосталаў Пятра і Паўла. Увянчаны алтар арнаментальна-дэкаратыўным фрызам.

Па баках абодва ярусы ўпрыгожаны багатай скразной драўлянай разьбой. Накладной арабескавай разьбой шчодра дэкарыраваны ўсе вольныя ад жывапісу і скульптуры плоскасці алтара. Конхі нішаў, дзе размешчаны скульптуры, зроблены ў форме ракавін; п'едэсталы калон і скульптур у нішах аздоблены гарэльефнымі галоўкамі херувімаў і анёлаў. Арнаментальна-дэкаратыўна-пазалочаная разьба алтара складаецца з характэрных для дэкаратыўнага мастацтва XVII ст. матываў – лісце аканта, гірлянды вінаграднай лазы з гронкамі, разьбяныя ракавіны. І ўвесь гэты багаты разьбяны дэкор гарманічна спалучаецца з амаль класічнай прастатой канструкцыйных форм і выразнасцю планіровачнага вырашэння.

Уражвае і паліхрамія, удалае спалучэнне насычанай чорнай гамы ўсяго алтара з мяккім мігценнем пазалочанага дэкору.

Аналагі пластычных форм воўпенскага алтара і яго дэкору сустракаюцца ў касцёлах Баварыі (Ландсхут, Полінг), а таксама ў храмах Малой Польшчы (алтар Св. Станіслава ў марыяцкім касцёле г. Кракава).

На цокалі воўпенскага алтара захаваўся герб, які, відаць, належаў фундатару храма. Гэта дазваляе ўдакладніць час стварэння алтара. Герб на алтары – падканцлера Казіміра Сапегі (1609–1656), сына вядомага дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі. У цэнтры картуша – асноўны матыў герба Сапегаў: страла з дзвюма рысачкамі. Левая палова герба сведчыць пра паходжанне бацькі фундатара касцёла: лілеі належаць Івану Сапегу, а меч, акаймаваны чатырма паўмесяцамі, – з герба князёў Друцкіх-Сакалінскіх (княгіня Друцкая-Сакалінская была маці Льва Сапегі). Правая палова герба гаворыць аб паходжанні маці фундатара, Лізаветы Радзівіл: уверсе – арол з герба яе бацькі, гетмана Радзівіла, унізе – герб яго жонкі, Лізаветы Тэнчынскай.

Два бакавыя алтары воўпенскага касцёла сваім дэкорам і кампазіцыйнымі прыёмамі паўтараюць галоўны, аднак маюць выразна барочны характар.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000094 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIV стагоддзі | в. Замасцяны, на левым беразе р. Рось, паміж вёскай і ракой | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000095 | Селішча | IV–V, XII–XIII стагоддзі | в. Гледнявічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 412Г000096 | Касцёл Св. Міхаіла Архангела | 1524, 1840, 1930 гады | в. Гнезна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



У 1524 г. уладальнікамі маёнтка Гнезна (альбо Гнезная) Янам і Альжбетай Шамятовічамі быў выдадзены фундуш на пабудаваны за іх сродкі касцёл. У 1555 г. маёнтак Гнезна купіў Геранім Хадкевіч – прадстаўнік аднаго з буйнейшых родаў Вялікага княства Літоўскага, актыўны прыхільнік Рэфармацыі. Менавіта з Хадкевічам звязана новая старонка ў гісторыі храма. Дакументы сведчаць, што ў 2-й палове XVI ст. ён быў пераўтвораны ў кальвінскі збор, а ў 1643 г. зноў стаў каталіцкім у сувязі з контррэфармацыяй.

Крыніцы XVII ст. даюць сціслыя звесткі пра вонкавы і ўнутраны выгляд касцёла. Так, інвентар касцёла 1679 г. упамінае «пулап» – так на старажытнапольскай мове называлася плоская драўляная столь. Гэтае ўпамінанне – адно з самых ранніх сведчанняў аб адсутнасці ў гнезнаўскім касцёле мураваных скляпенняў.

Ваенныя падзеі на працягу XVII–XIX стст. пакідалі свае сляды на гнезнаўскім храме, які рамантаваўся пасля кожнага чарговага разбурэння. Паводле мясцовага падання, з сярэдзіны XVII ст. у галоўным фасадзе засталося каменнае ядро і след ад другога, што можна бачыць і сёння. Гнезнаўскі касцёл быў моцна пашкоджаны і ў час Паўночнай вайны. У час Айчыннай вайны 1812 г. згарэлі дах касцёла, плябанія і іншыя будынкі.

У 1839 г. у час пажару згарэлі ўсе драўляныя канструкцыі і інтэр'ер храма, пасля чаго ён быў на сродкі мясцовага памешчыка Г. Тарасовіча капітальна адрамантаваны. У час рамонту адбудавалі вежу, якая мела каля 20 м вышыні.

У 90-я гады XIX ст. у касцёле зноў правялі рамонт. Пабудавалі новы галоўны алтар, паклалі тэракотавую падлогу і замуравалі другі ўваход у падзямелле, з паўднёвага боку да нефа была прыбудавана сакрысція, пазней яшчэ адна.

Аднак касцёл патрабаваў грунтоўнай рэстаўрацыі.

З вясны 1931 г. пачалі рэстаўрыраваць фасады (пры гэтым замуравалі адно акно) і дабудоўваць вежу, перарабілі рызніцу. Яна стала не шматграннай, а прамавугольнай і меншых памераў. У асноўным з такімі зменамі гнезнаўскі касцёл захаваў свой выгляд да нашага часу.

У заходняй частцы над уваходам размешчаны хоры, пабудаваныя ў даваенны час. Злева ад уваходу ў тоўшчы заходняй сцяны ёсць нешырокая лесвіца, якая вядзе на хоры і ў вежу. Сцены касцёла таўшчынёй 1 м узведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы-пальчаткі памерам 28х13,5х7 см. Заходняя сцяна касцёла стаіць на падмурку з валуноў. Падмуркі вежы і астатніх фасадаў касцёла зроблены ў тэхніцы змешанай муроўкі з цэглы-пальчаткі і камянёў.

Гнезнаўскі касцёл – адзін з помнікаў беларускай гатычнай архітэктуры, дзе шырока ўжыта для аздаблення фасадаў фасонная цэгла. Гатычныя касцёлы аналагічнага тыпу ў канцы XV–XVI ст. былі распаўсюджаны ў асноўным на тэрыторыі Польшчы (Мазовія), а ў Беларусі і Літве ён адзіны. Асноўны аб'ём касцёла да нядаўняга часу быў перакрыты плоскай столлю на бэльках. Прыклады драўлянага перакрыцця ўсёй унутранай прасторы аднанефавага і трохнефавага памяшкання сустракаюцца таксама ў літоўскім дойлідстве (касцёл Георгія ў Кедайняі, храм у Запішкасе). У выніку натурных абследаванняў у дзвярным праёме выяўлены першапачатковы партал, афармлены фасоннай цэглай. Паводле архітэктурнай пластыкі ён багацейшы за вежавыя парталы. Такія парталы пакуль што не вядомы ў іншых помніках беларускай архітэктуры. Дэкор партала паўднёвага фасада аналагічны афармленню дзвярнога праёма ратушы ў Каўнасе, што сведчыць пра рэгіянальнае адзінства беларускай і літоўскай архітэктуры.

Гнезнаўскі храм, як і большасць помнікаў беларускай готыкі гэтага часу, з'яўляецца яркім прыкладам архітэктуры пераходнага перыяду ад готыкі да рэнесансу. На яго фасадах прасочваюцца складаныя і разнастайныя формы, уласцівыя помнікам позняй готыкі. Гэта падвясныя і кілепадобныя аркі, прамавугольныя нішы, аздабленні парталаў і вокнаў. На архітэктуры гнезнаўскага касцёла пакінуў выразны след і рэнесанс. Пра гэта сведчаць шматлікія гзымсы, гарызантальныя паясы і аркі над вокнамі другога вежавага яруса.

| 413Г000097 | Былы сядзібны дом | другая палова XIX стагоддзя | в. Гнезна | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000098 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Данілаўцы, 0,7 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000099 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | IX–XII стагоддзі | в. Данілаўцы, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000100 | Каменны могільнік эпохі сярэднявечча | XV–XVII стагоддзі | в. Дыхнавічы, на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000101 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Ізабелін | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000102 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Ізабелін | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000648 | Касцёл Св. Пятра і Паўла | 1778 год | в. Ізабелін | 3 | 09.08.2006 № 122 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000103 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XI стагоддзі | в. Кавалі, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000104 | Былая сядзіба:<br>сядзібны дом<br>парк | XIX–пачатак XX стагоддзя | в. Краскі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзібны дом складаецца з драўлянага аднапавярховага і мураванага двухпавярховага аб'ёмаў. Драўляны пабудаваны ў 1839 г. Прамавугольны ў плане на высокім цокалі будынак з анфіладнай планіроўкай жылых памяшканняў. Да яго ўсходняга тарца ў 1905 г. прыбудаваны мураваны аб'ём. У плане складанай формы, калідорнай сістэмы планіроўкі. Асноўны акцэнт кампазіцыі – круглая вежа, размешчаная з боку галоўнага фасада мураванага будынка. Другая, меншая вежа (афармленне коміна) знаходзіцца на стыку драўлянага і мураванага аб'ёмаў. У агульнай кампазіцыі і дэкаратыўнай аздобе сядзібнага дома выкарыстаны элементы эклектычнай архітэктуры.

Парк пейзажнага тыпу. Плошча каля 6 га. Паводле планіровачнай кампазіцыі падзяляецца на тры часткі: партэрную перад галоўным фасадам сядзібнага дома, прагулачную на пакатым паўднёва-ўсходнім схіле ўзгорка і лесапаркавую – на ўзгорку. Партэрная частка з газонамі і кветнікамі, па яе баках адзіночныя дрэвы. Прагулачная частка парку – сістэма адкрытых палян, дэкаратыўных груп дрэў і свабодна спланаваных алей, каля сядзібнага дома расце некалькі экзотаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000105 | Паселішчы, стаянкі, крэменездабыўныя шахты, майстэрні перыяду каменнага, бронзавага і ранняга жалезнага вякоў | 3–1-е тысячагоддзі да н.э. | г.п. Краснасельскі, на паўднёвы захад ад пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000106 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XII стагоддзі | в. Лозы, 1,8 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000107 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Лозы, 0,7 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000108 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XV–XVII стагоддзі | в. Мачуліна, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000109 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Мінеўшчына, 0,15 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000110 | Касцёл Яна Хрысціцеля дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера: бакавы алтар, хрысцільня ў правым нефе | XVIII стагоддзе | в. Мсцібава | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з чырвонай цэглы ў цэнтры вёскі. Помнік архітэктуры неаготыкі і неараманскага стылю.

Уяўляе сабой двухвежавы храм базілікальнага тыпу з трансептам, трохграннай апсідай і дзвюма сакрысціямі. Галоўны заходні фасад трохчасткавы: па цэнтры прарэзаны вялікай высокай стральчатай нішай і завершаны двухслойным спічастым шчытом, па баках уздымаюцца высокія двух'ярусныя вежы з фігурнымі шатрамі-ківорыямі. У кожнай частцы – уваходны арачны праём, над цэнтральным – акно-трыфорыум. Бакавыя фасады расчлянёны лучковымі праёмамі ў два ярусы, у прасценках спічастыя контрфорсы. Імі ўмацаваны вуглы вежаў, трансепта і апсіды.

У інтэр'еры нефы перакрыты цыліндрычнымі нервюрна-зоркавымі скляпеннямі. У паўночным крыле трансепта – драўляны двух'ярусны разны алтар Св. Яна (XIX ст.), вырашаны карынфскай каланадай і дэкарыраваны ажурнай разьбой. На хорах арган. Абразы XVIII ст. «Айчына» (прывезены з касцёла в. Шылавічы Ваўкавыскага раёна), «Ян Хрысціцель», «Маці Божая Ружанцавая».

Перад храмам стаіць званіца з жоўтай цэглы, выкананая ў выглядзе трыумфальнай аркі з падвешаным над ёй звонам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000111 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XII–XIII, XVI–XVIII стагоддзі | в. Мсцібава, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000112 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XV–XVIII стагоддзі | в. Навасёлкі, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000113 | Былая сядзіба: сядзібны дом гаспадарчыя пабудовы фрагменты агароджы | пачатак XIX стагоддзя | в. Падароск | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзібны дом – аднапавярховы прамавугольны ў плане з невялікай драўлянай прыбудовай з боку дваровага фасада. Цэнтральная частка галоўнага фасада з мансардай вылучана чатырохкалонным порцікам, які завяршаецца трохвугольным франтонам, акаймаваным прафіляваным карнізам з сухарыкамі. Будынак накрыты двухсхільным дахам з паўвальмамі на тарцах. З боку дваровага фасада сіметрычна цэнтральнаму порціку знаходзіцца шырокая тэраса. Па цэнтральнай восі галоўнага ўвахода размешчаны вестыбюль з лесвіцай на мансарду. Унутраная планіроўка анфіладная (цяпер часткова зменена).

Парк захаваўся часткова. Складаецца з дзвюх частак: партэрнай (перад сядзібным домам) і пейзажнай (у паўночнай частцы сядзібы), якія кампазіцыйна аб'яднаны дзвюма ўзаемна перпендыкулярнымі алеямі. Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў.

| 413Д000114 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Падароск | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000115 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Падрось, 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000116 | Камень-следавік | X–XIII стагоддзі | в. Пасынкі, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000117 | Брацкая магіла | | г.п. Рось | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000118 | Касцёл Св. Тройцы | пачатак XIX стагоддзя | г.п. Рось | 2 | 24.02.2006<br>№ 94 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Запіс аб пачатку будаўніцтва храма адносіцца да 1740 г. Па невядомых прычынах будаўніцтва было спынена на некалькі дзесяткаў гадоў. У 1766 г. будаўнічыя работы аднавіліся і з перапынкамі працягваліся да 1796 г. За гэты перыяд былі ўзведзены сцены касцёла да ўзроўню акон. Завершана будаўніцтва касцёла ў 1801 г. пры ўладальніку Росі Ф. Патоцкім. Асвячоны храм 12 ліпеня 1808 г.

У 1852 г. пад час рамонту адбыўся пажар, які знішчыў дах касцёла. На сродкі графіні Зоф'і Пац у тым жа годзе дах быў адноўлены.

У 1901–1903 гг. праведзены капітальны рамонт інтэр'ераў касцёла.

Касцёл у Росі з'яўляецца санктуарыумам Цудатворнай фігуры Ісуса Міласэрнага.

Храм – прамавугольны ў плане будынак з нязначна выступаючым трансептам і паўцыркульнай апсідай. Галоўны паўднёвы фасад завершаны трыгліфным фрызам з развітым карнізам, над якім атыкавы франтон з паўкруглым аконным праёмам у тымпане. Бакавыя фасады дэкарыраваны рустоўкай і завершаны прафіляваным карнізам. Інтэр'ер зальны, перакрыцце – драўляныя цыліндрычныя скляпенні. Уздоўж бакавых сцен праходзіць галерэя з драўлянай агароджай. Сцены завершаны масіўным карнізам з сухарыкамі.

У інтэр'еры над уваходам – хоры на чатырох круглых калонках. На сценах, скляпеннях асноўнага аб'ёму і алтарнай часткі размешчаны жывапісныя кампазіцыі на біблейскія тэмы і дэкаратыўна-архітэктурны роспіс, які стварае ілюзорнае ўяўленне прасторы. Драўляны разны алтар двух'ярусны, расчлянёны калонамі карынфскага ордэра, дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой і скульптурай.

На паўднёвы ўсход ад касцёла асобна пастаўлена ў 1908 г. двух'ярусная мураваная званіца.

| 413В000119 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIV стагоддзі | в. Тупічаны, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000120 | Каменны могільнік | XV–XVII стагоддзі | в. Хацькоўцы, на ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Свінарэка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000121 | Фрагменты сядзібна-паркавага комплексу | XIX стагоддзе | в. Цеалін | 2 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |

Захаваліся два мураваныя сядзібныя дамы (перабудаваныя ў 1940-я гг. для санаторыя).

Парк пейзажнага тыпу з элементамі рэгулярнай планіроўкі. З поўначы і ўсходу абмежаваны двума каналамі. Мае трохчасткавую кампазіцыю. Першая частка на вяршыні ўзгорка, паміж двума сіметрычна пастаўленымі сядзібнымі дамамі. Уяўляе сабой партэр з кветнікамі, кустамі, адзіночнымі пасадкамі дрэў. Другая частка на пакатых схілах узгорка. Тут на розных узроўнях праходзяць



тры паўцыркульныя алеі, аб'яднаныя лесвіцамі, якія вядуць да партэра. Трэцяя частка размешчана ў нізкай пойме ракі і абмежавана каналамі, мае маляўнічую планіроўку з шырокімі палянамі і групамі дрэў. Пераважаюць лісцевыя пароды. Цэнтр кампазіцыі – галоўная алея, якая пачынаецца ад вяршыні ўзгорка, праходзіць перпендыкулярна паўкальцавым алеям праз усю паркавую тэрыторыю, аб'ядноўваючы тры яе часткі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000122 | Брацкая магіла | | в. Шылавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Воранаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000123 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Воранава, вул. Савецкая, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000124 | Могільнік | XIII–пачатак XV стагоддзя | в. Апонаўцы, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000125 | Касцёл Св. Яна Хрысціцеля | 1900–1906 гады | в. Беняконі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000126 | Фрагменты парку «Больцінікі» | XIX стагоддзе | в. Больцінікі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Плошча каля 10 га. Парк пейзажнага тыпу. Яго кампазіцыю фарміруюць асобныя групы дрэў і кустоў, адкрытая прастора паляны, суцэльныя пасадкі. У паўночна-ўсходняй частцы парку на самым высокім месцы размешчаны сядзібны дом, пабудаваны ў пачатку XX ст. з цэглы ў стылі неаготыкі. Заходні схіл ад дома да паляны, выцягнутай уздоўж лагчыны, афармлены дзвюма штучнымі тэрасамі. Вялікае значэнне ў фарміраванні ландшафту курцін маюць экзоты, якіх у парку больш за 60 відаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000127 | Дом-крэпасць | 1611–1612 гады | в. Гайцюнішкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Аўтар праекта, будаўнік і першы ўладальнік «замачка» ў Гайцюнішках Пётр Нонхарт быў галандцам па паходжанні, які пакінуў радзіму ў другой палове XVI ст. і пасяліўся ў Вільні. Таленавіты галандзец удзельнічаў у аднаўленні віленскага замка пасля пажару 1610 г.

У пачатку XVII ст. П. Нонхарту перайшоў маёнтак Гайцюнішкі, у якім на месцы ранейшага драўлянага дома новы ўладальнік у 1611–1612 гг. узвёў мураваны сядзібны дом абарончага тыпу. Пасля смерці Нонхарта ў 1633 г. яго дачка Сюзанна Храптовіч, вы-



конваючы волю бацькі, пабудавала паблізу дома-крэпасці евангелічную капліцу-кірху, дзе былі пахаваны П. Нонхарт і яго жонка Марыя Шэметава, а таксама наступныя ўладальнікі, якія ўсе, акрамя Эдуарда Рымшы (валодаў Гайцюнішкамі ў 30-я гг. ХХ ст.), былі кальвіністамі.

Вядома, што пад час Паўночнай вайны 1700–1721 гг. гайцюнішскі замак паспяхова вытрымаў асаду саксонскага войска Аўгуста ІІ, якое спрабавала выбіць адтуль шведаў.

Некаторае ўяўленне аб стане і выглядзе гайцюнішскага дома дае нам інвентар 1844 г. і малюнак Н. Орды 1877 г. У архіўным дакуменце будынак характарызаваўся як «дом мураваны двухпавярховы, будынак стары ў гатычным стылі, зараз знаходзіцца ў эканамічным ужыванні, пад ім маюцца чатыры мураваныя скляпы. На двары знаходзіліся шматлікія гаспадарчыя пабудовы: кухня, стайня, свіран з прускага муру, вінакурня, кузня, млын вадзяны, сукнавальня і інш.»

Унутраная планіроўка дома была значна зменена ў 1950-я гг. Вонкавы выгляд значна не змяніўся. Замак уяўляе сабой сіметрычны прамавугольны ў плане двухпавярховы дом пад вальмавым дахам. Вуглы будынка афармлены ў выглядзе круглых вежаў, накрытых шатрамі. На ўваходзе трох'ярусная вежа-рызаліт. Фасады пазбаўлены дэкору. Руставанае абрамленне мае толькі галоўны ўваход. Ярусы цэнтральнай вежы вылучаны карнізнымі паясамі.

Да пазнейшых пераробак, якія змянілі выгляд дома-крэпасці, адносяцца прыбудова на галоўным фасадзе «ганка» з тэрасай, злучэнне трэцяга яруса вежы з дахам асноўнага аб'ёму і прыбудова ў сярэдзіне 1970-х гг. да тыльнага фасада аднапавярховага будынка.

Гайцюнішскі дом-крэпасць – унікальнае збудаванне, якое не мае прамых аналагаў у нашай краіне і за яе межамі. Уяўляе сабой рэдуцыраваны замак, пабудаваны па абагульненай схеме сярэдневяковых крэпасцей, прамавугольных у плане з вуглавымі і цэнтральнай вежамі. У той жа час па вонкаваму выгляду і ўнутранай прасторы адпавядае традыцыйным сядзібным дамам у Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы ў XIV–XVI стст. Строгасць вонкавага выгляду і адсутнасць дэкору на фасадах адпавядала як мясцовым архітэктурным традыцыям, так і нідэрландскай архітэктуры. Гайцюнішскі дом-крэпасць арганічна спалучыў перадавыя дасягненні заходнееўрапейскага дойлідства (галоўным чынам абарончага) XIV–XVI стст. з мясцовымі традыцыямі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000128 | Рэшткі капліцы | 1633 год | в. Гайцюнішкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Кампактны прамавугольны ў плане мураваны будынак з развітой алтарнай часткай быў накрыты вальмавым дахам з дахоўкі, з трох бакоў умацаваны магутнымі крытымі дахоўкай контрфорсамі. У сутарэннях знаходзіліся труны з муміфікаванымі целамі пахаваных. Засталіся руіны, часткі паўночнай і заходняй сцен. Сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, завершаны шырокім прафіляваным карнізам. У інтэр'еры асноўны аб'ём быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000129 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XV–XVI стагоддзі | в. Гарадзішча, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000130 | Фрагменты парку | канец XVIII стагоддзя | в. Пагародна | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000131 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Дварчаны, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000132 | Касцёл Адшукання Святога Крыжа | 1789 год | в. Жырмуны | 2 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з дрэва ў цэнтры вёскі Каралінай Радзівіл паводле праекта Я. Падчашынскага на месцы храма 1664 г. Помнік архітэктуры класіцызму.

Прамавугольны ў плане будынак з трансептам і пяціграннай алтарнай часткай. Асноўны аб'ём і крылы трансепта накрыты двухсхільнымі дахамі з франтонамі на тарцах. Галоўны заходні фасад, цэнтральная частка якога аформлена дзвюма мураванымі калонамі, завершаны франтонам з васьміграннай вежачкай. Сцены вертыкальна ашаляваны, расчлянёны пілястрамі і завершаны развітым антаблементам. Вокны паўцыркульныя. Унутраная прастора касцёла падзелена калонамі дарычнага ордэра на тры нефы. Бакавыя нефы з галерэямі, якія адкрываюцца ў цэнтральны неф арачнымі праёмамі. У заходняй частцы хоры. У паўднёвым крыле трансепта вылучана сакрысція. Галоўны алтар выкананы ў дарычным ордэры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000133 | Касцёл Святых апосталаў Пятра і Паўла | 1803–1812 гады | в. Забалаць | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000134 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XVI стагоддзі | в. Казляны, побач з вёскай | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000135 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча – новага часу | XV–XVII стагоддзі | в. Куклі, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000136 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча – пачатку новага часу | XV–XVII стагоддзі | в. Мантуны, каля вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000137 | Стаянка перыяду бронзавага веку | першая палова 1-га тысяча-годдзя да н.э. | в. Нача, 0,3 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000138 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Пашкавічы, 0,3 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412В000139 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Пузелі, 0,7 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000140 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Радунь, вул. Савецкая, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000141 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XIV стагоддзі | в. Сабалюнцы, 0,2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000142 | Могільнік | XII–XIII стагоддзі | в. Салапяцішкі, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000143 | Касцёл Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі | 1809 год | в. Тракелі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000144 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Шлавенцы, побач з вёскай | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000145 | Каменны могільнік | XIII–XV стагоддзі | в. Чыжаўск, 2 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Гродзенскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 410Г000146 | Аўгустоўскі канал:<br>водны шлях, які ўключае зарэгуляваны ўчастак р. Чорная Ганча ад Дзяржаўнай граніцы з Рэспублікай Польшча да в. Сонічы (13 км), штучны ўчастак канала ад в. Сонічы да шлюза «Нямнова» (6,5 км)<br><br>гідравузел «Нямнова»:<br>трохкамерны суднаходны шлюз, шлюз-рэгулятар (вадазборны шлюз) «Куркуль», дом наглядчыка пры гэтым шлюзе<br><br>гідравузел «Дамброўка»:<br>аднакамерны суднаходны шлюз, шлюз-рэгулятар, дом наглядчыка, злучальны канал ад суднаходнага шлюза «Нямнова» да ўпадзення ў р. Нёман (2,4 км)<br><br>гідравузел «Валкушык»:<br>аднакамерны суднаходны шлюз, пагранічны шлюз-рэгулятар, рэшткі падмуркаў дома наглядчыка, сонечны гадзіннік<br><br>гідравузел «Кужынец»:<br>аднакамерны суднаходны шлюз, шлюз-рэгулятар | 1824–1839 гады, 1870–1890-я гады, XIX – пачатак XX стагоддзя, 2004–2006 гады | Гродзенскі раён. Тэрыторыя ў межах матэрыяльнай нерухомай гісторыка-культурнай каштоўнасці, устаноўленых праектам «Зоны аховы і рэжымы іх утрымання гісторыка-культурнай каштоўнасці «Аўгустоўскі канал» | 0 | 21.10.2003 № 90, 27.04.2004 № 96, 22.02.2005 № 106 | 14.05.2007 № 578 |

Аўгустоўскі канал – унікальнае гідратэхнічнае збудаванне XIX ст.

Ідэя будаўніцтва канала належала тагачаснаму міністру фінансаў Польшчы князю Францішку Друцкаму-Любецкаму. Будаўніцтвам канала вырашалася задача стварэння воднага шляху з басейна Дняпра да партоў Балтыйскага мора ў абход тэрыторыі Усходняй Прусіі, якая ўвяла на тавары велізарныя пошліны.

Аўгустоўскі канал будаваўся пад кіраўніцтвам ваеннага інжынера Ігнація Прандзінскага, які прыехаў у горад Аўгустаў летам 1822 г. На працягу года ён правёў разведвальныя работы, тэарэтычныя даследаванні і ў канцы 1823 г. вярнуўся ў Варшаву для канчатковай дапрацоўкі праекта. Праект, які атрымаў назву «Аўгустоўскі канал», быў цалкам закончаны ў 1824 г. У тым жа годзе яго адобрыў Аляксандр І. Паводле разлікаў Прандзінскага, цалкам будаўніцтва павінна было быць завершана праз 10 гадоў. А першыя судны маглі пачаць курсіраваць ужо праз 3–4 гады.

Актыўнае будаўніцтва канала працягвалася да 1825 г. Былі пракапаны штучныя рэчышчы, пабудаваны шлюзы, масты, плаціны, паглыблены натуральныя вадаёмы. На будаўніцтве працавала больш за 7000 рабочых пад кіраўніцтвам генерала Мале



дэ Гранвіля, палкоўніка Росмана і самога Прандзінскага. На тэрыторыі, прылеглай да будучага канала, былі створаны прадпрыемствы па вырабу будаўнічых матэрыялаў, дрэваапрацоўчыя, металургічныя. Аднак у хуткім часе ў дачыненні да Прандзінскага была адноўлена следчая справа – па прычыне яго ўдзелу ў 1818 г. у Нацыянальным патрыятычным таварыстве. Судовы разбор закончыўся для Прандзінскага трохгадовым зняволеннем. Пасля вызвалення Прандзінскі аднавіў работу на канале, але быў ужо не кіраўніком, а адказным за зямельныя работы.

Перапыненае паўстаннем 1831 г. будаўніцтва Аўгустоўскага канала аднавілася (пад кіраўніцтвам грамадзянскага інжынера Тэадора Урбанскага) у 1833 г. і закончылася ў 1839 г. Праўда, асноўныя работы былі выкананы да 1830 г.

Сёння канал праходзіць па рэках Нараў, Бебжа, Нета, далей праз азёры Сайна, Нецка, Белае, Сцюдзёнае, па рацэ Чорная Ганча і адкрываецца ў Нёман. Другая лінія канала па рэках Нёман – Дубіса – Віндава (цяпер Вента) засталася няскончанай, паколькі ў канцы XIX ст. пачаў бурна развівацца чыгуначны транспарт. Паводле першапачатковага праекта, агульная даўжыня канала ад р. Бебжа да порта Віндава павінна была скласці 395 км. Пабудавана было 101,2 км.

Першапачаткова канал выкарыстоўваўся па сваім прамым прызначэнні – па ім перавозілі муку, соль, збожжа, мел, гіпс і г. д. У Аўгуставе быў пабудаваны буйны порт і спецыяльныя дарогі для коней, каб цягнуць баржы ўверх па цячэнні. Водная траса была разлічана на праход суднаў да 40 м у даўжыню, да 5 м у шырыню і здольных перавозіць да 10 тон грузу. Але з сярэдзіны XIX ст. канал пачаў паступова прыходзіць у заняпад. З 1852 г. па ім сплаўлялі толькі лес, а з сярэдзіны 1860-х гг. пра канал амаль цалкам забыліся.

На канале было 18 шлюзаў (тры з іх знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі: Нямнова, Дамброўка, Валкушык; шлюз Кужынец – на мяжы Беларусі з Польшчай), мноства мастоў, плацін, службовых будынкаў. Для параўнання: на вядомым Панамскім канале ўсяго шэсць шлюзаў, а Суэцкі канал – бясшлюзавы.

Шлюзы Аўгустоўскага канала – гэта сапраўдныя шэдэўры інжынернай думкі, пабудаваныя надзвычай старанна, грунтоўна і надзейна. Сцены камер выкладваліся з масіўных камянёў і абліцоўваліся цэглай на растворы з так званай гідраўлічнай вапны. Найбольш слабыя элементы шлюзаў умацоўваліся склюдаванымі камянямі з пясчаніку. Абітыя жалезам дубовыя вароты ўстанаўліваліся на рухомых рычагах, а зверху мацаваліся пры дапамозе стальных прыстасаванняў. Каля шлюзаў узводзіліся цагляныя будынкі для наглядчыкаў. Кожны шлюз меў шыльдачку, на якой выбівалі дату заканчэння будаўніцтва і прозвішча кіраўніка аб'екта. Шлюз Валкушык пабудаваны ў 1829 г. пад кіраўніцтвам паручніка Карчакоўскага на 85-м км канала. Шлюз Дамброўка пабудаваны ў 1829 г. пад кіраўніцтвам капітана Арнольда на 91,5 км канала. Шлюз Нямнова пабудаваны ў 1829 г. пад кіраўніцтвам капітана Яна Паўла Лялевеля. Гэта апошні і самы вялікі шлюз Аўгустоўскага канала на 101-м км. Шлюзы былі адна- і двухкамерныя, і адзіны ў Нямнове – трохкамерны, даўжыня яго трох камер – 43,5 м.

Унікальнасць усіх гэтых збудаванняў тым больш уражвае, калі ўлічыць тагачасныя вельмі сціплыя тэхнічныя магчымасці. Самыя працаёмкія і дарагія земляныя работы праводзіліся ўручную, драўлянымі рыдлёўкамі з металічнымі наканечнікамі. Берагі канала ўмацоўвалі сумессю зямлі з глінай, на якой сеялі траву або ўкладвалі кавалкі дзірвану. Уздоўж канала высаджвалі жывую агароджу з кустоў і дрэў. Дзякуючы гэтаму канал атрымаўся, калі можна так сказаць, «экалагічна чысты».

Пасля Другой сусветнай вайны польская частка канала была адрэстаўрыравана. Цяпер канал выкарыстоўваецца ў народнагаспадарчых і турыстычных мэтах. Польская частка Аўгустоўскага канала складае 83,40 км, 15 шлюзаў.

Беларуская частка канала за доўгія гады бяздзеяння ператварылася ва унікальную экасістэму. У 1970-я гг. на гэтай тэрыторыі быў створаны дзяржаўны батанічны заказнік «Сапоцкінскі».

Даўжыня беларускай часткі канала 22 км, глыбіня 1,8 м. Налічвае тры шлюзы і дзве плаціны, чацвёрты шлюз знаходзіцца на мяжы з Польшчай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Д000676 | Фартыфікацыйныя збудаванні 68-га Гродзенскага ўмацаванага раёна: | 1940–1941 гады | | 2 | 18.06.2008 № 143 | 03.09.2008 № 1288 |
| | аднапавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот | | в. Баяры | | | |
| | два аднапавярховыя двухамбразурныя гарматна-кулямётныя паўкапаніры | | в. Маркаўцы | | | |
| | рэшткі дота | | в. Маркаўцы | | | |
| | два аднапавярховыя двухамбразурныя гарматна-кулямётныя доты | | в. Маркаўцы | | | |
| | аднапавярховы аднаамбразурны кулямётны дот | | в. Маркаўцы | | | |
| | пяць аднапавярховых двухамбразурных гарматна-кулямётных паўкапаніраў | | в. Доргунь | | | |
| | тры аднапавярховыя двух-амбразурныя гарматна-кулямётныя доты | | в. Доргунь | | | |
| | два двухпавярховыя трохамбразурныя гарматна-кулямётныя доты | | в. Доргунь | | | |
| | двухпавярховы двухамбразурны артылерыйскі паўкапанір са слядамі баёў 1941 года | | в. Доргунь | | | |
| | каманднa-назіральны пункт | | в. Доргунь | | | |
| | два аднапавярховыя аднаамбразурныя кулямётныя доты | | в. Доргунь | | | |
| | двухпавярховы чатырохамбразурны гарматна-кулямётны капанір са слядамі баёў 1941 года | | в. Доргунь | | | |
| | двухпавярховы трохамбразурны гарматны дот са слядамі баёў 1941 года | | в. Новікі | | | |
| | двухпавярховы чатырохамбразурны гарматна-кулямётны капанір са слядамі баёў 1941 года, з памятнай шыльдай | | в. Новікі | | | |
| | рэшткі двухпавярховага двухамбразурнага гарматна-кулямётнага дота | | в. Новікі | | | |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | рэшткі аднапавярховага двухамбразурнага гарматна-кулямётнага дота | | в. Новікі | | | | |
| | рэшткі аднапавярховага двух-амбразурнага кулямётнага дота з дзвюма кулямётнымі ўстаноўкамі НПС-3 | | в. Новікі | | | | |
| | рэшткі двухпавярховага двух-амбразурнага гарматна-кулямётнага паўкапаніра | | в. Новікі | | | | |
| | аднапавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны паўкапанір | | в. Новікі | | | | |
| | двухпавярховы трохамбразурны гарматна-кулямётны дот | | в. Новікі | | | | |
| | аднапавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот | | в. Новікі | | | | |
| | два аднапавярховыя двухамбразурныя кулямётныя доты | | в. Новікі | | | | |
| | двухпавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот | | в. Новікі | | | | |
| | рэшткі аднапавярховага двух-амбразурнага гарматна-кулямётнага паўкапаніра | | в. Новікі | | | | |
| | аднапавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот | | в. Новікі | | | | |
| | рэшткі двух аднапавярховых двухамбразурных гарматна-кулямётных дотаў | | в. Навасёлкі | | | | |
| | рэшткі аднапавярховага трох-амбразурнага гарматна-кулямётнага паўкапаніра з агнём з крыла | | в. Навасёлкі | | | | |
| | рэшткі аднапавярховага двухамбра-зурнага гарматна-кулямётнага дота | | в. Навасёлкі | | | | |
| | рэшткі двухпавярховага трохамбра-зурнага гарматна-кулямётнага дота | | в. Навасёлкі | | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | аднапавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот са слядамі баёў 1941 года | | в. Навасёлкі | | | |
| | два аднапавярховыя двухамбразурныя гарматна-кулямётныя доты са слядамі баёў 1941 года | | г.п. Сапоцкін | | | |
| | два двухпавярховыя трохамбразурныя гарматна-кулямётныя доты | | г.п. Сапоцкін | | | |
| | аднапавярховы аднаамбразурны кулямётны дот | | в. Радзівілкі | | | |
| | аднапавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот са слядамі баёў 1941 года | | хутар Асочнікі | | | |
| | двухпавярховы двухамбразурны гарматна-кулямётны дот са слядамі баёў 1941 года, з памятнай шыльдай | | в. Пясчаны | | | |
| | рэшткі двухпавярховага трохамбразурнага гарматна-кулямётнага дота | | в. Пясчаны | | | |
| | рэшткі двухпавярховага двухамбразурнага гарматна-кулямётнага паўкапаніра | | в. Пясчаны | | | |
| | аднапавярховы двухамбразурны артылерыйскі паўкапанір | | в. Пясчаны | | | |
| | два двухпавярховыя трохамбразурныя гарматна-кулямётныя доты | | Аўгустоўскі канал | | | |
| | рэшткі трох двухпавярховых двухамбразурных гарматна-кулямётных дотаў | | Аўгустоўскі канал | | | |
| | рэшткі двухпавярховага трохамбразурнага кулямётнага паўкапаніра з агнём з крыла | | Аўгустоўскі канал | | | |
| | аднапавярховы аднаамбразурны кулямётны дот | | Аўгустоўскі канал | | | |
| | рэшткі двух двухпавярховых трохамбразурных гарматна-кулямётных дотаў | | Аўгустоўскі канал | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | рэшткі трох аднапавярховых адна-амбразурных кулямётных дотаў | | Аўгустоўскі канал | | | |
| | рэшткі двухпавярховага двух-амбразурнага гарматна-кулямётнага паўкапаніра | | Аўгустоўскі канал | | | |





68-ы Гродзенскі ўмацаваны раён (скарочана ГУР) – умацаваны раён у наваколлі Гродна, які будаваўся ў перыяд лета 1940–1941 гг. згодна з планам прыкрыцця новай дзяржаўнай граніцы (1939 г.).

Генеральны план работ прадугледжваў збудаванне 1-й лініі ўмацаванняў у 1940–1941 гг., 2-й лініі – у перыяд да 1945 г. Павінен быў займаць фронт 80 км, ад Нёмана на ўсход ад г. Сапоцкін і да в. Ганёндз, з глыбінёй абароны 5–6 км, і складацца з 606 дотаў, аб'яднаных у тры вузлы абароны: № 1 Сапоцкінскі, р-н Галавенчыцы – Маркаўцы; № 2 Багатыры –Ліпск; № 3 Старая Каменная – Трырэчкі і два асобныя апорныя пункты. Паводле планаў – самы моцны з чатырох умацаваных раёнаў Заходняй Асобай ваеннай акругі. Аператыўнае падпарадкаванне: штаб трэцяй арміі (Гродна). Аператыўна-тактычная задача: прыкрыццё, супольна з палявымі войскамі, напрамкаў Гродна – Ваўкавыск і Гродна – Беласток з боку Усходняй Прусіі.

Фактычна на пачатак вайны на Усходнім фронце ГУР складаўся з 37 узброеных дотаў (з 98 збудаваных у 1940 г). Узбраенне дотаў ГУР складалі: 300 кулямётаў, 80 артсістэм 45 мм і 20 артсістэм 76 мм. Гарнізон ГУР складалі 9-ы (капітан Жыла) і 10-ы (капітан Лупаў) асобныя кулямётна-артылерыйскія батальёны і 232-я асобная рота сувязі. Камендант ГУР палкоўнік Іваноў.

На дату пачатку вайны ўмацаваны раён быў недабудаваны, недаўзброены і недаўкамплектаваны асабовым складам. Гэта, сукупна з няўдалым яго размяшчэннем адносна дзяржаўнай граніцы, прывяло да таго, што меркаваных функцый па абароне ГУР не выканаў. Пераважная частка дотаў былі пустыя, а доты, занятыя гарнізонамі, былі абыдзены, блакіраваны і паступова знішчаны. Некаторыя гарнізоны абараняліся да 27 чэрвеня 1941 г.

Для падрыхтоўчых работ у 1940–1941 гг. шырока мабілізоўвалася мясцовае насельніцтва Аўгустоўскага, Гродзенскага, Дамброўскага, Кнышынскага, Скідзельскага, Саколкаўскага і Сапоцкінскага раёнаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Д000677 | Фартыфікацыйныя збудаванні Гродзенскай крэпасці: | | | 2 | 18.06.2008 № 143 | 03.09.2008 № 1288 |
| | земляны форт № 1 | 1887–1915 гады | урочышча Пышкі | | | |
| | земляны форт № 5 | 1887–1889 гады | урочышча Форт | | | |
| | земляны форт № 6 | 1887–1889 гады | урочышча Дзевятоўка | | | |
| | форт № 1 | 1913–1915 гады | в. Загараны | | | |
| | рэшткі форта № 1а (малы форт) | 1913–1915 гады | в. Баля Сольная | | | |
| | сховішча апорнага пункта форта № 1а | 1913–1915 гады | в. Баля Сольная | | | |
| | рэшткі форта № 2 | 1913–1915 гады | в. Навумавічы | | | |
| | рэшткі форта № 2а (малы форт) | 1913–1915 гады | в. Навумавічы | | | |
| | рэшткі сховішча апорнага пункта форта № 2а | 1913–1915 гады | в. Навумавічы | | | |
| | рэшткі парахавога склепа | 1913–1915 гады | в. Пушкары | | | |
| | рэшткі форта № 3 | 1913–1915 гады | в. Лабна-Агароднікі | | | |
| | рэшткі форта № 3а (малы форт) | 1913–1915 гады | в. Навасёлкі | | | |
| | рэшткі форта № 3а (парахавы склеп) | 1913–1915 гады | в. Навасёлкі | | | |
| | форт № 3а (пазіцыя для 210-мм японскіх гармат) | 1913–1915 гады | в. Навасёлкі | | | |
| | рэшткі форта № 3б | 1913–1915 гады | в. Трычы | | | |
| | форт № 4 | 1913–1915 гады | в. Стрэльчыкі | | | |
| | форт № 4а (малы форт) | 1913–1915 гады | в. Стрэльчыкі | | | |
| | парахавы склеп | 1913–1915 гады | в. Стрэльчыкі | | | |
| | форт № 5 | 1913–1915 гады | в. Гвінеўшчына | | | |
| | форт № 5а | 1913–1915 гады | дачны масіў Каробчыцы | | | |
| | парахавы склеп | 1913–1915 гады | дачны масіў Каробчыцы | | | |
| | рэшткі форта № 6 | 1913–1915 гады | дачны масіў Юзафоўка | | | |
| | два горжавыя бліндажы фортавай групы № 6 | 1913–1915 гады | дачны масіў Юзафоўка | | | |
| | тры сховішчы фортавай групы № 6 | 1913–1915 гады | в. Каменка | | | |
| | рэшткі форта № 7 | 1913–1915 гады | в. Малая Альшанка | | | |
| | парахавы склеп фортавай групы № 7 | 1913–1915 гады | в. Малая Альшанка | | | |

| | два назіральныя пасты фортавай групы № 7 | 1913–1915 гады | в. Малая Альшанка | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | форт № 8 | 1913–1915 гады | в. Гібулічы | | | |
| | сховішча фортавай групы № 8 | 1913–1915 гады | в. Гібулічы | | | |
| | назіральны пост фортавай групы № 8 | 1913–1915 гады | в. Гібулічы | | | |
| | парахавы склеп фортавай групы № 8 | 1913–1915 гады | в. Гібулічы | | | |
| | форт № 9 | 1913–1915 гады | в. Пагараны | | | |
| | назіральны пост фортавай групы № 9 | 1913–1915 гады | в. Пагараны | | | |
| | чатыры сховішчы фортавай групы № 10 | 1913–1915 гады | в. Прыгодзічы | | | |
| | назіральны пост фортавай групы № 10 | 1913–1915 гады | в. Прыгодзічы | | | |
| | рэшткі двух назіральных пастоў фортавай групы № 10 | 1913–1915 гады | в. Аульс | | | |
| | назіральны пост фортавай групы № 10 | 1913–1915 гады | в. Аульс | | | |
| | пяць сховішчаў фортавай групы № 10 | 1913–1915 гады | в. Аульс | | | |
| | сховішча фортавай групы № 11 | 1913–1915 гады | в. Русота | | | |
| | два назіральныя пасты фортавай групы № 11 | 1913–1915 гады | в. Русота | | | |
| | рэшткі пяці сховішчаў фортавай групы № 11 | 1913–1915 гады | в. Аульс | | | |
| | назіральны пост фортавай групы № 12 | 1913–1915 гады | в. Лапенкі | | | |
| | рэшткі форта № 13 | 1913–1915 гады | в. Грандзічы | | | |
| | назіральны пост фортавай групы № 13 | 1913–1915 гады | в. Грандзічы | | | |
| | горжавы бліндаж фортавай групы № 13 | 1913–1915 гады | в. Грандзічы | | | |
| | рэшткі горжавага бліндажа фортавай групы № 13 | 1913–1915 гады | в. Грандзічы | | | |
| | сховішча фортавай групы № 13 | 1913–1915 гады | в. Грандзічы | | | |

Гродзенская крэпасць – комплекс фартыфікацыйных умацаванняў, якія былі збудаваны навокал г. Гродна ў канцы XIX ст. (7 фартоў) і ў пачатку XX ст. (13 фартоў, не былі дабудаваны).

Мураваная фартыфікацыя ў Гродне існавала з XII ст. (сцены дзядзінца). Неадпаведнасць старых умацаванняў ваенным патрабаванням, разам са стратэгічнай важнасцю горада пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, прывялі да распрацоўкі шэрага планаў бу-





довы сучаснай крэпасці (канец XIX – пачатак XX ст., 1807 г., 1831 г.). Палітычныя падзеі і недахоп сродкаў не далі гэтым планам ажыццявіцца.

Адзначаецца, што няўдача гэтых планаў выратавала ад разбурэння гарадзенскі стары горад: на месцы Новага і Старога замкаў планавалася будова артылерыйскіх батарэй, на месцы кляштара францысканцаў – перадмаставога ўмацавання «тэт-дэ-пон», на Гарадніцы – чатырох плацін з магчымасцю затаплення мясцовасці.

Узрастанне канфлікту інтарэсаў Расіі і Германіі прывяло да ажыўлення планаў умацавання Гродна. Была прынята пастанова (1873 г.) і праведзены палявыя работы, даклад Д. Мілюціна (1879 г.) аб умацаванні Коўна, Гродна, Асаўца быў зацверджаны Аляксандрам ІІ. Аднак тады гэты план не ажыццяўлялі, а вярнуліся да яго пасля дакладу М. Обручава аб планах вядзення вайны (1880 г.).

У 1887–1889 гг. былі збудаваны пяць фартоў (форт № 1 на правым беразе Нёмана, ва ўрочышчы Пышкі, фарты № 2–5 складалі занёманскую пазіцыю ўздоўж занёманскага фарштата). Адразу ж іх колькасць была прызнана недастатковай, і ў 1890-я гг. былі збудаваны яшчэ два (№ 6, 7) на правым беразе Нёмана, каля вёсак Дзевятоўка і Грандзічы. Фарты мелі драўляна-земляную канструкцыю, з мінімальным выкарыстаннем бетону, кожны з іх быў разлічаны на тры роты пяхоты і чатыры гарматы. Агульная працягласць пазіцыі склала 14 км.

Войска практычна не карысталася гэтымі фартамі, і яны мелі характар перадмаставой пазіцыі часовага характару, а на пачатку 1900-х гг. страцілі баявое значэнне. Пасля руска-японскай вайны і ўвядзення новых мабілізацыйных планаў былі распрацаваны планы мадэрнізацыі шэрага крэпасцей (зацверджаны ў жніўні 1912 г.). Меркавалася збудаваць 13 тыпавых фартоў, 23 нумарныя апорныя пункты, 19 літарных апорных пунктаў, а таксама пляцоўкі для буйнакаліберанай артылерыі, аэрадром, плаціны, дарогі і інш. Працягласць эліпсападобнай у плане пазіцыі складала б каля 60 км. Будаўніком крэпасці быў прызначаны Дз. Каласоўскі (1912 г.).

Да пачатку Першай сусветнай вайны фарты не былі дабудаваны, хоць работы працягваліся амаль да эвакуацыі (жнівень 1915 г.) Расійскія гарнізоны абараняліся ў недабудаваных умацаваннях, пасля ўзарвалі іх. Непашкоджанымі засталіся яшчэ раней занятыя немцамі фарты № 4 (каля в. Стрэльчыкі) і № 12 (каля в. Чашчаўляны).

У 1916–1917 гг. немцы спрабавалі ўмацаваць усходнюю частку фортавай пазіцыі, у 1919–1920 гг. тое самае спрабавалі палякі. У час будаўніцтва Гродзенскага ўмацаванага раёна генералам Д.М. Карбышавым было загадана (1941 г.) уключыць рэшткі крэпасці ў структуру ўмацаванага раёна.

У гады Другой сусветнай вайны форт № 2 быў месцам масавага знішчэння гітлераўцамі мірных жыхароў, раён форта № 1 быў месцам спробы савецкіх войскаў утрымаць плацдарм на левым беразе Нёмана ў час наступлення 1944 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000147 | Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі | першая палова XVIII–XIX стагоддзе | в. Адэльск, на паўднёвай ускраіне вёскі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з дрэва ў цэнтры вёскі на месцы касцёла, заснаванага ў 1601 г. польскім каралём Жыгімонтам III. Помнік манументальнага народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Асноўны аб'ём прамавугольны ў плане, трохнефавы, з дзвюма невялікімі бакавымі прыбудоўкамі. Цэнтральны неф і роўная з ім па шырыні апсіда накрыты агульным вальмавым дахам з дэкаратыўнай фігурнай вежай. Бакавыя нефы маюць аднасхільныя пакрыцці. Сцены прарэзаны здвоенымі паўцыркульнымі і невялікімі круглымі аконнымі праёмамі, расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі і завершаны шырокім карнізам. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі прасторавую кампазіцыю.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000148 | Гарадзішча | XI–XVI стагоддзі | в. Адэльск, на паўднёвай ускраіне вёскі, бераг р. Адлянка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412В000149 | Селішча перыяду сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Агароднікі, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000150 | Стаянкі перыяду каменнага веку | 8–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Азёры, на ўсходняй ускраіне вёскі, 1 км на ўсход ад вёскі, на захад ад вёскі, 0,8–1 км на поўдзень ад стаянкі-3, на паўднёвы захад ад стаянкі-6, 1 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000151 | Стаянка і селішча Александрова-1 | перыяд неаліту, бронзавага веку, сярэднявечча | в. Александрова, 1 км на поўдзень ад вёскі, на надпоплаўнай тэрасе р. Нёман | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000152 | Стаянка і селішча Александрова-2 | перыяд неаліту, бронзавага веку, сярэднявечча | в. Александрова, 100 м на поўдзень ад стаянкі-1, на нізкай тэрасе р. Нёман | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000153 | Стаянкі перыяду каменнага – бронзавага вякоў | 2-е тысячагоддзе да н.э. | в. Баля Сольная, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000154 | Стаянкі перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 10–9-е тысячагоддзі да н.э. | пас. Берагавы, на заходняй ускраіне пасёлка, на паўночны захад ад стаянкі-1 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000155 | Стаянка і селішча Берагавы-1 | перыяд фінальнага палеаліту | пас. Берагавы, 1 км на поўдзень ад пасёлка, на надпойменнай тэрасе з хвойнікам | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000156 | Стаянка і селішча Берагавы-2 | перыяд фінальнага палеаліту | пас. Берагавы, насупраць верхняй ускраіны в. Жылічы, на надпойменнай тэрасе | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000157 | Селішча перыяду канца жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | сярэдзіна – другая палова 1-га тысяча-годдзя да н.э. | в. Беражаны, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000158 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Верцялішкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000159 | Царква Аляксандра Неўскага | 1854 год | в. Верцялішкі | 2 | 21.12.2004 № 104 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана ў 1843–1854 гг. з цэглы паводле праекта архітэктара Я.М. Фардона ў былым уладанні памешчыцы Свечынай на месцы струхнелага драўлянага храма. Асвячона 12 верасня 1854 г. Пры царкве была адкрыта царкоўнапрыходская школа, для якой у 1864 г. пабудавалі мураваны будынак (захаваўся, у ім размяшчаецца сталярны цэх мясцовай гаспадаркі). Помнік архітэктуры стылю ампір.

У 1930-я гг. былі спробы разбурыць царкву. Прыхаджане абаранілі храм, знесена была толькі званіца. Аднак яе ў хуткім часе адбудавалі за ўласны кошт.

Будынак царквы захаваўся. У апошнія гады праведзены рамонт: сцены афарбаваны звонку і ўнутры, дах накрыты ацынкаванай бляхай, рэстаўрыраваны іканастас. У інтэр'еры ёсць абразы XIX ст. Адзін з іх «Прарок Ілья» падаравалі храму жыхары в. Рыдзялі Ілья і Наталля Главацкія ў 1893 г. Каля царквы знаходзіцца мураваны помнік на месцы пахавання ў 1891г. святара Івана Пятровіча Гашуніна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000160 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Грандзічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000161 | Селішча перыяду сярэднявечча<br><br>Стаянка перыяду каменнага веку | XI–XIV стагоддзі,<br>10–7-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Гожа, на правым беразе р. Гожанка, пры ўпадзенні яе ў р. Нёман, 500 м на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000162 | Стаянка Дарошавічы-1 | перыяд бронзавага веку | в. Дарошавічы, 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на надпойменнай тэрасе | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000163 | Селішча Дарошавічы-2 | перыяд сярэднявечча, новага часу | в. Дарошавічы, 200 м на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000164 | Стаянка Дарошавічы-3 | перыяд фінальнага палеаліту | в. Дарошавічы, 0,4–0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000165 | Стаянка Дзякалавічы-1 | перыяд каменнага веку | в. Дзякалавічы, 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Нёман | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000166 | Стаянка і селішча Дзякалавічы-2 | перыяд каменнага веку, сярэднявечча | в. Дзякалавічы, 0,7 км на ўсход ад вёскі, пры паўночным краі старыцы р. Свіслач | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000168 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча<br><br>Стаянка перыяду каменнага веку | XI–XIV стагоддзі<br><br>10–9-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Жылічы, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, 200 м ад паўднёва-ўсходняй ускраіны вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000169 | Стаянка Жылічы-1 | перыяд фінальнага палеаліту | в. Жылічы, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на выступе ніжняй тэрасы з хваёвым лесам | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000170 | Стаянка Жылічы-2 | перыяд фінальнага палеаліту, позняга мезаліту | в. Жылічы, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000171 | Стаянка Жылічы-3 | перыяд каменнага веку | в. Жылічы, 200 м на поўдзень ад Жылічы-2 | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000172 | Стаянка Жылічы-4 | перыяд каменнага веку | в. Жылічы,на мысе паміж левым берагам яра і поплавам р. Нёман | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000173 | Стаянка Жылічы-5 | перыяд каменнага веку | в. Жылічы, 300 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, ніжэй вусця паўднёвага яра | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000174 | Свята-Дабравешчанская царква | канец XVII – пачатак XVIII стагоддзя | в. Жытомля | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік драўлянага дойлідства. Трохзрубная, складаецца з прамавугольных асноўнага і алтарных зрубаў, накрытых агульным двухсхільным дажхам з вальмамі над алтаром; бабінца, завершанага васьмерыковай званіцай з шатровым дахам. Сцены гарызантальна ашаляваныя (шалёўка позняя). Прамавугольныя вокны аздоблены прафіляванымі ліштвамі, інтэр'ер падзелены шасцю слупамі на тры нефы (бакавыя значна вузейшыя за цэнтральны). Столь плоская. Перабудаваны верхнія часткі апсіды і званіцы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000175 | Стаянкі перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 10–9-е тысячагоддзі да н.э. | в. Запур'е | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000176 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Індура, на паўночна-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000177 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Індура | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000178 | Касцёл Прасвятой Тройцы | 1815 год | в. Індура, вул. Рагачэўскага, 69 | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000179 | Свята-Аляксандра-Неўская царква | 1881 год | в. Індура | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000180 | Стаянкі і крэменеапрацоўчая майстэрня перыяду каменнага веку | 11–9-е тысячагоддзі да н.э. | в. Кавалічы, 0,7 км на поўдзень ад вусця р. Горніца, 1 км на поўдзень ад вёскі, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, насупраць вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000181 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Капцёўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412В000182 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Каробчыцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000183 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Каўпакі, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000184 | Стаянка перыяду бронзавага веку | 10–9-е тысячагоддзі да н.э. | в. Кашэўнікі, паміж заходняй ускраінай вёскі і чыгункай | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000185 | Селішча перыяду жалезнага веку – сярэднявечча<br>Каменны могільнік | 6–2-е тысячагоддзі да н.э.<br>XI–XIV стагоддзі | в. Коматава, на паўднёвай ускраіне вёскі, 700 м на паўночным усходзе ад вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000186 | Стаянка і селішча Коматава-1 | перыяд каменнага, бронзавага вякоў, сярэднявечча | в. Коматава, 1,2 км на поўнач, на паласе надпоймennай тэрасы | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000187 | Стаянка і селішча Коматава-2 | перыяд каменнага веку, сярэднявечча | в. Коматава, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000188 | Стаянка і селішча Коматава-3 | перыяд каменнага веку, сярэднявечча | в. Коматава, 400 м на паўднёвы ўсход ад Коматава-1 | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000189 | Стаянка і селішча Коматава-4 | перыяд бронзавага веку, позняга сярэднявечча | в. Коматава, насупраць усходняй часткі вёскі, перад рэчкай, на надпойменнай тэрасе р. Нёман | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000190 | Сярэднявечны хрысціянскі могільнік і стаянка Коматава-5 | перыяд каменнага веку, сярэднявечча, новага часу | в. Коматава, насупраць верхняй ускраіны вёскі, на дзюне | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000191 | Стаянка і селішча Коматава-6 | перыяд каменнага, бронзавага вякоў, сярэднявечча, новага часу | в. Коматава, насупраць верхняй ускраіны вёскі, 60 м на поўдзень ад Коматава-5 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000192 | Селішча перыяду сярэднявечча | XI–XIV стагоддзі | в. Кукалі, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000193 | Свята-Мікалаеўская царква | 1862 год | в. Лаша | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000194 | Стаянка перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 10–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Ліхачы, на лясной дарозе ў вёску | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000195 | Стаянка | перыяд каменнага веку | в. Мігова, 1,2 км на паўночны захад ад вёскі, 100 м на поўдзень ад стаянкі Александрова-2 | 3 | 13.09.1995 № 27 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000196 | Свята-Пакроўская царква | 1904 год | в. Мількаўшчына | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000197 | Каменны могільнік | XV–XVII стагоддзі | в. Навумавічы, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 14.09.2004 № 100 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000198 | Паселішча Нямнова-1 Мост каменнага і бронзавага вякоў | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Нямнова | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000199 | Стаянка | XI–XIV стагоддзі | в. Пагараны, на ўсход ад вёскі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000200 | Царква Казанскай Маці Божай | 1901 год | в. Парэчча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000201 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Парэчча | 3 | 21.12.2004 № 104 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000202 | Касцёл Дзевы Марыі | 1904–1906 гады | в. Парэчча | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000203 | Касцёл Святога Апостала Іуды Фадзея | 1919 год | в. Прывалкі, вул. Школьная, 10 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000204 | Селішча перыяду сярэднявечча | XI–XIV стагоддзі | в. Прыгодзічы, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000205 | Майстэрня | перыяд неаліту, бронзавага веку | в. Пужычы, 1,2 км на захад ад вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000206 | Стаянка | перыяд фінальнага палеаліту | в. Пужычы, 1 км уверх ад вусця р. Котра па правым беразе р. Нёман | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000207 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Путрышкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000208 | Селішча перыяду жалезнага веку, сярэднявечча | апошнія стагоддзі 1-га тысячагоддзя да н.э. | в. Рыбніца, 4 км на захад ад вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000209 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Сапоцкін, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000210 | Брацкая магіла | 1941 год | г.п. Сапоцкін, 6 км на захад ад пасёлка | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000211 | Дзве капліцы-пахавальні | 1868, 1893 год | г.п. Сапоцкін, на могілках | 3 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000212 | Палацава-паркавы комплекс:<br>палац<br>інтэр'ер палаца: тры драўляныя лесвіцы, пяць камінаў, дзве печкі, дзверы, вокны, люстры, дэкаратыўнае аздабленне сцен і столі<br>два флігелі<br>парк<br>капліца<br>гаспадарчая пабудова (былы склад) | 1779 год, пачатак XIX стагоддзя, 1930 год | в. Свяцк | 2 | 25.01.2006 № 116, 21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |

Цэнтральны корпус – двухпавярховы мураваны будынак з высокім мансардавым дахам. Галоўны фасад чляянёны трыма рызалітамі. Дваровы фасад мае ў сярэдзіне пяцігранны эркер, які дэкарыраваны пілястрамі і завершаны гранёным шатровым дахам. У дэкоры выкарыстаны дробныя пілястры, парталы ўваходаў, вузкія рызаліты.

Планіроўка першага паверха калідорная, другога – анфіладная. У цэнтральнай частцы сканцэнтравана група парадных памяшканняў разнастайнай формы. Некаторыя пакоі са зрэзанымі ці закругленымі вугламі. Цэнтральнае месца ў планіроўцы займае парадная лесвіца. Апрацоўка інтэр'ера палаца значна багацейшая за знешні дэкор. Элементы інтэр'ера (панэлі, каміны, дзверы, лю-



стры, супрапорты, кансолі, вазоны) створаны архітэктарам Дж. Сака. Вылучаецца дэкаратыўная апрацоўка бельэтажа: калоны, пілястры, ліштвы нішаў і праёмаў. Сцены ўпрыгожвала арнаментальная стукавая лепка. Шэраг залаў быў дэкарыраваны жывапісам рамантычнага характару – пейзажы з руінамі, антычныя збудаванні.

Парк пейзажнага тыпу закладзены ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. Плошча 12 га. У апошні час значна перапланаваны. Перасечаны штучнымі вадаёмамі, каналамі.

У парку насупраць палаца капліца, пабудаваная ў XIX ст. у стылі неаготыкі.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000213 | Касцёл Праабражэння Гасподняга | 1899 год | в. Селіванаўцы | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000214 | Стаянка і селішча | перыяд каменнага веку, сярэднявечча, новага часу | в. Селюкі, 0,3 км на паўднёвы захад ад ніжняй ускраіны вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000215 | Селішча перыяду сярэднявечча, стаянка перыяду каменнага, бронзавага вякоў і сярэднявечча | | в. Сіўкава, у вёсцы на беразе р. Нёман, паміж паўднёва-заходняй ускраінай вёскі і краем тэрасы р. Нёман | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000216 | Стаянка і селішча | перыяд каменнага веку, сярэднявечча | в. Сіўкава, паміж вёскай і ўзбярэжжам р. Нёман, на паласе надпойменнай тэрасы | 3 | 25.01.2006 № 116 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000217 | Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі | 1870 год | г. Скідзель, вул. Зарэчная, 40 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000218 | Брацкая магіла | 1942 год | г. Скідзель, усходняя ўскраіна вёскі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000219 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Скідзель, у парку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000220 | Стаянка Кавальцы-1 | перыяд фінальнага палеаліту | в. Славічы, насупраць ніжняй ускраіны вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 412В000221 | Стаянка і селішча Кавальцы-2 | перыяд мезаліту, бронзавага веку, сярэднявечча | в. Славічы, на надпойменнай тэрасе ад вусця р. Горніца і ўверх па цячэнні р. Нёман да сядзібы былога хутара | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000222 | Стаянка Кавальцы-3 | перыяд фінальнага палеаліту, неаліту, мезаліту, бронзавага веку | в. Славічы, насупраць садовага ўчастка № 1 садовага таварыства «Турыст» | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000223 | Селішча Кавальцы-4 | перыяд сярэднявечча, новага часу | в. Славічы, 0,1 км уверх па цячэнні р. Нёман ад стаянкі-3, насупраць стыку садовых таварыстваў «Турыст» і «Сувязіст» | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000224 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку – сярэднявечча, стаянка перыяду каменнага веку | 10–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Славічы, на паўночнай ускраіне вёскі, уніз па цячэнні р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000225 | Стаянка Славічы-1 | перыяд фінальнага палеаліту | в. Славічы, на поўдзень за лініяй электраперадачы, на трох выступах надпойменнай тэрасы | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000226 | Стаянка Славічы-2 | перыяд каменнага веку | в. Славічы, насупраць верхняй ускраіны вёскі, на надпойменнай тэрасе | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000227 | Селішча | канец 1-га тысячагоддзя да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Солы, на тэрыторыі вёскі, 1 км на ўсход ад вёскі, на паўночна-заходняй ускраіне вёскі, 0,4 км ад паўднёвай ускраіны вёскі, за 50–60 м на ўсход ад стаянкі-3, на месцы стаянкі-5 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000228 | Стаянкі | 10–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Старая Руда, на правым беразе р. Хамутоўка, на левым беразе р. Хамутоўка, побач са стаянкай-2, каля 250 м уніз ад стаянкі-3, па цячэнню ракі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000229 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сухая Даліна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000230 | Паселішча перыяду фінальнага палеаліту, бронзавага веку, сярэднявечча і новага часу | XV–XVII стагоддзі | в. Шчачынова, насупраць заходняй ускраіны вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Дзятлаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000231 | Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера касцёла: тры алтары, амбон, арган, хоры, эпітафія, партал са скульптурай | XVII–XVIII стагоддзі | г. Дзятлава, пл. 17 Верасня | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |



Пабудаваны па фундацыі ўладальніка мястэчка Льва Сапегі і яго сына Казіміра на былой Рыначнай плошчы, на месцы драўлянага храма. Помнік архітэктуры віленскага барока.

Касцёл двухвежавы, зальнага тыпу, з магутнай паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Накрыты двухсхільным дахам (над апсідай конусападобны). Галоўны фасад фланкіраваны трох'яруснымі вежамі і завершаны фігурным шчытом, што прыкрывае тарэц даху. Плоскасць фасада расчлянёна на тры часткі пілястрамі, у сярэдняй галоўны ўваход. Вокны і нішы абрамлены ліштвамі. У нішах фігуркі святых, галоўкі анёлаў і херувімаў. Сцены будынка ўмацаваны контрфорсамі, плоскасці паміж імі прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. Па перыметры будынка праходзіць шырокі карніз.



У інтэр'еры сцены расчлянёны шырокімі неглыбокімі пілястрамі і магутным карнізам. Алтарная частка аддзелена ад залы высокім арачным праёмам. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у апсідзе – крыжовыя. Хоры адгароджаны парапетам складанай канфігурацыі, расчлянёны на тры часткі пілястрамі. У заходняй вежы дзве вітыя лесвіцы: адна на хоры, другая на верхнія ярусы.

Галоўны алтар двух'ярусны, расчлянёны пілястрамі і калонамі карынфскага ордэра, завершаны раскрапаваным антаблементам. Асноўны дэкор сканцэнтраваны на сярэдняй частцы алтара, дзе размешчана шэсць фігур святых (дрэва, таніроўка). Карнізны пояс упрыгожваюць дэкаратыўныя вазы і картушы. Завяршае алтар ляпны картуш. Два невялікія бакавыя алтары нагадваюць галоўны і таксама дэкарыраваны стукавай лепкай і скульптурай. У стылі ракако вырашаны амбон, кансольна навешаны на паўночна-заходнюю сцяну нефа і насычаны ляпной ракайльнай арнаментыкай, геральдычнымі знакамі, драпіроўкамі, картушамі, сімвалічнай атрыбутыкай евангелістаў. Сярод арнаментальных матываў – акантавае лісце, геральдычныя знакі, ракавіны. Пластычны ляпны балдахін амбона завершаны скульптурай анёла. На хорах устаноўлены арган, упрыгожаны накладной разьбой па дрэве, пазалотай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000232 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Дзятлава, вул. Міцкевіча, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 412Г000233 | Будынак былога палаца | 1751 год | г. Дзятлава, вул. Свярдлова, 2 | 2 | 28.02.2002 № 71, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак на высокім цокалі. Спачатку быў завершаны высокім вальмавым дахам і фланкіраваны па баках дзвюма трох'яруснымі вежамі з шатровымі завяршэннямі. Цэнтральны галоўны фасад вылучаны трохчастка-



вым рызалітам з крапаваным лучковым франтонам. У тымпане франтона гербавы картуш князёў Радзівілаў. Рызаліт раскрапаваны чатырма пілястрамі, паміж якімі на другім паверсе размешчаны арачныя нішы з ракавінамі ў завяршэнні. Па перыметры будынка праходзяць прафіляваныя міжпаверхавы і завяршальны карнізы. Фасады рытмічна раскрапаваны плоскімі каніраванымі пілястрамі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны паўцыркульнымі аркамі, сандрыкамі хвалістых і ламаных абрысаў. У дэкоры галоўнага фасада выкарыстаны ракавіны, завіткі, лісце аканта, гірлянды, драпіроўкі, медальёны, геральдычныя знакі. Тыя ж арнаментальныя матывы выкарыстаны ў больш сціплым дэкоры бакавых і дваровага фасадаў. У цэнтры дваровага фасада выступае прамавугольны рызаліт, першапачаткова ўпрыгожаны фігурным атыкам. Вуглы будынка ўмацаваны контрфорсамі.

Спачатку планіроўка будынка была анфіладная. Цэнтральнае месца займала двухмаршавая лесвіца і парадная двухсветлавая зала. Інтэр'ер пры рэканструкцыі ў 1831 г. зменены.

У канцы XVIII ст. вакол палаца разбіты парк з сажалкай. Парк упрыгожвала архітэктура малых форм: масткі, павільёны.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000234 | Курган | XI–XIII стагоддзі | в. Абелькавічы, 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000235 | Гарадзішча, курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Агароднікі, 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, 250 м на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000236 | Курган | XI–XIII стагоддзі | в. Войневічы, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000237 | Стаянка перыяду неаліту | 4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Гезгалы, 1,7 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000238 | Паклонныя камяні | XI–XII стагоддзі | в. Горка, на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000239 | Курган | X–XIII стагоддзі | в. Даўгялавічы, 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000240 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча, селішча перыяду сярэднявечча | VI–VIII, XI–XIII, XV–XVI стагоддзі | в. Дзямянаўцы, 1,5 км на захад ад вёскі, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000241 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Дукрава, 2,5 км ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000242 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Жыхі, 1,4 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000243 | Фрагменты парку былой сядзібы | XIX стагоддзе | в. Жукоўшчына | 3 | 30.06.1998 № 47 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000244 | Каменныя могільнікі перыяду сярэднявечча – пачатку новага часу | XIV–XVII стагоддзі | в. Зарой, ва ўрочышчы Доўбы, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000245 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Колкі, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000246 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Казлоўшчына, вул. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000247 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча – пачатку новага часу | XIV–XVII стагоддзі | в. Карыца 2, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000248 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча – пачатку новага часу | XIV–XVII стагоддзі | в. Кузьмічы, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000249 | Стаянка перыяду бронзавага веку | 2-е – першая палова 1-га тысячагоддзя да н.э. | в. Латышы, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000250 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Маркавічы, 0,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000251 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Наваельня, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000252 | Стаянкі перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 6–5-е тысячагоддзі да н.э. – 4-е тысячагоддзе да н.э. | в. Нясілавічы, на паўночнай ускраіне вёскі, 1,5 км на захад ад вёскі, 0,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000253 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Пруд, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000254 | Гарадзішча | 6–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Саннікі, 0,3 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000255 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Стараельня, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад чыгуначнага моста | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000256 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Талявічы, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000257 | Помнік ушанавання памяці загінуўшых землякоў | 1941 год | в. Харашкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Зэльвенскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000258 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | г.п. Зэльва, 1,5 км на паўднёвы захад ад пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000259 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | г.п. Зэльва, 1,2 км на паўночны захад ад пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000260 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Зэльва | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000678 | Касцёл Святой Тройцы | 1913 год | г.п. Зэльва,<br>вул. 50 год ВЛКСМ, 18 | 2 | 21.05.2008<br>№ 142 | 03.09.2008<br>№ 1288 |



Пабудаваны з цэглы паводле праекта архітэктара І.П. Дзяконскага. Помнік архітэктуры неараманскага стылю.

Касцёл трохнефавы, двухвежавы, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, накрыты высокім вальмавым дахам, які ўтварае з боку галоўнага фасада паміж вежамі двухступеньчатую навісь. Дзве высокія двух'ярусныя вежы завершаны шпілямі. Над апсідай невысокая вежачка каркаснай канструкцыі, увянчаная двух'ярусным шпілем. Уваходная частка касцёла вылучана экзанартэксам у выглядзе адкрытай галерэі з шырокімі паўцыркульнымі і вузкімі стральчатымі праёмамі.

Цэнтральны стральчаты партал вылучаны вімпергам. Пяцігранная апсіда і бакавыя сцены ўмацаваны контрфорсамі. Сцены прарэзаны спічастымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер падзелены шасцю васьміграннымі калонамі на тры нефы.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000261 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Алексічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000262 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Алексічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000263 | Селішчы перыяду ранняга жалезнага веку | VII стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Барукі,<br>у цэнтры вёскі, 0,3 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000264 | Селішча перыяду сярэднявечча | XIV–XVIII стагоддзі | в. Варонічы,<br>0,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000265 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Дзеркачы,<br>0,7 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Г000266 | Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі | 1913 год | в. Дзярэчын | 3 | 05.10. 2004<br>№ 101 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000267 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дзярэчын | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000268 | Спаса-Праабражэнская царква роспіс алтарнай і падкупальнай часткі інтэр'ера | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Дзярэчын | 2 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |

Пабудавана з цэглы ў цэнтры вёскі. Помнік архітэктуры барочна-класіцыстычнага стылю з элементамі рэтраспектыўна-рускага стылю.

Кампазіцыя будынка складаецца з асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, прамавугольнай (унутры паўкруглай) апсіды і бабінца. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з купалам на драўляным светлавым васьмігранным барабане ў цэнтры і чатырма



галоўкамі па вуглах. Сцены будынка завершаны развітым карнізам з сухарыкамі. Паўцыркульныя аконныя праёмы размешчаны ў верхняй частцы, дэкарыраваны броўкамі ў выглядзе какошнікаў.

У інтэр'еры чатыры слупы падтрымліваюць канструкцыю сферычнага купала на ветразях. Над уваходам размешчаны хоры, якія адкрываюцца ў зальнае памяшканне арачным праёмам. Вуглавыя часткі перакрыты крыжовымі скляпеннямі, астатнія падшыты плоскай столлю. Алтарная і падкупальная часткі ўпрыгожаны фрэскавым роспісам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000269 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIV–XVII стагоддзі | в. Івашкавічы, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000270 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XII–XV стагоддзі | в. Кашалі, 2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000271 | Каменныя могільнікі перыяду сярэднявечча | XVI–XVIII, XIV–XVII стагоддзі | в. Клепачы, у цэнтры вёскі, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000272 | Курганныя могільнікі перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Клімавічы, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000273 | Касцёл Св. Юрыя:<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера касцёла: галоўны алтар, бакавыя алтары, амбон<br>уваходныя дзверы<br>надмагільны помнік Вольскіх | 1617 год, XVII–XVIII стагоддзі | в. Крамяніца | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы віцебскім кашталянам М. Вольскім. Помнік архітэктуры рэнесансу.

Аднанефавы бязвежавы храм. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і апсіда з паўкруглым завяршэннем накрыты дахамі з агульным вільчыкам. Галоўны фасад завершаны ступеньчатым франтонам, тымпан якога члянёны плоскімі пілястрамі і аздоблены неглыбокімі нішамі. Сцены ўмацаваны шасцю контрфорсамі. Вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Унутраная прастора зальнага тыпу перакрыта зорчатымі нервюрнымі скляпеннямі. Цэнтральны і два бакавыя алтары дэкарыраваны калонамі карынфскага ордэра, прафіляваны карнізамі. Дэкаратыўная размалёўка ўпрыгожвае тымпаны арачных праёмаў. На хорах устаноўлены арган. Скульптурнае надмагілле фундатараў касцёла Вольскіх выканана ў традыцыях рэнесансу.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000274 | Касцёл Св. Міхаіла | 1782 год | в. Луконіца | 3 | 05.10.2004 № 101 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000275 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Мештавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000276 | Стаянка перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Навасёлкі, 1 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000277 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Пустаборы, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000278 | Каменныя могільнікі перыяду сярэднявечча | XVI–XVIII стагоддзі | в. Пустаборы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000279 | Каменны могільнік, селішча перыяду сярэднявечча | XV–XVIII стагоддзі | в. Росцевічы, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000280 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Снежная, 0,8 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000281 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XVI стагоддзі | в. Старое Сяло, 2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 410Г000282 | Царква абарончага тыпу | канец XV – пачатак XVI стагоддзя | в. Сынкавічы | 0 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



Царква-крэпасць – унікальны помнік абарончага дойлідства сярэдзіны XVI ст. Пабудавана з цэглы на паўночнай ускраіне вёскі. Да нашых дзён захавала сваё аблічча амаль нязменным. У плане ўяўляе сабой крыху перакошаны чатырохвугольнік памерам 17,5x13 м з трохнефавым чляненнем. Усе нефы маюць амаль аднолькавую шырыню (4 м). Таўшчыня сцен дасягае 1,5 м. Высокі двухсхільны дах надае будынку стройнасць і лёгкасць. Чатыры вежы, размешчаныя па вуглах, адрозніваюцца памерамі і архітэктурнымі формамі. Дзве заходнія вежы стаяць на квадратных фундаментах, з трох бакоў іх падтрымліваюць контрфорсы. Верхняя частка вежаў – васьміграннік з трыма ярусамі байніц. Дзве ўсходнія вежы маюць цыліндрычную форму, тут таксама ёсць байніцы. У вежах знаходзяцца лесвіцы, якія некалі вялі да байніц, размешчаных у франтоне. Верхняя частка сцен, акрамя ўсходняй, ахоплена магутнай аркатурай, якая трымаецца на ступеньчатых убудаваных кранштэйнах. У прамежках паміж аркамі знаходзяцца акруглыя байніцы, над імі зроблены назіральныя адтуліны. Гэта дазваляла абаронцам храма сачыць за дзеяннямі праціўніка і весці агонь на большыя адлегласці. Байніцы былі зроблены ў першую чаргу для абароны. Акрамя таго, яны з'яўляюцца важным элементам і сродкам упрыгожвання храма. Асабліва ўмацавана заходняя сцяна царквы. У шчыце франтона зроблены байніцы. У верхняй частцы выкарыстаны «ліхтарык» – своеасаблівы і рэдкі архітэктурны элемент, які выконваў ролю назіральнага пункта.

У архітэктуры выяўляюцца рысы раманскага і гатычнага стыляў. У шчыце франтона неглыбокія, розныя па форме і памерах атынкаваныя і пабеленыя нішы. Яны здымаюць ураджанне цяжкаватасці і масіўнасці, надаюць будынку яркасць і лёгкасць. На усходніх вежах і алтарных апсідах прыблізна на вышыні 3 м знаходзіцца дэкаратыўны паясок у выглядзе плоскай рэльефнай аркатуры з паўцыркульных арак раманскага тыпу, якія абапіраюцца на маленькія кранштэйны. Гэта ўпрыгажэнне арганічна спалучаецца з арачным поясам байніц. Высокі конусападобны дах над алтарнымі апсідамі адпавядае форме ўсходняга франтона. Выразнымі

элементамі готыкі з'яўляюцца стрэльчатыя аркі аконных праёмаў з жалезнай агароджай, зорчатыя скляпенні правай апсіды храма і высокі двухсхільны дах.

Невялікая перакошанасць плана будынка, некаторая скрыўленасць восі апсід у адносінах да нефаў даюць падставы меркаваць, што храм узводзілі мясцовыя майстры, якія выкарыстоўвалі для разбіўкі плана простыя, не вельмі дакладныя вымяральныя інструменты.

У дакуменце 1760 г. паведамлялася, што царква была закладзена ў перыяд кіравання каралевы Боны, паміж 1518 і 1556 гг. У «Акце візітацыі сынкавіцкага храма за 1760 г. » адзначана, што пасярэдзіне даху царквы знаходзіўся вежападобны купал з жалезным крыжам. Купал існаваў да канца XVIII ст. і знік, верагодна, пад час аднаго з рамонтаў. Маюцца звесткі пра тое, што ў кожнай вуглавой вежы быў склеп. У 1760 г. ужо існаваў мураваны бабінец.

У інтэр'еры чатыры васьміграннныя слупы падзяляюць прастору храма на нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі з нервюрамі. Цэнтральная і паўночная апсіды перакрыты крыжовымі, паўднёвая – зорчатымі скляпеннямі. Сцены атынкаваны і расчлянёны прамавугольнымі лапаткамі, аб'яднанымі з слупамі падпружнымі аркамі. Перад храмам бутава-цагляная двух'ярусная чатырохгранная званіца, завершаная шатровым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000283 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Сынкавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000284 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Шулякі, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000285 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XVI стагоддзі | в. Шэйкі, 0,15 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Іўеўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000286 | Ансамбль былога кляштара бернардзінцаў:<br>Петрапаўлаўскі касцёл<br>галоўны алтар касцёла<br>былы жылы корпус<br>агароджа | XVII–XVIII стагоддзі | г.п. Іўе, вул. К.Маркса, 43 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |

Першапачатковы аднанефавы храм узведзены ў 1499 г. па фундацыі троцкага ваяводы Пятра Яновіча. Касцёл пашыраны пры Мікалаю Кішку. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. касцёл спалены. Новы храм асвячоны ў 1787 г. У XVIII ст. на галоўным заходнім фасадзе часткова зменены франтон і надбудаваны вежы, якія набылі выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі і ўвянчаны фігурнымі галоўкамі. У XIX ст. да паўночнай сцяны касцёла прыбудавана капліца. Архітэктура храма мае рысы готыкі, рэнесансу і ракако.

Цэнтральны ўваход вырашаны лучковым праёмам, над ім – вялікае паўцыркульнае акно. Абапал уваходa размешчаны маленькія прамавугольныя вокны. Бакавыя сцены касцёла гладкія, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і завершаны тонкім карнізам. Апсіда і вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны магутнымі контрфорсамі.

Інтэр'ер асноўнага памяшкання падзелены чатырма слупамі на тры нефы. Над уваходнай часткай выцягнутыя ў плане хоры. Нефы і апсіда аднолькавай вышыні, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У інтэр'еры шэсць алтароў (галоўны і пяць бакавых)



2-й паловы XVIII ст. Галоўны алтар мураваны, двух'ярусны, раскрапаваны калонамі і пілястрамі, размаляваны пад мармур, завершаны шырокім карнізным поясам з лучковым франтонам. У алтарных праёмах размешчаны скульптуры Св. Пятра і Паўла, у цэнтры – «Распяцце» (гіпс, паліхрамія). Бакавыя алтары драўляныя, дэкарыраваныя арнаментальнай разьбой і скульптурамі.

Жылы корпус – двухпавярховы будынак, накрыты вальмавым дахам, утвараў прамавугольны ў плане ўнутраны двор, па перыметры якога з трох бакоў праходзіў калідор, злучаны з апсідай. Сцены корпуса прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны карнізам. У інтэр'еры ўсходняга крыла будынка мастацкую каштоўнасць мае абліцоўка печы тэракотавай кафляй XVII ст. з раслінным і геаметрычным арнаментам.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000287 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Іўе, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000288 | Мячэць | 1882 год | г.п. Іўе, вул. Савецкая, 76 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000289 | Стаянка перыяду мезаліту – неаліту | 7–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Бакшты, 4 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000290 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Бакшты | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000291 | Гарадзішча | XV–XVII стагоддзі | в. Геранёны, каля касцёла і парку культуры | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000292 | Рэшткі замка | XV–XVI стагоддзі | в. Геранёны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Паселішча Геранёны згадваецца ў пісьмовых крыніцах пачынаючы з 1-й паловы XV ст. У 1433 г. Жыгімонт Кейстутавіч, вялікі князь літоўскі, падараваў Геранёны разам з Дзевянішкамі, Меднікамі і Тыкоцінам Яну Гаштольду. У 1493 г. вялікі князь Аляксандр пацвердзіў прывілеі на права валодаць Геранёнамі Войцаху Гаштольду, тагачаснаму канцлеру Вялікага княства Літоўскага і віленскаму ваяводзе. Мяркуецца, што на мяжы XV – пачатку XVI ст. і быў пабудаваны мураваны замак. Гаштольды валодалі замкам да 1542 г. Потым ён перайшоў да караля Жыгімонта I, а ад яго – да Жыгімонта Аўгуста. У XVII ст. Геранёны – ва ўладанні Пацаў.

Пад час руска-польскай вайны 1654–1667 гг. замак быў разбураны, але, відаць, неўзабаве яго зноў аднавілі. Вядома, напрыклад, што ў 1670 г. князь Міхаіл Пац аддаў Геранёны разам з Ліпнішкамі ў дзяржаўнае ўтрыманне, а грашовыя прыбыткі ішлі на развіццё велікакняжацкай артылерыі.

У пачатку XIX ст. замак пуставаў, а потым, у сярэдзіне стагоддзя, яго пачалі разбураць.

Замак стаяў на штучнай земляной выспе. Сцены ўтваралі квадрат 27х27 м, на кожным рагу якога стаялі мураваныя вежы, узведзеныя на вапнавым растворы, у традыцыйнай для Беларусі тэхніцы «паласатай» кладкі. Шырока выкарыстаны палявы камень. Цэглай у асноўным абліцоўвалі вежы, і, напэўна, завяршалі сцены (на асобных участках захаваліся да 4 м вышыні).

Падмурак – з вялікіх камянёў, пакладзеных на вапне. Шчыліны старанна запоўнены кавалкамі цэглы і растворам. Вышыня падмурка не больш за 1 м.

Вежы Геранёнскага замка мелі цыліндрычную форму і дыяметр 8 м. Сцены двухметровай таўшчыні складзены з каменю, звонку – цагляная абліцоўка. Кладка гатычная: чаргаванне аднаго лажка і аднаго тычка. Падмуркі вежаў і сцен маюць аднолькавую глыбіню – каля 1 м, лінія каменнай і цаглянай кладак супадае. Аднолькавая не толькі тэхніка кладкі, але і памеры цэглы. Хутчэй за ўсё замкавыя сцены і вежы ўзводзілі ў адзін час. Рэшткі паўночна-заходняй вежы замка сведчаць аб тым, што вежа мела скляпеністае перакрыцце паміж двума ніжнімі паверхамі. Захаваўся аконны праём ніжняга паверха вышынёй 1 м і шырынёй 0,6 м з гатычнай аркай. Шатровы дах замкавых вежаў, дах над баявым ходам сцен і ў палацы накрывала чарапіца-дахоўка.

Ля паўднёвай сцяны замка калісьці стаяў двухпавярховы палац, які ўзвялі хутчэй за ўсё ў канцы XVI ст.

Ад самога замка абарончы вал аддалены на 80 м. Яго значная вышыня (да 10 м) засцерагала замак ад прамога нападання пры стральбе з гармат у час аблогі. У плане вал нагадвае выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Ля падножжа вала ляжаў абарончы роў, які вясною, калі раставаў снег, або ўвосень, у пару дажджоў, запаўняўся вадою.

Цікавы ўезд у Геранёнскі замак – з усходняга боку, дзе вал асабліва магутны, а абарончы роў мае 4 м глыбіні і 15 м шырыні. Уязная замкавая брама перараэала ніжні паверх паўднёва-ўсходняга рандэля, сцены якога, у параўнанні з іншымі, размешчанымі на кожным рагу вала, патоўшчаны да 2,2 м. Трапіць да брамы можна было па лёгкім драўляным мосце, перакінутым праз роў. Магчыма, частка моста перад брамай падымалася. Акрамя таго, справа ад брамы вал меў бастыёнападобны выступ, стратэгічнае прызначэнне якога несумненнае: ён фланкіраваў агнём і мост, і блізкія подступы да брамы. Гэта, так сказаць, правобраз тых бастыёнаў і бастыённай сістэмы ўмацаванняў, якія пачнуць шырока прымяняцца на Беларусі ў 2-й палове XVI ст. і асабліва ў XVII ст.

Не выпадковае, вядома, і размяшчэнне Геранёнскага мураванага касцёла, узведзенага ў 1529 г. Абнесены мураванай сцяной, ён непасрэдна прымыкаў да абарончага рова перад брамай і, такім чынам, з'яўляўся дадатковай перашкодай на шляху да замка.

Геранёнскі замак – яркі ўзор замкавага будаўніцтва ў Беларусі на мяжы XV–XVI стст. Хоць тут і ёсць асобныя элементы еўрапейскай фартыфікацыі, усё ж больш ярка і выразна вылучаюцца мясцовыя ваенна-будаўнічыя традыцыі. Аб гэтым сведчаць і будаўнічыя матэрыялы, і прынцып узвядзення валоў, і мураваны замак з чатырма вежамі, размешчаны на штучнай выспе, што было найбольш характэрна для беларускага ваеннага і царкоўна-цытадэльнага дойлідства тых часоў. Замак стаў як бы сувязным звяном паміж старымі мясцовымі прыёмамі фартыфікацыі і бастыённай сістэмай умацаванняў, якая неўзабаве набыла шырокае распаўсюджанне.

| 412Г000293 | Касцёл Св. Мікалая | 1519 год, XVIII–XIX стагоддзі | в. Геранёны | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны з цэглы ў паўднёва-заходняй частцы вёскі. Помнік архітэктуры стылю барока.

Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды з бакавымі прамавугольнымі сакрысціямі і тамбура. Усе аб'ёмы накрыты двухсхільнымі дахамі. Над апсідай двухсхільны дах пераходзіць у вальмавы. Галоўны фасад двух'ярусны. Першы ярус расчлянёны пілястрамі і фланкіраваны контрфорсамі. Другі ярус аддзелены ад першага карнізам, расчлянёны плоскімі лапаткамі і прарэзаны ў цэнтральнай частцы прамавугольным акном.

Інтэр'ер зальны. Мураваныя алтары (цэнтральны і два бакавыя) выкананы ў стылі класіцызму. Цэнтральны алтар двух'ярусны, расчлянёны калонамі карынфскага ордэра і аформлены драўлянай паліхромнай скульптурай, гарэльефнай кампазіцыяй і жывапісам. Два бакавыя алтары па канструкцыйных асаблівасцях і дэкору паўтараюць цэнтральны. Дэкор аргана зроблены ў стылі ракако. Сюжэтныя і арнаментальныя матывы размалёўкі сцен і арачных праёмаў выкананы ў 1934 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000294 | Касцёл Марыі | 1772 год | в. Дуды | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000295 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Дулькі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000296 | Сядзіба | 1870-я гады | в. Жамыслаўль | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000297 | Каменны могільнік перыяду новага часу | XV–XVIII стагоддзі | в. Кавалі, 0,4 км ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000298 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Кладзенка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000299 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Крывічы, 3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000300 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Куправічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000301 | Казіміраўскі касцёл | пачатак XX стагоддзя | в. Ліпнішкі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000302 | Капліца | другая палова XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Ліпнішкі | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000303 | Стаянка перыяду неаліту | 4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Мікалаева, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000304 | Стаянка перыяду мезаліту | 8–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Морына, 0,3 км ад заходняй ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Стрыйнава | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000305 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Новая Вергань, 3 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000306 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Сенькавічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000307 | Гарадзішча | XI–XVI стагоддзі | в. Трабы, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000308 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Трабы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000309 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIII–XV стагоддзі | в. Чырвоны Бор, на мяжы Іўеўскага і Валожынскага раёнаў, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000310 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Харытоны, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000311 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Юрацішкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Карэліцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000312 | Будынак былога бровара | 1858 год | г.п. Карэлічы | 3 | 03.05.2001 № 65 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000313 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | г.п. Карэлічы, вул. 8 Сакавіка | 3 | 25.02.2003 № 82, 21.05.2008 № 142 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 413В000314 | Каменны могільнік | XII–XIV стагоддзі | в. Альшаны | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000315 | Гарадзішча перыяду жалезнага веку, селішча перыяду сярэднявечча | XVI–XVII стагоддзі | в. Беразавец, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000316 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Малыя Жухавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 410Г000317 | Замкавы комплекс «Мір». Будынкі, збудаванні, планіровачная структура, ландшафтныя кампазіцыі, рэшткі земляных абарончых збудаванняў, элементы абваднення | XV–XX стагоддзі | г.п. Мір | 0 | 04.06.1999 № 53 | 14.05.2007 № 578 |



Першае з летапісных упамінанняў пра Мір адносіцца да 1359 г., калі крыжакі на чале з магістрам Конрадам фон Юнгінгенам спустошылі яго і разрабавалі яго ваколіцы. Граматай вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча ў 1434 г. Мір быў перададзены будучаму віленскаму кашталяну Сеньку Гедыголдавічу. І хоць у грамаце ўпамінаецца ўсяго адзін двор нейкага Дзяміда, археалагічныя матэрыялы пачатку XV ст. сустракаюцца не толькі на тэрыторыі сучаснага пасёлка, але і на другім беразе ракі, на тым месцы, дзе цяпер узвышаецца Мірскі замак.

З 1490 г. Мір належыць беларускім магнатам князям Іллінічам. Першы ўладальнік горада з гэтага роду – Юрый І Ілініч – і з'явіўся ініцыятарам будаўніцтва ў Міры мураванага замка. Дакладных звестак пра час узвядзення Мірскага замка няма. Першыя ўпамінанні аб ім адносяцца да 1531 г. Відавочна, заснаванне мела месца дзесьці на мяжы XV–XVI стст.

Планіровачныя асаблівасці замка (вынясенне за знешні контур абарончых сцен чатырох вуглавых і адной брамнай вежаў), наяўнасць гарматных байніц, якія, дарэчы, размяшчаліся не толькі ў дзвюх абарончых сценах (паўднёвай і ўсходняй), але і на трэцім ярусе паўднёва-заходняй, «гарматнай» вежы) сведчаць аб тым, што будаваўся ён з улікам вынаходніцтва агнястрэльнай зброі і мог уяўляць сабой адзін з лепшых узораў мясцовай фартэцыі свайго часу. Значная ўвага стваральнікаў магнацкай рэзідэнцыі да яе абарончых вартасцей вынікае з наяўнасці іншых больш традыцыйных і архаічных на перыяд будаўніцтва фартыфікацыйных прыстасаванняў. На паўднёва-ўсходняй «тынкаванай» і гарматнай вежах на ўзроўні карніза, а на брамнай вежы на ўзроўні трэцяга паверха захаваліся фрагменты машыкуляў – спецыяльных адтулін,



праз якія можна было зліваць на нападаючых кіпень, гарачую смалу альбо кідаць каменне. Сістэма блакіроўкі ўваходу ў замак была настолькі складанай, што яе аднаўленне ўяўляе цяпер вельмі няпростую задачу. Гэта была адзіная сістэма, у якую ўваходзілі пад'ёмныя драўляныя, акутыя жалезам краты (герсы), двое дубовых варот і пад'ёмны мост, які перакідаўся з больш высокага, чым узровень глебы, брамнага праезду на размешчанае на пэўнай адлегласці ад вежы завяршэнне дарожнага насыпу, накшталт невялікага трампліну. На заходняй і паўночнай абарончых сценах існавалі галерэі верхняга бою. У саміх вежах было ўладкавана шмат накіраваных у розныя бакі байніц, прыстасаваных для выкарыстання больш лёгкай агнястрэльнай зброі. Сувязі паміж абарончымі вежамі на сценах і баявых галерэях былі арганізаваны так, каб заблытаць упершыню трапіўшага туды чужаніцу.

Кожная з вежаў мае свае асаблівасці. Больш за ўсё гэта датычыцца мастацкага аздаблення фасадаў. Брамная і паўночна-ўсходняя вежы былі скрозь укрыты вытанчаным арнаментам. Аздабленне гарматнай вежы ўжо не такое вытанчанае. Мастацкае вырашэнне фасадаў тынкаванай, і відавочна, напластаванай вежаў было, параўнальна, вельмі сціплым. У паўднёвай сцяне замуравана сімвалічная каменная «галава барана». Паводле старажытнай легенды, пакуль існуе гэты «баран», стаяць будзе і замак.

Непаўторнае аблічча Мірскаму замку надае спалучэнне тынкаваных заглыбленых паверхняў ніш з чырвоным колерам вонкавай цэглы. Нішы былі не толькі атынкаваныя, але і афарбаваныя ў ружовы колер вапнай з дабаўленнем тоўчанай цэглы. Швы паміж ліцавымі цаглінамі на фасадах помніка на мяжы XV–XVI стст. фарбаваліся залацістай вохрай, замешанай на вапне. Каляровую кампазіцыю дапаўняла спалучэнне чырвонай і, месцамі, зялёнай паліванай каньковай дахоўкі, рознай па форме і дэталях у залежнасці ад месца знаходжання.

Пры адзіным прынцыпе мадэліравання формы вежаў (накрыты шатром васьмярык на чацверыку), удалым спалучэннем прапорцый дасягалася прывабная разнастайнасць. Больш нізкі ўзровень пераходу адной формы ў другую ствараў ілюзію ўзвышэння самой вежы, якая здавалася тады больш стромкай. Так былі адзначаны толькі самыя акцэнты: брамная і магнацкая вежы.

Трасіроўкі абарончых сцен, што злучалі вежы, у плане не роўныя, а злёгку выгнутыя дугою ад двара. Разглядаць гэта як недакладнасць наўрад ці можна. Ідэальна роўная сцяна па законах оптыкі здаецца крыху ўвагнутай.



Іллінічы валодалі замкам нядоўга – усяго толькі на працягу трох пакаленняў. Унук першага будаўніка замка – граф Свяшчэннай Рымскай імперыі з гэтага роду – быў апошнім яго прадстаўніком. У 1568 г., паміраючы бяздзетным, ён у якасці падзякі за апеку (выхаваннем Юрыя Іллініча малодшага займаўся Мікалай Радзівіл Чорны) перадаў Мір разам з графскім тытулам сыну свайго выхавацеля Мікалаю Крыштофу Радзівілу (па мянушцы Сіротка).

У сваіх шматлікіх вандроўках М.К. Радзівіл Сіротка пазнаёміўся з лепшымі дасягненнямі тагачаснай архітэктуры. Для ўдасканалення сваіх уладанняў ім былі запрошаны майстры з Італіі, пад кіраўніцтвам якіх, верагодна, праводзілася завяршэнне будаўніцтва замка.

Былі ўзведзены два корпусы трохпавярховага з лёхамі палаца. Месца іх размяшчэння рознілася ад першапачатковай задумы (адзін

з карпусоў быў прыбудаваны не да паўднёвай, а да паўночнай сцяны). Усё збудаванне ў цэлым фактычна пераўтварылася ў палац. Функцыю абароны ўзялі на сябе ўзведзеныя ў той жа час земляныя валы з бастыёнамі.

Увядзенне ў помнік элементаў новай рэнесанснай эстэтыкі вымусіла будаўнікоў перайначыць першапачатковае архітэктурна-мастацкае вырашэнне фасадаў некаторых ужо завершаных фрагментаў замка, якія непасрэдна прымыкалі да новага палаца. Іх дэкор, які не адпавядаў новаму замежнаму густу, быў закладзены цэглай і затынкаваны. Тым не менш, агульная кампазіцыя збудавання, аб'ёмныя вырашэнні яго вежаў засталіся нязменнымі.

Завершаныя раней сцены і вежы замка, якія непасрэдна не прымыкалі да новага палаца, былі пакінуты амаль без пераробак. На адзін паверх былі павышаны скляпенні і больш багата аздоблены інтэр'еры капліцы Св. Хрыстафора, размешчанай над уязной брамай, зменены канструкцыі галерэі на заходняй сцяне і замест корпуса дабудавана новая галерэя на паўднёвай. Ля галоўнай вежы перад уездам у замак узнікла падкованападобная ў плане абарончая сцяна-перадбрам'е.

Замак удзельнічаў практычна ва ўсіх войнах, пачынаючы з руска-польскай 1654–1667 гг. і да Айчыннай вайны 1812 г. У больш познія часы такія фартэцыі ўжо не мелі ніякага значэння. Разбурэнні, якія наносіліся кожны раз, былі вельмі значныя. Амаль заўсёды пасля разбурэнняў XVIII ст. замак поўнасцю або часткова аднаўляўся. Пад час аднаўлення ў яго прыўносіліся элементы стылю барока.

З 1812 г. моцна пашкоджаны замак доўга не выкарыстоўваўся. Яго руіны ў сувязі з падзелам маёмасці Радзівілаў не адзін раз пераходзілі з рук у рукі. У 1891 г. уладальнікам замка стаў герой турэцкай кампаніі князь Мікалай Святаполк-Мірскі. Ім быў створаны пейзажны парк. З поўдня на месцы зарослых старых вадаёмаў у 1898 г. быў выкапаны новы вялікі стаў. У парку побач з усходнім абарончым замкавым валам была збудавана радавая капліца-пахавальня Святаполк-Мірскіх.

У 1920-я гг. нашчадкам Міхаілам Святаполк-Мірскім былі распачаты рамонтныя работы па аднаўленні замка. У інтэр'еры помніка былі прыўнесены элементы сецэсіі. Да 1938 г. былі адбудаваны частка ўсходняга палаца, гарматная і тынкаваная вежы. Работы праводзіліся і ў іншых месцах. У канцы 1939 г. у замку была створана вытворчая арцель.

Пад час гітлераўскай акупацыі ў Мірскім замку быў арганізаваны лагер для ваеннапалонных і гета. Пасля вайны, у сувязі з тым, што большая частка Міра была спалена, у прыдатных для жылля памяшканнях аж да 1956 г. жылі пагарэльцы.

Практычныя работы па рэстаўрацыі Мірскага замка распачаты ў 1983 г. У 2000 г. комплекс уключаны ў Спіс аб'ектаў Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

| 412Г000318 | Мазаічная выява на фасадзе капліцы-пахавальні замкавага комплексу «Мір» | канец XIX стагоддзя | г.п. Мір, у парку | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Капліца-пахавальня пабудавана з цэглы ў 1904 г. у палацавым парку князёў Святаполк-Мірскіх пры старажытным замку паводле праекта пецярбургскага архітэктара Р. Марфельда як фамільны храм-пахавальня. Помнік архітэктуры неарускага стылю.

Дынамічна-асіметрычную прасторавую кампазіцыю будынка складаюць прытвор, прамавугольная ў плане зала, пяцігранная апсіда, высокая чатырохгранная званіца з купальным пакрыццём, змешчаная з восі фасада ў яго ўсходні куток. Прытвор вырашаны глыбокім рызалітам з трохвугольным франтонам. Над прытворам размешчана маляўнічае мазаічнае пано з выявай Спаса (залаты фон, сіні хітон, вохрысты лік).

| 411Г000319 | Комплекс Мікалаеўскага касцёла:<br>касцёл<br>брама з агароджай і званіцай<br>будынак былых школы і шпіталя | XVI–XVII стагоддзі | г.п. Мір | 1 | 27.03.2002<br>№ 64 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Першы драўляны касцёл у Міры быў пабудаваны ў пачатку XVI ст. Іллінічамі. Затым на яго месцы Радзівілы пабудавалі ў 1585 г. новы драўляны касцёл Св. Мікалая, асвячоны 18 кастрычніка 1587 г. У 1599 г. князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка пачаў будаўніцтва мураванага храма. Касцёл пабудаваны ў 1605 г., асвячоны 21 жніўня 1605 г. Аўтарства касцёла прыпісваюць архітэктару італьянцу Дж.(Я.).М. Бернардоні. Помнік архітэктуры барока з рысамі рэнесансу і элементамі абарончага дойлідства.

На працягу стагоддзя вонкавы выгляд касцёла не мяняўся. У 1710 г. па ініцыятыве князя Караля Станіслава Радзівіла касцёл быў капітальна адрамантаваны.

Пра тагачасны выгляд касцёла сведчаць інвентары 1719, 1721, 1732 гг. На ўваходзе на касцельныя могілкі стаяла мураваная вялікая брама, крытая дахоўкай і ўвянчаная трыма купаламі і жалезнымі крыжамі. На браме меліся адзін вялікі звон і тры меншыя. З правага боку ад брамы стаяла драўляная званіца з бруса, на якой быў адзін вялікі звон.

Касцёл меў адну вежу на галоўным фасадзе. Да ўвахода ў касцёл вёў мураваны ганак. Уваходныя дзверы былі вялікія двайныя з «форткай». Бабінец асвятляўся праз два акны. З бабінца ў касцёл вялі дзверы сталярскай работы. Падлога ў касцёле была цагляная, часткова выкладзена мармуровымі плітамі. Над сакрысціяй знаходзілася на другім паверсе фундатарскае ложа. Усіх акон налічвалася 13, верхнія вокны мелі алавяную аправу. З абодвух бакоў касцёла размяшчаліся капліцы. У іх налічвалася акон малых акруглых 10. Абапал апсіды былі сакрысціі. Пад апсідай была размешчана прасторная скляпеністая крыпта, у якой знаходзілася каля 30 пахаванняў (у 1866 г. крыпта закапана). Пад хорамі з левага боку, над дзвярамі быў умураваны ў сцяну мармуровы камень з датай асвячэння храма. Усіх алтароў было сем «сніцэрскай работы». Галоўны алтар сталярскай работы меў мураваны прастол. Касцёл, апрача капліц, быў накрыты дахоўкай.

У 1604–1609 гг. побач з касцёлам, злева ад уваходнай брамы, была пабудавана двухпавярховая плябанія. Паводле інвентароў 1719–1732 гг., на першым паверсе плябаніі знаходзіліся сенцы, падлога ў іх была цагляная, столь скляпеністая. Пад плябанскім домам меліся два скляпы, адзін на два закратаваныя акны з боку двара, другі – на адно. Уваходы ў скляпы былі з сеняў.

Пры плябаніі была таксама мураваная ўваходная брама. Сцяна агароджы далей ішла да касцельнай брамы. З боку вул. Замкавай на браме зверху быў умураваны мармуровы камень з подпісам фундатара. З другога боку плябаніі ўздоўж вул. Замкавай плябанскі двор быў абгароджаны драўляным парканам. Касцельны цвінтар з боку рынку ад уваходнай брамы да плябанскага дома быў абгароджаны мураванай сцяной, з астатніх бакоў ад вул. Жухавіцкай і ад плябанскага двара – драўляным плотам.



У 1845 г. праведзены рамонт касцёла на ганарары, сабраныя ў выніку аб'яўленай у 1846 г. У. Сыракомлем агульнапольскай акцыі перакладу лацінскіх паэтаў на польскую мову.

Пасля паўстання 1863–1864 гг. касцёл быў закрыты, 7 кастрычніка 1865 г. пераасвячоны ў праваслаўную царкву Св. Мікалая. У 1876 г. пад час рамонту перакрыты жалезам ніжні ярус храма. У 1888 г. заменены ўвесь астатні драўляны дах на жалезны, пры

гэтым зменены яго выгляд адпаведна праваслаўнаму канону з уладкаваннем драўлянага купала над алтарнай часткай. У 1921 г. зноў вернуты каталікам, дзейнічаў да 1940-х гг. За пасляваенны перыяд былі разбураны два верхнія ярусы вежы, дзве бакавыя круглыя вежачкі.

У 1990 г. касцёл вернуты вернікам, у 2001 г. пачаты рэстаўрацыйныя работы.

Пры касцёле з XVIII ст. існавалі парафіяльная школа і шпіталь. Новы драўляны дом багадзельні быў пабудаваны ў 1893 г.

| 412Г000320 | Троіцкая царква | 1533–1550 гады, 1875 год | г.п. Мір, вул. 17 Верасня | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудавана з цэглы ў гістарычным цэнтры пасёлка (на былой гандлёвай плошчы). Перабудавана пасля пажару 1865 г. і асвячона 9 чэрвеня 1868 г. архіепіскапам мінскім Міхаілам. Храм капітальна перабудаваны ў 1873–1875 гг., пасля чаго 25 мая 1875 г. асвячоны зноў. Помнік архітэктуры ранняга барока і рэтраспектыўнарускага стылю.

Пяцікупальны крыжападобны ў плане храм складаецца з асноўнага аб'ёму, паўкруглай алтарнай апсіды і прамавугольнага ў плане бабінца. Над бабінцам драўляная двух'ярусная званіца, накрытая васьміграным шатром з галоўкай. Над асноўным аб'ёмам пяць купалаў. Плоскія паверхні сцен прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і люнетамі.

| 413Д000321 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Мір, вул. Чырвонаармейская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000322 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Плужыны, 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000323 | Царква Св. Варвары | XVIII стагоддзе | в. Райца | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000324 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сіняўская Слабада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000325 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XII–XIII стагоддзі | в. Сёгда, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000326 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Скрышава, 2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000327 | Стаянкі перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 6–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Ярэмічы, 0,5 км на ўсход ад вёскі, 0,3 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Лідскі раён

| 411Г000328 | Замак | XIV стагоддзе | г. Ліда | 1 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будаўніцтва Лідскага мураванага замка – аднаго з самых вялікіх на тэрыторыі Беларусі (памеры двара прыблізна складаюць 80х80 м) – прыпадае на 1320-я гг.

Для забудовы была выбрана невялікая пясчаная выспа ў балоцістых сутоках рэк Лідзея і Каменка. Выспу ператварылі ў штучную прамавугольную пляцоўку і месцамі яе дасыпалі жвірам, камянямі, буйной рачной галькай да вышыні 5–6 м. З поўначы на адлегласці 7 м ад яе праходзіў шырокі (каля 20 м) роў, які злучаў дзве ракі і аддзяляў умацаванне ад горада.

Работы вяліся 5–7 гадоў. Недалёка ад будучага замка за год-два да пачатку забудовы рабілі ямы для гашэння вапны. Замак пабудаваны з палявога каменю і цэглы. Таўшчыня сцен унізе 2 м, уверсе яны звужаюцца да 1,5 м і пераходзяць у баявую галерэю. Парапет галерэі таўшчынёй 70 см складзены з цэглы, мае адзін рад байніц трох тыпаў. Насціл галерэі абапіраўся на драўляныя бэлькі сячэннем 20х20 см. На паўднёвай і ўсходняй сценах знаходзіліся два цагляныя данскеры (туалеты) на каменных фігурных кансолях.

Спачатку замак меў толькі адну вежу, ад якой засталіся толькі фрагменты падмуркаў.

Замак меў тры ўваходы: адзін – у паўднёвай сцяне на адлегласці 22 м ад вежы, два ўваходы – ва ўсходняй сцяне: малы, зроблены на ўзроўні абрэза падмуркаў сцяны, і вялікі (відаць, крыху пазнейшы), размешчаны каля паўночна-ўсходняй вежы на вышыні 2,5 м. Трапіць у замак праз вялікі ўваход можна было толькі праз пад'ёмны мост.

У канцы XIV – пачатку XV ст. вялікі князь Вітаўт перабудоўвае замак і робіць яго адным з самых магутных у Вялікім княстве Літоўскім. У сувязі з развіццём ваеннай справы для ўмацавання замка ўзводзіцца другая, паўночна-ўсходняя, вежа з разлікам на вядзенне гарматнага бою. Кладзецца яна з цэглы лепшай якасці і іншых памераў – 29–30х14х7,5–8 см.

Вежа прыбудавана да муроў упрытык. Таўшчыня сцен, якія выходзілі на двор, – 3 метры, а дакладкі да двухметровых муроў замка (зроблены з мэтай узмацніць сцены) – 83 см. Падмуркі вежы ляжаць на 70–80 см глыбей за замкавыя.

Пад час раскопак высветлілася, што з трох бакоў (акрамя паўднёвага) да замкавых муроў туліліся драўляныя аднапавярховыя будынкі-казармы (захаваліся астаткі падмуркаў, печаў і абгарэлага бярвення). Непадалёк ад заходняй сцяны стаяў асобны будынак, дзе, напэўна, жыў са сваёй сям'ёй камендант замка.

Ва ўсходняй частцы двара былі два калодзежы. Сярэдзіна замкавага двара была забрукавана. Каля паўднёва-ўсходняй вежы знаходзіліся кузня і салдацкая кухня.

Гістарычны лёс замка надзвычай складаны. У XIV ст. яго муры не раз вытрымлівалі націск крыжакоў. Пасля працяглай аблогі і штурму ў 1384 г. ворагі захапілі замак. Другі раз набег быў зроблены зімой 1392 г. Дасталося замку і ў час міжусобных войнаў. У пачатку XV ст. каля яго муроў апынуліся войскі смаленскага князя Юрыя. Неўзабаве ў 1433 г. замак аблажылі войскі князя Свідрыгайлы. Абаронцы замка мужна адбілі ўсе прыступы захопнікаў. У пачатку XVI ст. да замка падышлі орды крымскіх татараў, аднак штурмаваць умацаваны замак татары баяліся.

У XVI ст. замак атрымаў дадатковае ўмацаванне – штучнае возера, якое прыкрывала яго з усходу.

Летам 1659 г. замак з усіх бакоў аблажыла 30-тысячнае войска царскага ваяводы Мікіты Хаванскага і пасля гарматнага абстрэлу і працяглай асады ўзяло яго. Усе драўляныя будынкі былі спалены, а калодзежы засыпаны. Пасля заканчэння польска-рускай вайны 1654–1667 гг. на тэрыторыі замка ніхто пастаянна не жыў.

Моцны ўдар лідскім умацаванням нанеслі шведы, якія ў пачатку XVIII ст. узарвалі абедзве вежы. Пасля Паўночнай вайны 1655–1660 гг. на тэрыторыі замка жылых пабудоў не было, муры яго паступова пачалі разбурацца. Аднак ва ўцалелых памяшканнях захоўваліся гарадскія акты і праходзілі суды. Амаль канчаткова замак парушыўся летам 1794 г.: у яго руінах вялі бой з царскім войскам паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі.

Трэба адзначыць, што ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. замак яшчэ ўражваў сучаснікаў сваёй магутнасцю. Тады стаялі амаль усе замкавыя муры з байніцамі і аркатурным поясам на паўночнай і ўсходняй сценах, дзе-нідзе рэшткі вежаў захоўваліся да ўзроўню трэцяга паверха.

Канец XIX ст. стаў для замка трагічным. У 1891 г. Ліда згарэла, прычым агонь знішчыў самы яе цэнтр, разам з будынкам ратушы. Мясцовыя гарадскія ўлады, не разумеючы гістарычнай каштоўнасці замка, наладзілі разборку і распрадажу муроў, выкарыстоўваючы іх для адбудовы горада. Тады былі амаль цалкам знішчаны рэшткі паўднёва-заходняй вежы і разабрана частка заходняй сцяны. Толькі ўмяшанне Археалагічнай імператарскай камісіі з Пецярбурга спыніла гэты вандалізм.

У 1909 г. для частковай кансервацыі старажытнага ўмацавання былі адпушчаны невялікія сродкі. Будаўнікі разабралі ненадзейныя месцы муроў, а паверхні сцен абмазалі цэментнай рошчынай. У 1920-я гг. лідскія муры крыху паднавілі польскія рэстаўратары. Яны злучылі каменнай агароджай заходнюю і паўднёвую сцены, часткова залажылі разбураны паўднёва-ўсходні кут і замуравалі бакавыя ўваходы.

У 1920-я гг. зроблена частковая, у 1982 г. – поўная кансервацыя замка.

З 1976 г. на тэрыторыі замка пачаліся археалагічныя і гістарычныя даследаванні. З 1978 г. вядуцца работы па рэстаўрацыі сцен і вежаў замка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000329 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Ліда,<br>вул. Кірава,<br>на тэрыторыі бальніцы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Г000330 | Будынак друкарні | канец<br>XIX стагоддзя | г. Ліда, вул. Ленінская, 23 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000331 | Будынак пошты | 1930 год | г. Ліда, вул. Міцкевіча, 8 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудаваны з цэглы, мае чатырохпавярховы аб'ём. Фасады вырашаны гладка, чляняны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000332 | Комплекс будынкаў піваварнага завода | 1874–1912 гады | г. Ліда, вул. Міцкевіча, 32 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000333 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Ліда, вул. Міцкевіча,<br>у парку | 3 | 25.02.2003<br>№ 28 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| 412Г000334 | Ансамбль былога кляштара піяраў:<br>Свята-Міхайлаўская царква (былы Іосіфаўскі касцёл)<br>кляштарны корпус | 1797–1824 гады, 1863 год (праваслаўная царква) | г. Ліда, вул. Савецкая, 20 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Сучасная царква будавалася як касцёл пры кляштары піяраў. У 1842 г. касцёл гарэў, у 1863 г. перароблены пад праваслаўную царкву. У 1960-я гг. будынак прыстасаваны пад планетарый. Помнік архітэктуры класіцызму.

Храм-ратонда накрыты паўсферычным купалам з васьміграным ліхтаром. Да асноўнага круглага ў плане аб'ёму прылягаюць больш нізкія прамавугольныя ў плане аб'ёмы; па восі ўсход – захад – прытвор з чатырохкалонным порцікам на галоўным фасадзе і двухпавярховыя сакрысціі, з поўдня і поўначы – невялікія рызаліты. У афармленні фасадаў і інтэр'ера выкарыстаны дарычны ордэр. Порцік і рызаліты ўвянчаны трохвугольнымі франтонамі. Унутры па перыметры залы размешчаны восем пар дарычных калон. Па папярочнай восі храма – бакавыя ўваходныя парталы. Столь размалявана ў тэхніцы грызайль з імітацыяй кесонаў і разетак.

Побач з храмам размешчаны аднапавярховы мураваны кляштарны корпус і званіца.

| 412Г000335 | Касцёл Узвіжання Святога Крыжа<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера: тры алтары і амбон, арнаментальная лепка, роспісы скляпенняў і сцен | XVIII стагоддзе | г. Ліда, вул. Савецкая, 2 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны з цэглы як фарны, верагодна, па праекце віленскага архітэктара І.К. Глаўбіца. Помнік архітэктуры барока і ракако.

Т-падобны ў плане, трохнефавы, з прамавугольнай алтарнай часткай, якая прадаўжае цэнтральны неф, і дзвюма квадратнымі ў плане сакрысціямі. Будынак завершаны высокім двухсхільным чарапічным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Кампазіцыя галоўнага фасада двух'ярусная, завершана фігурным франтонам. Плоскасці галоўнага і бакавых фасадаў расчлянёны пілястрамі.

У інтэр'еры касцёла – тры мураваныя стукавыя алтары, выкананыя ў стылі позняга барока. Цэнтральны раскрапаваны чатырма калонамі карынфскага ордэра, размаляванымі пад мармур, і спаранымі пілястрамі таго ж ордэра. Антаблемент з моцнымі раскрапоўкамі і развітым карнізам. Фланкіраваны ў аснове скульптурамі Св. Пятра і Паўла. Алтарная скульптура «Укрыжаванне» размешчана на маляваным фоне з выявай Галгофы, акаймавана ракайльнай рамай. Над ёй у барочным картушы размешчаны абраз «Тайная вячэра». У завяршэнні алтара – ляпныя воблакі вакол круглай люкарны. Аналагічна вырашаны і два бакавыя алтары. Яны ўтвараюць двух'ярусную насценную кампазіцыю на філянговым п'едэстале, на якім узняты дзве карынфскія калоны, што нясуць фігурны шчыт з пуцці і дэкаратыўнымі вазамі. На скляпеннях у ракайльным арнаментальным абрамленні размешчаны фрэскавыя пано «Узвіжанне Святога Крыжа», «Маці Божая», «Дабравешчанне», «Бязгрэшнае зачацце», «Уручэнне ключоў Св. Пятру», чатыры картушы з выявамі евангельскай сімволікі. Гісторыка-мастацкая значнасць надаецца абразу «Маці Божая з дзіцем», прывезенаму быццам з Візны (Беластоцкае ваяводства) у 1376 г. першымі місіянерамі-францысканцамі. Фрэскавы жывапіс выкананы ў вохрыста-умбрыстай каляровай гаме з перавагай блакітна-зялёных таноў. У стылі ракако вырашаны каваны амбон у выглядзе трыльяжнай чашы з накладнымі картушамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000336 | Будынак | 1912 год | г. Ліда,<br>вул. Савецкая, 31 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Г000337 | Будынак | 1912 год | г. Ліда,<br>вул. Фабрычная, 6 | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Г000338 | Крыжаўзвіжанская царква | 1810 год | в. Бабры | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000339 | Міхайлаўскі касцёл | 1900–1907 гады | в. Белагруда, 1 км на поўдзень ад вёскі | 2 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудаваны з цэглы на высокім беразе р. Дзітва на месцы папярэдняга драўлянага касцёла. Помнік архітэктуры неараманскага стылю.

Трохнефавая двухвежавая базіліка шматаб'ёмнай прасторавай кампазіцыі. Яе вертыкальнымі дамінантамі з'яўляюцца дзве двух'ярусныя вежы з шатровымі завяршэннямі. Да асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, далучаны больш нізкія прыбудовы трансепта, пяцігранная алтарнай часткі, бакавых сакрысцій. На галоўным фасадзе ўваход вылучаны высокім парталам, акном-ружай, галерэяй. Цаглянай муроўкай выкананы элементы архітэктурнага дэкору: лапаткі, аркатурныя фрызы, ліштвы адзіночных і здвоеных арачных аконных праёмаў, профілі і раскрапоўкі.

Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі з падпружнымі аркамі і люнетамі, упрыгожанымі фрэскавай арнаментальнай размалёўкай. У завяршэнні нефа – манументальны шматкалонны алтар, над уваходам – арганныя хоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000340 | Селішча перыяду сярэднявечча | VI–VIII, XII–XIII стагоддзі | в. Белагруда | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Г000341 | Касцёл Св. Георгія | 1824 год | в. Беліца, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках | 3 | 13.11.2002<br>№ 77,<br>19.12.2007<br>№ 138 | 14.05.2007<br>№ 578,<br>03.09.2008<br>№1288 |
| 413Г000342 | Крыжаўзвіжанская царква | 1928 год | в. Беліца,<br>250 м на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 13.11.2002<br>№ 77,<br>19.12.2007<br>№ 138 | 14.05.2007<br>№ 578,<br>03.09.2008<br>№1288 |
| 413В000343 | Стаянка перыяду неаліту і бронзавага веку | 3 – 2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Беліца, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на высокім правым беразе р. Нёман | 3 | 04.12.2002<br>№ 79,<br>19.12.2007<br>№ 138 | 14.05.2007<br>№ 578,<br>03.09.2008<br>№1288 |
| 413В000344 | Бескурганны могільнік | XVI стагоддзе | в. Беневічы, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000345 | Стаянка перыяду мезаліту – неаліту | 7–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Бор, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000346 | Стаянка перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 10–7-е тысячагоддзі да н.э. | в. Бурносы, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000347 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Бердаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000348 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Бярозаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000349 | Пакроўская царква | 1774 год | в. Ганчары | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000350 | Стаянка | 10–7-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Ганчары, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000351 | Селішча перыяду жалезнага веку – сярэднявечча | 1-е – пачатак 2-га тысячагоддзя н.э. | в. Гарняты, на паўднёвай ускраіне вёскі, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000352 | Царква Раства Багародзіцы | 1793 год, XIX ста-годдзе | в. Голдава | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000353 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Гуды | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000354 | Стаянка і крэменеапрацоўчая майстэрня перыяду каменнага веку | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Даржы, 1 км на поўнач ад вёскі, каля паўночнага захаду дзюны Боркава гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000355 | Пакроўская царква | пачатак XX стагоддзя | в. Збляны | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000356 | Стаянка-1, стаянка-2, каменны могільнік, селішча | 10–7-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Збляны, 500 м на паўночны ўсход ад вёскі, 600 м на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі Збляны – Беліца на правым беразе р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000357 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча, каменны могільнік | X–XI, XIII–XIV стагоддзі | в. Касоўшчына, 1,5 км на захад ад вёскі, 0,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000358 | Фрагменты былой сядзібы | першая палова XIX стагоддзя | в. Мажэйкава | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000359 | Камень-следавік перыяду бронзавага веку | 3–2-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Мейры, 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000360 | Гарадзішча, селішча | 1-е тысячагоддзе да н.э. | в. Мыто, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, побач з гарадзішчам | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000361 | Касцёл Св. Міхаіла | 1837 год | в. Няцеч | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000362 | Гарадзішча, селішча | VI–X стагоддзі, другая палова 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Вольжава, 1 км на поўдзень ад вёскі, 2 км на поўдзень ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000363 | Селішча<br><br>Стаянка-1, стаянка-2 | канец 1-га тыся-чагоддзя да н.э.<br><br>5-е тысячагоддзе да н.э. | в. Пескаўцы, каля заходняй ускраіны вёскі<br><br>в. Пескаўцы, 0,4 км на захад ад вёскі, каля ўскраіны маладога лесу | 3<br><br>3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000364 | Былая сядзіба | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Тарнова | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

## Мастоўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000365 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Масты, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 28 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000366 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Масты, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 28 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000367 | Свята-Пакроўская царква | 1822 год | в. Бялавічы | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000368 | Каменны могільнік | XIV–XVI стагоддзі | в. Вострава, 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000369 | Стаянка | 3–1-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Выгода, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, 0,3 км на поўнач ад вёскі, 0,25 км на паўночны ўсход ад стаянкі-3 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000370 | Гарадзішча, курганны могільнік | XI–XVI стагоддзі | в. Глядавічы, на паўднёвай ускраіне вёскі, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000371 | Гарадзішча | перыяд жалезнага веку, сярэднявечча | в. Глядавічы, 1 км на паў-ночны захад ад цэнтра вёскі | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000372 | Свята-Мікалаеўская царква | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Дубна | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000373 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Дубраўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000374 | Стаянкі перыяду мезаліту | 5-е тысячагоддзе да н.э. | в. Зальвяны, на мысе тэрасы р. Зальвянка, 800 м на захад ад былой вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000375 | Стаянка перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | хутар Канабаі, 0,8 км на паўночны захад ад хутара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000376 | Комплекс касцёла Св. Ганны | 1782, 1895 гады | в. Лунна | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000377 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Малькавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000378 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XI–XII стагоддзі | в. Маскалі, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000379 | Каменны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Навасёлкі, 0,7 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000380 | Стаянка і селішча | перыяд каменнага і бронзавага вякоў, сярэднявечча | в. Навасёлкі, на паўднёвы ўсход ад верхняй ускраіны вёскі, на прынёманскім краі тэрасы | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000381 | Гарадзішча | X–XIII стагоддзі | в. Навасёлкі, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000382 | Стаянка перыяду неаліту і бронзавага веку | 3–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Пацавічы, 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000383 | Селішча<br><br>Стаянка | XVI–XVIII стагоддзі<br><br>3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Пескі, 0,2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Зальвянка<br>в. Пескі, 1 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Зальвянка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000384 | Свята-Троіцкі касцёл<br>дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера: тры алтары, роспіс, арган | 1740 год, канец XVIII стагоддзя | в. Плябанаўцы | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока.

Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прымыкаюць пяціграння апсіда з сакрысціямі з усходу, бабінец і дзве вуглавыя вежы з захаду (завяршэнні вежаў не захаваліся). Сцены ашаляваныя і ўмацаваныя вертыкальнымі сцяжкамі. Асноўны аб'ём і апсіда накрытыя адным двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Галоўны фасад завершаны высокім франтонам з вежачкай.

Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю – бабінец, прамавугольная зала, глыбокая пяціграння апсіда. Хоры з арганам адкрытыя ў залу паўцыркульным праёмам. Тры разныя алтары з драўлянай скульптурай выкананы ў традыцыях барока. Найбольш багата афармлены трох'ярусны галоўны

алтар (у апсідзе). Невысокі першы ярус алтара дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой расліннага арнаменту. Бакавыя алтары ўпрыгожаны паліхромнай і пазалочанай скульптурай, накладной разьбой. Сцены дэкарыраваны фрызам, арнаментальным і сюжэтным жывапісам, выкананым у тэхніцы грызайль.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000385 | Гарадзішча<br><br><br><br>Курганны могільнік<br><br>Стаянка | X–XIII стагоддзі<br><br><br><br>XI–XIII стагоддзі<br>4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Рыбакі, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, 0,7 км на захад ад паўднёвай ускраіны вёскі, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000386 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Чарлёнка, ва ўрочышчы Глінішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Навагрудскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412В000387 | Гара Міндоўга з тэрыторыяй, абмежаванай вуліцамі Мінскай, 1 Мая і пешаходным пераходам, які злучае вуліцы Мінскую і 1 Мая | XIII стагоддзе | г. Навагрудак | 2 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



Мясцовыя паданні расказваюць аб тым, што тут у XIII ст. пахаваны заснавальнік Вялікага княства Літоўскага князь Міндоўг. Паводле іншых звестак, найбольш верагодна, што тут адбывалася ў 1253 г. каранацыя Міндоўга, які прыняў ад Папы Рымскага Інакенція IV карону і тытул Караля Літвы – першага і адзінага.

Незадоўга да смерці ад рук сваіх палітычных праціўнікаў ён адмовіўся ад каталіцтва і быў пахаваны па паганскаму абраду пад гарой (курганом), якая ў XIX – пачатку XX ст. ператворана ў гарадскія могілкі. Некаторыя надмагільныя пліты захаваліся.

У 1993 г. ля гары Міндоўга ўсталявана памятная дошка работы скульптара У.М. Летуна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000388 | Старыя могілкі | XIX–XX стагоддзі | г. Навагрудак | 3 | 04.06.1999 № 53 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000389 | Будынак | 1935 год | г. Навагрудак, вул. Гродзенская, 2 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000390 | Будынак | 1915 год | г. Навагрудак, вул. Гродзенская, 5 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 411Г000391 | Комплекс былога кляштара францысканцаў:<br><br>касцёл (Мікалаеўская царква)<br><br>кляштарны корпус | 1780–1846 гады (перабудаваны ў царкву) канец XVIII стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Гродзенская, 4, 6 | 1 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



Былыя касцёл і кляштар францысканцаў, што захаваліся да нашага часу, пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст. (1780 г.), паводле некаторых звестак, у 1714 г. Фундатарам будаўніцтва быў навагрудскі падстолі Тамаш Вайніловіч. Вуліца, на якой узведзены касцёл з кляштарам, называлася Францысканскай, пазней атрымала назву Гродзенская.

У 1831 г. кляштар скасаваны, у 1846 г. барочны касцёл быў перабудаваны ў Мікалаеўскую царкву. Капітальна перабудавана на сродкі прыхаджан пасля пажару 1852 г. Помнік архітэктуры позняга барока, пасля перабудовы набыў элементы руска-візантыйскага стылю.

Храм уяўляе сабой трохнефавую базіліку з пяціграннай апсідай. Кампазіцыя галоўнага фасада трох'ярусная, падкрэслена развітым антаблементам.

Кляштарны корпус будаваўся разам з касцёлам. Фасады кляштара вырашаны лаканічна. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу. Цяпер прыстасаваны пад жыллё.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000392 | Будынак | 1930 год | г. Навагрудак, вул. Гродзенская, 12 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000393 | Будынак | 1900 год | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 1 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000394 | Будынак | XVIII – другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 3 | 2 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы мураваны будынак, у плане выцягнуты прамавугольнік, накрыты вальмавым дахам. Сцены гладкія, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на другім паверсе – рамныя абрамленні. З-за рознасці ўзроўняў паверхаў будынак у тарцовай частцы мае цокальны паверх, умацаваны масіўнымі вуглавымі контрфорсамі.

Планіроўка двухчасткавая. Першая частка аддзелена ад другой капітальнай сцяной; прызначалася пад жыллё і гандлёвую ўстанову (раней мела асобны ўваход). Другая – калідорнай планіроўкі, прызначалася для фабрыкі па вырабе муштукоў. У першай частцы размешчана лесвіца, што вядзе на другі паверх, які мае асобны ўваход з боку падоўжнага дваровага фасада.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000395 | Будынак | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 7 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000396 | Будынак | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 9 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000397 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 13 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000398 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 15 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000399 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Замкавая, 27 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000400 | Брацкая магіла | 1939 год | г. Навагрудак, вул. Камсамольская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000401 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | г. Навагрудак, вул. Камсамольская | 3 | 25.02.2003 № 82, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 413Г000402 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. 1 Мая, 1 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 411Г000403 | Фарны касцёл з надмагільным помнікам загінуўшым у бітве пад Хоцінам у 1621 годзе | пачатак XV стагоддзя – пачатак XVIII стагоддзя | г. Навагрудак, вул. 1 Мая, 17 | 1 | 27.06.1996 № 36, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Паводле падання, касцёл быў пабудаваны ў 1395 г. на месцы колішняга язычніцкага капішча. Мураваны касцёл узведзены ў 1719–1726 гг. Помнік архітэктуры готыкі і позняга барока.

Уяўляе сабой аднанефавую базіліку з паўкруглай апсідай і дзвюма вежамі на галоўным фасадзе. У кампазіцыю касцёла ўключаны дзве гранёныя капліцы ранейшага гатычнага касцёла XIV–XV стст. Паводле інвентара 1867 г., быў крыты гонтай. У касцёле налічваліся галоўны алтар, два бакавыя і два ў капліцах.Падлога была цагляная, пад ёй два вялікія склепы. Усіх акон налічвалася сем і па два ў капліцах. З левага боку ад прастола была рызніца на адно акно.

Першапачаткова касцёл быў асвячоны ў імя Усіх Святых, пазней – касцёл Божага Цела, а з 1776 г. – Праабражэння Гасподняга. У гатычным касцёле ў 1422 г. былі павянчаны польскі кароль Уладзіслаў Ягайла і Соф'я Гальшанская.

У 1643 г. па загаду навагрудскага кашталяна Яна Рудаміны-Дусяцкага ў паўночную сцяну капліцы Божага Цела ўмуравана мемарыяльная пліта ў памяць аб браце і паплечніках, загінуўшых у баі з туркамі пад Хоцінам у 1621 г. У касцёле 12 лютага 1799 г. ахрышчаны Адам Міцкевіч.

| 411Г000404 | Рэшткі замка | XIII–XVI стагоддзі | г. Навагрудак, вул. Малы Замак | 1 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Замак з'яўляўся старажытным цэнтрам Навагрудка і рэзідэнцыяй заходнярускіх і літоўскіх князёў. Размяшчаўся на ўзгорку вышынёй 20 м, так званай Замкавай гары. Унікальны помнік абарончага дойлідства эпохі сярэднявечча. Вывучэнне яго ўмацаванняў паказала, што гэта своеасаблівы жывы летапіс беларускай ваеннай архітэктуры. Умацаванні Навагрудскага замка прайшлі шлях ад прасцейшай агароджы-частаколу да наймагутнейшага шматвежавага замка.

Вядома, што ў канцы XIII–XIV стст. замак ні разу не быў узяты варожымі войскамі. Так, Іпацьеўскі летапіс, апісваючы пад 1274 г. штурм Навагрудка галіцка-валынскімі і татарскімі войскамі, адзначае, што дзядзінец горада захапіць не ўдалося. У 1314 г. атрад крыжакоў на чале з магістрам Генрыкам фон Плоцке асадзіў Навагрудак. Захопнікі спалілі горад, а жыхары зачыніліся ў сваім замку і мужна бараніліся. Гэтак жа марна закончыліся намеры крыжакоў у 1391 г. і ў 1394 г. Магчыма, пад час гэтых паходаў старая мураваная вежа (12х12 м) усё ж была моцна пашкоджана. Шурф, закладзены з усходняга боку вежы, адкрыў яе старажытную каменную сцяну, якая на вышыні 4 м ад цокаля фундамента як бы коса ссечана. Тады ж, у канцы XIV ст., гэта вежа была адбудавана, але ўжо не з каменю, а з цэглы. Яна мела меншыя памеры (11,4х11,4 м), вышыня сцен каля 25 м. Па форме вежа нагадвала чатырохгранную прызму, якая паступова звужалася і патанчалася на конус. Таўшчыня яе сцен на ўзроўні першага паверха была 2,75 м, на ўзроўні другога – 2,6 м. Вежа была накрыта чатырохсхільным дахам; увайшла ў гісторыю замка пад назвай Шчытоўка, Шчытавая, Цэнтральная.

У XVI ст. Навагрудскі замак меў сем вежаў і быў адным з самых магутных на Беларусі.

У час руска-польскай вайны 1654–1667 гг. рускія войскі двойчы бралі Навагрудак. У 1655 г., у пачатку верасня, яго занялі казакі І. Залатарэнкі. Пры гэтым замак і горад вельмі пацярпелі пад час асады. Часткова адноўлены ў 1660 г. замак зноў быў заняты войскамі князя А. І. Хаванскага – на гэты раз без бою: наёмны гарнізон, які не атрымаў своечасова плату за службу, адчыніў браму ворагу. Вежы замка Меская, Калодзежная, Малая брама і Пасадская, а таксама праслы сцен былі разбураны да падмуркаў. З прычыны моцных разбурэнняў і спусташэння Навагрудка сейм Рэчы Паспалітай у 1661 г. вызваліў горад ад падаткаў на чатыры гады.

Канчатковы ўдар па замкавых мурах нанеслі шведы ў 1706 г. у час Паўночнай вайны 1700–1721 гг.

У царскай Расіі не клапаціліся аб ахове старажытных помнікаў ваеннага дойлідства. Аб гэтым сведчыць цікавы факт, які датычыцца Навагрудскага замка. У 1802 г. гродзенскі губернатар Бенігсан даў дазвол навагрудскаму гараднічаму Скалону разабраць рэшткі замкавых вежаў з умовай, што каменем з іх вымасцяць вуліцы горада. Відаць, работа ішла марудна, бо ў 1828 г. у данясенні Літоўска-Гродзенскаму губернскаму праўленню паведамлялася, што ў Навагрудскім старажытным замку яшчэ ёсць «две башни довольно... крепкие, немного вверху поврежденные, состоящие в ведомстве Новогрудской экономии».

У канцы XIX ст. на тэрыторыю замчышча праз пралом у мурах пачалі звозіць з усяго Навагрудка смецце, якое пакрыла больш як двухметровым пластам руіны старажытных пабудоў.

У 1906 г. рухнула Касцельная вежа. Дзякуючы намаганням мясцовага аматара старажытнасцей Т. Корзан рэшткі вежы былі падпёрты двума эскарпамі. У гады Першай сусветнай вайны абвалілася паўднёвая сцяна Шчытоўкі.

Толькі ў 1921 г. Навагрудскі замак быў нарэшце ўзяты пад ахову, а ў наступныя 1922–1930 гг. праведзена частковая кансервацыя ўцалелых рэшткаў вежаў. Прычым сцены Касцельнай вежы былі фактычна складзены нанава.

Навагрудскі замак патрабуе кансервацыі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 411Д000405 | Курган Бессмяротнасці Адама Міцкевіча | 1924–1931 гады | г. Навагрудак, вул. Малы Замак | 1 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 411Д000406 | Помнік Адаму Міцкевічу | 1992 год | г. Навагрудак, вул. Малы Замак | 1 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік паэту (скульптар В. Янушкевіч) знаходзіцца непадалёк ад Кургана Адама Міцкевіча, Навагрудскага замка, Фарнага касцёла, дзе быў ахрышчаны А.Міцкевіч, што разам ставарае унікальны гісторыка-культурны комплекс.

Скульптура выканана ў бронзе, яе вышыня 3,1 м, усталявана на палявым валуне.

Урачыстае адрыццё помніка адбылося 12 верасня 1992 г. пад час правядзення Міжнароднага свята ў гонар паэта.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000407 | Рэшткі каменнага млына | канец XVII стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Малы Замак, 22 | 2 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 411Г000408 | Былая сядзіба Міцкевічаў | 1807, 1887, 1955, 1992 гады | г. Навагрудак, вул. Леніна, 1 | 1 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



У 1803 г. пляц, на якім пазней была пабудавана сядзіба, набыў мінскі каморнік Мікалай Міцкевіч за 50 рублёў асігнацыямі. Акт куплі зафіксаваны ў кнізе земскага суда ў 1806 г.

У 1806–1807 гг. драўляны дом Міцкевіча згарэў. Пажары драўляных будынкаў не былі тады рэдкасцю. Мікалай з дапамогай аднаго з навагрудскіх аптэкараў адразу ўзяўся за адбудову дома.

У новым, мураваным ужо будынку, паводле Ігната Дамейкі, «найпрыгажэйшым ва ўсім мястэчку», сям'я Міцкевіча жыла ад 1807 да 1812 г., да смерці бацькі паэта. Гэты памятны год прынёс новыя палітычныя надзеі і падзеі. У доме гэтым, магчыма, спыняўся брат Напалеона – кароль Геранім, а больш праўдападобна – дырэктар французскай палявой пошты спадар дэ Лявалет.

Хутка Міцкевічы пакідаюць гэты дом (маці аддае яго ў арэнду), сям'я пераходзіць жыць у флігель. У іх доме пасяляецца аптэкар Краеўскі, які неўзабаве, у 1819 г., памірае. У гэтым жа годзе Адам скончыў Віленскі універсітэт.

Пасля смерці маці 9 кастрычніка 1820 г. дом атрымалі ў спадчыну чатыры браты: Францішак, Адам, Аляксандр і Ежы. Гаспадаром дома стаў Францішак, які ў 1824 г. атрымаў афіцыйныя паўнамоцтвы, што дазвалялі яму афармленне ўсіх маёмасных спраў. Ягоным намерам было сплаціць пазыкі. Браты Францішка раз'ехаліся: Аляксандр меў юрыдычную практыку ў Кіеве, а пазней – у Харкаве; Ежы – медык, знаходзіўся на Валыні, Адам быў сасланы ў Расію.

Францішак жыў у Навагрудку да выбуху лістападаўскага паўстання 1830 г. Ён удзельнічаў у паўстанні, служыў падпаручнікам у 3-м палку ўланаў. Потым пад Варшавай быў паранены, атрымаў вайсковую ўзнагароду і разам з нямногімі паўстанцамі трапіў у Прусію.

У 1833 г. Гродзенская ліквідацыйная камісія секвестравала маёмасць Францішка. Аднак у сувязі з тым, што сядзіба была малая і ў бядотным стане, двор не падлягаў канфіскацыі, і 12 верасня 1838 г. яго купіў за 2285 рублёў Юльян Біелт, які адрамантаваў дом і

здаў яго ў арэнду. Нейкі час у ім жыў паэт Юльян Корсак (вучыўся калісьці з Адамам у Віленскім універсітэце), якому прынёс славу пераклад «Боскай камедыі» Дантэ. Корсак памёр у Навагрудку ў 1855 г. Пасля яго смерці ў гэтым доме пражывала сям'я Маркевічаў. Гэта іх у 1861 г. наведаў сын паэта Уладзіслаў Міцкевіч.

У 1863 г. згарэў драўляны флігель. У 1881 г. быў знішчаны пажарам дом. Ацалелі толькі падмурак і скляпы.

Нанава адрамантаваны дом адразу зноў трапіў у арэнду.

У час Першай сусветнай вайны ў доме кватаравалі па чарзе ваенныя штабы: нямецкі, польскі і бальшавіцкі.

У маі 1922 г. у Навагрудку зноў пабываў і наведаў родны дом 86-гадовы Уладзіслаў Міцкевіч. У хуткім часе пасля гэтага візіту ў Навагрудку было створана добраахвотнае навуковае таварыства «Міцкевічаўскі камітэт», які 10 мая 1930 г. вырашыў стварыць музей. У лістападзе 1936 г. «Міцкевічаўскі камітэт» заняў флігель і размясціў у ім бюро будучага музея. У чэрвені 1937 г., калі скончыўся тэрмін арэнды дома, «Міцкевічаўскі камітэт» арганізаваў у ім урачыстае пасяджэнне пад кіраўніцтвам навагрудскага ваяводы Адама Сакалоўскага.

Адкрыццё музея адбылося 11 верасня 1938 г. 22 чэрвеня 1941 г. будынак знішчыла фашысцкая бомба.

26 лістапада 1955 г. да 100-годдзя з дня смерці паэта быў адноўлены і адкрыты Дом-музей Адама Міцкевіча. У 1989–1990 гг. рэканструяваны: будынку нададзены выгляд пачатку XIX ст., пабудаваны флігель, які злучаны з асноўным будынкам падземным пераходам, свіран, студня, альтанка.

Урачыстае адкрыццё Дома-музея Адама Міцкевіча адбылося 12 верасня 1992 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000409 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Навагрудак, пл. Леніна, 2 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000410 | Будынак | XX стагоддзе | г. Навагрудак, пл. Леніна, 3 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000411 | Будынак | першая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, пл. Леніна, 4 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000412 | Будынак | сярэдзіна XIX стагоддзя, 1876 год | г. Навагрудак, пл. Леніна, 5 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000413 | Будынак | 1882 год | г. Навагрудак, пл. Леніна, 6 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000414 | Будынак | сярэдзіна XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Навагрудак, пл. Леніна, 7 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000415 | Будынак | першая палова XIX стагоддзя, 1900 год | г. Навагрудак, пл. Леніна, 9 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000416 | Будынак | першая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, пл. Леніна, 10 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000417 | Мячэць | 1855, 2000 гады | г. Навагрудак, вул. Леніна, 28 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000418 | Будынак | 1870 год | г. Навагрудак, вул. Мінская, 1 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000419 | Будынак былых гандлёвых радоў | 1812 год | г. Навагрудак, вул. Мінская, 3 | 2 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



Гандлёвыя рады ўзведзены на пляцы, які належаў навагрудскім езуітам па тыпавым праекце, складзеным у Санкт-Пецярбургу. Уяўлялі сабой у плане выцягнуты няправільны чатырохвугольнік-трапецыю. Галоўны фасад аформлены каланадай дарычнага ордэра і акцэнтаваны трохвугольным франтонам у цэнтры з паўцыркульным аконным праёмам, аздобленым ліштвай з замковым каменем. На галоўным фасадзе былі ўваходныя дзверы ў крамы. Крамы асвятляліся аконнымі праёмамі на тыльным фасадзе. Будынак нязменна праіснаваў да 1953 г. У мэтах прыстасавання пад прамысловы магазін была зменена ўнутраная планіроўка, канструкцыя даху (паніжаны) і зняты ў цэнтры фасада трохвугольны франтон.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000420 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Мінская, 5 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000421 | Комплекс будынкаў па вул. Мінскай | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Мінская, 60, 62, 64 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000422 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 6 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000423 | Будынак | 1926 год | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 9а | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000424 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 10 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000425 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 11 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000426 | Будынак | 1926 год | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 13 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000427 | Будынак | 1927 год | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 15 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000428 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 19 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000429 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Міцкевіча, 20 | 2 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000430 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 3 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000431 | Будынак | 1920–1929 гады | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 4 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000432 | Будынак | 1930 год | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 5 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000433 | Будынак | 1923 год | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 6 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000434 | Будынак | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 7 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000435 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 9 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 411Г000436 | Комплекс Барысаглебскага манастыра:<br>Барысаглебская царква<br>галоўны алтар<br>манастырскі корпус | XVI–XIX стагоддзі | г. Навагрудак, вул. Паштовая, 10 зав. Паштовы, 3 | 1 | 27.06.1996 № 36, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Заснаваны ў 1-й чвэрці XVII ст. пры мітрапаліцкім Барысаглебскім саборы протаархімандрытам ордэна базыльян, пазней кіеўскім уніяцкім мітрапалітам І.В. Руцкім, які на ўтрыманне манахаў прызначыў частку прыбыткаў Лаўрышаўскага манастыра. Паводле меркавання некаторых гісторыкаў, манастыр пры Барысаглебскім саборы існаваў з XIV ст. як праваслаўны. На 1-й і 2-й кангрэгацыях базыльян (1617, 1623 гг. ) Навагрудскі манастыр названы другім пасля Віленскага. У сярэдзіне XVII ст. манастыр ахвяраваў на ўтрыманне рымскай рэзідэнцыі базыльян 24 залатыя фларыны.

Пэўны час пры манастыры дзейнічала школа для свецкіх асоб. У 1666 г. манахі пратэставалі супраць канкурэнцыі езуітаў у галіне адукацыі.

Пасля руска-польскай вайны 1654–1667 гг. манастыр збяднеў і заняпаў, у 1671 г. у ім былі толькі два манахі. Скасаваны разам з Лаўрышаўскім манастыром пры ліквідацыі уніі ў 1839 г.

Складаецца з мураванай царквы і мураванага аднапавярховага манастырскага корпуса.

Барысаглебская царква пабудавана ў 1519 г. на месцы старажытнага храма XII ст. (быў выкладзены з плінфы на месцы язычніцкага капішча; рэшткі храма ўвайшлі як частка падмурка новай царквы). Вядома, што ў XIV ст. пры храме існаваў мужчынскі манастыр, з 1624 г. – жаночы, з 1628 г. – мужчынскі уніяцкі манастыр базыльян. У 1839 г. царква зноў вернута праваслаўным.



Першапачаткова царква была пабудавана ў гатычным стылі. Уяўляла сабой чатырохслуповы храм зальнага тыпу з пяціграннай апсідай. Была перакрыта зоркавымі нервюрнымі скляпеннямі. Аконныя праёмы былі спічастага абрысу.

У 1632 г. царква перабудавана – разабрана заходняя сцяна і дабудаваны двухвежавы фасад. У XIX ст. дабудаваны прытвор і зменены вежы на галоўным фасадзе. Храм – помнік архітэктуры сімбіёзнага гатычна-рэнесанснага стылю з рысамі абарончага дойлідства.

Манастырскі корпус – аднапавярховы прамавугольны ў плане з невялікай прыбудовай з боку тарцовага фасада будынак. Накрыты вальмавым дахам. На тарцовым фасадзе два магутныя контрфорсы. Фасады вырашаны лаканічна. Сцены атынкаваныя, чляняцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Па перыметры будынка праходзіць карніз.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 411Г000437 | Міхайлаўскі касцёл былога кляштара дамініканцаў | першая палова XVIII стагоддзя | г. Навагрудак, вул. Савецкая, 2 | 1 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |



У XVII ст. у Навагрудку быў заснаваны кляштар дамініканцаў. У 1624 г. віленскі ваявода Крыштоф Хадкевіч даў дамініканцам пляц, дом, пабудаваў драўляны касцёл Св. Яцака. Драўляны касцёл згарэў у 2-й палове XVII ст.

Мураваны касцёл узведзены ў 1724 г. Меў памеры 20х14 саж. Уяўляў сабой трохнефавую бязвежавую базіліку. Быў накрыты жалезам. Падлога была з мармуровых пліт і часткова з цэглы. Цэнтральны неф (даўжэйшы за бакавыя) перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, бакавыя – крыжовымі. Касцёл зведаў два пажары. У 1751 г. пасля рамонту быў асвячоны ў гонар архангела Міхаіла, і ў 1831 г. адбудаваны, набыў сучасны класіцыстычны выгляд.

У інвентары 1867 г. галоўны фасад ахарактарызаваны як «тасканскага парадку». У 1859 г. над галоўным фасадам надбудавана невялікая вежачка-званіца, увянчаная жалезным крыжам. У тым жа годзе былі дабудаваны атыкавыя сценкі над капліцамі па баках галоўнага фасада. На ўваходзе ў касцёл прыбудаваны прытвор, крыты жалезам. З другога боку прытвора мелася невялікае закратаванае паўкруглае акенца. У касцёл вялі вялікія «добрай апрацоўкі» дзверы паўкруглыя, да паловы зашклёныя. Унутры існавалі хоры, абапёртыя на два мураваныя слупы. На хорах у 1859 г. быў устаноўлены арган. У інтэр'еры існавалі дзевяць мураваных алтароў і адзін драўляны. Галоўны алтар двух'ярусны, дэкарыраваны каланадай, гіпсавымі фігурамі і ляпнінай («штукатурыямі»). Паміж калонамі з двух бакоў стаялі чатыры гіпсавыя статуі, над каланадай знаходзіліся ляпныя херувімы і анёлы. Усе астатнія мураваныя алтары Св. Дамініка, Св. Ганны, Маці Божай, Св. Філамены, Св. Іосіфа, Св. Антонія, Св. Станіслава, Св. Алены таксама былі багата дэкарыраваны каланадай, статуямі, ляпнымі херувімамі і анёламі. Вылучаўся насычанасцю аздаблення алтар Св. Алены, размешчаны насупраць амбона. У алтарах значная колькасць жывапісных работ выканана настаўнікам навагрудскай гімназіі Эдуардам Паўловічам.

Амбон размяшчаўся пры другой пілястры з правага боку ад ўвахода. Характарызаваўся як прыклад «добрай скульптурнай работы», яго выпукласці былі пазалочаныя. Перад клірасам вялікага алтара вісела на ланцугу бронзавая жырандоль з пазалотай на 24 падсвечнікі і ўпрыгожаная прызмачкамі уральскага шкла.

У 1853 г. дамініканскі кляштар быў скасаваны. З 1857 г. Міхайлаўскі касцёл стаў фарным (прыходскім). У 1898 г. у ім была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар А. Міцкевіча, які вучыўся ў дамініканскай школе (дзейнічала пры кляштары). У касцёле зберагаецца фундатарскі партрэт К. Хадкевіча і алтарны абраз архангела Міхаіла.

У 1829 г. з левага боку ад касцёла была пабудавана мураваная званіца вышынёй 5 саж. У ёй месціліся тры званы.

Мураваны двухпавярховы кляштар не захаваўся. Тэрыторыя кляштара была абнесена цагляным і драўляным плотам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000438 | Комплекс забудовы па вул. Савецкай | 1930-я гады | г. Навагрудак,<br>вул. Савецкая, 22, 24, 26, 30 | 3 | 27.06.1996<br>№ 36 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000439 | Будынак былой Навагрудскай беларускай гімназіі | пачатак XX стагоддзя | г. Навагрудак,<br>вул. Сячко, 1 | 2 | 27.06.1996<br>№ 36 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Трохпавярховы мураваны будынак, накрыты вальмавым дахам. Па перыметры будынка праходзіць карніз. Цэнтральная частка фасада вылучана рызалітам, які завершаны прамым атыкам. У рызаліце на трэцім паверсе аконныя праёмы паўцыркульнага абрысу, астатнія аконныя праёмы прамавугольныя без ліштваў. Уваход афармлены парталам з прамым сандрыкам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000440 | Будынак | XX стагоддзе | г. Навагрудак, вул. Чырвонаармейская, 1 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000441 | Комплекс драўлянай забудовы па вул. Чырвонаармейскай | 1930-я гады | г. Навагрудак, вул. Чырвонаармейская, 4, 6, 8 | 3 | 27.06.1996 № 36 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000442 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча | XII–XIII стагоддзі | г. Навагрудак, ва ўрочышчы Батароўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000443 | Курганныя могільнікі перыяду сярэднявечча | X–XI стагоддзі | в. Брацянка, 1 км на захад ад вёскі, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000444 | Курганны могільнік, селішча | XII–XIII стагоддзі | в. Валеўка, 4 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000445 | Свята-Петрапаўлаўская царква са званіцай | 1736 год, 1840–1870-я гады, 1930-я гады | в. Валеўка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана ў 1736 г. з дрэва ва ўсходняй частцы вёскі як Троіцкі касцёл кляштара дамініканцаў. У 1830-я гг. касцёл пераўтвораны ў праваслаўную царкву. Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока.

Царква складаецца з асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму, да якога ў паўднёвай частцы дабудавана пяцісценная апсіда, у паўночнай – трох'ярусная званіца (1930-я гг.). Да апсіды з захаду на ўсю вышыню асноўнага зруба далучана капліца, з усходу – невысокая рызніца. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Бакавая капліца мае двухсхільны дах, апсіда – трохсхільны. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Па ўсім перыметры храма праходзіць шырокі прафіляваны карніз. Сцены прарэзаны высока размешчанымі лучковымі аконнымі праёмамі.

Галоўны фасад несіметрычны. Яго фланкіруюць два аб'ёмы (ніжні ярус былых вежаў, верхнія зняты ў 1840-я гг.). Фасад завершаны трохвугольным ламаным франтонам, цэнтральная частка якога вылучана гарызантальнай шалёўкай. Званіца складаецца з трох чацверыковых ярусаў: першы – глухі, другі і трэці прарэзаны на ўсю вышыню паўцыркульнымі праёмамі. Над цэнтральнай часткай асноўнага аб'ёму ў 1870-я гг. пастаўлена невысокая галоўка на васьміграннным барабане. У інтэр'еры вылучаецца цэнтральнае зальнае памяшканне з бэлечным перакрыццем. Алтарная частка аддзелена металічнай агароджай. Іканастас драўляны, двух'ярусны, дэкарыраваны накладной драўлянай разьбой з пазалотай. Над уваходам – хоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000446 | Стаянкі перыяду неаліту – бронзавага веку | | в. Васілевічы, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, 0,6 км на паўночны захад ад вёскі, 0,2 км на ўсход ад стаянкі-1 | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000447 | Стаянка перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Гнесічы, 200 м ад правага берага р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000448 | Курган | X–XIII стагоддзі | в. Дзяляцічы, 4 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000449 | Каменныя магілы, курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Каменка, 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гавейша, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000450 | Курган | X–XIII стагоддзі | в. Кашалёва, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000451 | Мемарыяльны знак «Навагрудскі кацёл» | | в. Куравічы | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000452 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча | X–XI стагоддзі | в. Ладзенікі, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000453 | Фрагменты замка:<br>дзве вежы<br>земляныя ўмацаванні з рэшткамі абарончых збудаванняў<br>былы палац<br>флігель | XVI–XIX стагоддзі | г.п. Любча | 2 | 28.02.2002 № 71, 21.05.2008 142 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |



У 1581 г. старостам жмудскім Янам Кішкам было распачата будаўніцтва мураванага замка ў Любчы. Гэтая дата выразана на сцяжку старажытнага флюгера-ветраніка, які знайшлі мясцовыя краязнаўцы. Ужо ў 1588 г. быў складзены першы інвентар Любчы і Любчанскага замка. Вядома, што ў 1590 г. Любча атрымала магдэбургскае права, мела свой герб у выглядзе сярэбранай падковы з трыма залатымі крыжамі і дзвюма сярэбранымі рыбамі – ласосямі ў блакітным полі. Згодна з гістарычнымі крыніцамі XVII ст., быў і іншы герб Любчы – выява двух вежаў на сцяне.

Любчанскі замак узнік на краі мястэчка, на ўчастку высокага левага берага Нёмана памерамі, блізкімі да квадрата, – 85х85 м. З трох бакоў вакол замчышча быў абарончы роў шырынёй да 30 м і глыбінёй 7–8 м (з захаду і поўдня) і да 10 м з усходу, з чацвёртага боку замак прыкрываўся Нёманам.

З паўднёвага захаду і паўднёвага ўсходу замчышча захаваліся дзве магутныя мураваныя вежы. Першая была варотнаю ў выглядзе куба, які на вышыні каля 8 м пераходзіць у васьміграннную прызму. Аснова вежы – квадрат памерам 9,8х9,8 м. Вежа мела чатыры ярусы бою. Па сваім вырашэнні гэтая вежа вельмі падобная да вежаў Мірскага, Навагрудскага і Віцебскага замкаў. Змешаная готыка-рэнесансная муроўка дазваляе надзейна датаваць вежу 2-й паловай XVI ст. Пра гэта сведчыць і знойдзены флюгер-ветранік з лічбай «1581». Першапачаткова гэтая вежа, відаць, была адзінай каменнай вежай у драўляным замку. Згодна з інвентаром ад 2 ліпеня 1601 г., варотная вежа Любчанскага замка мела наверсе «светлицу» і сховішча для «стрельбы», «баню», накрытую «железом белым», а таксама «звон на зегар завешаны». Злева ад вежы стаяла кухня, зруб і далей, над Нёманам, другая «башта троха

недамурованая». Далей, па краі замкавага ўзвышша, стаялі розныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы: вялікі дом на падвале высокім мураваным, клець, другі падвал меншага памеру, хата сталовая з некалькімі каморамі і святліцамі, дзе меліся кафляныя печы, «каморка патрэбная», туалет, падклет з чатырма вярхамі. На чацвёртай дзялянцы знаходзілася вуглавая паўднёва-ўсходняя каменная вежа. У аснове вежы закладзены квадрат 8,9х8,9 м. Яна была трох'яруснай: на першым мелася чатыры байніцы для стрэльбаў, на другім – чатыры гарматныя, на трэцім – 12 байніц для стрэльбаў. Цокальны паверх вежы ў 1601 г. займаў вінны склеп з драўлянымі дзвярамі на завесах і жалезнай кратай. Паверх, які знаходзіўся вышэй, тады выконваў ролю склепа. Ён закрываўся абабітымі жалезам дзвярыма. Вокны былі ўмацаваны жалезнымі кратамі. На ўчастку ад гэтай вежы і да ўязной брамы стаяў «дом на падклецце», тры «гмахі» і «дварэц», дзе жылі ўраднікі, а побач – замкавы бровар. Паводле інвентароў і графічных матэрыялаў, у Любчанскім замку ў XVII ст. было чатыры вежы, кожную з якіх упрыгожвалі флюгеры з гербамі Радзівілаў.

Мястэчка Любча таксама было абаронена парканам, мелася ўязная брама «прускага муру», г. зн. фахверкавай канструкцыі з дрэва і цэглы, якія стаялі ля ўезду з боку Навагрудка і Сенніцы.

У 1655 г. Любчу ўзялі казакі І. Залатарэнкі, яна моцна пацярпела. Па апісаннях замка за 1813 г., у ім мелася толькі дзве вежы. Замак злучаўся двума мастамі з мястэчкам і замкавым фальваркам, размешчаным на ўсход ад замка.

У 1864–1870 гг. на тэрыторыі Любчанскага замка быў пабудаваны палац. Мураваны палац з рысамі несапраўднай готыкі меў сіметрычную трохчасткавую кампазіцыю, якую стваралі прамавугольныя ў плане бакавыя аднапавярховыя накрытыя двухсхільнымі дахамі крылы (галоўны двухпавярховы аб'ём з вальмавым дахам). Фасады галоўнага аб'ёму былі вылучаны рызалітамі: паўночна-ўсходнім (завяршаўся трохвугольным франтонам), паўднёва-заходнім і цэнтральным (завяршаліся парапетам). У месцах раскрапоўкі і на вуглах размяшчаліся вежы, афармленыя зубцамі. Сцены тарцоў бакавых крылаў завяршалі ступеньчатыя франтоны з прамавугольнымі праёмамі. Прамавугольныя вокны палаца былі ўпрыгожаны сандрыкамі. У галоўным аб'ёме (калідорная планіроўка) размяшчаліся залы і жылыя пакоі, у бакавых крылах – гаспадарчыя памяшканні. Інтэр'еры залаў і пакояў мелі багатую лепку, кафляныя печы. Тры лесвіцы, якія вялі з першага на другі паверх, былі ўпрыгожаны балясамі. Часткова разбураны ў гады Першай сусветнай вайны.

У 1947–1949 г. г. з выкарыстаннем фундаментаў і фрагментаў сцен палаца пабудавана сярэдняя школа.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000454 | Стаянка перыяду каменнага веку – ранняга сярэднявечча | X–XI стагоддзі | г.п. Любча, 1,5 км на паўночны ўсход ад пасёлка, на беразе р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000455 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Любча, пл. Салабуціна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000456 | Курган перыяду сярэднявечча | XI стагоддзе | в. Мольнічы, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000457 | Курганны могільнік<br><br>Стаянка | X–XIII стагоддзі<br><br>4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Панямонь, 1,3 км на захад ад вёскі, 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000458 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | XI–V стагоддзі да н.э. | в. Радагошча, 0,8 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000459 | Стаянкі перыяду мезаліту | 7–3-е тысячагоддзі да н.э. | воз. Свіцязь, на паўночна-заходнім беразе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000460 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Суляцічы, на левым беразе р. Валатоўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000461 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Сунчыцы, 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000462 | Курганны могільнік і селішча перыяду сярэднявечча | X–XI стагоддзі | в. Сялец, 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000463 | Камень-следавік | перыяд бронзавага веку | в. Сянежыцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000464 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>парк<br>касцёл<br>капліца-пахавальня | пачатак XV–XVII стагоддзе, XIX стагоддзе | в. Уселюб | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Бібліяграфічныя крыніцы дазваляюць выказаць дастаткова абгрунтаваную гіпотэзу пра будаўніцтва мураванага касцёла ва Уселюбе ў 1-й чвэрці XV ст. уладальнікам мястэчка Янам Нямірам. У некаторых дакументах названа дата 1433 г. Вядома, што ў гэтым годзе вялікі князь літоўскі падараваў маёнтак Уселюб Андрэю Неміровічу. У 1576 г. касцёл пераўтварылі ў кальвінскі збор, а ў 1642 г. вярнулі каталікам. З гэтага часу ён вядомы пад назваю храма Св. Казіміра.

Касцёл – помнік архітэктуры готыкі. Аднанефавая з адной апсідай пабудова, блізкая да квадрата. З паўночнага і паўднёвага бакоў да апсіды прымыкаюць дзве сакрысціі. Уваход у касцёл – з заходняга боку. Сцены выкладзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (28–29x13–14x8–9 см), якая мае гладкую паверхню.

Наяўнасць контрфорсаў, падмурка апорнага слупа, слядоў скляпенняў на сценах касцёла, нервюрнай цэглы ў культурным слоі дае магчымасць сцвярджаць, што першапачаткова касцёл быў перакрыты мураванымі скляпеннямі. У 2-й палове XVI – 1-й палове XVII ст. яны абваліліся і былі заменены плоскай драўлянай столлю на бэльках. Мураваныя скляпенні былі адноўлены толькі ў апсідзе. Тады ўпершыню фасады касцёла былі атынкаваны. На даху ўзвялі невялікую драўляную вежачку-званіцу.

Побач з касцёлам узвышалася драўляная званіца. Тэрыторыя вакол касцёла была абнесена драўляным парканам.

Вопісы касцёла сведчаць, што асноўныя перабудовы адносяцца да 1790–1810 гг. і 1898 г., калі заходні фасад набыў сучасны выгляд (прыбудавана трох'ярусная вежа). Рамонты выконваліся ў 1721 г. (прыбудаваны новы бабінец, зроблена новая падлога, алтары, перакрыты гонтай дах), у 1862 г. На галоўным фасадзе замест прытвора ўзведзена трох'ярусная вежа-званіца памерам 9x9x60 арш.

Касцёл ва Уселюбе спачатку быў аднаслуповым збудаваннем, якое з усходу заканчвалася гранёнай апсідай. Да гэтага часу такі тып касцёла не быў вядомы ў беларускай архітэктуры. Адзіным яму аналагам на тэрыторыі Усходняй Еўропы з'яўляецца касцёл пачатку XV ст. у Рысці (Эстонія). Такія храмы будаваліся ў Польшчы (Кракаў, касцёл Св. Крыжа XIV–XVI ст.; Люблін, капліца Св. Тройцы канца XIV ст.), Чэхіі (Прага, касцёл Дзевы Марыі, 1360 г., на «Траўнічку»; Жытава, касцёл Св. Крыжа, 1400 г.; Лоўчым, Фарны касцёл, 1400 г. ; Сабеслаў, касцёл Св. Віта апошняй чвэрці XIV ст.). На аснове аналагаў, памераў цэглы і кампазіцыі фасадаў касцёл ва Уселюбе можна датаваць 1-й паловай XV ст.



У 1986 г. пажар знішчыў завяршэнне вежы, дах і сістэму перакрыццяў асноўнага аб'ёму, прэсбітэрыя і паўночнай сакрысціі.

У 1988 г. касцёл адноўлены, асвячоны 14 верасня 1991 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000465 | Селішчы, курганныя могільнікі | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Чарэшля, ва ўрочышчы Замэчак, злева ад дарогі Чарэшля – Дзяляцічы, на ўсходнім беразе воз.Чарэшля, каля вёскі, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, 2 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000466 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чарэшля | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000467 | Фрагменты ансамбля былога палаца Храптовічаў:<br>флігель<br>вяндлярня<br>парк<br>бібліятэка | другая палова XVIII – канец XIX стагоддзя | в. Шчорсы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |






Іаахім Літавор Храптовіч заснаваў у 1770-я гг. палацава-паркавы ансамбль. Праект быў заказаны італьянскаму архітэктару Дж. Сака, інтэр'еры выконваў Карла Спампані, будаўнічымі работамі кіраваў Я. Габрыэль. Фактычна менавіта І.Л. Храптовіч «адкрыў» Дж. Сака, хоць той працаваў у Рэчы Паспалітай ужо з 1735 г., але да гэтага часу буйных заказаў не атрымліваў. Француз Я. Габрыэль – аўтар унікальнай царквы ў Шчорсах. З італьянскім архітэктарам К. Спампані – кіраўніком перабудовы езуіцкага калегіума ў Вільні ў 1772–1773 гг. І.Л. Храптовіч пазнаёміўся ў ходзе работы Адукацыйнай камісіі, дзе прымаў удзел. Такім чынам у перыяд 1770–1776 гг. у Шчорсах для Храптовіча працавала адна з самых моцных па творчаму патэнцыялу еўрапейскага ўзроўню архітэктурных садружнасцей у Рэчы Паспалітай.

Галоўны корпус палаца ўяўляў сабой прамавугольнае ў плане аднапавярховае збудаванне, узнятае на невысокі падмурак. На трох цэнтральных восях стаяў двухпавярховы папярочны корпус, накрыты авальным усечаным зверху купалам і з галоўнага фасада расчлянёны пілястрамі карынфскага ордэра з трохвугольным франтонам у завершы. У парк аб'ём выступаў моцным паўкруглым рызалітам. Па перыметры купальнай часткі ішлі авальныя люкарны. З боку ўезду гэта частка будынка была выканана ў выглядзе несапраўднага рызаліта з дзвярамі галоўнага ўвахода, высокімі арачнымі вокнамі на першым і прамавугольнымі на другім паверхах. У другой палове XIX ст. да дома далучыўся ганак-тэраса. Відаць, у гэты ж час на плоскасці франтона з'явіўся рэльефны надпіс на лацінскай мове «Мір і Свабода». Фасады чляніліся пілястрамі і высокімі арачнымі вокнамі ў простых ляпных ліштвах з замковым каменем. Высокі трохсхільны, накрыты чарапіцай дах аднапавярховых крылаў прарэзвалі барочныя дахавыя вокны.

З галоўным корпусам межавалі два перпендыкулярна размешчаныя аднапавярховыя флігелі, накрытыя высокімі чатырохсхільнымі дахамі з чарапічным пакрыццём і барочнымі мансарднымі вокнамі. Сцены будынкаў апрацаваны рустам, прамавугольныя вокны дэкарыраваны паўкалонамі, трохвугольнымі сандрыкамі.

На першым і на другім паверхах папярочнага аб'ёму з боку парку меліся дзве залы-ратонды, з галоўнага фасада – квадратныя вестыбюль і кулуар параднай залы. Залы-ратонды афармлены ў тэхніцы стука, расчлянёны парамі пілястраў іанічнага ордэра. Паміж пілястрамі знаходзіліся арачныя рамы, завершаныя гарызантальна падвешанымі ляпнымі гірляндамі з выкарыстаннем матываў барока і ракако. Верхні паверх папярочнага купальнага корпуса займала карцінная галерэя (100 палотен) і знакамітая бібліятэка Храптовічаў, у якой налічвалася да 8000 тамоў. Сынам І.Л. Храптовіча Юзафу і Адаму ўдалося ў 1-й чвэрці XIX ст. павялічыць збор да 15 000 тамоў. У славутай Шчорсаўскай бібліятэцы працавалі астраном М. Пачобут-Адляніцкі, гісторыкі І. Лялевель, Ф. Малеўскі, Я. і А. Снядэцкія, Ю. Ярашэвіч, паэты А. Міцкевіч, Я. Чачот і інш.

Ансамбль палаца ўключаў і фантан. У час археалагічных раскопак былі выяўлены рэшткі керамічнага водаправода XVIII ст. Уязная алея падводзіла да брамы, аформленай у барочным стылі. Яна складалася з моцных варот чыгуннага ліцця, падвешаных на мураваных пілонах, злучаных фігурным гербавым шчытом. Шырокія слупы прамавугольнага сячэння мелі па краях руставаныя лапаткі, у верхняй частцы завяршаліся карнізам з пастаўленымі на ім літымі скульптурнымі групамі ў выглядзе антычных кампазіцый, са сцягоў і ваенных атрыбутаў. Аўтарам гэтых скульптурных кампазіцый з'яўляўся К. Спампані.

Парк плошчай каля 40 га закладзены аднachасова з палацам. Шырокая ўязная алея ў чатыры рады ліп вяла да асноўнага паркавага масіву, які цягнуўся на захад і паўночны захад ад палаца і меў пейзажную арганізацыю вакол велізарнага партэра. Першапачатковая кампазіцыя не захавалася. Пасадкі прабіваліся каскадам сажалак з плацінамі. Зараз парк набыў рысы лесапаркавай зоны.

Палац – самая ранняя буйная работа Дж. Сака – яскравы помнік архітэктуры, які сінтэзаваў прыёмы позняга барока і ранняга класіцызму, а таксама ілюстраваў так званы стыль Станіслава Аўгуста. Палац з'яўляўся не толькі выдатным творам дойлідства, але і каштоўным помнікам культуры, цесна звязаным з гісторыка-культурным жыццём краіны.

У час Першай сусветнай вайны палацава-паркавы ансамбль у Шчорсах панёс вялікія страты з-за праходзячай праз гэтыя мясціны лініі фронту. Асабліва пацярпеў палац. У час грамадзянскай вайны пры савецкай уладзе ўся маёмасць Храптовічаў была нацыяналізавана, каштоўная калекцыя старажытнасцей і твораў мастацтва вывезена ў Маскву, а архіў – у Пецярбург. Пасля 1920 г. А. Храптовіч-Буцянёў упарадкаваў гаспадарку маёнтка. Ён адрамантаваў для пражывання шматлікай сям'і флігель эканома маёнтка. Пасля Другой сусветнай вайны маёнтак Шчорсы стаў часткай мясцовага калгаса. Асноўныя збудаванні комплексу прыйшлі ў канчатковы заняпад, парк запушчаны і забалочаны.

| 412Г000468 | Дзмітрыеўская царква з брамай і домам старасты | 1776 год | в. Шчорсы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Царква пабудавана як уніяцкі мураваны храм па фундацыі Храптовічаў. Аўтар праекта – італьянскі архітэктар Дж. Сака пры ўдзеле французскага дойліда Я. Габрыэля. Помнік архітэктуры пераходнага стылю ад барока да класіцызму.

Аднанефавы прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам. Апсіда і бакавыя памяшканні размешчаны ў асноўным аб'ёме. На галоўным фасадзе на чатырохступеньчатым стылабаце – чатыры масіўныя слупы, што ўтвараюць порцік, завершаны трохвугольным франтонам. Над ім – невысокая вежа-званіца на чацверыковай аснове (завяршэнне вежы не захавалася). Сцяна галоўнага фасада расчлянёна плоскімі лапаткамі, паміж якімі невялікія прамавугольныя аконныя праёмы. Бакавыя фасады двух'ярусныя, падзелены шырокім прафіляваным карнізам.

Інтэр'ер зальны, перакрыцце – цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі на падпружных арках. Сцены дэкарыраваны падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера не захавалася.

Царква абнесена драўлянай агароджай з мураванымі слупамі і трохпралётнай брамай.

## Свіслацкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000469 | Будынак былой гімназіі (бальніца) | 1802–1803 гады | г.п. Свіслач, вул. Дзяржынскага, 3 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак накрыты двухсхільным дахам. Заходні тарцовы фасад афармлены каланадай дарычнага ордэра з атыкам. Два ўваходы на бакавым фасадзе завершаны ў выглядзе порцікаў з дзвюма парамі квадратных у сячэнні слупоў. Унутраная планіроўка і дэкор інтэр'ера не захаваліся.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000470 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Свіслач, вул. 17 Верасня | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Д000471 | Помнік К. Каліноўскаму | 1958 год | г.п. Свіслач, вул. Леніна | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000472 | Фрагменты былой сядзібы | XIX стагоддзе | в. Вердамічы | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |



Комплекс збудаваны ў XIX ст. на землях, набытых Юльянам Эдуардавічам Талочкам, упершыню маёнтак пазначаны як маёмасць Талочкаў у 1817 г. Паколькі будынак не захаваўся, гістарычныя звесткі пра палац, даволі падрабязна выкладзеныя ў артыкуле гісторыка культуры Р. Афтаназы па ўспамінах С. Талочкі, трэба прыняць за аснову. Але ёсць некалькі ўдакладненняў. Адно з іх датычыцца аднапавярховага корпуса, які, па меркаванні Р. Афтаназы, быў збудаваны каля 1830 г. пасля выкарчоўкі лесу пад новую сядзібу. Між тым выяўлена, што ніякай выкарчоўкі не было, а здавён часу быў тут маёнтак Ю. Булгарына. Магчыма, і першы дом існаваў здаўна, з XVIII ст., а то і раней. Нават калі першы дом быў драўляны і не захаваўся, напэўна, новы быў пастаўлены на месцы старога – ва ўсёй сядзібе ёсць толькі адзінае, адпаведнае для будаўніцтва панскага дома месца. Рэльеф мясцовасці і размяшчэнне ставоў пацвярджаюць гэта.

Знешні выгляд яго добра вызначаецца па малюнку Н. Орды і фотаздымках пачатку XX ст.

Выгляд парку перад набыццём маёнтка Талочкамі дакументальна не пацверджаны. Мясцовыя жыхары сведчаць, што складзеная з пляскатага каменю агароджа вакол парку вельмі старая, яшчэ з XVIII ст. У сувязі з гэтым можна меркаваць аб існаванні тут рэгулярнага парку ў XVIII ст., ад якога застаўся кавалак ліпавай алеі. Відаць, межы тэрыторыі панскай сядзібы заставаліся нязменнымі на працягу двух апошніх стагоддзяў.

Аўтарам планіроўкі парку канца XIX ст. з'яўляецца Іван Капітонавіч Плотнікаў, аб чым сведчаць яго подпісы на чарцяжах праекта і на каштарысе. Пра архітэктара вядома, што ён скончыў Імператарскую акадэмію мастацтваў у Пецярбургу, прыняты на службу ў Гродзенскае будаўнічае аддзяленне ў 1891 г. на пасаду малодшага архітэктара, у 1897 г. меў чын калежскага сакратара.

У 1903 г. Плотнікаў значыцца як губернскі архітэктар і мае чын калежскага асэсара, а ў 1909 г. пры той жа пасадзе чын надворнага саветніка.

Узнікненне капліцы звязана з перапахаваннем сына Ю.Э. Талочкі і жаданнем заснаваць у 1906 г. сямейную пахавальню. Аўтар капліцы таксама І.К. Плотнікаў. Яе архітэктура належыць да стылю мадэрн, што адпавядае таму часу, калі праект быў выкананы (1906 г. ). Капліца захавалася да нашага часу, але значна пашкоджаная. Зараз вядзецца яе аднаўленне.

Першыя звесткі пра новаўвядзенні – заснаванне пры маёнтку спіртзавода. Хутчэй за ўсё, ён базіраваўся на старым бровары, які мог тут існаваць яшчэ пры Ю. Булгарыне. Існуюць дзве даты заснавання завода: 1840 г. падае «Вся Россия» за 1912 г. і 1847 г. называе «Указатель фабрик и заводов» за 1887 г. У дакументах самога завода дата яго заснавання не ўказана, аднак па некаторых даных можна прасачыць яго развіццё. Так, у 1862 г. галоўны вытворчы будынак быў аднапавярховы, мураваны. У 1905 г. з паўночна-ўсходняга боку да старога будынка прыбудоўваецца двухпавярховая частка. У такім выглядзе галоўны корпус завода захаваўся да нашых дзён. У тым жа 1905 г. тэрыторыя завода складала 1740 кв. саж. (0,8 га).

Варта спыніцца на архітэктурным аблічы прыбудоўкі да галоўнага корпуса спіртзавода. Яе велічны фасад з двума высокімі стрэльчатымі вокнамі і круглым зашклёным акном-ружай пад шчытом звернуты на паўночны ўсход і заўсёды застаецца ў цені. Імпазантны фасад нагадвае знешнім выглядам велічны сабор. Спіртзавод быў для гаспадароў самым галоўным «карміцелем» і сімвалам усяго іх заможнага жыцця.

Паўночна-ўсходні фасад спіртзвода з'яўляецца унікальным па прыгажосці прыкладам прамысловай архітэктуры канца XIX – пачатку XX ст. Аўтар праекта нам дакладна не вядомы. Паводле ўскосных даных пры параўнанні архітэктуры завода і капліцы можна меркаваць, што ім быў І.К. Плотнікаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000473 | Каменныя магілы перыяду сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Вілейшы, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000474 | Каменныя могільнікі | XIV–XVI стагоддзі | в. Вялікая Свянціца, ва ўрочышчы Чырвоны Ган і Ровы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000475 | Касцёл былога кляштара францысканцаў з фрагментамі агароджы | 1792 год | в. Грынявічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы на паўночнай ускраіне вёскі пры кляштары францысканцаў (скасаваны ў 1832 г.). Касцёл у 1839 г. перароблены пад праваслаўную царкву і перабудаваны. Твор архітэктуры барока, яго завяршальнай стадыі развіцця.

Храм трохнефавы, базілікальны, з бязвежавым фасадам і прамавугольнай апсідай. Накрыты пакатым (раней высокім) двухсхільным дахам. Крывалінейны галоўны фасад трох'ярусны, дэкарыраваны карнізнымі паясамі, спаранымі пілястрамі і завершаны фігурным франтонам. Дзверы галоўнага ўвахода з каванымі фігурнымі накладкамі.

Інтэр'ер меў выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю. Галоўны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, бакавыя – плоскія з драўлянымі перакрыццямі. Над уваходам размешчаны хоры. Сцены расчлянёны спаранымі пілястрамі і шырокім карнізным поясам.

Захаваўся ў напаўзруйнаваным стане, збераглісся фрагменты мураванай агароджы і брама XVIII ст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000476 | Стаянкі перыяду каменнага і бронзавага вякоў | 7–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Грыцкі, 0,7 км на паўночны ўсход ад вёскі, 0,2–0,3 км на паўночны захад ад вёскі, уздоўж усходняй ускраіны вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000477 | Селішча перыяду сярэднявечча | XII–XVII стагоддзі | в. Качкі, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000478 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Новы Двор | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000479 | Каменныя магілы перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVIII стагоддзі | в Палуянкі, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000480 | Міхайлаўскі касцёл<br>скульптура і дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера, звон з гравіраванымі рэльефамі | 1825–1828 гады, XVIII стагоддзе | г.п. Поразава | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы і бутавага каменю ў цэнтры гарадскога пасёлка, у акружэнні бутавай агароджы з брамай-званіцай. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.

Прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам з галоўкай. Сцены складзены з часанага каменю. Пілястры на фасадах, прамавугольныя абрамленні аконных праёмаў, фрыз, карніз і франтон галоўнага фасада цагляныя, атынкаваныя. Інтэр'ер зальны, столь плоская, драўляная. Уздоўж заходняй сцяны – хоры.

Разныя алтары, кафедра, паліхромная драўляная скульптура (XVIII ст.) – характэрныя ўзоры народнага манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

У надбрамнай званіцы – звон з сюжэтнай гравіроўкай, адліты ў 1749 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000481 | Камень-следавік | перыяд бронзавага веку | г.п. Поразава, 1 км на паўднёвы захад ад пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000482 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>парк | сярэдзіна XIX стагоддзя | г.п. Поразава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Сядзіба закладзена, відаць, на месцы старой у канцы XIX – пачатку XX ст. у формах неабарока. Займае роўную тэрасу р. Рось каля пасёлка. Прамавугольны ў плане будынак з драўлянага бруса на падмурку, накрыты высокім ламаным дахам. Сцены звонку ашаляваныя, унутры атынкаваныя. Вокны прамавугольныя. Тры рызаліты (над сярэднім мансарда) вылучаны на галоўным фасадзе прамавугольнымі выступамі, з боку парку – гранёнымі эркерамі з ламанымі дахамі. Тарцы дома фланкіраваны двухпавярховымі вежападобнымі алькежамі, завершанымі шатровымі дахамі. Цэнтральны ўваход аформлены ганкам на чатырох слупах. У аздобе фасадаў выкарыстана разьба (балясіны, валюты, ліштвы). Планіроўка дома калідорная (раней была анфіладная). Перад галоўным фасадам круглы партэр. За домам – парк рэгулярнай планіроўкі з сістэмай узаемна перпендыкулярных алей.



Парадная частка мае сіметрычна-восевую пабудову. На восі размешчана шырокая (10 м) уязная ліпавая алея. За дрэвамі адкрываецца партэр сядзібным домам. Вось сіметрыі перад партэрам падкрэслена дзвюма шчыльнымі групамі клёну. У цэнтры яго размешчаны круг з кветнікам.

Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца сядзібны дом з высокай ламанай страхой, пабудаваны з бруса. Сцены ашаляваныя, у сярэдзіне атынкаваныя. Будынак мае складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Бакавыя фасады фланкіраваны двухпавярховымі вежамі, падобнымі на альковы і завершанымі шатровымі стрэхамі.

Паркавы фасад мае гранёны эркер з ламанай страхой, парадны фасад упрыгожвае ганак на чатырох слупах, якія трымаюць мансарду. З усходняга і паўночнага бакоў дом абкружае пейзажны парк. Да яго з заходняга боку ў выглядзе баскета прымыкае сад і гаспадарчы двор. Ад партэра праз парк да гаспадарчага двара праходзіць ліпавая алея, якая заніруе заходнюю частку парку з маляўнічымі рэдкімі пасадкамі старых дрэў (елка, граб, ясень, таполя белая, дуб, конскі каштан, ліпа, клён, бяроза).

Алея (захаваліся 23 дрэвы), відавочна, элемент старой кампазіцыі. Яна прадстаўленая дрэвамі ва ўзросце 150–180 гадоў.

Паўночна-ўсходнюю частку парку займае вялікая паляна, абсаджаная нешырокай паласой дрэў з чаромхай. Уздоўж яе, перпендыкулярна пойме, праходзіць другая ліпавая алея шырынёй 4 м. У пойме была невялікая водная сістэма з трох вадаёмаў, запоўненых вадой з Росі. Сістэма парушана, вадой запоўнены адзін квадратны вадаём.

Частка парку за сядзібным домам прадстаўлена дрэвамі: ліпа, клён, елка, ясень, конскі каштан, белая акацыя.

Ад гаспадарчых пабудоваў захавалася часткова гумно. Сядзіба належыць бальніцы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000483 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Поразава,<br>вул. 1 Мая, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000484 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Поразава, на паўднёвы захад ад пасёлка | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000485 | Стаянка | 7–1-е тысячагодзі да н.э. | в. Ражкі,<br>2,2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000486 | Стаянка | 7–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Ранявічы,<br>300 м на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000487 | Бескурганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Сакольнікі,<br>на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000488 | Каменныя магілы | XIV–XVI стагоддзі | в. Студзенікі,<br>на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000489 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Ханявічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000490 | Гарадзішча | X–XIII стагоддзі | в. Хрустава,<br>1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000491 | Каменны могільнік | XIV–XV стагоддзі | в. Ятвеск,<br>1,2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Слонімскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000492 | Мячэць (былая гаспадарчая пабудова) | другая палова XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Агінскага, 10 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000493 | Будынак чыгуначнага вакзала з воданапорнай вежай | 1922 год | г. Слонім, вул. Вакзальная, 11 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000494 | Былы народны дом (руіны) | XIX стагоддзе | г. Слонім, вул. В. Крайняга, 18 | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000495 | Будынак банка | 1905 год | г. Слонім, вул. В. Крайняга, 21 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000496 | Комплекс кляштара бернардзінцаў:<br>касцёл (Троіцкая царква)<br>дэкаратыўнае аздабленне<br>галоўны і шэсць бакавых алтароў<br>жылы корпус | XVII–XVIII стагоддзі | г. Слонім, вул. В. Крайняга, 23, 25 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Мужчынскі бернардзінскі кляштар размяшчаўся на Бернардзінскай вуліцы, у паўночна-ўсходняй частцы горада. Уваходзіў у абарончую сістэму Слоніма. Кляштар заснаваны Андрэем і Кацярынай Радванамі ў 1630 г. Спачатку касцёл быў драўляны. Мураваны храм пабудаваны ў 1639–1645 гг. і асвячоны ў 1671 г. Касцёл рэканструяваны пад царкву (асвячона ў 1867 г.) гродзенскім губернскім інжынерам Нябольсіным.

Храм – помнік архітэктуры барока і ракако. Базілікальны, аднанефавы, перакрыты цыліндрычным скляпеннем, над прытворам трох'ярусная вежа-званіца. Паўночная сцяна ўмацавана контрфорсамі. Па баках прэсбітэрыя прыбудаваны квадратныя ў плане невысокія капліцы – паўночная ў 1668 г., паўднёвая ў 1750 г.

Інтэр'ер храма, як і яго вонкавае аблічча, адзначаецца суровай прастатой. Неф пераходзіць у больш вузкі прэсбітэрыум, які выдзелены алтарнай перагародкай і завершаны паўкружжам апсіды, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і конхай у алтарнай частцы храма. Прасценкі ўмацаваны слупамі-пілястрамі, аб'яднанымі з вонкавымі контрфорсамі ў адзіны канструкцыйны элемент, які падтрымлівае распор скляпенняў. Як і сцены, скляпенні пазбаўлены дэкаратыўнай апрацоўкі. Толькі іх верхняя частка аздоблена ляпным геаметрычным дэкорам. З заходняга боку нефа на трохпралётнай аркадзе і крыжовых скляпеннях узвышаюцца барочныя хоры, якія агароджаны фігурным увагнута-выпуклым парапетам.

Дэкаратыўная кампазіцыя інтэр'ера пабудавана на паступовым маштабным і дэкаратыўным нарастанні групы бакавых алтароў, у якой дамінуе галоўны цэнтральны алтар апсіды (XVIII ст.). Выкананы маналітна са сцяной, ён мае сіметрычна-восевую шматкалонную і шматфігурную архітэктоніку: на цокаль у выглядзе арачных ніш з крапаваным п'едэсталам і табернакулам устаноўлена каланада цёмна-карычневага стука, яна нясе раскрапаваны антаблемент з фігурамі лунаючых анёлаў. (Пасля 1864 г. у алтары ўстаноўлены іканастас.) Па цэнтры першага яруса галоўнага алтара ў прамавугольнай раме размешчаны абраз Св. Тройцы (XVIII ст., палатно, алей). У прасценках апсіды ўстаноўлены бакавыя, меншыя па памеры і больш сціплыя па кампазіцыі алтары. Прэсбітэрыум аддзяляецца ад залы храма вуглавымі алтарамі, раскрапаванымі пучкамі пілястраў і завершанымі барочнымі ўвагнута-выпуклымі

франтонамі. У прасценках нефа захаваліся яшчэ два накладныя алтары меншага памеру. Арнаментыка ўсіх алтароў заснавана на тэмах ракако: насычаныя крапоўкамі і арнамантальнай ляпнінай пілястры, валюты, ракайлі, ракавіны, вазы, фігуркі анёлаў.

Двухпавярховы П-падобны ў плане жылы корпус, які прымыкае з паўднёвага боку да апсіды храма, абмяжоўвае прамавугольны курданёр, раскрыты ў паўднёвы бок. Пабудаваны з цэглы ў сярэдзіне XVIII ст., аб чым сведчыць надпіс «1749» на вуглавым камені падмурка. Помнік архітэктуры барока. Манументальны масіўны будынак накрыты вальмавым дахам з пластычным выгінам над карнізам. Плоскасныя сцены лаканічна крапаваны адзінарнымі прасценачнымі і парнымі вуглавымі пілястрамі, апяразаны карнізам нескладанага профілю і цягай.

Кляштар бернардзінцаў скасаваны ў 1864 г. і перададзены праваслаўнаму духавенству. У пачатку XX ст. па праекце архітэктара В. Ханенберга быў прыстасаваны пад адміністрацыйную ўстанову. Цяпер у ім размяшчаецца інтэрнат Слонімскага медвучылішча.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000497 | Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі | канец XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Войкава, 13а | 3 | 13.11.2002 № 77, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000498 | Ансамбль Андрэеўскага касцёла:<br>касцёл<br>жылы корпус<br>брама з агароджай | XVIII стагоддзе, 1775 год<br><br><br>канец XVIII стагоддзя – пачатак XIX стагоддзя | г. Слонім, пл. Сапегі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Першы драўляны храм у гонар Св. Андрэя Апостала і Марыі Магдалены фундаваны ў 1490 г. пры Казіміру IV Ягелончыку і пабудаваны ў 1493 г. Існуючы храм пабудаваны з цэглы ў 1775 г. Помнік архітэктуры барока і ракако.

Аднанефавы, прамавугольны ў плане манументальны храм, накрыты трохсхільным чарапічным дахам. У яго кампазіцыі пануюць дзве ярусныя вежы з фігурнымі шатрамі і высокім фігурным шчытом, які плаўна пераходзіць каля асновы ў бакавыя валюты. Плоскасць галоўнага фасада ўвагнута-выпуклая: лінія сцяны выгінаецца ў пяці заломах, абазначаных пілястрамі. Бакавыя ярусныя вежы пастаўлены над вуглом да лініі фасада. Тэктанічная структура фасада мае ярка выяўлены ярусны характар, што дасягаецца выразнымі гарызантальнымі і вертыкальнымі чляненнямі, узмоцненай крапоўкай контурных ліній. Верхні ярус моцна расчлянёны шмат'ярусным карнізам і завершаны характэрнымі для архітэктуры ракако ліхтарамі на фігурных галоўках. Пазбаўленыя крапоўкі плоскасці фасада разыграны нішамі са скульптурамі евангелістаў Пятра і Паўла (разьба па дрэве) у дынамічных разваротах. Партал галоўнага ўвахода, вокны і фігурны шчыт маюць акруглы абрыс. Дэкаратыўны арсенал фасада ўключае профілі і ляпніну. Бакавыя фасады ў прасценках чляняцца плоскімі адзінарнымі пілястрамі. Уражанне руху ліній і форм дасягаецца частымі раскрапоўкамі, шматразовым драбленнем антаблементаў.

У інтэр'еры высокі неф (14,1 м) перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках з люнетамі (фрэскавы роспіс не захаваўся). Прэсбітэрый аддзелены ад яго бакавымі ляпнымі алтарамі і парталам. Да алтарнай часткі прымыкаюць бакавыя квадратныя ў плане сакрысціі. Прастора інтэр'ера асвятляецца высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. У паўночнай частцы храма на трох

арках з гранёнымі бочкападобнымі апорамі і крыжовых скляпеннях умацаваны хоры, кулісы якіх маюць ілюзорны перспектыўны роспіс у тэхніцы грызайль.

У інтэр'еры касцёла асноўны дэкаратыўны акцэнт зроблены на алтарах, трактаваных у стылі ракако, амбоне і хорах, а таксама фрэскавым роспісе скляпенняў. Галоўны пластычна-дэкаратыўны элемент інтэр'ера – цэнтральны алтар. Ён створаны ў выглядзе магутнага порціка са здвоенымі карынфскімі калонамі, якія нясуць трохвугольны раскрапаваны франтон з крыжам на сферы. Уздоўж схілаў франтона размешчаны дзве стукавыя скульптуры анёлаў. Поле інтэркалумнія раскрапавана арачнай нішай, у якой размяшчаўся алтарны абраз (не захаваўся). Бакавыя алтары таксама завяршаюцца барочнымі шчытамі на валютах і раскрапоўкай карнізамі, пучкамі пілястраў. Дэкаратыўнае вырашэнне алтароў заснавана на тэхніцы стука, якая імітуе чырвона-карычневы і светла-жоўты мармур. На бакавых сценах прэсбітэрыя дзве прамавугольныя фрэскавыя карціны (3х2 м) на біблейскія сюжэты. На ўсходняй сцяне алтара часткова захаваўся амбон у традыцыйнай для ракако форме ладдзі пад ветразем (напаўразбураны).

Унутранае ўбранне касцёла дапаўняюць дэкаратыўны роспіс сцен і арнаментальная ляпніна. Падоўжныя сцены аздоблены роспісам у спалучэнні з ілюзорна-прасторавымі архітэктурнымі формамі: пілястры з пышным арнаментальным убраннем, магутная каланада на заходняй сцяне, карніз і фрыз, мноства арнаментальных уставак, медальёнаў, картушаў, ракавін, разетак і інш., якія размешчаны на плоскасцях пілястраў і паміж імі, на аконных адкосах і ў прасценках паміж вокнамі, а таксама ўпрыгожваюць алтары. Дэкаратыўны роспіс выкананы ў стрыманых танах: ружовы, некалькі пацямнелы фон, на якім блакітна-белым і шэрым колерамі нанесены прыгожы малюнак.

Пасля разбурэння ў Першую сусветную вайну касцёл адноўлены ў 1925 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не дзейнічаў, выкарыстоўваўся як саляны склад. Перададзены вернікам у 1990 г. Рэстаўрыраваны па праекце архітэктара В. Атас пры ўдзеле мастакоў М. Залатухі і У. Ракіцкага. Асвячоны ў 1993 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000499 | Комплекс былой сядзібы «Альбярцін»:<br>сядзібны дом<br>два флігелі<br>стайня<br>брама<br>парк | першая палова XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Калгасная, 8 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Цагляны двухпавярховы, прамавугольны ў плане будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Элемент асіметрычнасці ўносіцца бакавым глыбокім рызалітам. На галоўным фасадзе ў цэнтры чатырохкалонны порцік са ступеньчатым атыкам. Галоўны ўваход аформлены фігурнымі скульптурамі львоў – дэкаратыўны элемент архітэктуры класіцызму 1-й паловы XIX ст. У апрацоўцы інтэр'ера далейшае развіццё атрымлівае тэма вонкавай архітэктуры: пілоны, кесоны, стылізаваныя капітэлі. У мінулым інтэр'ер будынка ўпрыгожвала галерэя партрэтаў польскіх каралёў 1-й паловы XVIII ст. (вывезены ў 1919 г. пры адступленні нямецкіх войскаў). Рэканструкцыя будынка пад музычную школу значна відазмяніла былую калідорную планіроўку.

З гаспадарчых пабудоў захавалася стайня – прамавугольны ў плане будынак з цэглы чырвонага колеру. Кампазіцыя двух'ярусная: першы ярус адзначаны шэрагам паўцыркульных аконных праёмаў, другі – круглымі люкарнамі. Цэнтр галоўнага фасада выдзелены шырокім парталам з ліштвай у выглядзе падковы і ляпной маскай каня. Партал фланкіраваны рызалітамі, якія ўзвышаюцца над будынкам.

Галоўны ўезд у сядзібу афармлены брамай у выглядзе невысокіх цагляных пілонаў і прымыкаючага да аднаго з іх памяшкання вартоўні (часткова разбурана). Пілоны брамы і невысокая, квадратная ў плане вартоўня вырашаны ў простых, лаканічных архітэктурных формах. У іх дэкоры выкарыстаны руст і нескладанага профілю архітэктурныя абломы.

У канцы ўязной алеі знаходзіцца службовы флігель (вул. Паркавая, 1), вырашаны ў стылі позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане, аднапавярховы аб'ём пад двухсхільным дахам, галоўным паўночным фасадам выцягнуты ўздоўж алеі, падкрэсліваючы напрамак галоўнага ўезду. Пры магутным канструкцыйным вырашэнні (таўшчыня сцен 70 см) яго архітэктура вызначаецца геаметрычнай дакладнасцю форм і дэкаратыўных элементаў. Плоскасна вырашаны галоўны фасад мае трохчасткавую пабудову і прапарцыянальны рытм арачных праёмаў і ніш.

У ансамбль сядзібы ўваходзілі таксама мураваны вадзяны млын з характэрным барочным ламаным дахам і драўляная пральня пад назваю «Венецыя» (не захавалася).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000500 | Будынак | першая палова XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Камсамольская, 25 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Аднапавярховы дом вынесены ў глыбіню прамавугольнага ўчастка. Курданёр фланкіраваны двума аднапавярховымі прамавугольнымі ў плане флігелямі. Будынак пастаўлены на высокім цокалі. Цэнтральная частка галоўнага фасада вырашана мансардавым порцікам (здвоеныя канеліраваныя калоны, капітэлі тасканскага ордэра, пакаты трохвугольны франтон з люкарнай). У дэкоры выкарыстаны вуглавыя руставаныя лапаткі і прафіляваныя карнізы з сухарыкамі. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка калідорная.

Флігелі вырашаны нейтральна, без выразнай архітэктурнай дэталізацыі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000501 | Будынак былога магістрата | першая палова XX стагоддзя | г. Слонім, вул. Хлюпіна, 7/ Камуністычная, 22 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000502 | Будынак былой сінагогі | другая палова XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Камуністычная, 26 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000503 | Забудова пл. Леніна | другая палова XVIII – пачатак XX стагоддзя | г. Слонім, пл. Леніна, 1, 6, 7, 9, 11 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Дом № 7. Пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст. з цэглы. Тарцовым трохвосевым фасадам выходзіць на плошчу Леніна. Прытрымліваючыся акруглай канфігурацыі плошчы, развіты ў глыбіню двара план дома адыходзіць ад формы правільнага прамавугольніка. Характар унутранай планіроўкі ірэгулярны. Дэкор фасада зведзены да нескладаных архітэктурных абломаў у ліштвах аконных праёмаў і абрамленнях вільчыка.

Дом № 9. Мае аналагічны з домам № 7 трохвосевы фасад з трохвугольным вільчыкам. Яго кампактны прамавугольны план дэфармаваны адпаведна канфігурацыі плошчы. Уваход у будынак з двара.

Дом № 11. Мае двухвосевы аднапавярховы галоўны фасад, які выходзіць на плошчу. Яго план, таксама няправільнай канфігурацыі, развіты ў глыбіню двара. Дом вызначаецца рэгулярнай планіроўкай. У ім спланаваны дзве кватэры з самастойнымі ўваходамі.





Дом № 1. Займае вуглавое становішча ў гістарычнай забудове паўночна-ўсходняга боку плошчы на перасячэнні з вул. В. Крайняга. Дом атрымаў складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, планіровачную аснову якой вызначылі асаблівасці канфігурацыі ўчастка забудовы. Двухпавярховы аб'ём будынка мае кампактны пяцігранны план. Яго фасады, арыентаваныя на плошчу Леніна і вуліцу В. Крайняга, атрымалі насычаны архітэктурны дэкор, выкананы сродкамі арнаментаванай цаглянай кладкі. Малюнак дэкору геаметрычны, зубчасты, паўтараецца ў сандрыках прамавугольных аконных праёмаў, завяршальных міжпаверхавых карнізах. Дом мае анфіладную планіроўку, якая ўдала адпавядае яго сучаснаму выкарыстанню пад экспазіцыю краязнаўчага музея. Галоўны ўваход і адзіная міжпаверхавая лесвіца пры ім знаходзяцца з боку вул. В. Крайняга. Пры ўваходзе ў будынак ва ўмовах шчыльнай забудовы зроблены неглыбокі курданёр.

Дом № 6. Пабудаваны з цэглы ў канцы XIX – пачатку XX ст. Вылучаецца сярод забудовы паўночна-заходняга боку плошчы Леніна двухпавярховым аб'ёмам. Традыцыйна выходзіць на плошчу вузкім тарцовым фасадам (адзіны, што атрымаў архітэктурна-дэкаратыўную распрацоўку.) Планіровачна развіты ў глыбіню невялікага квартала. Архітэктурнае вырашэнне будынка характэрна для асноўнай масы жылой цаглянай забудовы горада гэтага часу. Выкарыстаны немудрагелісты архітэктурна-пластычны дэкор цаглянай кладкі, вуглавыя лапаткі, арнамент ліштвы праёмаў простага профілю, карнізы, фрыз.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000504 | Магіла генерала М. Лявіцкага | 1831 год | г. Слонім, вул. Лумумбы | 3 | 23.12.2003 № 92 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000505 | Комплекс былога кляштара бернардзінак:<br>касцёл Марыі.<br>Дэкаратыўнае аздабленне: пяць алтароў, амбон, арнаментальная разьба,<br>арган<br>жылы корпус | XVII–XVIII стагоддзі | г. Слонім, вул. Першамайская, 11 | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Жаночы бернардзінскі кляштар заснаваны Юдзіцкімі і Камароўскімі ў 1645 г. Размяшчаўся на Рыначнай вуліцы насупраць замка і афармляў заходні фронт Рыначнай плошчы. У ансамблі кляштара, створанага ў традыцыях кляштарных комплексаў эпохі Адраджэння, пануе трох'ярусная квадратная ў сячэнні вежа-званіца, вылучаная ў самастойны масіўны аб'ём. Верхні ярус вежы больш насычаны дэкаратыўнай апрацоўкай (здвоеныя лапаткі, арачныя нішы, аконныя праёмы) і мае пазнейшае чатырохсхільнае пакатае пакрыццё.

Першапачаткова касцёл быў драўляны. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1664–1670 гг. Помнік архітэктуры барока, ракако і класіцызму. Аднанефавая аднавежавая базіліка з трох'яруснай чацверыковай вежай-званіцай на ўваходзе. Абарончы характар будынка вызначаецца магутным канструкцыйным вырашэннем, высокім размяшчэннем лучковых аконных праёмаў. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі з люнетамі, якія пераходзяць у больш вузкі прэсбітэрый з паўкруглай апсідай. Сцены члянёны масіўнымі слупамі-пілястрамі, капітэлі якіх дэкарыраваны раслінным арнаментам.

Інтэр'ер, які захаваўся да нашага часу, створаны ў 1751–1764 гг., галоўны двух'ярусны алтар датуецца 1759–1765 гг. Вялікае дэкаратыўнае гучанне і мастацкую каштоўнасць інтэр'еру надаюць выкананыя цэласна са сценамі пяць алтароў і амбон. Скульптар



І. Гедэль у 1759–1765 гг. выканаў іх у стылі ракако па эскізах невядомага мастака. На архітэктурнай аснове ў іх спалучаюцца дэкаратыўная скульптура, жывапіс і прыкладное мастацтва.

Двухпавярховы корпус кляштара, які ўтварае прамавугольнае замкнутае карэ, быў прыбудаваны да касцёла ў 1764 г. (архітэктар І. Авадовіч). Пашкоджаны пажарам 1790 г., адбудаваны ў 1793 г. Фасады будынка, рытмічна расчлянёныя пілястрамі, дэкарыраваны перыметральным поясам і прафіляваным карнізам з выкружкамі. Паўднёва-заходні вугал корпуса выдзелены рызалітам, умацаваным магутнымі контрфорсамі, рытмічна размешчанымі ў прасценку. Кляштарны корпус мае характэрную для пабудоў гэтага тыпу галерэйную планіроўку з размяшчэннем ячэек-келляў па ўнутраным перыметры будынка. У келлях і калідорах захаваліся крыжовыя і цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. Пад будынкам у розных месцах зроблены невялікія па плошчы скляпеністыя сутарэнні. Будынак ацяпляўся кафлянымі печамі.

Тэрыторыя была абнесена мураванай сцяной з барочнай мураванай брамай (не захавалася).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000506 | Капліца Св. Дамініка | 1745 год | г. Слонім, вул. Пушкіна | 3 | 13.11.2002<br>№ 77 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Г000507 | Спаса-Праабражэнскі сабор | XVII – 50-я гады XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Пушкіна, 1 | 3 | 16.10.2001<br>№ 67 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413Д000508 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Слонім, вул. Пушкіна, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 412Г000509 | Будынак былой сінагогі<br>дэкаратыўнае аздабленне: фрэскавыя кампазіцыі, арнаментальная лепка | 1642 год | г. Слонім, вул. Савецкая, 1 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71,<br>28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Квадратны ў плане цагляны будынак пад высокім двухсхільным дахам, узведзены па ўстаноўленай у XVII–XVIII стст. для гэтага тыпу культавых збудаванняў цэнтрычнай дзевяціпольнай планіровачнай схеме: канструкцыя перакрыцця вырашана дзевяццю скляпеністымі пралётамі. Асноўны аб'ём па перыметры абнесены радам нізкіх пазнейшых пабудоў. Цэнтрычнасць збудавання падкрэслена і двух'яруснымі фасадамі, якія маюць трохвосевую сіметрычную кампазіцыю. Мэты бяспекі абумовілі абарончы характар архітэктуры збудавання: тоўстыя сцены, адсутнасць архітэктурнага дэкору і раскраповак, высока ўзнятыя арачныя аконныя праёмы. Асабліва манументальны ніжні ярус (таўшчыня сцен 1,7 м) з радам нізкіх лучковых акон-байніц. Пластычны акцэнт у прыёмах барока створаны на галоўным усходнім фасадзе будынка – высокі фігурны шчыт на філянговым парапеце. Шчыт раскрапаваны здвоенымі пілястрамі, нішамі ў тонка прафіляваным абрамленні. У цэнтры размешчана круглае акно-разетка. Галоўны фасад фланкіраваны бакавымі дэкаратыўнымі сценкамі, якія забяспечваюць плаўны пераход да першага яруса прыбудовак. Цэласнасць архітэктурнага аб'ёму падкрэслена лаканічным завяршэннем плоскасцей фасадаў прафіляваным карнізам і вузкім поясам.

Арыгінальнасць і своеасаблівасць насычаных дэкаратыўна-арнаментальных матываў інтэр'ера звязаны з культавай сімволікай: матывы з жывёльнага і расліннага свету, культавыя атрыбуты (карона, скрыжалі).

У дэкаратыўным вырашэнні інтэр'ера выкарыстана тэхніка грызайль. Кампазіцыйна-дэкаратыўным цэнтрам усходняй сцяны з'яўляецца аронкадэш («свяшчэнны каўчэг» – ніша для захоўвання скрутку торы). Над ім размешчаны накладны фігурны картуш – ляпная кампазіцыя ў выглядзе дзвюх скрыжалей, якія падтрымліваюцца з абодвух бакоў ільвамі і ўвянчаны каронай.

Усе элементы дэкаратыўнай ляпніны пакрыты пазалотай і паліхромнай афарбоўкай. Па баках алтарнага картуша – насценныя фрэскі з карынфскімі калонамі і антаблементам, на якім размешчаны выявы львоў, ваз, букетаў, драпіровак. Паміж ілюзорнымі калонамі – фрэскавыя выявы абрадавых (трубныя рогі, валторна, «арфа Давіда») і свецкіх (гітара, віяланчэль, кларнет і інш.) музычных інструментаў, драпіровак, букетаў кветак. Вось алтарнай сцяны завяршаецца ляпным балдахінам у выглядзе кароны з зоркай і спушчанымі драпіроўкамі.

| 412Г000510 | Будынак былой ратушы | другая палова XVIII стагоддзя | г. Слонім, вул. Савецкая, 6 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Кампактны прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак, які разам са службовымі карпусамі ўтварае замкнёны двор. Кампазіцыя будынка бязвежавая, строга сіметрычная. Крапоўка фасадаў плоскасная (пілястры, філёнгі, нішы). Унутраная планіроўка калідорна-анфіладная з вестыбюлем і міжпаверхавай лесвіцай у цэнтры. Акрамя пакояў для магістрата і залы сходаў у ратушы былі памяшканні для гараднічага, суда, гаўптвахты, архіва і інш.

| 412Г000511 | Будынак былога заезнага дома («Аўстэрыя») | другая палова XVIII стагоддзя | г. Слонім, вул. Савецкая, 10 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Спачатку быў двухпавярховы, у XX ст. надбудаваны трэці паверх, завершаны двухсхільным дахам. Галоўны фасад прамавугольнага ў плане будынка раскрапаваны буйнамаштабнымі руставанымі лапаткамі і расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Палавіна першага паверха аўстэрыі была адведзена пад гасціную, перакрытую ветразевымі скляпеннямі з цэнтральнай апорай. Пад гэтай часткай дома размешчаны скляпеністыя падвалы. Цэнтральная лесвіца вядзе з вузкага вестыбюля на другі жылы паверх.

| 413Г000512 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | 1923 год | г. Слонім, вул. Савецкая, 58 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000513 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | пачатак XX стагоддзя | г. Слонім, вул. Чкалава, 9 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Аднапавярховы П-падобны ў плане аб'ём завершаны пластычным па форме мансардавым дахам. Галоўны ўваход падкрэслены шырокім шасцікалонным порцікам з трохвугольным франтонам. На плоскасных фасадах выдзяляюцца прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі. Планіровачная арганізацыя дома заснавана на калідорнай схеме з аднабаковым размяшчэннем асноўных прамавугольных памяшканняў.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000514 | Забудова ваеннага гарадка:<br>казармы вайсковыя (пяць будынкаў)<br>дом афіцэраў<br>жылы дом<br>шэсць будынкаў | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Слонім, вул. Чырвонаармейская, 87, 89, вул. Чарняхоўскага, 2, 5, 6, 7, 8, 9 | 3 | 13.11.2002 № 77, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 413Г000515 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Слонім, вул. Чырвонаармейская, 14 | 3 | 07.12.2000 № 62 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000516 | Корпус былога кляштара бенедыкцінак | 1801 год | г. Слонім, вул. Чырвонаармейская, 39 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000517 | Будынак | 1905 год | г. Слонім, вул. Я. Купалы, 5 | 3 | 13.11.2002 № 77 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000518 | Гарадзішча, селішча | X–XIII, VI–VIII стагоддзі | г. Слонім, ва ўрочышчы Косаўскі тракт | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000519 | Замчышча, гарадзішча, селішча | XI–XV стагоддзі | г. Слонім, урочышча Малева, былая в. Рышчыцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000520 | Камень-следавік і культавыя крыніцы перыяду бронзавага веку | 7 –1 -е тысячагоддзі да н.э. | г. Слонім, урочышча Стары Альбярцін | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000521 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Азгінавічы, у вёсцы на беразе р. Була | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000522 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Азярніца, 0,2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000523 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Азярніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000524 | Гарадзішча, селішча перыяду ранняга жалезнага веку і сярэднявечча | VI стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э., VI–VIII, X стагоддзі | в. Асабнякі, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, побач з гарадзішчам | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000525 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | VI–VIII, X–XII стагоддзі | в. Баравікі, на ўскраіне вёскі, у вярхоўі р. Барадоя | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000526 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Бярдовічы, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000527 | Селішчы перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Васілевічы, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 0,8 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000528 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Васілевічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000529 | Паселішча перыяду каменнага веку | 6–5-е тысячагоддзі да н.э. | в.Ваўчуны, 200 м на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000530 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | VI–VIII стагоддзі, X–XII стагоддзі | в. Вераб'евічы, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000531 | Каменныя магілы | XIV–XVIII стагоддзі | в. Вялікая Кракотка, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000532 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Вялікая Кракотка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000533 | Гарадзішча, селішчы, стаянкі | канец 1-га тысячагоддзя да н.э. – пачатак н.э., II–V, VI–VIII стагоддзі, 6–4-е тысячагоддзі да н.э., 4–3-е тысячагоддзі да н.э. | в. Вялікія Шылавічы, 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, побач з гарадзішчам, 2 км на паўночны захад ад вёскі, 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 0,1 км ад правага берага р. Шчара, 0,2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Ніўкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000534 | Селішча | | в. Глоўсевічы, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000535 | Былая сядзіба графа Пуслоўскага:<br>драўляны двухпавярховы дом<br>лядоўня<br>вадакачка<br>дом для служанкі | XIX стагоддзе | урочышча Гутка | 3 | 05.07.1999<br>№ 11 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 413В000536 | Гарадзішча | 1–2-е тысячагоддзі н.э. | в. Дзераўная,<br>ва ўрочышчы Старажавая Гара | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 411Г000537 | Ансамбль Свята-Успенскага манастыра:<br><br>Успенскі сабор<br>дэкаратыўнае аздабленне:<br>роспіс у консе «Спас Пантакратар»,<br>арнаментальны дэкор на скляпеннях<br>паўднёвай сакрысціі і ўсіх нефаў,<br>іканастас, бакавыя алтары<br><br>Богаяўленская царква<br><br>Крыжаўзвіжанская царква<br><br>званіца<br><br>будынак семінарыі<br><br>жылы корпус<br><br>гаспадарчыя пабудовы | XVII–XIX стагоддзі | в. Жыровічы | 1 | 27.03.2002<br>№ 64,<br>28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |

Архітэктурны ансамбль мае нерэгулярную планіроўку, маляўнічую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю і выразны сілуэт. Ядро ансамбля – Успенскі сабор, злучаны крытымі пераходамі з будынкам семінарыі (на поўначы) і з жылым корпусам (на поўдні), у першым паверсе якога зроблены арачны праезд. Перад саборам – квадратная ў плане двух'ярусная званіца. Будынак семінарыі фарміруе парадны двор перад апсідай сабора. Каля ўсходняга крыла семінарыі вялікі прамавугольны гаспадарчы двор, абкружаны аднапавярховымі карпусамі. З поўдня да сабора прыбудавана зімняя Мікольская царква. За саборам у цэнтры манастырскай тэрыторыі Богаяўленская царква. Ва ўсходняй частцы манастыра на самым высокім месцы пабудавана Крыжаўзвіжанская царква – вертыкальная дамінанта ансамбля.

Будаўніцтва ў Жыровічах першай драўлянай царквы звязана з імем аднаго з прадстаўнікоў роду Солтанаў – літоўскага падскарбія дворнага Аляксандра Солтана, якому вялікі князь літоўскі Аляксандр граматай ад 20 сакавіка 1493 г. падараваў у спадчыннае валоданне маёнтак Жыровічы з вёскамі. Ён пабудаваў царкву на месцы, дзе, паводле падання, у 1470 г. з'явіўся абраз Божай Маці. Вакол царквы стала фарміравацца паселішча, узнік манастыр. У 1520 г. моцны пажар знішчыў амаль усе пабудовы. У 1560 г. адзін з нашчадкаў А. Солтана пачаў будаваць мураваную царкву, пры якой у 1587 г. ужо згадваецца мужчынскі манастыр.



Дакументы сведчаць, што ў 1609 г. жыровіцкі маёнтак быў набыты ў Яна (Івана) Іванавіча Солтана, унука Аляксандра, мсціслаўскім кашталянам Янам Мялешкам, да якога перайшлі таксама правы валодання манастыром і цэрквамі: тады на тэрыторыі, якая належыць манастыру, існавалі дзве царквы – адна драўляная і адна мураваная, недабудаваная, «залажэння Прачыстай Святой Багародзіцы».

У тым жа 1609 г. прыход жыровіцкай царквы быў далучаны да Брэсцкай царкоўнай уніі, а з 1613 г. манастыр належаў базыльянскаму ордэну. Першапачатковы этап стварэння базыльянскага манастыра звязаны з дзейнасцю Іасафата Кунцэвіча, які стаў першым яго ігуменам. Ужо ў пачатковы перыяд гісторыі манастыра значэнне яго ў жыцці уніяцкай царквы было вельмі вялікае. Тут праходзіла пятая кангрэгацыя пад кіраўніцтвам мітрапаліта Іосіфа Руцкага, а пазней і іншыя уніяцкія саборы. У 1639 г. Папа Урбан VIII зацвердзіў статут створанага пры манастыры уніяцкага брацтва.

Архітэктурны ансамбль манастыра склаўся ў XVII–XVIII стст. Уключае тры храмы, званіцу, будынак семінарыі, жылы корпус, трапезную, шэраг гаспадарчых пабудоў.

Галоўны Свята-Успенскі сабор пачалі будаваць у 1629 г., работы працягваліся да 1670–1680 гг. Богаяўленская царква пабудавана ў 1672 г. на месцы другога з'яўлення абраза пасля пажару. Крыжаўзвіжанская царква пабудавана ў 1769 г. і размалявана мастаком-базыльянінам Шашалевічам. Насупраць галоўнага ўвахода ў Успенскі сабор праз вуліцу пабудавана званіца. З паўночнага і паўночна-ўсходняга боку ад манастыра быў сфарміраваны гаспадарчы двор манастыра з сістэмай драўляных будынкаў. Каля сабора на прамавугольным участку паміж лініяй плошчы і заходнім корпусам манастыра быў разбіты невялікі сад. За манастырскім комплексам пры Іосіфе Сямашку быў арганізаваны маляўнічы парк. З паўднёвага боку ад манастырскіх пабудоў размяшчаліся агароды.

Пад час ваенных дзеянняў паміж польскімі войскамі і войскам Багдана Хмяльніцкага апошні поўнасцю спустошыў Жыровіцкі манастыр. Пасля гэтага, к канцу XVII ст., Жыровічы былі нанава адбудаваны. Новыя разбурэнні прынесла Паўночная вайна, і зноў, пасля адступлення войскаў Карла XII, манастыр хутка аднавілі.



У 1810 г. сабор манастыра стаў кафедральным саборам усёй Брэсцкай епархіі. Сюды было перанесена епархіяльнае ўпраўленне, якое раней знаходзілася ў Навагрудку. З гэтага часу брэсцкія епіскапы жылі ў Жыровіцкім манастыры.

У 1828 г. Успенская царква стала кафедральным саборам, пры ёй створана кансісторыя, семінарыя і ніжэйшае духоўнае вучылішча. Сфарміраваны на аснове манастыра буйны цэнтр духоўнай адукацыі павінен быў стаць галоўнай на Беларусі навучальнай установай па падрыхтоўцы святароў для праваслаўных храмаў.

У 1820-я гг. у манастыры праводзяцца будаўнічыя работы, якімі кіраваў архітэктар А.П. Аколаў. У 1822 г. з-за дрэннага стану перабуда-



ваны верхні ярус званіцы. Да званіцы з абодвух бакоў прымыкалі невялікія мураваныя аднапавярховыя дамы.

У 1827–1828 гг. быў рэканструяваны і Успенскі сабор. Ён набыў рысы класіцызму. Па праекце 1828 г. у паўднёвай частцы гаспадарчага двара пабудавалі мураваны будынак гасцініцы для багамольцаў і службовы будынак.

У выніку скасавання уніі Полацкім царкоўным саборам у 1839 г. манастыр і семінарыя сталі праваслаўнымі.

Пасля ўказа аб аб'яднанні уніяцкай і праваслаўнай царквы па распараджэнні Сінода кафедра брэсцкага і літоўскага (праваслаўнага) архіепіскапа з Жыровіч была перанесена ў Вільню. У 1845 г. туды ж былі перанесены духоўная семінарыя і архіў і пакінута толькі духоўнае вучылішча, якое праіснавала да 1915 г.

Многія дакументы 1851–1852 гг. паведамляюць, што плябанам Шуміловічам у манастыры былі праведзены рамонтныя работы.

Пад час Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў Жыровічы і манастыр пастаянна падвяргаліся рабаванням і разбурэнням.

У 1924 г. частка манастырскіх будынкаў была выкарыстана для размяшчэння сельскагаспадарча-лясной школы, якая праіснавала да 1939 г. Вядома, што ў 1933–1934 гг. на тэрыторыі манастыра праводзіліся рэстаўрацыйныя работы пад кіраўніцтвам вядомага польскага архітэктара Станіслава Лорэнца.

У Вялікую Айчынную вайну манастыр дзейнічаў, манастырскія будынкі ацалелі, званіца і дзве мураваныя да яе прыбудовы былі адрамантаваны і ў 1947 г. у іх пасяліліся выкладчыкі вучылішча і семінарыі.

Паводле даных «Рэгістрацыйнай справы Жыровіцкага манастыра», у 1949 г., на тэрыторыі канвента знаходзіліся дзеючыя цэрквы, жылыя і гаспадарчыя будынкі, будынак званіцы з дзвюма прыбудовамі. У 1957 г. архімандрыт Антоній пачаў рэстаўрацыйныя работы на цэрквах. Да таго Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы выкарыстоўваліся як кладовыя манастыра і семінарыі. Успенскі сабор, Мікольская і Богаяўленская цэрквы былі афарбаваны ўнутры і звонку белай вапнай, дахі перакрыты новай бляхай, на вялікім купале сабора заменены крыж. У Крыжаўзвіжанскай царкве пастаўлены іканастас і прастол.

У 1963 г. закрыта духоўная семінарыя.

У 1979 г. праведзены чарговы рамонт Успенскага сабора, вакол тэрыторыі зроблена мураваная агароджа. Пасля 1988 г. пачалося паступовае адраджэнне манастыра. Выкананы рамонтныя работы ў Мікольскай і Богаяўленскай цэрквах, адрамантаваны жылы корпус. На тэрыторыі манастыра ўзведзены новыя майстэрні, гаспадарчыя будынкі, новыя келлі.

З 1989 г. у манастыры знаходзіцца Мінская вышэйшая праваслаўная духоўная семінарыя. З 1994 г. семінарыя набыла статус вышэйшай навучальнай установы, у 1996 г. на базе семінарыі адкрыта Мінская духоўная акадэмія. Манастыр з'яўляецца другой рэзідэнцыяй Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.





| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000538 | Свята-Георгіеўская царква<br>алтар | канец XVIII стагоддзя | в. Жыровічы | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва на паўночнай ускраіне вёскі на могілках. Помнік народнага дойлідства з рысамі барока.

Адназрубны прамавугольны ў плане храм з пяцігранным алтарным прырубам, арыентаваным на захад. Накрыты агульным двухсхільным дахам. Над галоўным фасадам – фігурная барочная вежачка. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Апсіда вылучана невялікім уступам, шырока раскрываецца ў залу.

Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера – драўляны аднаярусны іканастас, расчлянёны канеліраванымі пілястрамі з разнымі арнаментальнымі капітэлямі, разныя царскія вароты. Дэкор у выглядзе сціплай накладной арнаментальнай разьбы, жывапісу, выкананы ў стылі неакласіцызму. Драўляны трохстворкавыківот размешчаны ў апсідзе і трактаваны ў стылі барока. Дэкарыраваны калонамі з разнымі капітэлямі і накладной рэльефнай разьбой.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000539 | Цэнтральная частка в. Жыровічы (уключаючы тэрыторыю Свята-Успенскага манастыра) | | в. Жыровічы | 3 | 08.09.1994 № 12 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000540 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Жыровічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000541 | Гарадзішча<br>Каменны могільнік | X–XIV стагоддзі<br>XV–XVII стагоддзі | в. Збочна<br>в. Збочна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000542 | Селішча | VI– VIII стагоддзі | в. Забулле, у вёсцы, на правым беразе р. Була | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000543 | Селішча перыяду жалезнага веку і ранняга сярэднявечча | II–V, X–XII стагоддзі | в. Залессе, у вёсцы каля балота | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000544 | Селішча | VI–VIII стагоддзі | в. Ісаевічы, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2000 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000545 | Селішча перыяду жалезнага веку<br>Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | II–V стагоддзі<br>X–XIII стагоддзі | в. Кавалі,<br>0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412В000546 | Селішча | VI–VIII стагоддзі | в. Касцяні,<br>у заходняй частцы вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000547 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Касцяні | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000548 | Каменныя могільнікі | XV–XVI, XVII–XIX стагоддзі | в. Клепачы, 2,5 км на захад ад вёскі, 0,3 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000549 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Клепачы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000550 | Каменны могільнік | XVI–XVII стагоддзі | в. Куцэйкі, каля могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000551 | Каменны могільнік<br><br>Гарадзішча | XVI–XVII стагоддзі<br>II–V стагоддзі | в. Лапухова, 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі<br>в. Лапухова | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000552 | Селішча | VI–VIII стагоддзі | в. Масілавічы, 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000553 | Селішча перыяду жалезнага веку, ранняга сярэднявечча | II–V, VI–VIII стагоддзі | в. Міжэвічы, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000554 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Міжэвічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000555 | Селішча перыяду сярэднявечча | VI–VIII стагоддзі | в. Мілошавічы, на месцы былога маёнтка Бершаніны | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000556 | Селішча | перыяд каменнага і бронзавага вякоў | в. Міцькавічы, 0,4–0,5 км на паўднёвы захад ад калгасных пабудоў | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000557 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIII–XIV стагоддзі | в. Навасёлкі, 1 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000558 | Курганны могільнік | | в. Нагуевічы, 4,5 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000559 | Гарадзішча, селішча, стаянка | I–XIII, I–XIII стагоддзі, другая палова 3-га–2-е тысячагоддзе да н.э. | в. Ніз, 1 км на паўночны захад ад вёскі, побач з гарадзішчам, 0,6 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000560 | Курганны могільнік | XII–XVI стагоддзі | в. Наваорлавічы, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000561 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча | XI–XVII стагоддзі | в. Наваорлавічы, 900 м на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000562 | Селішча перыяду жалезнага веку | першая палова 1-га тысяча-годдзя н.э. | в. Партызанаўка, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000563 | Селішча перыяду жалезнага веку<br><br>Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | II–V стагоддзі<br><br>VI–VIII стагоддзі | в. Парэчча, на паўднёвай ускраіне вёскі, побач з селішчам | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000564 | Селішча | перыяд бронзавага веку, сярэднявечча | в. Пасінічы, каля могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000565 | Селішча | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Паўлава, 0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000566 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Пятралевічы 1-я | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Д000567 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Плаўскія | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000568 | Паселішчы | перыяд каменнага – бронзавага вякоў | в. Прырэчча, 0,2–0,4 км на поўдзень ад верхняй ускраіны вёскі, 2 км на поўдзень ад вёскі, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад верхняй ускраіны вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000569 | Селішчы перыяду ранняга жалезнага веку, сярэднявечча | другая палова 1-га тысячагоддзя да н.э. – 1-е тысяча-годдзе н.э. | в. Рахавічы, 0,3 км на поўдзень ад вёскі, каля жывёлагадоўчай фермы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000570 | Каменныя магілы перыяду позняга сярэднявечча, паселішча перыяду каменнага, бронзавага вякоў | XIV–XVIII стагоддзі | в. Рудаўка, 1 км на паўночны захад ад вёскі, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000571 | Селішчы перыяду жалезнага веку, ранняга сярэднявечча, стаянкі перыяду каменнага і бронзавага вякоў | VI–VIII стагоддзі, 3–2-е тысяча-годдзі да н.э. | в. Русакова, 0,5 км на поўнач ад вёскі, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, 1,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000572 | Селішча перыяду сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Саленікі, на поўнач ад могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000573 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сасноўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000574 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сянькоўшчына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000575 | Селішча | перыяд ранняга жалезнага веку, сярэднявечча | в. Сурынка, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000576 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Сялявічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000577 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку, сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Сянькоўшчына, на левым беразе р. Бяроза, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2000 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000578 | Гарадзішча ранняга сярэднявечча, селішчы 1 і 2 перыяду ранняга жалезнага веку, сярэднявечча, стаянка перыяду неаліту | VI–VIII стагоддзі, другая палова 3-га тысячагоддзя да н.э. | в. Талькаўшчына, 1 км на ўсход ад вёскі, побач з гарадзішчам, на паўднёвай ускраіне вёскі, у паўночнай частцы вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000579 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Талькаўшчына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000580 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку, сярэднявечча, селішча перыяду каменнага веку, стаянка перыяду каменнага веку | | в. Ферадкі, 0,8 км на захад ад вёскі, на заходняй ускраіне вёскі, паміж вёскамі Ферадкі і Прырэчча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000581 | Селішча | 1-е тысячагоддзе н.э. – сярэднявечча | в. Чамяры, у цэнтры вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000582 | Селішча, паселішча перыяду мезаліту, сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе н.э., 7–5-е тысячагоддзі да н.э. | в. Чапялева, 1,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, 0,4 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000583 | Селішча перыяду жалезнага веку, сярэднявечча, каменны могільнік | 1–2-е тысячагоддзі н.э., XIV–XVI стагоддзі | в. Юхнавічы, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000584 | Курганныя могільнікі 1, 2<br><br>Селішчы 1 і 2 перыяду ранняга жалезнага веку, сярэднявечча | VI–VIII стагоддзі<br><br>1-е тысячагоддзе н.э. | в. Ягнешчыцы, 1,5 км на ўсход ад вёскі, 0,3 км на ўсход ад вёскі<br><br>в. Ягнешчыцы, 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 0,1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Смаргонскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000585 | Касцёл Св. Міхаіла Архангела (былы кальвінскі збор) | XVI–пачатак XVII стагоддзя | г. Смаргонь, вул. П. Балыша, 1 | 2 | 28.02.2002 № 71 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |



Пабудаваны ў 1553 г. з цэглы брэсцкім ваяводам Кшыштофам Зяновічам як кальвінскі збор на месцы драўлянага касцёла, пабудаванага яго бацькам слонімскім старостам Юрыем Зяновічам у 1503 г. (1505 г). У 1621 г. сястра Зяновіча Сафія перадала збор каталікам пад Троіцкі касцёл. У 1866–1921 гг. праваслаўная Міхайлаўская царква. У 1921–1947 гг. дзейнічаў як касцёл. У 1947 г. зноў закрыты. Перададзены вернікам у 1990 г. Помнік архітэктуры рэнесансу.

Купальны храм цэнтрычнага тыпу, у плане злёгку выцягнуты па падоўжнай восі васьміграннік. Да яго з боку галоўнага фасада прымыкае шмат'ярусная вежа-званіца (захаваліся два ярусы), завершаная нізкім шатром на васьміграным барабане. У месцы злучэння званіцы і асноўнага аб'ёму прыбудавана цыліндрычная вежа. Магутныя сцены будынка прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Пластычны парапет апрацаваны лапаткамі і характэрнай рэнесанснай аркатурай з гіркамі.

Уваход у храм праз квадратны ў плане ніжні ярус вежы-званіцы, перакрыты крыжовым скляпеннем. Унутраная прастора асноўнага аб'ёму перакрыта сферычным купалам. Аснова купала аддзелена ад сцен невялікім карнізам з дэнтыкуламі. Плоскасці сцен раскрапаваны шматлікімі арачнымі нішамі. Купал дэкарыраваны фрэскамі. Над прытворам – хоры, перакрытыя крыжовым скляпеннем. Парапет хораў мае філянговую крапоўку. Ярусы званіцы былі аб'яднаны вітой лесвіцай. Пад цэнтральнай часткай храма – крыпта.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000586 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Смаргонь, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000587 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Смаргонь, вул. Танкістаў | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000588 | Каменны могільнік перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Алешышкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000589 | Курган перыяду жалезнага веку | V–VI стагоддзі | в. Андрэеўцы, на правым беразе р. Вілія | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000590 | Гарадзішча перыяду жалезнага веку<br><br>Селішча перыяду жалезнага веку | VI–VIII стагоддзі<br><br>IV–VIII стагоддзі | в. Войстам, 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі<br><br>в. Войстам, прымыкае да гарадзішча з усходу, поўначы і поўдня | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000591 | Курган | | в. Выгаляненты, 1,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000592 | Каменны могільнік | XVI–XVII стагоддзі | в. Вялікая Мыса | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000593 | Гарадзішча перыяду жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Гарані, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000594 | Касцёл Прасвятой Тройцы | 1612 год | в. Жодзішкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы ў цэнтры вёскі, на правым беразе р. Вілія.

Выкарыстоўваўся як кальвінскі збор, у 1820 г. пераўтвораны ў фарны Троіцкі касцёл. У 1886 г. абкружаны высокай мураванай агароджай. Храм – помнік архітэктуры рэнесансу і барока.

Прамавугольны выцягнуты па падоўжнай восі будынак атрымаў крыжападобную форму за кошт прыбудаванага трансепта. З заходняга боку да будынка прымыкае квадратная ў плане апсіда з сакрысціяй з паўночнага боку і вуглавымі контрфорсамі. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, мае шчытавое завяршэнне і руставаны партал пры ўваходзе. Сцены члянёны плоскімі лапаткамі, лучковымі вокнамі і нішамі. У інтэр'еры зальная частка перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта – крыжовымі скляпеннямі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000595 | Былая сядзіба:<br>сядзібны дом<br>парк | XVII стагоддзе | в. Жодзішкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Створана на працягу XVIII–XIX стст. Пад сядзібны дом прыстасаваны будынак езуіцкага калегіума, пабудаванага ў 1757–1766 гг. у перададзеным ордэну маёнтку.

Сядзібны дом – мураваны прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Цэнтральны ўваход вылучаны неглыбокім рызалітам з мансардай. Фасады члянёны лучковымі аконнымі праёмамі і вузкімі лапаткамі ў прасценках. Планіроўка дома галерэйная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

Парк пейзажнага тыпу з дрэвамі мясцовых парод.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000596 | Вадзяны млын | 1871 год | в. Жодзішкі | 3 | 05.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000597 | Стаянка перыяду мезаліту | 7–6-е тысячагоддзі да н.э. | в. Завозерцы, паміж цэнтрам вёскі і паўночна-ўсходнім берагам воз. Рыжае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000598 | Ансамбль былога палаца Агінскіх:<br>палац<br>дэкор палаца: фрагменты роспісу ў галоўным вестыбюлі, дзве кафляныя печы ў вестыбюлі<br>капліца<br>афіцына<br>парк<br>гаспадарчыя пабудовы | пачатак XIX стагоддзя | в. Залессе | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзіба звязана з імем знакамітага кампазітара і грамадскага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага.

Перад вяртаннем пляменніка з васьмігадовай эміграцыі пасля паўстання 1794 г. яго дзядзька граф Францішак Ксаверый Агінскі перадаў яму адзін са сваіх маёнткаў у Ашмянскім павеце – Залессе, ад якога захаваліся да нашых дзён сажалка і фрагменты ліпавых алей. Агінскі меркаваў пасяліцца ў Залессі назаўжды, таму адразу па прыездзе пачаў рамонт і перабудовы ў сядзібе, рэарганізацыю яе ў новы палацава-паркавы ансамбль.

Стары палац і парк былі рэканструяваны, хоць у цэлым рысы ранейшай планіроўкі захоўваліся.

Вялізны ўчастак былога парку быў разбіты на правільныя геаметрычныя фігуры і засаджаны пладовымі дрэвамі: яблынямі, грушамі, вішнямі. У цэнтры вялікіх кругоў раслі кусты чырвоных парэчак, клубніцы, розная гародніна. У канцы саду размясціўся гадавальнік маладых пладовых дрэў. А побач з ганкам размясціўся вялікі авальны кветнік з басейнам пасярэдзіне. Дарогі, што разыходзіліся ад палаца, былі абсаджаны радамі піхт.

Адначасова паблізу старога палаца вяліся работы па будаўніцтву новага, мураванага палаца. Непадалёк будаваліся двухпавярховы мураваны млын, аранжарэі і цяпліцы, а таксама капліца. Будаўніцтва вялося па праекце маладога, але даволі вядомага ў той час прафесара архітэктуры Віленскага універсітэта Міхала Шульца. Дапамагаў яму, а пасля яго смерці кіраваў усімі працамі іншы віленскі архітэктар Юзаф Пусэ.

Да 1815 г. работы на новым палацы былі ў асноўным скончаны. Яго архітэктурна-кампазіцыйная пабудова адпавядала патрабаванням класіцызму. Для архітэктуры палаца характэрна чаргаванне адна- і двухпавярховых аб'ёмаў. Цэнтральная частка была вылучана чатырохкалонным порцікам і завяршалася невялікай вежачкай, «дзе змешчаны гадзіннік з боем, які з усіх чатырох бакоў мае цыферблаты са стрэлкамі. Над вежкай шар, у якім вежавы звон умацаваны». Унутраная планіроўка палаца дазваляла размясціць тут не толькі жылыя пакоі, але і разнастайныя гасціныя і салоны, аранжарэі, бібліятэку.



Побач з паркам размяшчаўся звярынец – абавязковы элемент буйных сядзібна-паркавых комплексаў таго часу. Мураваны млын надаваў сядзібе паэтычны выгляд. Рамантычная карціна дапаўнялася блізка размешчаным маленькім востравам, куды вёў доўгі драўляны масток. Непаўторную прыгажосць парку надавалі клумбы з рознымі кветкамі, якія так любіў гаспадар. Адна з самых прыгожых клумбаў называлася «клумбай Эмы» ў гонар дачкі кампазітара. На ўзвышэнні сярод дрэў стаяла паўкруглая мураваная альтанка, арыентаваная галоўным фасадам на прагулачны дзядзінец.

Нашчадкі М.К. Агінскага валодалі сядзібай да 1927 г., потым прадалі Жаброўскім, якія былі ўладальнікамі да 1939 г. Пад час Першай сусветнай вайны моцных разбурэнняў у маёнтку не было. Апошняя ўладальніца Залесся Марыя Жаброўская правяла нават некаторыя рэстаўрацыйныя работы. Больш значныя страты адбыліся ўжо пасля Другой сусветнай вайны.

У 1953 г. палац і парк былі ўзяты пад ахову дзяржавы. У канцы 1970-х гг. было вырашана пачаць працы па рэстаўрацыі і кансервацыі унікальнай мемарыяльнай сядзібы – помніка архітэктуры і садова-паркавага мастацтва XVIII–XIX стст.

З пабудоў старога маёнтка XVIII ст. амаль нічога не захавалася, за выключэннем падмуркаў старажытных будынкаў. Ад новай сядзібы, пабудаванай у XIX ст., будынкаў захавалася больш, але і яны значна змянілі сваё аблічча: у 20–30-я гг. XX ст. новымі ўладальнікамі былі зроблены немалыя перабудовы, што прыкметна сказілі выгляд пабудоў, якія захаваліся. Ансамбль страціў адну з аранжарэй, дом садоўніка, другі паверх той часткі палаца, дзе знаходзілася бібліятэка кампазітара, вежу з гадзіннікам над цэнтральным аб'ёмам, шматлікія іншыя архітэктурныя дэталі. Памянялася планіроўка пакояў палаца, страчаны інтэр'ер. Ад двухпавярховага вадзянога млына і паўкруглай мураванай альтанкі захаваліся толькі падмуркі.

Сядзіба, якая дайшла да нашага часу, моцна пацярпела, шматлікія часткі гэтага вялікага палацава-паркавага ансамбля страчаны.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000599 | Паклонны камень | перыяд бронзавага веку | в. Каты, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000600 | Гарадзішчы перыяду позняга сярэднявечча – новага часу | XVI–XVII стагоддзі | в. Крэва, 2,5 км на поўнач ад ускраіны вёскі, на заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Г000601 | Царква Аляксандра Неўскага | 1854 год | в. Крэва | 3 | 19.03.2003 № 83 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000602 | Фрагменты замка | XIV стагоддзе | в. Крэва | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Першая палова XIV ст. была перыядам шматлікіх феадальных войнаў. Сур'ёзнай пагрозай для Літвы і Польшчы стаў Тэўтонскі ордэн. Асабліва цярпелі ад крыжацкіх нападаў Гродзенская і Навагрудская землі. Разумеючы, што захапіць, а тым больш утрымаць пад сваёй уладай беларуска-літоўскія землі немагчыма, рыцары прымянялі тактыку захопу і ўтрымання зямель з дапамогай замкаў. Яны ўзводзілі іх на мяжы заваяванай тэрыторыі каля буйных населеных пунктаў або на асноўных гандлёвых шляхах і скрыжаваннях стратэгічных дарог. Тут захопнікі размяшчаліся для часовага пастою, папаўнялі правіянт. Рыцарскія замкі з вышэйпамянёнымі функцыямі адносяцца да замкаў тыпу «кастэль». Іх звычайна будавалі ў цяжкадаступных месцах. Абарона кастэляў складалася з драўляных або мураваных абарончых сцен, земляных валоў і равоў, якія часта абвадняліся.

У першай палове XIV ст. замкі, падобныя на рыцарскія кастэлі, пачалі ўзводзіць і на землях Беларусі і Літвы. Замак-кастэль у Крэве пабудаваны ў 30-я гг. XIV ст. у даліне паміж высокіх пагоркаў каля сутокаў рэчак Краўлянка і Шляхцянка. Крэўскі замак у сваёй планіроўцы мае шмат агульнага з Лідскім. У плане ён нагадвае няправільную трапецыю. З усходу, поўдня і часткова з захаду і поўначы замак баранілі воды рачулак, падпёртых плацінаю. Дзве вежы размяшчаліся па дыяганалі. На паўночна-заходнім рагу была



вялікая Княжацкая вежа (вежа Кейстута), памерамі 18,65х17 м, якая выступала за перыметр замкавых муроў, фланкіруючы заходнюю і паўночную з брамай сцены. Тут было не менш як тры паверхі і склеп-турма. У вежы жылі князь, чэлядзь і начальнік замкавай варты. Княжацкія пакоі размяшчаліся на другім паверсе, дзе вокны значна большыя і шырэйшыя. Над трэцім паверхам, абарончым, відаць існаваў яшчэ адзін ярус бою, аб чым сведчаць рэшткі каменнай лесвіцы ў тоўшчы вежавай сцяны, якая вяла наверх. Гэта мог быць яшчэ адзін паверх або баявыя пляцоўкі, размешчаныя на самым версе вежы. Пры таўшчыні сцен 3 м унізе і 2,5–2,6 м на ўзроўні трэцяга паверха вежа мела больш як 25 м у вышыню.

Падмурак вялікай вежы вышынёй 3 м, складзены з вялікіх груба абчасаных камянёў, пакладзеных на вапнавай рошчыне. Ён мае паўметровую «падушку» з дробных камянёў і гліны. Сцены вежы да вышыні 3 м ад цяперашняй паверхні вымураваны з камянёў. Вышэй ідзе лусковая мuроўка з буйнапамернай цэглы. Таўшчыня цагляных «шчок» каля 0,7 м. Вышыня колішніх паверхаў вежы дасягала 4,8–5 м. Перакрыцці паміж імі былі зроблены на бэльках памерамі 30х30 см. Унутры вежавых сцен бачны каналы ад драўляных брусоў памерамі 40х40 см. Брусы закладваліся для ўмацавання сцен. Паверхі злучаліся паміж сабой драўлянымі лесвіцамі. Княжацкія пакоі былі, відаць, распісаны фрэскамі.

Сцены Крэўскага замка розныя па памерах: паўночная сцяна, якой найчасцей пагражала небяспека, – 85 м, усходняя – 108,5 м, паўднёвая – 71,55 м і заходняя, якая перад вялікай вежай мае невялікае адхіленне ад асноўнай восі – 97,2 м. Таўшчыня замкавых сцен дасягае 2,75 м, яны маюць падмурак вышынёй да 2 м, зроблены з камянёў сярэдняй велічыні на вапне. Ніжнія рады падмурка паўночнай сцяны пакладзены на гліне. Замкавыя сцены да вышыні 4 м зроблены з каменю. Вышэй (і толькі з вонкавага боку) ідзе цагляная абліцоўка. Таўшчыня яе – 65 см. Сцены дасягалі вышыні 12–13 м. На вышыні 10 м па ўсім перыметры на драўляных бэльках размяшчалася баявая галерэя-памост. Абарона замка вялася праз байніцы, размешчаныя ў сценах на адлегласці 2,4 м адна ад адной.

На стыку ўсходняй і паўднёвай сцен, знутры замкавага двара, стаяла яшчэ адна вежа, памеры якой 11х10,65 м. Вежа была прыбудавана да сцен пазней і адрозніваецца ад іх глыбінёй залягання фундаментаў. У канцы XIX ст. вежа яшчэ ўзвышалася над замкавымі сценамі, цяпер яе вышыня дасягае 6,6 м. Яна таксама, як і Княжацкая вежа, мела перакрыцці на бэльках, ад якіх захаваліся ў сценах адтуліны. Вышыня колішняга першага паверха 3,5 м, другога – 2,3 м, трэцяга – не менш за 3 м. Існаваў, несумненна, чацвёрты паверх. Таўшчыня сцен – 2,2 м. Унутры вежа, відаць, была абмуравана цэглай.

У паўднёвай сцяне замка быў запасны выхад-праём. Цяпер яго няма, бо сцяна ў гэтым месцы абвалілася. Але на фотаздымках і малюнках канца XIX – пачатку XX ст. ён добра відаць.

Заходнюю сцяну ля самага долу праразае яшчэ адзін праём спічастай формы вышынёй каля 2,5 м і шырынёй 2,25 м. Некаторыя даследчыкі лічаць яго адтулінай, праз якую пускалі ў замкавы стаў-сажалку ваду. Больш верагодна, што гэта таксама запасны выхад. Да пэўнага часу ён мог быць замураваным у адзін-два рады камянёў, якія пры неабходнасці выбіваліся.

Двор не быў забрукаваны. Толькі ад уваходнай брамы, якая праразала паўночную сцяну, да паўднёва-ўсходняй вежы ішла выбрукаваная дарога шырынёй 8 м. На замкавым падворку ёсць толькі два ўзвышэнні. Адно (50х35 м) прымыкае да вялікай вежы, займаючы паўночна-заходнюю частку двара. Участак забрукаваны. Тут, відаць, былі княжацкія гаспадарчыя службы. На другім пясчаным узвышшы была пабудавана пазнейшая малая вежа.

За сваю гісторыю замак быў сведкам многіх гістарычных падзей. У 1382 г. тут, у падзямеллі Княжацкай вежы, быў задушаны па загадзе Ягайлы яго дзядзька Кейстут, асноўны прэтэндэнт на велікакняжацкі прастол. У 1385 г. у замку былі прыняты ўмовы аб'яднання Літвы і Польшчы пад уладай Ягайлы. У 1443 г. замак быў узяты войскамі князя Свідрыгайлы, які ваяваў за велікакняжацкі прастол з князем Жыгімонтам. У 1503–1506 гг. замак абкладалі і значна разбурылі войскі перакопскіх татараў. Пазней тут, у Княжацкай вежы, жыў беглы князь Андрэй Курбскі. Аднак ужо ў XVI ст. вядомы дыпламат Сігізмунд Герберштэйн адзначаў, што Крэва – горад «з пакінутым замкам».

Замак паступова страціў сваё значэнне як абарончы пункт. У XVIII ст. значна была разбурана вялікая вежа, дах і перакрыцці, абвалілася частка ўсходняй сцяны.

Асабліва пацярпеў замак у час Першай сусветнай вайны. Праз Крэва больш за тры гады праходзіла лінія фронту. Замак знаходзіўся на нямецкім баку абароны. Тут рабілі бетонныя сховішчы (у малой вежы і каля паўднёвай сцяны), назіральныя пункты, у час абстрэлу якіх сцены замка і вялікая вежа былі разбіты, разбураны завяршэнні сцен. Паўночная сцяна замка пахілілася на 10 градусаў. У 1929 г. гэту сцяну ўмацавалі контрфорсам і закансервавалі. Абліцоўка галоўнай вежы была звязана жалезнымі зацяжкамі, а шчыліны заліты вапнай. Тады ж падмуравалі рэшткі паўночна-ўсходняй сцяны, падмацаваныя эскарпам, а таксама правялі шэраг іншых кансервацыйных і рэстаўрацыйных работ.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны стан замкавых муроў значна пагоршыўся.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Г000603 | Музей-сядзіба Ф. Багушэвіча:<br>сядзібны дом<br>гаспадарчыя пабудовы<br>парк | канец XIX стагоддзя | в. Кушляны | 3 | 28.07.2005 № 111 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000604 | Курган | | в. Медрыкі, 1,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000605 | Гарадзішча перыяду жалезнага веку, курганны могільнік | I–IV стагоддзі | в. Монтацішкі, на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000606 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VIII стагоддзе да н.э.–V стагоддзе н.э. | в. Няфёды, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000607 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Сінькі, 0,4 км на поўдзень ад усходняй ускраіны вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000608 | Курганны могільнік перыяду сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Скірдзімы, 2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000609 | Гарадзішча перыяду жалезнага веку | VIII стагоддзе да н.э.–V стагоддзе н.э. | в. Суцькава, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Шчучынскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000610 | Комплекс былога палаца князёў Друцкіх-Любецкіх | канец XVIII стагоддзя | г. Шчучын | 2 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



Палац знаходзіцца ў паўночнай частцы горада, на месцы былога панскага маёнтка, тэрыторыя якога пасля вайны была аддадзена пад ваенны гарадок і даволі шчыльна забудавана.

Спраектаваны ў 1892–1895 гг. віленскім архітэктарам Тадэвушам Растварўскім і быў мала звязаны з папярэднім палацава-паркавым комплексам XVIII ст. Уяўляе сабой дваранскую рэзідэнцыю, мураваную, двухпавярховую, у стылі пецярбургскага неакласіцызму канца XIX ст., з асобнымі элементамі эклектызму.

Рашэнне аб будаўніцтве рэзідэнцыі ў Шчучыне было прынята князем Уладзіславам Друцкім-Любецкім у 1892–1895 гг., у гэты ж час Растварўскім быў распрацаваны праект пабудовы палаца. Па невядомых прычынах будаўніцтва ішло вельмі марудна. Магчыма, гэта было звязана з хваробай князя. Так, да пачатку Першай сусветнай вайны не паспелі на балконах зрабіць агароджы.

Пасля смерці ў 1913 г. князя Уладзіслава Друцкага-Любецкага сям'я была не гатова працягваць будаўніцтва і аддзелку інтэр'ераў. Сам палац у Шчучыне не моцна пацярпеў у час Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Відаць, толькі пасля вяртання апошняга ўладальніка Шчучына князя Яна з вайсковай службы каля 1921 г. магло быць працягнута будаўніцтва і аздабленне палаца. Безумоўна, не спрыяла хутчэйшаму заканчэнню будаўніцтва пасляваенная разруха 1921–1925 гг.

Двухпавярховая мураваная рэзідэнцыя ў плане – шырокі прамавугольнік на высокім каменным цокалі. З агульнага аб'ёму лёгка вычляняюцца з боку галоўнага фасада тры ўзаемазвязаныя аб'ёмы. Сярэдні (цэнтральны) аб'ём, адсунуты злёгку ўнутр, быў ніжэйшы за бакавыя і ўтвараў на галоўным фасадзе порцік з дзвюма калонамі іанічнага ордэра, фланкіруючымі галоўную вось фасада. Плоскі дах, накрыты бляхай, быў агароджаны балюстрадным атыкам, а магутны карніз упрыгожвала моцна прафіляваная ляпніна.

Унутраная планіроўка рэзідэнцыі мела нерэгулярны характар. Жылыя памяшканні ў асноўным групаваліся ўздоўж галоўнага фасада і двух бакавых, а з паркавага фасада размяшчаліся парадныя памяшканні.

Мэбля, згодна з ўспамінамі апошніх уладальнікаў, належала да ранніх стыляў. Памяшканні ўпрыгожвалі партрэты і іншы жывапіс, з скульптуры – мармуровая Леда невядомага аўтара. Амаль усю правую частку паркавага фасада займала на першым паверсе доўгая сталовая, дзе сцены былі ўпрыгожаны партрэтамі каралёў, а ў сервантах захоўвалася фамільнае срэбра і французскі фарфор. Жылыя пакоі мелі больш сучасную мэблю. Унутранае ўбранне, мэбля, вялікая частка маёмасці былі вывезены ў кастрычніку 1939 г.

Будаўніцтва ваеннага гарадка пасля Другой сусветнай вайны на тэрыторыі маёнтка і палацава-паркавага комплексу, а перш за ўсё прыбудова да палаца значна змянілі архітэктурна-планіровачны ансамбль і непасрэдна сам палац.

Помнік знаходзіцца ў адносна здавальняючым стане, захаванне яго фасадных дэталей дае магчымасць у адносна кароткі час яго аднавіць.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000611 | Брацкая магіла | | г. Шчучын, пл. Свабоды | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Ж000612 | Помнік А.С. Пашкевіч | 1954 год | г.п. Астрына, вул. Станкевіча | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000613 | Гарадзішча | | в. Ашуркі, 2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000614 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | VI–VIII стагоддзі | в. Берагоўцы, паміж вёскамі Берагоўцы і Марокі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000615 | Стаянкі перыяду каменнага веку | 4-е тысячагоддзе да н.э., 3–1-е тысячагоддзі да н.э. | в. Бершты, у цэнтры вёскі, 0,5–0,6 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000616 | Касцёл Яна Хрысціцеля сем алтароў касцёла | другая палова XVIII стагоддзя | в. Васілішкі | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1769 г. з цэглы пры манастыры базыльян (не захаваўся). У 1832 г. перабудаваны пад царкву. З 1919 г. касцёл дзейнічаў, пазней закрыты. У 1980-я гг. зноў перададзены вернікам. Помнік архітэктуры позняга барока.

Храм трохнефавы з двухвежавым галоўным фасадам і паўцыркульнай апсідай з сакрысціямі. У кампазіцыі дамінуе галоўны фасад. Цэнтральная плоскасць яго расчлянёна лучковымі праёмамі, лапаткамі і карнізамі, увянчана паўцыркульным франтонам. Першы ярус вежаў увагнуты, са скругленымі вугламі і бакавымі пілястрамі. У другім ярусе ўвагнутыя часткі сцен плаўна пераходзяць у вуглавыя лапаткі з валютамі. Вежы завершаны маленькімі васьміграннымі аб'ёмамі з шлемападобным пакрыццём. Другі ярус галоўнага фасада і верхнія ярусы вежаў часткова перабудаваны. Бакавыя фасады і апсіда прарэзаны лучковымі праёмамі, расчлянёны плоскімі лапаткамі і апяразаны карнізам.





Інтэр'ер касцёла зальны, апсіда аднолькавай шырыні з цэнтральным нефам, раскрываецца ў асноўнае памяшканне арачным праёмам. Над бабінцам паміж аб'ёмамі вежаў размешчаны хоры. Асноўнае памяшканне перакрыта плоскай драўлянай столлю, апсіда конхай. Галоўны двух'ярусны алтар вырашаны ў барочным стылі ў выглядзе карынфскай каланады, якая нясе крапаваны карніз і фігурны шчыт з круглай люкарнай па цэнтры, валютамі, ракайлямі, дэкаратыўнымі вазамі, пуцці, складанымі спляценнямі S-падобных завіткоў. Па цэнтры галоўнага алтара – абраз «Хрышчэнне» пачатку XX ст., у завяршэнні стукавы картуш, афармлены валютамі і фігуркамі двух анёлаў.

Ансамбль сямі алтароў (галоўны, два бакавыя і чатыры кулісныя) выкананы ў тэхніцы стука, апрацаваны пад ружовы і блакітны мармур, упрыгожаны пазалочанай ляпнінай у выглядзе валют, ракайляў і дэкаратыўных ваз у стылі ракако. Пластычна-хвалісты абрыс маюць хоры, узнятыя над нартэксам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000617 | Селішча перыяду жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Ваўчкі, на ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000618 | Каменныя могільнікі | XIII–XIV, X–XV стагоддзі | в. Вензаўшчына, 0,1 км на захад ад вёскі, 80 м на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000619 | Каменныя могільнікі | XVI стагоддзе, XIV–XVII стагоддзі | в. Вераб'і, 0,3 км на поўнач ад вёскі, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000620 | Фрагменты комплексу былой сядзібы:<br>парк<br>гаспадарчыя пабудовы<br>флігель<br>агароджа | канец XVIII –пачатак XIX стагоддзя, 1787 год | в. Вялікае Мажэйкава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Цэнтрам комплексу з рэгулярнай кампазіцыяй быў сядзібны дом (разбураны ў 1914 г.). Па восі сіметрыі перад галоўным усходнім фасадам размяшчалася парадная плошча і ўезд у сядзібу з двума штучнымі прамавугольнымі вадаёмамі па баках.

Прамавугольны ў плане мураваны аднапавярховы флігель вырашаны ў формах класіцызму. Лямус размешчаны ў паўночнай частцы сядзібы. Двухпавярховы квадратны ў плане будынак. Першы паверх мураваны, другі драўляны.

Парк плошчай каля 5 га. Мае сіметрычную рэгулярную планіроўку. Складаецца з параднага партэра і сістэмы баскетаў, падзеленых сеткай алей. Да партэра прымыкаюць два рады дэкаратыўных баскетаў. Яшчэ два рады баскетаў з пладовымі дрэвамі ўтвараюць паступовы пераход да парадпай часткі парку да саду. Кампазіцыйную вось парку завяршала мураваная капліца, у паўднёва-заходняй частцы парку стаяла мураваная альтанка-ратонда (не захавалася). З насаджэнняў трапляюцца экзоты.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000621 | Былая сядзіба | пачатак XX стагоддзя | в. Галавічполе | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры з элементамі неаготыкі. Г-падобны ў плане, асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Складаецца з адна- і двухпавярховых аб'ёмаў рознай велічыні, накрытых высокімі чарапічнымі дахамі. У дэкоры выкарыстаны фігурныя люкарны, спічастыя шчыты, пінаклі, гранёныя эркеры з шатровымі завяршэннямі. Да паўднёва-заходняй сцяны прымыкае звязаная з калідорам тэраса. Дэкаратыўнае вырашэнне фасадаў заснавана на кантрастным спалучэнні чырвонага фону цаглянай муроўкі з атынкаванымі архітэктурнымі дэталямі – ліштвамі, карнізамі і рустоўкай. Гарызантальныя паясы, абрамленні праёмаў, дэкаратыўная рустоўка вуглоў ствараюць на плоскасці фасадаў складаны геаметрыч-

ны малюнак. У аздабленні фасадаў выкарыстаны таксама трохвугольныя дэкаратыўныя балкончыкі, металічныя каваная агароджа балконаў і тэрасы, паліваная кафля з раслінным малюнкам у паўцыркульных нішах над вокнамі. Планіроўка дома калідорная.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000622 | Гарадзішча перыяду позняга сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Галынка, 0,3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000623 | Каменны могільнік перыяду сярэднявечча | XIV–XVI стагоддзі | в. Галынка, 2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Круглік | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000624 | Курган | | в. Глебаўцы, 0,5 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000625 | Каменны могільнік | XVI стагоддзе | в. Даўбенкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000626 | Селішча перыяду сярэднявечча | XII–XIII стагоддзі | в. Дварчаны, 0,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000627 | Комплекс былога палаца:<br>палац<br>флігель<br>мураваны млын<br>кузня<br>гаспадарчыя пабудовы<br>парк | XVIII – пачатак XX стагоддзя | г.п. Жалудок, на правым беразе р. Грушка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Палац пабудаваны князямі Чацвярцінскімі ў 1907–1908 гг. паводле праекта архітэктара У. Марконі. Увесь палацава-паркавы комплекс не быў вытрыманы ў адзіным архітэктурным стылі. У ім суседнічалі разнастайныя пабудовы: неабарочны палац, неагатычны флігель і г.д.

Палац – двухпавярховы будынак, накрыты ламаным дахам. У дэкоры фасадаў выкарыстаны бакавыя круглаватыя рызаліты, фігурныя ліштвы і люкарны, картушы і гірлянды. У інтэр'еры будынка ў цэнтральнай частцы размешчана зала, вестыбюль з парадней лесвіцай.



Флігель – аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з круглай у сячэнні шатровай вежай, прыбудаванай да тарцовага фасада. Сцены з бутавага каменю, члянёны стральчатымі аконнымі праёмамі. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе партала.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413Д000628 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Жалудок, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000629 | Селішча | | г.п. Жалудок, на правым беразе р. Жалудзінка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000630 | Гарадзішча | | хутар Зубраўка, 0,2 км злева ад дарогі ў в. Сухары | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000631 | Троіцкі касцёл дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера: галоўны алтар, два бакавыя алтары, амбон, роспіс скляпенняў у апсідзе | 1758 год, канец XVIII стагоддзя | в. Ішчална | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы па фундацыі гродзенскага харунжага Язэпа Валы на месцы драўлянага храма 1670–1678 гг. Помнік архітэктуры позняга барока.

Касцёл аднанефавы, двухвежавы з пяцігранңай апсідай і сакрысціямі. Дамінуючае становішча ў аб'ёмнай кампазіцыі займае галоўны фасад. Яго вузкую цэнтральную плоскасць фланкіруюць квадратныя ў плане вежы, якія рэльефна выступаюць з асноўнага аб'ёму, маюць нізкае шлемападобнае завяршэнне. Фасадныя і бакавыя плоскасці вежаў апяразаны карнізамі, расчлянёны плоскімі прамавугольнымі філёнгамі і прарэзаны прамавугольнымі, лучковымі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя фасады будынка завершаны карнізам і расчлянёны ў верхняй частцы двума радамі лучковых акон.

Інтэр'ер касцёла зальны, выцягнуты па падоўжнай восі. Асноўны аб'ём і апсіда перакрыты драўляным лучковым скляпеннем. Сцены дэкарыраваны тонкімі спаранымі лапаткамі, завершаны шырокім карнізам. Над бабінцам паміж аб'ёмамі вежаў ступеньчатыя ў плане хоры. Тры алтары і амбон выкананы ў стылі ракако. Галоўны алтар двух'ярусны. Першы ярус устаноўлены на высокім цокалі, падзелены калонамі карынфскага ордэра на тры часткі, аддзелены ад другога яруса хвалепадобным антаблементам з ляпным дэкорам. У цэнтры вялікі абраз «Святая Сям'я», злева абраз «Св. Пётр», справа абраз «Хрышчэнне». У цэнтры другога яруса – картуш з люнетай, па баках жывапісныя панэлі, дэкаратыўныя вазы і выявы анёлаў. Два бакавыя алтары формай і дэкорам нагадваюць галоўны, але меншыя за яго, увянчаны скульптурнымі кампазіцыямі Святых Францішка і Варвары сярод анёлаў і ракайльных завіткоў. Пабудаваны яны ў выглядзе пласцін, расчлянёных на два ярусы тонкапрафіляванымі і раскрапаванымі антаблементамі, фланкіраваны калонамі, капітэлі якіх з'яўляюцца пастаментамі для пуцці. На правай сцяне ляпная экспрэсіўная гарэльефная кампазіцыя «Архангел Міхаіл, які топча д'ябла» – шэдэўр мастацтва ракако.

Высокамастацкім дэкаратыўна-скульптурным творам з'яўляецца амбон. Яго кафедра – пластычная чаша, падтрыманая кансоллю-ракавінай. Ракайльныя панэлі на яе гранях запоўнены ляпнымі кампазіцыямі на біблейскія тэмы. Праз спрошчаную фігурную панэль кафедра аб'яднана з балдахінам, завершаным экспрэсіўнай кампазіцыяй з выявай святой з крыжам і пуцці. Размах і насычанасць скульптурнага і ляпнога дэкору эфектна кантрастуюць з лаканізмам архітэктурных плоскасцей інтэр'ера.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000632 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XI–XIV стагоддзі | в. Касцянёва, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000633 | Каменны могільнік | XIV–XVI стагоддзі | в. Клешнякі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000634 | Камень-следавік | | в. Красулі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000635 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча, курганныя могільнікі, каменны могільнік | X–XIII, XIV–XVI стагоддзі | в. Кульбачына, 0,8 км на захад ад вёскі, 0,2 км на поўнач ад вёскі, 0,3 км на поўдзень ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000636 | Каменны могільнік | IV–VI стагоддзі | в. Краснае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000637 | Стаянка | перыяд бронзавага веку | в. Мацеўчукі, на правым беразе р. Лебяда | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 410Г000638 | Свята-Раства-Багародзіцкая царква (крэпасць абарончага тыпу) | 1524 год | в. Мураванка | 0 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік абарончага дойлідства. Мае стылявыя адзнакі беларускай готыкі.

У плане нагадвае правільны прамавугольнік, блізкі да квадрата (15х13,5 м). Да ўсходняга фасада прымыкае адна апсіда амаль на ўсю шырыню царквы. Вежы храма круглыя: дыяметр заходніх – каля 4,5 м, усходніх – каля 3 м. Таўшчыня сцен дасягае 2 м. Сцены і вежы маюць байніцы. Унутраная прастора збудавання падзелена чатырма гранёнымі слупамі на тры нефы, якія перакрыты зоркавымі скляпеннямі. Гурты апошніх у перапляценнях утвараюць ромбы і трохкутнікі.

Фасады храма насычаны дэкаратыўнымі элементамі. Нішамі ўпрыгожаны не толькі сцены, але і вежы, апсіда. Усё збудаванне ахоплівае дэкаратыўны паясок – рад цэглы, пакладзенай пад вуглом. Спалучэнне цёмна-чырвонага фона сцяны з белымі паясамі і нішамі надае храму асаблівае хараство, таму яго фасады не выклікаюць уражання суровасці.

Храм неаднойчы змяняўся, асабліва ў час капітальных рамонтаў у 1822 і 1871–1872 гг. Зніклі некаторыя характэрныя дэталі, якія стваралі непаўторны каларыт царквы-крэпасці. Аказалася замураванай частка байніц на галоўным і бакавых фасадах, зніклі байніцы з усходняга. Раскіданы лесвіцы алтарных вежаў, на адзін ярус надбудаваны заходнія вежы заходняга фасада. Зроблены новыя карнізы, пабудаваны прытвор. На вонкавых сценах з'явілася тынкоўка. Аднак, нягледзячы на істотныя змены, першапачатковы выгляд храма ў асноўным захаваўся.

У час Вялікай Айчыннай вайны была пашкоджана, у канцы 1940 – пачатку 1950-х гг. адрамантаваны сцены, скляпенні, дах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 412Г000639 | Юр'еўскі касцёл тры алтары | XVIII стагоддзе | в. Новы Двор | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1749 г. (1792 г.) з дрэва на месцы храма 1670 г. Адноўлены ў 1880 г. Помнік драўлянага дойлідства.

Касцёл складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, завершанага васьміграннай вежай, і пяціграннай апсіды з сакрысціямі. Асноўны аб'ём і апсіда накрыты агульным двухсхільным дахам з вальмамі. Сакрысціі маюць самастойныя вальмавыя дахі. Сцены прарэзаны лучковымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Франтон галоўнага фасада аддзелены ад плоскасці карнізам, гарызантальна ашаляваны.

У інтэр'еры асноўнае памяшканне выцягнута па падоўжнай восі. Плоскую столь падтрымліваюць шэсць слупоў, звязаных бэлькамі ў два падоўжныя рады. Тры разныя алтары выканаНы ў стылі ракако. Невысокі дэкарыраваны медальёнамі цокаль галоўнага алтара падтрымлівае асноўны ярус, расчлянёны чатырма круглымі калонамі. Наверша, аддзеленае ад асноўнага яруса

разным карнізам, аздоблена выявамі галовак херувімаў, кароны, ваз, картушам; у сярэдзіне – алтарны абраз «Багародзіца». У дэкоры шырока выкарыстана скразная пазалочаная разьба па дрэве, у арнаментыцы якой валюты, ракайлі, лісце аканта. Бакавыя алтары кампазіцыйна паўтараюць галоўны, але дэкарыраваны больш сціпла. Устаноўлены на хорах арган упрыгожаны драўлянымі скульптурамі двух анёлаў, двух херувімаў і накладной залачонай разьбой у стылі ракако.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000640 | Селішча перыяду сярэднявечча | XII–XIII стагоддзі | в. Орля, 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000641 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Орля | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000642 | Каменныя магілы | XIV–XVI стагоддзі | в. Плёткі, на правым беразе р. Латачок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 412Г000643 | Петрапаўлаўскі касцёл | 1674, 1924–1925 гады | в. Ражанка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1674 г. з цэглы і бутавага каменю. Перабудаваны ў 1827 г. паводле праекта архітэктара Генрыка Марконі. Аднаўляўся ў 1924–1925 гг. Капітальна адрамантаваны і адкрыты ў 1990 г. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю.

Аднанефавы крыжападобны ў плане храм з больш нізкімі пяціграннай апсідай і трансептам. Тарцы высокіх двухсхільных дахаў над нефам і крыламі трансепта закрыты ступеньчатымі шчытамі. Да бакавых сцен асноўнага аб'ёму далучаны дзве прамавугольныя ў плане капліцы. Да паўднёва-заходняга вугла нефа прыбудавана трох'ярусная вежа (васьмярык на двух чацверыках), накрытая васьміграннем спічастым шатром, да нефа з паўночнага боку далучана невялікая сакрысцыя. Вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны контрфорсамі і завершаны дэкаратыўнымі вежачкамі. Вокны высокія, паўцыркульныя, з узорыстымі вітражамі. У цэнтры галоўнага фасада круглае акно-ружа, вышэй яго дэкаратыўны арнамент, пояс і шчыт. Аздабленне фасада дапаўняюць вузкія плоскія нішы з трохлопасцевымі арачнымі завяршэннямі і ляпны герб. Галоўны ўваход вырашаны стральчатым парталам.

Унутраная прастора касцёла перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта – крыжовымі скляпеннямі. Апсіда і капліцы раскрываюцца ў прастору нефа арачнымі праёмамі. Над уваходам – хоры. Сцены асноўнага аб'ёму расчлянёны пілястрамі і размаляваны ў верхняй частцы шматфігурнымі кампазіцыямі на біблейскія тэмы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 413В000644 | Каменныя магілы | XIV–XVI стагоддзі | в. Сырні, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413Д000645 | Магіла А.С. Пашкевіч (Цёткі) | 1916 год | в. Стары Двор | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000646 | Гарадзішча перыяду сярэднявечча | XI–XIII стагоддзі | в. Турэйск, у вёсцы на правым беразе р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 413В000647 | Курганны могільнік, селішчы 1 і 2 | XI–XIV стагоддзі, VI стагоддзе да н.э., II стагоддзе н.э. | в. Яселевічы, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, 200 м на поўдзень ад вёскі, 0,8 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

# ГЛАВА II

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ РУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

## Гродзенская вобласць

### г. Гродна

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 421Ж000019 | Сярэбная ваза | XIX стагоддзе | Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей | 1 | 04.06.1999 № 53 | 14.05.2007 № 578 |
| 422Ж000020 | Невядомы мастак. Эразм з Вадхайма. Палатно, алей | канец XVII стагоддзя | Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей | 2 | 20.09.2000 № 60 | 14.05.2007 № 578 |
| 422Ж000021 | Невядомы мастак. 'Партрэт кардынала. Палатно, алей | канец XVII – XVIII стагоддзе | Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей | 2 | 20.09.2000 № 60 | 14.05.2007 № 578 |
| 423Ж000022 | Невядомы мастак. Зняцце з крыжа. Палатно, алей | канец XVIII – XIX стагоддзе | Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей | 3 | 20.09.2000 № 60 | 14.05.2007 № 578 |
| 423Ж000023 | Невядомы мастак. Эпізод паўстання 1831 года. Палатно, алей | XIX стагоддзе | Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей | 3 | 20.09.2000 № 60 | 14.05.2007 № 578 |
| 423Ж000024 | Байкоў. Група уланаў. Палатно, алей | XIX стагоддзе | Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей | 3 | 20.09.2000 № 60 | 14.05.2007 № 578 |

## Карэліцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 422Ж000025 | Крэсла (КП-22642) | 1936 год | філіял Нацыянальнага мастацкага музея «Мірскі замак» | 2 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |
| 422Ж000026 | Стол (КП- 22439) | 1936 год | філіял Нацыянальнага мастацкага музея «Мірскі замак» | 2 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |

**ДЗЯРЖАЎНЫ СПІС ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**РАЗДЗЕЛ І
ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

# МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ





# ГЛАВА І

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ НЕРУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Горад Магілёў

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Е000001 | Гістарычны цэнтр г. Магілёва: будынкі і збудаванні, планіровачная структура, ландшафт і культурны пласт, у межах броўкі левага берага р. Дубравенка, вул. Яцыны, Камісарыяцкага завулка, 50 м на поўнач ад чырвонай лініі забудовы вул. Лепяшынскага, броўкі верхняга плато правага берага р. Дзебра, броўкі карэннага правага берага р. Днепр | XIV–XX стагоддзі | г. Магілёў | 3 | 09.07.2003 № 87 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 513В000002 | Культурны пласт старажытнай тэрыторыі Мікольскай царквы, у міжрэччы правага берага рэк Днепр і Дзебра, у межах вуліц Вялікая Грамадзянская, Малая Грамадзянская, Сурты, урочышча Падміколле (Мікольскі пасад) | XVI–XVIII стагоддзі | г. Магілёў | 3 | 09.07.2003 № 87, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 513В000003 | Грунтавы могільнік і рэшткі сярэдневяковых умацаванняў | XII–XIII стагоддзі | пры ўпадзенні р. Дубравенка ў р. Днепр, урочышча Могілкі (цяпер тэрыторыя парку імя Горкага) | 3 | 09.07.2003 № 87 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000004 | Тэрыторыя Троіцкага пасада старажытнага Магілёва | XVI–XVIII стагоддзі | тэрыторыя, абмежаваная левым берагам р. Днепр у раёне пр. Пушкінскага, вул. Вялікай Чавускай (0,42 км на ўсход ад пр. Пушкінскага), вул. Гагарына (0,34 км на захад ад пр. Пушкінскага), умоўнай лініяй, паралельнай пр. Пушкінскаму (0,34 км на паўднёвы захад ад урочышча Лупалава Слабада) | 3 | 09.07.2003 № 87 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000005 | Тэрыторыя Задубравенскага пасада старажытнага Магілёва | XVI–XVIII стагоддзі | тэрыторыя, абмежаваная схіламі вул. Вароўскага, зав. Ленінградскім, вул. Правая Дубравенка, зав. Яравым і тэрыторыяй Быхаўскага рынку | 3 | 09.07.2003 № 87 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000006 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – XII стагоддзе | тэрыторыя, абмежаваная схіламі ўздоўж вул. Правая Дубравенка, зав. Рылеева, вуліц Лазарэнкі, Струшня і Садовая, урочышча Змяёўка | 3 | 09.07.2003 № 87 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000007 | Былы касцёл Св. Казіміра | пачатак XVII (1604 год) – XIX стагоддзе | вул. Болдзіна, 3 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000008 | Рэшткі Богаяўленскага манастыра | XVII– XIX стагоддзі | у квартале, абмежаваным вуліцамі Першамайскай, Ленінскай, Болдзіна | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000009 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Болдзіна, 4 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000010 | Комплекс будынкаў гарадской бальніцы | 1802–1864 гады | вул. Боткіна, 2 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000011 | Крыжаўзвіжанская царква | XVII – сярэдзіна XIX стагоддзя | зав. Брусава, 2 | 2 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы як жылы дом, які ў XIX ст. перабудаваны пад царкву (у літаратурных крыніцах вядома як Барысаглебская царква). Помнік архітэктуры барока і рэтраспектыўна-рускага стылю.

Да квадратнага ў плане аб'ёму з усходу прыбудавана трохгранная апсіда, з захаду – двух'ярусная званіца. Будынак завершаны чатырохсхільным дахам, на вільчыку ўзвышаецца драўляная галоўка. Атынкаваныя фасады былі дэкарыраваны раслінным арнаментам паводле беларускіх народных матываў, выкананым па вільготнай тынкоўцы. Званіца накрыта невысокім шатром з галоўкай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000012 | Барысаглебская царква | 1866–1869 гады | зав. Брусава, 2 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000013 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | вул. Быхаўская, 6 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000014 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | вул. Быхаўская, 12 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000015 | Будынак былога мужчынскага епархіяльнага вучылішча | першая палова XIX стагоддзя | вул. Чалюскінцаў, 10 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000016 | Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча | 1889–1892 гады | вул. Вароўскага, 29 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 511Г000017 | Комплекс Мікольскага манастыра ў межах агароджы:<br>званіца<br>жылы дом (шпіталь)<br>Мікольская царква<br>дэкаратыўнае аздабленне царквы: фрэскі сюжэтныя, фрэскі арнаментальныя, іканастас, арнаментальная ляпніна<br>Ануфрыеўская царква<br>агароджа з уязной брамай | XVII–XVIII стагоддзі | вул. 1-я Волі | 1 | 14.05.1998 № 45, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Мікольская царква – галоўны храм комплексу. Мураваны будынак узведзены на месцы драўлянага ў 1669–1672 гг. Царква ўяўляе сабой трохапсідную крыжова-купальную базіліку з васьмігранным светлавым барабанам і вялікім цыбулепадобным купалам над міжкрыжжам. Архітэктурнай дамінантай царквы стаў галоўны фасад з фігурным франтонам паміж вежамі, упрыгожанымі сістэмай паярусна размешчаных рознай формы ніш. Арыгінальным элементам з'яўляецца наяўнасць у дэкоры сцен разных узораў раслінага характару, сугучных разьбе іканастаса. Усё гэта дае магчымасць гаварыць аб прыўнясенні ў праваслаўнае культавае дойлідства Беларусі асобных прыёмаў і форм заходнееўрапейскай каталіцкай архітэктуры. Галоўны ўваход абазначаны васьмігранным тамбурам больш позняй пабудовы. Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, крылы трансепта завяршаюцца фігурнымі шчытамі.

Драўляны чатырох'ярусны іканастас па тонкасці выканання і складанасці форм з'яўляецца выдатным творам беларускіх майстроў, створаным у перыяд да 1672 г. Па сваёй пабудове (яруснасці) і формах (драўляныя калонкі, упрыгожаныя разьбой з вінаграднай лазы – спецыфічны матыў барока), характары разьбы ён сугучны з іканастасамі работы Кліма Міхайлава. Іканастас увянчаны скульптурным распяццем у абрамленні багатай разьбы.



Інтэр'ер царквы ўпрыгожаны манументальным жывапісам рознага часу. Самымі раннімі з'яўляюцца фрэскі канца XVII ст. – «Тройца новазапаветная» ў падкупальнай прасторы і выявы чатырох евангелістаў з сімваламі ў руках. Сюжэтныя сцэны на біблейскія тэмы размешчаны на другім ярусе, паміж аконнымі праёмамі светлавога барабана, датуюцца 1-й паловай XVIII ст. У алтарнай частцы захаваліся невялікія сюжэтныя кампазіцыі і арнаментальны дэкор канца XVII–XIX ст. Напісаны яны па вільготнай тынкоўцы ў светлых цёплых танах. Кампазіцыі характарызуюцца прасторавай глыбінёй і аб'ёмам. У сцэны ўведзены пейзаж з невялікімі архітэктурнымі кулісамі.

У Вялікую Айчынную вайну храм быў пашкоджаны, аднак скляпенні ацалелі. У 1946 г. Упраўленне па справах архітэктуры пры СМ БССР рэкамендавала царкву ўключыць у спіс аб'ектаў для рэстаўрацыі. Звярталася ўвага на захаванасць у алтары фрэскавага жывапісу XVII–XVIII стст., на арнаментыку іканастаса, афармленне ўваходных дзвярэй.

Мікольская царква – адзіны ацалелы помнік архітэктуры «магілёўскага барока». Яна з'яўляецца характэрным прыкладам дойлідства, у якім ярка праявіліся канструктыўна-планіровачныя архітэктурна-дэкаратыўныя рэгіянальныя асаблівасці як у вонкавым абліччы храма, так і ў інтэр'еры.



Ануфрыеўская царква пабудавана ў 1798 г. побач з Мікольскай царквой, з'яўляецца цёплай (зімняй) царквой. Крыжова-купальны храм. Уяўляе сабой крыжова-купальны аб'ём, над сяродкрыжжам – светлавы цыліндрычны барабан, завершаны сферычным купалам. Крылы трансепта завершаны трохвугольнымі франтонамі і дэкарыраваны пілястрамі.

Жылы дом узведзены ў XVII ст. як шпіталь і царкоўны жылы дом. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак далучаны да паўднёвага боку агароджы. Тарцовы фасад завершаны шчытом фігурнага абрысу і дэкарыраваны трыма спаранымі арачнымі нішамі.

Агароджа з брамай будавалася ў XVII–XVIII стст. Уяўляе сабой глухую мураваную сцяну, якая абкружае трапецападобную тэрыторыю, дэкарыраваную аркатурным поясам, мае два ўваходы. Заходні – галоўная ўязная брама з лучковым праёмам. У паўднёва-ўсходнім баку агароджы ўбудавана аднапавярховая квадратная ў плане шатровая капліца.

Званіца ўзведзена ў XVII–XVIII стст. у паднёва-заходнім баку агароджы. Квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне з высокім шатровым дахам. Першы чацверыковы ярус – глухі, грані дэкарыраваны арачнымі нішамі, вуглы – пілястрамі, другі – шасціграннік, мае арачныя праёмы (праз адну ў кожнай грані). Комплекс пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну. Пасля рэстаўрацыі (1990 г. ) манастыр аднавіў сваю дзейнасць.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000018 | Былыя яўрэйскія ешыбот, хедэр і сінагога | пачатак XX стагоддзя | вул. Вялікая Грамадзянская, 13 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000019 | Былая царква Алены і Канстанціна | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Дарвіна, 1 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000020 | Комплекс былога кармеліцкага кляштара:<br>касцёл Св. Станіслава (Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі) з плябаніяй і роспісам у інтэр'еры касцёла;<br>тэрыторыя комплексу:<br>з паўднёвага боку абмежаваная існуючай падпорнай сцяной, якая ўключае праезд ад чырвонай лініі забудовы да перадкасцельнай плошчы, і далей на ўсход ад падпорнай сцяны перадкасцельнай плошчы ўмоўнай лініяй, паралельнай вул. Камсамольскай (55 м на поўнач ад чырвонай лініі забудовы вул. Камсамольскай);<br>з усходняга боку абмежаваная ўмоўнай лініяй, паралельнай вул. Ленінскай (50,5 м на захад ад чырвонай лініі забудовы, арыентаванай па дамах № 16, 20 па вул. Ленінскай);<br>з паўночнага боку абмежаваная ўмоўнай лініяй, паралельнай падпорнай сцяне (46,2 м на поўдзень ад чырвонай лініі забудовы (ад дома К. Лібкнехта, 7);<br>з заходняга боку абмежаваная ўмоўнай лініяй у створы існуючай падпорнай сцяны | пачатак XVIII стагоддзя | вул. Камсамольская, 4 | 2 | 21.11.2003 № 30, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Кляштар кармелітаў быў заснаваны ў Магілёве ў XVII ст. (паводле некаторых звестак у 1636 г.) па фундацыі польскага караля Жыгімонта III Вазы. Касцёл і кляштар знаходзіліся ў Старым горадзе, насупраць Каралеўскай брамы, і першапачаткова былі драўляныя. У 1738–1752 гг. на месцы згарэлага ў 1708 г. драўлянага храма пабудаваны мураваны касцёл, асвячоны ў 1765 г. віленскім біскупам Ф. Зянковічам ў гонар Спачыну Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У 1773 г. ён стаў кафедральным храмам каталіцкіх мітрапалітаў, у 1782 г. быў перададзены каталіцкаму мітрапаліту Станіславу Богушу-Сестранцэвічу і пераасвячоны ў імя Св. Станіслава. Кляштар кармелітаў быў скасаваны ў 1831 г.



Першапачаткова касцёл быў пабудаваны ў ярка выяўленым стылі барока. Гэта была трохнефавая

бяскупальная базіліка. Алтарнай часткай храм арыентаваўся на поўнач. Прэсбітэрый у плане меў паўцыркульнае завяршэнне тарцовай сцяны. Галоўны фасад быў аформлены ў выглядзе трохвосевай двухвежавай кампазіцыі з высокім разным франтонам.

Знешнія формы касцёла былі істотна зменены ў 1782–1784 гг. Карэнным чынам перабудаваны галоўны фасад і ўся паўднёвая частка храма. З боку ўвахода ўзвялі дадатковы аб'ём нартэкса, па шырыні роўны папярочным нефам базілікі, а па даўжыні істотна большы за шырыню храма. У выніку кампазіцыя галоўнага фасада набыла рэдкую для касцельнай архітэктуры сямівосевую схему. Бакавыя фасады вылучаны васьміграннымі ратондападобнымі прыбудовамі. У адной з вежаў змяшчаліся тры званы (адзін вялікі і два малыя). Цэнтральная частка ўпрыгожана чатырохкалонным іанічным порцікам.

Падобнае вырашэнне фасада ў Беларусі меў толькі касцёл у маёнтку Маляцічы, які з 1784 г. належаў С. Богушу-Сестранцэвічу. Па волі заказчыка касцёл у Маляцічах (разбураны ў 1934 г. ) будавалі як паменшаную ў 32 разы копію сабора Св. Пятра ў Рыме. Праект распрацаваў вядомы віленскі архітэктар Л. Стуока-Гуцявічус, кіраваў будаўніцтвам яго вучань Я. Падчашынскі.

Рысы барока меў і багаты інтэр'ер былога кармеліцкага касцёла. У касцёл вялі дубовыя дзверы. Пры ўваходзе з аднаго боку стаяла мармуровая ваза і драўлянае распяцце, з другога – каменны посуд для вады. Усіх алтароў у пачатку XX ст. налічвалася сем. Увесь касцёл унутры (скляпенні і сцены) распісаны сухімі фарбамі (альфрэска) з выявамі розных сцэн на біблейскія і евангельскія тэмы, а таксама сюжэтаў з гісторыі кармеліцкага ордэна. Аркады, пілястры, капітэлі, фрызы ўпрыгожаны характэрным для Магілёўшчыны раслінным арнаментам. Фрэскавы роспіс выкананы ў 1765–1767 гг., 1780-я гг. У 1860-я гг. роспіс паднаўляўся і дапаўняўся мастаком Фёрстам (чатыры кампазіцыі каля алтара). Стыль роспісаў разнастайны. Ніжні рэгістр манерай выканання адрозніваецца ад кампазіцый, размешчаных на скляпеннях галоўнага нефа.

На працягу XIX–XX стст. касцёл неаднаразова рамантаваўся, але яго архітэктурнае аблічча заставалася нязменнае. Каля касцёла знаходзіліся драўляныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы, пладовы сад. Тэрыторыя была абгароджана драўляным плотам заднымі варотамі і весніцамі.

З 1935 г. у будынку касцёла размяшчаўся гістарычны, у 1964–1986 гг. – Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці. 13 ліпеня 1990 г. адбылася ўрачыстая перадача касцёла вернікам. Рэстаўрыраваны ў 1986–1994 гг. З 1991 г. – кафедральны сабор Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000021 | Комплекс ваенных казарм – галоўны і службовы будынкі | 1908 год | вул. Крупскай | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Д000582 | Вайсковыя могілкі | 1941–1944 гады | вул. Лазарэнкі | 2 | 25.02.2003 № 82 | 03.09.2008 № 1288 |





Плошча 1,8 га. Пахаваны астанкі 300 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Сярод пахаваных Героі Савецкага Саюза М.К. Буянаў, М.А. Замулаеў, А.М. Касаеў, М.В.Рамашка.

На могілках пастаўлены помнік – скульптурная кампазіцыя, 19 надмагільных пліт з імёнамі загінуўшых. У кампазіцыю ўключана надмагільная пліта з прысвячэннем усім загінуўшым падпольшчыкам у гады вайны.



З паўднёвага боку ад могілак знаходзіцца магіла расстраляных 25 ліпеня 1941 г. байцоў народнага апалчэння. На магіле пастаўлены помнік з чорнага граніту, на якім высечаны памятны надпіс. Перад помнікам надмагільная пліта з імёнамі загінуўшых. Помнік з плітой абнесены невысокай агароджай, абліцаванай паліраванымі плітамі.

| 512Г000583 | Капліца на каталіцкіх могілках | канец XIX стагоддзя | вул. Лазарэнкі | 2 | 14.05.1998 № 45 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|




Пабудавана з цэглы ў 1907 г. паводле плана, зацверджанага Магілёўскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыяй як радавая пахавальня Сенажацкіх. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

З закрыццём у 1947 г. касцёла Св. Станіслава перастала дзейнічаць і капліца. Будынак у 1950-я гг. перадалі пад склад. Існавала нават пагроза зносу. Капліца вернута вернікам і нанава асвячона 25 лістапада 1989 г.

Кампактны прамавугольны ў плане будынак з чырвонай цэглы накрыты нізкім двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны аднаяруснай чацверыковай вежай-званіцай, завершанай па баках трохвугольнымі франтонамі. У цэнтры вежы высокі арачны аконны праём, дэкарыраваны абрамленнем з замковым каменем, на бакавых фасадах такога ж абрысу нішы. Галоўны ўваход аформлены трохвугольным сандрыкам. Бакавыя фасады асноўнага аб'ёму крапаваны лапаткамі, прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі зверху з абрамленнем. Тыльны фасад завершаны трохвугольным франтонам. Па перыметры будынак апаясаны карнізам.

| 513Г000022 | Воданапорная вежа | пачатак XX стагоддзя | вул. С. Лазо | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000023 | Будынак былой управы | XVII стагоддзе | вул. Ленінская, 1 | 2 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |



Складаецца з двух- і трохпавярховых прамавугольных у плане аб'ёмаў. Галоўны тарцовы фасад падзелены карнізнымі цягамі на тры ярусы, аздоблены руставанымі пілонамі, падвойнымі пілястрамі, шырокімі лапаткамі. Фасады атынкаваныя. Бакавы дваровы фасад падзелены міжпаверхавай цягай, завершаны прафіляваным карнізам. Першы паверх вырашаны плоска, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. На другім паверсе прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі з прамымі сандрыкамі.

| 512Г000024 | Будынак | 1790 год | вул. Ленінская, 7 | 2 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будаваўся як жылы двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак з закругленай вуглавой часткай. Помнік архітэктуры класіцызму.

Цэнтральная частка галоўнага фасада з мансардай вылучана трохвугольным франтонам і фрызам з трыгліфамі. Паверхі аддзелены карнізным пояском. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія на другім паверсе абрамлены ліштвамі з замковым каменем. У вуглавой частцы дваровага фасада размешчаны ўваход у будынак, невялікі вестыбюль з лесвіцай на другі паверх, вакол якіх – жылыя памяшканні. З боку галоўнага фасада знаходзіцца арачны праезд ва ўнутраны двор.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 511Г000025 | Былы архірэйскі палац | 1772–1785 гады | вул. Ленінская, 11а | 1 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |



Уваходзіў у ансамбль Спаскага манастыра. З'яўляўся рэзідэнцыяй архіепіскапа Г. Каніскага ў 1785–1795 гг. (па яго ініцыятыве пабудаваны), з 1797 г. – А.Братаноўскага. Аўтар праекта архітэктар І.К. Глаўбіц. У 1918 г. будынак займала Магілёўская губернская надзвычайная камісія. У далейшым унутраная планіроўка была зменена.

Мураваны трохпавярховы будынак (трэці паверх атыкавы ў цэнтральнай частцы), прамавугольны ў плане з сіметрычнымі двухпавярховымі рызалітамі па баках, накрыты высокім ламаным дахам. Галоўны і дваровы фасады (з глыбокім гарызантальным рустам сцен, руставанымі пілястрамі на вуглах) маюць крывалінейныя пераходы да рызалітаў, прамавугольныя аконныя праёмы з ліштвамі, філянговыя нішы, тонкапрафіляваныя карнізы.

Пасля 1853 г. на тэрыторыі архірэйскага двара як галоўны ўезд пабудавана мураваная брама.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000584 | Будынак былога крэдытнага таварыства | пачатак XX стагоддзя | вул. Ленінская, 36 (зав. Мігая, 13) | 3 | 14.05.1998 № 45 | 03.09.2008 № 1288 |
| 512Г000026 | Былы дом купца Анташкевіча | 1698 год | вул. Ленінская, 37 | 2 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |



Трохпавярховы (трэці паверх – мансарда, якая надбудавана ў час рэканструкцыі) з паўпадвальным паверхам будынак прамавугольны ў плане, накрыты ламаным дахам. Цэнтральная частка фасада завершана атыкам лучковага абрысу з люкарнай у тымпане. У цэнтры фасада галоўны ўваход вылучаны лучковай аркай, над якой невялікі балкон з металічнай ажурнай агароджай. Праём балконных дзвярэй аформлены лучковым парталам. Фасады раскрапаваны лапаткамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў абрамленнях з падаконнымі нішамі. На галоўным фасадзе міжаконныя прасценкі паміж вокнамі першага і другога паверхаў аздоблены філёнгамі. Па перыметры пад дахам праходзіць шырокі шматслойны карніз. Унутраная планіроўка зменена. Першы паверх і падвал перакрыты скляпеннямі.

24 снежня 1982 г. у будынку адкрыты мемарыяльны музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000027 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Ленінская, 48а | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000028 | Будынак банка | 1904–1906 гады | вул. Ленінская, 50 | 3 | 14.05.1998 № 45, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 513Г000029 | Будынак былога Маскоўскага міжнароднага банка | пачатак XX стагоддзя | вул. Ленінская, 50б | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000030 | Будынак былога губернскага распарадчага камітэта | другая палова XIX стагоддзя | вул. Ленінская, 52 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000031 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | вул. Ленінская, 54 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000032 | Будынак былой прыватнай жаночай гімназіі | пачатак XX стагоддзя | вул. Ленінская, 56 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000033 | Адміністрацыйны будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Ленінская, 68а | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000034 | Будынак былога сялянскага пазямельнага банка | пачатак XX стагоддзя | вул. Міронава, 33 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000035 | Будынкі | пачатак XX стагоддзя | вул. Мянжынскага, 16, 18 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Ж000036 | Бюст І.І. Гусакоўскага | 1955 год | вул. Першамайская | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000037 | Магіла І.С. Лазарэнкі | 1944 год | вул. Першамайская, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000584 | Мемарыяльная арка | 1780 год | вул. Першамайская (насупраць гасцініцы «Днепр») | 3 | 14.05.1998 № 45 | 03.09.2008 № 1288 |
| 513Г000585 | Будынак гарадскога тэатра | 1886–1888 гады | вул. Першамайская, 7 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 03.09.2008 № 1288 |
| 513Г000586 | Будынак кінатэатра «Чырвоная зорка» | 1920-я гады | вул. Першамайская, 14 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 03.09.2008 № 1288 |
| 513Г000038 | Будынак былога дваранскага сходу | другая палова XIX стагоддзя | вул. Першамайская, 34 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000039 | Ансамбль плошчы Леніна: | | | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| | Дом Саветаў | 1938–1940 гады | вул. Першамайская, 71 | | | |
| | адміністрацыйны будынак | 1938–1941 гады | бульвар Леніна, 5 | | | |
| | жылыя дамы | 1938–1940 гады | вул. Першамайская, 40/39, 42/20, 41/6 (бульвар Леніна) | | | |
| | помнік У.І. Леніну | 1957 год | вул. Ленінская, 83, 85 | | | |
| 513Г000040 | Будынак былых жандарскіх казарм | да 1861 год | вул. Першамайская, 73 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000041 | Царква Трох Свяціцелей | 1906–1909 гады | вул. Першамайская, 75 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000042 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Першамайская, 83 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000043 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Першамайская, 125 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000044 | Карпусы былога яўрэйскага рамеснага вучылішча | пачатак XX стагоддзя (1903 год) | вул. Пляханава, 23/11 (вул. Вароўскага) | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |

| 513Г000587 | Будынак чыгуначнага вакзала | 1902 год | пл. Прывакзальная | 3 | 14.05.1998 № 45 | 03.09.2008 № 1288 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000045 | Будынак былога акругавага суда | 1778 год | пл. Савецкая, 1 | 2 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |



Узведзены як будынак ніжняга земскага суда, урачэбнай управы і архіва. Мураваны прамавугольны ў плане будынак быў падзелены капітальнымі сценамі на тры часткі (для кожнай установы). З боку дваровага фасада кожная ўстанова мела асобны дворык, абнесены сцяной (не захаваліся). У 1883 г. будынак часткова перабудаваны (надбудаваны трэці паверх, дэкарыраваны галоўны фасад, зменена ўнутраная планіроўка) і прыстасаваны пад акруговы суд. Галоўны трохпавярховы (з паўпадвальным паверхам) фасад выходзіць на плошчу. Паверхі падзелены карнізнымі цягамі. У цэнтры галоўнага фасада – уваходны партал (спачатку існавалі тры асобныя ўваходы, адпаведна фасад быў аздоблены трыма рызалітамі, завершанымі атыкамі з франтонамі). Цэнтральная частка фасада завершана над карнізам прамавугольным прафіляваным атыкам і дэкарыравана плоскімі пілястрамі па тры паабапал увахода. На першым паверсе пілястры руставаныя, на другім – парныя, на трэцім – гладкія. Падобныя пілястры захаваліся на бакавых частках будынка (абапал першапачатковых уваходаў) і на вуглах фасадаў. Прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах на першым і трэцім паверхах аздоблены замковым каменем, на другім завершаны праз адно прамавугольнымі сандрыкамі або трохвугольнымі франтонамі. Будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Дэкаратыўныя дэталі вылучаны асобным колерам.

Разбураны ў гады Вялікай Айчынай вайны. У 1950-я гг. адноўлены і абсталяваны пад Магілёўскі абласны краязнаўчы музей.

| 513Д000046 | Брацкая магіла | 1920 год | пл. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000047 | Комплекс будынкаў (два корпусы) | XIX стагоддзе | вул. Сурганава, 41 | 3 | 14.05.1998 № 45 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000048 | Мемарыяльны комплекс «Буйніцкае поле» са збудаваннямі і прадметамі ўзбраення ў межах згодна з дадаткам | 1984–1995 гады | каля в. Буйнічы Магілёўскага раёна | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |

## Асіповіцкі раён

| 513Д000049 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Асіповічы, вул. Абросімава, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000050 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Вярэйцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000051 | Брацкая магіла | 1944 год | р.п. Ялізава, каля чыгуначнага вакзала | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000052 | Брацкая магіла | 1944 год | р.п. Ялізава, вул. Рамашкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000053 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | урочышча Рассоха | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000588 | Гарадзішча | ранні жалезны век, ранні феадалізм, VI стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э., XI–XII стагоддзі | в. Свіслач, на паўночнай ускраіне вёскі, недалёка ад упадзення р. Свіслач у р. Бярэзіна | 3 | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 № 1288 |
| 513Д000054 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Свіслач | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000055 | Былы дом сям'і Яцко | 1911 год | в. Свіслач, вул. Кліменкі, 20 | 3 | 27.09.2005 № 112 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000056 | Брацкая магіла | 1941–944 гады | р.п. Татарка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Бабруйскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000057 | Будынак | 1912 год | г. Бабруйск, вул. Інтэрнацыянальная, 25 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000058 | Брацкая магіла | 1920 год | г. Бабруйск, вул. Крупскай | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000059 | Крэпасць | першая палова XIX стагоддзя | г. Бабруйск, вул. Крупскай, на правым беразе р. Бярэзіна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |









У 1810 г. ваеннае міністэрства камандзіравала некалькі дзесяткаў вопытных інжынераў на Украіну, у Прыбалтыку і Беларусь для вызначэння месц для ўзвядзення шасці крэпасцей, якія маглі б стаць новай лініяй абароны паблізу заходняй граніцы Расіі. Ужо ў час камандзіроўкі малады паручнік Т. Нарбут склаў дэталёвы план будаўніцтва крэпасці каля Бабруйска. Пасля гарачых спрэчак, доказаў, перакананняў ідэя Т. Нарбута была падтрымана генералам К. І. Оперманам – кіраўніком Інжынернай экспедыцыі ваеннага міністэрства. У 1810 г. апошні прызначаны кіраўніком будаўніцтва крэпасцей у Дынабургу і Бабруйску. Т. Нарбута ўзнагародзілі

ордэнам Святога Уладзіміра IV ступені і прысвоілі званне штабс-капітана. К.І. Оперман у 1829 г. быў абраны ганаровым членам Пецярбургскай Акадэміі навук. У тым жа годзе Мікалай I, калі знаходзіўся ў Бабруйску, надаў яму графскі тытул, а ў 1830 г. узнагародзіў вышэйшым ордэнам Святога Андрэя Першазванага. Пасля смерці графа Опермана яго імя было прысвоена абарончай вежы на р. Бабруйка ў Бабруйскай крэпасці.

План Т. Нарбута і генеральны план К.І. Опермана пасля смерці генерала некалькі разоў змянялі. Бабруйская крэпасць павінна была стаць адной з самых магутных у Еўропе. Сама крэпасць паводле плана складалася з сямі палігонаў і прыбярэжнага форта, паўднёвая частка якога называлася восьмым палігонам. Агульная працягласць усіх франтоў асноўнай крэпасці складала каля 3,8 км. Унутраная частка таксама мела значныя памеры (прыблізна 100–120 га), прычым на тэрыторыі было размешчана больш за 250 дамоў гараджан, разбітых на 24 кварталы.

Непасрэдна земляныя работы пачалі 4 чэрвеня 1810 г. Т. Нарбут кіраваў землянымі работамі. За кароткі тэрмін былі падрыхтаваны пляцоўкі для пабудовы крэпасці. За паспяховае выкананне загадаў штабс-капітана зноў узнагародзілі, на гэты раз ордэнам Святой Ганны II ступені.

У пачатку верасня 1810 г. езуіцкі касцёл на тэрыторыі крэпасці ператварылі ў цэйхгауз, а на старажытных руінах калегіума ўзвялі артылерыйскі арсенал.

Тэрыторыя будучай крэпасці з усіх бакоў акружалася магутным валам. На некаторых участках вала ў яго тоўшчы былі пабудаваны складскія памяшканні. Там, дзе земляны вал праходзіў па берагах рэк, знізу prакапалі шырокія равы, якія запаўняліся вадою з Бярэзіны і Бабруйкі.

У пачатку ліпеня 1811 г. завяршылі ўзвядзенне драўлянага фарштата. 4 ліпеня 1811 г. з'явіўся царскі ўказ, паводле якога новыя, толькі што ўзведзеныя, крэпасці – Бабруйская і Дынабургская – прылічаліся да першага класа абарончых збудаванняў.

Да канца 1811 г. амаль усе фарты ўяўлялі сабой грозную сілу. За кошт напружаных намаганняў тысяч людзей да канца года ўсе паўночныя, заходнія і паўднёвыя веркі ўжо скончылі, толькі прыбярэжныя фарты, тэт-дэпон і Нагорнае ўмацаванне не давялі да канца. З перадумацаванняў трох крапасных варот адно ўжо было цалкам гатова, другое часткова.

У пачатку 1812 г. крэпасць была ўжо амаль завершана і сюды пачало прыбываць узбраенне. У Айчынную вайну 1812 г. крэпасць вытрымала чатырохмесячную асаду. Пасля таго як тэрыторыю Расійскай імперыі пакінулі войскі Напалеона, будаўніцтва крэпасці працягвалася, але ўжо не такімі хуткімі тэмпамі.

У пачатку 40-х гг. XIX ст. бабруйская цвярдыня становіцца адной з лепшых цытадэлей у Еўропе. Ішоў час. Ваенная тэхніка ў сваім развіцці зрабіла значны крок наперад. Ужо ні адна з існуючых крэпасцей, у тым ліку і Бабруйская, не магла лічыцца дастаткова сучаснай і непаражальнай. У хуткім часе будаўнічыя работы былі спынены, бо стала зразумела, што гэта не выратуе цытадэль. У 1868 г. Бабруйскую цытадэль перавялі з першага класа абараназдольнасці ў другі, у 1886 г. яна была ператворана ў крэпасць-склад, а ў 1897 г. ліквідавана ўвогуле як стратэгічная адзінка. У 1873 г. праз Бабруйск пралягла лінія Лібава-Роменскай чыгункі, якая прайшла праз тэрыторыю крэпасці, падзяліўшы яе на дзве часткі. З 1890-х гг. Бабруйская крэпасць паступова разбуралася.

У 1905–1907 гг. у крэпасці размяшчаўся дысцыплінарны батальён у колькасці 900 салдат. У знак пратэсту супраць суровага рэжыму ўтрымання тут адбыліся выступленні салдат. У кастрычніку раскватараваныя ў крэпасці 21-я і 57-я пяхотныя, 94-я і 75-я Сібірская, 75-я грэнадзёрская дывізіі падтрымалі бальшавікоў і прынялі ўдзел ва ўстанаўленні савецкай улады на Бабруйшчыне. У час акупацыі Бабруйска войскамі Польшчы (1919–1920 гг.) на тэрыторыі крэпасці знаходзіўся лагер ваеннапалонных, дзе загінула некалькі тысяч чырвонаармейцаў.

У 1921 г. на тэрыторыі крэпасці размясціліся часці Чырвонай арміі. У 1920-я гг. выконваліся некаторыя будаўнічыя работы, у 1925 г. пабудаваны комін, у 1926 г. перабудаваны казармы № 23 і № 35 у стайню.

У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі ператварылі крэпасць у лагер смерці. Да жніўня 1942 г. гітлераўцы загубілі тут каля 40 тыс. савецкіх ваеннапалонных (пахаваны на тэрыторыі крэпасці).

Разбурэнні ваенных гадоў, рэканструкцыі змянілі першапачатковы выгляд крэпасці, парушылі цэласнае адзінства комплексу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Ж000060 | Помнік У.І. Леніну | 1969 год | г. Бабруйск,<br>плошча Леніна | 3 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000061 | Будынак | 1904 год | г. Бабруйск,<br>вул. К. Маркса, 30 | 3 | 16.10.2002<br>№ 67 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000062 | Будынак | 1917 год | г. Бабруйск,<br>зав. Пажарны, 10 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000063 | Магіла Б.С. Бахарава | 1944 год | г. Бабруйск,<br>вул. Перамогі, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000064 | Будынак | 1918 год | г. Бабруйск,<br>вул. Пушкіна, 120/71 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000065 | Будынак | 1914 год | г. Бабруйск,<br>вул. Пушкіна, 177/56 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000066 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | 1912 год | г. Бабруйск,<br>вул. Пушкіна, 211 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000067 | Будынак (тып гарадскога асабняка) | 1914 год | г. Бабруйск,<br>вул. Савецкая, 45 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000068 | Будынак банка | пачатак<br>XX стагоддзя | г. Бабруйск,<br>вул. Савецкая, 77/48 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000069 | Будынак | пачатак<br>XX стагоддзя | г. Бабруйск,<br>вул. Савецкая, 79 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000070 | Царква з в. Куляшоўка Клімавіцкага раёна | 1893 год | г. Бабруйск,<br>вул. Сікорскага, 38 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000071 | Селішча | другая<br>чвэрць 1-га<br>тысячагоддзя<br>н.э., X–XIII<br>стагоддзі | г. Бабруйск,<br>на паўднёва-заходняй<br>ускраіне горада, на першай<br>надпойменнай тэрасе<br>левага берага р. Бабруйка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000072 | Селішча-1 і<br>селішча-2 | V стагоддзе<br>да н. э. – V ста-<br>годдзе н. э.,<br>X–XIII стагоддзі | в. Аўсімавічы,<br>на могілках | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000073 | Стаянка-1, стаянка-2,<br>селішча-1 і селішча-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Бабіна,<br>урочышча Курганне | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000074 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Банёўка, 0,1 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000075 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Банёўка, урочышча Казённы Лес | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000076 | Стаянка перыяду неаліту і ранняга бронзавага веку | 3–2-е тысяча-<br>годдзі да н.э. | в. Баравая, урочышчы Востраў і Крамяні | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000077 | Комплекс археалагічных помнікаў:<br>стаянка<br><br>селішча | 4–2-е тысяча-годдзі да н.э.<br><br>X–XIII стагоддзі | в. Баравая,<br>1,7 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000078 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Баранавічы 3-я,<br>1,5 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000079 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Баяры,<br>0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000080 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Баяры | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000081 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Бірча,<br>на паўночна-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000082 | Комплекс археалагічных помнікаў – стаянка перыяду позняга палеаліту; стаянка перыяду неаліту і бронзавага веку; селішча перыяду ранняга жалезнага веку і ранняга сярэднявечча | | в. Брожа,<br>0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000083 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Брожа,<br>0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000084 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Брожа | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000085 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н. э. – V ста-годдзе н. э. | в. Бярэзавічы,<br>урочышча Забавы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000086 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Варатынь | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000087 | Курганны могільнік-1 і<br>курганны могільнік-2<br>перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Возера Вяхава,<br>4,5 км на ўсход ад в. Вуглы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513В000088 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Вялікія Бортнікі,<br>0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 512В000089 | Паселішча-1 | | в. Вялікія Бортнікі,<br>0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе і выступе першай надпойменнай тэрасы р. Ала | 2 | 09.07.2003<br>№ 87 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000090 | Комплекс археалагічных помнікаў: стаянка перыяду мезаліту, неаліту, бронзавага веку<br>гарадзішча і селішча перыяду ранняга жалезнага веку і ранняга сярэднявечча | 4–2-е тысячагоддзі да н.э.<br>X–XIII стагоддзі | в. Гародчына, урочышча Капцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000091 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Гародчына, 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000092 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н. э. – V стагоддзе н. э. | в. Гарохава, 0,2 км на поўнач ад могілак (мясцовая назва – Французскія магілы) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000093 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н. э. – V стагоддзе н. э. | в. Глебава Рудня, 1 км на ўсход ад могілак, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000094 | Курган-1 і курган-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Даманова, на паўночнай ускраіне вёскі, каля могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000095 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Даманова, у вёсцы на правым беразе р. Бярэзіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000096 | Курган | | в. Даманова, на паўднёвай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000097 | Стаянка-1 і стаянка-2 | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Дачнае, 1,5 на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000098 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Дубаўка, на паўночназаходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000099 | Стаянка | перыяд мезаліту | в. Казакова, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000100 | Шматслойнае паселішча | | в. Каменка, 0,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000101 | Стаянкі перыяду неаліту і бронзавага веку | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Красны Агарод, урочышчы Востраў і Зімнікі, 45 м на поўдзень ад урочышча Селішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000102 | Шматслойнае селішча перыяду неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў, сярэднявечча | | в. Красны Агарод, урочышча Селішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000103 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Красны Агарод, на паўднёвай ускраіне ўрочышча Селішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000104 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Лекерта, 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000105 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Лысая Горка, 1 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000106 | Курганныя могільнікі перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Макаравічы, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000107 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Макаравічы, 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, урочышча Старыя Кладкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000108 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 і курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Макаравічы, 1,4 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000109 | Курганны могільнік-1 і курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Мальёва, урочышча Лука, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000110 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Малыя Бортнікі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000111 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Мачулкі, урочышча Балотца | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000112 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Маяк, 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000113 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Міхайлаўка, 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000114 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Міхалёва, на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000115 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Обча, урочышча Курганне, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000116 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2, курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Восава, 0,6 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000117 | Селішча | V стагоддзе да н. э. – V стагоддзе н. э., X–XIII стагоддзі | в. Палянкі, урочышча Баравая | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000118 | Грунтавы могільнік | VI–IX стагоддзі | в. Палянкі, урочышча Каробішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000119 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Панкратавічы, 0,7 км на поўнач ад вёскі, у полі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000120 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Панкратавічы, 3 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000121 | Стаянкі перыяду мезаліту і бронзавага веку | 4–2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Панюшкавічы, 2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000122 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2 перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н. э. – V стагоддзе н. э. | в. Постраш, урочышча Жукавец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000123 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Продзвіна, на заходняй ускраіне вёскі, каля могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000124 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Продзвіна, урочышча Гарадок, 0,7 км на захад ад вёскі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000125 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X –XIII стагоддзі | в. Продзвіна, урочышча Гарадок, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000126 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Продзвіна, 0,2 км на захад, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000127 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Пятровічы, урочышча Гарадок, на правым беразе р. Брожка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000128 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Пятровічы, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000129 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Рагалі, 1,7 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000130 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Рагалі, 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000131 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Рагаселле, урочышча Пачэпак, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000132 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Рымаўцы, 1,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000133 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Сімгаравічы, 1 км на паўднёвы захад, урочышча Курганне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000134 | Адзінкавы курган | | в. Сімгаравічы, 0,2 км на захад ад могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000135 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Старая Шараеўшчына, 0,4 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000136 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Старынкі, 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000137 | Курганныя могільнікі ранняга сярэднявечча:<br>курганны могільнік-1<br>курганны могільнік-2<br>курганны могільнік-3 | X–XIII стагоддзі | в. Старынкі:<br>2,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі<br>1 км на поўдзень ад вёскі<br>1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўскраіне лесу | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000138 | Адзінкавы курган-1, адзінкавы курган-2, адзінкавы курган-3 і адзінкавы курган-4 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Стасеўка, 0,7 км на захад ад вёскі, у полі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000139 | Селішча | XII–XVII стагоддзі | в. Сулева, урочышча Доўгая Паласа, на ўскраіне лесу | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000140 | Адзінкавы курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Сяліба, правы бераг р. Бярэзіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000141 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Сяліба, правы бераг р. Бярэзіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000142 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча і грунтавы могільнік | X–XIII стагоддзі, V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | пас. Сялібка, 0,2 км на паўднёвы захад ад могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000143 | Селішча-1 і селішча-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | пас. Сялібка, на паўночнай ускраіне пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000144 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 і курганны могільнік-3 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Туркі, на левым беразе р. Ала | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000145 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Вуглы, на ўсходняй ускраіне воз. Перасол (мясцовая назва Падкова) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000146 | Адзінкавы курган | X–XI стагоддзі | в. Вуглы, 0,3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000147 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Вуглы, 1,7 км на ўсход ад вёскі, урочышча Колбіна Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000148 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чарніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000149 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку і перыяду ранняга сярэднявечча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э., X–XIII стагоддзі | в. Шчаткава, 1 км на паўночны захад ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000150 | Селішча перыядаў ранняга жалезнага веку і ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Шчаткава, з усходняга боку гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000151 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Шчаткава | 3 | 25.02.2003 № 82 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |

## Быхаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000153 | Фрагменты замка | 1610–1619 гады | г. Быхаў, на правым беразе р. Днепр | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Замак увaходзіў у сістэму ўмацаванняў горада-крэпасці Стары Быхаў. Уяўляў сабой у плане паўкруг радыусам 400 м, абкружаны ровам і валам з равелінамі і бастыёнамі. Замкавы комплекс складаўся з некалькіх карпусоў, якія ўтваралі ў плане чатырохвугольнік, замкнёны з поўначы мураванай сцяной. Выцягнуты двухпавярховы (з падвалам) будынак палаца накрыты дахоўкай. Да ўсходняга і паўднёвага фасадаў прылягаюць пяціярусныя гранёныя вежы. Заходні фасад палаца аздабляла двух’ярусная арачная галерэя з лесвіцамі і ўваходамі ва ўнутраныя памяшканні. Падвальнае памяшканне і першы паверх перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Аздоба інтэр’ераў не захавалася. Да паўднёвага фасада палаца далучаны двухпавярховы корпус са скляпеністымі перакрыццямі. Мураваная сцяна замка пазней была заменена драўлянымі карпусамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000154 | Брацкая магіла | 1920–1925 гады | г. Быхаў, Кастрычніцкая плошча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000155 | Троіцкая царква | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Быхаў, вул. Куйбышава, 2 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва. Помнік народнага дойлідства.

Будынак крыжападобны ў плане на мураваным атынкаваным падмурку. Крылы трансепта і алтарная частка пяцігранныя. Над галоўным уваходам – высокая васьміграння ў плане трох’ярусная званіца. Над сяродкрыжжам – вялікі светлавы барабан з купалам, завершаным галоўкай на васьміграннай шыйцы.

У інтэр’еры сяродкрыжжа перакрыта замкнёным скляпеннем на ветразях.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000156 | Будынак былой сінагогі, ляпны дэкор паўсферычнага перакрыцця ніжняга яруса | пачатак XVII стагоддзя | г. Быхаў, зав. Савецкі | 2 | 28.02.2002 № 71<br>28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. З боку ўсходняга дваровага фасада ўмацаваны контрфорсамі. Дэкаратыўная аздоба фасадаў спрошчаная. Унутраная планіроўка зменена. Захаваліся крыжовыя скляпенні ў вестыбюлі першага паверха і лучковая арачная перамычка над драўлянай лесвіцай. У 2-й палове XIX ст. да тарцоў прыбудаваны розныя па памерах аднапавярховыя аб'ёмы.

Аднапавярховыя прыбудовы XIX ст. і пераробкі фасадаў істотна змянілі архітэктурнае аблічча сінагогі XVII ст. Галоўны заходні фасад даволі аднастайны. Несіметрычна размешчаны дзвярны і аконныя праёмы. Галоўны ўваход змешчаны ад восі залы. Праёмы двухпавярховага будынка ўзяты ў «раму» з пілястраў і развітога карніза, што стварае вобраз грамадскага будынка. Інакш вырашаны дваровы ўсходні фасад. Магутныя контрфорсы, фрагменты руста, карніз, адзінае арыгінальнае па форме акно, што захавалася, ствараюць вобраз культавага будынка. Дахі прыбудоў – двухсхільныя, накрыты бляхай па драўляных кроквах.

Злева ад галоўнага ўвахода размешчаны тры аконныя праёмы, справа – сем. На верхнім ярусе размешчаны пяць аконных праёмаў. На ніжнім ярусе паўднёвага фасада знаходзіцца адно акно, на верхнім – уваход на паддашша і аконны праём асноўнага аб'ёма сінагогі. На ніжнім ярусе ўсходняга фасада злева ад дзвярнога праёма два аконныя праёмы, на верхнім ярусе – шэсць.

На ніжнім і верхнім ярусах паўночнага фасада па аднаму аконнаму праёму.



Усе аконныя праёмы прамавугольныя, за выключэннем двух праёмаў верхняга яруса на ўсходнім фасадзе, аднаго акна на паўночным фасадзе, якія маюць лучковыя перамычкі; вокны ніжняга яруса ўсходняга фасада маюць складаную форму, завершаны арачнай перамычкай. Усе дзвярныя праёмы прамавугольныя. Аконныя рамы драўляныя, падвойныя з фрамугамі.

На першым паверсе размешчаны вестыбюль, асноўнае памяшканне, лесвіца, памяшканні школы. На ўзроўні другога паверха размешчаны памяшканні для жанчын.

Захаваўся будынак школы, які належаў сінагозе. Інтэр'еры і частка фасада страчаны. Прыстасаваны пад вучэбны клас (цагляная частка) і пад жыллё (драўляная частка).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000157 | Стаянка перыяду мезаліту | 5–2-е тысячагоддзі да н.э. | г. Быхаў, на паўднёвай ўскраіне горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000158 | Селішча | II–V стагоддзі н.э. | г. Быхаў, 2 км на ўсход ад горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000159 | Стаянка перыяду неаліту і бронзавага веку | | г. Быхаў, на ўсход ад горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000160 | Стаянка перыяду бронзавага веку | першая палова 2-га тысячагоддзя да н.э. | г. Быхаў, 4 км на паўднёвы ўсход ад цэнтра горада, урочышча Ксяндзова Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000161 | Комплекс археалагічных помнікаў:<br>стаянка каменнага веку<br>селішча перыяду ранняга сярэднявечча | 4–2-е тысячагоддзі да н.э.<br>X–XIII стагоддзі | г. Быхаў, на ўсходняй ўскраіне горада, 0,4 км на поўнач ад моста праз р. Днепр | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513В000162 | Селішча | 1-е тысячагоддзе н.э., X–XIII стагоддзі | г. Быхаў, на левым беразе р. Рдзіца, урочышча Узлужжа | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000163 | Селішча-1, селішча-2 і селішча-3 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | г. Быхаў, на паўночнай ўскраіне горада, правы бераг р. Макранка; 0,8 км на паўднёвы захад ад горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000164 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | г. Быхаў, 0,4 км на поўдзень ад замка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000165 | Культурны слой | VII стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э., X–XIII стагоддзі | г. Быхаў | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000166 | Стаянка перыяду ранняга мезаліту | 9–7-е тысячагоддзі да н.э. | в. Абідавічы, урочышча Гарадзец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000167 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку і ранняга феадалізму | мілаградская (VII–III стагоддзі да н.э.), зарубінецкая (III стагоддзе да н.э. – II стагоддзе н.э.) і штрыхаванай керамікі (VII стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э.) культуры | в. Абідавічы, 0,2 км на поўнач ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000168 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | II–V стагоддзі | в. Абідавічы, урочышча Жаўранак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000169 | Стаянка | 10–8-е тысячагоддзі да н.э. | в. Абідавічы, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000170 | Стаянка перыяду неаліту | | в. Абідавічы, 1 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Днепр | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000171 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н. э. – V стагоддзе н. э. | в. Абідавічы, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000172 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Абідавічы | | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000173 | Стаянка | перыяд каменнага веку | пас. Адаменка, урочышча Абідня, 1 км на ўсход ад пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000174 | Стаянка перыяду ранняга мезаліту | 8–6-е тысячагоддзі да н.э. | в. Балонаў Сялец, на ўсходняй ускраіне вёскі, у полі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000175 | Курганны могільнік-1 і курганны могільнік-2 перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Балонаўка, у паўднёва-ўсходняй частцы вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000176 | Стаянка і селішча | перыяд каменнага веку і ранняга сярэднявечча | в. Балонаўка, 0,8 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000177 | Царква | 1904 год | в. Баркалабава | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000178 | Стаянка | перыяд неаліту | в. Баркалабава, урочышча Чырвоны Бераг | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000179 | Стаянка перыяду ранняга жалезнага веку і перыяду ранняга сярэднявечча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. і VII–X стагоддзі | в. Баркалабава, на паўночна-заходнім беразе воз. Панская Струга | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000180 | Стаянка-1 і стаянка-2 | перыяд каменнага веку | в. Баркалабава, на паўднёвай ускраіне вёскі, паўночна-заходнім беразе воз. Панская Струга | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000181 | Паселішча | перыяд каменнага веку | в. Бароўка, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000182 | Стаянка | перыяд неаліту | в. Бароўка, 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000183 | Селішча перыяду ранняга жалезнага веку | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Бароўка, 1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000184 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Барсукі, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000185 | Курган перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Барсукі, 0,3 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 513В000186 | Курганны могільнік перыяду ранняга сярэднявечча | X–XIII стагоддзі | в. Вараніно, 0,5 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

Адначасова з корпусам механізацыі ў 1953–1954 гг. быў распрацаваны праект агароджы і брамы галоўнага ўваходу. Галоўны ўваход па генплану быў запраектаваны з боку горада з вул. Савецкай па восі вул. Сурганава. На перакрыжаванні восі ўваходу з вул. Савецкай была запланавана плошча, па перыметры забудаваная студэнцкімі інтэрнатамі. Брама вырашалася ў выглядзе двух пілонаў са спаранымі калонамі дарычнага ордэра.

У 1956–1957 гг. на тэрыторыі акадэміі і ў горадзе паводле тыпавога праекта былі пабудаваны студэнцкія інтэрнаты: № 2 па вул. Студэнцкай, № 3 і № 4 па вул. Сурганава.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000434 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Горкі, вул. Горкага, 1 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000435 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Горкі, вул. Крупскай, 3 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000436 | Царква Ушэсця | канец XIX стагоддзя | г. Горкі, вул. Кузняцова | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000437 | Будынак стаматалагічнай паліклінікі | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Горкі, вул. Леніна, 22 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000438 | Брацкая магіла | 1919 год | г. Горкі, вул. Савецкая, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Ж000439 | Бюст І.І. Якубоўскага | 1950 год | г. Горкі, вул. Якубоўскага | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000440 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Бацвіннева | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000441 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Галавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000442 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Горы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000443 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Каменка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000444 | Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці | 1943 год | в. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000445 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Маслакі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000446 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Панкратаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000447 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Палёнка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000448 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Паршына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000449 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Рэкта | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000450 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Тарасселле | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000451 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Старына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000452 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Сцяфанава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Дрыбінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000453 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | г.п. Дрыбін | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000454 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Крычаватка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000455 | Рэшткі касцёла | пачатак XIX стагоддзя | в. Расна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Храм – помнік архітэктуры класіцызму з выкарыстаннем ордэрных элементаў.

Трохнефавая прамавугольная ў плане базіліка з прамавугольнай апсідай і дзвюма сакрысціямі. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным дарычным порцікам з трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады падкрэслены рызалітамі з порцікамі. Па ўсім перыметры будынка фрыз з трыгліфамі. Цыліндрычныя скляпенні і дах не захаваліся.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000456 | Комплекс былой сядзібы – сядзібны дом, ляпны дэкор на столі і сценах, рэшткі гаспадарчых пабудоў і спіртзавода | канец XIX стагоддзя | в. Расна | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Жылы дом – помнік архітэктуры неакласіцызму з рысамі народнага драўлянага дойлідства.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане, з цокальным паверхам. Пад вальмавым дахам праходзіць ступеньчаты карніз з сухарыкамі. Цокаль і асноўны паверх аддзелены рустам. Цэнтральная частка вылучана высокай мансардай. Фасады ўпрыгожаны аркатурнымі паясамі. У інтэр'еры на столі ляпныя разеткі, па перыметры сцен – фрызы і карнізы, упрыгожаныя віньеткамі, гірляндамі, геаметрычным арнаментам. Свіран – кампактны зруб з двухсхільным дахам, бровар – аднапавярховы мураваны будынак.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000457 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Расна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000458 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чэрнеўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Касцюковіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000475 | Брацкая магіла | 1943 год | г. Касцюковічы, вул. Ленінская, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000476 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Малая Валаськоўня | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Кіраўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 511Г000459 | Палацава-паркавы ансамбль: палац з дэкаратыўным аздабленнем інтэр'ера (ляпны дэкор, камін і печ, падлога з меандравым арнаментам, плафоны столі), гаспадарчыя пабудовы, парк | XVIII–XIX стагоддзі | в. Жылічы | 1 | 27.03.2001 № 64, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |





Рэзідэнцыя І. Булгака ў в. Жылічы пабудавана ў 1830-я гг. па праекце архітэктара К.І. Падчашынскага на беразе р. Дабасна. Уяўляла сабой даволі вялікі добра спланаваны палацава-паркавы ансамбль. У яго склад акрамя палаца з паркам уваходзілі вялікія пладовыя сады, агароды, вадаёмы, дзе вялася рыбная гаспадарка. Быў вялікі гаспадарчы двор, вадзяны млын, вінакурня, крухмальны і цукровы заводы.

Палац належыць да найбольш распаўсюджанага тыпу сядзібных дамоў, пабудаваных у форме прамавугольніка, з калонным порцікам на галоўным фасадзе і прамавугольным рызалітам на паркавым фасадзе. Галоўны корпус вылучаны ў цэнтры шасцікалонным порцікам карынфскага ордэра з франтонам і бельведэрам над лесвічнай клеткай. Тарцы галоўнага корпуса аформлены ідэнтычнымі чатырохкалоннымі порцікамі. Па перыметры будынка праходзіць развіты карніз з фрызам, упрыгожаным ляпнымі гірляндамі і разеткамі. Галоўны фасад бакавога корпуса прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі і ўпрыгожаны каланадай. Планіроўку палац мае змешанаю – калідорна-анфіладную. Палац будаваўся ў два прыёмы: спачатку быў узведзены галоўны П-падобны корпус, а пазней у 1864–1876 гг. да яго прыбудавалі доўгае двухпавярховае крыло з палацавай царквой і дадатковымі жылымі памяшканнямі. Паводле некаторых звестак, заходняя частка палаца была дабудавана ў 1914 г.

Унутранае аздабленне ўражвае сваім багаццем: насычаная ляпніна, дробная скульптурная пластыка, роспіс, пазалота, люстэркі, дэкаратыўная абіўка. У дэкоры выкарыстаны ампірныя элементы: буйныя фрызы, панэлі з барэльефнымі антычнымі сцэнамі. Прычым, кожная зала дэкарыравана індывідуальна. Так, напрыклад, адзін з пакояў упрыгожвае фрыз з крылатымі грыфонамі, другі – фрыз з маскаронамі, німфамі. Цэнтральная частка палаца дэкарыравана шырокім шматфігурным барэльефным фрызам

з сюжэтамі на тэмы палявання, бою, ахвярапрынашэння. Калоны і пілястры маюць пазалочаныя капітэлі. Асноўны пластычны эфект стварае кесаніраваная столь з багата арнаментаванай ляпнінай. Падлога паркетная, печкі абліцаваны кафляй.

Палац з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі вялікага палацава-паркавага ансамбля, замкнутага ў прамавугольнік алеямі рэгулярнага парку. Плошча парку 18 га, а ўсяго комплексу з вадаёмамі, пладовымі садамі, падсобнымі збудаваннямі – каля 100 га. Раўнінную частку парку перасякае р. Дабасна з маляўнічымі сажалкамі і астравамі. Захаваліся руіны павільёна-купальні, альтанак, мосцікаў. Перад галоўным фасадам палаца парк мае рэгулярны характар і партэрнае азеляненне. Астатняя частка парку мае пейзажны характар з разнастайнасцю насаджэнняў, у тым ліку і экзотаў (хвоя веймутава, клён серабрысты і інш.).

Да нашага часу захаваліся палац, флігель, свіран і іншыя гаспадарчыя пабудовы, парк. У палацы пасля Вялікай Айчыннай вайны знаходзілася Бабруйская трохгадовая агранамічная школа, у наш час размешчаны краязнаўчы музей і музычная школа. Гаспадарчыя пабудовы часткова выкарыстоўваюцца ў гаспадарчых мэтах, астатнія разбураюцца.

Палацава-паркавы ансамбль – помнік архітэктуры позняга класіцызму.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000460 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Любонічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000461 | Магіла К.П. Арлоўскага | 1968 год | в. Мышкавічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Ж000462 | Бюст К. П.Арлоўскага | 1977 год | д. Мышкавічы | 3 | 28.08.2003<br>№ 88 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000463 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Хвайніца | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Клімавіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000464 | Царква | сярэдзіна<br>XIX стагоддзя | г. Клімавічы,<br>вул. Пралетарская, 7 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000465 | Будынак | 1867 год | г. Клімавічы,<br>вул. Савецкая, 69 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000466 | Брацкая магіла | 1941–1943 гады | г. Клімавічы, у парку | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000467 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | г. Клімавічы, на могілках | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000468 | Брацкая магіла | 1941–1943 гады | в. Вялікі Мох | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000469 | Царква | пачатак<br>XX стагоддзя | в. Дубравіца | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000470 | Царква | пачатак<br>XX стагоддзя | в. Лазовіца | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000471 | Царква | другая палова<br>XIX стагоддзя | в. Мілаславічы | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Клічаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000472 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Клічаў,<br>вул. Пралетарская,<br>у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000473 | Вайсковыя могілкі | 1944 год | в. Кавяза | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000474 | Вайсковыя могілкі | 1943–1994 гады | в. Усакіна | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Краснапольскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000477 | Царква Дзмітрыя Растоўскага | канец XIX –<br>пачатак<br>XX стагоддзя | в. Выдранка | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000478 | Брацкая магіла | 1943 год | г.п. Краснаполле | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Круглянскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000484 | Брацкая магіла | 1942–1944 гады | г.п. Круглае, у скверы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000485 | Магіла А.С.Лукашэвіча | 1943 год | в Глыбокае | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000486 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Комсенічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Д000487 | Брацкая магіла | 1942, 1994 гады | в. Цяцерына | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Крычаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000479 | Былы палац Пацёмкіна | 1778–1787 гады | г. Крычаў,<br>вул. Ленінская, 59 | 2 | 16.10.2002<br>№ 67 | 14.05.2007<br>№ 578 |

Палац быў пабудаваны для князя Р.А. Пацёмкіна.

Мураваны, П-падобны ў плане, двухпавярховы, з цэнтральным рызалітам на галоўным фасадзе. Мае пакаты двухсхільны дах. Кампазіцыйным цэнтрам абодвух паверхаў з'яўляюцца вялікія круглыя залы, якія выступаюць з асноўнага аб'ёму будынка ў бок двара. Тарцы бакавых крылаў вырашаны ў строгіх класічных формах, завершаны трохвугольнымі франтонамі. Вокны ўпрыгожаны сандрыкамі: лучковымі на першым паверсе, трохвугольнымі – на другім.

Унутраная планіроўка палаца анфіладная. На першым паверсе па цэнтральнай восі знаходзілася парадная група памяшканняў,



вестыбюль з лесвіцай і авальная зала. Памяшканні мелі багаты ляпны дэкор, кафельныя печкі, мармуровыя каміны. Планіроўка была зменена ў 50-я гг. XX ст.

Перад палацам быў разбіты пейзажны парк, за палацам – узведзены будынак стайні, фасады якога апрацаваны аркатурай, пасаджаны пладовы сад з фрагментамі насаджэнняў ліп.

У 1840-я гг., у адпаведнасці з новай архітэктурнай модай, палац быў рэканструяваны ў неагатычным стылі, які даваў вялізную прастору для выяўлення творчай індывідуальнасці, стварэння непаўторных палацава-сядзібных будынкаў. Цэнтральны рызаліт апрацавалі granёнымі пілонамі, вуглавыя пілоны завяршылі шматграннымі вежачкамі з зубчастымі парапетамі, вокнам надалі спічастую форму. Астатнія фасады былі расчлянёны пілястрамі, вокны першага паверха сталі прамавугольнымі, другога – паўцыркульнымі.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000480 | Будынак былой паштовай станцыі | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Крычаў, вул. Ленінская, 76 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000481 | Брацкія магілы | 1941, 1943 гады | г. Крычаў, вул. Набярэжная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000482 | Мікалаеўская царква | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | г. Крычаў, вул. Сожавая, 45 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000483 | Брацкая магіла | 1941–1943 гады | г. Крычаў, у скверы імя 60-годдзя Кастрычніка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Магілёўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000488 | Царква Пакрова Багародзіцы з фрэскамі ў інтэр'еры | другая палова XVIII стагоддзя | в. Вейна | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы ў цэнтры вёскі. Помнік архітэктуры класіцызму.

Цэнтрычны будынак у плане блізкі да квадрата са скругленымі вугламі. У яго кампазіцыі дамінуе сферычны купал на круглым светлавым барабане. Вуглавыя часткі галоўнага фасада завершаны круглымі вежамі. Фасады раскрапаваны рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі. Па восях рызалітаў размешчаны вялікія нішы з лучковымі імпастамі. У нішах з захаду і поўдня – уваходы, аздобленыя паўкалонамі і стральчатымі люкарнамі ў імпостах. Пры галоўным уваходзе прыбудаваны вялікі драўляны тамбур. Інтэр'ер двухсветлавы, падзелены чатырма магутнымі слупамі. У дэкоры выкарыстаны фрэскавы роспіс у стылі класіцызму. Паміж вокнамі барабана ў медальёнах размешчаны выявы чатырох евангелістаў, ніжэй у рамных абрамленнях – чатыры шматфігурныя кампазіцыі на біблейскія сюжэты.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000489 | Брацкая магіла байцоў зводнага батальёна міліцыі з помнікам у іх гонар | 1941 год, 1980 год | в. Гаі | 3 | 20.12.2005 № 115 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000490 | Успенская царква | 1903 год | в. Галяні 1-я | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000491 | Былы сядзібны дом | пачатак XX стагоддзя | в. Дашкаўка | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000492 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Дашкаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000493 | Касцёл Св. Мікалая | 1681 год, 1780 год | в. Княжыцы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У 1670–1832 гг. дзейнічаў кляштар дамініканцаў, заснаваны харунжым Вялікага княства Літоўскага К. Пацам. Драўляны касцёл пабудаваны ў 1681 г., мураваны – у 1780 г. У 1863 г. закрыты, у 1872 г. перароблены пад праваслаўную царкву. Пазней прыйшоў у заняпад. Цяпер на рэстаўрацыі. Помнік архітэктуры барока.

Аб’ёмна-прасторавая кампазіцыя храма складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб’ёму з невялікім трансептам у цэнтры і квадратнай апсіды, якія накрыты двухсхільнымі дахамі. Галоўны фасад расчлянёны па гарызанталі магутнымі крапаванымі карнізамі, па вертыкалі – пілястрамі і лучковымі нішамі на тры часткі, завершаны вежамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. Па баках галоўнага фасада – сцены-прапілеі з арачнымі праёмамі, якія ўтвараюць перад уваходам у храм парадны дворык. Уваходны партал аформлены нізкім рызалітам з трохвугольным завяршэннем і насычанай архітэктурнай пластыкай. Бакавыя фасады аздоблены магутнай аркатурай і здвоенымі пілястрамі ў прасценках. Унутранае перакрыцце цыліндрычнае з распалубкамі і падпружнымі аркамі. У планіроўцы нефа адсутнічаюць прамыя вуглы. Над уваходам – хоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000494 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Княжыцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000495 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Краснаполле | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Д000496 | Мемарыяльная капліца ў памяць аб Айчыннай вайне 1812 года | 1912 год | в. Салтанаўка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы паводле праекта архітэктара К. Міхайлава і скульптара П. Яцыны. Пастаўлена як мемарыяльны помнік на месцы бітвы ў вайну 1812 г. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

Цэнтрычнае квадратнае ў плане, невялікае збудаванне завершана высокім шатром. Пластыка фасадаў ствараецца паўкалонамі тасканскага ордэра, антаблементам і трохвугольнымі франтонамі. З двух бакоў крыжападобныя аконныя праёмы ў паўцыркульных нішах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000497 | Капліца | XIX стагоддзе | в. Стайкі | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000498 | Успенская царква | пачатак XX стагоддзя | в. Сухары | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д00499 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сухары | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000500 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сялец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000501 | Будынак былой паштовай станцыі | XIX стагоддзе | в. Фойна | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана ў 1849 г. на Беларускай шашы па ўзорным праекце станцыйных дамоў трэцяга разраду. Помнік архітэктуры візантыйска-рускага стылю.

Прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад з агароджай і дзвюма брамамі складаюць разгорнутую да дарогі кампазіцыю.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000502 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Харошкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Мсціслаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000503 | Гандлёвыя рады | пачатак XX стагоддзя | г. Мсціслаў, вуліцы Калініна, 27, Урыцкага, 5 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 511Г000504 | Успенскі касцёл з фрэскамі ў інтэр'еры<br>брама<br>кляштарны корпус | 1614, 1746–1750 гады (рэканструяваны) | г. Мсціслаў, вул. Кірава, 4 | 1 | 27.03.2001 № 64, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Аб даце будаўніцтва Успенскага кляштара і касцёла кармелітаў у Мсціславе можна меркаваць толькі па ўскосных даных, а дакладней, толькі па спасылках на ўжо не існуючыя дакументы XVII і XVIII стст. Закладзены касцёл у 1-й палове XVII ст. на месцы старога драўлянага храма. Дабудоўваўся касцёл значна пазней, праз некалькі дзесяцігоддзяў. Касцёл фундаментальна перабудаваны ў 1746–1750 гг. архітэктарам І.К. Глаўбіцам і часткова ў 1887 г. Помнік архітэктуры барока і ракако.

Мураваная трохнефавая шасціслуповая базіліка з двухвежавым фасадам і пяціграннай апсідай. Да апсіды прылягае двухпавярховая прыбудова з вальмавым дахам. Галоўны фасад фланкіраваны вежамі з паўсферычнымі



купаламі і завершаны фігурным шчытом паміж імі. Сцены атынкаваны і аздоблены пілястрамі, карнізамі, прафіляванымі цягамі, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры – хоры пры ўваходзе, амбон, цэнтральны і бакавыя алтары, фрэскавы роспіс, ляпніна ў стылі ракако. Зберагліся каля 20 кампазіцый, у т. л. на гістарычныя тэмы.

Каля касцёла пабудавана цагляная брама ў выглядзе трох рознавялікіх паўцыркульных арак. Па баках брамы ўзвышаюцца невялікія пінаклі. Над цэнтральнай аркай размешчаны ступеньчаты атык.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000505 | Брацкая магіла | 1943 год | г. Мсціслаў,<br>парк імя Н. Крупскай | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000506 | Будынак былой земскай управы | канец XIX–<br>пачатак<br>XX стагоддзя | г. Мсціслаў,<br>вул. Леніна, 28 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 512Г000507 | Царква Аляксандра Неўскага з брамай і агароджай | 1870 год | г. Мсціслаў,<br>вул. Леніна, 30 | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудавана з цэглы ў цэнтры горада на месцы бернардзінскага касцёла, які згарэў у 1858 г. Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

Крыжова-купальны трохапсідны храм. Над сяродкрыжжам узвышаецца шлемападобны купал на васьміграннным светлавым барабане. Над бабінцам размешчана двух'ярусная званіца, завершаная купалам. Тарцы трансепта завершаны трохвугольнымі шчытамі. Парталы і аконныя праёмы абрамлены дэкаратыўным валікам. Па перыметры будынка праходзіць карніз з аркатурным поясам. Унутраная прастора перакрыта рознымі тыпамі скляпенняў. Меўся шанаваны абраз «Маці Божая Іверская», набыты ў 1895 г. у Маскве ў гонар каранавання Мікалая ІІ.



З паўночнага боку ад храма пастаўлена мураваная брама, вырашаная трайной аркадай, завершанай прамавугольным шчытом з шатровым верхам і какошнікамі ў аснове. Над бакавымі арачнымі праёмамі ўзведзены невялікія чатырохгранныя купальныя вежачкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000508 | Паравы млын | пачатак<br>XX стагоддзя | г. Мсціслаў,<br>вул. К. Маркса, 77 | 3 | 20.11.2002<br>№ 78 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 513Г000509 | Будынак былой мужчынскай гімназіі | XIX стагоддзе | г. Мсціслаў,<br>вул. Першамайская, 14 | 3 | 27.03.2001<br>№ 64 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 512Г000510 | Былы калегіум езуітаў:<br>касцёл<br>кляштарны корпус з сюжэтнымі роспісамі ў інтэр'еры келляў і трапезнай | 1745–1750 гады | г. Мсціслаў,<br>на перакрыжаванні вуліц Першамайскай і Пралетарскай | 2 | 27.03.2001<br>№ 64 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Былы езуіцкі кляштар з прыналежнымі да яго пабудовамі заснаваны ў пачатку XVII ст. па загадзе караля Жыгімонта III Вазы. Калегіум заснаваны згодна з дакументам 1711 г. У 1730 г. настаяцель Ян Навамірскі заклаў камень пад новы мураваны касцёл, будаўніцтва якога завяршылася ў 1738 г.

У 1817 г. касцёл апісваўся як «даволі пышны» з дзвюма вежамі, накрыты гонтай. Калегіум – мураваны двухпавярховы, гонтай накрыты, значнага рамонту не патрабаваў. Іншыя мураваныя пабудовы: канвікт (пансіён), аптэка, школа, – даволі прыстойныя і абсталяваныя. Драўляныя будынкі свірна, стайні патрабавалі рамонту.

Пасля скасавання ордэна езуітаў (1820 г. ) касцёл стал прыходскім; у 1842 г. (1833 г. ) перабудаваны пад Мікалаеўскі сабор, кляштар – пад Мікалаеўскі манастыр; потым будынкі манастыра прызначаны пад духоўнае вучылішча Тупічэўскага манастыра.

У 1838 г. быў складзены каштарыс на капітальны рамонт будынка калегіума. Прадугледжвалася разабраць аварыйныя ўчасткі сцен і змураваць нанава, перарабіць нанава аконныя і дзвярныя праёмы, падлогу, скляпенні, галандскія печы, дах накрыць жалезам. У 1841–1842 гг. асноўныя рамонтныя работы былі выкананы. Пабудаваны двухпавярховы корпус для манахаў, над адным са старых будынкаў надбудаваны другі паверх, манастыр абгароджаны мураванай сцяной з трыма капліцамі на вуглах. У 1859 г. у аднапавярховым флігелі размясцілася мсціслаўскае казначэйства. У сакавіку 1877 г. мсціслаўскі Мікалаеўскі другакласны мужчынскі манастыр быў скасаваны, замест яго заснаваны бялыніцкі. Мікалаеўская царква стала гарадскім саборам. У 1897 г. адрамантаваны будынак вучылішча і наглядчыцкі корпус з перамуроўкай сцяны памерам 6–7 аршын. У 1909 г. адбываўся рамонт Мікалаеўскага сабора. Пры наведванні ў 1913 г. епіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім Канстанцінам г. Мсціслава адзначалася, што Мікалаеўскі сабор «и по наружному виду, и по внутреннему убранству и необыкновенной чистоте оставляет впечатление весьма отрадное: видна любовь к церковному благолепию и благоукрашению храма...»

У час Вялікай Айчыннай вайны касцёл быў напалову зруйнаваны, былі знішчаны інтэр'еры. Пасля 1945 г. будынак часткова адрамантаваны і прыстасаваны пад раённы Дом культуры. Цяпер знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі.

Касцёл – помнік архітэктуры барока. Вырашаны магутнай мураванай базілікай з трансептам і двухвежавым фасадам. У час рэканструкцыі пад праваслаўны сабор узведзены вялікі паўсферычны купал на цыліндрычным светлавым барабане (не захаваўся). З поўначы да касцёла далучаецца аднапавярховы будынак аптэкі, з поўдня да апсіды – двухпавярховы прамавугольны ў плане корпус калегіума.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000511 | Будынак былой вайсковай установы | канец XIX стагоддзя | г. Мсціслаў, вул. Пралетарская | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000512 | Будынак былога казначэйства | канец XIX –пачатак XX стагоддзя | г. Мсціслаў, вул. Савецкая, 14 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000513 | Спаса-Праабражэнская царква | другая палова XIX стагоддзя | г. Мсціслаў, вул. Энгельса, на могілках | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000514 | Царква | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Басценавічы | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000515 | Царква | пачатак XIX стагоддзя | в. Мазалава | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |

| 512Г000516 | Успенскі манастыр: Успенскі сабор, жылы корпус, званіца, будынак школы, капліца, стайня, гаспадарчыя пабудовы і жылыя дамы | XVIII–XIX стагоддзі | в. Пустынкі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Успенскі манастыр знаходзіцца ў ваколіцах Мсціслава на правым беразе р. Аслянка. Паводле гістарычных звестак, быў заснаваны сынам вялікага літоўскага князя Альгерда Сямёнам Лугвенам, які атрымаў у валоданне Мсціслаў у 1380 г. Гэты год у большасці літаратурных крыніц прыняты за дату заснавання манастыра. Гісторыя яго ўзнікнення звязана з паданнем аб з'яўленні князю цудатворнага абраза Маці Божай ля крыніцы з гаючай вадой, што ўратавала яго ад слепаты.

У жніўні 1601 г. польскі кароль Жыгімонт III Ваза дароўнай граматай надаў манастыр Афанасію Валчанскаму з умовай далучэння яго да уніі.

Пасля скасавання уніі 15 жніўня 1839 г. манастыр быў вернуты праваслаўнай епархіі.

Дакументы XIX ст. сведчаць, што амаль усе будынкі знаходзіліся ў дрэнным стане. Нягледзячы на ўсе бягучыя рамонты, манастыр паступова прыходзіў у заняпад, змяншаліся яго даходы, таму планавалася манастыр зусім закрыць.



Будаўнічыя работы пачаліся ў 1863 г. Галоўны храм манастыра – вялікая халодная царква ў імя Успення Багародзіцы была перабудавана з былой базыльянскай і нанава асвячона 29 ліпеня 1869 г. Другая невялікая мураваная царква была пабудавана на месцы старой драўлянай ля крыніцы ў 1864 г. і асвячона 15 жніўня 1864 г. Яна мела крыжападобную форму з вялікім купалам, накрыта бляхай. Цёплая царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы знаходзілася ў новапабудаваным манастырскім корпусе. На адной восі з Успенскай царквой каля галоўнага ўваходу ў манастыр стаяла мураваная пяціярусная званіца.

У 1864–1870 гг. былі пабудаваны новыя гаспадарчыя будынкі, што знаходзіліся ў межах агароджы: свіран, мураваная стайня, вазоўня і чатыры хлявы для сена пад адным дахам, лазня, кузня, дом для пчаляра на паўночна-ўсходнім рагу агароджы, мураваны дом для вартаўніка каля званіцы; мураваная дрывотня; пры дрывотні драўляны дом для служкаў і побач лядоўня. Манастыр быў абнесены мураванай агароджай з чатырох бакоў на сто пагонных сажняў. На двух вуглах агароджы стаялі капліцы. Яшчэ адна капліца знаходзілася ў адной сувязі са званіцай.

У 1870 г. царкоўнае брацтва пры манастыры заснавала трохкласнае вучылішча для сялянскіх хлопчыкаў. Размяшчалася вучылішча ў старым, пабудаваным яшчэ манахамі-базыльянамі, мураваным будынку. У 1913 г. на манастырскай зямлі быў пабудаваны драўляны дом для вучняў царкоўнанастаўніцкай школы і для прыёму багамольцаў. Дзейнічаў манастыр да 1925 г.

Архітэктурны ансамбль манастыра ўключае Успенскі сабор, Багародзіцкую царкву, жылы корпус з Пакроўскай царквой, званіцу, тры жылыя дамы, гаспадарчыя пабудовы.

Успенскі сабор – трохнефавая базіліка з прамавугольнай апсідай. Галоўны фасад храма мае трохчасткавую будову. Цэнтральная частка фасада крапавана плоскімі пілястрамі з іанічнымі капітэлямі і завершана трохвугольным франтонам. Фасад быў фланкіраваны вежамі, якія не захаваліся. Цэнтральны



і бакавыя ўваходы завяршаліся трохвугольнымі франтончыкамі. Фасады і вуглы апсіды аздоблены пілястрамі, лучковымі нішамі, якія ўпрыгожаны ліштвамі з замковым каменем. Унутраная прастора храма падзелена на тры нефы. Калоны злучаны падпружнымі аркамі. Алтарная частка вылучана чатырохвугольнымі калонамі на масіўных пастаментах. У заходняй частцы над нартэксам размешчаны хоры. У архітэктуры сабора выкарыстаны элементы барока. Захаваўся ў руінах.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане жылы корпус мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, цэнтрам якой з'яўляецца аднанефавая крыжова-купальная Пакроўская царква з высокай паўкруглай апсідай. Галоўны фасад царквы вылучаны глыбокім рызалітам, які завершаны трохвугольным франтонам. У рызаліце размешчаны партал галоўнага ўвахода, афармлены калонамі і высокім мураваным ганкам. Над прытворам узвышалася вежа, над сяродкрыжжам – масіўны барабан з купалам, якія не захаваліся. Корпус мае калідорную сістэму планіроўкі з аднабаковым размяшчэннем пакояў. Першы паверх будынка асветлены прамавугольнымі вокнамі, другі паверх – лучковымі. У архітэктуры корпуса выкарыстаны элементы класіцызму. Захаваўся ў руінах.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак школы з вальмавым дахам. Да яго тарцоў прымыкалі дзве пазнейшыя (пачатак XX ст.) прыбудовы. Фасады крапаваны па вуглах руставанымі лапаткамі. На першым паверсе калідорная сістэма планіроўкі з двухбаковым размяшчэннем пакояў, на другім – анфіладная. Калідор на першым паверсе перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Такія ж скляпенні ў класных пакоях, шэраг памяшканняў мае плоскую столь.

Невялікая аднанефавая з паўкруглай апсідай Багародзіцкая царква размешчана ва ўсходняй частцы комплексу, недалёка ад штучнай сажалкі. Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Вырашана кубападобным аб'ёмам пад шатровым дахам, завершаным цыбулепадобнай галоўкай на высокім гранёным барабане. Над апсідай царквы ўзведзена макаўка.

Званіца ўяўляе сабой высокую пяціярусную пабудову, завершаную шпілем (не захаваўся). Першы, самы масіўны ярус, прамавугольны ў плане. З усходняга і заходняга фасадаў дэкарыраваны рызалітамі. Астатнія чатыры ярусы – васьмігранныя. У званіцы выкарыстаны элементы псеўдарускага стылю.



Тры жылыя дамы маюць прамавугольныя featuresнавялікія планы. Будова іх фасадаў сіметрычная, у дэкоры выкарыстаны лапаткі па вуглах і аркатурныя паясы.

Будынак стайні – аднапавярховы цагляны П-падобны ў плане, паверхня сцен крапавана пілястрамі. Прамавугольны ў плане свіран, накрыты вальмавым дахам, па яго перыметры пад карнізам праходзіць аркатурны пояс.

Як адзначаюць даследчыкі, будынкі манастыра характарызуюцца стылёвай разнастайнасцю: барока, класіцызм і рэтраспектыўна-рускі стыль.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000517 | Царква Ільі Прарока | першая палова XIX стагоддзя | в. Слаўнае | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000518 | Царква | XVIII стагоддзе | в. Сялец (Ануфрыева) | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудавана з цэглы ў Ануфрыеўскім манастыры, заснаваным у 1407 г. мсціслаўскім князем Сямёнам Лугвенам (паводле іншых звестак, заснаваны ў XIV ст. Юрыем Смаленскім). У XVII ст. пераведзена ў унію, у 1836 г. зноў праваслаўная, прыходская «для ворных салдат» ваенных пасяленняў. Ад архітэктурнага ансамбля захаваліся Ануфрыеўская царква 2-й паловы XVIII ст. (у аварыйным стане) і цёплая царква XIX ст., перабудаваная ў школу.



Ануфрыеўская царква – помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. Аднанефавы храм з паўцыркульнай апсідай і высокай пяціярусная вежай-званіцай. Неф і апсіда накрыты адным дахам. Квадратная ў плане вежа завершана невялікім шатром. Усе ярусы (чацверыкі) падзелены развітымі карнізамі, па вуглах аздоблены пілястрамі. Па перыметры сцен праходзіць прафіляваны карніз. У дэкоры выкарыстаны руставаныя лапаткі, падвойныя пілястры і калоны. Уваходы ў храм праз тры паўцыркульныя парталы, размешчаныя з трох бакоў ніжняга яруса вежы. Аконныя праёмы з лучковымі, на вежы з паўцыркульнымі завяршэннямі. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. На хоры вядзе вітая лесвіца ў тоўшчы сцяны.



## Слаўгарадскі раён

| 512Г000519 | Ансамбль царквы Раства Багародзіцы:<br><br>царква (фрэскі ў інтэр'еры), званіца, царкоўнапрыходская школа, падмуркі цёплай царквы і дзве жылыя пабудовы | канец XVIII стагоддзя, 1791–1793 гады | г. Слаўгарад, у цэнтры горада | 2 | 28.02.2002 № 71, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Царква пабудавана з цэглы паводле праекта пецярбургскага архітэктара М. Львова. Помнік архітэктуры класіцызму.

Цэнтрычны крыжова-купальны храм. Завершаны сферычным гранёным купалам на васьміграным светлавым барабане. Фасады маюць сіметрычную кампазіцыйную пабудову, завершаны развітымі антаблементамі. Уваходны партал вылучаны дзвюма паўкруглымі калонамі тасканскага ордэра і акном-люнетай. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі, над сяродкрыжжам сферычны купал. У заходняй частцы хоры. На сценах і скляпеннях фрэскавыя роспісы, выкананыя ў канцы XVII ст. у стылі ранняга класіцызму.

Званіца – мураваная двух'ярусная, завершаная невялікай вежачкай.

Царкоўнапрыходская школа – аднапавярховае Г-падобнае ў плане збудаванне са скругленым вуглом. У канцы 1950-х гг. з паўднёвага боку зроблена прыбудова, унутры дадатковыя перагародкі, дзвярныя праёмы. Фасады будынка раскрапаваны неглыбокімі паўцыркульнымі нішамі з прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Вуглавая частка аздоблена рустам і вылучана неглыбокім рызалітам. У 1988 г. царква перададзена вернікам і адрэстаўрыравана.

| 513Д000520 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | г. Слаўгарад, вул. Ленінская, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 512Г000521 | Будынак былой паштовай станцыі | другая палова XIX стагоддзя | г. Слаўгарад, вул. Ленінская, 49а | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Аднапавярховы Т-падобны ў плане будынак. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны неглыбокім рызалітам, завершаным атыкам. Дзвярны праём стрэльчатага абрысу. Над уваходам казырок на дзвюх ажурных кансолях. Вуглы крапаваны лапаткамі з неглыбокімі стрэльчатымі нішамі. Высокія аконныя праёмы стрэльчатыя. Пабудавана паводле тыпавога праекта. У дэкоры выкарыстаны элементы неаготыкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000522 | Брацкая магіла | 1941,1944 гады | г. Слаўгарад, 8 км на паўночны ўсход ад горада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000523 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Аляксандраўка 1-я | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000524 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Гайшын | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000525 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Гіжэнка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000526 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Іванішчавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000527 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Кульшычы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000528 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Лапацічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000529 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Любаны | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000530 | Брацкая магіла | 1941, 1943 гады | в. Ляцягі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 511Д000531 | Мемарыяльная капліца | пачатак XX стагоддзя | в. Лясная | 1 | 20.01.2000 № 56 | 14.05.2007 № 578 |

28 верасня 1708 г. у час Паўночнай вайны 1700–1721 гг. войскі Пятра І разбілі пад Лясной шведскі корпус генерала А. Левенгаўпта. У гонар гэтай перамогі былі выкананы медалі, а на полі бою Пётр І вырашыў пабудаваць мемарыяльны храм. Была збудавана невялікая памерамі драўляная царква ў стылі барока (не захавалася). Яна мела форму прамавугольніка з прыбудоваю-алтаром на ўсходзе і накрытым з трыма арачнымі ўваходамі ганкам на захадзе.

У 1890 г. быў аб'яўлены конкурс да 200-й гадавіны гістарычнай бітвы на праект помніка пад Лясной. Але ніводны праект не быў прыняты. У 1899 г. было зноў вырашана пабудаваць у Лясной храм-помнік. У 1904 г. члену інжынернага камітэта Галоўнага



інжынернага ўпраўлення прафесару архітэктуры А.І. фон Гагену было даручана скласці яго праект. Гэты праект быў ухвалены ў жніўні 1908 г.

28 верасня 1908 г. у Лясной была закладзена мемарыяльная капліца, разлічаная прыкладна на 400 чалавек. Будаўніцтвам займалася Бабруйская ваенна-інжынерная дыстанцыя, кіраваў ваенны інжынер І.А. Лідзверс.

Мемарыяльная капліца пабудавана ў 1912 г., асвячона ў верасні 1912 г. Будынак пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну, рэстаўрыраваны ў 1956–1957 гг. З 1958 г. тут музей гісторыі бітвы пры Лясной. У 1990-я гг. храм (царква ў імя Святых апосталаў Пятра і Паўла) перададзены вернікам.

Помнік архітэктуры неарускага стылю. Мураваны будынак (вышыня 39 м) цэнтрычнай чатырохграннай пірамідальнай двух'яруснай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, завершанай васьміграннымшатром з цыбулепадобнай галоўкай. Пастаўлены на магутны стылабат, выкладзены з гранітных квадраў. Ярусы апяразаны паясамі машыкуляў.

Найважнейшае аздабленне храма – два мазаічныя пано: «Маці Божая з дзіцем» і «Апостал Пётр». Першае пано на галоўным фасадзе, на вышыні прыблізна 12 м, другое – у нішы паміж вокнамі ўсходняга фасада, на вышыні 3 м. Мазаіка рабілася ў найбольш вядомай тады мазаічнай майстэрні В.А. Фралова ў Пецярбургу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 511Д000532 | Помнік у гонар перамогі рускіх войскаў у бітве пад Лясной | 1908 год | в. Лясная | 1 | 20.01.2000 № 56 | 14.05.2007 № 578 |



Скульптурны помнік адкрыты 28 верасня 1908 г. Стаіць побач з мемарыяльнай капліцай. Быў створаны вядомым рускім скульптарам-анімалістам А.Л. Оберам. Вырашаны ў выглядзе гранітнай скалы, на вяршыні якой бронзавы шыракакрылы арол, які рве кіпцюрамі паверgranы шведскі сцяг з паламаным дрэўкам. На скале, на бронзавай дошцы надпіс: «В память сражения при Лесной – матери Полтавской победы 1708. 28.9.1908 г. ». На другім баку яшчэ адна дошка са спісам палкоў – удзельнікаў гістарычнага бою.

У верасні 2008 г. да 300-годдзя бітвы пад Лясной завершаны капітальны рамонт мемарыяльнай капліцы і помніка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000533 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Лясная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000534 | Брацкая магіла | 1708 год | в. Лясная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000535 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Новая Слабада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000536 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Чырвоная Слабада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Хоцімскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000537 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | г. Хоцімск, вул. Камсамольская, 22 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000538 | Свята-Троіцкі сабор | 1873 год | г. Хоцімск, вул. Кірава | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000539 | Брацкая магіла | 1943 год | г. Хоцімск, вул. Кірава, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000540 | Царква | 1891 год | г. Хоцімск, вул. Першамайская | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |

## Чавускі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000541 | Брацкая магіла | 1920 год | г. Чавусы, у парку | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000542 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Чавусы, вул. Ленінская | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000543 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Антонаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000544 | Царква | другая палова XIX стагоддзя | в. Благавічы | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000545 | Вайсковыя могілкі | 1943–1944 гады | в. Бынава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000546 | Брацкія магілы | 1944 год | в. Вусце | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000547 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Гарбавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000548 | Брацкія магілы | 1944 год | в. Гразівец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000549 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | в. Доўгі Мох | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000550 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | в. Дужаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000551 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Загоранка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000552 | Брацкія магілы | 1944 год | в. Заложжа | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000553 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Лапені | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000554 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Петухоўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000555 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Прудок | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000556 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Старая Буда | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000557 | Брацкія магілы | 1944 год | в. Сутокі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000558 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сушчы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000559 | Брацкая магіла | 1943 год | в. Ужжар | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000560 | Брацкія магілы | 1944 год | в. Хамянкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000561 | Брацкія магілы | 1944 год | в. Чырвоная Буда | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Чэрыкаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Г000562 | Будынак бальніцы (два корпусы) | канец XVIII – пачатак XIX стагоддзя | г. Чэрыкаў, вул. Ленінская, 132 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000563 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | г. Чэрыкаў, вул. К. Маркса, у парку Перамогі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000564 | Будынак былой паштовай станцыі | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Сакалоўка | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Помнік архітэктуры XIX ст. Пабудавана ў 1851 г. на Маскоўска-Варшаўскай шашы па ўзорным праекце станцыйных дамоў трэцяга разраду 1846 г. Прамавугольны ў плане будынак з вальмавым дахам. Сцены цагляныя, атынкаваныя. Галоўны фасад арыентаваны на дарогу. У пачатку XX ст. значна перабудаваны.

## Шклоўскі раён

| 512Г000565 | Ратуша | канец XVIII стагоддзя | г. Шклоў, у цэнтры горада | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



У 1769 г. у горадзе адбыўся вялікі пажар, які знішчыў каля 300 дамоў. Уладар Шклова князь Чартарыйскі прыняў рашэнне перанесці горад на новае месца, паміж высокім правым берагам р. Днепр і левым берагам р. Шклавянка, на 2,5 км на поўнач ад старога Шклова. Будаўніцтва новага горада, паводле пісьмовых крыніц, вялося з 1769 па 1778 г. На працягу 1770–1772 гг. быў пабудаваны новы рынак з ратушай і гандлёвымі радамі. Ратуша з галоўнымі магазінамі размяшчалася ў цэнтры гэтага гандлёвага комплексу. З чатырох вуглоў комплексу знаходзіліся свірны, а пасярэдзіне верхняга рада – гарадскія вагі. Сістэма крам (палова выходзіла разам з ратушай на дзядзінец, а палова на рыначныя вуліцы) дазволіла сканцэнтраваць вялікую колькасць (120) гандлёвых пляцовак на адносна невялікай плошчы.

У даваенны перыяд будынкі знаходзіліся ў здавальняючым стане і выкарыстоўваліся, праўда, можна адзначыць пэўныя страты, знешнія перараробкі і ўнутраныя перапланіроўкі (на галоўным фасадзе ліквідаваны балкон і праём закладзены да аконнага, зменена завяршэнне ратушнай вежы, перапланаваны цэнтральны аб’ём паўночнага крыла крам, магчыма, было страчана ўсходняе крыло крам, закладзены некаторыя аконныя праёмы і г. д.).

Ратуша – двухпавярховы, у плане прамавугольны, блізкі да квадрата будынак, мела вальмавы дах, па цэнтры якога размяшчалася двух’ярусная васьміграння вежа, расчлянёная пілястрамі, і завяршалася яна гранёным купалам з фігурным шпілем. На вежы знаходзіўся гадзіннік, звон і аглядальная пляцоўка. Сцены будынка ратушы таксама расчлянёны пілястрамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Першы паверх і пілястры дэкарыраваны плоскім рустам. У першым ярусе маецца скразны праезд. На другі паверх вяла вуглавая двухмаршавая лесвіца. На першым паверсе знаходзіліся розныя службовыя памяшканні. Асноўная частка памяшканняў групавалася на другім паверсе па баках кароткага калідора. Пад ратушай быў падвал.

З абодвух бакоў да ратушы прымыкалі аднапавярховыя гандлёвыя рады, якія стваралі замкнёную кампазіцыю з вялікім унутраным дваром. Крамы былі арыентаваны аркамі ва ўнутраны двор і на вуліцу, што дазволіла на адносна невялікай плошчы сканцэнтраваць да 120 гандлёвых памяшканняў. Ва ўсходнім і заходнім карпусах гандлёвых радоў былі праезды. Паўночны корпус крам уключаў па цэнтры аднапавярховы з падваламі будынак падобна ратушы з вежай і скразным праездам. У ім размяшчаліся складскія памяшканні. Па вуглах комплексу размяшчаліся двухпавярховыя квадратныя ў плане свірны з шатровым пакрыццём. Фасады вуглавых будынкаў былі расчлянёны руставанымі пілястрамі.



Ратуша адноўлена ў 2000 г.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 513Д000566 | Месца, дзе знаходзіўся гарадскі асабняк | пачатак XX стагоддзя | г. Шклоў, у гарадскім парку | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000567 | Будынак былой сінагогі | другая палова XVII стагоддзя | г. Шклоў, вул. Дзікуна, 99 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000568 | Касцёл Св. Пятра і Паўла | XVII, XIX стагоддзі | г. Шклоў, вул. Леніна, 126а | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000569 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Шклоў, вул. Паштовая, 31 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000570 | Будынак | XVIII стагоддзе | г. Шклоў, вул. Савецкая, 54 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000571 | Праабражэнская царква | XIX стагоддзе | г. Шклоў, вул. 1-я Савецкая, 57 | 3 | 27.03.2001 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000572 | Брацкая магіла | 1941, 1943 гады | г. Шклоў, вул. 1-я Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000573 | Кантора фабрыкі «Спартак» | 1898 год | г. Шклоў, вул. Фабрычная, 26 | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000574 | Пакроўская царква | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Вялікія Лазіцы | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000575 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Гаршкова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 512Г000576 | Паштовая станцыя | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Лакуці | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000577 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Княжыцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000578 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Палыкавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000579 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Стараселле | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Г000580 | Царква | 1903 год | в. Старое Высокае | 3 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |
| 513Д000581 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Чырчына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

ДЗЯРЖАЎНЫ СПІС ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

РАЗДЗЕЛ I
ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА
НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ





# ГЛАВА I

## МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ НЕРУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Барысаўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000001 | Замчышча | XII–XIV стагоддзі | г. Барысаў, 0,5 км ад сучаснага рынку, на левым беразе р. Бярэзіна, у раёне вул. Гогаля | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000002 | Касцёл | 1806–1823 гады | г. Барысаў, вул. 3-га Інтэрнацыянала, 28 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000003 | Будынак былога казначэйства | 1807 год | г. Барысаў, вул. Лапаціна, 32 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000004 | Васкрасенскі сабор | 1874 год | г. Барысаў, вул. Лапаціна, 34 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000005 | Курганны могільнік | XI–XII стагоддзі | г. Барысаў, на паўночна-заходняй ускраіне горада, на левым беразе р. Бярэзіна, у канцы вул. Чырвонаармейскай | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000006 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Барысаў, вул. 8 Сакавіка, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000007 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Барысаў, вул. 8 Сакавіка, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000008 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э. | в. Аздзяцічы, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, за калгасным машынным дваром, на беразе р. Бярэзіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

двухсхільным дахам. Паверхі ў сценах вылучаны поясам парэбрыка. На ніжнім паверсе паўночнага фасада размешчаны шырокі дзвярны праём і два акны; сцяна вельмі высокага верхняга паверха расчлянёна трыма плоскімі нішамі з невялікім акном у сярэдняй з іх. На франтоне выкладзены год пабудовы «1906», ініцыялы «X. W.» (Ксаверый Вайніловіч) і картуш з гербам уладальніка.

Ад другога аналагічнага па форме, але меншага будынка (9х9 м) спіртзавода, размешчанага побач, захаваўся ніжні паверх.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000204 | Былы сядзібна-паркавы комплекс:<br>фрагменты парку<br>фрагменты саду<br>свіран | канец XVIII – пачатак XIX стагоддзя | в. Лецяшын | 3 | 16.03.1994 № 5, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 613Г000205 | Царква і званіца | XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Межная Слабада | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000206 | Касцёл | пачатак XX стагоддзя | в. Нагорнае | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000207 | Будынак былой паштовай станцыі | першая палова XIX стагоддзя | в. Сіняўка | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000208 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сіняўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000209 | Сядзіба | 1909 год | в. Стралкава | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000210 | Фрагменты комплексу былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>вадаёмы<br>фрагменты парку<br>рэшткі гаспадарчых пабудоў і спіртзавода | апошняя чвэрць XVIII – пачатак XX стагоддзя | в. Туча | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000211 | Фрагменты комплексу былой сядзібы:<br>рэшткі сядзібнага дома<br>рэшткі афіцыны<br>рэшткі гаспадарчай пабудовы | другая палова XIX стагоддзя | в. Цясноўка | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000212 | Фрагменты палацава-паркавага ансамбля «Радзівілімонты»:<br>руіны палаца<br>парк | 1780–1783 гады | в. Чырвоная Зорка | 2 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |

З утварэннем у 1579 г. Клецкай ардынацыі яе адміністрацыйным цэнтрам сталі Радзівілімонты. Першая радзівілімонтаўская сядзіба, згодна з інвентаром пачатку XVIII ст., мела рэнесансныя рысы. Яна размяшчалася за 10 км ад Клецка на адной восі з замкам. У 50-я гг. XVIII ст. на змену старой сядзібе прыйшоў палацава-паркавы ансамбль, пабудаваны ў формах барока. Палац





быў драўляны, з ламаным дахам, адносна невялікі (шэсць жылых пакояў, зала, дзве прыхожыя і капліца ў мезаніне). Рэгулярны парк складаўся з ліпавых баскетаў. Сядзіба ўключала шматлікія гаспадарчыя пабудовы: кухню, дом адміністратара, хлявы, свірны, сырніцу, гумно, сенавал, вінакурню, кароўнікі і інш.

У 1780-я гг. Юзаф Радзівіл стварае новы палацава-паркавы комплекс з садам на плошчы каля 60 га. Першапачаткова ён быў задуманы як летняя рэзідэнцыя. Ансамбль уключаў палац, парк, два аднапавярховыя драўляныя флігелі, мураваную браму, шматлікія гаспадарчыя пабудовы. Цэнтрам кампазіцыі сядзібы быў новы палац, размешчаны з левага боку ад старога барочнага.

Палац будаваўся ў 1780–1783 гг. італьянскім архітэктарам Спампані з удзелам Берса ў стылі класіцызму. Вонкавыя сцены, складзеныя з дубовага бруса, былі абкладзены цэглай і атынкаваны, унутраныя – у асноўным цагляныя. З дрэва зроблены порцік з франтонам і іншыя элементы, запазычаныя з мураванай архітэктуры (трыгліфы, руст, сандрыкі). Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане (50,4х16,8 м). Цэнтральны павышаны аб'ём (мансардны паверх) з боку параднага ўваходу акцэнтаваны чатырохкалонным дарычным порцікам. З тыльнага боку паўкруглы эркер цэнтральнай залы. Правае крыло заканчвалася паўратондай, у якой знаходзіўся зімовы сад. Сцены бакавых крылаў мелі дубовую абшыўку, апрацаваную пад каменны руст, што надало будынку манументальны выгляд.

У афармленні інтэр'ераў парадных памяшканняў выкарыстоўваліся калоны, ляпныя вазы, фестоны, гірлянды, медальёны, манаграмы, скульптуры. У тэхніцы стука пад ружовы мармур была багата аздоблена капліца. У афармленні палацавых інтэр'ераў прымаў удзел Антон Смуглевіч, брат вядомага жывапісца Францішка Смуглевіча. Па яго эскізах былі выкананы жывапісныя работы ў палацы, упрыгожаны кафляныя печы і каміны.

У 1909 г. палац разам з многімі пабудовамі сядзібы згарэў, але потым быў адбудаваны. У Вялікую Айчынную вайну быў ператвораны ў склад. У савецкі перыяд палац прыйшоў у заняпад, зараз засталіся руіны.

Пры сядзібе быў сфарміраваны парк. Перад палацам існаваў вялікі партэр. Паралельна палацу праходзіла шырокая ўязная алея. З паўночнага і паўночна-ўсходняга бакоў парку знаходзіліся вадаёмы. Асноўны масіў парку, размешчанага на паўднёвы захад ад палаца, меў у плане форму прамавугольніка, да яго з паўднёвага боку прымыкаў сад.

З гаспадарчых пабудоў захаваліся вінакурня, стайні, кароўнік і свіран. Ёсць меркаванне, што свіран будаваўся аднachасова з палацам па праекце Спампані. Будынак прамавугольны ў плане, аднапавярховы, з бруса, на высокім цокалі. Вылучаецца двух'яруснай галерэяй на слупах. Сцены з высока размешчанымі паўкруглымі вокнамі апрацаваны, як і палац, пад каменны руст. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе порціка з дзвюма стылізаванымі дарычнымі калонамі. На вільчыку даху была вежачка з невялікім звонам і флюгерам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000213 | Рэшткі ветранога млына | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Шайкі | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000214 | Будынкі былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>свіран | першая палова XIX стагоддзя | в. Янавічы | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |

## Крупскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000215 | Брацкая магіла | 1942 год | г. Крупкі, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000216 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Крупкі, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Ж000217 | Бюст У.В.Кавалёнка | 1984 год | г. Крупкі | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000218 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Асінаўка, 3 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000219 | Брацкая магіла | 1944 год | г.п. Бобр | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000220 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Выдрыца, 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, урочышча Ляхаўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000221 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Вялікае Горадна, 0,1 км на захад ад вёскі, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000222 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Дубы, 1 км на поўдзень ад усходняга берага воз. Сялява | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000223 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Дудзінка, 1 км на ўсход ад вёскі, урочышча Расцяроб | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000224 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Кіявец, 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Бобр | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000225 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – IX стагоддзе н.э. | в. Клішына, 1 км на поўдзень ад вёскі, на востраве воз. Сялява, урочышча Выспянская Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000226 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Лянок, 0,2 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000227 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Пліса, у цэнтры вёскі, на правым беразе р. Пліса | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000228 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Смародзінка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000229 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | г.п. Халопенічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Лагойскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000230 | Фрагменты былой сядзібы графаў Тышкевічаў:<br>рэшткі палаца<br>будынак былой палатнянай фабрыкі<br>будынак былой стайні<br>будынак былой вартоўні<br>будынак былой лядоўні<br>тэрыторыя былога касцёла – фамільная крыпта<br>парк | XIX стагоддзе | г. Лагойск | 3 | 16.03.1994 № 5, 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 612В000231 | Лагойскае гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | г. Лагойск, ва ўрочышчы Замкавая Гара, 1 км на паўночны захад ад горада, на ўзвышшы | 2 | 09.10.2002 № 76 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000232 | Гарадзішча старажытнага Лагойска (замчышча) | X–XV стагоддзі | г. Лагойск, у цэнтры горада, на правым беразе р. Гайна, у парку культуры і адпачынку | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000233 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | г. Лагойск, на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, урочышча Піменава Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000234 | Брацкія могілкі | 1944 год | г. Лагойск, вул. Цімчука | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Д000235 | Мемарыяльны комплекс «Дальва» | XX стагоддзе | 79-ы км шашы Мінск – Віцебск | 2 | 20.11.2002 № 78 | 14.05.2007 № 578 |



19 ліпеня 1944 г. за дзесяць дзён да прыходу Чырвонай арміі ўсіх жыхароў в. Дальва гітлераўцы сагналі ў хату Васіля Кухарэнкі, замкнулі дзверы і кінулі ў дом гранату. Потым падпалілі вёску з двух бакоў. У агні пажару загінулі 44 чалавекі: 29 дзяцей, 13 жанчын і 2 мужчыны.

У 1955 г. на месцы брацкай магілы астанкаў жыхароў былой вёскі пастаўлены помнік. На бетонным надмагіллі зроблены надпіс: «Тут пахаваны астанкі дальвінцаў». Пазней, у 1963 г., пастаўлены абеліск: наверсе была пяціканцовая зорка, ніжэй надпіс: «Нашчадкі не забудуць вас», прозвішчы і імёны зажыва спаленых 44 чалавек. Яшчэ ніжэй: «Жыхарам вёскі Дальва, спаленых гітлераўцамі ў ліпені 1944 года».

У 1972 г. у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце аб'яўлены конкурс на лепшы праект помніка вёсцы Дальва. Пераможцам аказаўся трэццякурснік

аддзялення скульптуры мастацкага факультэта Уладзімір Церабун – выхаванец народнага мастака Беларусі скульптара А.А. Бембеля. Праект мемарыяла стаў яго дыпломнай работай. Пазней за стварэнне мемарыяла аўтар узнагароджаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі.

Комплекс адкрыты ў 1975 г. Вышыня скульптуры 4 м, бэлек – 6,5 м; Сцяна Памяці мае памеры 16х1,5 м, надмагільная пліта – 1,5х2,5х0,4 м. Кампазіцыя мемарыяла складаецца з элементаў, свабодна размешчаных на прасторы. Каля дарогі ўстаноўлены камень-валун, на якім высечаны надпіс: «Да 19 чэрвеня 1944 г. тут была вёска Дальва. За 10 дзён да вызвалення гітлераўцы жывымі спалілі яе жыхароў». Непадалёку на нізкім пастаменце ўзвышаецца цэнтральная скульптура жанчыны, якая застыла ў смутку. Да яе прыхінуўся, абхапіўшы рукамі, хлопчык. За скульптурай уздыбленыя абгарэлыя бэлькі – сімвал спаленага дома; справа – 16-метровая Сцяна Памяці з імёнамі загінуўшых і надмагільная пліта. Па ўсёй даўжыні сцяны надпіс: «Людзі, схіліце галовы перад памяццю жыхароў вёскі Дальва, бязвінна загубленых 19 чэрвеня 1944 г. ». На месцы былых пяці вясковых хат з дванаццаці спаленых устаноўлены з шэрага бетону сімвалічныя вянцы зрубаў. Перад гэтымі зрубамі пры ўваходзе ў хаты на прыступках пакладзены сімвалічныя знакі – рэльефы з сілуміну: дзіцячая лялька, збанок, серп, скрыпка, клубок нітак. Гэтыя рэчы як бы нагадваюць, што тут жылі людзі, у якіх з бесчалавечнай жорсткасцю адабралі жыццё.

Дарожкі, што вядуць да помніка, размешчаны пад вуглом, што дазваляе бачыць помнік з розных пунктаў. У памяць аб ахвярах пасаджаны 44 бярозкі. Пляцоўкі перад усімі элементамі комплексу, дарожкі, якія вядуць да іх, выкладзены каменем, пасыпаны шэрай галькай, што ў кантрасце з зеленню газонаў стварае ўражанне выпаленай зямлі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000236 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Амнішава, 0,7 км на поўдзень ад вёскі, за ручаём, каля сучасных могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000237 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Астрошыцы, на вясковых могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000238 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Аўгустова, 0,7 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000239 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Бяларучы, у цэнтры вёскі, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000240 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | X–XIII стагоддзі | в. Васількоўка, 1 км на захад ад вёскі, у лесе, 1,5 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000241 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Васількоўка, 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Замак (Тартак) | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000242 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Вейна, 1,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля сучасных могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000243 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Новае Гарадзішча, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000244 | Курганная група | | в. Гасцілавічы,<br>3 км на поўнач ад вёскі,<br>у лесе, урочышча Тур'я | 3 | 14.09.2004<br>№ 100 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000245 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Глебаўшчына,<br>0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000246 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Далькавічы,<br>0,7 км на поўнач ад вёскі,<br>у лесе | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000247 | Стаянка | сярэдзіна 4-га тысячагоддзя да н.э. | в. Зацэнне, па берагах р. Цна, на поўнач ад моста, каля аўтамабільнай дарогі Плешчаніцы – Зембін | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000248 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Камена,<br>0,3 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Каменка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000249 | Сярэдневяковае селішча-1, сярэдневяковае селішча-2 | | в. Камена, побач з гарадзішчам, каля падножжа мыса, 0,1 км ад будынка сельсавета, каля дарогі да селішча-1 | 3 | 14.09.2004<br>№ 100 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000250 | Фрагменты былой сядзібы Ядвігіна Ш.:<br>фрагменты парку<br>рэшткі саду<br>крыніца<br>водная сістэма | другая палова XIX стагоддзя | в. Карпілаўка | 3 | 16.03.1994<br>№ 5 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000251 | Свята-Успенская царква | 1865 год | в. Косіна | 3 | 31.10.2000<br>№ 61 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000252 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Косіна | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000253 | Камень-следавік | перыяд бронзавага веку | в. Крамянец,<br>0,6 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000254 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Кузевічы,<br>0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000255 | Курган | | в. Кузевічы,<br>1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у полі | 3 | 14.09.2004<br>№ 100 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000256 | Гарадзішча-1, гарадзішча-2 | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Казінец, 1 км на ўсход ад вёскі, у лесе,<br>0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000257 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Казінец, 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000258 | Фрагменты парку «Малыя Бясяды»:<br>фрагменты парку<br>вадаём<br>алея лістоўніцы | другая палова XIX стагоддзя | в. Малыя Бясяды | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000259 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Мачаны, 1,5 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Замчышча, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000260 | Гарадзішча | | в. Мокрадзь, 3 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 14.09.2004 № 100 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000261 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Ніўкі, на ўсход ад трасы Лагойск – Плешчаніцы, 100 м ад павароту на в. Кузевічы, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000262 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Панізоўе, 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, урочышча Замак, на левым беразе р. Гайна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000263 | Памятнае месца – радзіма Змітрака Бядулі | 1886 год | в. Пасадзец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000264 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | г.п. Плешчаніцы, 3 км на поўдзень ад пасёлка, на правым беразе р. Цімошанка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000265 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Прудзішча, 2 км на поўдзень ад вёскі, уздоўж дарогі на в. Дзяніскі, урочышча Рудзькоўшчына | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000266 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Рацькавічы, 2 км на паўночны захад ад вёскі, урочышча Змееў Лес, справа ад дарогі ў в. Рудня | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000267 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Свідна, 0,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Гайна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000268 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Селішча, 0,3 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000269 | Гарадзішча | перыяд жалезнага веку | в. Сілічы, 0,8 км на поўнач ад вёскі, каля шашы Мінск – Плешчаніцы | 3 | 14.09.2004 № 100 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000270 | Гарадзішча-1 і гарадзішча-2 | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Каменская Слабада, 1,5 км на захад ад вёскі, на ўзгорку ў лесе, 3 км на захад ад вёскі, на ўзгорку ў лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000271 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Слагавішча, 5 км на паўночны ўсход ад вёскі, урочышча Трэль (Равы), у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000272 | Курган | | в. Слагавішча, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Татарскія Могілкі | 3 | 14.09.2004 № 100 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000273 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Сухая Гара, 1,3 км на ўсход ад вёскі, 50 м злева ад дарогі ў в. Прудзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000274 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | | в. Сярэдняе, 1,5 км ад вёскі, па баках дарогі на в. Селішча, у лесе, 300 м на ўсход ад могільніка-1, у лесе | 3 | 14.09.2004 № 100 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000275 | Гарадзішча-1 і гарадзішча-2 | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Тарасіно, 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на высокім узгорку, 0,2 км на захад ад вёскі, на высокім мысе, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000276 | Фрагменты былой сядзібы «Трусавічы»:<br>фрагменты парку<br>вадаёмы<br>рэшткі лядоўні | другая палова XIX стагоддзя | в. Трусавічы | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000277 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Харужынцы, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000278 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Чырвоны Бор, 0,5–0,7 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 611Д000279 | Мемарыяльны комплекс «Хатынь» | 1968–1969 гады | 5 км ад павароту на 54-м км шашы Мінск – Віцебск | 1 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



22 сакавіка 1943 г. у вёску ўварваўся батальён карнікаў. Яны сагналі ў гумно старых, жанчын, дзяцей, зачынілі і падпалілі будынак. У агні загінулі 149 жыхароў, спалена ўся вёска 26 двароў.

У студзені 1966 г. ЦК КПБ прыняў рашэнне аб стварэнні мемарыяльнага комплексу «Хатынь» у памяць сотняў беларускіх вёсак, знішчаных у гады Вялікай Айчынай вайны (у перыяд акупацыі 1941–1944 гг.). Аўтары мемарыяла «Хатынь» беларускія архітэктары Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін, скульптар С. Селіханаў распрацавалі праект комплексу. Першая чарга была завершана ў канцы 1968 г. Адкрыццё другой чаргі адбылося 5 ліпеня 1969 г., у дні святкавання вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. за стварэнне мемарыяльнага комплексу «Хатынь» аўтары мемарыяла былі ўдастоены звання лаўрэатаў Ленінскай прэміі.

Хатынь – мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс, створаны на 54-м кіламетры ад Мінска, за 5 км ад шашы Мінск – Віцебск, на месцы былой вёскі Хатынь Лагойскага раёна.

Мемарыял займае плошчу 32 га. Комплекс паўтарае планіроўку былой вёскі з асобных фрагментаў. У цэнтры ўзвышаецца бронзавая скульптура Няскоранага чалавека (вышыня 6 м) з мёртвым хлопчыкам на руках. Побач гранітныя пліты, па форме нагадваюць дах гумна, у якім фашысты зажыва спалілі жыхароў вёскі (149 чалавек, у тым ліку 75 дзяцей да 16 гадоў). Побач са скульптурай на брацкай магіле – Вянок памяці з белага мармуру. На ім зварот загінуўшых жыхароў вёскі Хатынь: «Людзі добрыя, помніце...».

Былая вясковая вуліца выкладзена шэрымі (пад колер попелу) жалезабетоннымі плітамі. На месцы кожнага з 26 спаленых дамоў – помнік-зруб з шэрага жалезабетону, унутры яго абеліск у выглядзе коміна, на якім мемарыяльная дошка з прозвішчамі і імёнамі спаленых жыхароў дома. Абеліскі ўвянчаны званамі (удар звона праз 30 секунд). Перад кожным помнікам-зрубам жалезабетонная альтанка. На месцы былых чатырох вясковых калодзежаў – мемарыяльныя знакі.

За хатамі-помнікамі на галоўнай восі кампазіцыі мемарыяла – Могілкі вёсак: 186 урнаў з зямлёй вёсак, спаленых разам з жыхарамі і не адноўленых. 433 беларускія вёскі, якія перажылі трагедыю Хатыні, былі нанава адбудаваны пасля вайны. Гэтыя вёскі ўвекавечаны ў Хатыні на наступным элеменце комплексу – Дрэве жыцця.



У памяць аб загінуўшых вязнях фашысцкіх канцлагераў – жалезабетонны элемент сцяна Жалобы, на мемарыяльных плітах якой назвы 66 лагераў смерці і месц масавай загубы мірных грамадзян і ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі.

Побач са сцяной Жалобы і Могілкамі вёсак – Вечны агонь (запалены 5 ліпеня 1969 г.) у памяць аб кожным чацвёртым жыхары Беларусі, загінуўшым за гады Вялікай Айчынай вайны, тры бярозы, якія сімвалізуюць жыццё.

Мемарыяльны комплекс Хатынь – выразны сімвал народнай памяці. У 2004 г. зроблена рэканструкцыя комплексу, адкрыта фотадакументальная экспазіцыя «Хатынь».



## Любанскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000280 | Мемарыяльны комплекс савецкім актывістам, воінам, партызанам і падпольшчыкам, брацкія могілкі | 1921, 1944 гады | г. Любань, вул. Першамайская, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000281 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э. | в. Вобчын, 3,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000282 | Культавы камень са свідравінамі | | в. Ператок, 300 м на поўнач ад вёскі, справа ад шашы Дубнікі – Таль | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000283 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э. | в. Заельнае, 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у полі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000284 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – I стагоддзе н.э. | в. Засмужжа, 2,9 км на поўдзень ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Турок, урочышча Перарости | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000285 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Крываль, 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, урочышча Шведскія Могілкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000286 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Ляхаўка, 1,8 км на паўднёвы захад ад паўднёвай ускраіны вёскі, паміж дваімі сучаснымі могілкамі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000287 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Невалож, 2 км на паўночны захад ад цэнтра вёскі, урочышча Шведскія Могілкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000288 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Ракавішчы, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Смольгава | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000289 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Рачэнь, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000290 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Смольгава, 0,3 км на поўнач ад усходняй ускраіны вёскі, злева ад дарогі ў в. Крупкі, урочышча Шведскія Могілкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000291 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Смольгава, 0,4 км на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, у лесе, побач з жывёлагадоўчай фермай | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000292 | Мемарыяльны комплекс «Востраў Зыслаў» | 1941–1944 гады | в. Старасек | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000293 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Турок, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, злева ад лясной дарогі ў в. Песчанец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Маладзечанскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000294 | Корпус былога кляштара трынітарыяў | 1762 год | г. Маладзечна, вул. Замкавая, 21 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У XIX ст. тут існавала настаўніцкая семінарыя, якая рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ. Адным з заснавальнікаў семінарыі быў археолаг, краязнавец М.П. Авенарыус; сярод выкладчыкаў беларускія этнографы, фалькларысты і гісторыкі М.Я. Нікіфароўскі, Ю.Ф. Крачкоўскі. Пры семінарыі было ўзорнае народнае вучылішча, дзе семінарысты праходзілі практыку. У Першую сусветную вайну семінарыя эвакуіравана ў Смаленск (1915 г.), дзе існавала да 1920 г. Семінарыя мела вялікую бібліятэку, у 1910 г. пры ёй адкрыўся музей. У 1905–1911 гг. існаваў тэатр, дзе ставіліся п'есы А. Чэхава, А. Астроўскага, М. Гогаля і інш.

Корпус былога кляштара трынітарыяў – помнік архітэктуры позняга барока.

Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы з бакавымі рызалітамі, вуглы якіх раскрапаваны лапаткамі. Аконныя праёмы прамавугольныя з плоскім абрамленнем з замковым каменем. Памяшканні першага паверха перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. На другім паверсе перакрыцці плоскія, бэлечныя. Планіроўка анфіладная.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000295 | Гарадзішча | XV–XIX стагоддзі | г. Маладзечна, на паўночна-ўсходняй ускраіне горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000296 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Маладзечна, вул. Драздовіча, у скверы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| 612Г000297 | Троіцкі касцёл з брамай і агароджай | 1701–1704 гады | в. Беніца, 0,1 км на паўночны ўсход ад вёскі | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



У 1701 г. кашталян трокскі Міхаіл Казімір Коцел выдаў фундуш на будаўніцтва касцёла ў сваім маёнтку. Пабудаваны касцёл быў перададзены бернардзінцам, якія пазней па фундушу таго ж Коцела пабудавалі побач кляштар. У 1704 г. узведзеныя будынкі былі асвячоны. У канцы XVIII ст. касцёл стаў парафіяльны. Вядома, што пры кляштары знаходзілася школа.

У 1851 г. кляштар скасаваны, у 1866 г. касцёл перароблены пад царкву, а жылы корпус пасля 1863 г. зруйнаваны. У канцы XIX ст. руіны кляштара былі разабраны тагачасным уладальнікам мястэчка К. Швыкоўскім. У 1919 г. касцёл вернуты каталікам, у 1948 г. закрыты. Цяпер знаходзіцца ў стане рэстаўрацыі. Помнік архітэктуры позняга барока.

Касцёл двухвежавы крыжападобны ў плане, з пяціграннай апсідай і кароткімі крыламі трансепта. Над сяродкрыжжам купал на васьміграннным светлавым барабане, увянчаны гранёнай шатровай вежай. Галоўны заходні фасад фланкіраваны трох'яруснымі квадратнымі ў плане вежамі. Ніжнія ярусы вежаў размешчаны на ўзроўні сцен касцёла і аб'яднаны з імі агульным прафіляваным карнізам. Верхнія ярусы злучаны крывалінейным франтонам. Унутраная прастора касцёла перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. Алтар, крылы трансепта і бабінец адкрываюцца ў цэнтральную залу арачнымі праёмамі. Над уваходам – хоры на дзвюх калонах. Часткова захаваліся тры стукавыя надмагіллі рода Коцелаў. У сутарэннях касцёла былі сямейныя склепы Коцелаў і Швыкоўскіх.

Па восі касцёла размешчана брама, якая ўваходзіла ў мураваную агароджу (часткова захавалася з заходняга боку.). Уяўляе сабой кампазіцыю з чатырох слупоў з закругленымі вугламі. Сярэднія слупы звязаны крывалінейным франтонам, ствараюць цэнтральны праезд. Бакавыя часткі брамы глухія, крапаваны плоскімі арачнымі нішамі крывалінейнага абрысу.

| 613В000298 | Гарадзішча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тыся-чагоддзе н.э. | в. Васькаўцы, на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Б000299 | Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка» – радзіма Я.Купалы | 1882 год | в. Вязынка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000300 | Гарадзішча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Вязынка, 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000301 | Гарадзішча | XIV–XVII стагоддзі | в. Гарадок, у паўночнай частцы вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000302 | Царква Рызапалажэння Прасвятой Багародзіцы | 1871 год | в. Груздава | 3 | 05.10.2004 № 101 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000303 | Гарадзішча | IV–VII стагоддзі | в. Дубрава,<br>0,3 км на поўнач ад вёскі,<br>на ўзгорку вышынёй 35 м | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000304 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Дубрава | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000305 | Гарадзішча | 1-е тысячагоддзе да н.э. – 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Краснае, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага пераезда | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000306 | Брацкія могілкі | 1944 год | в. Краснае | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000307 | Царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы | 1889 год | в. Краснае | 3 | 05.10.2004<br>№ 101 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000308 | Свята-Троіцкая царква | 1869 год | в. Лебедзева | 3 | 18.06.2003<br>№ 86 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000309 | Каменны крыж | перыяд позняга сярэднявечча | в. Палачаны, 1,5 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі на в. Зоранька | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000310 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | 1-е тысячагоддзе н.э. | в. Парадоўшчына,<br>1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000311 | Курганны могільнік | VIII–XIII стагоддзі | в. Пекары, 0,5 км на захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Лужаны, урочышча Капцы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000312 | Касцёл | XIX стагоддзе | в. Плябань | 3 | 27.03.2002<br>№ 64 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000313 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку – ранняга сярэднявечча | V–XIII стагоддзі | г.п. Радашковічы, на ўскраіне пасёлка,<br>на вул. Заслаўскай, на правым беразе р. Гуйка | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000314 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Радашковічы,<br>вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000315 | Помнік экіпажу М.Ф. Гастэлы | 1941 год | 50-ы км шашы Мінск – Вільнюс, каля<br>г.п. Радашковічы | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 612Д000316 | Фальварак Ракуцёўшчына | сярэдзіна XIX – пачатак<br>XX стагоддзя | в. Ракуцёўшчына,<br>на паўднёвай ускраіне вёскі | 2 | 23.12.1998<br>№ 49 | 14.05.2007<br>№ 578 |

Тут, у сядзібе шляхціца В. Лычкоўскага, летам 1911 г. гасцяваў беларускі паэт М. Багдановіч. «Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!» – так назваў паэт гэты час. У 1977 г. у в. Ракуцёўшчына на ўспамін аб знаходжанні там паэта пастаўлены два помнікі, у 1981 г. у вёсцы пасаджаны мемарыяльны «Максімаў сад» (70 дрэў).



У 1994 г. тут створаны філіял музея Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына», які ўключае сядзібу Лычкоўскіх (домік арандатара, фальварковая хата, гаспадарчыя пабудовы), тэрыторыю вакол сядзібы, Максімаву крыніцу.

Штогод тут адбываецца свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета», прысвечанае памяці Максіма Багдановіча.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000317 | Курганны могільнік | VIII–XIII стагоддзі | в. Удранка, 100 м на паўднёвы захад ад вёскі, абапал дарогі на г.п. Радашковічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

## Мінскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000318 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Апчак | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000319 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Азярцо | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000320 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Анопаль | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000321 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Астрашыцкі Гарадок | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000322 | Брацкая магіла | 1919, 1944 гады | в. Бальшавік | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000323 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Гатава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Е000324 | Гістарычны цэнтр г. Заслаўе: будынкі і збудаванні, планіровачная структура і ландшафт на тэрыторыі, абмежаванай перакрыжаваннем вул. Бялова з каналам Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, уздоўж правага боку гэтага канала, левым беразе р. Княгінька, уздоўж чыгункі да моста на аўтамабільнай дарозе Заслаўе – Ракаў, па прамой да забудовы на беразе р. Чарніца, па правым беразе ракі, уздоўж правага боку канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы да вул. Бялова | X–XVIII стагоддзі | г. Заслаўе | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |



На падставе археалагічных даследаванняў высветлена, што ў X ст. на правым беразе Свіслачы (у межах сучасных вуліц Савец-кай, Луначарскага і Паштовай) існавала неўмацаванае паселішча, населенае пераважна крывічамі. У сярэдзіне X ст. на процілеглым левым беразе Свіслачы заснаваны пагост – неўмацаваны велікакняжацкі адміністрацыйна-гаспадарчы пункт. Каля 985 г. на правым беразе Свіслачы, за 1 км на паўднёвы захад ад паселішча ўзнікла ўмацаванае паселішча «Замэчак». Да канца XI ст. тэрыторыя неўмацаванага паселішча павялічылася да 8–9,5 га. Горад меў разгрупаваную планіровачную структуру – ваенна-адміністрацыйны цэнтр быў адарваны ад пасада. Дарогі, што злучалі паселішча, гарадзішча «Замэчак» і курганныя могільнікі сталі асновай старажытнай вулічнай сеткі, якая з-за складанага рэльефу аказалася вельмі ўстойлівай. У канцы XI ст. на тэрыторыі правабярэжнага паселішча ўзведзены дзядзінец, пасля чаго гарадзішча «Замэчак» было пакінута насельніцтвам. Заслаўе набыло тыповую для тагачасных усходне-славянскіх гарадоў планіровачную структуру: дзядзінец і пасад. У XII – 1-й палове XIII ст. тэрыторыя горада павялічылася да 12 га. На яго паўднёвай ускраіне знаходзіліся могілкі. У 2-й палове XIII ст. горад быў спалены, пачаўся яго заняпад. Насельніцтва сканцэнтравалася на дзядзінцы, пасад быў заселены часткова, яго левабярэжную частку насельніцтва пакінула. З канца XV – пачатку XVI стст. адбываецца новы росквіт горада. Больш шчыльнай стала забудова пасада, пашырылася яго тэрыторыя. Цэнтрам планіровачнай структуры горада з XVI ст. была рынечная плошча. На пачатку XVII ст. непадалёк ад яе пабудаваны драўляныя Спаса-Праабражэнская царква (1619 г. ) і касцёл Дзевы Марыі (1626 г., у 1774–1779 гг. на яго месцы збудаваны мураваны). У XVII ст. пабудаваны маёнтак Заслаўе – загарадная рэзідэнцыя ўладальнікаў горада.



У летапісах Заслаўе ўпамінаецца ў 1127 г. (Ізяслаўль, Жеславль, Жаславль) у сувязі з тым, што горад быў абложаны шматлікімі войскамі, накіраванымі кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам. Аднак Заслаўе існаваў задоўга да гэтага ўпамінання, аб чым сведчыць летапіснае паданне, якое апавядае пра драматычныя падзеі X ст., звязаныя з Рагнедай і яе сынам Ізяславам, і называе заснавальнікам горада кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Верагодна, з пачатку XII ст. горад быў цэнтрам Ізяслаўскага ўдзельнага княства Полацкай зямлі. У сярэдзіне XII ст. горад і княства сталі аб'ектам барацьбы паміж полацкім і менскім князямі. Верагодна, у канцы XIII ст. Заслаўе ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага. З 1345 г. Заслаўе – прыватнаўласніцкі горад. Першым яго ўладальнікам быў князь Яўнут Гедымінавіч, нашчадкі якога зваліся князямі Заслаўскімі. У 1433 г. горад спалены войскамі князя Свідрыгайлы. З 1539 г. Заслаўе належала адной з галін роду Глябовічаў. З 1569 г. у складзе Менскага павета. З 1678 г. горадам валодалі Сапегі, з 1753 г. – Пшаздзецкія. У 1793 г. у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай горад увайшоў у склад Расійскай імперыі.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000325 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Заслаўе, вул. Вакзальная, 5 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000326 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Заслаўе, вул. Вакзальная, 7 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000327 | Будынак | 1933 год | г. Заслаўе, вул. Вялікая, 25 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000328 | Касцёл Св. Марыі | XVIII стагоддзе | г. Заслаўе, вул. Рынычная, 1 | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000329 | Фрагменты будынка | канец XIX стагоддзя | г. Заслаўе, вул. Паштовая, 11 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000330 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Заслаўе, вул. Рабочая, 18 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000331 | Будынак | 1912–1914 гады | г. Заслаўе, вул. Савецкая, 34 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000332 | Будынак | 1911–1914 гады | г. Заслаўе, вул. Савецкая, 36 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000333 | Будынак | 1927 год | г. Заслаўе, вул. Савецкая, 45 | 3 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000334 | Музеефікаваныя аб'екты энаграфічных комплексаў «Млын» і «Кузня»:<br>паравы млын<br>дом завознікаў<br>свіран<br>кузня | пачатак XX стагоддзя | г. Заслаўе, зав. Савецкі | 2 | 31.03.1994 № 6 | 14.05.2007 № 578 |









У 1908 г. у Кіеве пачаў выходзіць часопіс «Мельнік», які не толькі інфармаваў чытача аб мукамольнай справе, але прапаноўваў пасрэдніцкія паслугі ў аказанні дапамогі па будаўніцтву мукамольных прадпрыемстваў. Гэта ў пэўнай ступені актывізавала будаўніцтва млыноў у Мінскай губерні.



7 ліпеня 1910 г. за № 736-280 Мінскае губернскае праўленне выдала дазвол на будаўніцтва паравога млына жыхару Заслаўя Капітону Іасонаву Міхедка-Савіцкаму. Побач з млыном былі пабудаваны дом млынара і дом завознікаў. Справа ад уваходу са знадворнага боку быў зроблены навес, пад якім знаходзілася цыркулярка для пілавання дошак. Увесь механізм прыводзіўся ў рух паравой машынай, устаноўленай стацыянарна ў машынным аддзяленні. Дровы для топкі паравой машыны складвалі перад млыном.

Млын – двухаб'ёмная інжынерная пабудова. Складаецца з асноўнага трохпавярховага аб'ёму і прыбудаванага да яго аднапавярховага трысцена – машыннага аддзялення. Перакрыцці першага і другога паверхаў дашчаныя па бэльках. Лесвіца на верхнія паверхі размешчана злева ад увахода. На першым паверсе зроблены тры светлавыя праёмы, аконны праём у пакойчык для гарцавага збору, праём для перадачы вярчэння на цыркулярку і два дзвярныя праёмы – уваходныя двухстворкавыя дзверы і аднастворкавыя дзверы ў машыннае аддзяленне. На другім паверсе зроблены тры светлавыя аконныя праёмы і адзін праём у машыннае аддзяленне. На паддашшы былі два аконныя праёмы, па аднаму ў кожным франтоне.

Мукамольны механізм млына ў кінематычнай паслядоўнасці размешчаны на трох паверхах: загрузка зерня адбываецца на паддашшы, памол на другім паверсе і гатовая мука – на першым. Пад'ём мяхоў з зернем на трэці паверх адбываўся з дапамогай механічнага ліфта.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 611Г000335 | Спаса-Праабражэнская царква (былы кальвінскі збор) | другая палова XVI – пачатак XVII стагоддзя | г. Заслаўе, вул. Замкавая, 6 | 1 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |





Заслаўскі храм, сёння вядомы як Спаса-Праабражэнская царква, адзін з найбольш старажытных помнікаў архітэктуры Заслаўя, які па праву стаў сімвалам горада. Першапачаткова быў узведзены як пратэстанцкі храм, або кальвінскі збор, у 2-й палове XVI ст. Заснаваў храм тагачасны ўладальнік Заслаўя Ян Глябовіч.

Кальвінскі збор размяшчаўся на тэрыторыі ўмацаванага бастыённага замка. На думку даследчыкаў, храму таксама надавалася абарончае значэнне і, верагодна, па ўсім яго перыметры ў верхняй частцы сцен былі байніцы. Уяўляў сабой бесслуповы, безапсідны, прамавугольны ў плане храм. Меў інтэр'ер зальнага характару без алтарнай апсіды, бо ў рэфарматарскім храме не прадугледжвалася месца для алтара і іканастаса.

Вядома, што Ян Глябовіч запрасіў у Заслаўе выдатнага дзеяча беларускай рэфармацыі, філосафа, асветніка і гуманіста Сымона Буднага. У 1572 г. Будны пераехаў сюды, нейкі час ён жыў у Заслаўі, прапаведаваў у рэфарматарскай абшчыне. Прыязджалі сюды вучоныя з іншых краін Еўропы. Пры кальвінскім зборы існавала школа, дзе маглі вучыцца дзеці розных саслоўяў.

Пры сыне Я. Глябовіча Мікалаю кальвінскі збор прыстасавалі пад касцёл. Затым новыя ўладальнікі Заслаўя Крысціна і Казімір Сапегі, заснаваўшы тут у 1676 г. дамініканскі кляштар, перадалі ордэну і храм.

У гэты час былы кальвінскі збор часткова перабудоўваецца: з заходняга боку да храма была прыбудавана вежа і рэканструяваны фасады. У верхняй частцы сцен замест байніц зроблены дэкаратыўны атыкавы пояс, які атрымаў шырокае распаўсюджанне ў архітэктуры рэнесансу на Беларусі. Аб гэтых перабудовах сведчыць рознахарактарная апрацоўка асобных частак фасадаў і неаднолькавая таўшчыня сцен. Даследчыкі датуюць перабудову былога кальвінскага збора 1678 г.

У 1833 г. будынак скасаванага дамініканскага касцёла быў перададзены уніяцкай царкве. Відаць, у памяць аб раней існаваўшай у Заслаўі драўлянай уніяцкай Спаса-Праабражэнскай царкве храм быў асвячоны пад такім жа імем. Пасля скасавання уніі на Полацкім саборы ў 1839 г. царква была перададзена праваслаўнай канфесіі і ўвайшла ў склад Мінскай епархіі.

Пачынаючы з 1839 г. святар царквы хадайнічаў аб тэрміновым яе рамонце. Толькі ў 1864–1865 гг. Праабражэнская царква ў Заслаўі нарэшце была капітальна адрамантавана. Царква дзейнічала да сярэдзіны 1930-х гг. Пасля ў даваенны перыяд тут знаходзіўся мучны склад. У гады Вялікай Айчыннай вайны часткова была пашкоджана. У 1968–1972 гг. рэстаўрыравана і прыстасавана пад музей рамёстваў і народных промыслаў. Уваходзіць у гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе». У 1980-я гг. вернута праваслаўным. Пасля пажару 1996 г. рэстаўрыравана. Помнік абарончa-культавай архітэктуры рэнесансу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000336 | Гарадзішча «Вал» | X–XVIII стагоддзі | г. Заслаўе, на паўночнай ускраіне горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000337 | Гарадзішча «Замэчак» | другая палова X –XI стагоддзе | г. Заслаўе, вул. Мінская | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000338 | Курганны могільнік | другая палова X – пачатак XII стагоддзя | г. Заслаўе, 0,9 км на паўночны ўсход ад гарадзішча «Вал» | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000339 | Курганны могільнік | другая палова X –XI стагоддзе | г. Заслаўе, 1,6 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча «Замэчак» | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000340 | Курганны могільнік | канец X–XI стагоддзе | г. Заслаўе, 0,25 км на паўночны захад ад гарадзішча «Замэчак» | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000341 | Курганны могільнік | X – першая палова XI стагоддзя | г. Заслаўе, паўднёвая частка горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000342 | Курганны могільнік | канец X – XI стагоддзе | г. Заслаўе, 1,8 км на паўднёвы захад ад цэнтра горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000343 | Курганны могільнік | канец X – першая палова XII стагоддзя | г. Заслаўе, 0,4–0,5 км на паўночны захад ад гарадзішча «Вал», на левым беразе Вілейска-Мінскай воднай сістэмы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000344 | Курганны могільнік | X–XI стагоддзі | г. Заслаўе, 1,5 км на паўднёвы захад ад гарадзішча «Замэчак» | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000345 | Курганны могільнік | X–XI стагоддзі | г. Заслаўе, 1 км ад гарадзішча «Замэчак» | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000346 | Курганны могільнік | другая палова X – XI стагоддзе | г. Заслаўе, 2 км на поўдзень ад гарадзішча «Замэчак» | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000347 | Брацкая магіла | 1941 год | г. Заслаўе, вул. Вялікая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000348 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Байдакі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000349 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Васілеўшчына, 0,4 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000350 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Вялікая Барздынь, 0,4 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000351 | Гарадзішча | VII стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Банцараўшчына, на левым беразе р. Свіслач | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000352 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Буды, 0,1 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000353 | Гарадзішча | IV стагоддзе да н.э. – IV стагоддзе н.э. | в. Дворышча, 0,2 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000354 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Дзедаўка, 1 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000355 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Дуброва, 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000356 | Гарадзішча | I–IV стагоддзі | в. Збаравічы, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000357 | Гарадзішча | X–XI, XVII–XIX стагоддзі | в. Гарадзішча, на правым беразе р. Менка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000358 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Грабёнка, 0,2 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000359 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Кайкава, 1,3 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 613Г000360 | Фрагменты былой сядзібы «Ігнацічы»:<br>сядзібны дом<br>флігель<br>брама<br>кармацэх<br>свіран<br>сіласная вежа<br>фрагменты парку | канец XIX–<br>пачатак<br>XX стагоддзя | в. Калініна | 3 | 27.10.2005<br>№ 113 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000361 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Каралёў Стан | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000362 | Фрагменты былой сядзібы С.Прушынскага:<br>тэрыторыя былога парку<br>тэрыторыя параднага двара<br>будынак свірна | апошняя чвэрць<br>XVIII стагоддзя | в. Каралішчавічы | 3 | 16.03.1994<br>№ 5 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 611Д000363 | Месца загубы ахвяр палітычных рэпрэсій | 1930–1940-я<br>гады | урочышча Курапаты | 1 | 30.11.1993<br>№ 1 | 14.05.2007<br>№ 578 |





Лясны масіў на паўночнай ускраіне Мінска, злева ад Лагойскай шашы. Пры правядзенні земляных работ у 1988 г. тут знойдзены астанкі вялікай колькасці людзей. На ўзвышшы пакладзены вялікі валун з мемарыяльнай плітой.

| 613В000364 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | IV стагоддзе<br>да н.э. –<br>IV стагоддзе н.э. | в. Лабэншчына,<br>0,4 км на захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000365 | Фартыфікацыйныя збудаванні, аб'яднаныя ў гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна» | 1932–1939 гады<br>2000-я гады | каля в. Лашаны | 3 | 28.07.2005<br>№ 111 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000366 | Гарадзішча | VI стагоддзе<br>да н.э. – VIII<br>стагоддзе н.э. | в. Міханавічы,<br>1 км на поўнач ад вёскі,<br>на беразе р. Свіслач | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000367 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Міханавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000368 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Нялідавічы, 0,65 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000369 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Падгор'е | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000370 | Палацава-паркавы комплекс:<br>палац<br>гаспадарчыя пабудовы<br>парк | <br>другая палова XVIII стагоддзя<br>1851, 1872 год<br>XIX стагоддзе | в. Прылукі | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |





Фарміраванне сядзібы пачалося ў 2-й палове XVIII ст. на месцы праваслаўнага манастыра, які існаваў тут да 1740 г. Сядзіба мае складаную гісторыю. Вядома, што Прылукі з'яўляліся вотчынай Агінскіх. Ганна Сцяшкевіч з роду Агінскіх заснавала тут праваслаўны манастыр. Затым уладальнікамі маёнтка сталі Іваноўскія. У 1-й палове XIX ст. маёнтак у якасці пасагу Людвікі Іваноўскай перайшоў Францішку Ашторпу, а ў 1851 г. зноў як пасаг перайшоў у валоданне вядомаму аграному Отану Горвату, які пабудаваў неагатычны палац з аранжарэяй і вежавым гадзіннікам. У 1868 г. палац часткова згарэў.

У 1872 г. маёнтак Прылукі набыў граф Эмерык Гутэн-Чапскі, які аднавіў будынак палаца ў выглядзе кампактнага прамавугольнага ў плане двухпавярховага з нізкім цокалем збудавання ў стылі несапраўднай готыкі. Галоўны фасад вылучаны цэнтральным трохпавярховым рызалітам, гранёным эркерам на паркавым баку і чатырма шматграннымі вуглавымі вежачкамі, завершанымі зубцамі. У цэнтральным рызаліце са спічастымі праёмамі на двух узроўнях размешчана лоджыя.



Пасля 1886 г. да паўднёвага тарцовага фасада прыбудаваны аднапавярховы аб'ём са столовай і аранжарэяй, да якога пазней прыбудавалі двухпавярховы. Да паўночнага фасада далучаны трохпавярховы вежападобны аб'ём з нізкім шатровым дахам.

Палац быў значна пашкоджаны ў час Вялікай Айчыннай вайны, у 1950-я гг. быў адноўлены за выключэннем разбуранай трох'яруснай вежы з гадзіннікам перад галоўным фасадам, пабудаванай у 1-й палове XIX ст.

Парк у Прылуках – адзін са старэйшых у Беларусі, закладзены ў 2-й палове XVIII ст. Належыць да мяшанага рэгулярна-пейзажнага тыпу, займае плошчу каля 4,5 га. Падзелены на дзве часткі: італьянскі сад перад паркавым фасадам; перад палацам сфарміраваны партэр з традыцыйнай клумбай і вялікай агавай у цэнтры. Партэр быў фланкіраваны адзіночнымі дрэвамі (клён вастралісты, лістоўніца еўрапейская) і дэкарыраваны штамбавымі ружамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000371 | Царква | 1863–1865 гады | в. Прылукі | 3 | 30.05.2000 № 59 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000372 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Ратамка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000373 | Касцёл | XIX стагоддзе | в. Раўбічы | 3 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000374 | Брацкія магілы | 1917, 1944 гады | в. Самахвалавічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000375 | Сядзібна-паркавы комплекс:<br>сядзібны дом<br>флігелі<br>гаспадарчыя пабудовы<br>парк | другая палова XVIII стагоддзя | в. Сёмкава | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Сёмкаўскі маёнтак часта мяняў гаспадароў. Вядома, што ў сярэдзіне XVII ст. ён належаў навагрудскаму кашталяну Багдану Стацкевічу. Ён пабудаваў у Сёмкаве драўляны палац: вялікае аднапавярховае прамавугольнае ў плане збудаванне з высокай двухпавярховай вежай у цэнтры, накрытай шатровым дахам. Па суседству з палацам знаходзіўся дом эканома і гаспадарчыя пабудовы (пякарня, кухня, стайня, свірны і г. д.). Па перыметры рэзідэнцыя была абнесена драўлянай агароджай з вялікімі варотамі з боку вёскі. Магчыма, Стацкевіч не вельмі даражыў сваім маёнткам у Сёмкаве і ў хуткім часе прадаў яго знакамітым Сапегам.

У 1755 г. Міхал Антоній Сапега маёнтак падарыў сябру Адаму Хмары, які акрамя Сёмкава і Сёмкава Гарадка набыў у Сапегаў яшчэ суседні фальварак Зацань і пачаў стварэнне шыкоўнай загараднай рэзідэнцыі ў Сёмкаве. Верагодна, што сядзіба будавалася паводле праекта знакамітага італьянца Карла Спампані, які ў той час кіраваў будаўніцтвам ці рэканструкцыяй шэрага вядомых магнацкіх палацаў на тэрыторыі Беларусі.

У адпаведнасці з часам рэзідэнцыя будавалася ў пераходным ад барока да класіцызму архітэктурным стылі і мела традыцыйную планіроўку. Асноўны корпус быў прамавугольны ў плане, аднапавярховы, накрыты складаным ламаным дахам з люкарнамі. На паддашшы былі зроблены жылыя пакоі. Да тарцоў асноўнага корпуса прымыкалі невялікія квадратныя прыбудовы з плоскімі дахамі-тэрасамі, на якія былі выхады з мансарднага паверха цэнтральнага корпуса. Цэнтральная частка галоўнага фасада акцэнтавалася невялікім рызалітам з трохвугольным франтонам. Рызаліт быў аздоблены скульптурамі і чатырма лапаткамі. З тыльнага боку рызаліту адпавядаў паўкруглы эркер. Дэкор фасадаў быў сціплы.

Палац і бакавыя флігелі стваралі паўадкрыты парадны двор (40х60 м). З боку ўезду двор быў абгароджаны прыгожай ажурнай рашоткай з брамай, пілоны якой упрыгожвалі вазы. Перад палацам у цэнтры быў традыцыйны партэр авальнай формы. Па перыметры партэр быў абсаджаны ліпамі з шарападобнымі кронамі.



Французскі парк, які абкружаў сядзібу, меў рэгулярную планіроўку і быў выцягнуты ўздоўж сваёй галоўнай восі больш як на кіламетр. Да сядзібы вяла ўязная ліпавая алея шырынёй 8 м і даўжынёй каля 600 м.

З паўночнага боку парк шчыльна падыходзіў да берага ручая. З паўднёвага – пазней быў разбіты пейзажны парк і пладовы сад. З гэтага боку да сядзібнага комплексу вяла таполевая алея. Парк быў упрыгожаны рознымі архітэктурнымі малымі формамі: альтанкамі, скульптурамі, аранжарэяй.

У 1802 г. пасля смерці А. Хмары маёнтак перайшоў да брата Іахіма Хмары, затым у 1815 г. – да яго сына Гілярыя, які валодаў сёмкаўскай сядзібай да 1858 г. Сын Гілярыя

Адам Хмара аддаваў перавагу гарадскому ладу жыцця, таму ў 1889 г. прадаў радавую рэзідэнцыю Рамуальду Халкоўскаму. Ён быў апошнім уладальнікам маёнтка Сёмкава.

На працягу XIX ст. у сядзібе ніякіх істотных пераўтварэнняў не адбывалася. Толькі была ўзведзена крытая галерэя, якая аб'яднала левы флігель з галоўным корпусам.

У гады Вялікай Айчыннай вайны палацу былі нанесены значныя пашкоджанні. У пасляваенны перыяд па рашэнню мясцовых улад сядзіба была перададзена школе-інтэрнату. Пры аднаўленні была зменена форма даху на звычайны двухсхільны, правы флігель адкрытай галерэяй злучаны з галоўным корпусам, значна зменена ўнутраная планіроўка. У 1960–1980-я гады на тэрыторыі парку актыўна вяліся будаўнічыя работы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000376 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Сеніца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000377 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | X–XII стагоддзі | в. Скарынічы, 0,3 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000378 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Слабада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000379 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Старое Сяло | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000380 | Пакроўская царква з в. Логнавічы Клецкага раёна Мінскай вобласці | XVIII стагоддзе | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Пакроўская царква з в. Логнавічы адносілася да маёнтка Вялікія Астроўчыцы. Была пабудавана як уніяцкая. За гісторыю свайго існавання царква перабудоўвалася. Натурнае даследаванне помніка паказала, што бабінец з вежачкай прыбудаваны пазней, а ў месцы злучэння апсіды і нефа была сакрысцея. Першапачаткова царква ўяўляла сабой падоўжную кампазіцыю нефа і апсіды з прыбудовай збоку рызніцы. Помнік драўлянай народнай архітэктуры.

У плане цэнтральны аб'ём уяўляе сабой квадрат (8,2х 8,2 м). Гэта прапорцыя пераходзіць з плана на фасад: фасадная сцяна зруба і шчыт упісваюцца ў квадрат з бокам трохі большым за 8 м, а агульная вышыня царквы (да вастрыя цыбуліны) атрымліваецца пры падваенні стараны квадрата.

Раней побач з Пакроўскай царквой стаяла званіца. Пра яе вонкавы выгляд можна меркаваць па карціне невядомага мастака 1930-х гг.

Вядома, што ў 1866 г. царква рамантавалася, бо да таго часу дах быў у дрэнным стане. Апошні рамонт адбываўся ў 1920-я гг. Пакроўская царква дзейнічала да 1930-х гг. У 1935 г. служба была перанесена ў Дзіянісійскую царкву ў мястэчка Заастравечча. Тады ж быў разабраны іканастас і абразы перададзены ў іншыя цэрквы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000381 | Грамадскі свіран з в. Касарычы Глускага раёна Магілёўскай вобласці | пачатак XIX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Па планіроўцы свіран адносіцца да тыпу магазінаў са скразным праездам. Два ярусы бэлек злучаюць два працяглыя зрубныя блокі і служаць апорнай сістэмай для кроквaў чатырохсхільнага даху з заломам у ніжняй частцы. Зруб пастаўлены на стужкавы падмурак, падоўжныя бакі якога загнуты ўверх. У пабудове наяўныя як архаічныя рысы народнага дойлідства (спосаб рубкі вугла са схаваным шыпам, «у ахрапку», гідраізаляцыя з бяросты), так і стылёвыя элементы, запазычаныя з мураванай архітэктуры (двухступеньчаты карніз, дробнапрафіляваныя накладкі, ашаляваныя вароты, залом даху).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000382 | Школа з в. Калодчына Вілейскага раёна Мінскай вобласці | першая палова XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Школа з'яўляецца тыповым збудаваннем сістэмы пачатковага вясковага навучання. Будынак невялікі, прамавугольны ў плане, з вальмавым дахам, накрытым дранкай. Цокаль з бутавага каменю. Сцены неашаляваныя, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Уваход вырашаны невялікім ганкам з навесам. Унутры драўлянымі сценамі падзелены на сенцы, класны пакой і кватэру настаўніцы. Кватэра складалася са спальні, залы і кухні.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000383 | Карчма з в. Хвоева Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці | XIX стагоддзе | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Карчма была пабудавана каля дарогі Сноў – Савічы прыкладна ў сярэдзіне XIX ст. У канцы XIX – пачатку XX ст. карчму арандавала ў мясцовага пана яўрэйская сям'я.

Зрубная пабудова прамавугольная ў плане са складанай унутранай планіроўкай: сені, гасцявы пакой, кухня, падсобнае памяшканне, шынок. Бярвёны зруба часаныя на два канты. Злучэнне вуглоў «у чашку» з астаткам. Дах двухсхільны, накрыты чаротам. Да галоўнага ўваходу вядзе каменны ганак на чатыры прыступкі і з навесам на двух слупах. Прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000384 | Хата з в. Ісерна Слуцкага раёна Мінскай вобласці | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |

З'яўляецца прыкладам лінейнай (пагоннай) забудовы на пачатковым этапе яе развіцця. Трохкамерная зрубная пабудова (хата + сенцы + клець). Хата пастаўлена без падмурка, замест яго – ніжні вянок з дубу. Страха двухсхільная, накрытая саломай.



Франтон вынесены наперад, вертыкальна ашаляваны. У хаце справа ад уваходу печ на драўляным падрубе. Сенцы ўлетку маглі выкарыстоўваць як жылое памяшканне.

Клець прызначана для захоўвання прадуктаў і вопраткі і размешчана на двух узроўнях. Другі ўзровень – вышкі – навісае над сенцамі. Над вышкамі зроблена дадатковая скляпеністая страха «закот» з бярвёнаў, пакладзеных шчыльна ў выглядзе аркі. Столь у хаце з дошак на папярочных бэльках. У канструкцыі хаты шмат архаічных элементаў: кладка ў зрубе сцен драчкай уверх.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000385 | Хлеў з в. Солан Старадарожскага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Хлеў быў пабудаваны селянінам Аляксеем Кадушкіным. У асобнай загарадцы злева ад уваходу стаяў конь, справа захоўвалася неабмалочанае жыта. Прамежак пасярэдзіне хлява выкарыстоўваўся як ток. У 1928 г. унутраная планіроўка хлява была зменена. Злева ад уваходу, дзе раней стаяў конь, зроблены загарадкі для каровы і парасят, справа – для цяляці і саломы. У 1934 г. заменена саламяная страха. У 1956 г. хлеў накрыты гонтавым дахам. Затым у пачатку 1980-х гг. пабудову накрылі толем.

Хлеў уяўляе зрубную пабудову, прамавугольную ў плане. Падмурак каменны. Зруб з кругляка, вугал «у чашку» з астаткам. Задняя падоўжная сцяна мае камбінаваную вяночна-слупавую канструкцыю. Страха двухсхільная, накрыта саломай, мае кроквенную сістэму.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000386 | Гумно з в. Лучнікі Слуцкага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя, рэканструкцыя 1986 года | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Васьміграннны ў плане зруб з дваімі варотамі і вуглавым праездам. Накрыты высокім конусападобным саламяным дахам, які трымае каркасная канструкцыя на чатырох слупах, злучаных доўгімі бэлькамі. На іх стаяць «дзядкі», звязаныя цэнтральнай шлегай – асновай вільчыка. На шлегу навешаны жэрдкі з крукамі, ніжнія канцы якіх абапіраюцца на верхні вянок сцен. Страха накрыта чаротам. Уязныя вароты дашчаныя з дзвюх палавін. Уздоўж сцен – застаронкі з дыляў для неабмалочаных снапоў, паміж імі ток – рабочая частка гумна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000387 | Сядзіба з в. Агароднікі Слуцкага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |





Двор быў пабудаваны Аляксеем Самановічам у канцы XIX – пачатку XX ст.

Сядзібны комплекс складаецца з пагоннага двара: хата – сені – клець – паветка – прыістопка – істопка.

Хата – зрубная пабудова, рубленая з бруса ў просты вугал з астаткам. Столь дашчаная, падлога земляная, падмурак штандарны.

Сені – памяшканне, утворанае дзвюма сценкамі з кругляка, закінутага ў шулы. Столь суцэльная, дашчаная. Падлога земляная.

Клець – зрубная пабудова, рубленая з бярвёнаў у просты вугал з астаткам. Перакрыцце скляпеністае з закотам. Закот пакладзены не суцэльным накатам, а з прамежкамі. Столь па папярочных бэльках. Дах на козлах. Падлога з дошак.

Паветка ўтворана тарцовымі сценамі сенечак і клеці і сценкай, закінутай у шулы паміж імі. Дах двухсхільны. Прагон страхі абапіраецца на сценку клеці, з другога боку на саху.

Прыістопка – трысцен, прыбудаваны да істопкі праз шулы. Рублены з кругляка, вугал просты з астаткам. Падлога земляная. Столь дашчаная. Падмурак мураваны.

Істопка зрублена з круглых бярвёнаў у просты вугал з астаткам. Падлога земляная. Столь дашчаная. Справа ад уваходу маецца ачаг з камянёў для ацяплення. Падмурак мураваны.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000388 | Пагонны двор з в. Садавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |





З'яўляецца прыкладам пагоннай забудовы на канчатковым этапе свайго развіцця: жылыя і шматлікія гаспадарчыя пабудовы выцягнуты на 36 м і знаходзяцца пад агульнай двухсхільнай страхой. Яны ствараюць цэласны ансамбль, які ўражвае аб'ёмным адзінствам і ўпарадкаванасцю пабудоў. Галоўнае звяно мае схему: хата – сені – сенцы – клець – істопка – камора. Жыллё і сумежныя з ім памяшканні ўтвараюць развітую па функцыянальных сувязях планіроўку. Да жылога звяна далучаецца шэраг гаспадарчых памяшканняў для розных відаў свойскай жывёлы, захоўвання інвентару, дроў, сена. Зрубы хаты з абчасаных на два канты бярвёнаў, астатнія памяшканні – з дыляў. Страха мае саламянае пакрыццё. Над шчытом схілы прыкрываюць дошкі – ветраніцы з разьбяным вільчыкам. Шчыт пераходзіць у застрэшак, апорная жэрдка якога ўпрыгожана разьбяным пояском. Інтэр'ер хаты пачынаецца з шырокай пабеленай печы з камінчыкам збоку. Падлога ў хаце глінабітная.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000389 | Сядзіба з в. Заброддзе Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |





Сядзіба пабудавана ў канцы XIX – пачатку XX ст. Належала сям'і Гелены Валяр'янаўны Бець. Адносіцца да пагоннага тыпу, дзе ўсе пабудовы пастаўлены ў адну лінію. На нязначнай адлегласці ад жылых і гаспадарчых пабудоў знаходзіцца гумно. У пачатку XX ст. паралельна асноўнаму звяну насупраць хаты была пабудавана клець.

Жылы дом уяўляе трохкамернае жыллё: хата + сені + варыўня. Пабудова зрубная камбінаванай канструкцыі. Рублена з бярвёнаў з астаткам. Падмуркі з валуноў. Падлога ў сенях і варыўні глінабітная, у хаце з дошак на лагах. Столь з дошак. У сенях столі няма. Страха двухсхільная на кроквах. У хаце чатыры акны, руская печ.

Хлеў зрублены з бярвёнаў з астаткам. Падзелены на адсекі. Дах двухсхільны на паўсошках, абапіраецца на прагон і верхняе бервяно зруба. Столь з жэрдак. Адны вароты.

Клець (свіран) – зрубная пабудова амаль квадратная ў плане з галерэяй на чатырох слупах.

Гумно – пабудова зрубна-камбінаванага тыпу. Пастаўлена на каменях-валунах. Страха на дзвюх парах сох, накрыта саломай. Даўжыня сцен дасягнута шляхам іх нарошчвання праз шулы. Тарцовыя сцены пераходзяць у шчыты з бярвёнаў. Для стварэння неабходнай устойлівасці ў плоскасці шчытоў усталяваны тры вертыкальныя дзядкі, вышэйшы з іх падтрымлівае таксама і канец прагона, на якім трымаюцца ключы з латамі і чаротавым пакрыццём.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000390 | Кузня з в. Клочкава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Невялікая зрубная пабудова, накрытая двухсхільнай цёсавай страхой з вільчыкавым бервяном. Франтон з дыляў, падлога земляная. Мела ўнутры горн са скураным мехам, кавадла, ціскі. Па сценах былі паліцы для інструментаў і вырабаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000391 | Ветраны млын з в. Даматканавічы Клецкага раёна Мінскай вобласці | канец XIX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |

Па звестках мясцовых жыхароў, млын пабудаваны ў пачатку 1880-х гг. у в. Сынгалы (недалёка ад Снова) эканомам мясцовага памешчыка. Прастаяў там 25 гадоў. Затым млын перавезлі ў в. Каменку, у 1937 г. – у Даматканавічы. Дзейнічаў да 1960-х гг.



Млын уяўляе сабой тыповую канструкцыю-казлоўку. Асновай служыць парная крыжавіна (козлы), у якой замацаваны нясучы слуп, зафіксаваны ў вертыкальным становішчы магутнымі падкосамі. Сцены ашаляваныя, дах мае кроквенную канструкцыю, накрыты дранкай. На другім паверсе два аконныя праёмы. Аснову механізма складае гарызантальны вал і вядучае кола. Вал прыводзіцца ў рух дзвюма ўзаемна-перпендыкулярнымі парамі крылаў. Хуткасць вярчэння рэгулюецца тармазной сістэмай.

У 1957 г. былі заменены і ўкарочаны падэшвы, у выніку зменшылася плошча апоры і млын у 1970-я гг. перакуліла ветрам. Быў адрамантаваны, заменены пашкоджаныя дэталі.

Апошні ўладальнік Іван Міхайлавіч Міхлай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000392 | Вяночны двор з в. Будзічы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці | канец XIX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Дакладных звестак аб часе фарміравання двара няма. Па словах старажылаў, пабудаваны ў канцы XIX ст. Аналіз канструкцый паказвае, што раней двор быў трохкамерны (хата + сені + істопка). Пазней былі зроблены яшчэ прыбудовы гаспадарчых будынкаў.

Уяўляе замкнёны комплекс, які складаецца з закрытага двара, утворанага пабудовамі жылога звяна, клецямі і брамамі, і гаспадарчага двара, утвораным хлявамі. Канструкцыя сцен камбінаваная (зрубныя ячэйкі злучаны праз шулы). Хата з бруса, гаспадарчыя будынкі з кругляка. Страха каркасна-прагоннай сістэмы, накрыта саломай.

Жылы дом – зрубная пабудова на падмурку з камянёў. Складаецца з хаты, кухні, сяней, істопкі. Сцены хаты з бруса, іншых памяшканняў з кругляка. Падлога ў хаце з дошак, у сенях – глінабітная, у істопцы – земляная. Вокны без аканіц, з ліштвамі, дэкарыраванымі жалабкамі. Страха двухсхільная, камбінаваная, мае канструкцыю прагоннага тыпу (на ключах і дзядках).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000393 | Вяночны двор з в. Варашылкі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Вёска Варашылкі знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы Мядзельскага раёна, за 6 км на ўсход ад Свіра. Вёска вулічнай планіроўкі з двухбаковай забудовай. У мінулым адносілася да маёнтка Камарова. У пачатку XX ст. у Варашылках налічвалася 45 двароў. Найбольш старыя ўяўлялі сабой вяночныя двары альбо двары прамежкавых форм планіроўкі (Г- і П-падобныя).

Перавезены ў музей вяночны двор належаў Міхаілу Антонавічу Бірчу. Пабудаваны ў пачатку XX ст. Ён уключае жылое звяно, паветку з варотамі на прыгуменне, хлявы, сеннік, клець. Жылое звяно і хлявы ўтвараюць П-падобную забудову, замкнёную з боку вуліцы бярвенчатым замётам з цёсавым навесам, тарцовай сцяной клеці, брамай з веснічамі. Паміж клеццю і хлявом для буйной

жывёлы зроблены жэрдкавы загон. Побач з клеццю знаходзіцца калодзеж-калаўрот. Размяшчэнне клеці на восі сіметрыі забудовы выяўляе ў комплексе рысы трохраднага двара, кампазіцыйна падзеленага на чысты і гаспадарчы двор.

Планіроўка жылога звяна трохкамерная (хата + сені + варыўня). Такая планіроўка характэрна для ўсяго лакальнага раёна.

У пабудовах прыменены традыцыйныя канструкцыйныя вырашэнні дахаў каркасна-прагоннага тыпу. Для пакрыцця дахаў як жылых, так і гаспадарчых будынкаў выкарыстана дранка.

З элементаў дэкору неабходна адзначыць франтон хаты, зроблены з дошак, набітых на каркас «у елачку», пад вільчыкам накладны ўзор салярнай сімволікі. Дошка апорнай бэлькі казырка (застрэшка) упрыгожана ланцужком зубчастай разьбы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000394 | Хутар з в. Цімошкава Міёрскага раёна Віцебскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |




Сядзіба была пабудавана каля 1918 г. Сцяпанам Леанідавічам Пішчуленкам на хутары паблізу в. Цімошкава. Сям'я, якая жыла на хутары, складалася з васьмі чалавек. Сядзіба ўяўляла сабой вялікі хутарскі комплекс, які ўключаў акрамя жылога звяна два свірны чатырохсценныя з паветкай, невялікую клецъ у глыбіні двара, Г-падобны хлеў з супрацьлеглага боку, побач яшчэ адзін хлеў, а за імі т.зв. шопа (збудаванне з жэрдак для захоўвання сена ў летні час). На нязначнай адлегласці ад асноўных будынкаў стаяла лазня, якая палілася па-чорнаму. З другога боку ад дарогі, што злучала хутар з вёскай, быў размешчаны ток з конным манежам. Тут жа пад агульным дахам была асець з печкай і пуня для захоўвання сена.

Да нашага часу захаваліся хата, клець, хлеў, лазня. Хата мае планіроўку істопка – сенцы – хата – сені – хата – веранда. Сенцы і істопка былі прыбудаваны пазней. Планіроўка вылучаецца вялікімі габарытамі памяшканняў. Ва ўсіх памяшканнях дашчаныя падлогі, столі з дошак. Шчыт, карнізы, ліштвы ўпрыгожаны разьбой. На фасадзе з боку дарогі быў балкон, які пазней разабралі. Дах кроквенны, двухсхільны, над сенцамі і істопкай трохсхільны. Накрыты саломай.

Клець у плане блізкая да квадрата. Накрыта чатырохсхільным дахам з навесам над уваходам. Г-падобны хлеў складаецца з пуні, кароўніка, аўчарні і свінарніка. У кароўніку зроблена жэрдкавая столь. Дах кроквенны, накрыты саломай, акрамя свінарніка, накрытага цёсам.

У лазні захавалася печка, палаці і лавы. Падлога была з дошак, пакладзеных на зямлю. Столь нізкая з дошак па папярочных бэльках. Дах кроквенны чатырохсхільны, накрыты саломай. Плота і агароджы на хутары не было. За домам меўся вялікі сад, насупраць клеці за домам – агарод.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000395 | Пуня з в. Ваўкаўшчына Міёрскага раёна Віцебскай вобласці | канец XIX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |

Паводле статыстычных звестак, у пачатку XX ст. у вёсцы Ваўкаўшчына было каля 15 двароў, якія размяшчаліся ўздоўж вуліцы з двух бакоў. Двары былі замкнёныя (вяночныя) і паўзамкнёныя (П-падобныя). Асобна стаялі гумны з адным заездам.

Пуня, перавезеная ў музей, пабудавана В. Вайсковічам. Пасярэдзіне гумна быў зроблены ток, злева асець, па баках – застаронкі



для паасобных культур. Стаяла гумно асобна на адлегласці 200 м ад двара. Двор быў вяночны: хата – сені – варыўня – хлявы – свіран. Свіран стаяў насупраць хаты.

У 1937 г. гумно купіў Мацвей Курыловіч і перавёз на хутар, дзе яно і прастаяла да 1984 г. Выкарыстоўвалася для захоўвання сена і снапоў. У 1960-я гг. перакрылі гонтай, прыбралі застаронкі.

Гумно зрубна-каркаснай канструкцыі, прамавугольнае ў плане. Сцены зруба складзены з круглых бярвёнаў. Папярочныя сцены высокія, прадольныя – нізкія. Каркасная канструкцыя ўтворана з шулаў, стоек, раскосаў і бэлек. Дах накрыты саломай, трымаецца на козлах, якія абапіраюцца на бэлькі ў сценах. Вароты двухстворкавыя дашчаныя. Падмуркі мураваныя. Гумно падзялялася на засекі. Насупраць дзвярэй у гумне быў глінабітны ток. Злева ад яго – сенавал, справа – застаронак для захоўвання снапоў жыта і саломы. Іншыя застаронкі выкарыстоўваліся для захоўвання снапоў ячменю, гароху, лёну, аўса.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000396 | Ветраны млын з в. Янушаўка Мядзельскага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Млын належыць да рэдкага тыпу ветракоў – пальтрак. Гэты тып спалучае ў сабе слуповыя канструкцыі (казловых) млыноў і галандскіх. Знешні выгляд млына нагадвае канструкцыю слуповага, у той час як унутраныя механізмы набліжаны да сістэмы, якія сустракаюцца ў галандскіх.

Пальтракі мелі каркасную канструкцыю сцен, ніжнія бэлькі якіх утваралі квадрат. Будынак стаяў на бутабетоннай аснове. У верхняй частцы асновы мацаваліся металічныя ролькі. Такім чынам пальтрак мог паварочвацца па крузе. Паводле сведчання сучаснікаў, млын з в. Янушаўка паварочваўся пры дапамозе лябёдкі. Раней дзве пары махаў мацаваліся ў навылётных адтулінах гарызантальнага вала клінамі. Вонкавая частка гарызантальнага вала была шматгранная. Пёры махаў рабіліся з цэльнага ствала акоранага дрэва. Да пёраў прыбіваліся рамштукі, а да іх жэрдкі, якія ўтваралі рабочую паверхню махаў. Пасярэдзіне махаў быў здымны шчыт для рэгулявання напору ветру. Акрамя ўнутранага тормазу быў і вонкавы. Для будаўніцтва такіх млыноў выкарыстоўваліся мясцовыя матэрыялы: сасна, дуб, елка, дранка ці салома на пакрыццё, зубцы кола рабілі з грабу, клёну, бярозы, тормаз з вярбы. Жорны – з буйназярністага і дробназярністага граніту.

Сам працэс памолу быў даволі просты. Мех з зернем прывязвалі да вяроўкі, перакінутай праз драўляны блок, замацаваны на верхняй бэльцы млына. На вяроўцы мех падымаўся да ўзроўню прыёмнага латка, зерне ссыпалася ў латок і далей у жорны. Гатовая мука напаўняла мяхі па ссыпному латку.

Выяўлены пад час экспедыцыі 1979 г. У 1980 г. млын перавезены ў музей. У 1995 г. праводзіліся рамонтныя работы, пад час якіх былі дэманціраваны і рэстаўрыраваны гарызантальны вал, махі і апоры з лесвіцай пад гарызантальны вал. Прымаючы пад увагу частыя паломкі махаў, у 2000 г. было вырашана замяніць іх канструкцыю на новую. Таму цяперашняя канструкцыя махаў не адпавядае гістарычнай. З 2001 г. млын экспануецца ў музеі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000397 | Адрына з в. Лявонавічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці | пачатак XX стагоддзя, рэканструкцыя 1986 года | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Адрына – старадаўняя гаспадарчая пабудова для захоўвання неабмалочанай збажыны, саломы, сена, сельскагаспадарчага інвентару. Перш чым пакласці на захоўванне неабмалочанае збожжа, рабілі своеасаблівыя сцены са снапоў па ўсім перыметры з унутранага боку. Першы рад снапоў ставілі камлём на зямлю (ці хворaст) і прывязвалі да жэрдак перакручанай лазовай веткай. Другі рад снапоў прывязвалі да жэрдак вышэй першага і г. д. да самага даху. Такім чынам утваралася сцяна са снапоў, якая закрывала астатнія. Затым снапы ўкладвалі радамі да тока каласамі. Снапы захоўваліся ў адрыне да абмалоту. Абмалот пачынаўся ў верасні і доўжыўся да лютага. Пасля абмалоту ў адрыне захоўвалася салома.

Адрына была пабудавана А. Раманоўскім на ўласнай сядзібе ў в. Лявонавічы. У 1984–1986 гг. была аднаўлена і экспануецца ў музеі. Яе канструкцыйная сістэма – стоечна-бэлечная, якая складаецца з ніжняга і верхняга абвязачных вянцоў і вертыкальных стоек. Сцены жэрдкавыя. Жэрдкі (латы) разрэджана замацаваны да вертыкальных апор у гарызантальным напрамку, а апоры – дыяганальнымі сувязямі (раскосамі), падмурак мураваны, страха чатырохсхільная, вальмавая. «Ключы» замацаваны на падоўжным прагоне, які падтрымліваецца двума парамі «козлаў». Козлы абапіраюцца на папярочныя бэлькі, якія ў сваю чаргу абапіраюцца на стойкі, запушчаныя ў лагі. Накрыта чаротам (камлём уніз) на жэрдкавых латах. Вароты двухстворкавыя, дашчаныя. Уздоўж сцяны насупраць варот зроблены невялікі навес для прасушкі бульбоўніку. Унутраная прастора перагародак не мае. Па цэнтры адрыны выбіта гладкая гліняная пляцоўка – ток для абмалоту збожжа.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000398 | Гумно з в. Кемянцы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Гумно як гаспадарчая пабудова выконвала некалькі функцый: месца для захоўвання неабмалочанага збожжа, месца для абмалоту; часта тут рабілі сенавал ці мякіннік, захоўвалі прылады малацьбы. Канструкцыйнымі асаблівасцямі і знешняй формай гумно адрознівалася ад іншых гаспадарчых пабудоў сялянскага двара. Па-першае, гэта была самая высокая пабудова. Гумно ставілі ў канцы сядзібы.

Гумно належала Івану Казіміравічу Шукелю. Пабудавана ў пачатку 1920-х гг. Казімірам Шукелем. Гаспадарка К. Шукеля была вялікая і моцная. Хата пабудавана па тыповай трохкамернай схеме (хата + сені +варыўня). Двор быў П-падобны ў плане. Раней усе пабудовы былі накрыты саломай. Гумно ў пачатку 1960-х гг. перакрылі гонтай. У застаронках гумна гаспадар захоўваў жыта. Побач з гумном быў ненакрыты манеж. З 1961 па 1981 г. не выкарыстоўвалася.

Уяўляе пабудову зрубна-слупавой канструкцыі. У плане мае прамавугольную форму. Зруб гумна з шасці вянкоў. Зроблены ў просты вугал з астаткам «драчкай» уніз. Зруб стаяў непасрэдна на зямлі, толькі вуглы абапіраліся на валуны. Бярвёны аб'яднаны паміж сабой і ўмацаваны шуламі і лісіцамі. Вароты гумна аднастворкавыя, размешчаны пасярэдзіне бакавой сцяны. Тарцовыя сцены гумна звязаны паміж сабой абвязкай, якая праходзіць праз верх шулаў і на якой ляжаць бэлькі, што трымаюць дзядкі. Страха на дзядках вальмавая, мала звязана са сценамі. Асноўны яе цяжар ляжыць на сохах. Сохі – шулы гумна – стаяць на вялікіх бярвёнах, што пакладзены паралельна бакавым сценам гумна, і гэтыя бярвёны ўтвараюць аснову застаронак. Сістэма застаронак утварае межы тока. Ток знаходзіцца пасярэдзіне гумна. Ён глінабітны. Ёўня знаходзілася справа ад уваходу. Задняя сценка зруба ёўні з'яўлялася тарцовай сцяной гумна. Зверху ёўня была накрыта дошкамі. Печка была збіта з гліны. Стаяла ў левым куце ад уваходу.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000399 | Макавееўская царква і званіца з в. Вялец Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці | XVIII стагоддзе | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Па звестках старажылаў, царква ў в. Вялец была перанесена з в. Буртулеўка ў канцы XIX ст. Царква са званіцай размяшчаліся ў канцы вёскі, вакол царквы былі пасаджаны бярозы.

Першапачаткова складалася з двух аб'ёмаў – алтара і асноўнай часткі. Пазней быў прыбудаваны прытвор і храм набыў кананічную трохчасткавую форму. Царква мела чатырохсхільны дах. У цэнтры заходняга фасада быў аконны праём, які цяпер увайшоў у інтэр'ер.

Апошні рамонт царквы адбыўся ў 1950-я гг. Была заменена кроквенная сістэма і перакрыты новай гонтай дах, зроблены новыя ліштвы, дзверы. У званіцы ў гэты час заменены тры ніжнія вянцы зруба. Каваль з в. Забалаць адрамантаваў над царквой і званіцай крыжы. Вядома, што ў царкве мелася пяць званоў.

Храм дзейнічаў да канца 1950-х гг. Пасля закрыцця царкоўныя рэчы, абразы, кнігі перададзены часткова ў Новапарэцкую царкву, а часткова ў царкву Раства Багародзіцы ў Глыбокім.

Царква са званіцай выяўлены ў час экспедыцыі ў канцы 1960-х гг.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000400 | Спаса-Праабражэнская царква з в. Барань Аршанскага раёна Віцебскай вобласці | пачатак XVIII стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Унікальны помнік драўлянага культавага дойлідства Спаса-Праабражэнская царква вылучаецца сваімі незвычайнымі архітэктурнымі формамі. Аналагаў гэтай царквы не сустракаецца на тэрыторыі Беларусі. Толькі Спаса-Праабражэнская царква ў в. Смаляны (таксама Аршанскі раён) сваёй архітэктурай падобная да Баранскай царквы.

Спаса-Праабражэнская царква была пабудавана ў 1704 г. Гэта дата заснавання царквы ёсць у дакументах па страхаванні забудовы за 1910–1913 гг.

Царква дзейнічала да 1930 г., затым была закрыта, і ў яе памяшканні зроблены клуб. Пры гэтым, натуральна, змянілася ўнутранае ўпрыгажэнне царквы, быў разабраны іканастас. У 1961 г. у будынку былой царквы размясцілі фуражны склад калгаса «Авангард». Праз дваццаць пяць гадоў царква была выратавана – яе перавезлі ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

Аснову архітэктурнай кампазіцыі царквы складае цэнтральны квадратны ў плане высокі зруб з чатырохсхільным дахам, на якім стаіць высокі і вузкі барабан з невялікім купалам. Даўжыня сцяны цэнтральнага зруба 9 м.

Канструкцыя такіх зрубаў, высокіх і квадратных у плане, узнікла ў старажытны час. Храм быў галоўным будынкам сельскага наваколля, таму прымітыўная форма яго не магла задаволіць сучаснікаў. Па сутнасці, канструкцыя цэнтральнага зруба царквы з'яўляецца канструкцыяй гарадской абарончай вежы. У драўлянай архітэктуры ні ў межах Беларусі, ні ў суседніх краінах не захавалася помніка архітэктуры, дзе так арганічна спалучаліся б прыёмы і метады абарончага і культавага дойлідства. У мэтах павелічэння плошчы з трох бакоў вакол цэнтральнага зруба ўзведзены невысокі зруб. Так атрымалася галерэя, якая стварае ніжні ярус будынка. Унутры царквы, у ніжняй частцы цэнтральнага зруба, зроблены вялікія праёмы. Так будаўнікі царквы вырашалі праблему арганічнай цэласнасці ўнутранай прасторы будынка. Закрытая галерэя, якая з трох бакоў ахоплівае храм, была шырока распаўсюджана ў старажытнарускай мураванай архітэктуры.

Але такая канструкцыйная схема царквы аказалася неперспектыўнай. Атрымалася гэта па эстэтычных і ідэалагічных прычынах. Крыху простыя, вуглаватыя формы гэтых цэркваў не маглі вытрымаць канкурэнцыю з узнёслымі формамі храмаў новага тыпу. З сярэдзіны XVII ст. у праваслаўі намячаецца тэндэнцыя вяртання да візантыйскіх канонаў, і новыя цэрквы сталі ўзводзіць пяцікупальнымі.

На Беларусі гэтыя тэндэнцыі ў XVIII ст. яшчэ не сталі вядучымі. І беларускія дойліды традыцыйна ўзводзілі храмы былой канструкцыі. Пра гэта сведчыць Баранская Спаса-Праабражэнская царква.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000401 | Вяночны двор з в. Волева Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Вяночны двор у тыпалагічных адносінах уяўляе замкнёны комплекс з сумяшчэннем функцый чыстага і гаспадарчага двароў.

Першапачаткова сядзіба фарміравалася ў структуры вёскі вулічнага тыпу. У пачатку 1920-х гг. перанесена на хутар, а ў канцы 1930-х гг. – у вёску. Пры некаторых зменах структуры агульны характар аб'ёмна-планіровачнага вырашэння захаваўся. У склад уваходзіў склеп. Па свайму сацыяльна-эканамічнаму патэнцыялу сядзіба адносілася да бядняцкіх гаспадарак.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000402 | Сядзіба з в. Бракава Слабада Чавускага раёна Магілёўскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Перавезеная ў музей сядзіба пабудавана ў 1919 г. Належала братам Савелію і Пятру Мінкавічам Сапегам. У вяночным двары з в. Бракава Слабада прысутнічае шэраг архітэктурна-планіровачных рыс, характэрных для левабярэжнага Прыдняпроўя. Комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў складае чатырохвугольнік, набліжаны да квадрата. Усе пабудовы звязаны паміж сабой.

Парадак размяшчэння пабудоў наступны: да хаты прыбудаваны сенцы, у якіх выдзелена камора. Паралельна хаце размешчаны хлявы, пуня. Перпендыкулярна гэтым дзвюм лініям пабудоў бліжэй да хаты пастаўлена клець. Прамежак паміж клеццю і хатай закрыты замётам, парканам з гарызантальна замкнутых у шулы бярвёнаў. За клеццю ў адзін рад з ёю размешчана паветка, якая злучае клець з пуняй. Паралельна гэтым пабудовам яшчэ адна паветка. Замыкаецца яна брамай. За межы двара вынесены склеп і гумно.

Склеп быў рэканструяваны ў 1988 г. Аднак у 2001 г. у сувязі з разбурэннем падземнай часткі грунтавымі водамі выканана паўторная рэканструкцыя на новым месцы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000403 | Ветраны млын з в. Зелянец Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Паводле звестак мясцовых старажылаў, млын быў пабудаваны ў 1873 г. братамі Марозавымі. Дзейнічаў прыкладна да 1963 г.

Уяўляе сабой шатровы млын на два паставы. На васьміграннным зрубе пастаўлены корпус і паваротны шацёр каркаснай канструкцыі, абшытыя дошкамі ў два слаі. Паварот шатра супраць ветру адбываецца з зямлі пры дапамозе дышла, замацаванага ў шатровай частцы. Чатырохмахавыя крылы замацаваны на гарызантальным вале з вялікім зубчастым колам, размешчаным у шатровай частцы. Тормаз вялікага кола рэгулюецца з зямлі звонку. У корпусе двое дзвярэй, размешчаных насупраць.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000404 | Жылы дом з вул. Вызвалення, 4 у г. Мінску | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |





Жылы дом з вул. Вызвалення з'яўляецца помнікам драўлянай архітэктуры Ракаўскага прадмесця. Гісторыя помніка сведчыць, што ў ім адлюстраваны не толькі рысы драўлянай архітэктуры, характэрныя для былой вул. Уваскрасенскай, але і характэрныя асаблівасці забудовы прадмесцяў XIX – пачатку XX ст.

Натурнае даследаванне помніка было выканана ў 1985 г. у сувязі з разборкай дома і перавозам яго ў музей. Даследаванні паказалі, што веранда прыбудавана пазней, у 1960 г. Планіроўка дома захавалася.

Паводле адміністрацыйна-паліцэйскага падзелу 2-й паловы XIX – пачатку XX ст., участак, на якім быў узведзены дом, знаходзіўся ў 630-м квартале пад № 3 у другой частцы горада. У той час пляц з забудовай належаў Лейбу Гіршавічу Куперу. Акрамя жылога дома на пляцы існавалі хлеў, лядоўня. Плошча пляца складала 121,5 кв. саж.

Паводле дакумента, дом пабудаваны каля 1906–1907 гг. Меў памеры 18x10x5,8 аршын, крыты гонтай. Праект на будаўніцтва жылога дома быў зацверджаны ў 1895 г. Акрамя дома на пляцы меркавалася пабудаваць яшчэ драўляны флігель. Па праекце дом складаўся з дзвюх жылых чатырохпакаёвых кватэр. Уваходы былі з боку двара праз зблакіраваную веранду і кухню. У працэсе будаўніцтва адбыліся нязначныя адхіленні ад праекта.

Аналіз планаў пабудовы за 1895, 1948 і 1984 гг. сведчыць, што за перыяд існавання планіровачная структура не мела значных пераробак.

Сцены рублены ў чысты вугал з зашыўкай дэкаратыўнымі накладкамі і карнізам. Бярвёны абчасаныя на два канты. Пастаўлены на бутабетонны падмурак. Капітальнай сцяной падзелены на дзве часткі. Падлога двайная на лагах. Столь таксама двухслойная. Дах кроквенны, апошнім часам быў накрыты дранкай. Галоўны фасад падзелены прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з прапіленым і вытачаным дэкорам, з філянговымі аканіцамі. На дваровым фасадзе зроблена веранда з ганкам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000405 | Капліца з в. Каралеўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці | пачатак XX стагоддзя | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Капліца пастаўлена на невысокім бутавым падмурку. Зруб нефа і алтара зроблены з бруса ў чысты вугал. Прытвор утвораны двума магутнымі слупамі-калонамі, на якія абапіраюцца хоры. Прытвор ашаляваны, сцены нефа і алтара на ўсю вышыню ашаляваныя. У нефе два акны з тоўстымі касякамі. Верхні касяк меў дугападобны падцёс. У бакавых сценах алтара зроблены два рамбічныя акенцы. Дах над прытворам, нефам і алтаром меў кроквенную сістэму, якая абапіралася на верхняе бервяно. Над нефам кроквы ўтваралі шацёр, які пераходзіў у канічную вежу. Дах быў накрыты гонтай.

Планіроўка і архітэктурна-канструкцыйныя вырашэнні нясуць у сабе стылістычныя рысы драўлянай архітэктуры уніяцкіх цэркваў перыяду позняга барока. На жаль, у далейшым такія прыёмы і вырашэнні не атрымалі развіцця, бо з развіццём стылю класіцызму пачалі распаўсюджвацца «ўзорныя» праекты. Таму капліца з в. Каралеўцы з'яўляецца каштоўным і унікальным помнікам драўлянага дойлідства.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000406 | Будынак чыгуначнага вакзала станцыі Уша з в. Краснае Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці | XIX стагоддзе | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |



Уяўляе сабой прамавугольны ў плане драўляны будынак пад двухсхільным дахам. У аздабленні фасадаў выкарыстаны разны дэкор, дэкаратыўна апрацаваныя кранштэйны, ліштвы. Будынак пастаўлены на невысокі цокаль. Сцены зруба ашаляваныя. Унутраная планіроўка зменена, дэкор у інтэр'ерах адсутнічае.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000407 | Мячэць з в. Даўбучкі Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці | 1735 год | в. Азярцо, тэрыторыя Установы «Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту» | 2 | 25.02.2000 № 57 | 14.05.2007 № 578 |

З'яўленне татараў на Беларусі адносіцца да перыяду пачатковай гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Гедымін, а затым Кейстут і Альгерд не раз запрашалі татараў на службу. Асноўным арганізатарам татарскага асадніцтва лічыцца Вітаўт. Казімір Ягелончык, Аляксандр, Жыгімонт I пашыралі татарскую калонію, умацоўвалі яе матэрыяльную аснову за кошт раздачы зямель. У 1561 і 1568 гг. Жыгімонт Аўгуст даў татарам прывілей на шляхецтва.



У месцах кампактнага пражывання татараў будаваліся мячэці. Мячэць, якая захавалася ў в. Даўбучкі, першапачаткова была пабудавана ў XVIII ст. у в. Сялец Беніцкай гміны Маладзечанскага павета. У пачатку XIX ст. перавезена ў Даўбучкі. Вядома, што на працягу гісторыі існавання мячэць значных перабудоў не мела, змянялася толькі аддзелка (першапачаткова была пабелена, швы замазаны глінай). Асноўны аб'ём прамавугольны ў плане з прырубленай пяціграннай апсідай. У мужчынскай палове знаходзіўся мумібір (хоры). Дах быў шатровы з купальным завяршэннем. Купал быў накрыты дранкай і пафарбаваны ў чырвоны колер (сурыкам). Мінарэт уяўляў сабой двух'яруснае каркаснае збудаванне, перакрытае шатровым дахам.

Наяўнасць квадратнага ў плане зруба з купалам, галерэі, праёмаў з элементамі арак, вуглавое размяшчэнне мінарэта набліжаюць мячэць у Даўбучках да традыцый візантыйскага дойлідства. Купал, блізкі да падкowападобнай аркі, разьба на калонах, арачныя раскосы, вырашэнне міхраба і мумібіра ўяўлюць элементы традыцыйнай мусульманскай архітэктуры. Да традыцый беларускага драўлянага дойлідства трэба аднесці мінарэт, падобны на званіцу царквы ці касцёла, канструкцыйныя элементы, запаўненне праёмаў.

Асновай купала з'яўляецца вертыкальны слуп, які абапіраўся на бэлечную сістэму. На слуп і верхнія бярвёны (абвязку) абапіраліся кроквы. Абвязка ўтварала шматвугольнік з 12 гранямі. Такім чынам, купал быў не функцыянальным элементам, а толькі формай, унутры была плоская суцэльная столь.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000408 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Стукацічы,<br>500 м на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000409 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Траскоўшчына | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000410 | Курганны могільнік | X–XII стагоддзі | в. Цімошкі,<br>2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000411 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Шчомысліца | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000412 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Юзуфова | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Мядзельскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000413 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1941–1944 гады | г. Мядзел, вул. 1 Мая | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 612Г000414 | Комплекс былога кляштара кармелітаў:<br>касцёл Маці Божай<br>жылы дом<br>званіца | 1754 год | г. Мядзел, на беразе воз. Мястра | 2 | 28.02.2002<br>№ 71 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Касцёл пабудаваны ў 1754 г. з цэглы. Фундатар кляштара ўладальнік мястэчка Антон Кошчыц прывёз з Рыма мошчы Св. Юстына (перанесены ў касцёл в. Мосар Глыбоцкага раёна), што зрабіла кляштар кармелітаў босых месцам паломніцтва. Кляштар скасаваны ў 1840 г. Касцёл у 1866 г. пераасвячоны ў праваслаўную царкву. У 1920 г. вернуты каталікам. У 1945 г. закрыты. У 1989 г. зноў вернуты вернікам. Помнік архітэктуры позняга барока з элементамі ракако.

Квадратны ў плане купальны храм цэнтрычнай кампазіцыі. Гранёны паўсферычны купал з чатырма люкарнамі абапіраецца на васьмігранны барабан. Фасады прарэзаны люкарнамі і лучковымі праёмамі. Над купалам узвышаецца васьмігранная вежа-ліхтар з валютамі. Фасады аднолькавыя па кампазіцыі і дэкоры. Цэнтральныя іх часткі вылучаны выступамі, якія фланкіраваны калонамі карынфскага ордэра. Паміж калонамі размешчаны глыбокія конхавыя нішы. Сцены завершаны разарванымі франтонамі, пад карнізам па перыметры праходзіць пояс сухарыкаў. Вуглы ўмацаваны плоскімі пілястрамі. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульнымі і лучковымі арачнымі завяршэннямі. Над парталам цэнтральнага ўвахода пад верхнім аконным праёмам навісае маленькі балкон з мудрагелістай выгнутай агароджай, упрыгожанай звівамі галінак, кветак (чыгуннае ліццё).



Дэкаратыўнае афармленне інтэр’ера выканана ў стылі ракако.

Размешчаная побач плябанія – помнік пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. Мураваная двухпавярховая пабудова, накрытая высокім двухсхільным дахам. Фасады прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і крапаваны лапаткамі. Тарцы будынка завершаны трохвугольнымі франтонамі. Чатыры невялікія памяшканні злучаны анфіладна.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000415 | Гарадзішча | X–XIII, XVI–XVIII стагоддзі | г. Мядзел на паўвостраве воз. Мястра | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000416 | Селішча перыяду ранняга сярэднявечча | VI–VIII стагоддзі | г. Мядзел, 100 м на ўсход ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000417 | Курганны могільнік | VI–XI стагоддзі | г. Мядзел, 1 км на паўднёвы ўсход ад горада | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000418 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Алешкі, 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, правы бераг р. Страча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000419 | Фрагменты былога сядзібна-паркавага ансамбля:<br>рэшткі сядзібнага дома<br>фрагменты парку<br>дзве гаспадарчыя пабудовы | канец XVIII – пачатак XX стагоддзя | в. Альшэва | 2 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |





Сядзіба Хамінскіх фарміравалася ў барочных формах на жывапіснай тэрасе р. Страча, прытока Віліі, сярод лясоў, недалёка ад Блакітных азёр. Яе парадная частка ўключала сядзібны дом і тэрасны парк. Сядзібны дом пабудаваны прыкладна ў сярэдзіне XVIII ст. Потым будынак пашыраўся і перабудоўваўся згодна з новымі патрабаваннямі і набыў складаную планіроўку. Першапачаткова галоўны аб'ём будынка быў драўляны, з неачасаных бярвёнаў, аднапавярховы, з ламаным мансардным дахам, накрытым гонтай. У пачатку XIX ст. парадны фасад упрыгожыў порцік з шасці калон (бакавыя калоны былі спараныя), які завяршаўся франтонам з радавым гербавым шчытом. У застрэшшы была зроблена дамашняя каплічка, увянчаная невялікай вежай з гадзіннікам, які паказваў месяцы, дні і вызваньваў гадзіны і чвэрць гадзіны.

У 1881 г. да паўднёвага фасада будынка была прыбудавана на высокім цокалі тэраса з мураванай балюстрадай (захавалася). У 1893 г. вялася дабудова будынка па праекце Т. Раствароўскага. Да кароткіх бакавых крылаў дабудаваны мураваныя, і будынак набыў П-падобную (у плане) форму. У гэты час былі праведзены змены на галоўным фасадзе. Часткова зашываецца і зашкляецца прастора каля порціка, разбіраецца маленькая вежа.

На мяжы стагоддзяў сядзіба Хамінскіх уяўляла сабой складаны комплекс, які ўключаў сядзібны дом, афіцыну, парк, сад, аранжарэю з домам, кухню, шматлікія гаспадарчыя пабудовы: свірны, стайні, кароўнікі, два гумны з малацілкай, навесы, куратнікі, а таксама кузню, вінакурню, пякарню, сушылку для зерня, сховішча для гародніны, лазню. Бурную Страчу перагароджвала плаціна. Энергіяй падаючай вады сілкаваліся два млыны, піларама, паравік, электрастанцыя. На беразе вадаёма быў зроблены прычал для лодак.

Была наладжана складаная водная сістэма з 15 сажалак, каналаў і праток, падземнага трубаправода і рыбная гаспадарка. Пры сядзібе была школа.

Сядзібны дом абкружаў парк плошчай каля 3 га. Ён закладзены ў духу тэрасных рэгулярных барочных паркаў. У плане меў выгляд прамавугольніка, выцягнутага ўздоўж асноўнай кампазіцыйнай восі. З паўночнага боку парк шчыльна падыходзіў да вадаёма на Страчы, з паўднёвага яго акаймляў вялікі сад. Тэрыторыя парку аформлена ў выглядзе пяці тэрас з невялікімі перападамі вышынь. Дом размешчаны на другой тэрасе.



З боку азёр парк не меў межаў і пaступова пераходзіў у лясныя ландшафты.

Ад сядзібнага дома засталося адно крыло, часткова тэраса і падвалы. Спалучаў рысы народнай драўлянай архітэктуры, барока, неакласіцызму, неабарока і нават стылю мадэрн.

На гаспадарчым двары захаваліся дзве мураваныя стайні, пабудаваныя ў пачатку XX ст. з чырвонай цэглы. Прыцягвае ўвагу вялікі склеп былой гаспадарчай пабудовы, у якой месціліся пякарня, маслабойня, кухня і майстэрня. Дата будаўніцтва 1887 г. па-майстэрску высечана на бліскучай шэрай паверхні колатага валуна. Дом садоўніка прыстасаваны пад мясцовы фельдшарскі пункт.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000420 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Астраўляны, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000421 | Брацкая магіла рускіх салдат | 1916 год | в. Брусы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 611Г000422 | Комплекс былога кляштара бернардзінцаў<br>дэкаратыўнае аздабленне касцёла: галоўны і бакавыя алтары роспісы | XVIII стагоддзе | в. Будслаў | 1 | 18.07.1996 № 37, 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |





Пры будаўніцтве выкарыстаны муры бакавой капліцы касцёла XVII ст. Касцёл – помнік архітэктуры позняга барока.

Трохнефавая безапсідная двухвежавая базіліка з трансептам. Галоўны фасад з дзвюма шмат'яруснымі вежамі па баках аздоблены багатай дэкаратыўнай пластыкай: пілястрамі, паўкалонамі, складанымі раскрапоўкамі. Інтэр'ер перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Сферычны купал размешчаны на перакрыжаванні галоўнага нефа і трансепта, раскрываецца толькі ва ўнутраную прастору. У капліцы Св. Барбары размешчаны драўляны разны алтар Звеставання Найсвяцейшай Дзевы Марыі (каля 1643 г.) – адзін з выдатных помнікаў ранняга барока на Беларусі. Бакавыя часткі алтара вырашаны ў выглядзе карынфскіх каланад, якія служаць кулісамі для 20 скульптур. Захаваліся да нашага часу без пазнейшых перамалёвак выдатныя фрэскавыя роспісы касцёла.



У касцёле знаходзіцца Будслаўскі абраз Маці Божай – адзін з найбольш шануемых каталіцкіх абразоў. Папа Рымскі Іаан Павел II у 1996 г. абвясціў гэту ікону патронкай Беларусі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000423 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Белаўшчына, на беразе ручая | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000424 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Галубенькі, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000425 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Гарадзішча, 0,26 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000426 | Селішча | VI стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Гарадзішча, на паўночны захад ад гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000427 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Дзягілі, у вёсцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 613В000428 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Дзянісава, урочышча Раманава Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000429 | Курганны могільнік | канец 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Занарач, на паўднёвай ускраіне могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000430 | Комплекс кляштара кармелітаў:<br>касцёл<br>жылы кляштарны корпус<br>вежа-званіца<br>брама | першая чвэрць XVIII стагоддзя | в. Засвір | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл пабудаваны ў 1713–1714 гг. Крыштофам і Ядвігай Зяновічамі. Пасля 1864 г. кляштар скасаваны, касцёл з 1866 г. дзейнічаў як праваслаўная царква. Вернуты каталікам у 1919 г. У 1946 г. касцёл зноў закрыты, жылы корпус прыстасаваны пад школу. Храм адрэстаўрыраваны і пачаў дзейнічаць з 1994 г.

Касцёл – помнік архітэктуры барока. Мураваны аднанефавы двухвежавы базілікальны храм з паўкруглай апсідай накрыты высокім двухсхільным дахам. У цэнтры да галоўнага фасада прымыкае невялікая паўкруглая прыбудова, верагодна, абарончага прызначэння.

Жылы корпус прылягае да касцёла з поўначы. Мураваны П-падобны ў плане аднапавярховы будынак, захаваўся часткова. Асобна ад касцёла стаіць невялікая мураваная брама. Вежа-званіца – помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана ўзнятым на бутавы п'едэстал чатырохгранным шатровым аб'ёмам, грані якога прарэзаны арачнымі прасветамі.

| 613Г000431 | Комплекс былой сядзібы:<br>сядзібны дом<br>два флігелі<br>гаспадарчыя пабудовы<br>уязная брама<br>фрагменты парку | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Камарова | 3 | 28.06.2005 № 110 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000654 | Касцёл Маці Божай | 1820–1826 гады | в. Канстанцінава | 3 | 15.11.2006 № 125 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000432 | Курганны могільнік | VI–XII стагоддзі | в. Засвір, 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, урочышча Капцы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000433 | Селішча | другая палова 1-га – пачатак 2-га тысячагоддзя н.э. | в. Засвір, 1,5 км на захад ад вёскі, каля воз. Свір | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000434 | Свята-Троіцкая царква | другая палова XIX стагоддзя | в. Княгінін | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000435 | Троіцкая царква | XIX стагоддзе | г.п. Крывічы | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000436 | Комплекс былога кляштара трынітарыяў:<br>касцёл Св. апостала Андрэя<br>кляштарны корпус | 1776 год | г.п. Крывічы, вул. 17 Верасня | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Кляштар пабудаваны манахамі ордэна трынітарыяў. У 1796 г. замест драўлянага ўзведзены існуючы мураваны касцёл. Кляштар скасаваны ў 1832 г. У канцы XIX ст. абнесены бутавай агароджай з трохарачнай цаглянай брамай.

Касцёл – помнік архітэктуры барока. Аднанефавы аднавежавы базілікальны храм з прамавугольнай апсідай, накрыты высокім двухсхільным дахам. Алтар упрыгожаны ляпнінай, скульптурай.

Жылы корпус таксама вырашаны ў стылі барока. Прымыкае да паўднёва-ўсходняй сцяны касцёла. Двухпавярховы прамавугольны ў плане. Фасады чляненых прамавугольнымі аконнымі праёмамі і плоскімі лапаткамі ў прасценках.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000437 | Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан | 1943–1944 гады | г.п. Крывічы, вул. 17 Верасня | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000438 | Будынак былога сядзібнага дома | пачатак XX стагоддзя | в. Лушчыкі | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000439 | Троіцкая царква | 1926 год | в. Мікасецк | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000440 | Гарадзішча | I–IV, VI–VIII, X–XI стагоддзі | в. Мікасецк, урочышча Чорная Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000441 | Селішча | VI–XI стагоддзі | в. Мікасецк, вакол гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000442 | Помнік партызанам Вілейшчыны | 1941–1944 гады | в. Мікольцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000443 | Андрэеўскі касцёл і званіца | XVIII, XIX стагоддзі, пачатак XX стагоддзя | в. Нарач | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Пабудаваны з цэглы ў цэнтры вёскі на сродкі парафіян. Асвячоны ў 1904 г.

Касцёл – помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавы бязвежавы прамавугольны ў плане храм з трохграннай апсідай. Высакаякасная чырвона-цагляная муроўка сцен, паліхромная муроўка цокаля гранітнымі квадрамі, каляровае вітражнае аш-



кленне аконных праёмаў ствараюць каларыстычную насычанасць архітэктуры храма. Алтар, хоры з арганам багата ўпрыгожаны скульптурай, разьбой з пазалотай.

Званіца квадратная ў плане, трох'ярусная. Помнік народнага драўлянага дойлідства. Пры перабудове ў XIX ст. нададзены асобныя рысы класіцызму.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000444 | Ільінская царква | 1850-я гады | в. Нарач | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000445 | Курганны могільнік | VI–XI стагоддзі | в. Нагаўкі, урочышча Валатоўкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000446 | Курганны могільнік | XI–XII стагоддзі | в. Наўры, 1 км на поўдзень ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000447 | Курганны могільнік | VI–XI стагоддзі | в. Няверы, 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000448 | Курганны могільнік | VI–VIII стагоддзі | в. Палессе, 0,2 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Сэрвач | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000449 | Гарадзішча | X–XV стагоддзі | в. Пярэградзь, на востраве воз. Мядзел, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000450 | Селішча | VI–VIII стагоддзі | в. Пярэградзь, на востраве воз. Мядзел, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000451 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VII стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Пярэградзь, на востраве Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000452 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – IX стагоддзе н.э. | г.п. Свір, у цэнтры пасёлка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000453 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | г.п. Свір, на паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, на беразе воз. Свір, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000454 | Мікалаеўскі касцёл | 1653, 1908 гады | г.п. Свір, вул. Савецкая, 27 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны з цэглы ў цэнтры пасёлка. Асвячоны ў 1680 г. У 1908 г. грунтоўна перабудаваны і значна пашыраны. У 1961 г. закрыты. У 1990 г. перададзены вернікам. Абнесены бутавай агароджай з убудаванымі ў яе капліцамі, абсаджаны ліпамі і клёнамі. Помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі барока.

Шасціслуповая трохнефавая базіліка. Да тарцоў трансепта прыбудаваны вежа-званіца і капліца з ліхтаром. Галоўны фасад двух'ярусны. Унутраная прастора перакрыта крыжовымі скляпеннямі. Сцены інтэр'ера дэкарыраваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, фрэскавым роспісам, ляпнінай, разеткамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000455 | Царква Аляксандра Неўскага | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Слабада | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000456 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Слабада, урочышча Весялуха | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000457 | Курганны могільнік | VI–XI стагоддзі | в. Слабада, урочышча Старына | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000458 | Курганны могільнік | VI–XII стагоддзі | в. Старынкі, урочышча Валатоўкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000459 | Царква Мікалая Цудатворца | пачатак XX стагоддзя | в. Старыя Габы | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000460 | Брацкая магіла рускіх салдат | 1916 год | в. Узла | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000461 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Целякі, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000462 | Брацкая магіла рускіх салдат | 1916 год | в. Чарэмшыцы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000463 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Шыкавічы, урочышча Гарадзец | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000464 | Былая сядзіба К. Сулістроўскага:<br>фрагменты парку<br>уязная алея<br>сістэма сажалак<br>касцёл, званіца, плябанія<br>гаспадарчы двор<br>руіны спіртзавода | другая палова XVIII стагоддзя | в. Шэметава | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |

## Нясвіжскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 610Г000465 | Комплекс былога кляштара езуітаў:<br>касцёл Божага Цела з дэкаратыўным аздабленнем:<br>роспісы ў інтэр'еры, выкананыя пад кіраўніцтвам К.Д. Гескага; алтарная карціна «Тайная вячэра» К.Д. Гескага;<br>надмагільныя помнікі і барэльефы: Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, Канстанціна Радзівіла, Эльжбеты Яўфіміі Радзівіл, Крыштофа Радзівіла, Ігната Мураўскага, Канстанцыі Радзівіл, Людвіка Кандратовіча (У. Сыракомля);<br>скульптуры на галоўным фасадзе: Св. Крыштофа, Св. Мікалая, Св. Францішка Ксаверыя, Ігнація Лаёлы;<br>пахавальная крыпта роду Радзівілаў (70 трун-саркафагаў, канопа і урна з прахам);<br>вежа;<br>капліца Булгарына;<br>агароджа з брамай | XVI–XIX стагоддзі | г. Нясвіж, вул. Міцкевіча | 0 | 27.03.2002 № 64,<br>28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл Божага Цела пабудаваны ў 1587–1593 гг. па праекце італьянскага архітэктара Яна Марыі Бернардоні па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. Асвячоны 7 кастрычніка 1601 г. За аснову праекта, хоць і са значнымі зменамі, была ўзята планіроўка галоўнага храма езуітаў Іль Джэзу ў Рыме. Аднак пры агульным кампазіцыйным падабенстве і барочнай стылістыцы нясвіжскі касцёл значна адрозніваецца, што абумоўлена мясцовымі будаўнічымі традыцыямі і патрабаваннямі заказчыка.

Кампазіцыя касцёла строга лагічная, пазбаўленая ад перанасычанасці барочнага дэкору. Магчыма, што касцёл быў на Беларусі адным з першых будынкаў, фасады якога былі атынкаваны і пабелены. Як сведчаць праектныя чарцяжы і гравюра Т. Макоўскага, першапачаткова па баках галоўнага фасада былі зроблены абарончыя цыліндрычныя вежачкі, традыцыйныя для беларускай готыкі, з вітымі лесвіцамі на эмпоры (галерэі) у бакавых нефах. Пасля пажару ў сярэдзіне XVII ст. касцёл адноўлены архітэктарам О. Крыгерам.

Каля 1705 г. па ініцыятыве Караля Станіслава Радзівіла распачаліся рамонтныя работы і рэканструкцыя касцёла, якія доўжыліся амаль паўстагоддзя і завяршыліся пры Міхале Казіміры Радзівіле (Рыбанька). У выніку будаўнічых работ былі ліквідаваны эмпоры над нефамі і круглыя вежы з лесвіцамі, таксама знесены вежачкі над скарбцам і сакрысціяй, зменена форма і размяшчэн-





не некаторых акон. Іншую форму атрымаў ліхтар над купалам. Унутры касцёла былі ліквідаваны імпосты ў аркадах паміж нефамі, іншае афармленне атрымалі гатычныя пілястры галоўнага нефа.

Са скасаваннем ордэна езуітаў і закрыццём калегіума ў 1773 г. касцёл стаў фарным. Храм быў пашкоджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, адноўлены ў 1944 г.

Нясвіжкі касцёл – першая крыжова-купальная базіліка з бязвежавым барочным фасадам на тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Галоўны фасад двух'ярусны, расчлянёны па вертыкалі пілястрамі, па гарызанталі – развітым антаблементам. Першы ярус, які займае шырыню трох нефаў, падзелены пілястрамі на пяць частак, бакавыя з якіх вылучаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі. Уваходны партал завершаны лучковым франтонам. Другі ярус займае шырыню цэнтральнага нефа, расчлянёны пілястрамі на тры часткі, завершаны трохвугольным франтонам з люкарнай. Абодва ярусы кампазіцыйна аб'яднаны ўвагнутымі бакавымі прыбудовамі, упрыгожаны чатырохарачнымі экседрамі са скульптурнымі выявамі Святых Мікалая, Крыштофа, Ігнацыя Лаёлы, Францішка Ксаверыя. На васьміграннным светлавым барабане ўзвышаецца гранёны купал, завершаны ліхтаром з фігурным шлемам. На фасадзе храма знаходзіцца надпіс на лацінскай мове: «Пакланіся святому храму твайму ў страху сваім».

Унутры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, бакавыя нефы – крыжовымі. Прэсбітэрый аддзелены ад нефа драўлянай разной агароджай. У залу адкрыты бакавыя капліцы Св. Андрэя і Св. Пятра.

Інтэр'ер храма багата дэкарыраваны роспісам у тэхніцы грызайль. Фрэскі зроблены ў 1750–1760-я гг. з удзелам мастака К.Д. Гескага. Фрэскавы цыкл складаецца з 40 асобных кампазіцый з адлюстраваннем сцэн алегарычнага сэнсу, выявамі святых і дэкаратыўна-арнаментальных кампазіцый. У кампазіцыю фрэсак устаўлены картушы з вершаванымі строфамі і спасылкамі на Біблію. У 1900–1902 гг. фрэскі на скляпеннях, у вежы і купале былі адрэстаўрыраваны жывапісцам Францішкам Бруздовічам, а таксама зроблены новыя роспісы.



Галоўны алтар зроблены па праекце Маўрыцыю Педэці, упрыгожаны карцінай К.Д. Гескага «Тайная вячэра» (1753 г. ). У пачатку 1990-х гг. карціна галоўнага алтара была рэстаўрыравана. У крылах трансепта размешчаны мармуровыя алтары Святога Крыжа і Дзевы Марыі. У розныя часы фундаваліся шматлікія меншыя алтары: Святых Ігнацыя Лаёлы, Францішка Ксаверыя, Станіслава Косткі, Барбары, Кацярыны, Фларыяна, Роха, Себасцьяна і інш. Над афармленнем інтэр'ера ў 1740–1750-я гг. працавалі сталяры Міхаіл Шыманоўскі і Ян Лежбах, мастакі Ян Санові і Ян Гюндэльфінгер.

Над уваходам – хоры з арганам. Першы арган быў пастаўлены ў 1611–1615 гг. на сродкі мясцовага шляхціца Андрэя Скарульскага. Парапет хораў аздоблены фрэскавымі роспісамі з выявамі музычных інструментаў ракайльным картушам па цэнтры. Злева ад галоўнага алтара ўстаноўлены дзве мемарыяльныя дошкі-надмагіллі ў стылі рэнесансу ў памяць аб сынах фундатара касцёла князя М.К. Радзівіла Сіроткі, паміж якімі знаходзіцца яго барэльеф у адзенні пілігрыма. Над барэльефам – лацінская сентэнцыя «Перад тварам смерці кожны не рыцар, а толькі пілігрым-вандроўнік». На адной з пліт рэалістычная выява дзіцяці Радзівіла, якое пражыло толькі два гады (1586–1588). У 1912 г. у касцёле ўстаноўлена мемарыяльная дошка польскаму і беларускаму паэту У. Сыракомлю. Ён вучыўся і працаваў у Нясвіжы. Помнік паэту быў створаны да 40-годдзя з дня яго смерці. Радзівілаўскі ката-

фалк быў выкананы М. Педэці. Яшчэ адзін надмагільны помнік – выява жанчыны (верагодна, Канстанцыі Радзівіл), якая сядзіць у трауры на ружовай труне.

У падлозе прэсбітэрыя – уваход у фамільную крыпту-пахавальню Радзівілаў. У крыпце на сённяшні дзень знаходзіцца алтар Нявіннага Зачацця, 70 саркафагаў (адзін з іх – рытуальны), адна канопа і адна урна з прахам нашчадка нясвіжскай лініі Антонія Радзівіла, прывезеная з Лондана 8 чэрвеня 2000 г. Найбольш старажытныя саркафагі знаходзяцца бліжэй да ўвахода.

Касцёл пабудаваны ў ансамблі з вежай і калегіумам іезуітаў (не захаваўся). Будынак калегіума быў злучаны крытай галерэяй, знаходзіўся з алтарнага боку. Пляцоўку пад яго будаўніцтва ахвяраваў М.К. Радзівіл Сіротка, праект будынка, верагодна, таксама распрацаваў Я.М. Бернардоні. Першы камень закладзены 26 чэрвеня 1586 г., частка будынка была ўзведзена ў 1588 г., канчаткова завершана будаўніцтва ў 1599 г. Калегіум складаўся з чатырох крылаў і ўтвараў замкнёны двор. Пасля скасавання ордэна з 1773 г. у будынку размяшчаліся школьныя ўстановы. У ходзе ваеннай кампаніі 1812 г. будынак быў моцна пашкоджаны. З 1802 г. на тэрыторыі былога калегіума размясцілася ваеннае ведамства. Існаваўшыя пабудовы былі прыстасаваны пад казармы. У 1822 г. будынкі былога калегіума былі цалкам перададзены з грамадзянскага артылерыйскаму ведамству. У 1844 г. складзены праектны план размяшчэння казармаў. Мяркуючы па планах 1859, 1865 гг., на падмурках былога калегіума быў узведзены двухпавярховы будынак для лазарэта на 50 чалавек і нестраявой роты на 180 чалавек, які захаваўся да нашага часу.

У 1747 г. у двары касцёла асобна пастаўлена капліца Булгарына (архітэктар М. Педэці), вырашаная квадратным у плане аб'ёмам пад шатровым дахам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 610Г000466 | Палацава-паркавы ансамбль:<br><br>замак-палац, паўднёвая і ўсходняя галерэі, камяніца, арсенал з капліцай, брама, два прыбрамныя корпусы, паўночна-ўсходняя і паўднёва-заходняя галерэі, лядоўня, стайня;<br><br>абарончыя збудаванні і мост;<br><br>тэрыторыя паркаў:<br>Замкавы, Стары, Японскі, Англійскі, Новы;<br><br>водная сістэма:<br>Дзікі, Замкавы, Бернардзінскі ставы | XVI–XIX стагоддзі | г. Нясвіж | 0 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |



Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль – адзін з самых прыгожых і цікавых у Беларусі. Будаўніцтва мураванага замка пачалося ў 1582 г. па ініцыятыве Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, які стала пасяліўся ў Нясвіжы і задаўся мэтай стварыць тут рэпрэзентатыўную княжацкую рэзідэнцыю. Вядома, што першапачаткова ў Нясвіжы існаваў драўляны замак, пабудаваны ў 1-й палове XVI ст. Мікалаем Радзівілам Чорным ці нават яшчэ раней пры Кішках. У 1533 г. драўляны замак ужо згадваецца ў пісьмовых крыніцах.

Новы мураваны замак будаваўся побач са старым драўляным. Да пачатку XVII ст. замак ужо быў пабудаваны, меў у плане форму чатырохвугольніка памерамі 160х120 м і вылучаўся магутнымі абарончымі збудаваннямі. Абарончая сістэма ўключала насыпныя валы з вонкавай каменнай абмуроўкай і мураванымі стайнямі ўнутры, бастыёнамі, глыбокі і шырокі





роў, запоўнены вадой. Паводле меркавання гісторыка М. Ткачова, абарончыя збудаванні нясвіжскага замка адносіліся да новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы.

За ўмацаваннямі размяшчаліся тры асобныя мураваныя корпусы і ўязная брама. У сярэдзіне дзядзінца знаходзілася студня. Цэнтральны корпус – уласна палац, быў прамавугольны ў плане, трохпавярховы, з чатырма васьміграннымі вуглавымі вежачкамі, з алькежамі на калонах на бакавых фасадах і лоджыяй-галерэяй на галоўным фасадзе. Стаяў насупраць брамы.

Справа ад брамы пры вале быў узведзены трохпавярховы з падвалам (піўніцамі) будынак «каменіца замкавая», да якога з паўднёва-ўсходняга боку прымыкала высокая дазорная вежа. З боку вала на фасадзе меліся два прамавугольныя ў плане алькежы. На галоўным фасадзе былі вылучаны парталамі і гербавым картушам два ўваходы.

Злева ад брамы пабудаваны двухпавярховы меншых памераў, прамавугольны ў плане корпус, у якім размяшчаўся цэйхгауз. Ён таксама быў злучаны памостам з валам.

На дзядзінец умацаванага комплексу праводзіла мураваная брама, размешчаная ў курціне паўночна-заходняга вала. З боку двара над брамай узвышалася вежа з гадзіннікам. Акрамя таго, на дваровым фасадзе брамы знаходзіўся абраз Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

Паводле інвентара 1658 г., у замку было 12 залаў. Залы і іншыя пакоі былі аздоблены мармурам, разьбой, ляпнінай, роспісамі, карцінамі, камінамі.

Сярод даследчыкаў гісторыі архітэктуры няма адзінага меркавання адносна аўтарства нясвіжскага замкавага комплексу. Ф. Маркоўскі выказваўся на карысць Я.М. Бернардоні. Аднак, як слушна заўважыў Т. Бернатовіч, Я.М. Бернардоні прыехаў у Нясвіж толькі ў 1586 г., калі работы па будаўніцтву замка ўжо вяліся. Несумненна, пад кіраўніцтвам Бернардоні былі ўзведзены ўмацаванні замка. З. Горнунг, А. Грушэцкі больш схіляюцца да ўплыву французскага замкавага будаўніцтва на нясвіжскі замак. У гэтай сувязі трэба адзначыць і той факт, што, паводле пісьмовых крыніц, у будаўніцтве замка прымала ўдзел вялікая колькасць архітэктараў і будаўнікоў. Вядома, што ў гэты час у Радзівіла працавалі будаўнік і разьбяр К. Фадыга, будаўнікі Ганусі, Ленарт, М. Забароўскі.



У 1706 г. пад час ваенных дзеянняў нясвіжскі замак значна пацярпеў, доўга знаходзіўся ў запусценні. Толькі ў 1720-я гг. на замку пачаліся будаўнічыя работы пад кіраўніцтвам архітэктара Казіміра Ждановіча. Да сярэдзіны XVIII ст. замак быў адноўлены ў новым выглядзе. Асобна размешчаныя карпусы ўстаўкамі былі аб'яднаны ў адно цэлае. У 1740 г. К. Ждановіч пабудаваў новую палацавую капліцу.

У канцы XVIII ст. замак зноў атрымаў пашкоджанні і тут вяліся аднаўленчыя работы. На працягу XVIII ст. у аднаўленні і пашырэнні замка ўдзельнічалі такія вядомыя архітэктары, як М. Педэці, М. Фларыяновіч, К. Спампані, А. Лоцы, Л. Лутніцкі. З таго часу ў асноўных абрысах нясвіжскі палац захаваўся да нашых дзён. План замка ўяўляе замкнёны комплекс карпусоў з вялікім унутраным дваром. Яго форма не мае выразнай геаметрычнай канфігурацыі, увесь комплекс характарызуецца асіметрычнасцю кампазіцыі, што з'явілася вынікам шматэтапнага будаўніцтва і адсутнасцю адзінага плана. Уязная брама з вежай і цэнтральны корпус размешчаны амаль на адной восі, бадай адзінай у ансамблі. Цэнтральны корпус, які быў перабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. і атрымаў па цэнтры павышаны да чатырох з паловай паверхаў рызаліт, з'яўляецца галоўным ва ўсім ансамблі. Ён дамінуе

і сваім архітэктурна-дэкаратыўным вырашэннем. З боку ўнутранага двара корпус выглядае вельмі пластычным дзякуючы выкарыстанню ў яго афармленні пілястраў, ляпніны, скульптурных уставак. На галоўным фасадзе меў галерэю, аздобленую балюстрадай. У ніжнім паверсе размяшчаліся службовыя памяшканні, у верхнім – княжацкія апартаменты з вялікай колькасцю парадных і жылых памяшканняў. У інтэр'ерах былі кафляныя і фаянсавыя печы, упрыгожаныя ляпнінай са стука, каміны з геральдычнымі металічнымі выявамі. Сцены аздаблялі дубовыя разныя панэлі, палатняныя і скураныя шпалеры ў ляпных пазалочаных рамах. Ляпная столь была пакрыта пазалотай і роспісам. Падлога была з наборнага паркету. Вялікае значэнне ў інтэр'еры надавалася творам жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Асабліва багатай аздобай вызначаліся парадныя залы і галерэі. Калекцыя партрэтаў нясвіжскай галерэі налічвала 984 палатны, у бібліятэцы было звыш 20 тысяч тамоў, рэдкія манускрыпты і старадрукі.

Два бакавыя корпусы, аб'яднаныя з цэнтральным дыяганальнымі ўстаўкамі, афармлены больш сціпла. Гэтыя карпусы ўключалі шэраг жылых і гаспадарчых памяшканняў, майстэрні, кухні, скляпы, скарбніцы, а таксама замкавую капліцу з сакрысціяй, званіцай і кругавой галерэяй для літургічных працэсій.

У капліцы былі фаянсавыя і розныя драўляныя алтары, амбон са штучнага мармуру. Скляпенні былі аздоблены роспісам на біблейскія сюжэты.

Уязная брама з арачным праездам у выглядзе тунэля праразала земляны вал. У надбрамнай вежы, якая мела наверсе гадзіннік, размяшчаліся ў ніжнім ярусе кардэгарда, у верхнім – памяшканні архіва і бібліятэкі.

Злева і справа ад замкавай брамы па-за межамі ўмацаванняў каля ставоў існавалі комплексы жылых, гаспадарчых і вытворчых пабудоў (жыллё прыслугі, свірны, стайні, вазоўні і інш.). У замкавых бастыёнах былі арсеналы, алькежы і каморы.

У 1809 г. палацавы комплекс рэстаўрыраваны архітэктарам М. Цэйзікам.

Такім чынам, перабудаваны ў XVIII ст. нясвіжскі замак страціў свае першапачатковыя рысы і істотна змяніў аблічча сваёй фартыфікацыі. Новыя жылыя будынкі надалі замку выгляд велікасвецкага палацава-замкавага комплексу, абарончыя рысы адышлі на другі план.

З закладкай у 1879 г. парку пейзажнага тыпу завяршылася фарміраванне палацава-паркавага ансамбля. Парк складаецца з пяці аўтаномных ландшафтных зон, кожная з якіх мае сваю завершаную кампазіцыю. Ставамі Замкавым і Дзікім паркі падзяляюцца на права- і левабярэжную часткі. Замкавы парк уключае рэшткі бастыёнаў, напоўненыя вадой равы, валы, азялененыя дворыкі, на бастыёнах альтанкі. У двары захаваўся стары калодзеж, упрыгожаны дэталямі мастацкай коўкі ў стылі барока і скульптурай «Амур з чашай». Стары парк з маляўнічымі палянамі, дэкаратыўнымі групамі дрэў, памятнымі камянямі і скульптурнымі кампазіцыямі прымыкае да Замкавага.



За Старым паркам у пачатку XX ст. быў створаны Японскі сад з паплавамі. У левабярэжнай частцы размешчаны Новы (Марысін) парк з іпадромам. У кампазіцыі асобных ландшафтаў адбыўся ўплыў натуралізму. Іпадром дэкаратыўна афармлены елкамі. Над насаджэннямі Старога і Новага паркаў працаваў садавод-дэкаратар А. Пастарэмчак. У 1913–1914 гг. былі праведзены работы па паляпшэнні паркавых ландшафтаў. Усяго ў парку больш за 90 відаў дрэў і кустоў.

З 1945 г. у замку працаваў санаторый. У наш час вядзецца маштабная рэканструкцыя замка, пасля якой гэты гістарычны помнік будзе зноў адчынены для наведвальнікаў. У 2005 г. палацава-паркавы ансамбль уключаны ў Спіс аб'ектаў Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

Ландшафтна-пейзажны парк, палац уваходзяць у Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 611Г000467 | Паркавы комплекс «Альба» ў межах: на поўначы, захадзе, поўдні – лініі, праведзенай па вонкаваму боку пeрыметрычных дарожак, абкружаючых гістарычны зялёны масіў; на ўсходзе – лініі, якая супадае з правым берагам става Свіслач і левым берагам става Альбянскі; на паўночным усходзе – лініі, якая супадае з мяжой тэрыторыі рыбгаса, да акружной дарогі і з лініяй – мяжой зямельных надзелаў, уздоўж галоўнай алеі | XVII–XVIII стагоддзі | г. Нясвіж, на паўночнай ускраіне горада | 1 | 04.03.1999 № 51 | 14.05.2007 № 578 |



Асваенне Альбы як загараднай рэзідэнцыі Радзівілы пачалі ў канцы XVI ст. Згодна з «Альбомам Бернардоні», у XVI ст. у Альбе быў пабудаваны дом Радзівіла, ваяводы трокскага. Гэта быў сціплы драўляны, прамавугольны ў плане будынак, відаць, двухпавярховы або з мансардным дахам.

Маленькі летні палац будаваўся па праекце архітэктара Казіміра Ждановіча.

«Эрмітаж» Сіроткі быў пабудаваны ў дзве лініі і ўключаў гардэробную, сталовую, кухню, капліцу з фаянсавымі алтарамі, статуямі святых з слановай косці. На адным франтоне была драўляная статуя Св. Мікалая, на другім – Св. Крыштофа. Інтэр'еры былі цёмных колераў, упрыгожаны мармуровымі камінамі, над якімі былі эмблемы: крыж, чаша, чэрап і г.д. Да сярэдзіны XIX ст. «Эрмітаж» быў практычна страчаны.

Паводле інвентара 1636 г., фальварак уключаў таксама жылы дом з пакоямі, якія абаграваліся кафлянымі зялёнымі печкамі і камінамі, флігель-кухню, бровар, пякарню, сырнік. Шматлікія гаспадарчыя будынкі ўтваралі вялікі гаспадарчы двор. Альба мела рысы рэнесансных сядзіб. Несумненна, стваралася пад уплывам ідэй італьянскага Рэнесансу.

Значныя страты сядзібе нанеслі ваенныя падзеі сярэдзіны XVII ст. З 1758 г. у Альбе фарміруецца вялікі паркавы ансамбль. У парку ўжо былі галандская ферма, новы аднапавярховы палац, фазанарый, псарня, тры звярынцы, абнесеныя высокай драўлянай агароджай, вадаёмы. У сярэдзіне XVIII ст. былі пабудаваны «Эрмітаж» (цагляны будынак на месцы старога драўлянага) і двухпавярховы мураваны палац. Ансамбль уключаў некалькі «італьянскіх» паркаў у стылі французскага класіцызму.

Галандская ферма знаходзілася пры ўездзе ў Альбу, злева ад цэнтральнай ліпавай алеі. На ферме стаяў двухпавярховы дом. На верхнім паверсе, зробленым з «прускага муру», размяшчаліся апартаменты князя з пяці пакояў і вялікай залы, сцены якіх упрыгожвалі палатняныя шпалеры.

Недалёка ад фермы сярод лясного масіву быў уладкаваны своеасаблівы звярынец, кампазіцыйным цэнтрам якога была альтанка – купальная ратонда, ад якой радыяльна разыходзіліся восем алей. Замыкаліся яны філярамі (слупамі) са скульптурнымі выявамі звяроў. Кіраваў работамі архітэктар Ян Хіль.

Асноўным матывам кампазіцыі парку была сістэма прамянёвых алей з відамі на люстры вялікіх вадаёмаў. Алеі разыходзіліся як промні сонца.

У 1778 г. прыдворны архітэктар Станіслава Караля Радзівіла Лявон Лутніцкі з удзелам італьянскіх дойлідаў К. Спампані і М. Педэці пачаў работы па рэканструкцыі Альбы, а ў 1784 г. новая Альба ўжо прымала караля Станіслава Панятоўскага. Была створана водная сістэма з васьмі каналаў і круглага вострава на месцы былога звярынца, ідылічная вёска з 180 хатак, накрытых саломай (правобразам служылі «вёскі» французскай каралевы Марыі Антуанеты ў Рамбуйе і Версалі), сфарміраваны паркі. Цэнтрам кампазіцыі стала драўляная трох'ярусная альтанка (архітэктар Л. Лутніцкі) на круглым востраве, якая нагадвала храм Святой Сафіі ў Стамбуле, хоць была пабудавана ў эклектычных формах. Да гэтага збудавання сыходзіліся ў выглядзе промняў і вуліцы вёскі.

У Альбе размяшчаліся таксама аранжарэі, пчальнік, чатыры двухпавярховыя млыны (з бруса) на галоўным канале, шпіталь з аптэкай. Быў значна пашыраны звярынец. У ставах разводзілася розная рыба, плавалі лебедзі.

У вайну 1812 г. асноўныя пабудовы былі разбураны. У 1846 г. Альба была здадзена іншаземным уладальнікам у шасцігадовую арэнду. Англійскі парк здзічэў. У 1860-я гг. насаджэнні былі ў значнай ступені павысяканы. Новы пад'ём пачаўся пасля 1875 г., калі Антоні Радзівіл, муж Марыі Дароты дэ Кастэлян, стаў на чале Нясвіжскай ардынацыі. Марыя Дарота выступіла ініцыятарам адраджэння Нясвіжскага замка, стварыла побач з ім паркавы комплекс, сабрала ў замку значную бібліятэку. Работы працягваліся пасля Першай сусветнай вайны. Былі добраўпарадкаваны парк на тэрыторыі 80 га, звярынец, ставы, фазанарый, гаспадарчыя пабудовы.

У наш час на тэрыторыі Альбы захавалася адна з найбольш арыгінальных у Беларусі водных сістэм. Добра выяўлена цэнтральная алея, фрагменты іншых алей, дарог. Часткова захаваліся новы і стары пейзажныя паркі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000468 | Тэрыторыя былога калегіума ў межах агароджы, якая праходзіць уздоўж вуліц Ленінскай і Гейсіка, з ацалелымі на гэтай тэрыторыі двума будынкамі казармаў | XIX стагоддзе | г. Нясвіж, вул. Гейсіка, 1 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000469 | Забудова вул. Ленінскай | канец XIX стагоддзя | г. Нясвіж, вул. Ленінская, 11, 13, 22 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000470 | Былы заезны двор | XIX стагоддзе | г. Нясвіж, вул. Ленінская, 19 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000471 | Будынак гісторыка-краязнаўчага музея | канец XIX стагоддзя | г. Нясвіж, вул. Ленінская, 96 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000472 | Будынак былой плябаніі | XVII стагоддзе | г. Нясвіж, вул. Міцкевіча, 5 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



У XVII ст. па фундацыі М.К. Радзівіла непадалёк ад касцёла Божага Цела была пастаўлена плябанія з гаспадарчымі пабудовамі. На працягу ўсёй гісторыі існавання будынак выкарыстоўваўся як жылы дом ксяндза-плябана.

Мяркуюць, што ў 1750–1790-я гг. у будынку размяшчалася друкарня. У 1800 г. размешчаныя насупраць плябаніі будынкі былога езуіцкага калегіума былі адведзены ваеннаму ведамству. Па дамоўленасці з ксяндзом у 1800–1820-я гг. верхні паверх плябаніі здаваўся пад жыллё вышэйшым ваенным чынам. У архіўным дакуменце 1822 г. плябанскі дом характарызаваўся як мураваны двухпавярховы. Усіх акон налічвалася 30. Унутры было 15 пакояў, 2 калідоры, 4 кладоўкі, усіх 9 печак і 2 каміны. Пад будынкам існавалі два вялікія скляпы. Над парадным ганкам меўся балкон.

На двары плябаніі (па сучаснай вул. Ленінскай) асобна размяшчалася кухня. Уяўляла сабой аднапавярховы мураваны атынкаваны дом, накрыты жалезам. У будынку было восем акон. У 2-й палове XIX ст. да плябаніі было далучана вуглавое Г-падобнае крыло, якое злучыла жылы дом з кухняй. Гаспадарчыя будынкі і пральня былі драўляныя. Двор з вялікім пладовым садам быў абнесены з аднаго боку мураванай, з астатніх – драўлянай агароджай.

У выніку пазнейшых перабудоў плябанскі дом, пабудаваны ў стылі барока, набыў рысы класіцызму.

Існуючы кампактны двухпавярховы будынак плябаніі накрыты вальмавым дахам. Плоскасныя фасады рытмічна чля。нёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. На дваровым фасадзе зберагліся фрагменты вялікіх паўцыркульных арачных ніш, якія нагадваюць рэнесансную аркаду. Першапачаткова на другім паверсе дваровага фасада была арачная галерэя, на якую выходзілі ўсе памяшканні.

| 612Ж000473 | Помнік Сымону Буднаму | 1982 год | г. Нясвіж, вул. Міцкевіча | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Выдатны дзеяч эпохі Адраджэння (асветнік, філосаф, гуманіст, паэт, рэлігійны рэфарматар) Сымон Будны нарадзіўся каля 1530 г. у в Буды (цяпер Беластоцкае ваяводства, Польшча) у сям'і дробнага шляхціца. Скончыў факультэт свабодных мастацтваў Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. З 1558 г. выкладаў у пратэстанцкай школе ў Вільні. У 1560 г. прыехаў у Клецк, дзе прапаведаваў кальвінізм, быў актыўным дзеячам Рэфармацыі.

У Нясвіжы разам з Мацеем Кавячынскім і Лаўрэнціем Крышкоўскім заснаваў друкарню. Тут у 1562 г. выдаў першую на тэрыторыі Беларусі кнігу «Катэхізіс» на беларускай мове, затым «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» і інш. Пазней у 1574 г. у Лоску (Валожынскі раён) выдаў свой пераклад Новага Запавету з прадмовай і заўвагамі, творы «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Супраць хрышчэння дзяцей» і інш. У 1576 г. выдаў твор «Пра найважнейшыя артыкулы хрысціянскай веры», дзе абагульніў свае рэлігійна-філасофскія вывады. С. Будны з'яўляўся адным з заснавальнікаў навуковай крытыкі біблії. У 1589 г. удзельнічаў у Полацку ў дыспуце з езуітамі, абвяргаў догмат пра несмяротнасць душы. Памёр у Вішневе 13 студзеня 1593 г.

Помнік С. Буднаму ўстаноўлены ў 1982 г. (скульптар С. Гарбунова, архітэктар Ю. Казакоў) перад будынкам былой плябаніі.

| 611Г000474 | Гарадская ратуша з гандлёвымі радамі | XVI–XVIII стагоддзі | г. Нясвіж, вул. Савецкая, 1а, 1б, 3, вул. Беларуская, 2 | 1 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Ратушы былі галоўнымі будынкамі большасці еўрапейскіх гарадоў. Гэта было месца знаходжання органаў гарадскога самакіравання (рады, магістрата). Ратушы ўзводзіліся на галоўнай рыначнай плошчы, звычайна з гандлёвымі радамі.

На Беларусі ратушы пачалі будаваць у XIV ст. у сувязі з атрыманнем гарадамі і мястэчкамі магдэбургскага права. Нясвіж атрымаў магдэбургскае права ў 1586 г. Прыкладна да 1596 г. на галоўнай плошчы горада, Рыначнай, была пабудавана ратуша. Па баках ратушы былі размешчаны два рады гандлёвых радоў. Прыкладна ў сярэдзіне XVIII ст. комплекс быў рэканструяваны, у выніку чаго быў дабудаваны рад крам з тыльнага боку ратушы. Такім чынам, будынак ратушы з трох бакоў агіналі гандлёвыя рады, якія адкрываліся да плошчы аркадамі. Гандлёвыя рады былі накрыты аднасхільнымі дахамі, дзякуючы гэтаму над аркадамі ўтвараўся магутны атык, раскрапаваны цягамі. Прыём завяршэння атыкам будынкаў характэрны для беларускай архітэктуры. Зрокава аркады служылі ажурнай асновай для масіўнага будынка ратушы. Магчыма, яны былі навеяны італьянскімі прататыпамі. Аднак адрозніваюцца ад іх важкасцю і масіўнасцю агульнага аб'ёму.

Вядома, што ў гады Паўночнай вайны будынак ратушы гарэў. Быў адбудаваны ў 1752 г. У 1784 г. праведзены рамонт ратушы ў сувязі з наведваннем горада каралём Станіславам Панятоўскім.

У часы Расійскай імперыі гарадскія магістраты былі скасаваны. У нясвіжскай ратушы засядала гарадская дума.

У 1806 г. князь Дамінік Радзівіл прызначыў на ўтрыманне ратушы і яе рамонт з сумы гарадскога збору піцейны падатак. Пытанне аб рамонце ратушнага будынка стаяла ў 1834–1835 гг., аднак рамонт не быў выкананы.

У 1836 г. вялікі пажар знішчыў па сутнасці жылыя кварталы ў цэнтры горада, згарэла каля 100 дамоў. Пад час пажару згарэў і будынак ратушы з крамамі. Пасля пажару верхні ярус ратушнай вежы не адбудавалі.

У 2-й палове XIX ст. у будынку ратушы на другім паверсе засядала гарадская дума, унізе былі крамы, свіран, частка будынка пуставала.

Чарговы раз пытанне аб рамонце будынка ратушы паўстала ў 1863 г. У 1870 г. быў выкананы рамонт даху і двух памяшканняў думы. У 1896–1901 гг. пад час чарговага рамонту папраўлены і падмацаваны сцены, нанава атынкаваны галоўны фасад з вежай, прыведзены ў парадак падвалы і прыстасаваны пад склады, устаўлены новыя аконныя рамы, унутры адрамантаваны памяшканні і прыстасаваны пад гарадскую залу для пасяджэнняў грамадскага сходу і інш. У 1990-я гг. ратуша адноўлена ў першапачатковым выглядзе паводле праектнага плана канца XVI ст. і гравюры Т. Макоўскага XVII ст.

Комплекс ратушы і гандлёвых радоў уваходзіць у Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000475 | Будынак | XVIII стагоддзе | г. Нясвіж, вул. Савецкая, 2 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 611Г000476 | Гарадская Слуцкая брама | XVI–XVIII стагоддзі | г. Нясвіж, вул. Слуцкая | 1 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |



Брама была пабудавана ў 1700 г. (паводле іншых звестак – у 1760 г. ) у сістэме земляных гарадскіх умацаванняў. Яна перакрывала дарогу, па якой можна было ўехаць у горад з боку Слуцкага тракту. Першапачаткова, паводле архіўных дакументаў, яна называлася Капыльскай. Трэба адзначыць, што брамы былі ўбудаваны ў курціны вала і замыкалі горад з чатырох бакоў: Віленская (раней называлася Мінскай), Слуцкая (Капыльская), Замкавая і Клецкая.

Згодна з інвентарным апісаннем, на першым паверсе брамы знаходзілася каморка для вартавых. Кожны, хто ішоў ці ехаў у горад, мусіў плаціць пошліну. Пра гэта сведчыць мемарыяльная дошка, якая захавалася да нашых дзён. На другім паверсе існавала капліца Маці Божай. У капліцы была драўляная падлога, столь атынкаваная. Алтар дубовы разны, аддзелены металічнай агароджай. Справа была невялікая рызніца. Два званы знаходзіліся на вежы, адзін – у рызніцы. Капліца рамантавалася ў 1788 г., затым быў выкананы рамонт у 1899–1901 гг.

У 1970-я гг. праведзены рэстаўрацыйныя работы. У выніку браме быў вернуты яе першапачатковы выгляд, адрамантаваны фасады, дах, адноўлены масіўныя дубовыя дзверы, бакавая лесвіца на другі паверх, балкон на фасадзе з боку горада, камін на першым паверсе.



Брама – помнік архітэктуры барока. Прамавугольны ў плане будынак з вялікім арачным праездам у цэнтры (даўжыня аркі каля 10,3 м), накрыты двухсхільным чарапічным дахам. Галоўны і тыльны фасады завершаны пластычнымі франтонамі, раскрапаваны руставанымі лапаткамі. Сцены ўмацаваны контрфорсамі. Абапал арачнага праезду размешчаны два памяшканні: першае для вартавых, у другім знаходзіцца лесвіца на другі ярус, дзе маецца невялікае памяшканне капліцы. На фасадзе з боку горада над праездам высокі лучковы праём і балкон з металічнай літой агароджай.

Уваходзіць у Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000477 | Былы пасёлак лясніцтва (тры будынкі) | пачатак XX стагоддзя | г. Нясвіж, вул. Сыракомлі, 29 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000478 | Будынак | канец XIX стагоддзя | г. Нясвіж, вул. Чапаева, 3 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 611Г000479 | Дом рамесніка | 1721 год | г. Нясвіж, вул. Чапаева, 1 | 1 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны на былой Рыначнай плошчы. У 1990-я гг. рэканструяваны. Помнік архітэктуры барока.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з паўпадвалам. Галоўны тарцовы фасад выходзіць на лінію забудовы вуліцы і вырашаны адзіным фігурным шчытом з прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У цэнтры фасада галоўны ўваход, над якім размешчаны балкон з металічнай літой агароджай. Невялікі арачны праём і нішы ў завяршэнні фасаднага шчыта апрацаваны дэкаратыўнымі ліштвамі і неглыбокімі нішамі. Фігурны абрыс шчыта падкрэслены прафіляваным карнізам. Уваход на другі паверх з боку дваровага фасада.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000480 | Комплекс былога кляштара бенедыкцінак:<br>касцёл з кляштарным корпусам, дзверы званіцы касцёла<br>гаспадарчыя карпусы<br>вежа-званіца з агароджай<br>рэшткі абарончых збудаванняў горада | XVI–XVIII стагоддзі | г. Нясвіж, вул. Чкалава, 8 | 2 | 28.02.2002 № 71<br>28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Касцёл Святой Яўфіміі і кляштар будаваліся адначасова і стварылі цэласны архітэктурны ансамбль, архітэктурнае вырашэнне якога не падобнае ні да аднаго заходнееўрапейскага ўзору. Гэта быў першы ў краі жаночы каталіцкі кляштар і адзін з пяці кляштараў, якія заснаваў у канцы XVI ст. у сваім горадзе Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка разам з братам кардыналам Юрыем Радзівілам. Касцёл быў названы ў гонар Св. Яўфіміі (імя жонкі князя Эльжбеты Яўфіміі з Вішнявецкіх). Першае набажэнства ў касцёле адбылося 12 чэрвеня 1597 г.

Кляштарны комплекс размяшчаўся поруч паўднёва-ўсходняга бастыёна горада-крэпасці, што забяспечвала яму дзве лініі ўмацаванняў па межах участка. Дадаткова тэрыторыя кляштара па перыметры была абгароджана сцяной. У цэнтры змяшчаўся мураваны аднанефавы храм, арыентаваны алтаром на ўсход. Па баках ад яго, сіметрычна размяшчаліся прыбудаваныя мураваныя карпусы. Уваход у храм, як гэта было прынята ў кляштарах самага строгага статуту, ажыццяўляўся непасрэдна з унутраных калідораў кляштара.

Архітэктура касцёла адрозніваецца крайняй прастатой, складаныя формы былі выкарыстаны толькі ў вырашэнні ўсходняй алтарнай сцяны, выступаючай з-за лініі кляштарных будынкаў. Падкрэсленае вылучэнне ў архітэктуры і галоўнага параднага фасада храма, і яго алтарнай, усходняй часткі, звернутай да найбольш таемнай, сакральнай зоны кляштара, сведчыць аб арыентацыі касцёла нясвіжскіх бенедыкцінак на найстаражытныя і асноватворныя для ордэна ўзоры манастырскай архітэктуры.



Архітэктурна-прасторавая арганізацыя двух замкнёных двароў, сфарміраваных як з заходняга, так і з усходняга, алтарнага боку храма, мае нерэгулярны і досыць выпадковы характар. Складзеныя Т. Макоўскім у пачатку XVII ст. чарцёж плана і аксанаметрычны малюнак Нясвіжа сведчаць аб

адсутнасці вышынных дамінантаў у архітэктуры кляштара XVII ст. Толькі адна невялікая галоўка падымалася над цэнтральнай часткай храма. Невысокімі былі таксама вароты ўваходу ў кляштар. Пазней, у 1720-я гг. кляштар быў рэканструяваны, яго ўпрыгожыла шмат'ярусная вежа. Да заходняга фасада прымыкала васьміграння трох'ярусная вежа-званіца (разабрана ў 2-й палове XIX ст.).

Другая трох'ярусная вежа-званіца была пабудавана ў 1763 г. Размешчана паміж сценамі кляштара, на цэнтральнай восі ўнутранага дворыка. Першы ярус прарэзаны аркай. У яе формах выкарыстаны прыёмы барочных вырашэнняў, аднак барочная пластыка і дэкор маюць вельмі стрыманы характар.

У 1864–1866 г. касцёл быў перабудаваны ў царкву, у 1877 г. кляштар скасаваны і перададзены пад казармы. Аднак у 1920–1945 гг. кляштар аднавіў сваю дзейнасць. Цяпер у кляштары педагагічны каледж (з 1994 г., на базе педагагічнага вучылішча, заснаванага ў 1984 г.).

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000481 | Былы кляштар бернардзінцаў | XVI–XVII стагоддзі | г. Нясвіж, вул. Гейсіка, 1 | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000482 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Нясвіж, парк | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000483 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Аношкі, 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000484 | Свята-Георгіеўская царква | 1844 год | в. Астроўкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000485 | Свята-Пакроўская царква | XVIII стагоддзе | в. Вялікая Ліпа | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000486 | Сядзіба (уязная брама, стайні, свіран) | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | в. Вялікая Ліпа | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000487 | Свята-Крыжаўзвіжанская царква | пачатак XX стагоддзя | в. Вялікая Лысіца | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000488 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Гарадзея, вул. Шасэйная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000489 | Казьмадзям'янаўская царква | 1836 год | в. Горны Сноў | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000490 | Былы сядзібны дом | сярэдзіна XIX стагоддзя | в. Горны Сноў | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000491 | Фрагменты сядзібна-паркавага комплексу «Завушша»:<br>парк<br>руіны капліцы<br>лядоўня<br>свіран<br>млын | другая палова XVIII – пачатак XX стагоддзя | в. Завушша | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000492 | Гарадзішча | IV–V, XI–XIII стагоддзі | в. Качановічы, 1,4 км на паўночны ўсход ад цэнтра вёскі, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000493 | Свята-Дабравешчанская царква | канец XIX стагоддзя | в. Кунаса | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000494 | Свята-Пакроўская царква | канец XIX стагоддзя | в. Лань | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000495 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Мацылёўшчына, 0,6 км на захад ад вёскі, побач з могілкамі і дарогай у в. Грыцкавічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000496 | Фрагмент былой сядзібы «Наруцавічы» з паркам | першая палова XIX стагоддзя | в. Аношкі | 3 | 16.03.1994 № 5 19.12.2007 № 138 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |
| 612Г000497 | Касцёл | другая палова XVIII стагоддзя | в. Новыя Навасёлкі | 2 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |



Ад былога касцёла захавалася гранёная алтарная частка з бакавымі ніжэйшымі сакрысціямі, рэканструяваная яшчэ ў першай палове XIX ст. у капліцу. Страчаны дах і скляпенні. З боку галоўнага фасада ўзвышаецца трохвугольны франтон. Аконныя праёмы маюць лучковы абрыс. У інтэр’еры сцены раскрапаваны пілястрамі і дэкарыраваны ляпнінай.

Вакол касцёла знаходзяцца старыя могілкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000498 | Свята-Троіцкая царква | канец XVIII стагоддзя | в. Салтанаўшчына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000499 | Касцёл Яна Хрысціцеля | канец XVIII стагоддзя | в. Сноў | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000500 | Былы палацава-паркавы ансамбль:<br>палац<br>парк | 1827 год | в. Сноў | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Фарміраванне сядзібы, якая захавалася да нашага часу, вялося на раўнінным беразе р. Сноўка пры Казіміры Рдултоўскім (1785–1855). Пасяліўшыся ў Снове, ён стварыў тут шыкоўную рэзідэнцыю з зімовым садам, галерэяй, у Адахоўшчыне заснаваў суконную фабрыку.



Сядзіба размешчана на роўнай тэрасе, у плане мела форму прамавугольніка плошчай каля 37 га. Уключала партэр, пейзажны парк, ахоплены па перыметры алеяй, на якую выводзіць цэнтральная трохрадная алея з ясеняў і клёнаў. Да цэнтральнай параднай часткі з правага (паўднёвага) боку прымыкаў вялікі вадаём, з левага – пладовы сад з алеяй з ясеняў і ліп.

Кампазіцыйным цэнтрам ансамбля з'яўляўся палац. У спецыяльнай літаратуры будынак датуецца 1827 г. і аўтарам праекта называецца архітэктар Б.Л. Тычэцкі. Аднак апошнім часам некаторыя даследчыкі аспрэчваюць гэтае меркаванне. Мажліва, гэта звязана з фактам знаходжання ў Сноўскім палацы ў 1764 г. караля Станіслава Панятоўскага. Але, верагодна, кароль наведваў малавядомы палац Яна Хрызастома Рдултоўскага, пабудаваны ў 1760 г., які, згодна з сямейнай хронікай, быў разбураны пад час Барскай канфедэрацыі. У 1-й палове XIX ст. належаў Абуховічам, з 1854 г. – барону Густаву Гарцінгу. Пасля рамонту 1829 г. прыстасаваны пад канцылярыю і жыллё польскага корпуса аховы граніцы; выкарыстоўваўся і як казіно.

Палац – помнік архітэктуры класіцызму. Мае рысы шматпланавай аб'ёмна-прасторавай сіметрычнай кампазіцыі і ўяўляе сабой новы тып палацавых будынкаў з раскрытай франтальнай планіроўкай уздоўж адной папярочнай восі. Будынак цагляны. У цэнтры – двухпавярховы аб'ём, афармлены на фасадах аднолькавымі па форме, але рознымі па памерах чатырохкалоннымі іанічнымі порцікамі. Да цэнтральнага аб'ёму прымыкаюць сіметрычныя аднапавярховыя крылы, да іх – двухпавярховыя карпусы, размешчаныя перпендыкулярна да прадольнай восі палаца, і на тарцах размяшчаюцца аднапавярховыя аб'ёмы з павільёнамі, у якіх былі жылыя і службовыя памяшканні. Фасады крылаў дэкарыраваны іанічнымі каланадамі. Каланада левага крыла адкрытая, а правага – прымыкае да фасаднай сцяны. Калоны сіметрычна размешчаны ў прасценках прамавугольных аконных праёмаў. У інтэр'еры прамавугольная парадная зала (плошча 100 м$^2$) аздоблена нішамі, скульптурай, каланадай, захавалася кафляная печ.

Перад палацам быў вялікі партэр з газонам, абкружаны па перыметры алеямі. Усходняя частка сядзібы была прадстаўлена пейзажным паркам на плошчы 4 га, асноўным кампазіцыйным элементам якога з'яўлялася водная сістэма. Уключала прамавугольны і акруглы вадаёмы з крыніцамі, два вялікія востравы і вузкія пратокі. Сцены і дно вадаёмаў выкладзены каменем. Ансамбль захаваўся ў ранейшых межах. Палац прыстасаваны пад медыцынскую ўстанову. Парк захаваўся часткова, яго кампазіцыя была парушана пазнейшымі пасадкамі. Частка тэрыторыі забудавана.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000501 | Брацкія магілкі | 1941–1944 гады | в. Сноў | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000502 | Брацкія магілкі | 1918–1920 гады | в. Сноў | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000503 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Чанавічы, на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі ў в. Кіркаўшчына, на старых могілках | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Пухавіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000504 | Гарадзішча | пачатак 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Балачанка, 1,5–1,7 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Балачанка, урочышча Дубы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000505 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Белькавічы, 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, 100 м ад дарогі на в. Наваполле, каля могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000506 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Блонь | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000507 | Троіцкая царква, іканастас | XIX стагоддзе | в. Блонь | 3 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |



Царква пабудавана ў 1826 г. з драўлянага бруса на месцы храма, які згарэў у 1820 г. Капітальна адрамантавана ў 1873 г. на сродкі прыхаджан. Помнік архітэктуры класіцызму.

Сіметрычны прамавугольны ў плане з пяціграннай апсідай будынак на пяціметровай вышыні набывае крыжападобную форму. Над бабінцам званіца з высокім шпілем. Над сяродкрыжжам васьмігранны светлавы барабан са шлемападобным купалам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000508 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Блужскі Бор, 1,6 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000509 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Варшаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000510 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Гарэлец | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000511 | Фрагменты былой сядзібы Ельскіх:<br>тэрыторыя двара<br>водная сістэма | другая палова XVIII стагоддзя | в. Дудзічы | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000512 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Дудзічы, 0,2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, урочышча Кобань | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000513 | Брацкая магіла | 1920, 1944 гады | в. Дукора, урочышча Пушча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000514 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Дукора | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000515 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Кавалевічы, 1,3 км на паўночны захад ад вёскі, урочышча Гарадзішча (Маяк), 0,7 км ад левага берага вадасховішча Кавалёўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000516 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Мар'іна Горка, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000517 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Мацеевічы, 2,3 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Таль, на ўскраіне лесу, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000518 | Гарадзішча | III–V стагоддзі | в. Міжрэчча, на паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Волма, 0,1 км ад яе ўпадзення ў р. Свіслач | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000519 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Міжрэчча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000520 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Наваполле | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000521 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Навасёлкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000522 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Паддуб'е, 2,9 км на поўнач ад вёскі, у полі, мясцовая назва – Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000523 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Падкоссе | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000524 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Пярэжыр | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000525 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Рудзенск | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000526 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Светлы Бор, 0,6 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, у месцы яе ўпадзення ў р. Волма | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000527 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Старынкі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000528 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Церабуты, 1,1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, урочышча Курганне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000529 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Узляны | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Салігорскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Ж000530 | Помнік У.І. Леніну | 1979 год | г. Салігорск, пл. Леніна | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000531 | Помнік братам Цубам | 1941–1944 гады | в. Вялікі Лес | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000532 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Мяцявічы, 1 км на ўсход ад паўночнай ускраіны вёскі, на правым беразе Салігорскага канала | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000533 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Пагост 2, у цэнтры вёскі, злева ад дарогі (цэнтральнай вуліцы) у в. Быкава, у паўночнай частцы сучасных могілак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000534 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Прусы, на паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000535 | Магіла Д.Ц. Гуляева | 1943 год | г.п. Старобін, вул. Пагранічная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000536 | Пакроўская царква | 1795–1808 гады | в. Чыжэвічы, на могілках | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з дрэва на паўднёвай ускраіне вёскі, перабудавана ў 1895 г. Помнік драўлянага дойлідства з рысамі барока.

Асноўны аб'ём і званіца маюць ярусную кампазіцыю. Да асноўнага аб'ёму далучаны нізкія бакавыя прыбудовы з дадатковымі ўваходамі, да пяціграннай алтарнай часткі – рызніца. Уваходная частка вылучана бабінцам з навіссю ў выглядзе трохвугольнага франтона на тонкіх строеных калонах. Верхнія ярусы званіцы (васьміграннай ў плане) і зальная частка храма завершаны шатрамі і купаламі з галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі. Зальная частка трохсветлавая. У інтэр'еры столь плоская, акрамя цэнтральнай падкупальнай прасторы, дзе чацвярык другога яруса пераходзіць пры дапамозе ветразяў у васьмярык і перакрыты самкнёным гранёным скляпеннем. Хоры над уваходам падтрымліваюцца двума круглымі слупамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000537 | Брацкая магіла | 1943 год | г.п. Чырвоная Слабада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Слуцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000538 | Комплекс паштовай станцыі | сярэдзіна XIX стагоддзя | г. Слуцк, вул. Леніна, 153а, 155, 157, 159 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Комплекс узведзены паводле «ўзорнага» праекта 1843 г. Складаецца з чатырох аднапавярховых будынкаў, што ўтвараюць сіметрычную кампазіцыю з замкнёным унутраным дваром. Станцыйны дом прамавугольны ў плане. Флігелі злучаны з домам мураванымі сценамі з уязнымі брамамі. Будынак стайні П-падобны ў плане. Усе будынкі накрыты вальмавымі дахамі. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000539 | Будынак былога дома дваранскага сходу | XIX стагоддзе | г. Слуцк, вул. Леніна, 171 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак на высокім цокалі, накрыты вальмавым дахам. Галоўны ўваход аформлены чатырохкалонным порцікам. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. Помнік архітэктуры класіцызму.

З 1952 г. у будынку размяшчаецца Слуцкі краязнаўчы музей.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000540 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | г. Слуцк, вул. 14 Партызан, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000541 | Міхайлаўская царква | другая палова XVIII стагоддзя | г. Слуцк, вул. Сацыялістычная, 90 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Першапачаткова была пабудавана ў XVIII ст. у Старым горадзе як Канстанцінаўская. У канцы XVIII ст. перанесена ў прадмесце Востраў і пабудавана на месцы разабранай у 1795 г. Міхайлаўскай царквы. Пабудавана ў традыцыях народнага дойлідства з элементамі стыляў барока і позняга класіцызму. Спачатку была двухзрубная, складалася з асноўнага аб'ёму і алтарнай апсіды. У 1812 г. разрабавана французскімі войскамі. У канцы XIX ст. з захаду прыбудавана вежа-званіца. У 1990-я гг. храм стаў саборам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000542 | Гарадзішча | IX–XIII стагоддзі | г. Слуцк, у цэнтры горада, на правым беразе р. Случ, паміж вуліцамі Піянерская, Віленская і Леніна | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000543 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Амговічы, 0,4–0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе ручая Ніжняя Вясейка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000544 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Амговічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000545 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Баравая, 1 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Гольчычы, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000546 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Вялікая Падзер, 0,85 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Вясейка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000547 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Вялікая Сліва, 4 км на паўночны ўсход ад цэнтра вёскі, ва ўрочышчы Царковішча, справа ад дарогі ў в. Малая Сліва | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000548 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Гольчычы, 4 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Апаліны | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000549 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Горкі, 2,3 км на поўнач ад ўсходняй ускраіны вёскі, злева (50 м) ад дарогі да шашы Слуцк – Мікашэвічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000550 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э.–VII стагоддзе н.э. | в. Грэск, у цэнтры вёскі, на правым беразе р. Сава, побач з невялікай сажалкай, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000551 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Заграддзе, 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Мерашына | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| 613В000552 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Заграддзе, 1,1 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000553 | Рэшткі фрагментаў былой сядзібы Даманскіх:<br>парк<br>рэшткі млына | другая палова XVIII – XIX стагоддзе | в. Заляддзе | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000554 | Касцёл | 1649 год | в. Замосце | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны ў 1-й палове XVI ст. мясцовым дойлідам А.С. Вінкам-Ратомскім. У XVII ст. пры храме існавала місія езуітаў. У 1865 г. пераасвячоны пад праваслаўную царкву. Пасля 1917 г. выкарыстоўваўся як культурная і гаспадарчая ўстанова. З 1990-х гг. пасля рэстаўрацыі дзейнічае як касцёл. Помнік архітэктуры з рысамі рэнесансу і ранняга барока.

Будынак складаецца з квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму, асіметрычнай ссунутай адносна падоўжнай восі храма пяціграннай апсіды і высокага першага яруса вежы-званіцы (не захавалася). Незвычайна, пад вуглом, да апсіды далучаны нізкія сакрысціі. Высока ўзнятыя арачныя аконныя праёмы, магутнае канструкцыйнае вырашэнне, простыя двухсхільныя дахі надаюць храму абарончы характар.

| 613В000555 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Замосце, 3 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Жалязніца | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000556 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Івань, 1,1 км на паўднёвы захад ад вёскі, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000557 | Брацкая магіла | 1941 год | в. Кучына | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000558 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Леніна, на паўночнай ускраіне вёскі, злева ад дарогі да чыгункі, на левым беразе р. Морач, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000559 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Гольчычы, 3,5 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000560 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Падліпцы, 2,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад чыгункі Баранавічы – Асіповічы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000561 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Пакрашава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000562 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Паўлаўка, 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, у полі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000563 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Рабак, 2 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000564 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Рыжыца, 150 м на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад дарогі да шашы Старыя Дарогі – Слуцк | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000565 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Сорагі, 1 км на поўнач ад вёскі, 0,7 км на паўднёвы захад ад в. Волашава | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000566 | Курганны могільнік | IX–XIII стагоддзі | в. Сорагі, 0,9 км на поўнач ад вёскі, 0,7 км ад другой курганнай групы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000567 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Селішча | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

## Смалявіцкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000568 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Смалявічы, вул. Сацыялістычная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000569 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Смалявічы, вул. Сацыялістычная | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000570 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Смалявічы, вул. 40 год Перамогі | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000571 | Комплекс былой сядзібы «Алесіна»: дом з гаспадарчай прыбудовай бровар | пачатак XX стагоддзя | в. Алесіна | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000572 | Брацкая магіла | 1943–1944 гады | в. Волма | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000573 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Драчкава | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000574 | Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі | 1975 год | г. Жодзіна, вул. Ціміразева | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000575 | Помнік П.І. Купрыянаву | 1965 год | г. Жодзіна, пр. Леніна | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000576 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Каліта | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000577 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Карпілаўка | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000578 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VIII стагоддзе н.э. | в. Каменка, 1,8 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Каменка, урочышча Замак | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000579 | Былы манастыр базыльян:<br>Благавешчанская царква<br>манастырскі корпус | другая палова XVIII – першая палова XIX стагоддзя | в. Ляды | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Будаўніцтва царквы ў імя Благавешчання Божай Маці было пачата і скончана ў 1794 г. і ў тым жа годзе царква асвячона.

Галоўны фасад, упрыгожаны жывапіснай выявай Божай Маці і Св. апосталаў Пятра і Паўла, меў на франтоне чатыры драўляныя вазоны, у цэнтры быў жалезны крыж. Над прэсбітэрыем размяшчалася невялікая мураваная вежа з жалезным крыжам і драўлянымі па баках вазонамі. Да галоўнага алтара прымыкалі з бакоў дзве сакрысціі. Асноўны аб'ём і сакрысціі былі накрыты гонтай. Верх франтона, падаконнікі і карнізы накрыты бляхай.

Справа ад царквы размяшчалася званіца, складзеная з бруса, накрытая гонтай, дзе віселі чатыры званы: 17, 3 ¼ і два па 4 пуды.

У 1839 г. адбылося аб'яднанне уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. У 1841 г. лядансkаму манастыру надалі трэці клас. Быў зроблены якасны рамонт і да 1888 г. пытанняў аб вялікім рамонце не ўзнікала. Дробныя рамонты манастыр, відаць, праводзіў за свае сродкі.

Ноччу 12–13 лістапада 1888 г. пад час вялікай буры абвалілася франтонная частка галоўнага фасада царквы. Тэрмінова былі праведзены некаторыя работы, каб вільгаць не трапляла ўнутр храма, а праект на рамонт падрыхтаваны толькі восенню наступнага года. Рамонтныя работы пачаліся ў сакавіку 1898 г. і завершаны 13 мая 1900 г.

Царква лядансkага манастыра была закрыта ў 1960-я гг. Яе выкарыстоўвалі пад збожжасховішча. У той час купал быў разабраны, страчаны іканастас, жывапіс знаходзіўся ў дрэнным стане.

Ад першапачатковага храма, узведзенага ў 1794 г., захаваліся план, архітэктурнае вырашэнне інтэр'ера і манументальны жывапіс. Фасады царквы перабудаваны ў канцы XIX ст.: найбольш быў зменены галоўны фасад, а менавіта франтонная частка. Выгляд першапачатковага франтона занатаваны на чарцяжы да другога праекта перабудовы. Відавочна, франтон быў двух'ярусны, на тымпане з нішамі, у цэнтральнай магла знаходзіцца выява Божай Маці, а па баках фігуры Св. апосталаў Пятра і Паўла.

Бакавыя фасады перабудоўваліся двойчы. Першы раз у канцы XIX ст., калі былі зменены памеры акон і зроблены трохвугольныя франтоны на тарцовых сценах прэсбітэрыя. Пад час рамонту даху ў 1960-я гг. франтоны былі разабраны і зменены абрыс даху.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000580 | Курганны могільнік | IX–XII стагоддзі | в. Тадуліна,<br>0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000581 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Масцішча | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000582 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2 | IX–XII, XI–XIII стагоддзі | в. Пеліка,<br>5 км на поўнач ад вёскі, абапал дарогі<br>на в. Трубянок,<br>перад выездам на шашу М-1, урочышча Доўгі Барок | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000583 | Брацкая магіла | 1941, 1944 гады | в. Пекалін | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000584 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Пліса | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000585 | Гарадзішча | IV стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Прылепы, у вёсцы | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000586 | Брацкая магіла | 1944 год | в. Студзёнка | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000587 | Гарадзішча | IV стагоддзе да н.э. – IX стагоддзе н.э. | в. Туры,<br>1,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе,<br>урочышча Французскае Умацаванне | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000588 | Гарадзішча | трэцяя чвэрць 1-га тысячагоддзя н.э. | в. Іскра,<br>0,3 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Г000589 | Фрагменты былой сядзібы:<br>жылы дом<br>стайня<br>малочня | пачатак XX стагоддзя | в. Шыпяны | 3 | 16.03.1994<br>№ 5 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000590 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Юр'ева | 3 | 25.02.2003<br>№ 82 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000591 | Курган Славы | 1969 год | 22-і км шашы Мінск – Масква | 3 | 24.10.2001<br>№ 68 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## Старадарожскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000592 | Гарадзішча | I–IV стагоддзі | в. Асавец, 1,2 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Гарадзішча | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000593 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Будзенічы, 4,5 км на захад ад вёскі, урочышча Курганы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000594 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Дражна, на паўднёвай ускраіне вёскі, на сучасных могілках, злева ад дарогі ў в. Падарэссе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000595 | Курганны могільнік-1, курганны могільнік-2, курганны могільнік-3 | X–XIII стагоддзі | в. Лагі, 0,4 км на захад ад вёскі, 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000596 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Ляўкі, на заходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000597 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Новыя Ісаевічы, 1,6 км на ўсход ад вёскі, урочышча Гарадніца | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000598 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Пасека, 2,8 км на захад ад вёскі, урочышча Курганне | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000599 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Пасека | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000600 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Паставічы, на беразе р. Арыжня, 2 км на паўднёвы захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000601 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Прусы, 1,2 км на захад ад паўночнай ускраіны вёскі, урочышча Курганы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000602 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Рабак, 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Сорагі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000603 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Рабак, 0,6 км на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000604 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | в. Сінягова | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578, 03.09.2008 № 1288 |

## Стаўбцоўскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000605 | Брацкая магіла | 1944 год | г. Стоўбцы, пл. Бессмяротнасці | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000606 | Магіла А.М. Касценчыка | 1916 год | г. Стоўбцы, вул. Калгасная, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Б000607 | Коласаўскі заказнік | 1972 год | тэрыторыя, якая прылягае да мемарыяльных сядзіб «Альбуць», «Ласток», «Смольня», «Бервянец» | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000608 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | I стагоддзе | в. Васілеўшчына, 0,2 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000609 | Царква Іаана Прадцечы | 1742 год | в. Вішнявец | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудавана з цэглы як уніяцкая. У 1832 г. пераасвячона ў праваслаўную, у 1852 г. перабудавана. Помнік архітэктуры барока.

Будынак базілікальнага тыпу, блізкі да квадрата ў плане, з закругленай апсідай, арыентаванай на ўсход. Сцены звонку і ўнутры расчлянёны пілястрамі. Аконныя праёмы з раструбамі ўнутр. Галоўны фасад сіметрычнай двух'яруснай кампазіцыі. Ярусы падзелены прафіляваным поясам, які з'яўляецца працягам карнізаў бакавых нефаў. Пластычнае ўбранне фасада сканцэнтравана ў верхнім ярусе: плоскія арачныя нішы і паўцыркульныя аконныя праёмы з прафіляванымі ліштвамі. Цэнтральная кампазіцыйная вось вылучана какошнікам. Па баках будынак увянчаны цыбулепадобнымі галоўкамі на высокіх цыліндрычных барабанах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Г000610 | Руіны былой сядзібы:<br>парк<br>вадаём<br>сядзібны дом<br>руіны свірна<br>камера для сушкі лёну<br>гаспадарчыя пабудовы | першая палова XIX стагоддзя | в. Вялікі Двор | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000611 | Былы кальвінскі збор | 1590 год, пачатак XVII стагоддзя | в. Дзераўная | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Мураваны храм заснаваны ў 1590 г. па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла і яго жонкі Яўфіміі Вішнявецкай паводле тэстаменту Яўфіміі Вярбіцкай (жонкі валынскага ваяводы Андрэя Вішнявецкага). У 2-й палове XVII ст. прыбудавана вежа. Рэстаўрыраваўся ў пачатку XVIII ст. У XVIII ст. збудавана новая вежа. Помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу.



Храм аднавежавы прамавугольны ў плане з пяціграннай алтарнай часткай і прыбудаванымі да яе з бакоў прамавугольнымі сакрысціямі. Галоўны фасад вылучаны трох'яруснай вежай, увянчанай шатром. Ніжні ярус чатырохгранны. Вуглы вежы ў ніжняй частцы ўмацаваны контрфорсамі. Верхнія ярусы чатырохгранны і васьміграння. Грані апрацаваны плоскімі арачнымі нішамі. Сцены асноўнага аб'ёму ўмацаваны контрфорсамі. Вокны паўцыркульныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен.

Будынак перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках з распалубкамі над аконнымі праёмамі. Алтарная частка адкрываецца ў асноўнае памяшканне вялікім арачным праёмам. Бабінец і сакрысціі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У асноўным памяшканні над уваходам хоры, якія падтрымліваюцца чатырма калонамі. На хоры вядуць дзве бакавыя лесвіцы, размешчаныя ў тоўшчы сцен. Пад вокнамі – плоскія арачныя нішы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000612 | Мемарыяльны комплекс «Дзяржынава» | канец XIX стагоддзя | хутар Дзяржынава | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Ж000613 | Помнік Ф.Э. Дзяржынскаму | 1977 год | хутар Дзяржынава | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000614 | Стаянка перыяду неаліту | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Кругліца, 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Нёман, у лесе, урочышча Лысая Гара | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000615 | Курганны могільнік | X– XIII стагоддзі | в. Кругліца, 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, абапал дарогі ў в. Заямнае | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000616 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Кругліца, 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Жукаў Барок, у лесе | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000617 | Стаянка перыяду каменнага веку | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Мікалаеўшчына, на паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000618 | Касцёл Успення Дзевы Марыі | пачатак XX стагоддзя | в. Налібакі | 3 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000619 | Успенская царква з брамай і агароджай | 1590 год, пачатак XVII стагоддзя | в. Новы Свержань | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Узведзена ў 1743 г. як мураваны касцёл пры заснаваным князем Міхаілам Радзівілам манастыры базыльян на месцы драўлянай царквы (1590 г.). Пасля скасавання ордэна ў 1833 г. пераасвячона ў праваслаўную царкву. У час Вялікай Айчыннай вайны была пашкоджана: купал-званіца разбіты снарадамі, у некаторых месцах адбіта тынкоўка, прабіты дах. У канцы 1940-х гг. адрамантавана. Да 1980-х гг. не дзейнічала. Помнік архітэктуры барока.

Храм аднавежавы, складаецца з прамавугольных у плане асноўнага і алтарнага аб'ёмаў. Па баках апошняга прыбудаваны рызніцы. Над бабінцам надбудавана квадратная ў плане вежа, увянчаная фігурнай барочнай галоўкай. Грані яе апрацаваны плоскімі арачнымі



нішамі, якія імітуюць вокны. Вянчае вежу фігурная барочная галоўка. Сцены царквы ў верхняй частцы члянёны паўцыркульнымі вокнамі з раструбамі ў абодва бакі. Адзіным дэкаратыўным элементам фасада з'яўляецца партал бакавога заходняга ўвахода. Інтэр'ер зальнага тыпу. У паўночнай частцы асноўнага аб'ёму вылучаны бабінец з двума бакавымі ўваходамі. Хоры падтрымліваюцца дзвюма драўлянымі калонкамі. Перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю.

| 612Г000620 | Петрапаўлаўскі касцёл з агароджай | сярэдзіна XVI стагоддзя | в. Новы Свержань | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Новы Свержань увайшоў у склад уладанняў Радзівілаў у 1575 г. 17 кастрычніка 1588 г. Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка даў фундуш на будаўніцтва і абсталяванне тут касцёла. Верагодна, як паведамляюць інвентары, у тым жа 1588 г. і пачалося будаўніцтва парафіяльнага касцёла Св. Пятра і Паўла. Як доўга ішло будаўніцтва, звестак не захавалася. Вядома, што ў 1600 г. касцёл ужо функцыянаваў. За гісторыю існавання касцёл не зведаў значных перабудоў. У 1818 г. пад час буры быў знесены дах і часткова вежа. Пасля гэтага будынак быў адрамантаваны, асобна пастаўлена званіца, якая згарэла пры пажары 1890 г. Рамонты адбываліся ў 1828, 1856 гг. У 1864 г. закрыты, у 1901 г. адкрыты. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах, у 1988 г. вернуты каталікам. Помнік архітэктуры рэнесансу з элементамі готыкі.

Касцёл пабудаваны ў форме лацінскага крыжа. Аднанефавы з дзвюма бакавымі капліцамі: Прасвятой Багародзіцы (справа) і Св. Антонія (злева). Прэсбітэрый завершаны паўкруглай апсідай. З прытвора лесвіца праводзіць на хоры, якія адкрываюцца ў неф аркадай. На галоўным фасадзе узвышаецца квадратная ў плане трох'ярусная вежа.

| 612Г000621 | Касцёл Св. Іосіфа | пачатак XX стагоддзя | в. Рубяжэвічы | 2 | 27.01.2004 № 93 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Касцёл пабудаваны ў 1907–1911 гг. у характэрным для таго часу неагатычным стылі. Дазвол улад на будаўніцтва касцёла ў Рубяжэвічах быў атрыманы ў 1905 г. Участак пад будаўніцтва плошчай 6 дзесяцін быў ахвяраваны сялянамі Рубяжэвіцкай воласці. Значныя сродкі для будаўніцтва ахвяравалі памешчыкі Ленскія, уладальнікі маёнтка Сула, іншыя мясцовыя землеўладальнікі і прыхаджане. Духоўная кансісторыя выдаткавала на будаўніцтва 1000 рублёў. Праект касцёла не выяўлены. Вядома толькі, што ён быў узгоднены Будаўнічым аддзяленнем Мінскага губернскага праўлення 4 студзеня 1907 г.

Узводзілі касцёл з часанага каменю. Завяршэнне будаўніцтва і асвячэнне касцёла адбылося 30 кастрычніка 1911 г. Аднак працягваліся яшчэ работы па будаўніцтву трох прастолаў, спавядальні. Вакол касцёла было пачата ўзвядзенне мураванай агароджы, завершанай у 1924 г.

Прамавугольны ў плане з васьміграннай апсідай, да якой сіметрычна прыбудаваны сакрысціі. Па баках галоўнага фасада ўзвышаюцца магутныя трох'ярусныя чацверыковыя вежы, умацаваныя па вуглах ступеньчатымі контрфорсамі і завершаныя востраканечнымі шатрамі. Тарэц нефа паміж вежамі заверша-

ны двухсхільным зубчастым шчытом з круглым вітражным акном-ружай у цэнтры і бетонным лацінскім крыжам. Уваход вырашаны высокім гатычным парталам, фланкіраваным аналагічнымі аконнымі праёмамі. Высокія спічастыя аконныя праёмы рытмічна чляняць бакавыя фасады. Унутраная прастора падзелена васьміграннымі слупамі на тры нефы. Цэнтральны неф больш высокі, бакавыя – ніжэйшыя, перакрытыя спічастымі скляпеннямі з нервюрамі. У неагатычным стылі былі выкананы драўляны алтар у выглядзе спічастай аркі з вімпергам, спавядальні, амбон.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000622 | Стаянкі | 3-е – 2-е тысячагоддзі да н.э. | в. Русаковічы, 0,3–1,5 км на захад, на поўнач і на ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000623 | Селішчы | 3-е тысячагоддзе да н.э. | в. Сверынава, на поўдзень, усход і паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Нёман | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000624 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Сула, 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на левым беразе р. Сула | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000625 | Рэшткі былой сядзібы:<br>фрагменты парку<br>вадаём<br>капліца<br>гаспадарчыя пабудовы<br>афіцына<br>лядоўня | канец XVIII – пачатак XX стагоддзя | в. Сула | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |

## Уздзенскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000626 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Валяр’яны, 0,4 км на поўнач ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 612Г000627 | Рэшткі былой сядзібы Наднёман (у межах адводу зямельнай пляцоўкі) | 1830-я гады | в. Наднёман | 2 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

Сядзібай Наднёман валодалі тры пакаленні роду Наркевічаў-Ёдкаў – Ануфрый (1818–1887), яго сын Якуб (1848–1905), пазней яго дзеці Адам і Конрад.

Мемарыяльны характар сядзібы Наднёман звязаны з жыццём і дзейнасцю Якуба Наркевіча-Ёдкі, вядомага беларускага медыка і прыродазнаўцы. Яго дзейнасць непасрэдна ў Наднёмане адносіцца да 1888–1905 гг. У гэты час ён стварыў тут метэаралагічную станцыю, адкрыў у сядзібе санаторый. Тут ён праводзіў разнастайныя доследы: вымярэнне патэнцыялу атмасфернай электрычнасці,



хуткасці руху воблакаў, вільготнасці глебы, бесправадную перадачу электрычнасці, лячэнне электратокамі, прымяненне электрычнасці для дыягностыкі розных захворванняў і г.д. Ён быў членам розных навуковых таварыстваў Расіі і Еўропы, лаўрэатам шэрага навуковых прэмій, многія яго работы адзначаны ганаровымі медалямі.

Сядзіба Наднёман захавалася часткова. Дом, хутчэй за ўсё, быў перароблены з вінакурні. Уяўляе сабой выцягнуты аднапавярховы аб'ём прыкладна 30х15 м на высокім цокалі з двума масіўнымі эркерамі ў цэнтры галоўнага і дваровага фасадаў і двума невялікімі эркерамі па баках галоўнага фасада. Да тарцоў асноўнага аб'ёму асіметрычна прымыкаюць дзве вежы (адна каля 10 м, другая каля 30 м вышынёй). Бакавыя эркеры завяршаліся фігурнымі атыкамі. Завяршэнні ўсіх эркераў аформлены невялікімі зубчастымі парапетамі. Гэтыя зубчастыя парапеты, як і падкрэслена завостраныя скошаныя сілуэты атыкаў, што завяршаюць эркеры, асабліва дзве бакавыя вежы, якія асіметрычна фланкіруюць асноўны аб'ём, ствараюць агульнае ўражанне неагатычнага стылю.

Уязная брама пабудавана таксама ў неагатычным стылі. Верагодна, да гэтага ж будаўнічага перыяду адносяцца некаторыя гаспадарчыя будынкі (напрыклад аранжарэя).

Асноўныя гаспадарчыя будынкі (кароўнікі, свірны, гумны і г.д.) размешчаны ўбаку ад сядзібнага дома, выкананы з бутавага каменю і датуюцца апошняй чвэрцю XIX ст.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000628 | Фрагменты былой сядзібы «Кухцічы»:<br>кальвінскі збор<br>парк<br>афіцына<br>гаспадарчыя пабудовы<br>стайня<br>млын | канец XVIII – пачатак XX стагоддзя | пас. Первамайск | 2 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |



Сядзіба сфарміравалася ў 1-й палове XIX ст. як рэзідэнцыя роду Завішаў.

Пра былую веліч сядзібы сведчыць уязная алея, якая пачыналася далёка ў полі. На гэтай восі размешчана незвычайна шырокая (да 16 м) трохрадная галоўная алея сядзібы з уязной брамай. Яна перасякае сядзібу і выводзіць на мост цераз раку. Уздоўж алеі выцягнуты прамавугольны парк, за ім ідзе парадны двор з палацам. Завяршаецца вось гаспадарчым дваром.

Палацавы ансамбль складаўся з трох аднапавярховых будынкаў: галоўнага корпуса і двух бакавых флігелей, размешчаных сіметрычна і злучаных з корпусам каланаднымі галерэямі (бакавыя флігелі захаваліся). Ансамбль павернуты ў бок, процілеглы параднаму заезду. Павышаная сярэдняя частка палаца была падкрэслена порцікам на чатырох дарычных калонах з трохвугольным франтонам. Па краях з тылу выступалі бакавыя крылы, надаючы будынку ў плане выгляд падковы.

Пакоі, салоны дома ўпрыгожвалі ляпніна, дубовыя панэлі, старажытная дарагая мэбля, мастацкія зборы ранніх часоў. Быў багаты архіў. У вялікай аранжарэі вырошчваліся розныя кветкавыя і экзатычныя расліны.

Флігелі аднолькавыя, у плане прамавугольныя, з анфіладнай планіроўкай і рэгулярным чляненнем сцен аконнымі праёмамі. Спалучаюць формы класіцызму з мясцовымі прыёмамі бутавага будаўніцтва.

Перад палацам быў вялікі газон з кругам у цэнтры, ахоплены па перыметры ліпавымі алеямі. Адзіночна раслі чорныя таполі Italica. Паркавы фасад будынкаў абвіваў вінаград дзявочы пяцілісточкавы. Па баках і з тылу палац абкружаў ландшафтны парк з розным дрэвастоем.

На гаспадарчым двары захаваліся млын, стайня і свіран.

Сярод старых дрэў у найбольш прыпаднятай частцы сядзібы размешчана капліца-пахавальня, якая мае характэрныя рысы храма-крэпасці, складаны план. Асноўны аб'ём уяўляе сабой дванаццаціграннік з вельмі тоўстымі сценамі і шатровым дахам, да якога прымыкаюць прамавугольная алтарная частка і прамавугольны прытвор. Фасад прытвора фланкіруюць дзве круглыя з шатровымі завяршэннямі вежы, якія надаюць будынку выгляд абарончага збудавання. Фасад расчлянёны пілястрамі, над уваходным праёмам – ляпніна з сімвалічнымі выявамі пачатку XIX ст. Сцены ратонды і алтарнай часткі плоскія, пазбаўлены якіх-небудзь чляненняў, толькі прарэзаны аконнымі праёмамі. Унутры прытвор перакрыты крыжовым скляпеннем, алтарная частка – цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Над асноўным памяшканнем пакладзена бэлечнае перакрыцце з выпуклай столлю. Інтэр'ер храма меў класіцыстычны выгляд.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000629 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – V стагоддзе н.э. | в. Цеплень, на паўночнай ускраіне вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000630 | Курганны могільнік | XI–XIII стагоддзі | в. Таўкачэвічы, 3 км на паўночны ўсход ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Г000631 | Фрагменты сядзібна-паркавага комплексу:<br>парк<br>сажалкі<br>свіран<br>стайня | першая палова XIX стагоддзя | в. Таўкачэвічы | 3 | 16.03.1994 № 5 | 14.05.2007 № 578 |

## Чэрвеньскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000632 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г. Чэрвень, вул. Кашавога, на могілках | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000633 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Дыя, 1,5 км на поўнач ад вёскі, на ўскраіне лесу, абапал дарогі ў в. Новыя Зялёнкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000634 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Дубовы Лог, перад уездам у вёску, 0,25 км злева ад дарогі, урочышча Калядкі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000635 | Гарадзішча | V стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Гарадзішча, на ўсходняй ускраіне вёскі, на высокім правым беразе р. Уса | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000636 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Гарадок, 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, урочышча Гарадок, 0,6 км справа ад дарогі з в. Рэчкі ў в. Гарадок | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000637 | Гарадзішча | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Грабёнка, 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, урочышча Акопы | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000638 | Камень-следавік | VI–X стагоддзі | в. Верхлес, на могілках | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000639 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Замасточча, 1,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Валадута, урочышча Скуратоўшчына | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000640 | Брацкая магіла | 1919, 1941–1944 гады | в. Зенанполле | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000641 | Брацкія магілы | 1941–1944 гады | в. Калодзежы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000642 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Клінок | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000643 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Клінок, 4,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, паміж дарогамі ў вёскі Слабада і Хочын | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000644 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Красіна, 0,4 км на паўночны захад ад вёскі | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000645 | Брацкія магілы | 1920, 1944 гады | в. Нежаўка | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613В000646 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Раваніцкая Слабада, 0,9 км на ўсход ад вёскі, па баках дарогі ў в. Бышанка, на правым беразе р. Уша | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000647 | Брацкія могілкі | 1942–1944 гады | в. Раваніцкая Слабада | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 612Г000648 | Былая сядзіба:<br>палац<br>два флігелі<br>парк | другая палова XIX стагоддзя | в. Раванічы | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Комплекс створаны ў маёнтку мінскага маршалка Л. Слатвінскага. У 1853–1859 гг. быў пабудаваны палац, які стаў кампазіцыйным цэнтрам сядзібы, шэраг мураваных службовых і гаспадарчых пабудоў; на месцы старога саду закладзены пейзажны парк.

Сядзіба займае даволі высокую тэрасу, яе пакаты схіл спускаецца да р. Уша, дзе створана сістэма вадаёмаў. Плошча парку каля 11 га.

Палац пабудаваны на краі схілу рачной тэрасы. Будынак прамавугольны ў плане, аднапавярховы, на высокім жылым цокалі. Цэнтральная частка двухпавярховая, вылучаная порцікамі дарычнага ордэра. Пад порцікам з параднага фасада знаходзіцца тэраса з балюстрадай, на якую вяла двухмаршавая лесвіца. На балюстрадзе і на слупах уздоўж лесвіцы ўстаноўлены дэкаратыўныя вазы. Пад балюстрадай, як відаць на фотаздымку 1914 г., знаходзілася каменная лаўка з вялікай паўкруглай утульнай нішай. Порцік з тыльнага фасада меў на сярэдзіне вышыні балкон з балюстрадай. З тэрасы ў парк спускаецца лесвіца, пад тэрасай, як і на галоўным фасадзе, афармлены ўваход у цокальны паверх.

Знешні дэкор палаца стрыманы: вуглавыя лапаткі, карніз, сандрыкі. Фасады плоскія, рытмічна падзелены прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Палац размяшчаўся ў глыбіні парку. Пабудова параднага двара была сіметрычна-восевая. На адной восі з палацам размяшчалася ўязная брама. Двор адкрыты, даволі вялікі, фланкіраваны двума прамавугольнымі ў плане аднапавярховымі флігелямі з невысокімі двухсхільнымі дахамі. Сцены будынкаў чляНёны пілястрамі; вокны прамавугольныя ў плоскіх арачных нішах. Паўночны флігель служыў кухняй, паўднёвы – жылым домам.

У цэнтры партэра быў вялікі авальнай формы газон. Партэр з бакавымі флігелямі быў ахоплены кальцавым прагулачным маршрутам.

У аснову кампазіцыі пейзажнай часткі парку за палацам пакладзены тры радыяльныя перспектывы ў бок штучных вадаёмаў. Па восі палаца размяшчалася вялікая паляна, якая плаўна спускалася да вадаёма. Аднак гэта кампазіцыя ў апошні час парушана суцэльнай пасадкай дрэў. Парк быў абкружаны вялікім кальцавым маршрутам, які пачынаўся ад уязной брамы і заканчваўся ля ставоў.

Акрамя палаца, дзвюх афіцын і былога гаража на краі парку каля дарогі размяшчаецца невялікая пабудова (13х7 м) у выглядзе своеасаблівага паркавага павільёна. Сцены будынка рэгулярна падзелены пілястрамі, вокны шырокія, з лучковымі завяршэннямі (знізу закладзены на дзве трэці). Будынак служыў складам спірту. Спіртзавод размешчаны праз дарогу. Будынак неаднаразова перабудоўваўся. На гаспадарчым двары захаваліся два будынкі з чырвонай цэглы XIX ст. Адзін з іх прамавугольны ў плане (24х16 м), другі складаецца з двух прамавугольных аб'ёмаў.

Сядзіба адносна добра захавалася. Палац, які згарэў у гады вайны, адноўлены ў 1952 г. Рэканструявана водная сістэма.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613Д000649 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | в. Раванічы | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 613Д000650 | Брацкая магіла | 1941–1944 гады | г.п. Смілавічы, вул. Савецкая | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 613В000651 | Курганны могільнік | X–XIII стагоддзі | в. Стары Пруд,<br>1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад шашы Мінск – Магілёў, урочышча Батураўшчына | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613Д000652 | Месца былой сядзібы С. Манюшкі:<br>фрагмент уязной алеі<br>рэгулярны парк<br>тэрыторыя былой сядзібы ўздоўж р. Волма | пачатак XIX стагоддзя | в. Убель | 3 | 16.03.1994<br>№ 5 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 613В000653 | Гарадзішча перыяду ранняга жалезнага веку | VI стагоддзе да н.э. – VII стагоддзе н.э. | в. Уборкі,<br>0,7 км на поўдзень ад вёскі, урочышча Гарадок (Акопы), на правым беразе р. Уша | 3 | 04.12.2002<br>№ 79 | 14.05.2007<br>№ 578 |

## ГЛАВА II

### МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ РУХОМЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| Шыфр | Назва каштоўнасці | Датаванне каштоўнасці | Месцазнаходжанне каштоўнасці | Катэгорыя каштоўнасці | Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады | Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|

### Клецкі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 623Н000027 | Скарб манет Расійскай імперыі (12 адзінак) | канец XIX–пачатак XX стагоддзя | Клецкі раённы гісторыка-краязнаўчы музей | 3 | 30.01.2001<br>№ 63 | 14.05.2007<br>№ 578 |

### Нясвіжскі раён

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 621Н000028 | Скарб сярэбраных манет (30 адзінак ) | 1878–1914 гады | Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» | 1 | 10.02.1999 № 50, 15.12.1999 № 55 | 14.05.2007 № 578 |

## ГЛАВА III

### НЕМАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (НЕЗАЛЕЖНА АД ПАХОДЖАННЯ)

| **Шыфр** | **Назва каштоўнасці** | **Датаванне каштоўнасці** | **Месцазнаходжанне каштоўнасці** | **Катэгорыя каштоўнасці** | **Дата і нумар пратакола пасяджэння Навукова-метадычнай рады** | **Дата і нумар пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Капыльскі раён** | | | |
| 63БК000053 | Калядны абрад «Цары» | | в. Семежава | Б | 19.12.2007 № 138 | 03.09.2008 №1288 |
| | | | **Любанскі раён** | | | |
| 63БК000054 | Мясцовы песенны стыль выканання традыцыйных абрадавых і пазаабрадавых песень аўтэнтычнымі фальклорнымі гуртамі «Журавушка», «Глыбокія крыніцы», «Паваляйкі» | | вёскі Закальное, Вобчын і Ямінск | Б | 27.03.2008 № 141 | 03.09.2008 №1288 |

Двухпавярховы прамавугольны ў плане флігель накрыты вальмавым дахам. Фасады падзелены міжпаверхавым карнізным поясам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. На тарцовым фасадзе захаваліся руставаныя лапаткі. Пад дахам праходзіць прафіляваны карніз.

Аднапавярховыя выцягнутыя ў плане гандлёвыя рады накрыты двухсхільным дахам. Паўколам агінаюць былы касцёл бернардзінцаў. Галоўны фасад вырашаны плоскасна і падзелены на два ярусы карнізам, вертыкальна чляніцца вялікімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Фасад завершаны шматслойным карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000082 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Кісялёва, 28 | 3 | 09.01.2005 № 105 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000083 | Комплекс будынкаў піваварнага завода «Аліварыя» | 1864 год | вул. Кісялёва, 30 | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |



Комплекс будынкаў (тры асноўныя і некалькі дапаможных), абнесеных глухой цаглянай агароджай, размешчаны на тэрыторыі 2,5 га. Уздоўж вул. Кісялёва вылучаюцца варачны корпус, карпусы саладоўні і соладасушні (1940 г.). Будынкі складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, завершаны рознымі па вышыні трохвугольнымі шчытамі. У дэкаратыўным афармленні выкарыстаны плоскія лапаткі, карнізныя паяскі. Фасады чляняцца прамавугольнымі і аконнымі праёмамі. Па вул. М. Багдановіча размешчаны адміністрацыйна-вытворчы корпус. Будынак двухпавярховы складаны ў плане. Фасад чляніцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі і гарызантальнымі цягамі пад вокнамі першага і другога паверхаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000084 | Царква Марыі Магдаліны і Старажоўская брама | 1847 год | вул. Кісялёва, 42 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000085 | Цэнтральная пешаходная зона плошчы Якуба Коласа, абмежаваная праезнымі часткамі пр. Незалежнасці – вул. Чырвоная – вул. Якуба Коласа – перад галоўнымі фасадамі будынкаў на пр. Незалежнасці, 47 і 49 | 1972 год | пл. Якуба Коласа | 3 | 06.04.2000 № 58 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Ж000086 | Помнік Якубу Коласу | 1972 год | пл. Якуба Коласа | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000087 | Асноўны корпус (з тэхналагічным абсталяваннем і існуючымі тэхналагічнымі прыбудовамі) хлебазавода | канец XIX стагоддзя | вул. Крапоткіна, 33 | 3 | 04.03.1999 № 51 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000088 | Будынак | XIX стагоддзе | вул. Крапоткіна, 43 | 3 | 30.04.2002 № 73 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000089 | Комплекс будынкаў інфекцыйнай бальніцы (8 карпусоў) | пачатак XX стагоддзя | вул. Крапоткіна, 76 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000090 | Будынак | 1951–1953 гады | вул. Куйбышава, 10 | 3 | 30.01.2001 № 63 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000091 | Будынак Літаратурнага музея Янкі Купалы | 1944–1945 гады | вул. Янкі Купалы, 4 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000092 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Янкі Купалы, 5 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Ж000093 | Помнік М. Казею | 1959 год | сквер па вул. Янкі Купалы | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Ж000094 | Помнік Янку Купалу | 1972 год | парк імя Янкі Купалы | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 713В000095 | Курганны могільнік | XI стагоддзе | вул. Ландара (каля дома № 60) за чыгуначным насыпам | 3 | 04.12.2002 № 79 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000096 | Бульвар<br>бюст С.І. Грыцаўца | 1951 год | вул. Леніна (ад пр. Незалежнасці да вул. К.Маркса) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |





У гады Вялікай Айчыннай вайны забудова гэтай часткі горада моцна пацярпела. На фотаздымку, зробленым у 1944 г., відаць, што на вул. Леніна ад праспекта да пл. Свабоды ад многіх будынкаў засталіся толькі руіны.

Бульвар на вул. Леніна ад вул. Інтэрнацыянальнай да вул. К. Маркса быў зроблены на аснове Генеральнага плана г. Мінска 1946 г. Аўтарамі агульнага вырашэння былі архітэктары Н. Трахтэнберг і Г. Парсаданаў, аўтар праекта азелянення вул. Леніна архітэктар М. Андросаў; аўтар рашоткі агароджы бульвара архітэктар Шміт; у 1949 г. архітэктарам Р. Абразцовай быў зроблены праект добраўпарадкавання бульвара. Да 1952 г. рэканструкцыя вул. Леніна закончана, вуліца была пашырана адносна першапачатковай шырыні амаль у два разы, быў зроблены бульвар.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000097 | Ансамбль будынкаў і бульвар па вул. Леніна ў квартале пр. Незалежнасці – вул. Інтэрнацыянальная | 1950–1956 гады | вул. Леніна, 2, 3, 4, 5, 6, 8 | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |





Будаўніцтва жылых дамоў па вул. Леніна было завершана ў 1956 г. Пры рэалізацыі праекта некаторыя формы архітэктурна-мастацкага дэкору былі спрошчаны. Гэта, відаць, тлумачылася многімі прычынамі: эканамічнымі разлікамі, тэхнічнымі магчымасцямі, новым спосабам абліцоўкі сцен керамічнымі пліткамі і інш. Безумоўна, асаблівую ўвагу аўтар удзяляў вуглавому завяршэнню дома № 2, якое адкрывалася на пл. Свабоды. Па задуме архітэктара Г.У. Заборскага вуглавы шасціпавярховы будынак удала ўпісваўся б у існуючую сістэму кульмінацыйных вузлоў плошчы. Аднак пры будаўніцтве задуманы шпіль у завяршэнні вежы так і не з'явіўся, напэўна, палічылі яго за архітэктурную празмернасць, барацьба з якімі пачалася ў гэты перыяд.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000098 | Будынак | 1947–1954 гады | вул. Леніна, 9 | 3 | 23.09.2003 № 89 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000099 | Будынак | 1930-я гады, 1950-я гады | вул. Леніна, 15 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000100 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Леніна, 15а | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000101 | Будынак | 1950-я гады | вул. Леніна, 16/33 (вул. К. Маркса) | 3 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000102 | Будынак Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі | 1950-я гады | вул. Леніна, 20 | 2 | 20.01.2000 № 56 | 14.05.2007 № 578 |



Будынак сучаснага Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі праектаваўся як Дзяржаўная карцінная галерэя (аўтар праекта М.І. Бакланаў).

У тлумачальнай запісцы да праектнага задання аўтарам адзначалася: «Пры праектаванні было знойдзена такое архітэктурна-кампазіцыйнае вырашэнне, якое дало магчымасць горадабудаўніча вырашыць задачу забудовы гэтага адрэзку і дасягнуць цэльнага архітэктурнага вырашэння ў аб'ёмнай кампазіцыі ўсёй забудовы, у адзіным комплексе. Будынак галоўным фасадам арыентаваны ў бок вул. Леніна. Уваход у будынак займае самае выгаднае месца і падкрэслены лоджыяй. Сцяна ў глыбіні лоджыі ўзбагачаецца ляпным тэматычным гарэльефам, выява якога будзе выканана на фоне плоскасці сцяны, апрацаванай смальтай».

Будаўніцтва завершана ў 1957 г. Варта адзначыць, што ў ходзе будаўніцтва былі ўнесены некаторыя карэктывы ў першапачаткова запраектаванае архітэктурнае афармленне. Так, у прыватнасці, на галоўным фасадзе былі выкананы іншага малюнка капітэлі калон і пілястраў, ва ўваходнай частцы адсутнічае тэматычны гарэльеф, зменены скульптурныя кампазіцыі.

Адначасова ў 1956–1958 гг. быў распрацаваны праект абсталявання мастацкага музея (аўтар праекта архітэктар Б. Грубін).

У мастацкім вырашэнні музея цесна перапляліся дзве тэмы – трыумф вялікай перамогі (урачыстасць і манументальнасць) і храм-сховішча мастацкіх скарбаў. Галоўны фасад уяўляе сабой сінтэз архітэктуры і скульптурнай пластыкі, перададзеных з высокай эстэтычнай выразнасцю.

У працэсе эксплуатацыі будынка стала відавочна, што прадугледжаных экспазіцыйных плошчаў, сховішчаў, службовых кабінетаў не хапае. У 1989 г. на баланс музея перададзены дом № 25 па вул. Кірава, у 1999 г. – будынак № 22 па вул. Леніна. У 2007 г. уведзены ў эксплуатацыю новы музейны комплекс, што завяршыла першы этап генеральнай рэканструкцыі музея.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000103 | Будынак | 1950-я гады | вул. Леніна, 22 | 3 | 20.01.2000 № 56 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000104 | Комплекс былой яўрэйскай бальніцы:<br>лячэбны корпус<br>лячэбны корпус<br>лячэбны корпус<br>гаспадарчы будынак<br>лячэбны корпус<br>лячэбны корпус | другая палова XIX – пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. Леніна, 30–32 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000105 | Будынак | 1930-я гады | вул. Ленінградская, 3 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000106 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Ленінградская, 4 | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000107 | Будынак | 1937 год | вул. Ленінградская, 5 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000108 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Ленінградская, 6 | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000109 | Будынак | 1928–1931 гады | вул. Ленінградская, 16 | 3 | 30.01.2001 № 63 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000110 | Забудова вул. К. Маркса | першая палова XX стагоддзя, 1940–1950-я гады | вул. К. Маркса, 6/22 (вул. Валадарскага), 8/21 (вул. Валадарскага), 22, 23/34 (вул. Камсамольская), 27, 28/18 (вул. Леніна), 35/11 (вул. Леніна), 36/16 (вул. Энгельса), 37, 39/14 (вул. Энгельса), 45/15 (вул. Янкі Купалы) | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000111 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 3 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000112 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 4 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000113 | Будынак, у якім размяшчалася народная міліцыя | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 5/20 (вул. Валадарскага) | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000114 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 9 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000115 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 11 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000116 | Будынак Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 12 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000117 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | вул. К. Маркса, 12а | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000118 | Будынак | 1950 –1952 гады | вул. К. Маркса, 14 | 3 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000119 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 15 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000120 | Будынак | канец XIX стагоддзя, 1930-я гады, 1950-я гады | вул. К. Маркса 16/31 (вул. Камсамольская) | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000121 | Будынак былога Мінскага таварыства аматараў прыгожых мастацтваў | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 17 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000122 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. К. Маркса, 19 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000123 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 20 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000124 | Будынак | 1930-я гады, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 21 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000125 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 24 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000126 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 25/29 (вул. Камсамольская) | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000127 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 26 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000128 | Будынак былой жаночай Марыінскай гімназіі | 1879 год | вул. К. Маркса, 29 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000129 | Будынак | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 30/13 (вул. Леніна) | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000130 | Будынак былой Мінскай партыйнай школы | 1937 год | вул. К. Маркса, 31 | 3 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000131 | Будынак | 1940-я гады, 1950-я гады | вул. К. Маркса, 34 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000132 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. К. Маркса, 34а | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000133 | Будынак | 1953 год | вул. К. Маркса, 40 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000134 | Будынак | 1929 год | вул. Маскоўская, 5 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000135 | Будынак | 1932 год | вул. Маскоўская, 8/1 (зав. Дабрамысленскі) | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Д000136 | Брацкая магіла савецкіх ваеннапалонных, партызан і мірных жыхароў | 1941–1944 гады | Маскоўская шаша, 9-ы км | 3 | 25.02.2003 № 82 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000137 | Адміністрацыйны будынак | пачатак XX стагоддзя | пр. Машэрава, 3 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000138 | Комплекс будынкаў вайсковага шпіталя | 1920-я гады | пр. Машэрава, 24, 26, 28 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Д000139 | Мемарыяльны знак на месцы размяшчэння канспіратыўнай кватэры ўдзельнікаў Мінскага падполля (па вул. Маякоўскага, 35) | 2008 год | вул. Маякоўскага | 3 | 21.05.2008 № 142 | 03.09.2008 № 1288 |
| 713Г000140 | Будынак былога дрожджававінакурнага завода | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | вул. Маякоўскага, 79 | 3 | 29.03.2005 № 107 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000141 | Будынак | 1940–1950-я гады | зав. Міхайлаўскі, 4 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000142 | Былы дом масонаў | XIX стагоддзе | зав. Музычны, 5 | 2 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



Трохпавярховы прамавугольны ў плане сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынак накрыты вальмавым дахам. З трох бакоў фасады вылучаны неглыбокімі рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі, у тымпане якіх паўкруглыя акенцы. Першы паверх аддзелены цягамі складанага профілю. Па перыметры будынка праходзіць карніз з сухарыкамі. Аконныя праёмы першага і трэцяга паверхаў прамавугольныя, другога дэкарыраваны простымі ліштвамі з замковым каменем прамымі і трохвугольнымі сандрыкамі. У прасценках паміж вокнамі над галоўным уваходам невялікія калоны дарычнага ордэра. У будынку з 1990 г. размяшчаецца Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000143 | Забудова вул. Мяснікова | XIX–XX стагоддзе | вул. Мяснікова, 11а, 11б, 11в, 11г, 38, 74, 76 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000144 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Мяснікова, 3а | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000145 | Будынак былой паліклінікі | 1928–1931 гады | вул. Мяснікова, 26 | 2 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Д000146 | Тэрыторыя былога Масюкоўшчынскага лагера смерці | 1941–1944 гады | на перасячэнні вул. Нарачанскай і дарогі Мінск – Заслаўе | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000147 | Ансамбль Дома ўрада:<br>Дом урада з агароджай з боку касцёла Святых Сымона і Алены<br>помнік У.І. Леніну | 1930–1934 гады | вул. Савецкая, 11 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны па праекце архітэктара І. Лангбарда. Самае буйное ў Беларусі збудаванне грамадзянскай архітэктуры даваеннага часу (аб'ём будынка 240 тыс. м$^3$). Яго стварэнне было пачаткам рэканструкцыі сталіцы.

Мае складаную ў плане канфігурацыю. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі выкарыстаны прыём паступовага нарастання сіметрычных рознавышынных аб'ёмаў пры набліжэнні іх да цэнтра. Цэнтральная дзевяціпавярховая частка вынесена ў глыбіню і фланкіравана бакавымі крыламі (пастулова паніжаюцца да пяці паверхаў), якія ўтвараюць плошчу 100х50 м.

Інтэр'ер афармлены роспісамі і шматфігурнымі рэльефамі. Дом урада – адзін з першых і найбольш значных прыкладаў сінтэзу архітэктуры і манументальнага мастацтва.





| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000148 | Балюстрада і агароджа моста цераз р. Свіслач на пр. Незалежнасці | 1951 год | пр. Незалежнасці (ад вул. Янкі Купалы да пл. Перамогі) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Агароджа моста – літая чыгунная. Складаецца з шэрага тыпавых секцый, злучаных стойкамі ў выглядзе слупка з дэкаратыўным шарападобным завяршэннем. Малюнак рашоткі прадстаўлены разеткай у цэнтры з пальметамі па баках і перавітымі галінкамі. Агароджа мае ніжнюю перавязку і верхні поручань.

Балюстрада (агульная даўжыня 808 м) размешчана з абодвух бакоў пр. Незалежнасці. Падзелена на секцыі пастаментамі з высокімі дэкаратыўнымі вазамі. Кожная секцыя складаецца з ніжняй бэлькі і бэлькі-поручня. Сярэдзіна запоўнена балясінамі і прамежкавымі тумбамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000149 | Ансамбль пр. Незалежнасці ў складзе будынкаў і збудаванняў, планіровачнай структуры, ландшафту, цэльных архітэктурных комплексаў | 1940–1950-я гады | пр. Незалежнасці (ад пл. Незалежнасці да пр. Машэрава) | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Праспект Незалежнасці – галоўны дыяметр і асноўная магістраль горада; перасякае яго з паўднёвага захаду на паўднёвы ўсход. З 1951 г. называўся Сталінскі, з 1961 г. Ленінскі праспект, з 1990 г. праспект Скарыны, з 2005 г. праспект Незалежнасці. Даўжыня больш за 11 км, шырыня 48–70 м. Як галоўны гарадскі кампазіцыйны дыяметр арганізацыйна ўплывае на планіроўку і забудову ўсяго горада.

Пачаў фарміравацца ў XIX ст. Пасля Вялікай Айчыннай вайны галоўная магістраль створана на шырокай і выпрамленай трасе. На ўчастку ад плошчы Незалежнасці да праспекта Машэрава створаны ансамблі высокай архітэктурна-мастацкай вартасці, характар архітэктурнага афармлення якіх заснаваны на творчым асваенні класічнай спадчыны. Архітэктарам Г. Баданаву, М. Баршчу, С. Баткоўскаму, А.П. Воінаву, У. Каралю, С. Мусінскаму, М. Паруснікаву, Г. Сысоеву, Н. Трахтэнбергу, Н. Шпігельману прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі 1968 г.






| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000150 | Мост цераз р. Свіслач | 1951 год | пр. Незалежнасці | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Праектаванню моста цераз р. Свіслач надавалася вялікае значэнне з-за яго размяшчэння на цэнтральнай магістралі горада. Паводле архітэктурна-планіровачнага задання на праектаванне прадугледжвалася мост запраектаваць трохпралётны: сярэдні пралёт над ракой і два крайнія над набярэжнай ракі. Мост рэкамендавалася будаваць жалезабетонны з абліцоўкай натуральным каменем – гранітам. Агароджа моста павінна праектавацца металічная. Габарыты моста, як і тагачаснай вул. Савецкай, павінны адпавядаць 42 м: праезная частка 18 м, пешаходная па 8 м і 4 м для паласы азелянення. Паміж устоямі моста сярэдні пралёт павінен быць 50 м, крайнія пралёты па 8 м.



Аднак у выніку унесеных у праект змяненняў мост выкананы жалезабетонны зборнай канструкцыі, арачны аднапралётны. Шырыня пралёта 40 м. Па баках асноўнага пралёта ў падпорных сценах моста зроблены лучковага абрысу праходы шырынёй 7 м, якія злучаюць берагавыя часткі парку. Фасадныя плоскасці моста абліцаваны мармуровымі плітамі, дэкарыраваны замковым каменем. Уздоўж моста праходзіць дэкаратыўная металічная агароджа. Лесвічны спуск у парк афармлены балюстрадай і акцэнтаваны вазамі на п'едэсталах.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000151 | Парадны ўваход у Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага з дзвюма ратондападобнымі альтанкамі на флангах | 1950–1960-я гады | пр. Незалежнасці (у пачатку вул. Фрунзе) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Галоўны ўваход у парк уяўляе сабой 12-калонны порцік, фланкіраваны па баках дзвюма альтанкамі-ратондамі. Бакавыя пілоны аздоблены ляпным дэкорам. Магутныя калоны іанічнага ордэра падтрымліваюць антаблемент, завершаны балюстрадай з тумбамі, упрыгожанымі дэкаратыўнымі вазамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000152 | Парк імя Янкі Купалы | 1949–1950 гады | пр. Незалежнасці (у межах пр. Незалежнасці – вул. Янкі Купалы – р. Свіслач) | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000153 | Парк імя Чэлюскінцаў | 1932 год | пр. Незалежнасці | 3 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000154 | Трыбуны з балюстрадай у Цэнтральным скверы (былы Аляксандраўскі сад) з боку пр. Незалежнасці | 1950-я гады | пр. Незалежнасці | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Трыбуны з балюстрадай размешчаны пасярэдзіне падпорнай сценкі ўздоўж праспекта. Эфектныя аддзелачныя матэрыялы – чырвоны граніт, мастацкае чыгуннае ліццё, выкарыстаныя ў агароджы, надаюць кампазіцыі манументальнасць і ўрачыстасць. Балюстрада фланкіравана маляўнічымі ўваходамі ў сквер. Рытм балюстрады разнастаяць чыгунныя ўстаўкі-пано.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000155 | Цэнтральны батанічны сад Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі | 1932 год | пр. Незалежнасці | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |





Адзін з буйнейшых батанічных садоў Еўропы (па сваёй плошчы – 153 га, а таксама па складу сваёй калекцыі – каля 10 тыс. назваў) і адзін са старэйшых у Беларусі. З часоў заснавання і да нашых дзён установа захоўвае за сабой вядучую ролю ў краіне ў галіне інтрадукцыі і акліматызацыі, фізіялогіі, біяхіміі, экалогіі раслін, аховы навакольнага асяроддзя. Спалучае рысы пейзажнай і рэгулярнай планіроўкі. З'яўляецца не толькі цэнтрам навуковых даследаванняў, але і традыцыйным месцам адпачынку жыхароў і гасцей сталіцы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000156 | Былы гарадскі сад (Цэнтральны) дзіцячы парк імя Горкага: планіровачная структура, ландшафт, адміністрацыйны будынак, агароджа | 1805 год, канец XIX – пачатак XX стагоддзя | пр. Незалежнасці, вул. Фрунзе, 2 | 2 | 16.10.2001 № 67 | 14.05.2007 № 578 |

Парк – самы стары з паркаў сталіцы, яго ўрачыстае адкрыццё адбылося 1 мая 1805 г. У тыя часы ён называўся Губернатарскім садам, ці Гарадскім паркам. Спецыяльнага ўваходу парк не меў, ад лініі вуліцы пачыналіся тры алеі, якія вялі ў розныя часткі парку. Гэта пацвярджаюць гістарычныя планы горада, зробленыя ў 1809 г. і 1810 г. Уваход у парк знаходзіўся ў раёне будынка былой электрастанцыі.

Новы план развіцця Мінска быў зацверджаны ў 1817 г. Гэты дакумент вызначыў асноўныя напрамкі гарадскога развіцця на наступныя 40 гадоў. Парк на плане быў пазначаны № 27 – «Гарадскі сад». Парк планавалася паступова пашырыць ва ўсходнім напрамку. У выніку рэалізацыі гэтага плана плошча парку магла павялічыцца ўдвая і сучасная зона ўваходу ў парк стала б паркавай тэрыторыяй. Але гэтыя праектныя прапановы не былі рэалізаваны. Тэрыторыя сучаснага галоўнага ўваходу ў парк была аддадзена пад пабудовы жандарскай каманды. Ад тэрыторыі парку жандарскія пабудовы былі аддзелены агароджай.



Складзены ў 1858 г. новы план горада прадугледжваў і рэканструкцыю парку. Яго тэрыторыю меркавалася павялічыць да вул. Вясёлай (сучасная Першамайская) і Шпітальнай (сучасная Фрунзе). Але, як і папярэдні план, ён не быў цалкам рэалізаваны. У 1863 г. частка тэрыторыі, выдзеленай пад парк, была перададзена пад гарадскую забудову.

У 1872 г. Мінская гарадская ўправа прыняла рашэнне аб будаўніцтве водаправода. На беразе Свіслачы быў запраектаваны будынак помпавай станцыі і водазаборных калодзежаў. У выніку гэтага будаўніцтва ўся ўваходная зона парку была практычна знішчана. Захаваўся толькі праход да моста цераз Свіслач, адкуль і пачынаецца цяпер парк. У ім быў усталяваны велатрэк, а ў 1891 г. адбыўся запуск паветранага шара. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён атрымаў новае імя «Прафінтэрн», а ў 1936 г. перайменаваны ў гонар вялікага рускага пісьменніка М. Горкага.

Паводле пасляваеннага генеральнага плана тэрыторыя Цэнтральнага парку культуры і адпачынку імя Горкага (такая назва была да 1960 г., затым зменена на Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага) абмежавана вуліцамі Пралетарскай, Набярэжнай, Чырвонай, Правіянцкай, Савецкай, Фрунзе і Першамайскай, г. зн. у ЦПКА уваходзілі землі парку Янкі Купалы і ўся плошча сучаснага квартала паміж вуліцамі Чырвонай, Камуністычнай, Скарыны і Кісялёва.

Згодна з гэтым праектам уваход планавалася зрабіць з боку вул. Янкі Купалы, дзе ў наш час знаходзіцца бакавы ўваход у парк Янкі Купалы. Акрамя галоўнага, уваходаў было пяць: тры з боку вул. Фрунзе і два з боку вул. Першамайскай.

У 1951 г. праект быў адкарэкціраваны М. Баршчам, а генплан зроблены архітэктарам Р. Кофам.

Сёння парк Горкага – парк пейзажнага тыпу з элементамі рэгулярнага. Аснову планіроўкі складаюць тры прамыя алеі, перасечаныя ў розных напрамках дарожкамі і сцежкамі. Ландшафтную кампазіцыю парку ўзбагачае рэчышча Свіслачы. Парк багата насычаны архітэктурай малых форм: павільёны, альтанкі, мосцікі. У парку растуць больш за 60 відаў дрэў і кустоў.

Адміністрацыйны будынак аднапавярховы, накрыты вальмавым дахам. Сцены неатынкаваныя. Фасады расчлянёны лапаткамі, лучковымі аконнымі праёмамі. Пад дахам праходзіць шматслойны карніз.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000157 | Цэнтральны сквер з дэкаратыўнай скульптурнай групай «Хлопчык з лебедзем» | 1872 год | пр. Незалежнасці | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |





Колішняя назва сквера – Аляксандраўскі сад. Сваёй назвай сад абавязаны невялікай капліцы (не захавалася), што была пабудавана на гэтым месцы ў 1869 г. і асвячона ў гонар Св. Аляксандра Неўскага.

Плошча 2,4 га. У 1874 г. у гонар адкрыцця ў Мінску водаправода ў цэнтры сквера быў усталяваны фантан з дэкаратыўнай скульптурнай кампазіцыяй «Хлопчык з лебедзем». Планіроўка захоўвае асноўныя прынцыпы першапачатковага саду. Добраўпарадкаванне ўключае замошчаныя алеі, сцежкі, рабаткі, кустовыя бардзюры, кветнікі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000158 | Будынак | 1963 год | пр. Незалежнасці, 8 | 3 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000159 | Будынак Галоўпаштамта | 1949–1953 гады | пр. Незалежнасці, 10 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000160 | Гасцінічны комплекс «Мінск» (карпусы 1, 2) | 1958 год, 1969 год | пр. Незалежнасці, 11 | 3 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000161 | Будынак | 1952 год | пр. Незалежнасці, 12 | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Будынак № 12 па пр. Незалежнасці пабудаваны як жылы дом для навуковых работнікаў. Аўтар праекта архітэктар Л. Баталаў. Гісторыя будаўніцтва жылога дома непасрэдна звязана з аднаўленнем і развіццём галоўнай магістралі г. Мінска пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Будынак уваходзіць у склад ансамбля забудовы першай лініі праспекта.

Будаўніцтва было завершана ў 1952 г. Фотаздымкі 1950-х гг., а таксама сучасны стан будынка сведчаць, што дом узведзены ў адпаведнасці з рабочым праектам (1946 г.), толькі з некаторымі адхіленнямі ў дэкаратыўным афармленні (адсутнічае скульптура, дэкаратыўныя ўстаўкі на ўзроўні пятага паверха, больш сціплае афармленне парталаў парадных уваходаў).

Будынак пяціпавярховы, Г-падобны ў плане. Цокаль абліцаваны плітамі паліраванага граніту. Кампазіцыя галоўнага фасада трох'ярусная. На ніжнім ярусе размешчаны вітрыны магазінаў. Другі ярус раскрапаваны шырокімі лапаткамі. Верхні, трэці, ярус дэкарыраваны падвоенымі пілястрамі стылізаванага карынфскага ордэра. Будынак завершаны карнізам з вялікім вынасам, упрыгожаным дэнтыкуламі. Аконныя праёмы прамавугольныя. На ўзроўні чацвёртага паверха ёсць балконы.

За час існавання будынка ў дэкаратыўным афармленні, запаўненні аконных, вітрынных і дзвярных праёмаў якіх-небудзь вялікіх змяненняў не адбывалася.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000162 | Будынак | 1950–1954 гады | пр. Незалежнасці, 13 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000163 | Будынак | 1947–1951 гады | пр. Незалежнасці, 14 | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Прамавугольны ў плане шасціпавярховы будынак. Першы паверх заняты прадпрыемствамі гандлю. Галоўны фасад мае эркеры на вышыню пяці паверхаў і балконы з карынфскімі капітэлямі. Вокны першага і шостага паверхаў паўцыркульныя, астатнія прамавугольныя. Фасад завершаны шырокім парапетам, дэкарыраваны пад руст. Верхнія паверхі дэкарыраваны карнізнымі цягамі, пілястрамі, абрамленнямі акон, арачкамі, гірляндамі, разеткамі.

| 712Г000164 | Будынак | 1947–1951 гады | пр. Незалежнасці, 16/32 (вул. Камсамольская) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пяціпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка вылучана гранёнай вежай з гадзіннікам. Вулічныя фасады маюць двух'ярусную кампазіцыю. Ніжні ярус у два паверхі вырашаны цэласна ў буйных формах. Асноўнай тэмай яго пластычнага афармлення з'яўляецца рад здвоеных арак, якія аб'ядноўваюць вітрыны магазінаў на першым паверсе, і шырокія лучковыя вокны другога жылога паверха. Пластыка верхняга паверха больш насычаная. Вежа і плоскасці сцен, якія да яе прымыкаюць, аздоблены пілястрамі карынфскага ордэра. Жылы характар дома падкрэслены радам эркераў, якія падтрымліваюцца магутнымі кранштэйнамі. Невысокі цокаль апрацаваны паліраваным гранітам.

| 712Г000165 | Будынак | 1945–1947 гады | пр. Незалежнасці, 17/30 (вул. Камсамольская) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Адміністрацыйны будынак трох- і чатырохпавярховы з цокальным паверхам, складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Цэнтральная частка з уваходам вылучана рызалітам з масіўным чатырохкалонным порцікам карынфскага ордэра, завершаным трохвугольным франтонам. Крыло з боку праспекта прымыкае да суседняга будынка. У месцы злучэння двух аб'ёмаў – праезная брама, фланкіраваная калонамі карынфскага ордэра, якія падтрымліваюць паўкруглы раскрапаваны франтон. Другое крыло, арыентаванае бакавым фасадам па вул. Камсамольскай, у вуглавой частцы ўвянчана васьміграанным трох'ярусным бельведэрам. Фасадныя плоскасці апрацаваны пілястрамі, завершаны масіўным карнізам і глухім парапетам. Прамавугольныя аконныя праёмы на трэцім паверсе маюць абрамленні з сандрыкамі

| 713Г000166 | Будынак | 1948–1952 гады | пр. Незалежнасці, 18 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000167 | Будынак | 1952 год | пр. Незалежнасці, 19/23 (вул. Камсамольская) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Будынак Г-падобны ў плане, складаецца з некалькіх аб'ёмаў. Праектам прадугледжваліся тры праезды ў двор: адзін з вул. Камсамольскай і два ў малых курданёрах з боку пр. Незалежнасці. Уваходы ў кватэры часткова былі запраектаваны з пр. Незалежнасці і мелі скразны праход у двор, часткова з двара.

Пры праектаванні фасадаў жылога дома прымалася пад увагу наяўнасць адміністрацыйнага будынка (дом на пр. Незалежнасці, 17/30), вырашанага ў буйных архітэктурных формах, і асабліва вежы, якая з'яўлялася архітэктурным акцэнтам тагачаснай вул. Савецкай. Таму ў кантраст манументальнаму адміністрацыйнаму будынку вуглавы корпус вырашаны ў больш дробных і стрыманых архітэктурных формах. Цэнтральны корпус паміж курданёрамі вырашаны больш багата, з насычанай пластыкай другога яруса. Фасад па вул. Камсамольскай вырашаны простымі сродкамі.

| 712Г000168 | Комплекс будынкаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь | 1947–1952 гады | пр. Незалежнасці, 20, вул. Леніна, 12, 14 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак Дзяржбанка ўзведзены ў 1947–1952 гг. па праекце архітэктара М. Паруснікава, акадэміка АН БССР. З імем М. Паруснікава цесна звязана пасляваеннае аднаўленне і будаўніцтва г. Мінска. Ён у 1947 г. перамог у закрытым конкурсе на распрацоўку праекта першай чаргі Савецкай вуліцы (сучасны пр. Незалежнасці). Была адзначана ўдала выбраная архітэктарам шырыня вуліцы і вышыня забудовы, буйны маштаб забудовы, у меру падкрэсленая манументальнасць будынкаў. Праект М. Паруснікава быў прыняты да ажыццяўлення, а аўтар прызначаны магістральным архітэктарам будучага праспекта. Будынак Дзяржбанка разам з будынкам універмага (пр. Незалежнасці, 21) вырашаў складаны вугал праспекта на перакрыжаванні з вул. Леніна. Будынак уражвае сваёй прастатой і манументальнасцю. Пластыку фасадаў узбагачаюць канеліраваныя пілястры карынфскага ордэра на вышыню чатырох паверхаў, арачныя праёмы асноўнай аперацыйнай залы на другім паверсе, вянчаючы карніз. Будынак Нацыянальнага банка – помнік савецкай архітэктуры з выкарыстаннем класіцыстычнай спадчыны.

| 712Г000169 | Будынак Дзяржаўнага універсальнага магазіна | 1951 год | пр. Незалежнасці, 21 | 2 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пабудаваны па праекце архітэктараў Л. Мілегі і Р. Гегарта. У аснове кампактнага Г-падобнага ў плане чатырохпавярховага будынка жалезабетонны каркас. Сіметрычна вырашаны галоўны фасад яруснай кампазіцыі члянёны прафіляванымі паясамі і завершаны масіўным раскрапаваным антаблементам і атыкам. Вертыкальна плоскасць фасада чляніцца масіўнымі пілонамі і тонкімі прасценкамі. На ўзроўні трэцяга паверха ў дэкор уведзены трохвугольныя франтоны. У аздабленні міжпаверхавых паясоў, карнізаў, абрамленняў акон чацвёртага паверха выкарыстаны маёлікавыя дэталі. Галоўны ўваход вылучаны трыма арачнымі праёмамі.

| 712Г000170 | Будынак | 1949–1954 гады | пр. Незалежнасці, 22 (вул. Леніна, 7, вул. Энгельса, 10) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак выконвае важную ролю ў архітэктурным вырашэнні галоўнай магістралі горада. Ён займае адзін бок квартала з боку праспекта і два крылы яго выходзяць на вуліцы Леніна і Энгельса.

Насупраць будынка на няцотным баку размешчаны аналагічны будынак (пр. Незалежнасці, 23), узведзены па праекце архітэктараў М. Паруснікава і Г. Заборскага. Такое горадабудаўнічае вырашэнне звязана з тым, што гэтым будынкам надавалася роля пілонаў пры выхадзе на Кастрычніцкую плошчу.

У 1950 г. М. Паруснікаў распрацаваў праект пяціпавярховага 115-кватэрнага жылога дома Міністэрства лёгкай прамысловасці. З тлумачальнай запіскі да праекта вынікала, што даўжыня будынка па вул. Савецкай складала 123 м і па вул. Энгельса – 140 м. Цэнтральную частку крыла па вул. Энгельса на ўзроўні двух ніжніх паверхаў займаў кінатэатр, вуглавую частку – магазін мастацкіх вырабаў, з другога боку ад кінатэатра былі выставачная зала і кафэ, і ў крыле па вул. Леніна знаходзіліся чыгуначныя і тэатральныя касы. На верхніх паверхах запланаваны кватэры, уваходы ў пад'езды былі з боку двара.

Архітэктурнае вырашэнне фасадаў у тлумачальнай запісцы да праектнага задання характарызавалася наступным чынам: «Фасад па Савецкай вуліцы вырашаны парадна, дастаткова пластычна, увянчаны скульптурнымі фігурамі. Цэнтр яго ўтварае лоджыя ў кінатэатр. Фасад па вул. Энгельса вырашаны больш інтымна, што выклікана яго размяшчэннем насупраць гарадскога сквера. Курданёр, утвораны па вул. Энгельса, добра ўвязаны са скверам, развіваў і ўзбагачаў апошні». Трэба адзначыць, што па праекце 1950 г. будынак з боку вул. Энгельса працягваўся да перакрыжавання з вул. К. Маркса.

У 1951 г. у праект былі ўнесены значныя карэктывы. Крылы будынка па вуліцах Энгельса і Леніна паменшаны да 34 м, што адпавядае сучаснаму стану. Змяніўся не толькі план будынка, але і функцыянальнае выкарыстанне першага паверха. Галоўнай тэмай праектнага вырашэння фасадаў з'яўляўся ордэр, які ішоў па першых паверхах будынка і ў спалучэнні з вялікімі паўцыркульнымі праёмамі ствараў стылёвы архітэктурны матыў і багатую пластыку сцяны. Трэці паверх вырашаны рытмам чаргавання аконных праёмаў і керамічных уставак, які ствараў багаты ляпны пояс. Верхнія паверхі вырашаны сістэмай арнаментаваных пілястраў. Будынак вянчае багаты карніз і парапетны баляснік з дэкаратыўнымі шышкамі. Ужыты ордэр у спалучэнні з вялікімі паўцыркульнымі праёмамі, ляпным поясам і багатым карнізам надае будынку большую выразнасць і ўрачыстасць. Цокаль будынка абліцаваны натуральным гранітам, апрацаваным «пад шубу». Для сцен фасадаў выкарыстана каляровая тынкоўка светлых, цёплых таноў. У асобных месцах фасадаў, адпаведна рысункам, прыменены керамічныя ўстаўкі. Дваровыя фасады абліцаваны сілікатнай цэглай. Дзверы парадных уваходаў былі запраектаваны дубовыя, пераплёты і каробкі вітрынных акон – металічныя.

У 1980-я гг. у сувязі з будаўніцтвам станцыі метро былі ўнесены змены ў архітэктурнае аблічча першага паверха вуглавой часткі на рагу з вул. Энгельса.

| 712Г000171 | Будынак | 1949–1954 год | пр. Незалежнасці, 23 (вул. Леніна, 5, вул. Энгельса, 8) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Пяціпавярховы П-падобны ў плане будынак узведзены па праекце архітэктараў М. Паруснікава і Г. Заборскага. На першым паверсе размешчаны прадпрыемствы гандлю і грамадскага харчавання, уваходы ў якія ажыццяўляюцца праз лоджыі. Галоўны і бакавыя фасады падзелены карнізамі на тры ярусы. Больш масіўны ніжні ярус чляніцца буйнымі арачнымі праёмамі вітрын і лоджый, пілястрамі на вышыню двух паверхаў. У сярэднім ярусе прасценкі аздоблены ляпным дэкорам. Верхні ярус крапаваны пілястрамі карынфскага ордэра і паўкалонамі. На чацвёртым паверсе маюцца балконы на кранштэйнах, дзвярныя праёмы якіх аздоблены фігурнымі сандрыкамі. Фасады завершаны масіўным карнізам з мадульёнамі і балюстрадным парапетам з пінаклямі.

| 712Г000172 | Будынак былой духоўнай кансісторыі | сярэдзіна XIX стагоддзя | пр. Незалежнасці, 24 | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|





Будынак разам з былым царкоўна-археалагічным музеем (пр. Незалежнасці, 26), архірэйскім домам (захаваўся паўночна-заходні флігель) і Пакроўскай царквой (не захавалася) уваходзіў у ансамбль Архірэйскага падвор'я. Яно займала тэрыторыю, якая прылягала да галоўнай Захар'еўскай вуліцы. Ансамбль склаўся пасля 1840-х гг. Будынак былой духоўнай кансісторыі – помнік архітэктуры з рысамі класіцызму. Невялікі кампактны Г-падобны ў плане, трохпавярховы (трэці паверх надбудаваны пазней). Сцены першага паверха руставаныя. Першы і другі паверхі маюць цыліндрычныя і крыжовыя скляпенні.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000173 | Будынак Рэспубліканскага палаца культуры прафсаюзаў | 1954 год | пр. Незалежнасці, 25 | 3 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000175 | Адміністрацыйны будынак (былы царкоўна-археалагічны музей) | 1913 год | пр. Незалежнасці, 26 | 3 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000176 | Будынак | 1940-я гады | пр. Незалежнасці, 27 | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Чатырохпавярховы П-падобны ў плане будынак з цокальным паверхам у правай частцы. У цэнтры на галоўным фасадзе падпорныя сценкі з шырокімі лесвічнымі маршамі. Над лесвічнай клеткай правага крыла ўзвышаецца квадратны ў плане зашклёны відавы павільён. Пластыка фасадаў будынка строгая і манументальная. Плоскасць галоўнага фасада на ўзроўні першага – трэцяга паверхаў рытмічна чляніцца пілонамі, бакавых крылаў – квадратнымі ў сячэнні калонамі, якія нясуць развіты прафіляваны карніз. Сцены першага паверха бакавых крылаў апрацаваны рустам. Па перыметры будынка праходзіць развіты карніз з мадульёнамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000177 | Будынак | 1956–1957 гады | пр. Незалежнасці, 28 | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Праект жылога дома распрацаваны ў 1956–1957 гг. у інстытуце «Белдзяржпраект» (аўтары праекта архітэктар Л. Каджар і інжынер Л. Гулева).

Згодна з рабочым праектам 52-кватэрны жылы дом вырашаўся як адзіны комплекс з жылым домам № 30. Будынак праектаваўся шасціпавярховым, з цокальным паверхам і падваламі. У частцы будынка, якая прымыкала да ўжо ўзведзенага дома № 30, быў запраектаваны ўезд унутр квартала.

Па задуме праекціроўшчыкаў архітэктура фасада жылога дома № 28 вырашалася ў адзінай сувязі з фасадам дома № 30.

У тлумачальнай запісцы да праектнага задання аўтары адзначалі: «Проектируемый жилой дом идет под одним карнизом с существующим домом Мингоржилуправления. Фасад дома членится двумя горизонтальными поясами: нижний этаж решается как цоколь и обработан глубоким рустом; второй, вышележащий, расшит под каменную кладку; последние три этажа решаются гладкой стеной с редким ритмом балконов. Карниз собирается из типовых архитектурных деталей».

Згодна з праектам прапаноўвалася галоўныя фасады будынка атынкаваць высакаякаснай тынкоўкай з механічным нанясеннем слоя і наступнай частковай заціркай, цокаль пакрыць тынкоўкай з гранітнай крошкай, дваровы фасад абліцаваць сілікатнай цэглай.

Сучасны стан будынка сведчыць, што ён узведзены ў адпаведнасці з праектам. Галоўны фасад гарызантальна чляніцца карнізнымі паясамі паміж трэцім – чацвёртым і чацвёртым – пятым паверхамі, вянчаецца развітым шматслойным карнізам. Рэдкаразмешчаныя балконы на пятым паверсе дэкарыраваны налічнікамі з прамымі сандрыкамі. Цокальны паверх апрацаваны глыбокім рустам, сцены першага – трэцяга паверхаў расшыты пад каменную муроўку.

| 712Г000178 | Будынак | 1957 год | пр. Незалежнасці, 29/19 (вул. Янкі Купалы) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Складаны ў плане васьміпавярховы будынак. Гарызантальна фасады чляняцца карнізнымі паясамі, завершаны шматслойным карнізам. На ўзроўні трэцяга – пятага паверхаў фасады дэкарыраваны пілястрамі стылізаванага карынфскага ордэра. Балконы на трэцім паверсе пачаргова аформлены лаканічнымі прафіляванымі ліштвамі і больш складанымі – з канеліраваных спараных пілястр, якія падтрымліваюць антаблемент з трохвугольным франтонам, маюць балюстрадныя агароджы. На сёмым паверсе балконы маюць металічныя агароджы і простыя прафіляваныя ліштвы.

| 712Г000179 | Будынак | 1957 год | пр. Незалежнасці, 30/17 (вул. Янкі Купалы) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Дом № 30 па пр. Незалежнасці праектаваўся ў адным комплексе з жылымі дамамі па вул. Я. Купалы. Забудова вул. Я. Купалы на ўчастку, абмежаваным вул. К. Маркса, пр. Незалежнасці і вул. Інтэрнацыянальнай, ствараласяя як адзіны архітэктурны ансамбль; у першае дзесяцігоддзе аднаўлення Мінска пасля Вялікай Айчыннай вайны стварэнню архітэктурных ансамбляў надавалася шмат увагі. Дом № 30 з ідэнтычным домам на процілеглым баку вуліцы (сучасны № 29 па пр. Незалежнасці) з'яўляюцца асноўнымі дамінантамі ў архітэктурным ансамблі, утвараючы параднае і манументальнае афармленне ўезду ў цэнтральную частку горада.

Праект забудовы вул. Я. Купалы на вызначаным участку распрацаваны ў інстытуце «Белдзяржпраект» у 1950–1957 гг. Аўтар праекта архітэктар М.В. Баршч, які ў 1968 г. за ўдзел у стварэнні ансамбля пр. Незалежнасці быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Сааўтарамі былі канструктар А. Зысман, архітэктары Л. Аранаўскас, М. Ліўшыц.

Архітэктурна-дэкаратыўнае афармленне фасадаў дамоў першапачаткова праектам прапаноўвалася вельмі насычанае, нават кампазіцыйна перагружанае. Шырока выкарыстоўвалася ордэрная пластыка, ляпніна, філёнгі, балюстрады, карнізы, пінаклі і г.д. Было распрацавана некалькі варыянтаў фасадаў з выкарыстаннем характэрных для таго часу дэкаратыўных элементаў. За аснову для далейшага праектавання быў узяты варыянт, у якім прапаноўвалася дакладнае чляненне фасадаў па гарызанталі.

Галоўныя вулічныя фасады прапаноўвалася атынкаваць высакаякаснай каляровай тынкоўкай, дваровыя фасады – звычайнай вапнава-цэментнай тынкоўкай пад афарбоўку. Цокальную частку будынка з боку вуліцы, а таксама падпорныя сценкі прапаноўвалася апрацаваць гранітам часткова пад бучарду, часткова грубай аколкай. Фасады чляніліся карнізнымі паясамі, пілястрамі стылізаванага карынфскага ордэра, балконы афармляліся дэкарыраванымі ліштвамі з ляпнінай. Завяршаліся фасады карнізам вялікага выносу з мадульёнамі. Па краі даху праектаваўся балюстрадны парапет з пінаклямі. Пераплёты вітрын магазіна рэкамендавалася зрабіць металічнымі, зашкленне – люстэркавым шклом.

У сярэдзіне 1950-х гг. пачалася актыўная барацьба з празмернасцямі ў архітэктуры. У сувязі з гэтым у 1956 г. быў значна перапрацаваны праект галоўных фасадаў будынка. У рабочым праекце фасады вырашаны больш лаканічна. Захавалася гарызантальнае чляненне карнізнымі паясамі. На ўзроўні другога – чацвёртага паверхаў фасад дэкарыраваны пілястрамі стылізаванага карынфскага ордэра. Балконы на другім паверсе пачаргова аформлены прафіляванымі простымі ліштвамі і больш складанымі – з канеліраваных спараных пілястр, якія падтрымліваюць антаблемент з трохкутным франтонам, балюстрадамі агароджаў. На шостым паверсе балконы маюць металічныя агароджы і простыя прафіляваныя ліштвы. Завершаны фасады шматслойным карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Д000180 | Дом-музей I з'езда РСДРП | канец XIX стагоддзя, 1948–1953 гады | пр. Незалежнасці, 31а | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000181 | Будынак Беларускага дзяржаўнага цырка | 1958 год | пр. Незалежнасці, 32 | 2 | 07.08.2001 № 66 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны па праекце архітэктара В. Жукава на перакрыжаванні водна-зялёнага дыяметра Мінска (р. Свіслач і зялёная зона ўздоўж яе поймы) і пр. Незалежнасці. Уяўляе сабой круглае купальнае збудаванне з прамавугольным у плане трохпавярховым службовым корпусам. Галоўны фасад аформлены каланадай карынфскага ордэра. Глядзельная зала мае арэну (дыяметр 13 м), 1668 месц, размешчаных амфітэатрам; аснашчана сучаснай тэхнічнай і цыркавой апаратурай. Вакол відовішчнай часткі знаходзіцца фае і гардэробы, памяшканні для артыстаў і абслуговага персаналу, залы для рэпетыцый, спецыяльныя памяшканні для жывёлы. З 2008 г. вядзецца рэканструкцыя будынка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000182 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1980 год | пр. Незалежнасці, 32а | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000183 | Комплекс будынкаў былой электрастанцыі | канец XIX – пачатак XX стагоддзя | пр. Незалежнасці, 32б | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000184 | Скверы на пл. Перамогі | 1940–1950-я гады | пр. Незалежнасці (паміж праспектам і мясцовымі праездамі ўздоўж дамоў 31, 33, 35, 34, 36, 38) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |





Круглая плошча (з 1954 г. – пл. Перамогі) пачала фарміравацца ў канцы 1930-х гг. як важная транспартная развязка. У 1950-я гг., у сувязі з размяшчэннем тут манумента Перамогі, у інстытуце «Белдзяржпраект» быў распрацаваны праект добраўпарадкавання зялёнай зоны плошчы, аўтарам якога з'яўляўся архітэктар М. Баршч.

У 1984 г., у сувязі з будаўніцтвам Мінскага метрапалітэна, плошча была перапланавана архітэктарамі Б. Ларчанкам, Б. Школьнікавым, К. Вязгіным. Круглая плошча стала авальнай. Памер зялёнай зоны плошчы быў паменшаны і часткова зменена яе першапачатковае вырашэнне.



Сёння скверы вакол плошчы алеямі падзелены на чатырохвугольныя добраўпарадкаваныя ўчасткі. Адзін бок бліжэйшага да плошчы ўчастка паўтарае крывізну тратуара і праезнай часткі. Уздоўж дарожак у спецыяльна прадугледжаных месцах пастаўлены лаўкі. У дэкаратыўным афармленні сквераў выкарыстаны ліцэвыя і хвойныя дрэвы, групы кустоў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000185 | Комплекс будынкаў | 1951–1956 гады | пр. Незалежнасці, 31/2, 4 (вул. Камуністычная), 33, 35/1 (вул. Кісялёва) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |







Праектная дакументацыя па забудове левага боку праспекта (дамы № 31, 33 і 35) пачала распрацоўвацца ў 1951–1952 гг.

Згодна з праектам фасады будынкаў планавалася вырашыць аналагічна фасадам супрацьлеглых карпусоў. Вулічныя, а таксама тарцовыя фасады «абліцоўваюцца афактуранымі пліткамі», фасады на вул. Савецкай – дадаткова каляровымі керамічнымі ўстаўкамі. Дваровыя фасады абліцоўваюцца сілікатнай цэглай».

Асобна быў распрацаваны «Праект злучальнай каланады», аналагічнай дзвюм існуючым каланадам, якія злучаюць карпусы правага боку ансамбля. Аднак у сувязі з кампаніяй барацьбы з празмернасцямі ў архітэктурным праектаванні праект гэты рэалізаваны не быў, а каланады заменены чыгуннай агароджай з варотамі.

Захаваўся і першапачатковы праект добраўпарадкавання эспланаднай часткі плошчы, складзены ў 1952–1953 гг. архітэктарам М. Баршчам. Гэты праект добраўпарадкавання карэкціраваўся як мінімум двойчы – у сярэдзіне 1950-х гг. у сувязі з устаноўкай манумента Перамогі і ў 1980-я гг. у сувязі з пракладкай лініі метрапалітэна, што выклікала змяненне першапачатковай круглай формы ўласна плошчы Перамогі, а таксама змяншэнне і частковую перапланіроўку яе эспланаднай часткі.

Хоць гэтыя будынкі праектаваліся, відаць, адначасова з будынкамі правай паловы ансамбля (цотны бок праспекта), узводзіліся яны трохі пазней, у сярэдзіне 1950-х гг., у сувязі з чым некаторыя запраектаваныя архітэктурныя дэталі не былі выкананы ў натуры (каланады паміж карпусамі).

Дом № 31. Пяціпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка будынка завершана невысокай вежачкай з увагнутым шатровым дахам і пінаклямі. Высокія арачныя праёмы афармлены дэкарыраванымі парталамі. Над імі картуш з датай пачатку будаўніцтва. Верхні ярус вуглавой часткі вырашаны трохкалонным порцікам з балюстраднай агароджай. Фасады паміж трэцім і чацвёртым паверхамі падзелены шырокім карнізным поясам. Прасценкі ў верхнім ярусе аздоблены рэльефнымі кампазіцыямі з картушаў, гірлянд, медальёнаў. Завершаны фасады шматслойным карнізам з дэнтыкуламі.

Дом № 33. Прамавугольны ў плане пяціпавярховы будынак з цэнтральным рызалітам. Верхні ярус рызаліта вырашаны ў выглядзе чатырохкалоннага порціка. Гарызантальна фасад чляніцца міжпаверхавым карнізным поясам паміж трэцім і чацвёртым паверхамі. Пластыку фасадаў узбагачаюць лоджыі і балконы. Прасценкі ў верхнім ярусе дэкарыраваны рэльефнымі кампазіцыямі з картушаў, гірлянд, медальёнаў.

Дом № 35. Пяціпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка будынка завершана невысокай вежачкай з увагнутым шатровым дахам і пінаклямі. Высокія арачныя праёмы афармлены дэкарыраванымі парталамі. Верхні ярус вуглавой часткі вырашаны трохкалонным порцікам з балюстраднай агароджай. Фасады паміж трэцім і чацвёртым паверхамі падзелены шырокім карнізным поясам. Прасценкі ў верхнім ярусе аздоблены рэльефнымі кампазіцыямі з картушаў, гірлянд, медальёнаў. Завершаны фасады шматслойным карнізам з дэнтыкуламі.

| 712Г000186 | Комплекс будынкаў | 1951–1956 гады | пр. Незалежнасці, 34/1 (вул. Фрунзе), 36, 38/22 (вул. Захарава), вул. Фрунзе, 3/1 (вул. Румянцава), вул. Захарава, 22, 24/9 (вул. Румянцава) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|





Дом № 34. Пяціпавярховы Г-падобны ў плане. Вуглавая частка будынка завершана невысокай вежачкай з увагнутым шатровым дахам і пінаклямі. Высокія арачныя праёмы афармлены дэкарыраванымі парталамі. Над імі картуш з датай пачатку будаўніцтва. Верхні ярус вуглавой часткі вырашаны трохкалонным порцікам з балюстраднай агароджай. Фасады паміж трэцім і чацвёртым паверхамі падзелены шырокім карнізным поясам. Прасценкі ў верхнім ярусе аздоблены рэльефнымі кампазіцыямі з картушаў, гірлянд, медальёнаў. Завершаны фасады шматслойным карнізам з дэнтыкуламі.

Дом № 36. Пяціпавярховы прамавугольны ў плане з цэнтральным рызалітам. Верхні ярус рызаліта вырашаны ў выглядзе чатырохкалоннага порціка.

Дом № 38. Пяціпавярховы Г-падобны ў плане. Вуглавая частка будынка завершана невысокай вежачкай з увагнутым шатровым дахам і пінаклямі. Высокія арачныя праёмы афармлены дэкарыраванымі парталамі. Над імі картуш з датай пачатку будаўніцтва. Верхні ярус вуглавой часткі вырашаны трохкалонным порцікам з балюстраднай агароджай. Фасады паміж трэцім і чацвёртым паверхамі падзелены шырокім карнізным поясам. Прасценкі ў верхнім ярусе аздоблены рэльефнымі кампазіцыямі з картушаў, гірлянд, медальёнаў. Завершаны фасады шматслойным карнізам з дэнтыкуламі.

| 712Г000187 | Будынак | 1939 год, 1947 год | пр. Незалежнасці, 37/2 (вул. Кісялёва) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|




Пяціпавярховы дугападобны ў плане будынак з бакавымі крыламі. Фасадныя плоскасці падзелены на два ярусы шырокім поясам, які праходзіць паміж першым і другім паверхамі. Ніжні ярус, дзе размешчаны магазіны, трактаваны больш масіўна. Верхні ярус падзелены раўнамернымі радамі прамавугольных аконных праёмаў і расчлянёны па вертыкалі двайнымі лоджыямі. Вертыкальны рытм чляненняў падкрэслены выступамі эркераў. Завершаны фасады глухім і балюстрадным парапетамі.

Сучасны дом № 37 у пасляваеннай праектнай дакументацыі фігуруе як «жылы дом МДБ на 115 кватэр на Паўкруглай плошчы г. Мінска».

Мяркуючы па ўскосных звестках, якія ёсць у праектнай дакументацыі, датаванай 1947 г., дом № 37 захаваўся намнога лепш, чым дом № 40. Рабочы праект (архітэктурна-будаўнічая частка) па гэтаму будынку распрацаваны ў 1947 г. Аўтарам праекта названы архітэктар

Р. Столер. Аднак, наступная графа ў вуглавых штампах рабочых чарцяжоў – «Проектировал – архитектор Дроздов». На ўсіх чарцяжах таксама подпіс Драздова.

Будынак быў пабудаваны да лета 1941 г., і, відаць, амаль не пацярпеў у 1941–1944 гг. У праекце прадугледжана «возведение вновь ... колонн и пилястр ... на металлическом каркасе. Пьедесталами колонн и пилястр служат существующие кирпичные столбики ... которые утолщаются до необходимого размера путем облицовки их кирпичом на ребро... Антаблемент лоджий осуществляется в кирпичной кладке, основанием которого служит каркас колонн и пилястр. Существующую железобетонную плиту балкона в реконструируемой лоджии разобрать и сделать заново. Консоли двутавров обрезать до оси вновь возводимой колонны. Портик входа дворового фасада осуществляется путем утолщения существующей железобетонной плиты посредством оштукатурки поверхности...».

Знадворнае афармленне будынка планавалася наступнае: «Штукатурка поверхности фасадов разбивается на камни ... для первого этажа ... камни имитировать под естественный серо-красный гранит ... для последующих ... под песчаник. Цоколь 1-го этажа и карниз между 1 и 2 этажом ... выполняются цветной штукатуркой. Все карнизные тяги, колонны, пилястры, подоконные доски, балясины и плоскости стен, не разбитые на камни, красятся в белый цвет. Металлические решетки ... в серый тон. Оконные переплеты ... в светло-серый тон».

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000188 | Будынак | 1951–1956 гады | пр. Незалежнасці, 39/1 (пр. Машэрава) | 2 | 03.04.2002 № 72 | 14.05.2007 № 578 |



Шасціпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка вырашана васьміпавярховым кубападобным аб'ёмам. З двух бакоў вуглавога аб'ёму порцікі, утвораныя квадратнымі ў сячэнні калонамі. Фасады гарызантальна падзелены тонкапрафіляванымі карнізнымі паясамі, вертыкальна чляняцца лоджыямі, якія абапіраюцца на дэкарыраваныя кансолі, зверху лоджыі акцэнтаваны паўцыркульнымі франтонамі з круглымі люкарнамі. Лоджыі і балконы маюць балюстрадныя агароджы. Прамавугольныя аконныя праёмы на трэцім паверсе аздоблены абрамленнямі, на шостым паверсе аконныя праёмы паўцыркульнага абрысу. Уваходныя праёмы аформлены прафіляванымі парталамі. Па перыметры будынка праходзіць развіты карніз, у вуглавой частцы з дэнтыкуламі.

Праект дэталёвай планіроўкі кварталаў у раёне пл. Перамогі і перакрыжавання праспекта з вул. Даўгабродскай быў распрацаваны ў 1939 г. архітэктарам А. Брэгманам. Яму ж належыць і праект сучаснага дома № 39/1, які ўяўляе сабой два аб'ёмы, размешчаныя перпендыкулярна адзін да аднаго, з масіўнай вежай на вуглу.

Пачаты ў 1940 г. будынак да лета 1941 г. быў узведзены часткова, але ў чэрвені 1941 г. драўляныя канструкцыі будынка цалкам згарэлі, металічныя і зборныя жалезабетонныя канструкцыі, як і паверхня сцен, былі моцна пашкоджаны і дэфармаваны агнём. «Вуглавая секцыя», узведзеная да 1941 г. на вышыню двух з паловай паверхаў, «не была охвачена пожаром и сохранилась в нормальном состоянии». Ужо ў 1947–1948 гг. А. Брэгманам быў распрацаваны праект гэтага будынка з некаторымі зменамі.

Планавым заданнем 1947 г. прадугледжвалася аднаўленне будынка паводле праекта 1940 г. У адпаведнасці з новымі задачамі забудовы цэнтральнага праспекта сталіцы былі павялічаны аб'ёмна-сілуэтныя характарыстыкі будынка – «угловая секция запроектирована до 8 этажей, а в корпусе по Долгобродской улице ... запроектирован мансардный этаж над художественными мастерскими. Создание парадного входа в угловую секцию с Советской улицы повлекло перепланировку в ней части квартир...».

Ужо да 1951 г. будаўніцтва будынка было ў асноўным завершана; у 1951–1952 гг. праводзіліся аддзелачныя работы і работы па добраўпарадкаванню ўнутрыквартальнай тэрыторыі.

| 712Г000189 | Будынак | 1939 год,<br>1947 год | пр. Незалежнасці, 40/17<br>(вул. Захарава) | 2 | 03.04.2002<br>№ 72 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|




У 1946 г. быў распрацаваны праект аднаўлення моцна пашкоджанага ў час вайны будынка. Пасля таго як праект архітэктара Маргуліса быў адхілены, у 1949 г. архітэктар А. Брэгман распрацаваў новы праект, які прадугледжваў захаванне існуючых элементаў будынка і ў гэтым адпавядаў праекту Р. Столера, па якім дом быў пабудаваны. Змены датычыліся галоўным чынам фасаднага аздаблення, што ўтварала гарызантальнае чляненне будынка, і дэкаратыўных элементаў (прафіляваныя ліштвы, карнізы, рустоўка). Згодна з гэтым праектам сучасны дом № 40 уяўляе сабой пяціпавярховы дугападобны ў плане будынак з бакавымі крыламі. Фасадныя плоскасці падзелены на два ярусы шырокім поясам паміж першым і другім паверхамі. Ніжні ярус трактаваны больш масіўна. Верхні – падзелены раўнамернымі радамі прамавугольных акон і расчлянёны па вертыкалі двайнымі лоджыямі. Вертыкальнае чляненне фасада падкрэслена развітымі ліштвамі. Фасад завершаны балюстрадай.

| 712Г000190 | Будынак | 1951–1956 гады | пр. Незалежнасці, 42/2<br>(вул. Казлова) | 2 | 03.04.2002<br>№ 72 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Першапачаткова на месцы гэтага дома знаходзіўся мураваны будынак інтэрната інстытута народнай гаспадаркі, запраектаваны ў 1932–1935 гг. архітэктарам А. Воінавым (разбураны ў 1941–1944 гг. ).

Рабочы праект забудовы і планіроўкі гэтага квартала быў распрацаваны ў 1956–1957 гг. і ўключае чарцяжы вертыкальнай планіроўкі, азелянення, сеткі і інш. Аўтар гэтага праекта архітэктар В. Аладаў.

У якасці аўтараў рабочага праекта корпуса № 1, распрацаванага ў 1954–1956 гг. фігуруюць М. Баршч і Л. Аранаўскас, а ў якасці сааўтара – В. Аладаў (подпіс М. Баршча ў штампах чарцяжоў адсутнічае). Аднак гэты праект уключае толькі планы, разрэзы, канструкцыі і г.д. – чарцяжоў фасадаў у справе няма.

Рабочы праект корпуса № 2 датаваны 1955–1957 гг. Праект уключае планы фундаментаў, падвалаў, перакрыццяў, разрэзы, лесвіцы і г. д. (фасады адсутнічаюць). Аўтарамі чарцяжоў з'яўляюцца Л. Рымінскі, І. Елісееў, Ю. Шпіт. Дакладныя ўказанні на прычыны і гісторыю змены аўтараў гэтага ансамбля ў архіўных дакументах адсутнічаюць. Верагодна, у сувязі з Пастановай ЦК аб ліквідацыі празмернасцей у архітэктурным праектаванні (1955 г. ) праект сілуэтнага вырашэння (асабліва апрацоўкі фасадаў гэтага ансамбля) быў адхілены, хоць агульныя прынцыпы планіровачнага вырашэння гэтага квартала, прапанаваныя М. Баршчам, былі захаваны.

У сувязі з ад'ездам М. Баршча ў 2-й палове 1950-х гг. у Маскву да праектавання будынкаў былі прыцягнуты іншыя аўтары – Л. Рымінскі, І. Елісееў, а таксама мінскія архітэктары пасляваеннага пакалення В. Аладаў і Ю. Шпіт.

| 712Г000191 | Будынак | 1936–1937 гады | пр. Незалежнасці, 43 | 2 | 18.01.2002<br>№ 70 | 14.05.2007<br>№ 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|

Кампазіцыя будынка складаецца з пяці розных па памерах і архітэктурным выяўленні аб'ёмаў. Цэнтральны аб'ём мае сіметрычную будову. Вось сіметрыі падкрэслена лесвічнай клеткай з вертыкальным стужкавым шкленнем. Па баках ад яе



пяціпавярховыя секцыі і шасціпавярховыя рызаліты з балконамі. Вуглавыя часткі на другім – чацвёртым паверхах вылучаны стылізаваным спрошчаным ордэрам. Пры дапамозе аб'ёмаў-звязак да цэнтральнай часткі далучаны амаль сіметрычныя бакавыя аб'ёмы, якія па сваёй структуры і дэкоры нагадваюць цэнтральны. Невысокі левы аб'ём-звязка мае праезд на ўзроўні першага паверха. Правы аб'ём-звязка – жылы пяціпавярховы будынак з эркерамі, які значна адрозніваецца ад астатніх частак. Першы паверх, дзе размешчаны магазіны, апрацаваны рустам, уваходы падкрэслены нішамі. Вокны прамавугольныя, на шостым паверсе з паўцыркульным завяршэннем.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000192 | Будынкі | 1940–1950-я гады | пр. Незалежнасці, 44, 46, 47, 48/1, 48/2 (бульвар Мулявіна) | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000193 | Касцёл Св. Тройцы (Святога Роха) на Залатой Горцы | 1861–1874 гады | пр. Незалежнасці, 44а | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Пасля таго як у 1840 г. Троіцкі прыход у Мінску застаўся без парафіяльнага касцёла, набажэнства было перанесена ў капліцу (пабудавана ў 1797 г.). У 1842 г. капліца была адрамантавана і перароблена ў касцёл. Аднак ужо ў 1850 г. было прызнана, што немэтазгодна падтрымліваць рамонтамі драўляны касцёл, лепш пабудаваць новы мураваны.

Праект быў прадстаўлены імператару і зацверджаны ім 6 ліпеня 1861 г. Аўтар праекта – акадэмік Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў М. Сівіцкі (кіраваў будаўніцтвам ксёндз Ф. Гарбачэўскі). Будаўніцтва касцёла, якое вялося на добраахвотныя ахвяраванні парафіян, было завершана ў канцы кастрычніка 1864 г. 1 лістапада 1864 г. касцёл быў асвячоны пад назвай Успення Прасвятой Дзевы Марыі і Св. Роха.

Нягледзячы на тое, што Троіцкі касцёл быў новазбудаваны, у 1867 г. ужо патрабаваліся рамонтныя работы. Так, у рапарце мінскага дэкана паведамлялася, што на касцёле пашкоджаны дах, карнізы, сцены, асабліва пры падмурках, «что свидетельствует об использовании материалов нижайшего достоинства, и вообще, прочность была упущена из виду».



З дакументальных крыніц вядома, што ў 1900–1901 гг. у Залатагорскім касцёле быў устаноўлены паўстажковы арган на дзве клавіятуры з педалямі на 18 галасоў і 7 рэгістраў.

На працягу 1902–1905 гг. у касцёле адбываюцца некаторыя рамонтныя работы. Была адрамантавана званіца, уваход, сакрысціі, заменены аконныя рамы, рэстаўрыраваны некаторыя абразы, пазалочаны і пасярэбраны алтары, жырандоль і інш. У 1905 г. арган перароблены на вінклевую сістэму.

У сувязі з павелічэннем прыхода да 9000 чал., у 1903 г. прыхаджане хадайнічаюць аб дазволе на пашырэнне існуючага касцёла. У 1904 г. варшаўскі архітэктар Дзяконскі выканаў праект на пашырэнне Залатагорскага касцёла, запраектаваўшы крыжападобную ў плане прыбудову да правай фасаднай сцяны. Але касцельны камітэт адхіліў гэты і наступны, выкананы інжынерам Шабуневічам, праекты.

У 1920-я гг. Троіцкі касцёл Св. Роха быў закрыты. У час Вялікай Айчыннай вайны згарэў дах. Пасля вайны прыстасаваны пад кнігасховішча Нацыянальнай

бібліятэкі Беларусі. У 1976 г. у Спецыяльных праектна-рэстаўрацыйных майстэрнях МК БССР пачаліся праектныя работы па рэстаўрацыі Залатагорскага касцёла. Пасля рэстаўрацыі 1983–1984 гг. будынак касцёла прыстасаваны пад залу камернай музыкі Белдзяржфілармоніі (аўтар праекта А. Малахоўскі). У цэнтры алтара ўстаноўлены арган. З 1991 г. у храме ў вольны ад канцэртаў час вяліся богаслужэнні. У 2006 г. касцёл поўнасцю перададзены вернікам.

Храм – помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Аднанефавы, аднавежавы, прамавугольны ў плане, з пяціграннай апсідай. Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны двух'яруснай прамавугольнай у плане вежай пад чатырохсхільным шатром. Абапал франтона – дэкаратыўныя вежачкі. Фасады будынка расчлянёны стылізаванымі трохступеньчатымі контрфорсамі, чляняны стральчатымі нішамі з аконнымі праёмамі. Па перыметры сцены завершаны развітым карнізам. Уваход вырашаны ў выглядзе высокага спічастага партала.

Інтэр'ер пабудовы мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтральны неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У нартэксе – крыжовае скляпенне. Унутраная паверхня сцен дэкарыравана пілястрамі, завершанымі карнізамі. Вокны дэкарыраваны арнаментальным вітражом.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000194 | Комплекс будынкаў | 1930–1960-я гады | пр. Незалежнасці, 49, 51, 51а, вул. Якуба Коласа, 2 | 2 | 23.12.1998 № 49 | 14.05.2007 № 578 |





Комплекс будынкаў з'яўляецца кампазіцыйнай дамінантай на плошчы Я. Коласа ў месцы злучэння яе з пр. Незалежнасці і вул. Я. Коласа. Складаецца з трох аб'ёмаў: цэнтральнага корпуса і двух бакавых крылаў. Галоўны фасад цэнтральнага корпуса вырашаны ў выглядзе крывалінейнага ў плане буйнамаштабнага порціка, утворанага шасцю пілонамі квадратнага сячэння на вышыні чатырох паверхаў і двухпавярховага атыка над ім. Пілоны апрацаваны рустам. Ім адпавядаюць лапаткі, якія раўнамерна чляняць сцяну галоўнага фасада. Цэнтральную частку будынка вянчае ступеньчаты атыкавы паверх, які завяршае галоўны фасад. Фасады бакавых крылаў рытмічна падзелены магутнымі паўкалонамі, аб'яднанымі фрызам і агульнай асновай, рытмам высокіх прамавугольных акон. Галоўны фасад чляняны квадратнымі аконнымі праёмамі. Дваровыя фасады не маюць архітэктурнага дэкору.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000195 | Будынак Беларускай дзяржаўнай філармоніі | 1955–1959 гады | пр. Незалежнасці, 50 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000196 | Комплекс будынкаў | 1929–1931 гады | пр. Незалежнасці, 64 | 3 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000197 | Комплекс будынкаў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта:<br><br>галоўны корпус<br>інтэрнат № 2<br>вучэбны корпус № 18<br>вучэбны корпус № 9<br>сталовая<br>інтэрнат № 3<br>інтэрнат № 4<br>вучэбны корпус № 4<br>былы жылы будынак рэктара<br>клуб<br>вучэбны корпус № 2<br>вучэбны корпус № 13<br>вучэбны корпус № 14<br>вучэбны корпус № 7 | 1932 год,<br>1936 год,<br>1950-я гады | <br><br><br>пр. Незалежнасці, 65<br>пр. Незалежнасці, 67<br>пр. Незалежнасці, 67/2<br>вул. Якуба Коласа, 14<br>вул. Якуба Коласа, 18<br>пр. Незалежнасці, 63<br>пр. Незалежнасці, 61<br>пр. Незалежнасці, 59/1<br>пр. Незалежнасці, 65<br>пр. Незалежнасці, 65<br>пр. Незалежнасці, 65/2<br>вул. Якуба Коласа, 22/2<br>вул. Якуба Коласа, 22/3<br>вул. Якуба Коласа, 24 | 2 | 03.04.2002<br>№ 72 | 14.05.2007<br>№ 578 |





Комплекс займае квартал, абмежаваны пр. Незалежнасці, вуліцамі Я. Коласа, Б. Хмяльніцкага і Дарашэвіча. Уключае галоўны корпус, інтэрнат № 2, вучэбны корпус № 18, вучэбны корпус № 9, сталовую, інтэрнат № 3, інтэрнат № 4, вучэбны корпус № 4, былы жылы будынак рэктара, клуб, вучэбны корпус № 13, вучэбны корпус № 14, вучэбны корпус № 7.

Для архітэктуры гэтага буйнога вучэбнага гарадка характэрны такія рысы, як ансамблевы характар забудовы, манументальнасць і параднасць архітэктурнай кампазіцыі.

Галоўны корпус пастаўлены далёка ад чырвонай лініі забудовы праспекта, утварае курданёр з шырокайараднай алеяй і скверам па баках. Уяўляе сабой развітое ў глыбіню забудовы Ш-падобнае ў плане збудаванне. Будынак падоўжны па фронту забудовы, мае цэнтральны і бакавыя рызаліты. Галоўны ўваход аформлены шасцікалонным порцікам, пастаўленым на высокі цокаль і завершаны трохвугольным франтонам са скульптурнай эмблемай у цэнтры. Бакавыя крылы чляняцца гарызантальнай цягай, завяршаюцца ляпным фрызам і карнізам. Аконныя праёмы на ўзроўні трэцяга паверха аздоблены ліштвамі і сандрыкамі.

Узведзеныя ў 1950-я гг. па чырвонай лініі праспекта пяціпавярховыя карпусы інтэрнатаў пастаўлены сіметрычна да галоўнага корпуса і ўтвараюць парадны двор. У вырашэнні іх фасадаў выкарыстаны элементы класіцыстычнага дэкору. Да галоўнага корпуса дабудаваны аб'ём бібліятэкі і спартыўны корпус, звязаныя з ім у адзіны архітэктурны ансамбль. Фасады будынкаў апрацаваны дэкаратыўнай тынкоўкай зеленаватага тону.

Паводле тыпавых праектаў пабудаваны вучэбныя карпусы і сталовая.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000198 | Будынак галоўнага корпуса Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі | 1934–1940 гады | пр. Незалежнасці, 66 | 2 | 18.01.2002<br>№ 70 | 14.05.2007<br>№ 578 |

У 1934–1935 гг. праектаванне і вядзенне будаўніцтва карпусоў ажыццяўляў архітэктар І. Лангбард. Будаўніцтва галоўнага корпуса завершана ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну галоўны корпус пашкоджаны, у 1949 г. адноўлены; стаў адным з планіровачных вузлоў у забудове гарадской магістралі (сучаснага пр. Незалежнасці).



Галоўны корпус мае складаную сіметрычную восева-вуглавую структуру. Два П-падобныя крылы, размешчаныя ўзаемна перпендыкулярна, злучаны пры дапамозе вялікага трапецападобнага аб'ёму. Адкрытая вуглавая частка аформлена магутнай паўцыркульнай каланадай у два рады, што надае будынку ўрачыстую манументальнасць. Вулічныя фасады і каланада завершаны высокім прафіляваным атыкам. Фасады рытмічна расчлянёны пілястрамі з іанічнымі капітэлямі. Прасценкі апрацаваны рустам, над прамавугольнымі вокнамі ляпныя гірлянды. Дваровы фасад вырашаны больш сціпла. Уваход аформлены трыма абліцаванымі гранітам парталамі строгай геаметрычнай формы. Да будынка вядзе шырокая адкрытая лесвіца і пад'язныя пандусы па баках.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000199 | Дом друку | 1935 год | пр. Незалежнасці, 77, 79 | 2 | 18.01.2002<br>№ 70 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Будаўніцтва Дома друку распачалося ў 1930 г. Паводле плана ўчастка, будынак быў запраектаваны Г-падобны ў плане, акрамя таго, на ўчастку знаходзіліся драўляныя гаспадарчыя і службовыя пабудовы, склады, пажарнае дэпо, сталовая.

6 мая 1931 г. Белпаліграфаб'яднанне заключыла дагавор з Мінскай гарадской будаўнічай канторай на будаўніцтва Дома друку, па ўмовах якога тэрмін завяршэння будаўнічых работ вызначаўся не пазней як 1 мая 1932 г.

Адпаведна з пастановай урада, пуск у эксплуатацыю Дома друку прызначаўся на IV квартал 1932 г. і будаўніцтва было аднесена да ўдарных. Аднак будаўнічыя работы па розных прычынах (недахоп будаўнічых матэрыялаў, цякучасць рабочых кадраў) зацягваліся. Ужо ў ходзе будаўніцтва ў праект былі ўнесены карэктывы. Было вырашана адмовіцца ад узвядзення трэцяга паверха, і, такім чынам, вытворчы корпус складаўся з цокальнага, першага і другога паверхаў. Акрамя таго, калі раней па праекце ў дваровай частцы другі паверх быў карацейшы ў параўнанні з першым, цяпер было вырашана пабудаваць аднолькава з першым.

Выдавецкі корпус быў здадзены 20 студзеня 1934 г. Ступень гатоўнасці вытворчага корпуса на 1 студзеня 1934 г. складала 38%. Завершана будаўніцтва Дома друку ў 1935 г.

Дом № 79 – П-падобны ў плане. Дамінуе вежападобная пяціпавярховая вуглавая частка. На ўзроўні яе першага паверха ўбудавана вуглавая лоджыя, якая акцэнтуе галоўны ўваход у будынак. Кампазіцыя чатырохпавярховага крыла, арыентаванага фасадам на пр. Незалежнасці, заснавана на рытмічным чляненні сцен вялікімі аконнымі праёмамі. Фасады, арыентаваныя на вул. Сурганава, пазбаўлены архітэктурнага дэкору.

У пасляваенны час Дом друку быў рэканструяваны, у 1970 г. надбудаваны чацвёрты паверх над падоўжным корпусам па вул. Сурганава, узведзены новыя карпусы.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000200 | Будынак Беларускай акадэміі мастацтваў | 1947–1953 гады | пр. Незалежнасці, 81 | 3 | 27.11.2001<br>№ 69 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 712Г000201 | Будынак | 1939–1941 гады | пр. Незалежнасці, 91 | 2 | 20.01.2000<br>№ 56 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 712Г000202 | Будынак | 1939–1941 гады | пр. Незалежнасці, 93 | 2 | 20.01.2000<br>№ 56 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Праект на ўзвядзенне будынка паміж існуючымі дамамі па вул. Калініна і бульварам Талбухіна быў зроблены ў Ваенпраекце. Аўтар праекта архітэктар М. Ліўшыц. Пасля некалькіх карэкціровак, апошнія з якіх праведзены ўжо ў працэсе будаўніцтва, цэнтральная частка паміж вуглавымі карпусамі дома № 91–93 была завершана ў 1955 г. у выглядзе, у асноўным адпаведным сучаснаму.

Пластыка фасадаў будынка насычана архітэктурнымі ордэрнымі дэталямі. Асноўны акцэнт зроблены на вуглавую частку, якая на галоўным фасадзе вылучана несапраўдным чатырохкалонным порцікам. Два корпусы аб'яднаны адзіным шырокім паміж чацвёртым і пятым паверхамі фрызавым арнаментальным поясам, карнізам, гарызантальным рустам на першым паверсе. З усходняга боку да цэнтральнага корпуса прымыкае прамавугольны ў плане корпус, размешчаны з водступам ад чырвонай лініі. Цэнтральная частка будынка акцэнтавана несапраўдным порцікам на ўзроўні другога – чацвёртага паверхаў. Прысценны порцік утвараюць па баках прамавугольныя ў сячэнні і ў цэнтры чатыры круглыя трохчвэртныя калоны са стылізаванымі капітэлямі. Завершаны порцік шырокім антаблементам і карнізам значнага вынасу. Паміж калон размешчаны трохгранныя эркеры, грані якіх дэкарыраваны на другім паверсе філёнгамі з ляпнымі гірляндамі, на трэцім – паўбалясінамі.

На ўзроўні пятага паверха калонам адпавядаюць меншыя чатыры трохчвэртныя калоны іанічнага ордэра і па баках валюты-кранштэйны. Завершана цэнтральная частка фасада разарваным карнізам, трохвугольным франтонам, увянчаным акратэрыем. У тымпане франтона паўкруглая люкарна. Першы паверх будынка прарэзаны дзвюма праезнымі аркамі, чляньёны арачнымі аконнымі праёмамі вітрын. Аркі дэкарыраваны абрамленнямі з замковым каменем. Пяты арачных абрамленняў акон абапіраюцца на стылізаваныя ляпныя капітэлі. Гарызантальна фасад падзелены міжпаверхавымі цягамі, завершаны карнізам з дэнтыкуламі. Прамавугольныя вокны на другім паверсе дэкарыраваны абрамленнямі і трохвугольнымі сандрыкамі. Па фасаду размешчаны рознай формы, памераў і афармлення балконы (з балясінамі, металічнымі агароджамі, прамавугольнай і паўкруглай плітой-асновай). У аздабленні фасаднай плоскасці выкарыстаны ляпныя разеткі, гірлянды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000203 | Будынак кінастудыі «Беларусьфільм» | 1960 год | пр. Незалежнасці, 98 | 3 | 18.01.2002<br>№ 70 | 14.05.2007<br>№ 578 |
| 712Г000204 | Будынак | 1934 год | пр. Незалежнасці, 110 | 2 | 07.08.2001<br>№ 66 | 14.05.2007<br>№ 578 |



Пабудаваны па праекце архітэктара І. Валадзько як гідраметэаралагічная абсерваторыя. Мае рысы стылю канструктывізму.

Трохпавярховы прамавугольны ў плане з рызалітамі і невялікім тамбурам будынак на высокім цокалі. У кампазіцыі вылучаны аб'ёмы дзвюх лесвічных клетак (выступаюць у плане і ўзвышаюцца над дахам), верхнія пляцоўкі выкарыстоўваюцца для правядзення натурных гідраметэаралагічных вымярэнняў і маюць спецыяльнае абсталяванне. Фасады вырашаны ў строгіх лаканічных формах. Паўднёвы фасад мае балконы на ўсю даўжыню будынка на ўзроўні другога і трэцяга паверхаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Ж000205 | Мазаіка на дамах па пр. Незалежнасці | 1970–1980-я гады | пр. Незалежнасці, 131, корп. 1 – мазаіка «Горад мастацтва», пр. Незалежнасці, 143, корп. 1 – мазаіка «Горад-будаўнік», пр. Незалежнасці, 155, корп. 1 – мазаіка «Горад навукі», вул. Каліноўскага, 82, корп. 2 – мазаіка «Горад-воін» | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Д000206 | Усходнія могілкі | 1970-я гады | пр. Незалежнасці | 3 | 22.01.2003 № 81 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000207 | Будынак абутковай фабрыкі | 1930-я гады, 1950-я гады | вул. Няміга, 30 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000208 | Будынак | сярэдзіна XX стагоддзя | пр. Партызанскі, 31 | 3 | 29.03.2006 № 118 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Ж000209 | Мазаіка «Партызаны» на гасцініцы «Турыст» | 1970–1980-я гады | пр. Партызанскі, 81 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 711Г000210 | Будынак Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь | 1935–1937 гады | пл. Парыжскай Камуны, 1 | 1 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



Пабудаваны па праекце архітэктара І. Лангбарда.

У гады Вялікай Айчыннай вайны тэатр пашкоджаны. Адноўлены ў 1948 г. паводле праекта аўтара. У 1967 г. будынак тэхнічна пераабсталяваны, у 1978 г. значна зменена афармленне інтэр'ераў. Вонкавае аблічча будынка цалкам захавана, толькі на пачатку 1960-х гг. плоскія пакрыцці заменены нахільнымі дахамі, што адбілася на сілуэтным вырашэнні. У 2009 г. завершана рэстаўрацыя і рэканструкцыя тэатра. Заменены верхняя і ніжняя часткі сцэнічнага абсталявання (сцэна набыла памеры 25х30 м). Дах зноў стаў плоскім. На порціках фасада ўстаноўлены скульптуры муз танца, тэатра, музыкі і паэзіі; у цэнтры – пяціметровая скульптура Апалона, абапал якой дзве фігуры Славы.





Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка створана па прынцыпе ярусаў. Сцены рытмічна члянёны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі. Глядзельная частка ўяўляе сабой пастаўленыя адзін над адным тры цыліндрычныя



аб'ёмы рознага дыяметра і вышыні, накрыта шатровым дахам, вылучана сямю ўваходнымі квадратнымі ў плане порцікамі. Сцены ніжняга аб'ёму і калоны порцікаў апрацаваны рустам. Развітая сцэнічная каробка і дапаможныя памяшканні прыбудаваны ў выглядзе высокага прамавугольнага ў плане і выступаючых па баках больш нізкіх кубічных аб'ёмаў, накрытых вальмавым дахам.

На тэрыторыі парку, які прылягае да тэатра, у новым месцы ўстаноўлены помнік Максіму Багдановічу (скульптар С. Вакар, архітэктары Ю. Казакоў, Л. Маскалевіч), які ў 1981–2008 гг. стаяў у скверы перад тэатрам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Ж000211 | Помнік Максіму Багдановічу | 1981 год | пл. Парыжскай Камуны | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000212 | Комплекс драўлянай забудовы | XX стагоддзе | зав. Паўночны, 5, 7, 9, 10, 11, 12, 14, 15, 16, 18, 20, 22, 24, 26 | 3 | 30.03.1999 № 52 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Д000213 | Манумент Перамогі | 1954 год | пл. Перамогі (у межах, якія прылягаюць да праезнай часткі) | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |



Манумент Перамогі – асноўны кампазіцыйны элемент і вышынная дамінанта аднайменнай плошчы г. Мінска.

У 1950 г. Упраўленне па справах архітэктуры пры СМ БССР аб'явіла конкурс на стварэнне праекта помніка-манумента ў гонар перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй і на ўшанаванне памяці Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Удзел у конкурсе прынялі 70 архітэктараў і скульптараў не толькі беларускіх, але і з іншых гарадоў Савецкага Саюза. Першую прэмію атрымаў праект пад дэвізам «Беларусь», аўтарам якога быў беларускі архітэктар Г. Заборскі. На аснове гэтага конкурснага праекта быў распрацаваны ў 1952 г. тэхнічны праект помніка, затым у 1952–1954 гг. – рабочы праект. Сааўтарам Г. Заборскага быў архітэктар У. Кароль.

Манумент Перамогі быў устаноўлены ў 1954 г. Вырашаны ў форме велічнага, абліцаванага шэрым гранітам абеліска (вышыня каля 40 м), увянчанага выявай ордэна «Перамога» (бронза, смальта). Грані абеліска рытмічна расчлянёны вузкімі і завершаны шырокай палосамі, якія нагадваюць беларускі арнамент. Чатыры грані пастамента аформлены бронзавымі гарэльефамі: «9 мая 1945 г.», «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны», «Слава загінуўшым героям», «Партызаны Беларусі». Шматфігурныя кампазіцыі выкананы ў рэалістычнай манеры, з дэталёвай прапрацоўкай рэльефных выяў.

Абеліск пастаўлены на гранёны расшыраны ўнізе стылабат (чорны лабрадарыт), на якім выява бронзавага мяча, абвітага лаўровай галінкай. Уся кампазіцыя размешчана на шырокім васьмігранным ступеньчатым подыуме, чатыры грані якога прарэзаны кубічнымі стылабатамі (чорны лабрадарыт) з чатырма бронзавымі лаўровымі вянкамі на іх.

У 1961 г. каля падножжа манумента запалены Вечны агонь. У 1984 г. пляцоўка перад манументам атрымала новае мастацка-архітэктурнае афармленне.

| 712Ж000214 | Вітраж кінатэатра «Масква» | 1970–1980-я гады | пр. Пераможцаў, 13 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Вітраж «Масква – сталіца нашай Радзімы» (мастак Г. Вашчанка) упрыгожвае фае кінатэатра «Масква». Выкананы з аб'ёмнага каляровага шкла: белага, жоўтага, зялёнага, чырвонага, фіялетавага. У кампазіцыі вітража аб'яднаны гісторыя і сучаснасць: старажытныя архітэктурныя помнікі і вышынныя сучасныя будынкі разам ствараюць яскравы вобраз Масквы.

| 712Ж000215 | Абеліск «Мінск – горад-герой» | 1985 год | пр. Пераможцаў | 2 | 28.08.2003 № 88 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Адкрыты 8 мая 1985 г. на пр. Пераможцаў на невялікім пагорку побач з паркам Перамогі. Аўтары: скульптар-архітэктар В. Занковіч, архітэктары В. Крамарэнка, В. Яўсееў, У. Раманенка.

Кампазіцыйны акцэнт комплексу – абеліск (вышыня 45 м), форма якога нагадвае сцяг. Выкананы з жалезабетону з дэкаратыўнай апрацоўкай паверхні пад бучарду. У ніжняй частцы абеліска, на кансольным блоку, размешчана дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні г. Мінску ганаровага звання «Горад-герой», у верхняй – выявы зоркі і лаўровай галінкі, выкананыя ў метале з тонкай пазалотай. Каля падножжа абеліска абліцаваны чырвоным гранітам пастамент, куды ўскладаюць вянкі і кветкі. З правага боку ад абеліска, на пастаменце, устаноўлена бронзавая фігура жанчыны – абагульнены вобраз маці-Радзімы, сімвал Перамогі і Славы. Пластычная мадэліроўка фігуры кантрастуе з лаканічнай пластыкай абеліска і кампазіцыйна завяршае агульнае вырашэнне комплексу. Левая рука жанчыны пераможна ўзнята, дынамічны жэст яе падкрэсліваюць фанфары. Правая рука павернута ў бок абеліска.

Каля падножжа пагорка – плошча для правядзення ўрачыстых рытуалаў.

| 712Г000216 | Комплекс будынкаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта | 1928–1931 гады | паміж пл. Прывакзальнай і пл. Незалежнасці (пр. Незалежнасці, 4, вул. Бабруйская, 11) | 2 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
|---|---|---|---|---|---|---|



Будынак па вул. Бабруйскай, 11. Трохпавярховы будынак з лаканічнай па форме архітэктурай фасадаў.

Будынак па пр. Незалежнасці, 4. У 1928–1931 гг. пабудаваны галоўны корпус і карпусы асобных факультэтаў. Простай і выразнай планіровачнай схеме трохпавярховых карпусоў адпавядала лаканічная па форме архітэктура фасадаў. Разбураныя ў вайну будынкі БДУ адноўлены, захавана ўнутраная планіроўка, часткова зменены фасады.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000217 | Будынак чыгуначных кас | 1955 год | вул. Бабруйская, 4 | 2 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |



Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У архітэктурным вырашэнні фасадаў выкарыстана ордэрная пластыка. Вуглавыя часткі будынка з уваходамі на другі паверх вылучаны пілястрамі са стылізаванымі ляпнымі капітэлямі. Цэнтральная частка фасада з уваходам у касавую залу члянёна высокімі арачнымі праёмамі ў абрамленнях з замковым каменем. Міжаконныя прасценкі дэкарыраваны паўкалонамі з капітэлямі. Завершаны фасад антаблементам, карнізам з мадульёнамі. Па перыметры даху праходзіць балюстрадны парапет. Інтэр'еры ўпрыгожаны характэрным ляпным дэкорам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Д000218 | Дом, дзе жыў Змітрок Бядуля | 1904 год, 1987 год | вул. Рабкораўская, 19 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000219 | Петрапаўлаўская царква з фрагментам агароджы | 1613 год | вул. Ракаўская, 4 | 2 | 27.03.2002 № 64 | 14.05.2007 № 578 |



У 1611–1612 гг. з дазволу польскага караля Жыгімонта III праваслаўным брацтвам было распачата будаўніцтва на вул. Юр'еўскай (скрыжаванне вуліц Няміга і Ракаўская) муравана̂й царквы і мужчынскага манастыра. Пляц для будаўніцтва быў дараваны 23 лістапада 1611 г. княгіняй Аўдоцццяй Рыгораўнай Друцкай-Горскай (удава каралеўскага маршалка Багдана Статкевіча). У 1619 г. тэрыторыя манастыра пашырылася за кошт пляца, ахвяраванага Ганнай Агінскай, які таксама знаходзіўся на вул. Вялікай Юр'еўскай (сучасная вул. Ракаўская) сумежна з манастырскай зямлёй.

У 1624 г. кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла выдаў грамату з благаслаўленнем на адкрыццё пры храме жаночага манастыра.

Пры манастыры існавала брацтва ў імя Святога Іаана Хрысціцеля. Намаганнямі брацтва пры манастыры былі адкрыты друкарня, школа, шпіталь.

Свята-Кацярынінская царква была надзелена статусам кафедральнага сабора, але ў 1799 г. з-за таго, што храм знаходзіўся на ўскраіне горада, пераўтвораны ў прыходскую царкву і толькі ў 1844 г. зноў узведзены ў статус гарадскога сабора.

У 1812 г. пад час французскай акупацыі царква моцна пацярпела. Яна была занята французамі пад лазарэт. Пасля вайны было нават меркаванне зусім закрыць царкву. Аднак у 1813–1814 гг. храм быў адрамантаваны.

У 1870–1872 гг. на вылучаныя графам Мураўёвым сродкі храм капітальна перабудаваны і былі распісаны сцены.

У чэрвені 1881 г. у Мінску адбыўся вялікі пажар, пад час якога была пашкоджана царква.

У 1911 г. зноў разглядалася пытанне аб рамонце царквы. Вядома, што ў 1914 г. быў праведзены ўнутраны рамонт. Знадворныя рамонтныя работы (замена даху, афарбоўка сцен) не выкананы.

Пасля 1917 г. храм быў закрыты. У 1941 г. зноў асвячоны і адкрыты для набажэнстваў. Пашкоджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў царква была часова прыстасавана пад жыллё. У 1946 г. было вырашана прыстасаваць яе пад Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі (цяпер Нацыянальны архіў Рэспублікі

Беларусь), тут былі размешчаны Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР і Архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. У сувязі з гэтым цалкам перароблены інтэр'еры, цэнтральны неф быў падзелены на чатыры паверхі, у апсідзе зроблена лесвіца.

У 1972–1979 гг. царква рэстаўрыравана (архітэктар А.І. Курто) з аднаўленнем аблічча храма паводле стану на XVII–XVIII стст. У 1991 г. перададзена вернікам. 6 красавіка 1999 г. на вежы храма былі навешаны званы (адліты ў Мінску). Пры царкве дзейнічае Беларускае праваслаўнае брацтва Трох Віленскіх пакутнікаў.

Помнік архітэктуры барока. Мураваная трохнефавая шасціслуповая базіліка з пяціграннай апсідай і дзвюма вежамі. Галоўны фасад трохчасткавы: цэнтральная частка завершана высокім трохвугольным франтонам, над уваходам вялікае паўцыркульнае акно; дзве бакавыя часткі дэкарыраваны неглыбокімі нішамі паўцыркульнага і прамавугольнага абрысу, фланкіраваны трох'яруснымі вежамі-званіцамі, якія завершаны шлемападобнымі купаламі. Над апсідай – франтон асноўнага аб'ёму з люкарнай. Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, паміж імі ў неглыбокіх нішах размешчаны спараныя паўцыркульныя вокны, якія асвятляюць бакавыя і цэнтральныя нефы. Сцены завершаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры цэнтральны неф мае цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, бакавыя нефы – крыжовыя.

Прастора інтэр'ера шасцю магутнымі пілонымі расчлянёна на тры нефы, цэнтральны з якіх перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя – крыжовымі. Першапачаткова ў саборы былі тры прастолы: галоўны ў імя святых Пятра і Паўла, правы – Прадцечы і Хрысціцеля Іаана, левы – архістратыга Міхаіла. У 1817 г. асвячоны правы прыдзел у імя Святога Мікалая, у 1871 г. – левы ў імя Святога Міхаіла. У 1871 г. інтэр'ер распісаны фрэскавым жывапісам. Апсіду вылучаў драўляны пяціярусны з пазалочаным дэкорам іканастас (створаны новы).

Паводле дакумента 1762 г., «манастыр мурам абгароджаны як бы восьмаю часткай, а парканам старым абнесены як бы шэсць частак, а адна частка ў пустаце знаходзіцца, не абгароджана».

Пад час капітальнай перабудовы царквы, верагодна, была зроблена новая агароджа. Так, напрыклад, тэрыторыя, прылеглая да храма, апісвалася наступным чынам: «Сабор абнесены драўлянай рашотчатай агароджай на мураваным падмурку і слупах, атынкаваных пад колер сабора пясчанага колера фарбай... Ацалела і частка агароджы з брамай у выглядзе аркі, увянчанай жалезным крыжам...».

Да нашага часу на тэрыторыі царквы захаваліся мураваны царкоўны дом, пабудаваны ў 1892–1897 гг., і фрагмент агароджы з брамай.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000220 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Раманаўская Слабада, 3 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000221 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Раманаўская Слабада, 3а | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000222 | Будынак | другая палова XIX стагоддзя | вул. Савецкая, 2 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000223 | Будынак | 1930-я гады, 1950-я гады | вул. Савецкая, 4 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000224 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. Савецкая, 6 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000225 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. Савецкая, 8 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000226 | Будынак | пачатак XX стагоддзя, 1950-я гады | вул. Савецкая, 12 | 3 | 07.06.2002 № 74 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000227 | Будынак | 1908–1910 гады | вул. Савецкая, 13 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000228 | Будынак | канец XIX стагоддзя | вул. Савецкая, 14 | 2 | 27.11.2001 № 69 | 14.05.2007 № 578 |



Трохпавярховы складанай у плане формы будынак. Галоўны фасад мае тры рызаліты. Цэнтральны рызаліт завершаны невялікім паўкруглым франтонам. Бакавыя рызаліты завершаны невысокімі мансардамі. Помнік архітэктуры эклектычнага кірунку.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 713Г000229 | Касцёл Святых Сымона і Алены з фрагментамі агароджы і брамай | 1908–1910 гады | вул. Савецкая, 15 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Ж000230 | Вітражы касцёла Святых Сымона і Алены | 1970–1980-я гады | вул. Савецкая, 15 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000231 | Будынак | 1912 год | вул. Савецкая, 17 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000232 | Будынак Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта | 1922 год, 1951–1959 гады | вул. Савецкая, 18 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 713Г000233 | Будынак | пачатак XX стагоддзя | вул. Савецкая, 19 | 3 | 18.01.2002 № 70 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000234 | Былы гасціны двор | канец XVIII – пачатак XX стагоддзя | пл. Свабоды, 2, 4, 8 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |





Комплекс будынкаў мае замкнёную кампазіцыю з двума унутранымі дворыкамі.

Дом № 2. Двухпавярховы складаны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Пад дахам праходзіць шматслойны карніз. Сцены атынкаваны і афарбаваны. Вуглы будынка акцэнтаваны плоскімі лапаткамі. Прамавугольныя аконныя праёмы на другім паверсе дэкарыраваны абрамленнямі з прамымі сандрыкамі.

Дом № 4. Трохпавярховы складаны Г-падобны ў плане будынак з рызалітамі ў дваровай частцы. Галоўны фасад будынка



сіметрычнай кампазіцыі. Цэнтральная яго частка вылучана кілепадобным шчытом з трыма вузкімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя часткі фасада завершаны прамымі атыкамі. Фасады рытмічна чляняцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі. Пластыку фасадаў узбагачаюць ляпныя элементы, філёнгі.

Дом № 8. Двухпавярховы, шчыльна прымыкае да дамоў № 10 і № 4. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтральная частка будынка вылучана чатырохкалонным порцікам, завершаным масіўным антаблементам і трохвугольным франтонам. У тымпане франтона паўкруглая люкарна. Над галоўным уваходам навісае балкон з балюстраднай агароджай. Бакавыя часткі фасада акцэнтаваны неглыбокімі плоскімі рызалітамі. Дзвярныя праёмы ў рызалітах дэкарыраваны трохвугольнымі сандрыкамі. Гарызантальна фасад падзелены міжпаверхавай цягай, завершаны карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы на першым паверсе аздоблены простымі ліштвамі з замковым каменем.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000235 | Комплекс былога калегіума езуітаў: | пачатак XVIII стагоддзя | | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |
| | касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі | XVIII стагоддзе | пл. Свабоды, 9 | | | |
| | будынак школы | 1699 год | пл. Свабоды, 7 | | | |
| | будынак кансісторыі | XVIII стагоддзе | вул. Рэвалюцыйная, 1а | | | |



У канцы XVII ст. на адным з мінскіх сеймікаў было вырашана сабраць з жыхароў Мінскага ваяводства па 10 грошаў «з дыму» на падтрымку езуіцкага калегіума. Езуіты перабудавалі сваю рэзідэнцыю ў адзіны манументальна-архітэктурны комплекс. У 1699 г. яны ўзвялі новую школу, а ў 1700 г. побач з ёй пачалося будаўніцтва касцёла Ісуса, Найсвяцейшай Дзевы Марыі і Св. Барбары. Будаўнічыя работы доўжыліся да 1710 г., а касцельныя вежы былі закончаны толькі ў 1730 г. У вежах былі ўстаноўлены прывезеныя з Данцыга (Гданьск) гадзіннік і званы, пасля таго доўгі час працягваліся работы па ўнутранай аддзелцы храма.



Касцёл адносіцца да трохнефавых, двухвежавых базілікальных храмаў. Яго формы моцна дэталізаваныя і вельмі пластычныя. Бакавыя і задні фасады маюць складанапрофільныя гзымсы, а фігурны франтон апсіды і маленькія вежы троіцкай і феліцыянаўскай капліц на заканчэнні бакавых нефаў надаюць гэтым фасадам вытанчаны характар.

Галоўны фасад адметны вертыкальным чляненнем, што асабліва вылучана дзвюма пяціярруснымі вежамі і сярэдняй часткай з франтонам, падзеленай на тры ярусы магутнымі ступеньчатымі гзымсамі. Пышны дэкор фасада ўдала дапоўнены трыма скульптурамі ў глыбокіх нішах. Да цэнтра ніжняга яруса прымыкае вялікая прыбудова, якая заканчваецца крытай галерэяй з пад-



войнай аркадай. Гэта прыбудова стылёва шмат у чым адрозніваецца ад будынка касцёла і хутчэй за ўсё адносіцца да канца XVII ст., да таго ж, яе няма на больш ранніх планах касцёла.

Па касцельных вежах і званіцы, прыбудаванай да фасада калегіума, можна прасачыць эвалюцыю форм віленскага барока – архітэктурнага стылю, які канчаткова сфарміраваўся на землях Літвы і Беларусі ў 40–60-я гг. XVIII ст. Калі вежы касцёла строгія, прасталінейныя (толькі верхняя іх частка пачынае выгінацца ў плаўных барочных лініях), выглядаюць вельмі манументальна, дык у званіцы, пабудаванай праз 20 год, ужо не было гэтай скаванасці – здавалася, што ўся яна імкнецца ўверх. У склад манастыра таксама ўваходзілі наступныя пабудовы: кухня, трапезная, прыбудаваныя да касцёла, вонкавыя дзве сіметрычныя сакрысціі, бурса. Гаспадарчыя службы ўключалі стайню, вазоўню, кузню, драўляны свіран, драўляную піваварню. У паўднёвым дворыку быў разбіты сад.

У канцы XVII – пачатку XVIII ст. езуіты паступова выцясняюць праваслаўныя брацтвы і бяруць у свае рукі ўсю сістэму адукацыі ў Мінску. У іх школе выкладаліся рыторыка, сінтаксіс, паэзія і граматыка, а пазней  яшчэ і тэалогія, этыка, матэматыка, фізіка, логіка і інш. Захаваліся звесткі пра існаванне пры калегіуме школьнага тэатра. У сувязі з рэформай асветы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай езуіцкая школа ў 1773 г. была пераўтворана ў свецкую шасцікласную школу, падпарадкаваную Адукацыйнай камісіі.

Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 г. калегіум закрыты і перададзены Адукацыйнай камісіі, касцёл стаў парафіяльным (прыходскім). Будынак калегіума рэканструяваны ў 1797 г. пасля пажару мінскім губернскім архітэктарам Ф. Крамерам. З 1799 г. у будынку школы размясціліся дзяржаўныя ўстановы і дом губернатара з дваранскім сходам (з 1820 г. гарадская дума, з 1852 г. казённая палата). Паводле ўказа імператара Паўла І ад 28 красавіка 1798 г., касцёл стаў кафедральным; пасля 1820 г. перайменаваны ў Марыінскі сабор. Значныя паднаўленні храма праводзіліся ў 1850–1854 гг. Дах касцёла быў накрыты металічнымі лістамі і афарбаваны, новае дэкаратыўнае афармленне атрымалі фасады, занава абсталяваны прытвор і ўваход у храм. Сцены і скляпенні нанава распісаны, падноўлена рашотка на эмпорах, значна рэканструяваны хоры і цалкам зменена дэкарацыя аргана. Капліцы Св. Тройцы і Св. Феліцыяна былі распісаны ў тэхніцы альфрэска, капітальна рэканструяваны алтары. У 1853–1854 гг. комплекс былога калегіума капітальна адрамантаваны, асобныя яго часткі перабудаваны, прычым дом губернатара страціў архітэктурны дэкор XVIII ст., а вежа-званіца пераўтворана ў пажарную каланчу (замест купала наверсе зрабілі адкрытую назіральную пляцоўку).

Пачатак XX ст. вядомы вялікай работай па архітэктурным упарадкаванні Мінска. Не абышлі ўвагай і былы езуіцкі калегіум: рэстаўрыравана – з некаторымі недакладнасцямі – званіца, корпус перабудаваны, прычым плошча памяшканняў павялічылася амаль удвая. Пры гэтым вонкавы выгляд помніка быў амаль не парушаны.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўтварэння БССР у будынках былога калегіума размясціліся першыя ўрадавыя ўстановы рэспублікі. У былы дом губернатара, які атрымаў назву Першага Дома Саветаў, у 1919 г. пераехалі Часовы Рабоча-Сялянскі Урад Беларусі, Цэнтральнае Бюро КП(б) Беларусі, Прэзідыум Мінскага гарадскога выканкама, а пазней ЦВК БССР, Саўнаркам рэспублікі і Наркамат замежных спраў.

У гады Вялікай Айчыннай вайны архітэктурны комплекс быў часткова разбураны. Храм працягваў дзейнічаць да 1945 г., быў закрыты ў 1947 г. і перададзены спартыўнаму таварыству «Спартак», потым перабудаваны пад дзіцячы спартыўны клуб у 1951–1954 гг. Будынак былога касцёла перапланавалі, яго галоўны фасад набыў спрошчаны выгляд. Тады ж разабралі корпус былога калегіума і на яго месцы збудавалі жылы дом (плошча Свабоды, 11). У 1968 г. паводле праекта архітэктара І. Левіна быў перабудаваны былы дом губернатара, і ў ім размясцілася музычная школа (цяпер ліцэй) пры Белдзяржкансерваторыі.

У ліпені 1990 г. касцёл вернуты вернікам. Адноўлены ў 1993–2005 гг. (кіраўнік рэстаўрацыі польскі архітэктар В. Вільк).

Будынак на пл. Свабоды, 7 першапачаткова быў двухпавярховы прамавугольны ў плане з квадратнай вежай у цэнтры галоўнага фасада. Пад час рэканструкцыі ў канцы XVIII ст. вежа была страчана. У 1968 г. значна перабудаваны: зроблена прыбудова з боку

дваровага фасада і надбудова верхняга паверха, перароблены фасады. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, пазбаўлены дэкору, чляніцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на верхнім паверсе значна большымі па велічыні. Уваход афармлены строгім парталам.

Будынак па вул. Рэвалюцыйнай, 1а мае складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, прымыкае да касцёла. Асноўны аб'ём трохпавярховы, накрыты вальмавым дахам з трохвугольнымі франтонамі. Фасады вырашаны плоскасна, чляняцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Паміж другім і трэцім паверхамі праходзіць тонкі карнізны паясок. Вуглы будынка акцэнтаваны плоскімі лапаткамі. Завершаны фасады прафіляваным карнізам.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000236 | Комплекс былой гарадской сядзібы:<br><br>сядзібны дом<br>флігель | другая палова XVIII стагоддзя | <br><br>пл. Свабоды, 15<br>пл. Свабоды, 13/2 | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |



Дом № 15 – двухпавярховы прамавугольны ў плане сіметрычнай кампазіцыі. Будынак накрыты вальмавым дахам. Цэнтральная частка будынка вылучана рызалітам. Рызаліт фланкіраваны плоскімі лапаткамі, завершаны трохвугольным франтонам з паўкруглым акном у тымпане. Пад карнізам франтона праходзіць пояс сухарыкаў. Над уваходам на другім паверсе маецца балкон на драўляных кансолях. Фасадная плоскасць члянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах, завершана прафіляваным карнізам. Дваровы фасад вырашаны плоскасна, прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў.

Дом № 13 першапачаткова Г-падобны ў плане, двухпавярховы з цокальным паверхам. Быў паўднёвым флігелем гарадской сядзібы (пл. Свабоды, 15). У канцы XIX ст. стаў П-падобны ў плане, у тарцовых частках надбудаваны трэці паверх. Будынак складаны, падоўжны ў плане, з выступамі і скошаным вуглом з боку пл. Свабоды. Фасады маюць плоскаснае вырашэнне. Сцены рытмічна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах, на другім паверсе – аздоблены сандрыкамі. Па перыметры будынка праходзіць тонкапрафіляваны карніз. Першы паверх аддзелены ад цокальнага тонкім пояском. Трохпавярховыя тарцовыя часткі завершаны невялікімі мансардамі пад двухсхільнымі дахамі. Сістэма планіроўкі зменена, спалучае анфіладнае размяшчэнне памяшканняў і кароткія калідоры.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 712Г000237 | Падмуркі комплексу будынкаў | XVIII–XIX стагоддзі | пл. Свабоды, 19, 21 | 2 | 05.05.1995 № 23 | 14.05.2007 № 578 |
| 712Г000238 | Комплекс будынкаў былога Свята-Духаўскага базыльянскага манастыра:<br>манастырскі корпус<br><br>манастырскі корпус<br>рэшткі Свята-Духаўскай царквы | XVII стагоддзе | <br><br>пл. Свабоды 23/19 (вул. Інтэрнацыянальная)<br>вул. Энгельса, 1<br>пл. Свабоды | 2 | 28.02.2002 № 71 | 14.05.2007 № 578 |

Будынак на пл. Свабоды, 23/19 – трохпавярховы прамавугольны ў плане з унутраным дворыкам. Накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад арыентаваны на пл. Свабоды. Цэнтральная частка вылучана неглыбокім рызалітам, завершана складаным ступеньчатым атыкам. Над галоўным уваходам невялікі балкон з металічнай агароджай. Паміж першым і другім паверхамі карнізны пояс.

